БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

## ЯГО ТРАГІЧНЫ ЛЁС

Цішка Гартны…

Постаць у нашай гісторыі, у нацыянальнай свядомасці, напэўна, самая трагічная. І не толькі для першай паловы XX стагоддзя, наогул для XX стагоддзя…

Чалавек, творца і грамадскі дзеяч, які ўсе свае духоўныя і фізічныя памкненні цесна звязаў з рэвалюцыйнымі падзеямі пачатку XX стагоддзя, апантана змагаўся за новы лад, адраджаў, усталёўваў, мацаваў нацыянальную дзяржаву, быў (о, іронія лёсу!) гэтым ладам, гэтай уладай, гэтай дзяржавай абылганы, зняслаўлены, подла знішчаны. У гэтым рэвалюцыйна-трагічным, духоўна-эмацыянальным асвятленні сёння ўспрымаецца і ацэньваецца літаратурная спадчына пісьменніка — проза, паэзія, драматургія, публіцыстыка і крытыка.

Нарадзіўся Цішка Гартны (Зміцер Хведаравіч Жылуновіч) 23.10(4.11).1887 года ў мястэчку Капыль. «То была пара, калі ў хаце пераходзілі ад цяжкое падзёншчыны на нудную, чуць не дарэмную “здзельшчыну”», — скажа пазней пісьменнік у сваёй аўтабіяграфіі «Абеглы саманарыс майго жыцця». У сям’і «не было ні каня, ні каровы, ні поля, каб рабіць». Бацька працаваў гарбаром, маці — падзёншчыцай. Рана вымушаны быў працаваць і будучы пісьменнік: у гарбарнай майстэрні, пастухом па найме.

Чытаць «поверху» навучыў бацька. Потым была вучоба ў «дарэктараў», хатніх настаўнікаў. За гэты час «прайшоў усе царкоўнаславянскія кніжкі, якія толькі былі ў бацькі. Нават і на нейкую… хрэстаматыю ўзбіўся. Грамата давалася лёгка…». У 1902 г. паступіў у Капыльскае двухкласнае вучылішча, у 1905 скончыў яго. Летам працаваў — пасвіў каровы. «Пасучы, я беспрастанку чытаў. Меў надзвычайную цягу да чытання». Чытаў асабліва рускіх пісьменнікаў — Някрасава, Нікіціна, Надсана, Чэхава, Талстога, Горкага, Пісарава, Успенскага… Становіцца актыўным чытачом у бібліятэцы капыльскіх сацыял-дэмакратаў, захапляецца іх дзейнасцю, збліжаецца з імі. На доўгія гады звязвае з імі свой лёс. У 1906 г. яго выбіраюць членам камітэта сацыял-дэмакратычнай арганізацыі — адказным за культурна-асветніцкую работу сярод моладзі. Мясцовая паліцыя пільна сочыць за яго дзейнасцю. І калі ў 1906 годзе паспрабаваў паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, то не быў прыняты якраз з-за «палітычнай ненадзейнасці». Усё гэта моцна стымулявала яго самаадукацыю.

У гэтыя гады, настойліва займаючыся самаадукацыяй, шмат чытаючы, Гартны (тады яшчэ Жылуновіч) пачынае і сам пісаць. Піша вершы, апавяданні (на рускай мове), дзённікі «Дневник рабочего»,

«Дневник посадчика». Таварышы хвалілі напісанае, асабліва вершы. Але сам аўтар адчуваў нейкае ўнутранае незадавальненне. І не пакідала яно да таго часу, пакуль не натрапіў на газету «Наша ніва». Было гэта ў 1908 г.

Ва ўспамінах «Дваццаць гадоў назад» так напіша пра сваё ўспрыманне гэтай беларускамоўнай газеты: «Першыя беларускія вершы, прачытаныя ў "Нашай ніве", зрабілі на мяне сапраўды галавакружнае ўражанне. У маім нутры раптам усё перавярнулася, і цяга пісаць па-беларуску завалодала мною цалкам. Напісаныя раней па-расійску творы паказаліся мне шурпатымі, чэрствымі і бяздушнымі. У іх наглядалася нейкая штучнасць, хоць я, пішучы, стараўся ўкладаць у іх сваё заўсёды хвалюючае пачуццё. Ад нашаніўскіх вершаў павеяла цеплатою непасрэднага жыцця, у якім я адчуў і часціну свайго бытавання». Тут, у «Нашай ніве», Гартны знаёміцца з вершамі беларускіх паэтаў, найперш з вершамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Захапляецца імі. Гэтая газета, гэтыя вершы натхнілі пісаць па-беларуску. Гартны пасылае свае вершы ў «Нашу ніву». У студзені 1909 г. у газеце быў надрукаваны першы верш «Бяздольны». Прысвечаны ён быў Янку Купалу.

Верш быў падпісаны псеўданімам: Цішка Гартны. У той жа газеце быў надрукаваны ў 1910 г. верш «Не хіліся, дуб зялёны», прысвечаны Якубу Коласу. «З гэтага моманту імёны Янкі Купалы і Якуба Коласа зацямнілі сабою ўсе іншыя, з якімі я пазнаўся раней», — будзе згадана пазней.

У 1909–1912 гадах Гартны не раз пакідаў роднае мястэчка. У пошуках работы вандруе па гарадах Беларусі, Літвы, Украіны, Латвіі. Працаваў у гарбарных майстэрнях Вількаміра, Панявежыса, Шаўляя, Белай Царквы, Палтавы, Мітавы, Дзвінска, Магілёва, Жлобіна, Бабруйска, Смаргоні… Сустрэчы з новымі людзьмі, наведванне майстэрняў, прадпрыемстваў, нялёгкая шматгадзінная праца — то была належная школа жыцця. І для пісьменніка, і для грамадска-палітычнага дзеяча. Але ў гады гэтых вандровак у пошуках працы і наогул лепшай долі Гартны не парываў сувязі з родным мястэчкам: там жыла яго маці, сябры, што былі звязаны з сацыял-дэмакратычным рухам.

У 1910 г. ён разам з сябрамі ствараюць тут літаратурна-грамадскі гурт «Самаадукацыя і самаразвіццё», які пачынае выдаваць рукапісны часопіс «Заря». У тым жа годзе (у другой палове) часопіс гэты быў закрыты. У 1911 выпуск рукапіснага часопіса адноўлены (пад назвай «Голос низа»). Рэдактарам быў Цішка Гартны (пад псеўданімамі Капылянін і Шулятнік). Часопіс меў дадатак на беларускай мове «Вольная думка» — зборнік твораў маладых аўтараў. Пазней паэт Алесь Гурло будзе ўспамінаць: «…Гэтыя часопісы, апрача свайго непасрэднага прызначэння — агітацыі сярод шырокіх мас, — былі ў некаторай ступені і літаратурнай школай для пачынаючых паэтаў і пісьменнікаў, у тым ліку і для мяне».

Вясной 1913 г. Ц. Гартны прыехаў у Пецярбург і стаў працаваць фрэзероўшчыкам на заводзе «Вулкан». Пяць месяцаў працаваў тут, тры месяцы быў беспрацоўным. У гэты час наладжвае непасрэдныя кантакты з пралетарскай газетай «Правда», куды ён раней дасылаў і дзе друкаваў свае вершы — «Лишь только фабричный гудок прогудит», «Песня кузнеца», «Говор волн». Прымае ўдзел у рабоце культурна-асветніцкага таварыства «Знание». Жыццё ў буйным горадзе, пралетарскае асяроддзе, цесныя кантакты з землякамі-беларусамі фармавалі светапогляд паэта, садзейнічалі росту нацыянальнай свядомасці. У 1915 г. быў мабілізаваны ў войска. Праз месяц адпушчаны. У 1916 г. працаваў у Беларускім бежанскім камітэце, выдаваў газету «Дзянніца». З 49 нумароў, што выйшлі ў свет, 23 нумары былі падпісаны З. Жылуновічам як рэдактарам. У гэты час газета адыграла важную ролю ў гуртаванні беларускіх рэвалюцыйных сіл.

На пачатку 1917 г. Ц. Гартны звязвае свой лёс з Беларускай сацыялістычнай грамадой. Становіцца адным з лідараў яе левага крыла. Падчас Лютаўскай рэвалюцыі сам прыняў у ёй актыўны ўдзел.

Беларускі бежанскі камітэт у сакавіку Гартнага пасылае сваім дэпутатам у Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Многа змен адбываецца пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, найперш у грамадска-палітычным жыцці Цішкі Гартнага. У гэты час ён праяўляе вялікую актыўнасць і ў літаратурнай, і, асабліва ў грамадска-палітычнай дзейнасці. У лютым 1918 г. ён — сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята пры ўрадзе РСФСР. Некаторы час рэдагуе першую савецкую газету на беларускай мове «Дзянніца». У тым жа годзе, у кастрычніку, у Маскве быў прыняты ў члены РКП(б). Уваходзіў у склад бюро Беларускай секцыі РКП(б).

30 снежня ў Смаленску пачалася VI Паўночна-Заходняя канферэнцыя, якая была аб'яўлена I з'ездам Камуністычнай партыі Беларусі. Было прызнана неабходным абвяшчэнне БССР. Абраны Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі. Узначаліў яго З. Жылуновіч. Ім быў напісаны Маніфест («Маніхвэст») пра абвяшчэнне БССР. Праўда, працаваць ураду гэтаму, па сутнасці, не давялося. Праз нейкі месяц уладу ўзялі прыхільнікі Цэнтральнага бюро КП(б) Беларусі, якую ўзначальваў прамаскоўскі дзеяч Аляксандр Мяснікянц. Утваралася Літоўска-Беларуская ССР. Дакумент аб яе стварэнні падпісалі: армянін Мяснікянц, літовец Капсукас, рускія Іваноў і Пятроў, яўрэі Іофе, Рэйнгольд, Пікель, Найдзянкоў. Беларусаў не было. Нейкі час (з сакавіка 1919 г.) Гартны з'яўляецца рэдактарам-выпускаючым і сакратаром газеты «Красная заря» (Харкаў). Летам (у чэрвені) 1919 г. па партыйнай мабілізацыі становіцца палітработнікам у 14-й арміі на Паўднёвым фронце, у лютым 1920 быў пераведзены ў штаб Заходняга фронту. Тут у поўнай меры праявіліся яго якасці публіцыста-агітатара. У 1921 г. пераехаў у Мінск, дзе яго здольнасці арганізатара, кіраў-

ніка, партыйнага і грамадскага дзеяча раскрыліся асабліва шырока. Член ЦБ КП(б)Б (31.12.1918–4.3.1919), кандыдат у члены ЦК КП(б)Б (10.1.1927–6.2.1929), член ЦВК БССР (1920—1931). Працаваў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Полымя», дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва і Дзяржаўнага архіва БССР. Быў намеснікам народнага камісара асветы БССР, членам Інбелкульта (Інстытут беларускай культуры). У 1928 г. абраны акадэмікам АН БССР.

16.1.1931 з фармулёўкай «за свядомае правядзенне нацыянал-апартуністычнай і нацыянал-дэмакратычнай лініі, за ўдзел у антыпартыйных групоўках у КП(б)Б, за сувязь з чужымі і варожымі справе пралетарыяту нацдэмаўскімі і фашысцкімі элементамі» пастановай ЦКК КП(б)Б Цішка Гартны быў выключаны з партыі. ЦКК ВКП(б) пацвердзіла гэтую пастанову. Пазней, улічваючы прадстаўленую характарыстыку партарганізацыі завода «Камунар» і, галоўнае, прызнанне сваіх памылак, Прэзідыум ЦКК ВКП(б) палічыў магчымым праз год перагледзець гэтую пастанову. Але нічога не было перагледжана. 15 лістапада 1936 г. Цішка Гартны быў арыштаваны органамі НКУС. У Мінскай турме яго жорстка катавалі, выбіваючы «патрэбныя» спецорганам паказанні і прызнанні. Быў аб'яўлены псіхічна хворым. Пераведзены ў Магілёўскую псіхіятрычную лячэбніцу. Паводле афіцыйнай версіі, памёр ад гангрэны лёгкіх 11.4.1937. Па іншых звестках — скончыў жыццё самагубствам. Ц. Гартны быў рэабілітаваны ў грамадска-прававых адносінах, «за недаказанасцю злачынстваў», 15.10.1955. У 1988 г. адбылася поўная палітычная рэабілітацыя — «за адсутнасцю саставу злачынства».

Сёння імем Цішкі Гартнага названы вуліцы ў Мінску і Капылі; на доме ў Капылі, дзе ён нарадзіўся (вул. К. Маркса, 39), а таксама на доме ў Мінску (К. Маркса, 30), дзе ён жыў, устаноўлены мемарыяльныя дошкі. Вобраз Ц. Гартнага ўвасоблены ў жывапісных творах многіх беларускіх мастакоў. Шэраг кампазітараў стварылі песні на яго словы.

Ц. Гартны — адна з тых постацяў у беларускай гісторыі, дзе выключна цесна знітаваны жыццёвы лёс і лёс творчасці. Яго творчасць народжана сваім часам у самым прамым, непасрэдным сэнсе, грамадска-палітычным, духоўным жыццём гэтага часу ў яго індывідуальна-непаўторным адметным увасабленні.

Прычым не толькі ў яе жыццёвым змесце, ідэйна-тэматычнай накіраванасці, адметнасці вобразнай сістэмы. Але і ў яе непасрэдна мастацкіх якасцях (публіцыстычнасць, інтанацыйны лад), у яе жанравым багацці і відавой разнастайнасці (проза, паэзія, публіцыстыка, крытыка; раман, аповесць, апавяданне, нарыс, п'еса, верш, агляднargin артыкул, артыкул прысвечаны творчасці аднаго пісьменніка, рэцэнзія…).

Першы паэтычны зборнік Цішкі Гартнага «Песні» выйшаў у 1913 г. у Пецярбургу. Складаўся з трох раздзелаў. Характэрныя іх назвы: «Песні працы», «Песні кахання», «Жальбы і жаданні». Вылучаюц-

ца ў зборніку вершы цыкла «Песні гарбара». Тут паэт упершыню ў беларускай літаратуры стварае вобраз рабочага, з болем гаворыць пра яго цяжкую долю, пра яго імкненне да лепшага, пра абуджэнне ў ім чалавечай годнасці, разумення свайго месца ў жыцці, у свеце,

Вось як пачынаецца адзін з вершаў гэтага цыкла:

Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей
І на шчасця прыход
Не заплюшчвай вачэй.

І апошняя страфа:

Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей:
Глебу пільна гатуй
І ў ёй шчасце, брат, сей!

Вершы гэтага цыкла, як і многія іншыя, былі напісаны тады, калі Ц. Гартны жыў і працаваў у Пецярбургу. Якраз тут, у рабочым асяроддзі, выспявалі пратэстныя рэвалюцыйныя настроі. У вершах гэтых гадоў даволі выразна праглядваецца іх аўтабіяграфічная аснова. Але справа ў тым, што ўся гэтая аўтабіяграфічнасць узнікла, выспелілася на грунце, у атмасферы падзей, настрояў агульнанародных. Ізноў жа ўвасоблена ўсё гэта было ў формы фальклорныя, паэзіі народнай, найперш песні.

Робячы «Агляд кніг» за 1913 г., Янка Купала так пісаў: «Каб судзіць аб багацці гаспадара, трэба паглядзець восенню ў яго гумно, каб судзіць аб здольнасці песняра, трэба прачытаць яго творы, сабраныя ў асобную кніжачку. Вота ж і зборнічак Цішкі, з кароткім загалоўкам «Pesni», добра нам асвятляе душу і талент аўтара. Цішка не «майструе вершаў», а пяе, пяе ўсёй сваёй набалелай душой, усім сваім сэрцам гарачым, кіпучым». І далей пра разнапланавасць вершаў паэта, іх жанравую адрознасць, вызначальнасць: «Нойдзеце тут і галубіныя песні кахання, і сумныя жальбы, і смелыя жаданні, і ва ўсім чуваць песняра праўдзівага, вынасіўшага кожнае слова ў сваіх набалелых грудзях».

Цішка Гартны не толькі паказвае цяжкую долю чалавека працы — ці то селяніна, ці то рабочага. Ён умее паэтызаваць саму працу («Каваль», «Песня жняі», «Дружна з ахвотай…»). Шчырым пачуццём любові, захаплення, але і прыхаванага суму пранізаны ў яго творы пра родны край, пра прыроду. У яго нават канкрэтныя паэтычныя малюнкі паказаны як малюнкі гэтага краю, гэтай зямлі. Добра відаць гэта ў вершы «Роднай краіне»:

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна й чысты Нёман плывуць,

Між лясоў,
паміж гор,
праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць,
Дзе раскінулісь шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны, —
Песні —
долі людской адгалоскі,
Песні —
жальбы загнанай душы.

Пішучы пра чалавека працы, паэт паказаў і цяжар працы, яе аднастайнасць, невыносныя ўмовы працы, і, у той жа час, радасць, натхнёнасць, асабліва сялянскай, працы — у адзінстве (унутраным) з прыродай. Часам здаецца, што вершы напісаны ў зусім іншы час, дзесьці нібы выбіваюцца з агульнай паэтычнай плыні тагачаснай.

Вось радкі з верша, напісанага ў 1912 г. — «Песня жняі»:

Пад сярпом маім крывым
Жыта хутка гнецца,
Сноп за снопам у радкі
Покладам кладзецца.

Не баюся спёкі я
Сонца агнявога
І не чую, што баляць
Рукі, крыж і ногі.

А гэта зусім іншыя радкі, пра іншага працаўніка, пра працу ў зусім іншых умовах, дзе праца як бы цалкам падпарадкоўвае чалавека. Сам рытм верша, яго эмацыянальны лад выдатна перадаюць сітуацыю, унутраны стан чалавека.

Сагнуўшыся, я ля варстата стаю —
Скуру ўвесь дзень без спачыну я гну,
Я скуру ўсё гну,
Нядолю кляну —
І песню пяю.

*(«Песні гарбара»)*

У 1922 г. у Берліне з'явіўся другі паэтычны зборнік Цішкі Гартнага «Песні працы і змагання». Як ужо відаць з самой назвы зборніка і назвы аднаго раздзела («Песні працы»), паэт прытрымліваўся жанрава («песні»), паэтычна-настраёва развіваў, пашыраў ідэйна-тэматы-

чна зробленае ім у першай паэтычнай кнізе; з другога ж (раздзелы «Чырвоны золак», «Змаганне»), адкрыта арыентуючыся на падзеі і з'явы новага часу, новага жыцця, недвухсэнсоўна вызначае, выразна акрэслівае змест і характар уласнай паэзіі новага часу, уласнага становішча і самапачування ў гэтым часе. Пэўная дваістасць паэтычнага адлюстравання рэчаіснасці выявілася і ў другім паслякастрычніцкім паэтычным зборніку «Урачыстасць» (1925).

І ідэалагічна, і жыццёва Ц. Гартны звязаны з падзеямі дарэвалюцыйнай пары, часу рэвалюцыі і паслярэвалюцыйнага будаўніцтва. У яго жыццёвай біяграфіі выяўлена гэта даволі адкрыта і моцна. Падзяляючы пралетарска-бальшавіцкую ідэалогію, адкрыта актыўна, у жыццебудаванні новага ладу, новых стасункаў паміж людзьмі, паэт ніяк не мог не закранаць гэта ў сваёй паэзіі, не спрабаваць паэтызаваць яго. Падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі, гераічны пафас барацьбы, грамадзянская вайна, першыя гады мірнага жыцця — усё знаходзіла адлюстраванне ў вершах Гартнага.

Ужо ў 1918 г. у вершы «Работніцкая і сялянская рэвалюцыя» піша:

Гары ж, агонь Кастрычніка, гары!
Свой промень зыркі раздувай.
Няхай ён ззяе з краю ў край!
Хто спіць да гэтае пары —
Уставай!

Вершаў такога жыццёвага зместу, такога духоўнага напаўнення, такога інтанацыйна-эмацыйнага, заклікальнага ладу ў паэта і ва ўсе пазнейшыя гады будзе нямала. Напрыклад: «Чырвонаармейцы» (1918), «Гадавіна 25 кастрычніка» (1918), «Заваёвы» (1930), «Пятнаццаць» (1932)… Прыклады можна множыць яшчэ і яшчэ. І чым далей — тым больш.

Адзін з апошніх вершаў «Радзіме» (1935):

Прымі, савецкая радзіма,
Адданасць шчырую табе,
Любоў вíруючую ўздымам,
Гатоўнасць легчы ў барацьбе.
За цэльнасць злітую, стальную,
За моц нярушных рубяжоў,
За радасць, даную мне, тую,
Што лучыць сонца нашых днёў.

Гэта пачатак, так бы мовіць, запеў. А які запеў, такая і песня. Верш цяжкі, шмаслоўны, нейкі натужны; у ім няма шчырасці, свабоды, натуральнасці. І вось тут, як ні крыўдна гаварыць пра гэта, можна лічыць, што Цішка Гартны стаў у нашай літаратуры адным з актыўных

стваральнікаў паэзіі бяздушна-казённай, агітацыйна гучнай, пачуццёва невыразнай. Час дзесьці ўсё больш падпарадкоўваў талент паэта.

Але і ў гэтыя гады там, дзе паэт пісаў пра перажытае і захаванае ў душы з гадоў дзяцінства і юнацтва, ёсць паэзія, шчырасць, натуральнае гучанне роднага слова. Найбольш відаць гэта ў лірычных вершах песеннага ладу: «Я жыць хачу», «Каля бору сонца ходзіць», «Мая душа», «Сімфонія», «Белым матылёчкам»…

Асабліва значныя літаратурныя набыткі Цішкі Гартнага звязаны з прозай. Гартны-празаік пісаў раманы, аповесці, апавяданні, нарысы, абразкі. Найбольш важкія дасягненні ў прозе — раман «Сокі цаліны» і лепшыя апавяданні. Менавіта з гэтымі творамі, найперш з імі, пісьменнік увайшоў у гісторыю нацыянальнай літаратуры і заняў у ёй сваё належнае месца. Першыя апавяданні на беларускай мове былі надрукаваны ў газеце «Наша ніва» ў 1909–1910 гг. Праўда, першыя празаічныя спробы на рускай мове адносяцца да 1904–1905 гг. Але ўсё гэта яшчэ вельмі слабое, схематычнае.

Першыя апавяданні на роднай мове («На ўсходзе сонца», «Думкі», «Адвячоркам») сацыяльна змястоўныя, напоўненыя душэўнымі перажываннямі, лірычныя па сваім настроі. У іх выказаны, вуснамі лірычнага героя, аўтарава светаразуменне, больш за тое, аўтарава светаадчуванне, стан чалавека ў гэтым жыцці, у гэтым свеце. У апавяданні «Думкі» лірычны герой яго думае пра гаротны лёс мужыка на гэтай зямлі, жыццё яго нялёгкае:

«І разам я пакінуў думкі горкія, праўдзівыя думкі, падняў галаву, падняў вочы к небу і загледзеўся ў яго вышыню, у яго глыбіню, без дна, каб забыцца, што жыву я, чалавек, на зямлі, на гэтай грэшнай, заклятай зямлі, над каторай стопудовым молатам вісіць гнеў цяжкога лёсу — нядолі, таго страху, што сочыць цябе, каб падпільнаваць момант і разам схапіць цябе ў свае вострыя, жадныя зубы!..

І нудна, і горка, і цяжка!..»

Абагулена, можа, занадта завострана драматызавана, але эмацыянальна, інтанацыйна пераканальна. І вось гэтая сацыяльная аснова, гэтая далучанасць чалавека да навакольнага свету прыроды, гэты востры драматызм чалавечага існавання будуць вызначаць сутнасць прозы Цішкі Гартнага, асабліва дакастрычніцкай. Адчувальныя будуць у творах, у аснове якіх рэальныя гісторыі, а самі яны сюжэтна драматызаваны, насычаны псіхалагічным зместам, напоўненыя жыццёвымі канфліктамі: «Штрэйкбрэхер», «Лайдак», «Велікодная каробка», «Распусніца». Творы гэтыя ўяўляюць з сябе своеасаблівыя карціны дакастрычніцкага жыцця. Іх праўдзівае ўзнаўленне часам як бы здымае неабходныя аўтаравы маральныя ацэнкі. Так, напрыклад, у апавяданні «Распусніца» аўтар, па сутнасці, не асуджае маладую жанчыну Аўдоццю, якая вымушана за грошы прадаваць сябе. Жыццёвая сітуацыя такая: муж пакінуў, у хаце трое дзяцей. З аднаго боку, сорам, разуменне брыдкасці ў вачах

людзей, роднай маці, з другога — нястача, пастаяннае хныканне дзяцей. У гэтым апавяданні, як, дарэчы, і ў іншых, створаных у гэтыя гады, пісьменнік ва ўзноўленых падзеях, жыццёвых гісторыях галоўную ўвагу засяроджвае на выяўленні іх сацыяльнага зместу. Свет глыбінных псіхалагічных перажыванняў, маральных пакутаў, па сутнасці, не закранае. Тыя асобныя мясціны, дзе пісьменнік спрабуе паглыбіцца ва ўнутраны свет чалавека, заўсёды сацыяльна моцна насычаныя. Зноў жа, узнаўляючы такім чынам жыццё, аналізуючы, раскрываючы характары людзей, Гартны пазбягае адназначных маральных ацэнак. Логіка аўтаравай думкі прыводзіць да высновы: паводзіны чалавека, яго ўчынкі поўнасцю залежаць ад умоў яго жыцця.

Такі погляд на жыццё, на месца чалавека ў ім характэрны для многіх апавяданняў Гартнага — і дарэвалюцыйных, і паслярэвалюцыйных. Рознай тэматыкі, рознага жыццёвага матэрыялу.

Апавяданне «Штрэйкбрэхер» (1918) упершыню ў беларускай літаратуры паказвае жыццё рабочага, рабочага невялікага мястэчка. Гэты жыццёвы матэрыял блізкі пісьменніку, гэта яго матэрыял. І вельмі характэрна, што жыццёва звязаўшы свой лёс з рабочым асяроддзем, падзяляючы ідэі і памкненні рэвалюцыйнай часткі гэтага асяроддзя, Цішка Гартны і ў гэтым апавяданні хоча паглядзець на праблему ўзаемаадносін агульнага і асабістага не з пункту гледжання агульных класавых ці то сацыяльных інтарэсаў, а з пункту гледжання жыцця асобнага чалавека. І надзвычай характэрна, як ён, чалавек і пісьменнік, верны камуністычным прынцыпам і ідэалам, змагар за іх, вырашае гэтую праблему, гэты канфлікт.

Сям'я рабочага Анупрэя. Двое малых дзяцей. Сам Анупрэй бастуе ўжо амаль два тыдні. Грошы, якія былі, усе ўжо патрачаны. Няма за што і хлеба купіць. Дзеці ўвесь час просяць есці, хлеба. Жонка крыўдуе, злуецца. У хаце пастаянныя спрэчкі і сваркі. Анупрэй спрабуе давесці жонцы: «А ласне тут я вінаваты? Разыгралася забастоўка і захапіла ў сваё кола і мяне. Трыццаць чалавек разам — не папрэш супроціў. Як змагацца, дык усім разам. Хто ідзе супроціў — той здраднік… і ты, пэўна, не ведаеш, што з гэткімі бывае».

Ведала і разумела ўсё гэта жонка. Цярпела. Пакуль было можна. Але жыццё складвалася ўсё цяжэй і цяжэй, недахопы ў хаце, пастаянныя просьбы дзяцей прымушалі яе забыць усё. Яна патрабуе ад Анупрэя ісці да гаспадара і пазычыць грошай. Анупрэй пайшоў і пазычыў. Але ўсё адразу ж стала вядома ўсім. Анупрэя назвалі штрэйкбрэхерам.

Заключныя радкі твора: «А слова "штрэйкбрэхер", як малатком, стукала яму па галаве, разліваючы ўнутры балючую трывогу». Канцоўка неадназначная. Не канчатковая. Псіхалагічна змястоўная. Учынкі персанажаў, іх паводзіны, узаемадачыненні з канкрэтнымі абставінамі аўтар імкнецца вытлумачыць псіхалагічна. І, грунтуючыся на гэтым, даць ім маральную ацэнку. Праўда, ва ўсім адчуваецца дамінуючая роля

моманту сацыяльнага. Але што ж… Такім было тое жыццё, такім быў той час. Пісьменнік быў сведкам і актыўным удзельнікам таго часу. Так яго бачыў і адчуваў. Так імкнуўся вытлумачыць.

Пытанні ўзаемаадносін асабістага і агульнаграмадскага, чалавека і абставін, найперш сацыяльных, якія закраналіся ў дакастрычніцкіх апавяданнях Гартнага, больш востра акрэсліваюцца ў творах, дзе асвятляюцца падзеі вайны, рэвалюцыі, паслярэвалюцыйнага часу. Такія апавяданні складаюць пераважную большасць у зборніках «Трэскі на хвалях» (1924), «Прысады» (1927), «Гаспадар» (1930).

Цішка Гартны — і як чалавек, і як грамадзянін, і як паэт — ва ўсе гады прымаў самы актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, у самых розных сферах яго. Жыццё ж было багатае, складанае, неадназначнае ва ўсіх адносінах. Пісьменнік жыў у ім, жыў ім, змагаўся з ім і за яго. Ён валодаў багацейшым жыццёвым матэрыялам: рэальнымі фактамі, падзеямі, сітуацыямі, чалавечымі характарамі. Ён іх ведаў не вырвана, не адасоблена, а ў цеснай сувязі з іншымі падобнымі і адрознымі, у сістэме, у структуры, што завецца жыццём. Таму за ўзноўленымі падзеямі, гісторыямі, персанажамі адчуваецца стыхія вялікага свету жыцця, рытм і эмацыянальны лад часу.

Апавяданне «Чырвонаармеец Панкел Ліпа» (1920) уяўляе з сябе новы чарговы крок у мастацкім асэнсаванні асабіста ўведаных пісьменнікам падзей бурлівага тагачаснага жыцця.

«Чырвонаармеец Панкел Ліпа». У аснове яго — характэрная для таго часу, для тых падзей — складаная, драматычная гісторыя.

Галоўны персанаж твора Панкел Ліпа апынуўся ў стане нейкай прыгнечанасці жыццём, няпэўнасці, тугі. Адчувае сябе адзінокім, нібы бязродным. «Вайна і вайна. Канчатку ёй, заклятай, ніякага няма». Расказвае: «Дый падумайце — восьмы год я ўсё гэтак вандрую: то фронт, то назад у шпіталь… Пяць разоў быў ранены… Увесь час без вестак аб родных, дзе і што яны, не ведаю долі ні жонкі, ні дзяцей… Знайсці б іх, праведаць аб іх што-кольвечы, на хвіліну з імі б угледзецца і… больш нічога… Тады б я зноў гадзіўся на справу…» Але гэтага няма і невядома, калі будзе. На сходзе, зазначае пісьменнік, «усе прамоўцы адмячалі святую павіннасць кожнага з чырвонаармейцаў забыць усё, што злучана з іх прыватным жыццём, і смела ды цвёрда ісці на ворага». Прамовы гэтыя ўзбуджалі ў душы Панкелавай ваяўнічасць, злосць на ворагаў, уздымалі настрой. Праходзіў пэўны час, і іншы настрой авалодваў Панкелам: незадаволенасць тым, што ёсць, туга, абыякавасць, неадольнае жаданне пабачыць сям'ю, родных.

Цішка Гартны імкнецца заглыбіцца ў характар Панкела, псіхалагічна прааналізаваць яго ўчынкі, памкненні, яго душэўны стан, звязаць яго паводзіны са з'явамі сацыяльнымі.

Панкела добра разумее белагвардзеец Проў, які апынуўся сярод чырвонаармейцаў і займаецца сваёй варожай дзейнасцю. Ён добра

бачыць, адчувае настрой Панкела, пачынае з ім працаваць. Гаворыць слушныя рэчы, блізкія і зразумелыя Панкелу: «На свеце даражэй усяго чалавечае жыццё, яго самотнасць… Чалавек. Асоба — гэта асобны цэлы свет, як асобная дарагая будыніна […] разумееш, чалавек — гэта святая рэч, яго трэба шанаваць у імя таго жыцця, якое яму дадзена, у імя шчасця гэтага жыцця… Хто ж цябе пашануе, калі не ты сам? Хто аб табе паклапоціцца, калі не ты сам? Бачыш — з цябе зрабілі бескаштоўную рэч, якую шпурляюць усюды, як трэску… Трэска падае ў ваду — тані; трэска падае ў агонь — гары…»

Апошнія радкі апавядання:

«А вецер крапчэў, глушачы сваім свістам далёкія водгукі стрэлаў…

На станцыі стухлі агеньчыкі, нібы задутыя ім».

Так вецер рэвалюцыі, грамадзянскай вайны тушыў агеньчыкі асобных чалавечых жыццяў.

Панкел — ахвяра свайго часу, часу бязлітаснага ў адносінах да асобнага чалавека.

Дарэчы, вобраз «трэскі» так упадабаўся аўтару, што ўвайшоў у назву другога зборніка апавяданняў «Трэскі на хвалях». Напэўна ж, ён — не выдумка пісьменніка. Ён падняты, народжаны самім тагачасным жыццём, становішчам у ім чалавека.

У аснове апавядання «Больш за ўсіх» зноў жа сітуацыя драматычная, сітуацыя, у аснове якой сутыкненне агульнага і асабістага. Але ўжо не ў абставінах вайны. Вайна дзесьці пайшла на захад. У мястэчку ўсталёўваецца новая ўлада, працуе рэўкам. Платон Гічка — адзін з яго працаўнікоў. Чалавек, адданы рэвалюцыйным ідэям беззапаветна. Чалавек, які дзеля агульнай справы, у імя грамадскіх інтарэсаў гатовы ісці на ўсё. «Яму здавалася, што рэвалюцыянер не павінен мець жаднае спагады. Усё, што побач рэвалюцыі, то, безумоўна, ніжэй яе па значнасці». Так Платон думаў, лічыў, так паводзіў сябе ў жыцці. Гартны падкрэслівае: «Дзеля рэвалюцыі ён ахвяраваў пачуццём кахання, пакінуўшы без адказу просьбу каханай дзяўчыны не выязджаць на падпольную працу пры немцах. Дзеля ідэі рэвалюцыі ён забываў бацькоў, не ведаючы, як і што яны жывуць, як іх становішча пад палякамі». Тое было раней, у мінулым. Тое ж самае і асталося сёння.

Пісьменнік стварае крытычна складаную сітуацыю для Платона Гічкі. Сітуацыю агульназначнага сэнсу, але засяроджаную ў адной сям'і, у адзін час. Сітуацыю няпростую. Усё павінен вырашаць Платон. І ён вырашае. Вырашае, кіруючыся толькі агульнанароднымі, як яму ўяўляецца, інтарэсамі. У жніво, калі на зямлі столькі працы, ён не надта здаровага бацьку адпраўляе ў абоз з чырвонаармейскім атрадам. Сам едзе працаваць у павятовы рэўкам, пакідаючы ўсю працу па гаспадарцы на хворую маці. Нельга сказаць, што Платон усё вырашае бяздумна: дзесьці ён спрабуе спрачацца, адстойваць сваё. Але… агульныя інтарэсы, клопаты перамагаюць.

Думаецца, не трэба гадаць, каму спачувае аўтар. Твор быў напісаны ў 1923 г. То быў час, калі толькі пачыналі ўсталёўвацца новыя ўзаемаадносіны паміж чалавекам і грамадствам, асабістым і агульным. Было шмат катэгарычнасці, аднабаковасці, не было належнай узважанасці. У творы гэта добра відаць. І пісьменнік, знаходзячыся на новых сацыяльных, грамадскіх пазіцыях, ацэньвае падзеі, учынкі персанажаў з пазіцый чалавека, сцвярджаючы яго самакаштоўнасць. Спачуванне, шкадаванне, боль выклікаюць не грамадска значныя ўчынкі Платона, а тое, што здарылася з бацькам, як успрыняла гэта маці. Ды і сама заключная рэакцыя Платона на тое, што здарылася. Для яго то было папярэджанне, урок.

Сёння ж, з улікам вопыту, горкіх набыткаў мінулых гадоў, і гэтае апавяданне, і іншыя ўспрымаюцца як папярэджанне, перасцярога грамадству, чалавеку. Як паказала жыццё, перасцярога пісьменніка была недарэмнай, не беспадстаўнай.

Увогуле апавяданні Ц. Гартнага досыць выразна паказваюць, як цесна пісьменнік быў звязаны з праблемамі свайго часу. Відаць гэта не толькі ў жыццёвых фактах, падзеях, сітуацыях, пакладзеных у аснову твораў, не толькі ў характары канфліктаў, праблематыцы, але і ў мастацкай адметнасці твораў, іх эмацыянальным ладзе, танальнасці, іх стылістыцы, іх рытміцы. Пісьменнік жыццё, час успрымаў шырока, у розных характэрных праявах. Каб пераканацца ў гэтым, можна супаставіць апавяданні «Больш за ўсіх» і «Трэскі на хвалях». Напісаны творы ў адзін і той жа год — 1923, надрукаваны ў адным і тым жа часопісе — «Полымя», №№ 4, 5–6. Падзеі дзесьці рознага характару. Хаця пра падзеі ў апавяданні «Трэскі на хвалях» можна разважаць чыста ўмоўна. Тут усё трымаецца на размовах, дыялогах, спрэчках. Якраз у іх і дзякуючы ім добра выяўлена атмасфера часу — часу ўсталявання новага ладу, іншай, савецкай, атмасферы ў грамадстве, часу пастаянных бязладных размоў, спрэчак, часу зараджэння варагаманіі, праследу, беспадстаўных абвінавачванняў. І сёння назва твора ўспрымаецца больш шырока і глыбока, чым тое было раней. Сёння «трэскі на хвалях» — гэта не толькі прыхільнікі старога ладу, але і абаронцы новага, савецкага. Адчуванне такое, што магутная, стыхійная хваля нясе кудысьці і тых, і другіх. У словах, дзеяннях і тых, і другіх няма жыццёвай заглыбленасці, больш-менш выразнай грунтоўнасці. Аптымістычнага падтэксту ў апавяданні няма.

Апавяданне «Прысады» датуецца 1925 г. У жыцці ўжо відаць пэўная акрэсленасць мэты новага ладу, агульная атмасфера, агульны настрой становяцца аптымістычнымі, больш светлымі. Герой больш дзейны, актыўны і ў той жа час уважлівы да чалавека. Ён бачыць перспектыву свайго краю, бачыць рэальную мэту, хоць які вынік таго, што сам ён робіць. Такі ў творы начальнік раённай міліцыі Астап. Новаму герою, новаму часу, узноўленаму ў творы, адпавядае і сама стылістыка твора,

яго рытміка — інтанацыйны лад. Магчыма, дзесьці тут быў і ўплыў «маладнякоўцаў». Адчуваецца гэта на пачатку твора:

«Па сценках, па гасцінцах, па шляхах лёгкаю ступою поўзаюць рэдкія падводы ад вёскі да вёскі, ад сяла да сяла, з сельсавета ў саўгас.

Днём і ноччу…

Днём падувае лёгкі густы вецер з поўдня к захаду, ганяе рэдкія палавыя хмары. Выскальваецца неба нясмелым сонцам, якое спрабуе грэць, мацае зямлю, ужо вызвеўшую, ужо падсохлую, трапяткім праменнем, але не грэе. Шэрыя палевікі-птушкі гоцаюць па раллі, па межах, зімою — зімою 25 года, якое не помняць старыя, незвычайнаю…»

Праўда, такая «маладнякоўская» манера пісьма да канца не вытрымліваецца.

Цішка Гартны — пісьменнік надзвычай чулы да жыццёвага руху, жыццёвых змен. У творчасці, творчасцю сваёй ён заўсёды імкнуўся быць сучасным, актуальным. Такім ён быў у дакастрычніцкія часы, такім заставаўся ў перыяд грамадзянскай вайны і ў першыя гады станаўлення новага жыцця. Такім застаўся ў другой палове 20-х — пачатку 30-х гадоў. Межы грамадскага жыцця пісьменніка пашыраюцца, актыўнасць узмацняецца. Творчы дыяпазон адпаведна пашыраецца, тэматычна ўзбагачаецца. Як і раней, ён піша пра вёску (ужо новую), пра рабочых, інтэлігенцыю. Узнікаюць новыя тэмы, праблемы, вобразы, сугучныя часу і літаратурным запатрабаванням. Само па сабе жаданне ўвесь час ісці ў нагу з часам, непасрэдна рэагаваць творча на тое, што адбываецца ў жыцці, у грамадстве, мастацкі вынік можа даць толькі пры належнай заглыбленасці ў рэальны матэрыял, вынашанасці яго, прадуманасці. Такое атрымлівалася далёка не заўсёды. Адсюль схематызм, публіцыстычнасць, дзесьці натуралістычная прыземленасць у многіх апавяданнях гэтых гадоў.

Самы значны твор Цішкі Гартнага — раман «Сокі цаліны». Твор складаецца з 4-х кніг, названых аўтарам квадрамі: «Бацькава воля», «На перагібе», «Крыжовыя дарогі» і «Чырвоныя зарніцы». Працаваў пісьменнік над гэтым творам з 1914 па 1929 г. Багаты значнымі зменамі час моцна ўплываў на аўтара і не мог не паўплываць на ідэйна-мастацкія асаблівасці твора. Раман лічыцца як першы завершаны сацыяльна-бытавы эпічны твор у нацыянальнай літаратуры. Гэта таксама першы твор, у якім так шырока паказана жыццё горада, праца, побыт, грамадска-палітычная абстаноўка. Можна, напэўна, сцвярджаць, што Гартны адным з першых, калі не першы, закладваў нацыянальную традыцыю ў мастацкім спасціжэнні горада, найперш рабочага асяроддзя. Пісьменніку, грунтуючыся на ўласным жыццёвым вопыце, добра ўдалося перадаць характар, адметнасць з'яўлення рэвалюцыйных памкненняў, ідэй, характар іх выспявання ў спецыфічным беларускім асяроддзі (мястэчка, вёска). Зноў жа, у творы акрэслена прасочваецца залежнасць падзей, што адбываліся на беларускіх землях,

ад рэвалюцыйных зрухаў ва ўсёй Расійскай імперыі, абумоўленасць імі і падпарадкаванасць ім. Пісьменнік якраз добра паказаў адметнасць, асаблівасць тых падзей, што адбываліся ў нашых мястэчках, на нашай зямлі. Тут відаць натуральнасць апісанняў прыроды, побыту, працы, арганічнасць чалавечых думак, перажыванняў, паводзін, тут ёсць як бы непасрэднае ўзнаўленне жыцця. Уласціва гэта ў найбольшай ступені першай кнізе рамана — «Бацькава воля».

«Ужо зусім звечарэла, калі Зося прывяла з пашы каня…» Так пачынаецца твор, пачынаюцца падзеі. Але аўтар спыняецца і дае разгорнуты малюнак вясковай вуліцы: «На вуліцы было цемнавата, але жыццё і не думала заміраць: на прызбах там і сям сядзелі мужчыны і бабы, ведучы рэзвую гутарку, у якой часта прабіваўся вясёлы і бесклапотны смех, жарты і выгукі. Сярэдзінай вуліцы доўгім цугам пляліся з пашы худыя, дробныя і панурыя кароўкі; хутка мчаліся мізэрныя, тонкія, заморыныя свінні; збіўшыся гуртком і спалохана азіраючыся, падскаквалі галабокія стрыжаныя авечкі. Вуліца курэла ад пылу. Рык кароў, рохканне свіней і мэканне авечак і тут жа несціханы крык дзяцей, якія не лепш, як авечкі, таўкліся на вуліцы, запыленыя і мурзатыя, ганяючыся адно за другім — усё гэта яскрава сведчыла аб рэзвым, віруючым жыцці ў закінутым у глуш мястэчку Сілцах».

Малюнак свабодны, дакладны, натуральны. Вызначаны час, месца, агульная атмасфера пачатку раманных падзей. Падобных (яркіх, прачулых, дакладных) карцін, малюнкаў прыроды, побыту, працы ў творы нямала. За імі і ў іх адчуваецца аўтарава асабістая перажытасць, грунтоўнае веданне жыцця ў падрабязнасцях, дэталях.

Гэтыя якасці рамана Цішкі Гартнага падкрэслены ўжо ў «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага. Зазначаецца, што ў творы «аўтар дае шмат мастацкіх па сваёй натуральнай праўдзівасці вобразаў земляробскае і іншае працы ўва ўсе часціны года, гульняў і забаў моладзі, кахання працоўных людзей, сватання, сямейнага жыцця заможных і бяднейшых, наогул — цэлы бытавы эпас местачковых земляробаў і работнікаў. Вельмі многа з размахам намалёваных вобразаў прыроды. На гэтым шырокім палатне пераплятаюцца адносіны многіх тыповых жыхароў мястэчка, высвятляюцца іхнія духоўныя інтарэсы, думкі, погляды і г. д.».

І там, дзе вобразы твора нібы вырастаюць з гэтага, асабліва местачковага, асяроддзя, арганічна з ім звязаны, там яны больш жывыя, больш праўдзівыя. Там менш зададзенасці, схематызму, там больш рэальнага жыцця. У найбольшай ступені бачыцца гэта ў вобразах жыхароў мястэчка Сілцы. І тут няма якойсьці выпадковасці. Бо за Сілцамі і яго жыхарамі адчуваецца родны пісьменнікаў Капыль.

Якраз тут у паказе чалавека, у стварэнні вобраза местачкоўца, па-мастацку натуральна спалучаюцца паказ сацыяльна-бытавых узаемаадносін, стварэнне карцін іх працы, побыту, раскрыццё іх псіхалогіі,

унутранага свету. Вобразы набываюць жыццёвую натуральнасць і аб'ёмнасць.

Такі вобраз Зосі Прыдатнай. Дачка даволі заможнага местачкоўца-селяніна, яна ўсёй душою пакахала Рыгора Нязвычнага, сына беднай удавы. Менавіта ў гэтым каханні раскрыліся, выявіліся рысы характару: шчырасць, душэўная прыгажосць, імкненне да чагосьці светлага, высокага і, разам з тым, яе нерашучасць, пакорлівасць волі бацькоў, нейкая абачлівасць. Дзесьці пры першай сустрэчы з каханым яна рашуча заяўляе: «Я… я буду змагацца да канца. І, можа, толькі не хопіць сіл ці не знойдзецца дапамогі збоку — тады пішы прапала. А калі залежыцьме ад мяне, то павер, што я — без бойкі не здамся». То быў голас кахання — усхваляваны, бяздумна рашучы. Але жыццё склалася інакш. Падпарадкоўваючыся бацькавай волі, яна выходзіць замуж за багатага, але нялюбага Васіля Берага. Тое становішча, у якім апынулася Зося, яго складанасць, драматызм, дакладна акрэсліла яе сяброўка: «…Там каханне, і разам — беднасць, недахваты, праклёны бацькоў; а тут — дастатак, багацце і нялюбы чалавек, цёмная нез'яснёная будучыня». Акрэсліла сама сабе, Зосі нічога не сказала.

Вось гэтую складаную жыццёвую сітуацыю, драматызм чалавечага лёсу, унутранага стану чалавека пісьменніку ўдаецца праўдзіва перадаць. Праз учынкі, паводзіны, шматлікія дыялогі-спрэчкі з бацькамі, размовы з сяброўкамі, з Рыгорам, праз апісанні ўнутраных перажыванняў, роздумаў. Атрымаўся вобраз Зосі не адназначны, просталінейны, а жыццёва цэласны, абаяльны. А ў тым, што яна выходзіць замуж за нялюбага, не віна яе, а бяда. І вырашальнымі тут былі не беднасць-багацце, не недахваты-дастатак, а сіла сямейна-бытавых традыцый, умовы выхавання, у прыватнасці страх бацькоўскага праклёну. Ды, напэўна, недастатковая падтрымка яе чыстых памкненняў, яе кахання, няўвагай да іх з боку Рыгора: ён увесь аддадзены рэвалюцыйнай дзейнасці.

Рыгор Нязвычны — цэнтральны вобраз рамана «Сокі цаліны». Для беларускай літаратуры гэта новы герой, асоба па-грамадзянску і духоўна актыўная. Асоба, народжаная сваім часам, часам выспявання ў грамадстве рэвалюцыйных настрояў і ідэй. Ствараючы такога героя, паказваючы яго ў актыўным грамадскім дзеянні, пісьменніку трэба было стварыць шырокае палатно тагачаснага жыцця, звярнуць асаблівую ўвагу на тыя пласты, дзе рэвалюцыйныя настроі, ідэі зараджаліся, выспявалі. А гэта немінуча прыводзіла да шырокага паказу рабочага асяроддзя. Для нацыянальнай літаратуры то была новая сфера народнага жыцця, якую раней мастацкае слова, па сутнасці, не закранала. І тут Цішка Гартны, зразумела, стаў першым у беларускай літаратуры, як і ў стварэнні вобраза станоўчага героя падобнага тыпу.

Рыгораў «добры знаёмы, таварыш па цэху і настаўнік па практычных ведах палітычнага руху» ў Рызе Міхась Камар пасля адной

сустрэчы з Рыгорам думае: «Багатая сокамі цаліна агромнай краіны расціла маладыя пасынкі». Такім маладым пасынкам рэвалюцыйнага руху, народжаным і ўзгадаваным на беларускай зямлі, якраз і з’яўляецца для Цішкі Гартнага галоўны герой яго рамана. У яго прыгожая знешнасць, ён прыцягвае да сябе іншых людзей — і жанчын, і мужчын: надзелены якімсьці ўнутраным магнетызмам. Мужнасць, самаадданасць, стойкасць, моцная воля, любоў да працы, павага да беднага працоўнага люду, вера ў перамогу рабочага класа — якасці, якімі пісьменнік надзяляе свайго героя. Падкрэслівае гэта. Сцвярджае. Сэнс жыцця для Рыгора — змаганне за інтарэсы рабочага класа, за перамогу ў гэтым змаганні. Розум, воля — усё падпарадкавана рэвалюцыйнай дзейнасці. Іншае яго мала цікавіць. У яго няма сумненняў, нейкіх хістанняў, яму ўсё зразумела. Рыгор прайшоў праз многія жыццёвыя выпрабаванні — турэмнае зняволенне, адміністрацыйная высылка. Але яны яго не зламалі. Толькі загартавалі. У гэтых, станоўчых, якасцях і памкненнях Рыгор успрымаецца як рамантык. Рамантыка і рэвалюцыя — рэчы несумяшчальныя. Рамантыка творыць рэвалюцыю. Рэвалюцыя нішчыць рамантыку. Якраз рэвалюцыя, за якую змагаўся, якую здзяйсняў Рыгор, яго загубіла.

Такое завяршэнне раманнага лёсу галоўнага героя, у такіх умовах уяўляецца лагічным, жыццёва і па-мастацку апраўданым. Хаця агульны фон, падзейна-эмацыянальны сваім аптымізмам (урааптымізмам), значна заглушае трагізм чалавечага лёсу — лёсу Рыгора Нязвычнага. Як носьбіт актуальнай рэвалюцыйнай ідэі, як прадстаўнік новай грамадска-палітычнай сілы Нязвычны паказаны паслядоўна ў сваім руху, выразна, з даволі заўважнай аўтаравай прыхільнасцю. Як чалавек, як мастацкі яго вобраз выклікае пэўныя прэтэнзіі; асабліва адносіцца гэта да 2 і 3 кніг. Тут ён, вобраз гэты, занадта схематычны, адналінейны, плакатны. Публіцыстычнасць шмат дзе падмяняе шчырасць і даверлівасць, апісальнасць, шырокая апісальнасць — малюнкавасць і аналітычнасць. З улікам сучаснага ўзроўню мастацтва слова, з адчуваннем і разуменнем гісторыка-літаратурнага кантэксту асобныя слабасці і недахопы відаць неяк асабліва адчувальна.

І ўсё ж…

Якраз сёння, разглядаючы твор гэты, раман «Сокі цаліны», у гісторыка-літаратурным кантэксце, ёсць разуменне таго, што многія з тых недахопаў шмат у чым — гэта недахопы і слабасці часу. Часу гістарычнага і літаратурнага. Яны як бы з’яўляюцца працягам станоўчых якасцяў: шырокага адлюстравання гісторыі і часу і стварэння галоўнага героя тых гадоў — рэвалюцыянера. А за галоўным героем выразна бачыцца, адчуваецца сам аўтар. Таму ў рамане ўвогуле праўдзіва адлюстраваны дарэвалюцыйны шлях аўтара на шырокім фоне грамадска-палітычных падзей, у непасрэдных стасунках з імі. Больш

таго, у логіцы, дынаміцы падзей, характараў ёсць і адчуванне жыцця, і адчуванне літаратуры той пары.

Час рэвалюцыйнага ўздыму, час рэвалюцыйных пераўтварэнняў заўсёды нараджае творцаў шырокага грамадскага і літаратурнага дыяпазону, высокай актыўнасці. Такім быў і Цішка Гартны. Мала таго, што ён, як чалавек і грамадзянін, прымаў практычна самы актыўны ўдзел у палітычным жыцці, у самых значных тагачасных падзеях, ён імкнуўся і сваю літаратурную творчасць падпарадкаваць рэальным клопатам, турботам, працэсам. Ён з тых творцаў, у каго літаратурная і грамадска-палітычная дзейнасць былі адзінымі. Жыццё нараджала творы (факты, падзеі, тэмы, ідэі, героі, стыль), творы актыўна ўваходзілі ў жыццё. Якраз гэтым (патрэбамі жыцця і часу), напэўна, можна вытлумачыць шматграннасць паслякастрычніцкай творчасці пісьменніка, яе разнажанравасць.

У 20-я гады Гартны працуе над раманам «Сокі цаліны», піша новыя апавяданні; спрабуе свае сілы ў драматургіі: напісаў п’есы «Хвалі жыцця» (1918), «Сацыялістка» (1924), «На стыку», «Дзве сілы» (1926). Але асабліва ярка і плённа яго творчая дзейнасць выявілася ў крытыцы. Лепшае ўключана ў зборнік крытычных артыкулаў «Узгоркі і нізіны» (1928). Ідэйна-тэматычны і жанравы дыяпазон гэтай творчасці даволі шырокі і разнастайны: агляды артыкул, творчы партрэт, рэцэнзія, удзел у палеміцы, артыкулы мемуарнага характару. Піша пра Янку Купалу і яго творчасць, дае грунтоўны агляд творчасці Алеся Гурло і Міхася Чарота. Піша пра А. Пушкіна і Л. Талстога, А. Міцкевіча і А. Блока, М. Горкага і В. Брусава, пра І. Бехера. Крытыка Гартнага пераважна носіць сацыялагічны накірунак, што нярэдка прыводзіць да вульгарна-сацыялагічных вывадаў і памылак, спрошчаных ацэнак. Тое віявілася ў пазіцыі пісьменніка ў так званай «тэатральнай дыскусіі», у ацэнцы ўтварэння творчага аб’яднання «Узвышша», у рэцэнзіі на кнігу «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага.

Цішка Гартны, і як чалавек, і як пісьменнік, прымаў самы актыўны ўдзел і ў грамадскім, і ў літаратурным жыцці свайго часу. У гады грамадзянскай вайны, асабліва ў 20-я гады ён быў цесна звязаны з газетай. Гэта моцна адбілася ў шматлікіх газетных публікацыях. У плане творчым — у публіцыстыцы і нарысістыцы. Цікавыя яго падарожныя нарысы «Ад Берліна да Мінска», «Па чатырох краінах (уражанні і сапраўднасць)», цыкл нарысаў, напісаныя пасля наведвання родных мясцін «У глыбі Беларусі», «Са Случчыны».

Пісьменнік быў поўны творчых сіл, жыццёвай энергіі; было шмат задум, планаў.

Аднак жыццёвы і творчы шлях яго быў трагічна абарваны.

Зроблена Ц. Гартным шмат. Ён адчуваў дыханне часу, жыў жыццём сваёй эпохі — бурнай, складанай, драматычнай. Імкнуўся адлюстраваць яе, спасцігнуць яе галоўны канфлікт. Выявіць сэнс руху. Многае

ўдалося здзейсніць. Пісьменнік у поўным аб'ёме ўвёў у нацыянальную мастацкую літаратуру свет горада, стварыў выразныя вобразы яго прадстаўнікоў, выявіў яго атмасферу ў рэвалюцыйныя гады. Мястэчка, а гэта вельмі характэрна для нашай зямлі, у яго творах знайшло яркае паэтычнае ўвасабленне. Але значэнне творчасці Гартнага не толькі ў яе гісторыка-літаратурным змесце. Яно шырэй і глыбей. Ён адзін з першых (калі не першы) стваральнікаў у беларускай літаратуры рамана шырокага эпічнага гучання; яго апісанні местачковага побыту, прыроды і сёння хвалююць нас; канфлікты паміж асабістым і агульным, узнятыя ім у многіх апавяданнях і рамане «Сокі цаліны», і да нашых дзён не згубілі сваёй актуальнасці. А яго вобраз творцы, змагара і пакутніка ў гістарычным летапісе нацыянальнага духу заняў назаўсёды сваё годнае месца.

*Серафім Андраюк*

## БЯЗДОЛЬНЫ

*Пасвячаю Янку Купалу*

Цяжка жыць без долі,
Што рабіць — не знаю;
Хіба на свет выйду,
Долі пашукаю.

Выйду пад гаёчак,
Крыкну на ўсё поле:
Дзе так запрапала
Ты, без сэрца, доля?!

Можа, ты, зялёны
Родненькі гаёчак,
Схаваў маю долю
У цёмны вугалочак?

Эй, скажы, мой мілы,
Пашкадуй дзяціну,
Памажы ты гору,
Паймі сіраціну!

Дарма я пытаю:
Шуміць лес няміла…
Не пачула доля,
Эх, пачуй, магіла!..

*Капыль, 1908*

## ДА НЁМНА

Эх ты, Нёман-рака!
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу бедака
У свае воды лавіў;
Як стаяў пад табой
Сын нядолі худы
І над цёмнай вадой
Спяваў песні нуды, —
Што надыдзе пара —
Знемажэнне міне,
Вызвалення пара
Над народам блісне?
Што з балючых грудзей
Беларусі дзяцей
Над табой загудзе
Песня вольных людзей?

*Капыль, 1909*

## ПАЖАРЫСКА

Вось і пажарыска: агнёвыя сцежкі
Як гладкае поле ляжаць.
Усюды дымяцца яшчэ галавешкі
І печы, як страхі, стаяць.
Без толку валяюцца хатнія рэчы:
Паломаны столік, тапчан,
Саганчык з капустаю вынуты з печы,
Старэнькі, падраны лахман.
Дзе яблынь шкілеты, дзе ліпы, рабіны
Нахмурана, ціха тырчаць;
Як рукі старыя, звіслі галіны,
На попел, на сажу глядзяць.
А вот і хлявок, дзе кароўка рыкала;
Звуглёная шула дыміць,
А вунь, дзе нядаўна гуменца стаяла,
У кучы салома курыць.
Трасуцца і плачуць галодныя дзеці,
А бацька? — вачам хоць не вер,

Без долі у горы век зжыў ён на свеце,
Што ж будзе з няшчасным цяпер?
Глядзіць ён у жалі на голу зямельку,
Дзе хатка старая была,
Што грэла яго даражэньку сямейку
І маткаю роднай была…
І як жа цяпер з гэтым месцам расстацца, —
Так цяжка яго пакідаць, —
Дзе раптам прапала старанная праца,
Чаго ўжо не скора дастаць?
Куды ім цяпер адзінокім папхнуцца?
Дзе помачы вышукаць, дзе?
Ці будзе каму на іх плач адгукнуцца,
Руку падаць у бядзе?

***Капыль, 1909***

## СЯВЕЦ

Ўставай, сявец! бяры сяўню,
Аўса, вады давай уволю
Свайму ты вернаму каню
І ўжо рыхтуйся ехаць ў поле.
Прыйшла вясна, і там цябе
Чакае вызвеўшая ніва;
Яна гатовая к сяўбе
Й сяўца чакае ўжо рупліва.
За зіму ўспрэўшая зямля
Табе аддасць за працу многа!
Ўставай, сявец! Няхай сяўня
Не будзе пуста і убога.
Рукой зярнят бяры паўней
Ды кідай мерна жменя ў жменю;
Са збожжам ў сэрцы думкі сей
Надзеі, волі, адраджэння.
Ўставай, сявец! І тое знай,
Што думак глеба не абмане,
А дасць багаты ураджай
За пот праліты, за старанне.
Ўставай, сявец! Ідзі, ары
Здзярнелай нівы твае гоні;

Прыйшоў твой час — ужо пара
Пачаць сяўбу яшчэ сягоння!

*Капыль, 1909*

## ЗАГУДЗІ ТЫ, ВЕЦЕР

Загудзі ты, вецер,
Скалыхні вярбіну;
Заспявай ты песню,
Мілая дзяўчына!

Заспявай як птушка
Летняю парою,
Каб было мне шчасна
Пасядзець з табою;

Каб сагнала песня
Ўсю нуду ліхую
І ўвабрала душу
У вопратку другую:

Радасці, вяселля,
Шчасця і любові…
Каб нуды сарвала
Моцныя аковы…

Заспявай,галубка,
Заспявай, дзяўчына!
Скалыхні ты, вецер,
Скалыхні вярбіну.

*Капыль, 1909*

## РОДНАЙ КРАІНЕ

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе відаць на абшары кругом
Курганы, і пустыя раўніны,
І балоты, зарослыя мхом.

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна й чысты Нёман плывуць,
Між лясоў,
                паміж гор,
                              праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць,

Дзе раскінуліся шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны, —
Песні —
            долі людской адгалоскі,
Песні —
            жальбы загнанай душы.

Я люблю гэты вобраз бясконца,
Тыя вёскі, балоты, гаі,
Бо радзіўся я ў гэтай старонцы
І памру мо у гэтай зямлі.

*Магілёў, 1910*

## КРАСУЙ, ЗБОЖЖА!

Красуй, збожжа майго краю,
Каласісь багата!
Жджэ за працу ураджаю
Ад цябе араты.
Хлебароб, аддаўшы сілы
Свайму полю-ніве,
Усміхнецца табе міла,
Што ты урадліва.

*

Красуй, збожжа майго краю,
Каб зярно злілося
У адплату аратаю
Ў ядрыя калоссі!
Сонца, з неба шлі праменні,
Залаці чароўна!

Ў зямлю кінута насенне —
Ўродзіць колас поўны.

*

Красуй, збожжа майго краю,
Убірай палеткі!
Хай з табою аратая
Весяляцца дзеткі.
Плён за працу верне ніва —
Ўцешыць думкі, вока,
Як паўныя вазы жніва
Пагрымяць да току.

*Вількамір, 1910*

## КАВАЛЬ

Многа працы ў мяне —
Хоць ўсю пору працуй!
Грэй жалеза ў агне,
Вымай з горыну й куй.
    Молат важкі трымай
    Над кавадлам якраз,
    Знізу ўверх паднімай,
    Зверху ўніз, раз у раз.
Адвярніся наспех,
Як сумееш урваць —
Не забыцца, каб мех
У свой час паддуваць.
    Адно іскры ў бакі
    І да верху лятуць,
    Як паважна з рукі
    Малаты важка б'юць.
Раз — другі, і сашнік
Можа ў поле ўжо браць
Гарацешны мужык,
Сваю ніву араць.
    Трэба шворан у воз —
    Я згатую як след;

Абіць буксу калёс —
Я й да гэтага мэт.
Рукі знаюць настрой,
Молат ўслушны ка мне.
На ўсё жыцце цяжкой
Працы хопіць ў мяне.

*Магілёў, 1911*

## ПЕСНЯ ЖНЯІ

Пад сярпом маім крывым
Жыта хутка гнецца,
Сноп за снопам у радкі
Покладам кладзецца.

Не баюся спёкі я
Сонца агнявога
І не чую, што баляць
Рукі, крыж і ногі.

Пот ліецца ручайком,
Смага забірае;
Я ж вясёлая ўсё жну,
Жну ды падпяваю.

Час паспешна так ляціць —
Скора вечар будзе,
І я нівачку сваю
Так дажну, як людзі,

Ды паспею мо яшчэ
У снапы звязаці.
Ох, люблю-люблю сваё —
Сваё жыта жаці.

Як сажну яго я ўсё
І звязём дахаты,
Будзем хлеба на год мець,
Будзем мы багаты.

А салодак свой хлябок
(Каб жа быў ён вечан!),

Хоць і чорны, і крупны
І няўмела спечан.

Эх, хутчэй-хутчэй, рука,
Ты з сярпом махайся!
Будзь ты, жыта, ядраным
І ўмалотным ўдайся…

Пад сярпом маім крывым
Хутка жыта гнецца,
Сноп за снопам у радок
Покладам кладзецца.

*Вількамір, 1912*

* * *

Не хачу забыцця я ў цудоўных чарах,
Каб не мець ніякіх думак ды клапотаў,
А сядзець бязмоўна у салодкіх марах,
Апоены макам ціхае дрымоты.

Не прашу забыцця на зямлі панурай,
Не прашу нямога, дзіўнага спакою,
А прашу я моцна і прашу я буры
Цёмнае, сібернай, страшнае ды злое,

Каб ад ветраў шумных ўкол зямля траслася,
Каб танула неба ў завірушных гулах,
Ад якіх маланка з громамі б лілася
Да зямлі дрымотнай, да зямлі нячулай.

Не прашу спакою, не прашу забыцця, —
Бо жыццё заўсёды ў цішы замірае —
А прашу я буры, бо ад буры жыцце
З сілаю магутнай біцца пачынае.

*Вількамір, 1911*

## ПЕСНЯ ГРАБАРА

Я ўсё жыцце сваё, дзень у дзень, год у год
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот;
Век пад сонцам й дажджом гну пакутную спіну,
Раскідаючы глыбамі торпу і гліну,
Ліпкі глей, бы смалу, ды рассыпчаты жвір;
Я праводжу канавы удоўжкі і ўшыр,
Нібы стужкамі землю абвязваю ўкруг.
Я дарогу гранічу, гранічу і луг,
І спускаю з балотаў я лішнюю воду,
Ды рэжу раўкі для платоў агароду.

Так ўсё жыцце свае варушуся ў зямлі,
Хоць пад сонцам жыву, а калі-нікалі
Толькі бачу я вокам адкрытым яго.
Хоць не змераць наўкола прастору ўсяго
Неаглядных палёў, неаглядных лугоў, —
А кармлюся красою я іх дзеля сноў,
І у мёртвым сваім, незварушаным сну
Бачу шчасця свайго ў надыходзе вясну.

Я ўсё жыцце сваё, дзень у дзень, год у год,
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І так многа, я многа яе накапаў!
Направодзіў шырокіх і доўгіх канаў
І прарэзаў я цэлыя мілі равоў:
Шмат, ой шмат я са свету балотаў так звёў,
І багата вады праз равы прапусціў,
А ў ваду тую шмат я крыві свае ўліў
Ды з гарачым сваім яе потам змяшаў,
Пад вадою ж на дне сваё гора хаваў.

Я ўсё жыцце сваё, дзень у дзень, год у год,
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот.
Натачыўшы абклад я лапаты свае,
Вечна долі шчаслівай шукаю сабе.
У халоднай нячулай зямлі,
Можа, хто захаваў яе, матку, калі
І дагэтуль яна без рухання ляжыць,
А зямля не пускае яе к людзям жыць.
Вось яе тут шукаю цяпер,
І як толькі знайду, пракапаю ёй дзвер,

Нарасхлест перад ёю, слугой адчыню,
Хай нясе яна свету ўсю радасць сваю.

Я ўсё жыцце сваё, дзень у дзень, год у год,
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І як многа ужо я яе накапаў!
Што ж за працу сваю я ў адплату дастаў?
Што за плён мне зямля за труды прынясла,
За той пот і за кроў, што сабе узяла,
За бурлівую рэчку гарачых тых слёз,
Што ўсё жыцце маё паабмыў імі лёс?..
О, дала яна мне, ой за працу дала;
З калючковых раслін мне вяночак спляла,
З медзі звонкай, цяжкой даравала шнурок,
А дарогу жыцця ухарошыла ў мрок,
Каб я шоў, як сляпы, каб бясконца я йшоў,
Землю вечна капаў і дабра не знайшоў.

*Магілёў, 1911*

## Я ЖЫВУ

Я жыву ў квятох валошкі,
У спелым жыце між дарожкі,
У пшаніцы спалавелай,
У грэчцы пахкай, ў грэчцы белай.
Я жыву ў рэчцы, ў яе мкненні,
Ў лісцяў вербных шалясценні,
У вятрыску ціхавейным.

Я жыву у ясных зорах,
Ў неаглядных тых прасторах,
Што павіслі парасонам
Над квітучаю зямлёю,
Нібы сходзячыся з ёю.

Я жыву у ясным сонцы,
У яго праменнай каронцы,
Ў яго сіле незмяранай;
У вясёлцы, ў зордарожжы,
У іх нязмераным разложжы.

Я жыву у шчабятанні
Пташак рэзвых цёплым раннем,
Ў шумным боры, ў калыханні,
Дрэў стагодніх ў стройным гудзе.

Жыву ў кожнай з’яве-цудзе,
Непрыкметным і бягучым,
Жыццятворчае прыроды, —
Бо я сын яе свабоды,
Зоркабліснай і магучай!

*Капыль, I/IX-1912*

## ДА НАДЗЕІ

Не пакінь ты, надзея, мяне,
На адну не пакінь ты хвіліну,
Дай глыбокаю募 вераю мне
У васкросшую верыць краіну.

Напаі маю душу віном
Нестрыманай яскравай свабоды
І кажы мне галосна аб том,
Што заззяе яна для народа,

Які сілай панурлівых дней
З непрыветнаю доляй звянчаны…
Пей жа песні, надзея, мне, пей
Аб васкросшай краіне каханай!

*Капыль, 1912*

## ПЕСНІ ГРАБАРА

### I

Ах, як стрэлка марудна ідзе,
Бы знарок хоча час працягнуць!
І не ведае болю грудзей,
Што дзяннога канца яны ждуць.

Нібы нехта трымае яе:
А ні ўперад, ні ўзад не спяшыць!
А так хочацца-хочацца мне
Ўжо работу сваю супыніць!
Цэлы дзень я за брудным сталом,
Цэлы дзень скуру цвёрдую скроб,
Стаючы укапаным калом,
Я задухай атрутнаю соп.
Не глядзеў і не бачыў нічуць,
Што там ёсць на дварэ, за акном:
Ці там ветры халодныя дзьмуць,
Ці зямля апавіта цяплом.
Навакола чатыры сцяны,
А на іх запляснелая столь,
У сабе захавалі яны
Маю крыўду, жаданне і боль.
Вось і вечар… цяпер я на міг —
На адзін — сабе волю найду,
Кіну-рыну усё і усіх
Ды у поле я к лесу пайду.
Там срэдзь галу зялёных лугоў
Я адкрыю збалелую грудзь,
І мне з пахам прынадным квятоў
Ветры цёплыя ўцехай падзьмуць.
Яны прагную душу маю
Ўпояць воляй шырокіх палёў,
Упрыгожаць пакутную ўсю
Цеплатою пахучай сваёй.
А як сілы — жывіцелькі той
Набяруся даволі ў палёх,
Мне лягчэй стане ў працы цяжкой
У майстэрні, ў сцянах чатырох.

*Вількамір, 1912*

II

Сагнуўшыся, я ля варстата стаю —
Скуру весь дзень без спачынку я гну,
Я скуру ўсё гну,
Нядолю кляну —
І песню пяю.

Дзёгаць і лой мае рукі раз'елі,
Шчокі ў гразі ды смуродзе счарнелі,
Ружа завяла,
Шчасце прапала, —
Скура забрала…
Там, за акном, ціха неба сінее,
Сонца там дзіўна і свеціць і грэе,
Я ж у спякоце,
Ў гразі і ў поце, —
Я на рабоце…
Цягнуцца к лесу чароўныя далі;
Мураўкай, поплавам землю заслалі
Як дыванам;
Там ноччу і днём
Вяселле кругом…
А я адарваны ад гэтай красы,
Запёрты нядоляй ў чатыры сцяны
З сабачкай, з нажом
І ноччу, і днём
Стаю за сталом…

*Вількамір, 1912*

IV

Я рабочы-гарбар,
Рыцар працы цяжкой,
Я з жалезнай душой,
З сэрцам палкім, як жар.
Ў вачох іскры маіх,
А жалеза ў руках,
Скура гнецца ад іх
Ў адзін міг, ў адзін мах.
Ці задушша ці чад —
Ўсё на сэрцы маім,
Але ўстрашыці нат
Не здалее нічым.
Кроўю цёплай сваей
Абліваю тавар,
А слязою з вачэй,
Што сплывае праз твар,

Харашу я яго,
Дзеля густу людзям…
Не, жыцця я свайго
Для другіх не аддам.
Я здружыўся з трудом,
Я ў ём рос, я ў ём крэп;
Люблю мець за сталом
Запрацованы хлеб.
Не хачу, не прывык
Склаўшы рукі хадзіць:
Я гарбар — працаўнік,
Я жыву — каб рабіць.
Маю сілу і гарт —
Імі грудзі гарацъ…
Ды што ў гэтым я варт,
Што магу працаваць,
Не гатовае браць?

*Вількамір, 1912*

## Я ДАЛЁКА…

Я далёка цяпер ад цябе,
Я далёка, далёка — ў чужыне;
І так сэрца няшчаснае стыне,
Што далёка цяпер ад цябе!

Я няведамай сіле падданы,
Ля таго неразлучны з табой,
І жыву я табою душой,
Ўсё няведамай сіле падданы.

Нібы ветрык паважна шуміць
І на волю з сабой завабляе…
Вобраз твой прада мной вырастае
І гавора, як ветрык шуміць.

А хоць сэрца пытае падчас:
Ці не кіне той ветрык шумеці,
Ці захочаш мяне мілым меці,
Верна сэрца пытае падчас, —

Я стараюся думаць адно,
Што няведамай сіле падданы:
Мы з табою навекі звянчаны…
Я стараюся думаць адно.

*1912*

* * *

Мець бы жыццё бессмяротнае мне,
Мець бы вечныя свежыя сілы;
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай!

На кускі, на крупінкі, як пыл,
З кожным днём я б па ёй разлятаўся
І часціны нязмераных сіл
Ў кожным месцы даваць бы стараўся.

А дзе трэба было б заплаціць
Дзеля шчасця народа сабою,
Я хутчэй пастараўся б там быць
І сваёй адкупіцца душою…

І так з году ў год, да тых дзён,
Па кусочку б ў ахвяру я клаўся,
Пакуль цяжкае долі праклён
З стараною маёю расстаўся.

Каб жыццё бессмяротнае мець,
Каб мне вечную свежую сілу,
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай!

*1912*

## З ЧУЖЫНЫ

Без цябе, мой родны край,
На чужой старонцы
Нудна, жудасна мне жыць,
Нудна так бясконца!

Сонца быццам не блішчыць,
Зоры не міргаюць,
Ветры буйныя ўсё дзьмуць,
Песень не спяваюць.

Многа бачу тут людзей
І жыву між імі,
Ды назваць іх не магу
Я людзьмі сваімі:

Ані песні той жывой,
Мілай і зычлівай,
Роднай сэрцу і душы,
Долі нешчаслівай;

Ані мовы я сваёй
Роднае не чую, —
Усё чужое ля мяне
Круг-кругом пануе…

Ой ты, краю родны мой,
Я цябе пакінуў
І, расстаўшыся з табой,
Ўсё ж такі не згінуў.

Не забыцца мне цябе, —
Я жыву табою, —
Бо аддany я табе
Целам і душою.

На мінутку на адну
Я не забываю
Той абраз твой дарагі,
Родны ты мой краю!

Прада мною ты стаіш,
Як жывы, каханы,
Полем, нівамі, вадой
Ўсюды разубраны.

Вось шарэюць між гаёў
І ўзгоркаў вёскі,
Ўюцца змейкамі між іх
Вузкія дарожкі.

Чутна песня тут і там —
        То начлег у полі;
А там песня злой бяды
        І ліхой нядолі.

Мілы краю, родны мой!
        Жду я, не даждуся
Таго часу, калі зноў
        Я к табе вярнуся;

Калі буду я магчы
        Разам з табой жыці
І за шчасце за тваё
        Жыцце палажыці!..

*1912*

## ЛІХТАРШЧЫК

Адвячорак. Змрок рассеўся,
Згасла полымя зары.
Гэй, ліхтаршчык, дзе ты дзеўся?
Йдзі запальваць ліхтары.

Не прывыклі да цямноты,
Мы не можам з ёю жыць:
Цень нагоньвае дрымоту,
Цень з пуціны можа збіць.

Цемры рада ўсё ліхое:
Совы, ведзьмы, кажаны.
Нам святло давай святое,
Каб не цешыліся яны.

Хай вакола разліецца
Яго промень па кутках,
Й змрок цягучы расплывецца
У яскраблішчучых лугох.

Рэзвей сэрца тады будзе
Пры святле у грудзях біць.
Гэй, ліхтаршчык! Знаюць людзі —
Ў цьме ці святле лепей жыць.

Дык хутчэй бяры драбіны,
Кнот з кудзелі насмалі
І а шарай ты гадзіне
Ліхтары вакол палі.

*Вількамір, 1912*

## МАЯ СТЫХІЯ

Ў буры, ў навальніцы,
Ў громе, ў бліскавіцы,
У сіберным гуле
Ветранае сілы,
Ў хваляванні мора,
Ў калыханні бора —
Многае мне міла,
Многае мне блізка.
    Ўсё вакол трасецца,
    Ўсё кудысь нясецца,
    Ломіць і знішчае
    Вокал перашкоды.
    І няма ні звання
    Сілам тым стрымання,
    Як яны гуляюць,
    Як яны бушуюць…
Хочацца пусціцца
З імі мне й пазбыцца,
Што я чую, бачу,
Ведаю і знаю.
І ламаць паломам
З ветрам, з бурай, з громам
Ўсю бяду людскую,
Што ў жыцці пануе
З краю і да краю…

*Вількамір, 1912*

## МНОГА СІЛ МАЛАДЫХ

Многа сіл маладых
У грудзях у маіх,
Як прастору у полі.

Няма рады адно
Адчыніць ім акно
І даць поўную волю!

Я б тады ў адзін міг
Дабыў шчасце для ўсіх
І дабыў бы ўсім долю…

*1913*

## КАПЫЛЬ

Капыль, Капыль! Маё мястэчка,
Вялікай Міншчыны куток!
Мне міла ўсё тваё: і рэчка,
І хаты, нівы і гаёк…
Вакол яго снуе далінай
Шнурок вясёлы раўчука,
Якога нам, бы матка сына,
Спакон вякоў дала рака,
Што там магутна воду гнала
І чоўны рэзвыя нясла,
Бурлівай хваляй ўзгорак рвала
І крыгай мост стары трасла…
А далей — вокал роўна нівы
Свае шнуркі к гаям вядуць,
Што цёплым летам людзям жніва
За працу цяжкую даюць.
На нівах густа разляглíся
Астаткі шведскае вайны,
Што ў час вяковы не звяліся
Ў траве зялёнай курганы.
Пад іх грамадаю маўклíва
Ваякаў слаўных косці спяць,
Пайшоўшых смела ў час прызыву
Свой родны край абараняць.

Між тых курганаў, на адгону,
Высокі замак з цьмі вякоў
Ўстае, як сведка ўлады і закону
Старых часоў, сваіх князёў.
Калі ж паглядам далей кінем
Туды, дзе ніў канец ляжыць, —
Хваёвы бор, як вострым клінам,
Сцяной зялёнаю стаіць.
Старыя хаткі сумна зніклі
З зялёным мохам на страсе,
І спяць-маўчаць, нібы прыціхлі,
Як заварожаны ўсе…

*

…Люблю людзей тваіх схудзелых,
Іх сумны, змучаны пагляд,
З саломы новай жоўта-белай
Стрэхі убогіх нізкіх хат.
Працягі пыльных вуліц летам
І зелень рутную садоў;
Зімою ж пекна разадзеты
Наслоем выпаўшых снягоў…
Усё, усё люблю, як толькі
Хто можа так калі любіць!
І точаць сэрца маё болькі,
Што людзям цяжка яго жыць,
Што лёс сібірны на працягу
Сямі з паловаю вякоў
Прыбіў у ім да шчасця цягу,
Зняволіў гордых жыхароў…
А ўсё ж сярод той цёмнай ночы
Яго маркотнага жыцця
Праменне яснае бліскоча
І родзіць хвалі пачуцця.

*

Чакай і вер ў настанне лета,
Капылю роднага жыхар!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі ў зямлі ляжыць крыніца,
То кверху выб'ецца яна!
Дзе дух жывы не змог стушыцца —
Там смерці тупіцца каса.

*Пецярбург, II/IX-1914*

## ДАРАДЧЫКАМ

Вы ўсе кажаце мне,
Што маёй старане
Няма сэнсу сабе дабівацца
Лепшых шчасных дзянькоў
Для вялікіх збудоў,
Каб з краямі другімі зраўняцца;

Што мая старана
Ўжо не ўстане ад сна,
Які лёс на яе ўспеў накласці
І з якога не ўстаць
І не зможа паўстаць
Да святлейшае долі, да шчасця…

О, чакайце,браты!
На размоў ваш пусты
Вам краіна ўсячутна адкажа,
Як на шчасце, на бой
Ўміг вялікай гурбой
Яна люд свой збуджоны знаража,

Паглядзіце тады,
Які ён малады,
Колькі сілы магутнае мае;
І што зробіць яна,
Абудзіўшысь ад сна,
Як яе воля-свет разгайдае.

Не, не верце сабе!
Нам не нікнуць ў журбе,
Гледзючы на свой край доўгаспаўшы.
Дык не думайце, не, —
Што ўжо ён не ўскрасне,
Што ён мёртвы й навекі прапаўшы,

Сон пануе не век, —
Старана й чалавек
Так жа сама не век спачываюць,
Надыходзе чарод,
Устае край, народ,
Як вясною палі ажываюць.

Вось вясну паражыць
Усім краям наляжыць
Пад няўхільным прыроды прымусам.
Адным збыўся ўжо час,
Цяпер чэрга да нас…
Надыходзе вясна к беларусам!

*1917*

## Я ЖЫВУ…

Я жыву таму, што маю
Веру моцную у тое,
Што загіне доля злая,
Чорнай сілаю якая
Землю вокал аблягае,
Бы жалезнаю рукою.

Я жыву таму, што сэрца
Спадзеў ясных не губляе,
Як улетку лісцяў дрэўцы,
І ў надзеях, бы праз дзверцы,
Наглядае спацар смерці,
Што нядолю скрозь знішчае.

Я жыву таму, што чую
Душой чулаю адроду,
Тую пору, хвілю тую,
Боганосную, святую,
Што нясе ў свет дарагую
Светазарную Свабоду.

Я жыву таму, што бачу
Панаванне лепшай долі,
Дзе не будзе хутка плачу,
За якую й я даў дачу,

Што адроду прыназначыў
На крывавым збройным полі
Ў барацьбе за шчасце й волю.

*1918*

## БЕЛАРУСКА

Як ідзе —
Шнур кладзе
Лёгкае хады.
        Роўны стан
        Увабран
        Стужкаю ўсягды.
Свежы жар
Крые твар —
Свеціцца пагляд.
        Валасы
        Ў дзве касы
        Спушчаны назад.
Паглядзіць —
Адарыць,
Сэрца ўскалыхне.
        Падысці
        Ў пачуцці
        Да яе кожны мкне.
У руках
Рэзвы мах,
Праца, як гульня.
        Ці з сярпом,
        Ці з цапом —
        Ўсё пяе яна.
Ні жуды,
Ні нуды
Ў песнях не чуваць.
        Сонца, квет,
        Цэлы свет
        Рада б абнімаць.
Кожын верць
Паглядзець —
Погін каласоў.

Сіла, рух,
Вольны дух
З поля ды лясоў.
Хто маляр
Яе чар,
Строю, пекнаты?
Край з вякоў
Ніў, лясоў
Беларусь — то ты!

*Капыль, 16/IV-1923*

## КАЛЯ БОРУ СОНЦА ХОДЗІЦЬ

Каля бору сонца ходзіць
На высокіх ценкіх дыбах,
Чарадою цені водзіць
Па кустох — густых сядзібах —
Даўгакосых,
Таўстаносых,
Цемнатварых,
Грозных, ярых
Лесуноў.
З-пад кустоў,
З тайных сховаў,
Вабам, зовам
На палянкі,
На гулянкі,
Насустрэчу светлай ночы
Духаў скрытных зазывае
І ў сляпыя цемні-вочы
Сітам промень рассявае.
Вузкіх шляхаў выгіб ломкі
Машастовай рунню ўбраны,
І шнуруюць скокам ёмкім
Німфы-ведзьмі, феі-панны —
На граніцу,
Да крыніцы,
На гулянне,
Як загляне
Маладзік;

Як з-пад пік
Стройных ёлак
Рысаў голак
Ў блутнай сетцы
Напляцецца
І ўбярэ ваду крыніцы.
Гэй, хавайся, сонца, з неба!
Дай жа ночы-маладзіцы
Адчыніць сваю бяседу!
Вось і месяц
З крэмню крэсіць —
Сыпле крэйду,
Меліць пэндзлем
Воду, бор.
Стада зор
Ў гала гоніць
І гамоніць
Шэптам лісцяў:
Гэй жа, выйсце
На гулянку, на вяселле!..
Бор змаўкае — не шапоча,
Ралкай жаднай не шавеліць, —
На крыніцу ўстраміў вочы.
Ў вербалозах, ў пухкім моху
Завіліся карагоды;
Вадзянік адставіў лёху
У крыніцы спадысподу.
Вір віруе
І шнуруе
Градкай лёгкай,
Лентай вохкай
Грэбень хваль.
Плецень-валь
Дымкай шарай
Туліць твары
Фей-русалак,
Што ў прагалак
Між кустамі над крыніцай
Распусцілі бросні-косы;
З хітрай мінаю глядзіцца
Ў іх лясун доўгавалосы.
Жаб капэла

Іх вяселіць
Мнагалікім
Хорам-крыкам
Певуноў,
Покуль зноў
З па-над бору
Кроўным морам
Пачне ўсходзіць
І заводзіць
Сонца спацыр жыццявейны,
Стаўшы ціха ўверх на дыбы…
І пражэцца крохкай ценню
Ўсё начовае — ў сядзібы.

*Капыль, 31/V-1924*

# СОКІ ЦАЛІНЫ

*Раман*

*Квадра I*

## БАЦЬКАВА ВОЛЯ

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

I

Ужо зусім звечарэла, калі Зося прывяла з пашы каня… На вуліцы было цемнавата, але жыццё і не думала заміраць: на прызбах там і сям сядзелі мужчыны і бабы, ведучы рэзвую гутарку, у якой часта прабіваўся вясёлы і бесклапотны смех, жарты і выгукі. Сярэдзінай вуліцы доўгім цугам пляліся з пашы худыя, дробныя і панурыя кароўкі; хутка мчаліся мізэрныя, тонкія, заморaныя свінні; збіўшыся гуртам і спалохана азіраючыся, падскаквалі галабокія стрыжаныя авечкі. Вуліца курэла ад пылу. Рык кароў, рохканне свіней і мэканне авечак і тут жа несціханы крык дзяцей, якія не лепш, як авечкі, таўкліся па вуліцы, запыленыя і мурзатыя, ганяючыся адно за другім — усё гэта яскрава сведчыла аб рэзвым, віруючым жыцці ў закінутым у глуш мястэчку Сілцах.

Завёўшы каня на прыгумень, Зося барзджэй забегла ў хату, каб перакусіць, вымерхаўшыся за дзень; і вось, толькі яна пераступіла парог, як раптоўна з хаты настрэчу ёй кінулася яе малодшая сястрычка, пілявая замурзаная Тэкля, і, падаючы ёй ліст, пралепятала:

— Вось табе, Зоська, ліст прынёс паштальён, яшчэ з самага ранку. Я хаваю яго, нават і маме не паказала.

Зося, нічога не кажучы, спрытна выхапіла ліст з рук сястрычкі і, забыўшыся нават пра яду, вярнулася назад у сенцы.

У сенцах яна скінула з сябе старую пашарпаную світку, парудзелыя шкарбаны і зблеклую шаліноўку, узяла на століку газніцу, якая заўсёды стаяла ў сенцах пад рукамі на ўсякі неспадзяваны выпадак, запаліла яе і, прысеўшы на ўслоне, далікатна і з нейкаю трывожлівай асцярогаю абадрала з самага беражку руды, прымяты канверцік, дастала адтуль скрэмзаную гранатавым атрамантам паперачку і пачала чытаць.

«Даражэнькая, любая Зоська, — гэтак пачыналася пісацца ў лісце, — кожны дзень… што я кажу… нават кожную гадзіну я імкнуся ў сваіх думках туды, да цябе, на кнею свайго роднага мястэчка Сілцоў… Твой мілы мне і бязмерна дарагі вобраз неадходна лунае перад мною — а дзе я ні павярнуся, а куды я ні азірнуся… Цэлымі днямі, карпеючы ў фабрыцы і чуючы несціханы шум і грукат машын, я ўспамінаю, як ты, разам з другімі сілцоўскімі дзяўчатамі, ездзіла на поле і з поля пасля ворыва ці баранавання, і заўсёды вясёлая ды жыццярадая, з гасцінна адкрытымі вачыма, з лёгкім маладзістым ружам на светлым пекным твары… Каханая Зоська!»

Зося адхілілася ад ліста, глыбока і зацяжна ўздыхнула, ап'яненая наляцелымі скульсьці радаснымі думкамі і настроямі, пачакала крыху ды падумала і здаволеная лісліваю, але і мілаю Рыгоравай (а ліст быў ад яе каханага Рыгора Нязвычнага) пахвальбою, злёгку ўсміхнулася і ўзялася чытаць далей:

«Я гэтак прагну дамоў, так ірвуся на радзіму, жадаю пабываць у Сілцах, што проста не ведаю, як дачакацца тэрміну, калі… Ведаеш, бок, Зося, гэта ж на чэрвень месяц я маю быць дома: мяне пускаюць на цэлых пяць тыдняў на пабыўку, у госці, і я… я ўбачуся з табою, даражэнькая Зоська…»

Прачытаўшы гэта, Зося весела завярцела галавою, прыжмурыла вочы і ўчуткі, не стрымаўшыся, праказала: «Ах, было б добра! Няўжо я ўсяго гэтага не сню? Ой, прыйдзі ты скарэй той чэрвень месяц».

Гук яе слоў данёсся ў хату, дзе знаходзілася Тэкля. Дзяўчынка, пачуўшы Зосіны словы, падбегла да дзвярэй, ушчыніла іх крыху і запытала:

— Чаго хочаш, Зоська? Ты мяне клічаш?

— Нічога не хачу… І цябе не клікала, — вырачылася Зося на сястрычку, не адварочваючыся ад ліста.

«…Так вось жа, — пісаў пад канец Рыгор, — чакай мяне напэўна, Зоська, на чэрвень месяц — я прыеду. Атым часам бывай здарова і шчаслівa. Жадаю табе ўсяго найлепшага ў тваім жыцці. Шчыра цябе вітаю і цалую. — Твой Рыгор».

Дачытаўшы да канца ліст, Зося вярнулася зноў да пачатку, паглядзела на першыя словы, пачакала з хвілінку і прынялася паўторна чытаць, ужо выгаварваючы многія словы ўчуткі. Чытаючы, яна запамятавала, што час быў позні, і жыццё на вуліцы пачало глухнуць; пра яду яна таксама забылася. Гэты ліст ад Рыгора, якога Зося чакала ўжо цэлы месяц, так зарадаваў яе, што, апроч ліста, ёй, здавалася, больш нічога не трэба было на свеце…

— Ах! — раптам прагукала Зося. — А тая ачамера, бадай, зноў скора прыпляцецца. Эх, як ён мне адвароцен, гэты Васіль, бач. Няма на яго ніякае пагібелі: не адчапіцца, ды годзі. І чаго ён, немач яго ведае, ушалопаў сюды швэндацца, чаго? Ні сораму, ні брыдкасці за сабою не чуе…

Але Зося не паспела дасягнуць да канца свае рассуды, як чыйсьці гоман на двары, якраз ля дзвярэй, перабіў яе. Зосі паказалася, што то няйначай як Васіль з яе бацькам гамоніць. Не хочучы спаткацца з імі ў сенцах, яна хутчэй схапіла са стала ліст, згарнула яго ў некалькі столак і схавала за пазухай, сама ж затушыла газніцу і ўскочыла ў хату.

— Зоська, га, Зоська, вунь Васіль да цябе ідзе; пераадзенься хаця, — стрэла на парозе Зосю Тэкля.

— А табе якое дзела! Яшчэ, бок, што. Не мела чаго рабіць. Шышка вельмі вялікая Васіль, — недавольна адказала Зося і занырпаліла ў мыцельніку, каб чаго знайсці перакусіць.

— Тэкля, ці не аставілі мне чаго-небудзь з'есці? — лісліва абярнулася яна да сястрыцы.

— Пачакай крыху, паспееш, вымерхалася вельмі; вось увойдуць у хату мама і будзем разам вячэраць.

— А дзе ж тая мама?

— На двары, вунь, зараз увойдуць.

Не чакаючы, аднак, пакуль увойдзе ў хату маці, Зося напала ў коўшыку на кусочак сала, адламала ячнага блінца і ўсмак пачала аплятаць.

Не больш як праз пяць хвілін у хату ўвайшлі: Зосін бацька, здаровы, чорны і смуглы, але яшчэ малажавы мужчына. З расчэсанымі на прадзел валасамі, ён быў адзеты ў чыстую крамную картовую жакетку, у гэткія ж самыя порткі, выпушчаныя праз халявы элегантных, лакіраваных ботаў, з густымі, як у гармоніку, складкамі, работы самага лепшага майстра ў Сілцах — Самуся Пыця. Рэзвы, з патайнаю хітрасцю ды пранырлівасцю, Мікола Прыдатны быў вядомы на ўсю воласць.

Услед за ім пераступіў парог Васіль Бераг, малады і моцны, але нехлюяваты, сутулы і касы, з лёгкім рабаціннем на белым

пляскатым твары, хлапец, сын Янкі Берага, аднаго з сілцоўскіх багацеяў, памёршага некалькі гадоў назад ад тыфу і пакінуўшага свайму адзінаму сыну багатую спадчыну. У канцы за імі ўвайшла Марта, маці Зосі, трывалая, карчукаватая, але рухавая і вёрткая кабета, гадоў так пад трыццаць пяць — сорак, з поўным чырвоным тварам і з непамерна пукатымі грудзьмі ды шырокім крыжам; нібы заведзеная машына, яна бесперастанку лепятала, усчаўшы яшчэ з надворку. Сваім лепетам Марта ажывіла хату.

— Няхай бы ты хаця троху пададзелася. Эх, эх, неахайніца ты, як я бачу! — вырачылася яна на Зосю, убачыўшы яе ў тым адзенні, у якім тая пасвіла каня. — Вось жа не бачыш хіба, што ў цябе пад бокам хлапец, як золата: чысценькі, акуратненькі, ажно міла падзівіцца на яго, — паказваючы пальцам на Васіля, дабавіла Марта і пры гэтым жартоўна падмігнула яму пранazaватымі вачыма, ажно той не ўцярпеў і ўхмыльнуўся.

Гледзячы на яго, стала весела і Міколу, які, скора ўвайшоўшы ў хату, барзджэй хваціўся за люльку і перасыпку тутуню з пачка ў капшук.

— О, братан Васіль! — весела загаманіў Мікола, не вымаючы люлькі з зубоў. — Каб табе ды бог памог дастаць такую бабу, як мая Марта, ніколі б не загінуў бы… Салдат — не баба… Дачка — тая ўжо зусім інакшая, не тое.

— Вось годзі хаця балхвіць ліха ведае што, — незадаволена адсекла гаспадару Марта, — яшчэ хаця толькі каб наша Тэкля пайшла па Зосі, то я б нічагуткі не жадала б… А то…

— Та, ша, ша, ша! Я ж ніякай ганьбы на Зоську не ўскладаю, — струсіў Мікола, перацяўшы жонку на слове.

— Вось, будзе вам сварыцца, а то за мяне ды гатовы яшчэ за чубкі ўшпіліцца. Клопат вам вялікі аба мне; якая ўжо ёсць — такой і добра будзе, — упікнула бацькоў Зося, стоячы пры стале.

Васіль маўчаў: яму неяк ніякавата было слухаць чужую спрэчку, і ён, нібы не звяртаючы на яе ўвагі, паважна і самавіта праходзіў па хаце то ўперад, то ўзад, выводзячы сабе пад нос нейкую зацяжную няроўную мелодыю. Час ад часу ён падымаў к столі галаву, азіраў сцены, карціны, якімі быў убраны ўвесь покуць і дзве сцяны, ад траму адна і да першай бэлькі — другая, дваровая. З столі ён апускаў вочы кнізу і пазіраў на стол, а адтуль — на твар Зосі, — малады, свежы і жыццярады. Яму, Васілю, вельмі хацелася сёння перакінуцца з Зосяю хоць некалькімі словамі, выказаць імі тыя думкі, якія ён бярог для гэтага ўжо многа часу і ўсё не меў выпадку, а то і не асмельваўся іх выказаць. Любячы Мікалаішку (так празывалі Зосю ў Сілцах) моцна і горача, як можа толькі любіць чалавек з яго розумам,

з яго палажэннем, Васіль мучыўся ўвесь час адным: яму ўсё думалася, што Зося яго зусім не кахае, а калі зрэдку і сустракаецца, а стрэўшыся, перакінецца некалькімі словамі ці пройдзе крыху, то гэта ўсё так сабе, па далікатнасці толькі; сэрца ж яе ляжыць зусім к другому: к таму, як відаць, «гарадскому жуліку і арыштанту» Рыгору Нязвычнаму. Ён ужо ад многіх чуў, што Зося з ім абменьваецца лістамі, што заўсёды забегвае да Стэпы, яго мацеры, каб праведаць аб ім; ды нават заўсёды, апроч гэтага, і з ім, Васілём, у гутарцы яна нізвання не саромеецца ўспамінаць яго самага большага ворага. І гэта ўсё так прыкрыла Васілю, так мучыла яго, што ён не ведаў, якімі б лекамі збавіцца ад гэтай хваробы…

«Ах, ах, — пачасту раздумваў ён, — хай бы яго там якая немач прыдушыла, каб ён не мог ужо вярнуцца сюды і чмуціць болей Зосю… Або… не… каб як, здаецца, яе бацькоў падбухторыць, то яны б яе скора аднадзілі б ад яго… Толькі, апроч усяго, дзівуе мяне адно: і што гэта за дурасць найшла на дзяўчыну? Хіба ж яна нічагуткі не разумее і не бачыць той велізарнай розніцы, якая ляжыць паміж мною і тым галяком, збегляцом тым?.. Але — нічога: бацькі яе хітрыя і, як бачу, бацька крута схілены к таму, каб яна іначай думала».

І цяпер, тупаючы па хаце, ён соты раз перадумваў блытаныя, неразгаданыя свае думкі… Нешта нашэптвала яму, каб ён асмеліўся і пазваў Зосю выйсці на вуліцу, прысесці дзе на прызбе ўдваіх і расказаць ёй усё тое, што сабралася ў яго на душы, вылажыць усе свае тайны; але нейкая нясмеласць, нейкая цёмная, дзіцячая баязлівасць стаялі папярок і нахабна стрымлівалі яго рашэнні, прасцерагалі ад лішняга давер'я да Зосі.

І няведама, чымсь бы і як усё гэта скончылася: пазваў бы ён Зосю сам ці яна б мо намякнула яму сама, а мо і ні ён, ні яна не абазваліся б словам, і з яшчэ большаю пустэчай у душы прыйшлося б Васілю моўчкі пакінуць хату Прыдатных, каб — як на тое ішлося — не Марта, каторая трапна ўсё вывела на новую дарогу.

— Зося, га, Зося! — абярнулася яна к дачцэ. — Вось на, бяры, скарэй павячэрайма ды выйдзі сабе крыху на вуліцу пагуляй; толькі адно, дачушка, не баўся, а то заўтра зрання трэ будзе ехаць пазябліць у Лагорах ганоў з чацвёра папару…

— Ды не рупся ўжо так аб папары: я і сам здужаю зрабіць гэта, — умяшаўся Мікола.

— А ў вас хіба яшчэ не пазяблены папар? — не то здзіўлена, не то са скрытаю ўсмешкаю праказаў Васіль. — А я паспеў ужо ўсё скончыць; цяпер толькі скарэй бы тая касьба падыходзіла…

— Ну, ты, вядома, як рупны ды старанны гаспадар, ды яшчэ прытым малады і здаровы хлапец, а мы… што нам раўняцца, — з гэткаю самаю думкаю адказаў Мікола, і ўпічліва-калючая ўхмылка зрабіла плыценькую маршчынку на яго гладкім пукатым ілбе.

Зося таксама спатайку ўхмыльнулася і, каб Васіль не прыкмеціў гэтага, апусціла галаву к зямлі, быццам чагось шукаючы, потым барзджэй адбеглася ад стала і кінулася к вулічнаму акну.

— Вунь дзяўчаты ўжо гуляюць у Прахора на прызбе, — праказала яна, угледзеўшы, што на суседняй прызбе сышлася зборня, — дайце-такі хутчэй вячэраць ды выйду крыху пагуляю, — абярнулася яна да мацеры.

— Ну, добра, ну, усядайцеся за стол, я даю, вось.

Доўга не чакаючы, Мікола памыў рукі і палез на покуць; ля яго, з правае рукі, як і заўсёды, уселася Зося, па другую ж руку — маленькая Тэкля.

Васіль незмігутна сачыў за кожным паваротам Зосі і сядзеў як, на шылах, дрэнчучы, каб хаця ўся гэта цырымонія з вячэраю скарэй скончылася. Але выходзіла супроць яго чакання; Марта, вясёлая і рэзвая, быццам найшло на яе нейкае натхненне, хутка выбегла ў сені і праз хвілю вярнулася ў хату з бутэлькаю гарэлкі, густа закрашанаю вішнёвым узварам свайго гатунку; потым спрытна зняла з гратаўкі дзве фарфуровыя талеркі і на адну з іх палажыла тоўстых кускоў удалага жоўтага сыру, а на другую — нарэзанай мернымі крыжэнікамі каўбасы, і ўсё гэта паспешна прынесла і паставіла на стол, засланы прыгожым квяцістым абрусом.

— Ну, Васіль, проша з намі за стол, — абярнулася яна да Васіля, які зразу, толькі скмеціў у Марціных руках гарэлку, перамяніў настрой і чакаў нечага цікавага для сябе. І калі Марта яго запрасіла за стол, ён стаў далікатна аднеквацца:

— Не, не, цётачка, дзякую вам, дужа дзякую за вашу просьбу; я толечкі што ад вячэры; не хачу, не, нізвання не хачу.

Марта, перш вырачыўшы вочы, паглядзела на яго, потым непрыкметна падмаргнула Міколу.

— Ды годзі табе аднеквацца, — прагудзеў той да Васіля, — калі тое трапляецца: гады ў рады; вось дзіўны які. Такі-та ж ты гэткі блізкі наш сусед ды яшчэ ўздумаў саромецца. Садзіся вось, калі не пагарджаеш нашаю ласкаю. Га, Васіль?

— О, не, не, што вы кажаце, — упіраўся Васіль, але раптам пачаў мякчэць.

Падняўшыся з лавы, азірнуўся ён, каб дзе найсці месца для шапкі. Марта, заўважыўшы гэта, хутка падскочыла к яму, вырвала з рук шапку і кінула яе на ложак, сама ж хапіла Васіля за руку і пацягнула к сталу.

— Вось як хіба трэба з табою, вось як… Годзі табе аднеквацца, годзі, дзівача. Вось чаго добрага ды зяцем нашым станеш…

Васіль болей не спрачаўся, а з нейкаю надышоўшаю к яму смеласцю залез за стол і ўсеўся побач з Зосяю.

Выказаная к яму яе бацькамі гасціннасць і цёплая, сямейная ўвага тронулі яго за жывое, ажно зразу ён пачуў у сабе гардую вагкасць багатага і знатнага чалавека, з якім нездарма гэткія паважаныя ў Сілцах мяшчане, як Прыдатныя, лічацца і якога, відаць, шануюць.

«Калі так, то і ўся справа павінна пахіліцца ў мой бок», — мігнуліся ў Васілёвай галаве ружовыя думкі, і спатайку, наўскасяк, ён акінуў узрокам усю пору маўчаўшую Зосю, якая паказалася яму такою ўдалаю і прыгожаю, што міжвольна садрыгнулася ўся яго істота і нейкі апойны халадок пацягнуў па ёй.

«Няўжо я сумею дачакацца таго, што Зося, нарэшце, кіне гэтага галяка?» — падумаў ён ды зноў паглядзеў на Зосін твар.

У яго нутры забурліла прагнае хаценне, але хмурная міна Зосі атручвала яго сэрца, і ён моцна злаваў.

— Ну, будзь здароў, Васіль! — наліўшы кілішак гарэлкі і падняўшы яго высока ў руцэ, паабяцаў к Васілю Мікола.

— Дзякую; піце на здароўе! — шчыра адказаў Васіль, не аднімаючы вачэй ад Зосі.

Мікола спрытна перакінуў кілішак у шырока адчынены рот, наліў яго зноў і, падаючы Васілю, праказаў:

— Пі, нябожа! Дачакацца б таго, каб мне ў цябе на вяселлі выпіць…

— Дзякую, дзядзьку! — адказаў Васіль і выпіў.

— Мо і ты, Зоська, паспытаеш? — абярнуўся да дачкі Мікола.

— Ды не, я не хачу; адкасніцеся вы! — сярдзіта адказала Зося.

— Та чаго ты ўсё капрызішся? Чаго табе нестае ў нас? — сур’ёзна прагукала Марта.

— Гэта яна, мамачка, сёння ліст з пошты атрымала і мусібыць аб ім так заклапацілася! — рагочучы, весела пралепятала Тэкля.

Зося гнеўна паглядзела на сястрыцу.

Настрой усіх разам перайначыўся: Мікола з Мартаю здзіўлена пераглянуліся паміж сабою, потым акінулі ўзрокам дачку, якая раптоўна ўся так і загарэлася ад ускіпеўшай злосці на Тэклю…

Васіль ажно змяніўся на твары, які адбіваў сабою трывогу і вялікую, горкую крыўду.

— Ты і ўпраўду атрымала ліст, Зоська? — спусціўшы крыху часу, абярнулася Марта да дачкі.

— Ну, а калі і атрымала, дык што? — з нядобраю ўхмылкаю адказала Зося.

— Нічога, бач. Толькі скажы хаця ад каго? — хітра пацікавілася маці.

— Ды пакінь распытвацца; гэта зусім не наша дзела, — перабіў жонку Мікола, — вось лепей давай болей гарэлкі, — дабавіў ён і выпіў зноў кілішак; затым паднёс Васілю, які на гэты раз рашуча адказаўся. Ён дагадаўся, што Зося ліст атрымала няйначай як ад Рыгора, і гэта яго кінула ў роспач.

— Та бярэце хаця закусвайце, — упрашвала Марта. Але Васілю і яда не лезла ў горла.

Затое сваіх прасіць не трэба было: яны ўплёталі пастаўленае на стале і хутка апаражнілі абедзве талеркі.

Марта паспяшыла папоўніць закуску смятанаю з блінцамі.

— Вось, закусіце яшчэ! — папрасіла яна.

Але, апроч Зосі, ні таго, ні другога ўжо ніхто і не паспытаў.

Вылезшы з-за стала, Васіль падзякаваў за выказаную яму гасціннасць і пацалаваўся з гаспадарамі дома.

— Ужо бадай што к поўначы блізка, — праказаў ён з намёкам на патрэбу пайсці з хаты.

— А ты, нябось, ведзьмы баішся, — пасмяялася Марта.

— Не тое, што ведзьмы баюся, толькі… запозна…

— Ды нічога, паспееш яшчэ, — разуважыў Мікола: — можна яшчэ з гадзіну якую пасядзець.

— Ой, што вы!

Васіль павярнуў да дзвярэй. Зося пайшла правесці.

— Не забывай нас, Васілька! — паслалі ўслед яму ў адзін голас Мікола з Мартаю.

— Ды не, не; чаго ж.

У сенцах Васіль спыніўся і нясмела запытаў:

— Зося, га Зося, а можа, мы выйдзем крыху на вуліцу?

Зося нічога не адказала.

— Выйдзем, га? — перапытаў Васіль.

— Нешта няма ахвоты — спаць хочацца, — схлусіла Зося.

— Спаць? спаць!.. няўжо ты не вытрымаеш і гадзінкі лішняе? — папракнуў Васіль.

— Няўжо ты не верыш!

— Вядома, што не веру, бо ты ўзнарок са мною ні гуляць, ні гаварыць не хочаш. Ты думаеш, я нічога не ведаю! Я ўсё ведаю: вось і сённі — атрымала ліст ад Рыгора, дык на мяне і не дзівішся. Але, няхай! — ціхім і поўным абурэння голасам дабавіў ён.

— Ну, а калі так… а калі атрымала ліст ад Рыгора, то што мне за гэта будзе? — задзірна адказала Зося.

— Ды нічога, што ж я пры гэтым толькі, — змякчэў Васіль і ласкава паглядзеў на Зосю. — Дык, мажа, мне зусім не хадзіць да вас, Зося?

— Я не ведаю. Нічога я не ведаю. Дзела тваё.

— Скажы мне, га?

— Што табе сказаць?

— Няўжо ты мяне нізвання не цэніш?

Зося маўчала. І тая ціша, што ўмомант запанавала ля іх, такой прыкрай, такой адваротнай паказалася Васілю, што ён увесь ажно здрыгнуўся ад нейкага непрыемнага пачуцця, сціснуў крэпка зубы і скрывіў нездавольную міну. На яго вачах міжвольна выблíснулі слёзы і зацьмілі празрыстасць узроку. Ці ісці дахаты, ці стаяць далей і чакаць адказу — Васіль не ведаў.

Гадаючы над гэтым, ён прастаяў моўчкі яшчэ некалькі хвілін, потым, бачачы, што яму нічога ад Зосі не дачакацца, выйшаў з сянец.

— Та бывай здарова! — вымавіў Васіль, думаючы гэтым тронуць Зосю.

— Бывай здароў! — суха адказала яна.

Васілю стала млосна, і, поўны гнеўнай гордасці, ён адсек:

— Дабранач, калі так! — і пайшоў.

Зося зачыніла дзверы, запёрла іх на закрутку і вярнулася ў хату.

Бацькі і Тэкля ўжо былі ў пасцелі, але яшчэ на стале свірэла ўверчаная ў самую машынку лямпа.

Зося падышла да стала, выкруціла ў лямпе агонь, прысела на ўслоне і, дастаўшы Рыгораў ліст, разгарнула яго, найшла і прачытала ў ім тое месца, дзе Рыгор пісаў, што к чэрвеню прыедзе дадому; потым зноў дасціпненька захавала яго за пазуху. Пасля затушыла лямпу, а сама падышла к акну, прыадчыніла яго і пачала цешыцца ноччу.

На вуліцы было ціха: гуляўшыя дзяўчаты разышліся. Стаяла цёплая, ясная і ціхая ноч: не чуваць было жаднага шуму, ніякага стуку, ні нават сабачага брэху. Усё — мэрам зачараванае нейкаю таемнаю сілаю, нерухома, бязмоўна, нібы мёртвае — прытаіўшыся, маўчала. Ад хат і дзярэў з левага боку цягнуліся цераз

вуліцу рагатыя, вострыя і тупыя, доўгія і кароткія, страшныя і смешныя цені; пахла свежаю зеленню, адправаючаю зямлёй і расквітшым бэзам.

«Так, дык, значыць, ён прыедзе! Прыедзе, значыць, у чэрвені Рыгор, — ігралі ў Зосінай галаве рэзвыя думкі: — а калі той чэрвень? Здаецца, ужо незадоўга... Чакай адно: я вырахую: тыдзень і тры... не... тыдзень і два... ды што я! У мінулы чацвер было дваццатае, а сёння нядзеля; значыць: ад дваццатага яшчэ дзесяць дзён, а ўжо тры дні мінула... Так, так — ужо за тыдзень... Ах, Рыгору мой даражэнькі. Як я цябе чакаю, як я прагну з табою ўбачыцца!»

Зося абедзвюма рукамі хапілася за грудзі, быццам стараючыся стрымаць у іх забурліўшае прагнае чуццё. Па яе чыстым і ружовым твары прабегла вострае хаценне; сінія, празрыстыя вочы яе зацягнула тонкаю смуглаю плевачкаю лёгкае слязлівае вільгаці. Зося салодка, утомна пацягнулася ўсім целам, здаровым і маладым, поўным кіпучага жыцця, і на момант-другі мэрам замёрла. Потым, крыху спусціўшы, разам ачнулася, шырока раскрыла вочы і акінула развітальным узрокам усё, што ляжала перад яе вачыма, ды адышла ад акна. «А трэба-такі лажыцца спаць», — рашыла яна, раздзеўшы верхнюю вопратку да апошняе сарочкі, і лягла ў ложак.

Палоса срэбнага святла расцягнулася ад акна да парога.

## II

Калі Васіль, сам не свой ад злосці і гневу на Зосю, выйшаў са двара Прыдатных і павярнуў дахаты, ужо ўсё спала і на мястэчку панавала поўная ціша. Апусціўшы да зямлі галаву, ацяжэлую ад непрыемных нагальна-рупных думак, якія радзілі ачамерны клопат, ён ціха, гультайна клыпаў вуліцаю. Уся прыгожасць майскай ночы, якая варажыла Зосю, здавалася, яго зусім не трывожыла сваім дзіўным хараством, не датыкалася яго пакрыўджанай душы. І папраўдзе: для чаго быў яму той, прышпілены к цёмнаму небу, белы, няцэлы шчэ, сярэбраны месяц, што плыў якраз над яго галавою між тысячы рэзвых, мірглівых зорак, большых і меншых, ярчэйшых і цямнейшых? Да чаго яму гэта цёмнае неба, аграмадным парасонам разгорненае над красуючай у зелені і квятох зямлёю? Нашто яму было ўсё гэта, калі Зося, тая самая Зося, на якой сходзіліся ўсе яго думкі, усё пачуццё, якая не давала яму спакою ні днём, ні ноччу, так сярдзіта, так непрыстойна абышлася з ім! Не дзіва, што перад ім паўстала

гардлівае надменнае пытанне: «Няўжо я такі самы чалавек, як і ўсе людзі, і нічуткі не важнейшы, нічуткі не ляпейшы за другіх — ну, хоць бы за гэтага самага галадранца, басяка Рыгора? І чаму гэта свет так збудованы, што людзі не могуць ацаніць мае вартасці?»

Васіль нездаволена ківаў галавою.

Ацяты клопатам, ён непрыкметна для сябе дайшоў у канец вуліцы і толькі пачаў спускацца з узгорка, ад якога мо за паўганоў — не болей — стаяла яго хата, яшчэ зусім новая, ашаляваная дошкамі, убраная ля акон, у шчытку і на капяжы пекнаю рэзьбаю і акрытая жоўтаю смалістаю гонтаю, — як раптам, зусім неспадзявана, спаткнуўся з Янкам Грыбам, каторы варочаўся дамоў, як потым Васіль даведаўся, правёўшы дахаты Дзёміну Мар'ю.

— А як маешся, Васіль? — жартоўна агукнуў ён Васіля. — Адкуль так позна клыпаеш?

Васіль ухмыльнуўся і мякка адказаў:

— Адтуль, куды ты ідзеш…

— Не можа быць.

— Я табе кажу.

Абодва весела рассмяяліся.

— У Зосі быў? — падказаў Янка.

— Такі і ўгадаў, — прызнаўся Васіль.

— Вось ці не лады такія-сякія ты прабаваў рабіць? — падпартаваў зноў Янка.

— Ты не смейся; так і думаў, толькі… заўсяголаў яны, — махнуўшы нядбайна рукою, адказаў Васіль.

— А чаму?

— А таму… гэта зараза, Зоська, бач, так уляпалася ў Рыгора, што ані рады; вунь лісты ад яго мае, ды што… Бацькі, ведаеш, — та яшчэ можна зладзіць з імі, а яна — губу хмыліць…

— А знаеш?

— Ну?

— Дурніца яшчэ: не разбірае нічога. А вось няхай толькі крыху пацешыцца тым голікам, тады зусім перайначыцца. Павер, — няйначай к табе вернецца, — пачакай адно… А тым часам ты падкочвай усё бліжай к яе бацькам, падгаварвай іх і… справа сама прыйдзе да жаданага канца… Вось успомніш мае словы… Не тужы толькі, не жалуйся.

Васілю таварышавы словы так спадабаліся, што раптам развесялілі яго, разагналі ўсе чорныя думкі.

— Ды я мала зусім і клапачуся, — цвёрда і рашуча адказаў ён Янку і прытупнуў нагою.

— А так і трэба, непрыменна так, — пахваліў Янка, палопаўшы злёгку Васіля па плячы. — Ну, бывай, пара дахаты, віднее…

— Та пастой яшчэ крыху, — папрасіў Васіль, пераняўшы Янкаву руку і пацiскаючы яе.

— Не, не магу. Дабранач! — развітаўся Янка і хутка схаваўся за вуглом Цішкавай хаты, якая шмат выпірала тыльнаю сцяною на вуліцу, дзе пачынаўся ўклон.

Васіль паглядзеў услед таварышу, пастаяў крыху і пачаў спускацца к рэчцы, цераз якую была паложана кладка якраз супроць вешніц у яго двары.

Калі Васіль падышоў к вешніцам, насустрач яму выбег яго любімы сабака Ніц. Весела і прыветна матаючы хвастом і галавою, радасна скавычучы, сабака пачаў церціся каля Васілёвых ног, нюхаць яго і лашчыцца. Васіль некалькі разоў пагладзіў яго па галаве, пахваліў за тое, што ён не спіць ноччу, а старанна і пільна сцеражэ хаты, потым, увайшоўшы ў сенцы, адламаў ад бохана кавал хлеба і пачаставаў ім Ніца. Сабака ўдзячна завіляў хвастом, хваціў у зубы хлеб і адбегся к плоту.

Васіль зачыніў сенцы, запёр іх на закрутку, раздзеўся ўпоцемку і ўлёгся спаць.

## III

Лажучыся, Зося зусім не хацела спаць і мо цэлую гадзіну варочалася на пасцелі: ёй перш рабілася горача, утомна і млосна, і яна здымала з сябе дыван, расшпільвала на ўсе гузікі сарочку і адгортвала голае цела, белае, як крэйда, і чыстае, як тая ж крэйда. У галаве снавалі цёмныя, нез’яснёныя думкі, у вачах лунали мары. Калі знятая апранаха не злегчвала душнаты і ўтомы, яна падымалася з пасцелі, падыходзіла к акну, прачыняла яго крыху і чакала, пакуль халадок не пройдзе целам.

Знадворку цягнула свежым, лёгкім і апойным паветрам. Зосі рабілася лёгка і прыемна…

Зося ўжо на золку адышла апошні раз ад акна і лягла з намерам, каб заснуць. Праўда, сон ужо яе пільнаваў, і толькі яна сцішылася, як разам апутаў яе сваімі моцнымі, апойнымі кайданамі. Зося смачна заснула і нават не агледзелася, як шпарка прамчалася ноч.

І вось, калі маці назаўтра раніцою стала яе будзіць, Зосі так не хацелася ўставаць, так цяжка было расставацца з пасцеллю, што, здавалася ёй, яна б немаведама што дала б за лішнюю хвілінку, за адзін квадранец, каб яе пусцілі паспаць. Але трэба было

прачынацца і ўставаць. Зося, пазяхнуўшы разоў пяць, салодка пацягнулася, потым швыдка саскочыла з пасцелі, памылася, адзелася і пачала збірацца ў поле.

Хоць было яшчэ зусім рана, але Міколы ўжо не было дома: ён раскатурхаўся з досвітку і задаўна да ўсходу сонца адправіўся ў Масткі карчаваць пасеку, каб паспець к восені прырыхтаваць яе пад жыта. Зосі самой прыйшлося збегаць на прыгумень па каня, прывясці яго на двор, запрагчы, прыгатовіцца і ехаць. Усё гэта ёй было знаёма і зусім няцяжка: старанна і спешна яна справілася з усім і адправілася ў поле.

Дарога, кудэю Зосі трэба было ехаць, выходзіла якраз з тае самае Сівулінскае вуліцы, на якой яна жыла і на каторай, ганоў на дзесяць ад хаты Прыдатных, туды пад поле, за горкай, стаяла Васілёва хата. Зосі не раз і не два ўжо траплялася праязджаць гэтай дарогай, і кожны раз, калі б яна ні ехала, як на прымху, яна спатыкалася з Васілём, каторы або стаяў ля сваіх вешніц, або глядзеў у акно і кожны раз — няйначай уздымаў першы гутарку і вымушаў Зосю адказваць на яго запытанні.

Зося чакала, што і на гэты раз ёй не абысціся без стрэчы з Васілём, які — напэўна падпільнуе яе, спыніць і пачне вязацца ў вочы з сваімі ачамернымі запытаннямі і надаедлівымі жартамі. А к гэтаму якраз учора так ніякавата выйшла, што пасля гэтага не толькі гаварыць, а і ўбачыцца неяк сорамна.

І Зося, пад'ехаўшы да Цішкавай хаты, дзе пачынаўся ўклон, злезла з воза і павяла каня зусім у другі бок, на вулачку, якая перасякала гароды мяшчан і служыла пагонам.

Гэта вулачка таксама выводзіла на палеткавы гасцінец, як і тая дарожка, што ішла між Васілёву хату, толькі ганоў са двое трэба было зрабіць лішніцы. Зося згадзілася на апошняе, абы толькі не наткнуцца сёння на Васіля.

Звёўшы каня з горкі, з-пад Цішкавай хаты, яна напаіла яго і пагнала трухам.

Жыццё ўжо ўсюды кіпела: на гародах бабы садзілі і палівалі расаду, некаторыя ўжо варочаліся з поля і няслі мяшкі, паўнюсенька набітыя травою. З выгану даносіўся рэзвы зык пастуховай трубы і чуўся дзесь на гуменнях адчаянны брэх сабак.

Пагода выдалася цёплаю і сонечнаю: чыстае і, здавалася, зусім невысокае неба, як дарагі блакітны дыван, абвісала над радаснаю красуючаю зямлёю. Ранняе чырвонае сонца моцна грэла, папіваючы праменнем выпаўшую ноччу серабрыстую крышталёвую расу.

Зося, хоць і несціхана падганяла каня, ехала няшпарка, і патрабавалася каля гадзіны часу, пакуль яна прыехала на месца ворыва, у Лагоры.

Прыехаўшы ж к сваёй палосе, яна нейкі час пастаяла ды палюбавалася вакольнымі вобразамі, перанеслася думкамі да Рыгора і, успомніўшы пра ліст, упусціла плуг у зямлю.

Каняка была ціхая, смірная і к пахаце прывычная: хоць малому дзіцяці дай, дык і тое справіцца з ёю. Вось і Зося так любіла свайго рахманага Гнедку, што наўрад ці магла б калі прывыкнуць да другой, каб гэта хто адняў яе.

— Но-о-о! Но-нно! — час ад часу выкрыквала Зося, павольна праводзячы роўную шырокую баразну.

Але яна выкрыквала не затым, каб хто, пачуўшы гэта, думаў, што Гнедка ленаваўся і капырсціўся ў плузе, ці ціха ішоў, ці рваўся ў бакі, робячы агрэхі. Не і не! Зосі проста не хацелася быць нямой, маўчлівай.

Гнедка няспынна клыпаў мерным, цвёрдым крокам, як тое і патрэбна, а Зося весела і задаволена ступала свежаю пахкаю каляінкаю, адчуваючы ў падошвах ног прыятны халадок і пакідаючы за сабою выразна адбітыя слядкі.

Цягнула свяжыстым вятрыскам, які злёгку абдаваў яе шчокі і трапаў распушчаныя косы, павылазіўшыя з-пад новай чысценькай хусцінкі і раскіданыя на плячах.

Правёўшы некалькі баразён, Зося спынялася, прысядала на мяжу і, прысеўшы, глядзела то на сонца, то на цень, які змярала, каб вылічыць, якая пара і колькі ўдалося ўзараць.

Па ўсім палетку, куды яна ні глядзела, відны былі людзі, якія то аралі, то баранавалі, то збіралі каменне па нівах. З усіх бакоў даносіліся вясёлыя напевы вясковых песень, а з Масціцкай пасекі чуўся стук сякер, гулкі гоман і покатны рогат карчоўнікаў. Зося прыслухвалася да ўсяго, ловячы кожны зык, кожнае трапятанне жыцця.

Дзень каратаўся за работаю скора і непрыкметна. Зося нават не паспела і агледзецца, як сонца апусцілася к гаю і косыя доўгія праменні пачырваніла бурачнаю хварбаю. Пацягнула лёгкім вільготным вятрыскам.

Не чакаючы, каб сонца закацілася за гай, Зося пакінула ганоў трое недавораных і паехала дахаты.

— Да чэрвеня яшчэ паспею даараць! — супакоіла яна сябе і занялася другімі думкамі.

## IV

З поля дамоў Зося таксама праехала абходнаю пагоннаю сценкаю, каб абмінуць Васілёву хату; але абмінуць-то яна хату абмінула, толькі ёй на гэты раз не ўдалося абмінуць Васіля. Праўда, сама стрэча з ім выпала зусім асаблівай, нават непахожай на стрэчу, ды Васіль, бадай, Зосі не прыкмеціў, расхадзіўшыся ў лаянцы. Тым не меней Зося пасля гэтага адвярнулася ад яго яшчэ больш.

Зося яшчэ пры выездзе з пагону пачула нейкі крык, падобны на сварку, а, уехаўшы ў вулачку, ёй з першага ўзроку кінулася ў вочы цэлая грамада людзей: баб, мужыкоў і дзяцей, якія таўпіліся ля студні, моцна гаманілі, рагаталі і выгуквалі. Пад’ехаўшы к грамадзе, Зося хутка спынілася і, злезшы з воза, пачала распытваць, у чым справа.

— Вой, вой, галубачка ты мая! — ахвотна паведала ёй Вася, спагадлівая і чэсная бабулька, якая за ўсе свае шэсцьдзесят гадоў жыцця ніколі нікому не зрабіла ні каліва крыўды.

— Каб ты ведала, Зосечка, каб ты ведала, котка мая, што тут дзеецца, што тут чаўпецца! Аяй, аяй, які грэх цяпер у свеце трымаецца, які…

— Дык што ж тут, што? — з вострай цікавасцю перабіла Зося.

— Ого што, ого! Гэта ж, каб ведала, галубка мая, вунь што выйшла: бач, Стэпа гэта, ну, Рыгора Нязвычнага маці, нясла, ведаеш, бярэмейка галяйка з пасекі; а гэты, во, ведаеш, Васіль Берагаў, стрэўшы яе ля студні, спыніў і давай лаяць: «Што ты, кажа, пакрала з мае пасекі галлё?» Тая бажыцца ды заклінацца: «Я, кажа, набрала ў казённым лесе». Але Бераг ёй не паверыў, адабраў галлё і яшчэ сіберна наштурхаў старую кабету. Бедная Стэпа раскрычалася, расплакалася, — вось і збеглася цэлая чарада людзей.

Зося не магла спакойна выслухаць: ёй зрабілася не то сорамна за Васіля як за знаёмага, не то злосна на яго: здавалася, каб не людзі, яна б падбегла б к яму і жорстка вылаяла б. Спярша Зося і намервалася гэта зрабіць, але праз момант нібы апомнілася, махнула нядбайна рукою і, не захацеўшы нават напаіць каня, аб’ехала людзей і схавалася за Цішкавай хатай.

Заехаўшы дадому, Зося хутка ўправілася з канём: распрагла, напаіла, завяла ў хлеў і падкінула ў яслі ахапак свежага дзяцельніку; сама ж увайшла ў сенцы, пераапранулася ў чысцейшую вопратку і барзджэй кінулася к ложку, каб крыху спачыць. Марта, убачыўшы гэта, падбегла к дачцэ і з трывогаю пачала

распытваць, што з ёю, чаму яна, нічога не кажучы, паспяшыла ў пасцель.

— Ды нічога, нічога, не пужайцеся вельмі гэтак, я так сабе прылягла; сон пачаў марыць — вось і задумала прыдрамнуць… На вячэру ўзбудзіце.

— А я думала, што ты, Зосечка, мо занядужала?.. Спачынь, спачынь, я разбуджу цябе вячэраць, — спагадліва праказала Марта, апрануўшы дачку новым стракаценькім дыванчыкам.

Зося сцішылася і хутка прыдрамнула. У сенях быў пограб, і ад гэтага было зімнавата; мух таксама ні адной, і спалася смачна і прыятна. Здавалася, яна праспала б цэлую пору, каб ніхто не трывожыў; толькі яе скора раскатурхалі і пазвалі вячэраць. Не хацелася, страх як не хацелася Зосі паднімацца з ложка ды ісці ў хату, але маці так нагальна прыкаснілася, што яна не магла як адмовіцца і мусіла паслухаць.

Калі Зося ўбегла ў хату, за сталом сядзела ўся сям'я. Бацька, толькі што вярнуўшыся з пасекі, падгарэўшы, увесь чорны ад пылу і поту, таксама быў здорава вымерхаўшыся і старанна, па поўніцы чэрпаў паважаную ім страву. Гледзячы на Зосю і бацьку, Тэкля старалася не астацца і ўганялася за ядою, следам за бацькам.

Павячэраўшы, Мікола вылез з-за стала і скарэй жа хваціўся за люльку. Марта пачала прыбіраць пасуду, а Зося кінулася ў акно.

— Як, хаця, ты там, Зоська, справілася з ворывам? — цмокаючы люльку, запытаў Мікола.

— Як, ці справілася? — перапытала Зося.

— Ды, бач, ці скончыла, ці яшчэ асталося крыху?

— А яшчэ, татка, крыху асталося, — не вылазячы з акна, адказала Зося.

— Але ганоў з шасцёра загарала?

— Э, болей. Ганоў з васьмёра.

— О, ты сённі малайчына… Апошняе скончыш на гэтым тыдні, і ў суботу, на дзяды, якраз можна будзе грэчку засеяць. Я думаю, яшчэ не будзе пазнавата.

— Ды яшчэ зусім не пазнавата, — аказалася з мыцельніку Марта, — яшчэ і людзі толькі што прыняліся сеяць. Цяпер тройца ранняя, зямля толькі што паспела адапрэцца.

— Ды яно ж такі і гэтак, — пахкаючы люльку, згадзіўся Мікола. — А каняку чаго-кольвек падкінула?

— А як жа ж, дала вялікі ахапак дзяцельніку, — скарамоўна адказала Зося і ветрам вылецела з хаты, не ўспеўшы нават прычыніць дзвярэй.

— Што яна за цікавасці ўбачыла там, што памчалася, як кручаная, — здзівілася Марта і таксама падышла к акну.

Стаўшы колінкамі на лаву, яна чуць не да паясніцы прасунулася ў акно і некалькі раз азірнулася ва ўсе бакі; потым спынілася вокам на маленькай грамадцы людзей, якія стаялі ля платоў Прахоравага агародчыка і пільна, уголас, размахваючы старанна рукамі, аб нечым гутарылі. Між іншымі кабетамі Марта ясна адлічыла Сымоніху, Саламею Янкаву і Нязвычнага Стэпу, Рыгораву мацеру: яны трое стаялі ў самым асяродку грамадкі і пільней усіх былі заняты гамонкаю. Марта бачыла, як Зося настойна праціснулася ў гурток і пачала лавіць кожнае слова Стэпы, якая скардзілася жанкам на Беражучка за яго непамерную нагласць і хцівасць. Да Марты даходзілі то цэлыя словы, то кусочкі іх, і яна, зацікавіўшыся, пачала пільна прыслухвацца к гамонцы, паварочваючы галаву ў той бок, скуль яна чулася.

— І ты нешта ўбачыла там цікавае, — папікнуў Мікола.

— Чакай троха, дай адно прыслухацца лепш, — махнуўшы прасаджанаю назад рукою, уняла Марта мужа.

Але ёй доўга слухаць не давялося: гурток жанок неяк раптоўна ўскалыхнуўся і пачаў раставаць, расходзячыся ва ўсе бакі вуліцы. Зося адлучылася ад усіх і бягом павярнула да сваёй хаты; яна паспела прыбегчы, калі Марта не завіхнулася яшчэ вылезці з акна.

— Што там трапілася такоўскае? — запытала яна дачку.

— Што? Нават і казаць брыдка; ліха ведае што. Вунь, гэты самы Васіль Бераг, ведаеце, угледзеўшы, што Стэпа нясе бярэмейка галяйка, спыніў яе ля студні, абламзаў і давай спавядаць, лаяць ды нават штурхаць. «Гэта, — кажа, — няйначай ты пакрала маё галлё, швалдыга ты няшчасная», ды ўзяў і адабраў дровы ад Стэпы; вось яна цяпер і скардзілася жанкам.

— А яно так і трэба, — злосна ўставіў Мікола, — хай гэта голь не вучыцца абкрадаць чужых пасек ды абрываць лугоў, гародаў і ніў.

Бацькавы словы Зосі зусім не спадабаліся, але яна нічога на іх не хацела адказваць, каб не ўразіць бацькі, а спакойна і маўчліва паднялася з месца, выйшла ў сенцы і пачала збірацца ка сну.

На дварэ ўжо цямнела; сонца схавалася за лесам, хоць яшчэ апошнія праменні яго пекна залацілі заходні край неба і гэтым не давалі змроку акурат зацьміць зямлю.

А мо дзеля таго яно і не хацела сходзіць з неба, што не ўсе яшчэ сільчане былі гатовы да адпачынку і на вуліцы чуўся кла-

патлівы гоман і крык. Але Зосі стала неяк не па сабе, нудна і ўтомна, пачаў марыць сон, і яна сёння раней, як заўсёды, рашыла не заседжвацца і нікуды не ісці.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Тыдзень мінуў так хутка, так непрыкметна, што Зося не ўспела і агледзецца, як чэрвень апынуўся перад парогам. У суботу зранку выехала яна з бацькам пасеяць грэчку.

Дзень выдаўся цёплы, ціхі і ясны, і сяўбу ім удалося скончыць да абеду.

Адсеяўшы грэчку, Мікола з дачкою паехалі дахаты, каб разам, усёй сям'ёю, паабедаць.

Паабедаўшы, доўга не загібаючы, ён адправіўся на пасеку, а Зося паехала скародзіць.

Паводзячы каня і сочачы за бараною, каб яна не скакала, а ішла роўна і добра, дробна разбівала груды, — Зося бесперастанна кідала ўзрокамі туды, у левы бок яравых палеткаў, пад Жмыгінскі лес, між якога ішоў Ліцкі гасцінец, убягаючы ў Сілцы з паўночнага боку.

Як і заўсёды, і ў гэту суботу на гасцінцы была звычайная суматоха, ажыўленне: то ў Сілцы, то з Сілцоў цягнуліся цугам дзясяткі фурманак з таварамі і парожныя, тарахцелі лёгкія каламажкі хвальваркоўцаў, што ехалі ў мястэчка па справах, зрэдку праносіліся памешчыцкія карэты, запрэжаныя ў тройкі або чацвёркі стаенных коней. Па дарозе курыліся слупы пылу.

Гледзячы на дарогу, Зося старалася ўгледзець — прыкмеціць белую буду балагола. Яна зусім забыла ці мо знарок не хацела верыць, што сёння ж субота і яўрэі святкуюць, а значыць і балагол, напэўна, не ездзіць. Але ёй хацелася думаць, што гэта не павінна служыць перашкодаю таму, каб хоць раз у год балагол праехаў і ў суботу. Яна не пакідала сачыць.

Прайшоўшы апошні раз бараною паўзмежжа, Зося не заўважыла, як скончыла скароджанне. Яна спынілася і праказала:

— А то ён і не прыедзе! Тады няўжо ды ён хлусіў?

І дзесьці глыбока ў яе нутры пачала варушыцца сумная думка, ад якой ёй рабілася млосна і адваротна. З вострай прагай чаканы чэрвень паказаўся ёй зусім не цікавым, зусім не забавным.

Вясёласць і жывасць, з якімі Зося выязджала зранку ў поле, змяніліся шэрымі, заўсёднымі вобразамі, — аднастайнасці, надаедлай будзённасцю.

Па дарозе дамоў Зося прыпомніла бацькава вяленне заехаць на пасеку па чатыры бярвенцы. Яны акуратна ляжалі ў кусціках, прыкрытыя галлём і ламаччам, каб ніхто не паспеў захваціць раней за яе.

Бацькі ўжо на пасецы не было: ён з гадзіну ўперад пайшоў дахаты.

Ускінуўшы на драбіны бярвенцы, Зося павярнула на прадольную сцежку, выехала на гасцінец і пагнала каня.

З усіх бакоў, куды яна ні глядзела, па кожнай сценцы, чуць не па кожнай мяжыне, то ішлі з сякерамі ды граблямі, то ехалі з баронамі, карчамі і плугамі сяляне. Стаяў грукат і стук, уздымаўся пыл. Кончыўся працоўны дзень, людзі са спакойным сэрцам ехалі дадому.

## II

Назаўтра, нядзеляю, Зося прачнулася куды пазней, чымсь прачыналася буднімі днямі. Каня яшчэ з досвітку павёў пасвіць знарок наняты хлапец. Бацька ж адправіўся агледзець жытні палетак; а маці таксама пашкадавала разбудзіць Зосю, дазволіўшы паспаць ёй датуль, пакуль яна не здаволіцца. «Хай сабе ўдосталь паспіць», — разважала сама сабе Марта.

Але Марце будзіць дачкі не прыйшлося. Зосю абудзіў рык прыгнаных на ранкі кароў і прарэзлівыя гукі пастуховай трубы.

У сенцах было цёмна і прахладна. Праз маленькае, як валова вока, акенца ўліваўся знадворку пучок сонечных праменняў і залатою пухкаю стужкаю разгортваўся па зялёным пахучым плюшніку, які адбіваў сваім глянцам рэзвых зайчыкаў на сцяне.

Зося працерла рукою вочы, адгарнула назад і завязала косы ды саскочыла з ложка.

— Зося! Зоська! — пачула яна вокліч мацеры з хаты. — Уставай, галубка, дзясятая гадзіна. Каровы прыгналі на ранкі.

— Ды я ўжо ўстала, я чую! — адгукнулася Зося і адчыніла сенішнія дзверы.

Празрыстасць бліскучага сонца і яркая зелень дзярэў, палітая яго праменнем, асляпілі Зосіны прыспаныя вочы; яна ўдвойчае працёрла іх рукавом кашулі ды пачала глядзець то на зелень, то на сонца.

На вуліцы чуўся крык дзяцей, перамешаны з нямоўчнымі піскамі пішчолак, зробленых з плюшніку. У чыстым сінім паветры вярцеліся матылькі, гулі авадні і восы, а на дзярэўцах весела і захлёбіста вычырыквалі рэзвыя птушкі.

— Трэба адзявацца ды выходзіць на месца, — падагнала сама сябе Зося і хутка павярнула ў хату…

А праз гадзіну, не больш, яна ўжо паспела памыцца, нарадзіцца і выйсці на вуліцу.

З канца ў канец вуліца была запруджана людзьмі: бабы і мужыкі, дзяўчаты і хлопцы, падпаскі і дзеці — адзетыя панядзельнаму, прымытыя, ахаеныя, весела спяшылі ў бок рынку: ішлі, гаманілі, смяяліся, гутарылі.

Недалёка ад рынку, на левым баку вуліцы, калі ісці к месту, стаяла Рыгорава старэнькая, з трыма трохшыбнымі акенцамі хата. Ідучы на рынак, Зося пайшла паўз самыя платы гародаў і прызбы хат. Калі яна параўнялася з Рыгораваю хатаю, то на момант спынілася і зазірнула ў акно; зазірнула, і ёй паказалася, нібы сядзіць за сталом якісьці мужчына і чытае газету.

«Няўжо то Рыгор», — бліснула ў яе галаве радаснае пытанне, і Зося памкнулася бліжэй падысці к акну, але раптам перадумала; ёй паказалася не зусім ёмкім: вуліцаю праходзіла многа людзей, сваіх жа аднавульцаў-суседзяў, якія ніколі нічога не прапусцяць, каб не папазорыць уволю, а потым — а потым перамалоць на языку.

З ёю не раз ужо гэта траплялася, і Зося рашыла стрымацца і ісці далей.

Прыйшоўшы на рынак, вялікі чатырохкантовы пляц, агароджаны кругом сцяною будынкаў, абсаджаных высокімі старымі бярэзінамі, ясенямі і клёнамі, Зося накіравалася да крам. Рынак кішэў людзьмі: усе лаўкі і ганкі былі як мухамі аблеплены імі. Між напікаваных вазоў таўклося процьма дзяўчат і хлопцаў, між якімі рэдкімі адзінкамі пракідаліся чыноўнікі з блішчастымі цэшкамі, вучні, вучыцелі і местачковыя інтэлігенты. Зосю «Мікалаішку» знalі не толькі ўсе Сілцы — як яўрэі, так і мяшчане, а і многія дзецюкі з бліжэйшых к Сілцам вёсак, дробныя хвальваркоўцы і дваровыя служачыя. Пакуль яна паспела абысці вакол крам, тысячы прагных, поўных вострае завіды ўзрокаў прамерылі яе з ног да галавы. Не ў аднаго рызыканта замулялася хаценне дастукацца знаёмства з ёю, пагаманіць ці паспацыраваць перадлюдня. А язычлівыя перасудніцы-мяшчанкі паспелі набрахаць усяго-ўсякага цэлыя каробкі, прыплятаючы ў адно: і бацьку, і маці, і Васіля, і Рыгора, і чортведама што.

Зося ўсё гэта ведала і ясна бачыла, што яна многім коле вочы; але ёй гэта было няўцямкі, бо думка яе спынялася толькі на Рыгору, яна была занята толькі ім адным. Зося дапускала, што калі ён прыехаў, то няйначай павінен выйсці на рынак, і яна ўгледзіць яго хоць здалёку.

Ходзячы па рынку, яна пільна ўглядалася ў людзі, але ў іх не магла ўгледзець Рыгора.

— Зоська, га, Зоська! — раптам пачулася ў яе над вухам, калі яна абходзіла другі раз між мануфактурных крам. — Што ж ты адна блытаешся?

Зося азірнулася і тут жа ўбачыла перад сабою дзвюх сваіх таварышак: Ермалаеву Вольку і Гэлю Сідорышку.

— Дык вось, выйшла адна на рынак і ўсё шукаю, каб каго спаткаць, — адказала яна.

— Дык хадзем разам, — запрапанавалі дзяўчаты.

— Ідзем! — згадзілася Зося.

І, пабраўшыся за рукі, усе ўтраіх, жартуючы і смеючыся, пусціліся ў абход. Праз кароткі час яны прашнуравалі вакол крам разоў з дзесяць, ажно паружавелі ад утому.

Зося некалькі дзён як не страчалася з таварышкамі, і ў яе сабралася столькі гутаркі, што яна нават не чула рыначнага шуму, разгутарыўшыся з дзяўчатамі.

— Дык, ведаеце, мае галубкі, — хвалілася яна звонкім рассыпчатым голасам, — а мне ж тыдзень таму пісаў Рыгор, што няйначай к чэрвеню месяцу прыедзе дадому. Вось я ўсё і пільную, усё і сачу за кожным, стараючыся яго найці, — з лёгкім сорамам закончыла Зося і паглядзела вакол сябе.

— Але, але, яго маці і мне паказвала ліст, у якім ён піша, што няйначай мусіць прыехаць на свята, — дабавіла Волька.

— А мо ён ужо і прыехаў, ды дома сядзіць, — дагадна праказала Гэля. — Ну, але, бок; а з Васілём ты такі і не сустракаешся? — пацікавілася яна.

— Волька, цудная дзяўчына. Плявузгае ліха ведае што, — з лёгкім гняўком адказала Зося і нядбайна кіўнула рукою.

— А я чула, што ён няйначай думае сватацца к табе. Мне і надоечы Хлорыха, яго дзядзіна, казала: «Майго Хлора нябог, кажа, не ведае, як тройцу прычакаць, каб паслаць да Мікалаішкі сватоў». — «Ды яна ж не пойдзе за яго», — кажу я. А Хлорыха так і спыняе мяне: «Маўчы, дзіўная ты, вунь бацькі яе не мусяць, як скарэй даждацца сватоў; яны з вялікаю ахвотаю згодзяцца выдаць Зосю за Берага».

— Ты не хлусіш, адно? — запытала Зося, не то сполахна, не то злосна.

— Дальбог, ну, — не зважаючы гэтага, падмацавала Гэля.

— Хай ім не думаецца толькі, — цвёрда праказала Зося і змоўкла.

— А што ж ты зробіш з імі, цудная? — мякка і разуважна ваткнула Волька.

Зося крыху падумала, азірнулася вакол і, адчаянна махнуўшы рукою, злосна адсекла:

— Ды не бядуй — сумею зрабіць.

— Эх, эх, Зоська! Маўчы, я табе кажу, маўчы; дальбог жа маўчы. З бацькамі нічога не парадзіш; іхня воля над табою: што захочуць — тое і зробяць; забачыш сама — праканаешся.

— Вельмі ты ўгадніца вялікая; не дужа я палахлівая, — недавольна адказала Зося. — Што ж, калі яны бацькі, дык маюць права мяне жывасілам пёрці туды, куды я сама не хачу? Калі толькі ўздумаюць так рабіць — дык няхай убіраюцца да д’ябла са сваім бацькоўствам.

— Ой, не кажы! — кіўнуўшы пальцам, спыніла яе Волька.

Пакуль яны хадзілі ды гутарылі, надышла другая гадзіна дня. Людзі пачалі раз’язджацца і расходзіцца па хатах: рынак увачавідкі пусцеў.

— Ну, трэба, хіба, і нам ісці абедаць, — парадзіла Гэля.

Дзяўчаты пакінулі рынак і накіравалі ў вуліцу, хутка згубіўшыся ў густым натоўпе людзей.

III

Паеля таго як Васіль, да болю рассерджаны на Зосю за тое, што яна не захацела выслухаць яго споведзі, — так тыдзень таму назад, — і гэтак рэзка, нібы варожа, абышлася з ім, праз увесь тыдзень Васіль не змог спаткацца з Зосяю, каб па-людску пагаварыць з ёю. А яму, не патураючы на ўсё, вельмі хацелася стрэцца з Зосяй, каб выказаць сваю крыўду і перамовіцца некалькімі словамі. Васіль кожны дзень, з самага ранку, сачыў за кожнаю праязджаючаю між яго хаты фурманкаю, штохвілю пазіраў у акно, але, нібы якая прымха мяшала таму: Зося не пападала на вочы. Нават і тады, калі ён цэлы крымінал развёў ля студні са Стэпаю, яму не ўдалося прыкмеціць мо хвілін з дзесяць стаяўшую ў людской грамадзе Зосю. Праўда, у той момант яму не вельмі б і ёмка была стрэча з ёю, і ён потым быў здаволены,

што не прыкмеціў яе, але тачыла крыўда на тое, чаму такі не ўдалося стрэцца?

Злы на ўсіх і на самога сябе за такі зварот справы, Васіль увесь тыдзень працягаўся, як саўлук, нудны і маркотны. Работа, каторая заўсёды гарэла ў яго руках, рабілася нядбайна і вяла. Усе тэрміновыя, неадкладныя думкі яго пабіваліся адною, зацятаю і надаеднаю думкаю аб «упартай і няўледнай Зосі».

Па некалькі разоў у дзень Васіль передумваў спосабы стрэчы, уражанняў пра гульню да позняе ночы, пра спацыр, гутаркі і пацалункі.

Нават кожны раз ён пераносіўся ў думках у той чаканы для яго час, калі яна, Зося, стане яго жонкаю, будзе кахаць і шанаваць толькі яго аднаго і будзе ім абаім тады весела і шчасна.

Але гэтыя вырастаючыя перад ім уражанні засмучаліся нейкім густым, ліпкім туманом, калі раптоўна, суйздром, прылятаў немаведама скуль вобраз яго ворага — Рыгора. Услед за гэтым успамінаўся вечар апошняй нядзелі, ліст да Зосі з горада, няйначай, як ад таго самага Рыгора, і ў скутку гэтага — сумнае і млоснае адчуванне. Адваротна рабілася на душы, толькі натугаю волі Васіль сіліўся згладзіць гэта; ён пераносіўся барзджэй да Міколы і Марты і апіраўся на іх, як на каменную гору.

«Яе бацькі хванабэрыстыя і наравістыя. Яе бацькі ўсё пераробяць, а пастановяць на сваім, не дапусцяць нізашто апаганіць свайго слаўнага і знатнага котлішча. Ого, яе бацькі золата, не людзі!» — мерна і цвёрда выбівалі Васілёвы думкі гэтыя радасныя і сцешныя словы, і быццам хтось мёдам змазваў яго нутро, яно святлела і асвяжалася: прад вачыма праясняўся нудны хмарны небасхіл, забівала крыніцаю надзея, і ён прагна чакаў выпадку, як веруючы збаўлення.

Васілю не цярпелася, каб выбраць удзячны момант і зайсці да Прыдатных. К гэтаму ён рыхтаваўся з тае хвіліны, калі ў нядзелю вечарам саступіў з іх парога. Кожным днём ён прыдумваў новыя спосабы, будаваў іншыя планы. К канцу тыдня Васіль меў у запасе гутаркі на цэлы дзень; гэтаму паспрыяла наступнае.

Адным днём, калі Васіль, вярнуўшыся з поля, увайшоў к сабе ў хату, ён застаў у ёй дзядзьку Хлора з дзядзінай, якія сядзелі пры стале з яго мацераю і пільна вялі нейкую сур’ёзную гутарку. Не ўспеў Васіль прывітацца з дзядзькам, як Хлор стрэў яго гэткімі словамі:

— Чуеш, Васілька, мы гэта седзімо ды думаем-гадаем, як цябе засватаць ды ажаніць?

Сказаў гэта Хлор і ўсміхнуўся. Васіль таксама з ухмылкаю на твары адказаў:

— Вось калі! Чаму ж не? Збірайцеся, і пойдзем да Прыдатных у сваты.

— Ну, — зрабіўшы сур’ёзную міну, зацікавіўся Хлор.

— Без «ну», — з гэтакаю ж сур’ёзнаю мінаю адказаў Васіль.

— Ой, ой, чаму ж не так!

І Хлор з нечаканасці ажно падняўся з месца, падышоў к Васілю і, выказваючы пахвалу, пашлёпаў яго рукою па плячы. Хлорыха і Васілёва маці, бачачы гэта, весела зарагаталі.

— Чуеш, Тадося, дык нам жа бясёда складаецца, — абярнуўся к братавай Хлор. — Як ты, згодна жаніць сына? — дабавіў ён.

Тадося порстка ўсхапілася з месца, абярнулася да Хлора і, склаўшы рукі на грудзях, загутарыла:

— Гм, гм! Вот калі, вот калі, Хлор. Яшчэ трэба пытаць. Не толькі, Хлорык мой, гатова, а хоць і заўтра, хоць і цяперачкі. Я ўжо даўно кажу свайму Васільку: жаніся, сынок мой, жаніся, даражэнькі; не патурай другім і не жалуй маладосці. Ужо ж пайшоў табе дваццаць другі год, ды я, бачыш, старая, знямоглая зусім. Ці ж гэта навуды? Людзі нават яшчэ ў маладзейшых гадах пажаніліся і жывуць, і добра. Самі маладыя, а дзеткі, каб хаця не ўрачы іх, ужо нелапыя. Ого, гэта толькі мы калісь з тваім бацькам былі дурныя, што да трыццаці гадоў дацягнулі. Вось за гэту дурасць і прыходзіцца расквітвацца: яшчэ не паспелі выгадаваць дзяцей, устанавіць іх на ногі, як ужо апынуліся каля магілы… Не, не. Цяпер людзі куды разумнейшыя за старасвецкіх… свет таксама інакшы.

— Такі ты праўду, Тадоська, кажаш, шчырую праўду, галубка, — згодліва матаючы галавою, падтрымала Тадосю Хлорыха.

— Дык я ж кажу, — ахватней пацягнула сваю гутарку Тадося, — я некалькі раз ужо набівалася к Васільку з гэтымі думкамі, але ён і слухаць не хацеў. «Рана яшчэ, маці, паспею яшчэ, родная», — толькі і чула ад яго. Не ведаю, ці не хацеў ён, ці мо пужаўся чагось — хто яго ведае. Грошы, прызнацца, у нас пад рукамі заўсёды ёсць; якое хоцькі вяселле можна справіць… Пазней — раней — мне ўсё роўна, абы здаровай дачакацца гэтага. Ой, мой ты Хлорык, мая Юстынка, вы не можаце сабе ўявіць, як я зарадавалася, калі толькі пачула згоду, — Васілёву згоду на жаніцьбу; быццам мне хтось акно адчыніў у новы нязнаны і няведамы мне свет — я ўся так і абмерла ад радасці. Балазе ён згодзен. Ды… чаго ж чакаць? Дакуль чакаць? У любы

дзень заходзь да нас, захвацім з сабою кварту гарэлкі і проста да Прыдатных. Аб пасагу — не ўспамінай, чорт з ім, у нас хваціць свайго дабра.

Васіль моўчкі слухаў размову мацеры і несціхана мераў узрокамі то дзядзьку Хлора, то дзядзіну Юстыну. Хоць ён сам згадзіўся на сваты, хоць нядумана перадаў сваю згоду на жаніцьбу, але ўсё гэта было зусім нечаканым, зусім неспадзяваным, і ад гэтага неспадзеўку пачыналі ў галаве віцца нейкія невыразныя туманныя думкі, якія заўсёды прылятаюць тады, калі іх чалавек не чакае. Жаніцьба, здэцца, зусім простая і звычайная рэч, якую пры жыцці прыходзіцца бачыць сотні разоў і якая трапляецца траха не з кожным чалавекам; і з ім, Васілём, раней ці пазней трапілася б яна, а то-та ж, калі падышоў тэрмін, то мэрам бы і перапалохаў яго не на жарты. І хочацца, і колецца.

Гэткае пачуццё напоўніла яго істоту. Хацелася затым, што ён, Васіль, біў на гонар, ішоў наперакор Рыгору, не хочучы папусціцца Зосяю Мікалаішкай, якая адна, па яго думцы, толькі і падходзіць яму ў жонкі. Калолася ж ад таго, што з жаніцьбаю зусім перайначваецца жыццё; чалавек робіцца гаспадаром і прыкоўвае сябе к хаце, к усяму таму, што ў ёй; свет, гульня, вольнасць, бесклапотнасць, — усё хаваецца, уцякае кудысь ад цябе. А ён жа, Васіль, усё-такі яшчэ хлопец малады, мог бы смела гадоў з два пагуляць дзецюком.

Адчуваючы гэта так выразна, як добрае люстэрка адбівае твар таго, хто ў яго глядзіцца, Васіль, аднак, пакарыўся хаценню, падмалёванаму ўгаворамі мацеры, і раптам, адкінуўшы ўсё сумненне, рашуча сказаў:

— Дык, ну, дзядзька Хлор, так і быць. Пойдзем у аўторак да Прыдатных.

— Няўжо ты не кпіш? — захацеў яшчэ раз упэўніцца Хлор.

— Калі кажу, то не кплю, — так сур’ёзна і цвёрда заверыў Васіль, што Хлор ужо болей не хацеў і гаварыць аб гэтым.

За гутаркай яны і не прыкмецілі, як падкраўся змрок і ў хаце пачало цямнець.

Выпадкам кінуўшы ўзрок у акно, Хлор ажно жахнуўся і голасна праказаў:

— Вось загаварыліся, дык загаварыліся. Гэта ж ужо вечар на вуліцы, зірнеце адно.

Усе паглядзелі ў акно.

Хлор падняўся з лаўкі, пастаяў з хвілінку, потым абярнуўся да жонкі:

— Хадзем, нябога, да гасподы, а то там дзеці прачакаюцца.

Яны павярнулі к дзвярам і скора схаваліся за імі.

Васіль прайшоў за дзядзькамі на двор, развітаўся з імі на ганку, пажадаў усяго лепшага і вярнуўся ў хату.

— А ведаеце, маці, што? — загаманіў Васіль да мацеры. — А я такі не на жарты надумаў папрабаваць пасватацца да Мікалаішкі… Але… — Васіль няўверана паківаў галавою: — Няведама ці выйдзе што, ці не. Ці захочуць яны за мяне выдаць Зосю?

— Ой, ой, які ты дзіўны! — не даючы сыну скончыць, перабіла яго Тадося. — І што ты ўшалопаў сабе? Прыдатны не аддасць за ця-а-бе-э дачкі? Ці ж не пара? Альбо каго лепшага яны нойдуць? Хай яшчэ падзякуюць богу, што мы цябе згодны жаніць з ёю. Ой, сынку, клапаціцца аб гэтым няма чаго. А калі што і закапырсціцца — плюнь і ўсё: у мястэчку дзяўчат даволі, любая пойдзе — адно заікніся.

— О, не, не ў гэтым справа! Тут рэч не ў жаніцьбе, а ў Зосі. Калі жаніцца — то толькі з Зосяй.

— Э, ды пакінь, пакінь ты. А Луцэя Сымонава чымсь вадзіць? А Ануля Пранукова? Дзяўчаты, пане мой, што твая вярэя: здаровыя, гладкія, работніцы — адно палюбавацца. Ды і бацькі іх усе са знатнага роду: гэта ж яшчэ іх дзяды былі войтамі.

Васіль на гэта нічога не адказаў: яму зусім не думалася аб кім-небудзь іншым, акром Зосі: хоць бы яна была не толькі што дачка Прыдатных, а панская служка, і то б ён ні на нікога не памяняў яе: тут асабовы падыход.

«Эх, эх, ну што ты, маці, гаворыш. Табе зусім няведамы мае думкі і пачуццё. Табою кіруюць твае рашчоты», — думаў ён, тупаючы па хаце ды пазіраючы ў акно.

— Чуй, маці, — спыніўшыся пры печы, вымавіў Васіль, — я рашыў на тым, што яшчэ гадоў са тры не буду жаніцца, калі толькі Мікалаішка не згодзіцца выйсці за мяне.

Тадосю гэта азадачыла, і яна перш намерылася кінуцца на ўгаворы сына, але, убачыўшы, з якім настроем і з якою цвёрдасцю той праказаў сваё рашэнне, згадзілася лепей змаўчаць, чымсь уздымаць гутарку. Праўда, ёй трошкі неяк прыкра стала, што сын упорна задумаў пастанавіць на сваім, што, па яе меркаванні, ён многа абмыляецца, думаючы так, але, добра ведаючы, што не ў сілах пахіліць яго ў свой бок, толькі недавольна кіўнула галавою…

— Можа, вячэраць думаеш, сынку? Я дастану табе чаго-небудзь? — запытала Васіля маці пасля мінутнага змоўку.

— А такі і дайце чаго, а то захацелася есці… спаць-то яшчэ не думаю, — адказаў Васіль.

— Думаеш ісці куды?
— Але.
— А куды ж пойдзеш?
— Ды вось, на вуліцу выйду; прайду да рынку і вярнуся. Заўтра ж свята — можна і больш паспаць…
— Ды чаго, пакінь.

Але Васіль мацеры і ў гэтым не паслухаў: кончыўшы вячэру, ён барзджэй вылез з-за стала, апрануў чысцейшую жакетку, узяў у рукі трасцінку і, пасвістваючы, выйшаў на вуліцу.

Пагода стаяла добрая; была нерухомая, зачарованая ціш; быццам бы хтось загаварыў усё: ні зыку, ні голасу было не чуваць. Толькі булькаценне невялічкай рэчкі ў каменнях у заломе яе з горкі даносілася да Васілёвых вушэй.

Зірнуўшы на неба, дзе міргалі нязлічанай лічбы і ўсякіх памераў зоры, ён меркаваў, што назаўтра пагода павінна быць цёплая і ясная, і, задаволены гэтым, пайшоў к вуліцы пад гору. Ціхімі ўпэўненымі крокамі, раздумляючы і разважаючы сам сабе, Васіль непрыкметна ўзышоў на ўзгорак пры Цішкавай хаце, прайшоў залом і хутка апынуўся каля хаты Прыдатных. Прыпыніўся і паглядзеў: з хаты прабіваўся сумны, палахлівы прамень газоўкі.

Прастаяўшы хвілін пяць, Васіль азірнуўся па вуліцы і ўкрадкаю, на насках, падышоў к акну, падняўся на прызбу і кінуў узрокам у хату: кінуў і хутчэй жа адхапіўся; потым зноў паглядзеў, ужо смялей. Усе спалі: сам Мікола Прыдатны ляжаў на шырокім тапчане, прыстаўленым да вузенькага палка; на ложку спала яго жонка, Марта, з меншаю дачкою, Тэкляю. Зосі не відаць было ні на другім ложку, які стаяў засланым посцілкаю, як і днём, ні на палку, ля печы. «Яна, напэўна, спіць у сенцах», — мігнула ў Васілёвай галаве дагадлівая думка, і нібы нейкі голас падшапнуў яму на вуха: «Падыдзі ціхутка к акенцу ў сенішняй сцяне, запалі сярнічку і палюбуйся Зосяю».

І Васіль вось-вось гатоў быў паддацца спакусе, як раптам апомніўся. «Што я раблю!» — ушчунуў ён сам сябе і хутка адышоў ад хаты Прыдатных.

Якраз у гэты момант у другім, супрацьлеглым канцы вуліцы, ля царквы, куды Васіль намерыўся прайсці, пачулася траскатня брашчоткі вартавога. Рэзкія, зычныя гукі грамацелі па ўсіх Сілцах, уцякаючы ў поле і адзываючыся дзесьці ля лесу.

Васіль міжвольна спыніўся і пільна прыслухаўся да траскатні, мо з паўгадзіны стаючы на адным месцы, то ўзіраючыся ўсцяж вуліцы, то аглядаючыся назад. «Не пайду далей», — вырашыў

ён, завярнуў назад і дробнымі спешнымі крокамі, падганяны надышоўшым сумам, пайшоў дахаты.

Лёскат варты не перасціхаў зрывацца з брашчоткі і рэзвым зыкам гнаўся за ім услед.

— Ажно апрацівела. Вось разляпаўся, дурніла, — вылаяўся Васіль.

Скора, аднак, ён спусціўся з горкі і апынуўся ля свае хаты; паціхеньку, з нейкаю асобнаю асцярогаю адаткнуў запёртыя вешніцы, прачыніў іх, увайшоў у двор ды зноў іх акуратненька прыткнуў і схаваўся ў сенях.

## IV

Назаўтра Васіль прачнуўся а дзявятай гадзіне раніцы, яшчэ да прыгону кароў з поля. Ён хутка ўсхапіўся з ложка, памыўся, апрануўся і толькі распарадзіўся, каб маці аддала Ігнатаваму Юзіку каня, выйшаў з хаты.

Васіль быў багамольным хлопцам і ніводнага свята, ніводнае нядзелі не прапускаў, каб не наведаць у цэркаў. У цэркві ж ён любіў стаяць ад пачатку да канца службы, і кожны чалавек, хто толькі калі ні заходзіў у цэркву, заўсёды мог убачыць там Васіля Берага, які стаяў ля правага кліраса, прычэсаны, прылізаны, і шчыра жагнаўся на кожнае слова папа і дзякана, а затым голасна падводзіў дзяку. Увайшоўшы ж у цэркаў і становячыся на сваім месцы, ён масціта і далікатна тры разыківаў галавою на тры бакі, згінаючыся ажно да пояса і аддаючы гэтым усім, хто б ні быў у цэркві, сваё прывітанне.

Сілцоўскі поп, бацька Ігнат, чалавек скнарны, пaборны і злы, ненавідзеўшы местачковую моладзь за яе нявер’е і басяцтва, за нядбанне да царквы, да Васіля меў асобую, нейкую цёплую і жывую прыхільнасць і кожны раз, пасля абедні, калі Васіль падыходзіў к яму цалаваць руку і крыж, пагладжваў яго па галаве і даваў проскварку, ужо зараней прыпасеную для яго. Васіль не толькі быў гэтаму рад, а нават гардаваў і хванабэрыўся «бацюшкавай» ласкаю. Васілёва маці вельмі ганарылася папоўскаю ўвагаю да сына. «Дык ведаеш, мая Парулька, дык ведаеш, мая Аўгенька, — пераймала яна суседак, — дык сёння ж, мае мілыя, бацюшка спыніў майго Васіля ды кажа яму: «Хай бы ты жаніўся ўжо, Берaг; хаця б пагуляў у цябе на вяселлі».

Але, калі Васіль быў у ласцы ўва ўсёй сілцоўскай «знаці», пачынаючы ад багатых гаспадароў і канчаючы папом і старшынёю, затое ж большая частка хлопцаў і дзяўчат з бяднейшых

мяшчан нізвання не паважала яго і нават не лічылася з ім, як з таварышам, празываючы яго «шляхтуном», «хціўцам», «папоўскім падлізнікам» і іншымі мянушкамі, якія не выходзілі з губ як хлопцаў, так і дзяўчат; смяяліся і пацвельваліся нават тады, калі Васіль прыходзіў на зборні і прабаваў там задзіраць нос. Вельмі яго сіберна абсмейвалі на Ліневай зборні, што знаходзілася на Ляшкінскай вуліцы, у хаце мешчаніна Панаса Ліня. На гэтай зборні — а яна лічылася самаю галоўнаю ва ўсім мястэчку — збіраліся дзяўчаты з усіх канцоў мястэчка, з Логу і з Загібаў; сюды прыходзіла траха не кожнае свята і Зося.

Бядняцкая моладзь, якой у мястэчку было даволі многа, нідзе не мела лепшага прыпынішча, апроч як у Ліня. Вось таму на гэтай зборні заўсёды панавалі самыя жывыя, самыя шырокія і шумлівыя гулёшчы. Калі траплялася так, што з прычыны таго ці іншага выпадку якому-небудзь хлопцу нельга было прыходзіць да Ліня — ці ён уваходзіў у сварку з Лініхаю або з Лінем, ці хатнія варункі не дазвалялі таго, — гэты хлопец нідзе не мог знайсці сабе падобнага прыпынку: вось рупіла яму няйначай к Ліню зазірнуць, і годзе; і ён, хоць украдкі, праходзіў між вясельшае ў Сілцах зборні ды кідаў завідлівым вокам у вокны Ліневай хаты.

Васіль быў адным з тых, каму няўсвойна, негасцінна расчыняліся дзверы Ліневай хаты; вось загэтым ён так рэдка і хадзіў туды, стараючыся быць толькі тады, калі праведваў, што Зося там. І заўсёды ён злаваў немаведама на каго, што яму неяк ніякавата ў Ліня быць такім смелым, як бы, напрыклад, Сёмку.

Нядзеляю, так пасля абеду ці вечарам, Васіль намерыўся таксама пабыць на Лінеўскай зборні, калі толькі Зося задумае туды пайсці. «Няйначай буду; што б сабе там ні было — пайду і я к Ліню», — вырашыў ён і з гэтым рашэннем лёг спаць, з ім заснуў, пры ім прачнуўся, з ім пайшоў у цэркаў, дзе маліўся, падпяваў дзякам і… думаў пра Ліня ды пра Зосю.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## I

А ў той самы час, калі Зося выйшла на рынак і зрабіла першы абход вакол крам, а Васіль, стоячы ля кліраса, падпяваў дзяку, Рыгор накіраваўся па вуліцы Сілцоў к сваёй хаце. Гілаўскі карчмар Шэя па просьбе Рыгора ўехаў у Сілцы цішком; ён злез з воза і, трымаючы каня за лейцы, ішоў побач падводы і перакідаўся словам-другім з Рыгорам, які сядзеў на аглабіне драбін і пільна азіраў кожную рэч, якая пападалася яму на вочы.

Ужо цэлыя два гады, як Рыгор выбраўся з свайго мястэчка Сілцоў у далёкі горад Рыгу на заработкі і за гэты час крыху саскучыў па мястэчку. Ён з цікавасцю чакаў, калі ўправа завода дазволіць яму намечаны ім па яго просьбе водпуск. Кожны дзень, прыходзячы з работы на кватэру, ён распытваў гаспадыню кватэры, ці няма яму часам якіх-кольвек вестак з дому, і заўсёды, калі ад мацеры ці ад Зосі (Зося за гэтыя два гады прыслала яму толькі пяць лістоў) атрымліваў лісты, напісаныя буйнымі, ламанымі літарамі, Рыгор запіраўся ў сваёй каморцы, чытаў ды перачытваў ліст датуль, пакуль кожнае слова не ўядалася ў яго памяць, а нарыс літараў не адбіваўся ўваччу; а назаўтра ён браў гэты ліст з сабою ў завод, перачытваў яго яшчэ некалькі раз і хваліўся ім таварышам.

Дачакаўшы тэрміну, на які начальства завода дазволіла яму выехаць у водпуск, Рыгор атрымаў заробак і пасведчанне, купіў мацеры гасцінец: хустку, кабат і мяккія туфлі і з начным цягнікам выехаў з Рыгі.

Ехаць яму прыйшлося чыгункаю да павятовага горада Ліцка, дзе ён мусіў перасесці на балагола.

Станцыя Ліцк — зусім малая і глухая; цягнік прыпыняецца толькі на пяць хвілін; людзей заўсёды прыязджае нядужа, бо сам горад Ліцк — месца не фабрычнае і не търговае. А загэтым і сувязь горада са станцыяй зусім не адмысловая, няўрадная: пяць-шэсць рамізнікаў спраўляюцца лёгка з усімі прыязджаючымі і выязджаючымі ў Ліцк. Рыгор апынуўся на станцыі позняю ноччу, перад суботаю, чаму з наймам падводы ў Сілцы было даволі ненадзейна.

Рыгор гэта прадбачыў і ўсю дарогу быў заняты адною думкаю: як-то будзе яму вырашыць гэтае пытанне.

Злезшы з цягніка і занёсшы манаткі на станцыю, Рыгор не на жарты прызадумаўся, як яму быць і што рабіць? На шчасце — выпадак яго выручыў: Гілаўскі шынкар Шэя, трапіўшы пятніцай

у Ліцк, запазніўся і мусіў заначаваць. Шэя рашыў не астацца ад гэтага ў пройгрышу і яшчэ за паўгадзіны да прыходу цягніка выбег на станцыю пільнаваць, ці хто часам не прыедзе ды найме яго адвезці да Сілцоў або да Ліцка. Хоць Шэю мала і верылася ў тое, што гэта здарыцца, але праканацца нічога не каштавала.

І вось, калі толькі Рыгор увайшоў у станцыю, як Шэя раптоўна, убачыўшы яго, кінуўся насустрач і перагарадзіў дарогу.

— Пан Нязвычны, як се маш!

— Ах, гэта ж Шэя! — узрадаваўся знакомаму чалавеку Рыгор. — Якім спосабам ты ачуўся тут? — едзеш куды, ці што?

— Ды няхай яно залядзеецца, няхай; гэта ж я ўзяў ды ў пятніцу прыехаў сюды па адным інтэрасу і запазніўся; вось і вымушаны быў заначаваць. Чорт ведае што! А сягоння, думаю, выбегу на станцыю, праканаюся, ці не здарыцца часам у падарожныя хто… І нібы адчуў нутром. Як на тое ішлося — шчасце прынясло Нязвычнага. — Ай, ай, як добра, што ягомасць якраз папаў пад тахту, а то змурзаў бы зусім і сённяшні дзень.

Шэя адсунуў на патыліцу сваю чорную высокую, з абшытым казырком, шапку і агаліў высокі маршчыністы лоб, туга абцягнуты машастовай парудзелай ярмолкаю.

Следам ён пагладзіў сваю доўгую сівую бараду і, адхіліўшы за вуха даўжэрныя бакі, абмераўшы ўзрокам Рыгора з ног да галавы, загутарыў:

— Сусед Нязвычны, а, сусед Нязвычны, а скуль маеце прыязджаць?

Рыгор, якому хацелася барзджэй ехаць дамоў, якога рымсціла хутчэй папасці ў Сілцы, убачыцца з мацерай і са знаёмымі, перш памкнуўся перабіць Шэю на слове і прымусіць яго нечакана пускацца ў дарогу, а потым спыніўся, весела ўхмыльнуўся і адказаў мяккім гасцінным голасам:

— З Рыгі еду, сусед Шэя! Еду дахаты, ды вось і спыніўся: трэба паспяшаць.

— Ага, ага! О, о, гэта Рыга вялікі горад! Го, што за горад! Так, так, так! І мае сваякі жывуць — на Маскоўскім прадмесці, мо Нязвычны знае? У іх вялікі магазін — ботамі таргуюць.

— Ну, едзем, едзем, Шэя! — панукнуў гаманлівага яўрэя Рыгор.

— Вось, вось, я ўраз збегаю за канём; бач, мае падводы тут яшчэ няма. Я ў Хацкеля, у Падлужжы, начаваў.

— Дык яшчэ доўга прамарудзіш? Э-эй-э! Шэя, Шэя!

— Не, не, адна хвіліна! — затрапятаў рукамі Шэя і выбег.

— Толькі ж хутчэй, толькі ж хутчэй, — падагнаў яго Рыгор, рагочучы з рухавага вазніцы.

Калі Шэя схаваўся за дзвярыма, Рыгор узяў свае клункі, падышоў к лаўцы і прысеў; потым дастаў з ісподняе кішэні згорненую ў чатыры столкі газету, расхіліў яе і пачаў бегаць вачыма па ўсёй яе шырызне.

На станцыі было настаяшча відна, бо на дварэ ўжо набліжаўся ўсход сонца, і мяккім, мэрам бы звільжаным расою, чырвона-бурачным праменнем неба аблівала вышэйшыя мясціны абочнае абшары, лясы, цёмна-зялёныя і спакойныя сады, вадакачку і станцыю.

Нягледзячы на тое, што Рыгор не спаў амаль усю ноч, а толькі прыдрэмліваў злёгку, ён чуў сябе бадзёра і саўсім нясонна.

Пакуль Шэя справіўся з канём, ён паспеў праглядзець усю газету і нават некалькі разоў сумеў выйсці на платформу.

— Я ўжо гатоў, сусед Нязвычны! — далікатна і ўслужна прамовіў Шэя, шустра выбегшы на платформу і тузнуўшы Рыгора за рукаў жакеткі.

— Дужа хутка, няма чаго казаць, — пасмяяўся з яго Рыгор.

— О-о-о! У мяне заўсёды скора! — не зразумеўшы кпінаў, адказаў Шэя. — Я хоць і стары, а жвавасці ды рухавасці маю досыць, з любым маладым магу справіцца, — хвалько дабавіў ён і лісліва ўхмыльнуўся.

— Хоць ты і лёгкім атэстуешся, а нам трэба яшчэ лягчэй ехаць, — смехам праказаў Рыгор і пабег на станцыю, пакінуўшы Шэю аднаго; а покуль той са сваёю рухавасцю ўвайшоў у станцыю, Рыгор паспеў ужо захапіць свой куфэрак, выбегчы з ім на вуліцу і схаваць яго на возе ў саломе.

— Ай, ай, няхай бы сусед мне даў, я б сам усё гэта зрабіў, навошта суседу мардавацца, — выбачаўся Шэя Рыгору, бачачы, як той гаспадарыць у яго возе.

— Нічога, нічога, я хоць не швыдка ды хутка, — зноў падпусціў шпільку Рыгор.

— Не, бач, нашто ж суседу, калі я сам. Ну дык прош сядаць, — звярнуўся Шэя к Рыгору.

Рыгор спрытна ўскочыў на воз, паправіў пад сядзеннем салому, прыгарнуўшы яе і заслаўшы нейкаю старою, забруджанаю дзяругаю, азірнуўся на станцыю і праказаў:

— Дык — фор гізунд!

— Ну, зайн-гізунд! — весела і скарамоўна адсек Шэя і барзджэй хапіў лейцы і тузнуў каня.

Рухавы, хоць нячэмненькі і мізэрны, буланчык Шэі рэзва закруціў хвастом, матнуў галавою і задрабязіў каляністаю дарогаю. Шэя трошкі падбег, узяўшыся за лейцы, потым ёмка ўскочыў на кончык восі і прысеў перш на аглабіне, потым перамясціўся ў перадок.

На дварэ стаяла дзіўная пагода. Зялёныя галы палёў разгорталіся далёка-далёка на ўсе бакі; направа ад іх глядзеўся цёмны густы лес, і здавалася, то была барада нейкага вялізарнага чудзішча, адзетага ў пекны, руцяной зелені халат-поле і падпяразанага белаватым не то поясам, не то трапкачом— дарогаю, па якой з лёгкім грукатам кацілася іх падвода.

Рыгор не спускаў вачэй з вакольных ніў. Яму на станцыю Ліцк, уперад таму гадоў некалькі, траплялася ездзіць вельмі часта, па тры, па чатыры разы ў тыдзень, і ўсе гэтыя месцы паабапал Ліцкага тракту былі яму досыць знаёмы і памятны. Трэба было кінуць першым узрокам вакол сябе, як тоненькі туман, зацягнуўшы памяць, раптам распыліўся, знік і ўсе дэталі знаёмага і блізкага вобраза мігам бліснулі-ўваскрослі перад яго вачыма: ляскі, сіратлівыя грушкі ды яблынкі, ядлоўцавыя кусцікі па межах, старыя замшалыя платы, выбітыя да чорнага выганы, рэчкі-жарольцы, мосцікі дзіравыя. Уваскросла, ажыло, і, здаецца, загаманіла з ім кожнаю зялінкаю раслін, кожным чвырыканнем пташкі, кожным булькатаннем рачулак; ачаравала яго нейкаю не земляною, салодка-казлычнаю, прагнаю ласкаю, «як ласка каханае дзяўчыны», уліла ў яго істоту жывільны сок, струмень бадзёрасці.

Вось яны едуць Жмінным полем, а потым будзе Ясева грэбля — вёска Жыгуны, а там Чылаўскі лес.

Пасля двух год разлукі знаёмыя мясціны паказаліся яму такімі блізкімі, што ён зусім не прыкмячаў тае мяжы, якая двухгадовай прагалінай ляжала ў яго жыцці.

Там, у глыбіні яго нутра, забурліла кіпучая хваля любові і нейкага неаказнага натхнення… Верылася і ў той час не верылася, што ён жыве, чуе і бачыць усё, яго апяразваючае, што то не сон, не мары, а яў, сапраўдная, жывая, што можна абмацаць рукамі і праканацца.

«Дзіўная рэч — гэта людское жыццё! — пачалі віцца ў яго галаве рэзвыя зайчыкі раздумення. — Пасля разлукі, доўгай, вымушанай разлукі, так прыятна, так радасна ізноў сустрэцца, ізноў зліцца з адноўленымі перад табою вобразамі. Быццам бы перш жыў, потым нібы анямеў, адранцвеў, затым ізноў акрыяў, схамянуўся, шырока расплюшчыў вочы, паглядзеў і ўбачыў:

ты тут — там, у другім месцы, нідзе не быў, ты… Не, аднак пекная рэч гэта жыццё! Кіпіць, бурліць, пеніцца, б’ецца ў берагі, як тыя хвалі ў ветраны час на шырокім галу мора. Прычуйся, прыгледзься і ўбачыш, як вакол цябе ўсё будуецца на новае, на лепшае. Тое, што яшчэ ўчора было новым, змяніўшы старое пазаўчарашняе, сёння ўжо зноў старое і патрабуе перабудовы ды падбудоўваецца само, сілаю і воляю моцнага непарушнага закону, які ў сваім поступе ўсё перабудоўвае з горшага на лепшае, з лепшага яшчэ на ляпейшае, з разумнага на разумнейшае, з дробнага-нядобрага на нявыказана добрае. І мне, — зварочваўся Рыгор да сябе, — і мне беднаму, цёмнаму паўмужыку, а ўжо напаўрабочаму, сыну ўбогага, нячэмнага мястэчка Сілцоў, мне, незайздроснаму, не хціваму, напраназаватаму — здаецца, што з часам свет гэты будзе так міл, так люб кожнаму чалавеку, кожнаму стварэнню, што ніколі нішто жывое нават і не падумае, каб гэта маракаваць на жыццёвыя нелады і цягчыцца надавам жыцця. Згіне енк, высахнуць слёзы, перастане стогн; радасць запануе, расістым отсветам заблішчаць вочы, шаўковаю травою, бела-руцянаю, расквітуць надзеі, ажыццявяцца шляхам упартага пераможнага змагання за сацыяльнае вызваленне, за знішчэнне цяжкага класавага ўціску… А ўжо блізка той час, блізка; жыццё ў тэрміне перабудоўкі; старое рушыцца, знікае, уступаючы месца новаму, маладому. Патрэбен націск, упор, намаганне, патрэбны ахвяры. Вось гэтага і баяцца тыя, хто крохкі вераю, ломкі духам; замест таго, каб ісці і вясці за сабой другіх — яны, трусы, малаверы, драбнадушцы — чакаюць. Ці ж вас забірае сумненне ў тым, што творчы імпэт працоўных гушчаў зруйнуе на сваім шляху ўсе перашкоды і звядзе на зямлю панства сацыяльнае роўнасці? Прыслухайцеся: сапе вецер жывільнай сілы, разганяе полах цёмных хмар. Хто спаў — прачынаецца і хто маўчаў — пачынае гаварыць; хто цярпеў — пратэстуе, хто паддаваўся — змагаецца, песні жалю змяняюцца песнямі перамогі. Якраз, нібы на вясне, калі прыгрэе цёплае сонца, растопіць гурбы снегу, зазеляніць жоўтыя паплавы, убярэ хмурныя лясы… Наперад, да боек!.. Дык спявайце ж песні паўстання, векавыя рабы, мільённыя гушчы працоўных… Спявайце!..

— Гэй, з дарогі ты там! — голасна прагукаў Шэя і нібы абудзіў Рыгора; ён раптоўна схамянуўся, павярнуўся крыху на бок і кінуў узрокам наперад.

Насустрач ім ехаў селянін, тырчаў на возе між чатырох набітых рудых мяшкоў. Якраз у Міжканаўі, перад Ясевай грэбляй,

сялянскі конь захванабэрыўся ці спалохаўся і раптам спыніўся. Спыніўся ў самым вузкім месцы — вось і перагарадзіў дарогу.

— Праязджай, праязджай, што там распяўся на дарозе! — прагукаў Шэя.

— Паспееш там, надрэнціла ліха, — адгыркнуўся селянін нібыта той.

— А лайдачына ты, а хамутнік гэтакі. А вунь што ўздумаў: пераняў дарогу ды яшчэ і лаецца. Вось жулік — дык жулік! — скарамоўна пачаў сыпаць Шэя на селяніна, трасучы ў паветры пугаю.

— Не лайся, не лайся вельмі так: сам лайдак паганы… — не астаўся вінным селянін.

Пакуль яны лаяліся, сялянскі конь крануўся і паціху пайшоў; Шэя скоса зірнуў на селяніна, які перайшоў на другі бок драбін, трымаючы каня за лейцы, і нешта яшчэ гыркануў няўшчуй.

Рыгор слухаў лаянку Шэі з селянінам і незадаволена круціў галавою. Нарэшце не змаўчаў і папікнуў абодвух:

— Нядобра, дзядзькі. З-за чаго і нашто вам сварыцца? Інтарэсы ў вас супрацьлежныя? Кіньце? Не гадзіцца. Сорамна.

— Не, бо прэ сярод дарогі, на яго ўсё ліхое, і яшчэ не любіць. Каб і не хацеў што сказаць, дык мусіш.

— Што ж парадзіш, Шэя. Доля ўжо такоўская, селяніну суджана было многія вякі ісці вобмацкамі па сцежцы жыццёвай. Цёмная вёска, бедная вёска. З часам гэта зменіцца…

Апошнія словы Рыгор прамовіў так уверана, што Шэя не мог нічым пасупярэчыць і нічога не адказаў.

Адвярнуўшыся к каню, ён тузнуў лейцамі, выцяў яго злёгку пугаю па крыжы, нукнуў і задудоніў сабе пад нос якуюсьці рэзвую мелодыю.

Рыгор жа ізноў пачаў акідаць узрокамі вакольныя галы, лясы, вёскі і панскія маёнткі. У галаве яго новым роем захадзілі рэзвыя думкі — успамінкі.

## II

У Сілцы яны ўехалі а палове дванаццатай гадзіны дня. У гэты час усе сілчане, ад мала да вяліка, былі хто ў царкве, хто на рынку, і Рыгора, праехаўшага са тры вуліцы і некалькі перавулкаў, маглі бачыць толькі двое дзіцянят-хлапчукоў, вызіраўшых з-пад вешніц двара нечай (ён не ведаў чыёй) хаты, толькі што падбудаванай, з непрыробленымі к вокнам шуляваннямі. Апроч

гэтых дзяцей, з іх хурманкаю яшчэ размінулася некалькі падвод ехаўшых з касцёла шляхтаў.

Рыгор нават быў рад таму, што так выйшла, бо яму не вельмі і хацелася, каб хто знаёмы яго сустрэў наперад, чымсь ён паспее зазірнуць у сваю хату. Спакойна і паважна злез ён з воза ля хаты, ля гэткай самай нічуць не зменeнай хібаркі, якую ён і пакінуў. Шэя зняў з воза куфэрак, паставіў яго на прызбе, а каня прывязаў лейцамі к сіратліваму пахіламу шулу, якое тырчала на крок ад вугла хаты.

— Я ў хату ўнясу куфэрак, га? — запытаў Шэя.

— Ай, не, не трэба, не трэба: лішняя турбацыя, — спыніў Рыгор. — Вось лепей скажэце, колькі трэба за хурманку? — дабавіў ён ухмыляючыся.

— Ыу, што там яшчэ гаманіць… Я пэвен, што Нязвычны мяне не ашукае і… не пакрыўдзіць… А ведаючы гэта, ці ж трэба таргавацца?

— Так-то яно так, але скажэце ўсё-ткі, каб выйшла палюдску, — настойваў на сваім Рыгор.

— Дык што ж, калі так, то хай рубель, не будзе замнога?

Рыгор не думаў: рубель за дваццаць сем вярстоў — варта заўсёды даць. Нічога не кажучы, ён хуценька выняў з кішэні паралез, дастаў рубля і даў Шэю, праказаўшы:

— Дзякую, Шэя, што добра давезлі.

— Дзякую шчыра Нязвычнаму; каб весела адпачываць.

— Дзякую! Бывайце здаровы! — схінуўся Рыгор і крануўся дваром к старэнькаму ганку.

Шэя павярнуў каня; затарахцелі драбіны. Рыгор азірнуўся, але ўгледзеў толькі пыл з-пад калёс. «Хай едзе!» — сказаў ён сам сабе і ўзяўся за клямку, каб адчыніць дзверы, але тут ён пачуў, што яны адчыняюцца самі, і спыніўся.

— Рыгорка мой, сонца маё, ясачка мая! — з радаснаю горнасцю ў голасе, трупцявым голасам загаманіла Стэпа, нарасхлест адчыніўшы дзверы і шырока растапырыўшы рукі настрэчу сыну.

— Дзень добры, як маешся, старая? — тронутым голасам адказаў Рыгор; кінуўся да мацеры, абняў яе худую, крохкую постаць, схінуў голаў і прыпаў вуснамі к яе шчакам.

Сэрца выбівала радасную стрэчу… Доўгі, шчыры пацалунак засвечваў яе.

— Сонца маё, ясачка мая! — пераказвала Стэпа; потым узяла сына за руку і, забыўшы нават зачыніць дзверы, павяла яго ў хату.

— Вось цябе ўжо каторую пару чакаюць таварышы, — паказваючы пальцам на двух маладых хлопцаў, Сёмку і Петруся, якія

сядзелі ля стала і з шырокімі цёплымі ўсмешкамі на маладых здаровых белых тварах упарта глядзелі на дзверы. — Госцю мой даражэнькі, госцю мой доўгачаканы! — вылівала сваё пачуццё Стэпа.

— А, браткі мае, Сёмка, Пятрусь! — толькі пераступіў парог — голасна прывітаў Рыгор і кінуўся да стала ды павіс на шыі перш Сёмкі, потым Петруся.

Пацалаваўся з абодвума шчыра і зацяжна.

Рыгор нейкі час як бы не мог апамятацца і маўчаў, пазіраючы то на маці, то на таварышаў, а радасная ўхмылка нібы замёрла на твары і ў гэтай сваёй замёрласці цвіла.

Стэпа ўзяла куфэрак і падсунула яго пад пол, некалькі разоў пераставіла, бразнула замком.

— Ах, як жа я рад, што вы… А як жа жывіцё хаця, браточкі? — звярнуўся Рыгор да таварышаў, потым абярнуўся да мацеры і таксама запытаў: — А вы, мама?

— О, брат, мы-то жывём! У сваём кутку, у сваіх Сілцох, як у Хрыста за пазухаю, — весела адпавеў Сёмка.

— Ды жыву, сынку, марнею памаленьку, — дабавіла Стэпа. — Раздзенься хаця ды спачынь крыху з дарогі. Я дам есці — падмацуйся.

Але Рыгору і няўцям было, што ён не спаў ужо цэлую пору і што не вельмі быў сыт ядою.

— Нічога, нічога, маці, не клапаціся, — адказаў ён, махнуўшы нядбайна рукою, а сам не сціхаў распытвацца аб усякіх сілцоўскіх навінах ды расказваць усё тое, што яму даводзілася чуваць і бачыць за гэты час на свеце. Гаварыў урыўкамі, кусочкамі ад кожнага здарэння; а здарэнні выбіраў такія, што траплялiся на адгон адно ад другога на месяцы часу. Дзіўнага, смешнага і цікавага было процьма, і Сёмка з Петрусём, а таксама Стэпа так былі захоплены яго апавяданнем, што кожнае Рыгорава слова нібы ўбіралі ў сябе і смакавалі.

Рыгор стаяў, як прыехаў: у капелюшы, у паліце, запылены; забылі ўсе папрасіць яго прысесці, а ён сам не дагадваўся ці не хацеў.

— А за-а-аво-оды, за-воды!!! — з асобным прыціскам зацягваў ён. — Каб вы толькі пабачылі: аграмадныя такія дамішчы; даўжынёю, напрыклад, як ад рэчкі да рынку; у тры, чатыры, а то і ў пяць этажоў. А пры боку трубы высачэзныя-высачэзныя — цягнуцца к самаму небу і бессціхання сапуць чорнаю сопухаю. Цікава паглядзець збоку. А калі ўвойдзеш у такі завод — колькі там народу-у-у! Як мурашак, як на пажары: кішаць, бегаюць,

лётаюць. Машыны гудуць, калёсы верцяцца, шум, стук, грукат, свіст… Вось на адным з такіх працую і я… — І спыніўся, нібы што забыў. — Ах, хаця раздзецца трэба; я і забыў.

— Але, але, раздзенься, раздзенься, Рыгору, — у адзін голас праказалі Сёмка, Пятрусь і Стэпа.

Рыгор паціху стаў раздзявацца.

— Ад Рыгі як рукою падаць узмор'е: ездзіш туды; устанеш гэта раніцаю, пап'еш чаю, купіш чаго з сабою і на цягнік. На ўзмор'і народу — калі ні прыедзеш — процьма, кішмя кішыць. Ды і ёсць чаго туды прыязджаць: толькі кінеш вокам — шыр неабмерная; вада, вада, то — неба адно… Стыне сэрца ад захаплення… Паветра, як малако: п'еш, і ўсё мала.

Пакуль Рыгор апавядаў, маці ўгатавала закуску і падала яе на стол.

— Вось, наце перакусеце, хлопцы, разам з госцем, а тады ўжо будзеце гутарыць колькі ўлезе, — праказала Стэпа, падаючы на стол бухоную, свайго ўпёку, кіпку, нарэзанай каўбасы і сыра. — Прасі, Рыгорка, таварышаў, — абярнулася яна да сына.

— Ды нічога, нічога, не патурайце аб нас, цётка; чаго добрага, а бессаром'я ў нас даволі; самі ўсядземся; добра, што дачакаліся Рыгора; за яго здароўе чаму ж не пагасціцца, — смяшліва адказаў Сёмка і першы ўзяўся за відэлку.

Есці прыняліся ўсе ўтраіх. Стэпа не захацела садзіцца за стол, а ўзяла ў руку кусочак сыру і кавалачак кіпкі і, адсунуўшыся крокі на два ад стала, несхаць жавала мякіш булкі з сырам.

— Хай бы ж і вы прыселі, мама! — ласкава папрасіў Рыгор.

— Але, цётачка, прысядайце з намі! — пазваў і Сёмка і пасунуўся на лаве, каб даць месца сесці Стэпе.

— Ды нічога-нічога, дзеткі, — пра мяне не клапацецеся, — ласкавым і зусім спакойным голасам адказала Стэпа.

Сказала і змоўкла. Яе істоту захапілі неадчэпныя ўпартыя думкі. Сын — перад ёю, якога яна так доўга не бачыла! Два гады-ы! Колькі часу! Як ён перамяніўся. Жывучы ў Сілцах, Рыгор заўсёды хадзіў чорным і брудным, цяжка і многа працаваў, і на падзёншчыне, і за балагола. А цяпер — не пазнаць: чысценькі, беленькі, у новым гарнітуры, у чорным капелюшы, у манішцы. Прычэсаны, прыгладжаны, гасцінны, далікатны! Не той, зусім не той!

Стэпе ўспаміналіся часы даўно мінулых дзён, калі яшчэ жыў яе гаспадар Міхась; як ён, бывала, зарадаваўся, калі ў іх радзіўся хлопчык! «Некалі, — казаў Міхась, — як вырасце наш Рыгор,

мы яго вывучым на грамацея. Усю працу трэба ахвяраваць, але не дапусціць, каб ён увесь свой век працаваў так цяжка, як мы».

Праз два гады, якія яму было суджана пражыць пасля нарадзін Рыгора, Міхась бессціхання цешыўся і бессціхання хваліўся ім перад людзьмі. Але Міхасю не ўдалося не толькі вывучыць свайго Рыгора на грамацея, а нават не прыйшлося дачакацца, калі яго сын вывучыцца літары: ліхая хвароба падсачыла яго, прыліпла к нядушламу целу, улезла ў яго нутро і панавала датуль, пакуль не звяла яго ў магілу.

Стэпа любіла свайго мужа, моцна-моцна плакала па ём і з-за вялікай увагі да яго дала сабе зарок не выходзіць другі раз замуж, а ўсё жыццё аддаць на гадаванне Рыгора. Праўда, калі мінула гадоў са тры пасля смерці Міхася, Стэпа, пражыўшы гэты тэрмін удавою, многа паспытала гора, добра праканалася, што значыць жыць адной ды яшчэ і дзіця гадаваць. Цяжкія варункі жыцця вымушалі яе шукаць якіх-кольвек падпорак для далейшага валтузання з жыццём, застаўлялі забываць аб зароку і наводзілі на іншыя думкі: «Чаму ж не выйсці і замуж? — разважала яна: — Я яго любіла, покуль ён быў жывы, покуль было каго любіць… Міхася няма, а я ўсё-ткі жыву і хочацца жыць, як і ўсім людзям, хочацца радасці, як і другім; бо я гэткі самы чалавек, гэткае стварэнне, як і іншыя… Ды і сына выгадаваць лягчэй будзе».

Гэтыя думкі з кожным часам усё больш і больш яе чмуцілі, пільней і нагальней лезлі ў галаву, і хаценне расло. Толькі доля стала наперакор яе жаданням: пара мінала, час праходзіў, а к Стэпе, яшчэ не зусім старой тады і здаровай кабеце, ніхто не сватаўся, быццам бы і не ведаў, што яна ўдава, і ёй трэба было мірыцца са сваім палажэннем. Яна старэла і мірылася. Павінна была мірыцца, хоць гэта яе змірэнне многа прыносіла ёй гора і многа слёз з яе выточвала! Стэпа старэла, жыццё даражэла, заработкаў рабілася менш і менш, а жыць — жыць было трэба… І яна ўставала да сонца, зімою хадзіла да багатых мяшчан мыць падлогу, цёрці лён, а вечарам — прасці; летам наймалася ўвагул жаць, капаць картоплі.

Доўгія дні, а часта засаб і ночы прастойвала яна за працаю, не адгінаючы спіны, перакусіўшы нішчымнага хлеба; потым канчала работу і па дарозе дахаты забягала ў казённы лес, збірала там ламачайка ды галяйко і цягнула на плячах дахаты. Прыходзіла змардаваная, змучаная, засопшыся, з рагамі поту на жоўтым маршчыністым твары; Рыгор спатыкаў яе ля вугла хаты галодным, недагледжаным і бясконца быў рад, калі яна

прыносіла яму маленькі кавалачак сітніцы, купленай па дарозе з лесу ў Міхлі.

Потым Рыгору збылося дзесяць год; ён вырас і стаў годзен у пастухі. Чаму ж не аддаць яго на службу? І Стэпа засаб пяць год гадзіла яго пастухом у сваім мястэчку. Ад Юр'я да дзядоў Рыгор быў не яе: начаваў па людзях, прачынаўся досвіткам і цэлы дзень ад сонца да сонца знаходзіўся ў полі. За гэту службу яго кармілі і плацілі па рублю за штуку. Рыгор зарабляў да трыццаці рублёў у лета; аддаваў грошы цалкам мацеры і, вядома, многа-многа дапамагаў ёй гэтым.

Зімою ж праз тры гады Стэпа аддавала Рыгора вучыцца да дарэктара; грамата Рыгору падабалася, і ён браўся, як лепш было не трэба: ішоў уперадзе ўсіх сваіх таварышаў-вучняў. Дарэктар часта радзіў Стэпе, каб яна не пакідала свайго сына вучыць, а аддала б яго ў вышэйшую школу: «З яго можа выйсці граматны чалавек».

Ды Стэпа і сама добра ведала, што ў яе сына захаваны вялікі талент, толькі няма рады, як яго поўнасцю выявіць… Пры гэтым яна ўспамінала нябожчыка Міхася і казала сама сабе:

«Міхаську мой мілы, як бы ты быў рад, каб дажыў дагэтуль! Такім разумным, такім хітрым удаўся твой сын!» Балела кабеціна сэрца. Але Стэпа была адна: ні помачы, ні спагады чакаць ёй не было адкуль… Уся радня як па гаспадару, так і яе — вымерла яшчэ да таго часу, калі Стэпа выйшла замуж; нават, трэба сказаць, што яны з Міхасём і пажаніліся ўжо сіротамі, адзінотамі. І Стэпе нічога другога не аставалася рабіць, як пакінуць і думаць аб далейшым вучэнні сына, забыцца пра гэта… І вось, кончыўшы сельскую школу, Рыгор стаў наймацца. Кончыць пасвіць каровы і ідзе на хвальварак малаціць або адпраўляецца з местачковымі балаголамі ў павятовы горад. І на службе і прыйшоўшы са службы Рыгор не расставаўся з кніжкаю.

Так прайшло цэлых тры зімы. Тым часам Рыгору пайшоў васемнаццаты год.

Ад свайго бацькі Рыгор пераняў яго добрую шырокую натуру, мяккі і гасцінны выгляд; ні ростам, ні сілаю ён не паходзіў на яго ні каліва, ні звання: высокі, белакуры, плячысты Рыгор выглядаў статным і паважным. Ні пагарды, ні сораму ён не баяўся. А да розуму ён меў ад роду непакорную душу і прагу да свабоды. Разлука з маткаю, блуканне па людзях многа ў ім перамянілі, ніякая работа не пужала яго. І вось, калі Бэрка Шкляр пашырыў сваё балаголства і пачаў шукаць сабе наймічоў, Рыгор барзджэй пайшоў да яго і наняўся за пятнаццаць рублёў у месяц.

Праца была нялёгкая. Хто не ведае працы балагола?.. Уставаць трэба было да сонца, а не то — дык цэлымі начамі быць у дарозе, недаядаць, недапіваць, мокнуць пад дажджом; за ўсякую вінную і нявінную псуту ўручанай рэчы — адказваць сваім незавідным, нікчэмным заработкам. Цяжка і неўмагату рабілася Рыгору гэта служба, але ўсё-такі ён не сумаваўся — праслужыў у Бэркі болей двух гадоў… і мо служыў бы яшчэ шмат болей, каб не прыйшлося перасварыцца і атрымаць рашчот. Рашчытаўся Рыгор у такі час, калі некуды было кінуцца, за неванта было ўзяцца. Што ж? Сядзець склаўшы рукі? Пры яго палажэнні — зусім нельга.

Прагуляўшы нядзель са тры без усякае работы, Рыгор адважыўся рызыкнуць і наўгадай адправіцца ў горад шукаць работы на заводзе.

Задумаў і перш трымаў пры сабе, а потым рашыў і мацеры сказаць.

— Маці, што ж мне тут нудзець без працы; паеду я ў горад, ану ж і ўстрамлюся дзе-кольвек.

Маці гэта азадачыла.

— Рыгор, сынок мой, з кім жа я застануся? — схамянулася як ад спуду Стэпа.

— Ды ці ж я загіну?

— Ды не ў тым рэч, але мне тут аднэй…

Рыгор быў неўгамонным. Вечарам, з серады на чацвер, на другім тыдні пасля Багатніка, ён развітаўся з мацераю і, каб больш ніхто не знаў і не бачыў, з торбачкаю за плячыма выйшаў з двара.

Пасля яго выезду Стэпа доўга не магла згадзіцца з яго адсутнасцю і нават ночы не спала: плакала, божкала, скардзілася на сваю долю.

І толькі калі праз два тыдні ёй паштальён прынёс ліст сына, больш-менш супакоілася…

Усё гэта хутка праняслося ў яе галаве, устрапянула сэрцам і зноў адляцела кудысьці…

Хлопцы сядзелі за сталом і абгаварвалі бягучыя пытанні. Рыгора цікавіла палажэнне ў Сілцах, становішча ў мясцовай арганізацыі, доля арыштаваных і сасланых у 1906 годзе за рэвалюцыю сілцоўцаў. Сёмка і Пятрусь не сціхалі распытваць пра Рыгу.

— Ой, браткі, у Рызе не па-вашаму! — хваліўся Рыгор.

— Ну, ды там не па-нашаму: зразумела, горад — не мястэчка. Што ў нас: пятнаццаць — дваццаць хлопцаў, і ўся арганізацыя…

Сто тысяч рабочых — гэта не жарты!.. Сацыял-дэмакратычная арганізацыя налічвае…

Прысутнасць Стэпы паперашкодзіла хлопцам гутарыць на гэтую тэму, і яны перайшлі да дзяўчат.

— Ты, пэўна, і не ведаеш, што табе Васіль Бераг ставіць падножку, — заўважыў Сёмка.

— У чым? — пацікавіўся Рыгор.

— Зарыцца на Зосю!

— Сур’ёзна?

— Вось дзіўны які, дык гэта ж пазаўтра маюць адбыцца ўладзіны, а на Пётра і сваты, — упэўнена сказаў Сёмка.

— Не, гэтага-то мо яшчэ і не будзе… толькі… — не згоджваўся Пятрусь.

— Я табе кажу, — перабіў на паўслове Сёмка, — ты мо нічога не ведаеш, а мне надоечы Янка Грыб перадаваў, што Васіль сам яму хваліўся пра гэта.

— Мала што Грыб будзе брахаць; гэта ж усё наперакор, на колькі намерана…

— Ды што ты, сапраўды…

— Ну, можа быць, — сумеўшыся, дапусціў Пятрусь, — толькі мне заўчора яшчэ Зося казала, што ў іх хаце нічога такога не чуваць.

— Хлусіць, хлусіць, — нечакана ўкінула і Стэпа, — і я чула, што няйначай як у аўторак адбудуцца сваты.

— А паганскі гэты Бераг хлопец; такі хуліган, такі абармот; ды ці ж хто ў Сілцах не ведае іх котлішча?!.

— Але, але; знатны, падумаеш, дзедзіч… увесь час ні з кім, апроч як са стараставым ды зураднікавым сынамі. Ды, прахвост, удае кожнага. Думаеце, Юстын Корч не праз яго ласку ў Сібір угадзіў?.. Ого-а!

— Гэта яшчэ ў сёмым годзе? — справіўся Рыгор.

— Але… Вось такому злыдню… Дурная Зося!

— Ну, што ж парадзіш, — сціснуў плячыма Рыгор, — на тое, мабыць, ідзецца.

— Няўжо такі бацькі згодзяцца за такую неўдаль выдаць яе? — закінуў пытанне не то аднаму сабе, не то на разгадку ўсім Пятрусь.

— О, чаму не; дзяўчына яшчэ зусім маладая і нявопытная, бацькі пагнуць у той бок, куды толькі ім захочацца: пачне спрачацца — то найдуць раду… Пакуль — бацькава воля…

— Ды апроч гэтай бацькавай волі, яшчэ і слаўнасць гэта іх, вядомасць гэта старасвецкая, многаму перашкаджае. Ого, што

знача Бераг! Гэта не нам, голікам ды дэмакратам, раўня, — пасмяяўся Пятрусь.

— Праўда, сынок, праўда — вось гэта рацыя! — махаючы галавою, падмацавала Петрусёвы словы Стэпа.

У гэты момант з вуліцы данёсся прарэзлівы крык; хлопцы раптам кінуліся ў вокны і выглянулі на вуліцу: ля суседняе хаты Сідара Кажуха стаяла грамада людзей, вакол якіх, як шалёныя, бегалі дзясяткі дзяцей.

— Давай яму, давай!

— Адчынеце вокны! — парадзіла Стэпа.

Сёмка адчыніў акно і падазваў хлапчука. Той шустра і рухава падбег к акну і тоненькім, рэзвым галаском прапяяў:

— А то Юзя з Гапай б’юцца!..

— А за што яны?

— Талеся Юзіна з Юзікам Гапіным пабіліся-а, — развёў шапялявы хлапчук.

Усе разрагаталіся.

— Ну, і дурніцы ж, зноў сварацца, — праказаў Сёмка і першы вылез з акна. За ім адхіліліся і Пятрусь з Рыгорам.

— Хіба трэ ўжо адпраўляцца дахаты, — зірнуўшы на гадзіннік, праказаў Пятрусь. — Ужо пятая гадзі-іна-а! — завёў ён і ўсхапіўся з месца.

— Няўжо! і можа? — здзівіўся Сёмка.

— Во, пабач, калі не верыш, — паднёс к яго вачам Пятрусь чорны сталёвы гадзіннік, падвешаны на тоўстым жоўтым, не то масянжовым, не то новага золата, ланцужку.

Сёмка паглядзеў на цыферблат і пажартаваў:

— Ты-то не хлусіш, а гадзіннік, нябось, крыху кламіць?

— А можа, наадварот? не дапускаеш?

— Чаму не, колькі хоць!

— Не, папраўдзе кажу, — перайшоў на сур’ёз Пятрусь, — учора адвячоркам звяраўся на пошце: кропля ў кроплю з паштовым.

— Эй, а паштовы-то, думаеш, сапраўдны? І там не вельмі сочаць за гэтым, — праказала сваю думку Стэпа.

— Не, цётка, вы так не кажэце: там гадзіннік заўсёды верны, — разуважыў Пятрусь.

— Ды будзе ўжо шалабоніць — хадзем; а то і гадзіннік таго не варт, каб аб ём столькі гаварыць, — пазваў Сёмка таварыша.

— Гэта праўдзівей усякіх гадзіннікаў, што ад самага рання прасядзелі тут. Бацькі, напэўна, чакаюць мяне.

— Ды і мне маці здорава шпэлаху ўсыпле. Мне яшчэ зранку трэба было парадзіцца з ёю наконт адной тэрміновай справы, а я і нібыта той… Хадзем-такі, хадзем, — зарухаўся Пятрусь.

Сказаўшы гэта, ён хутка схапіў шапку, неахайна ўздзеў яе на голаў і, тузануўшы Сёмку за рукаў, павярнуў к парогу.

— Ты толькі, Грышка, вечарам не баўся дома; прачынайся раней і прыходзь да Ліня, — праказаў Сёмка на хаду. — Ага, бок! — ён спыніўся. — Ты мо ўжо забыўся, дзе жыве Лінь?

— А такі і гатоў заблудзіць, — смеючыся, адказаў Рыгор.

— Ды на Ляшы, у тым жа рове; там, брат, цяпер зрабілася такая зборня, што хоць куды! Траха не з усіх вуліц сходзяцца дзяўчаты, прыходзіць часта і яўрэйская моладзь. Калі туды ні трапіш — паўнюсенька хата: пяюць, крычаць, жартуюць, а Ліхіха — ні слова: глядзіць ды толькі цешыцца.

— Бачыш ты?

— Сапраўды, вось прыходзь — праканаешся… Ды і Зося сённі, бадай, там будзе, — з таемным смяшком дабавіў Сёмка.

Рыгор, дагэтуль спакойны, задаволена рассмяяўся і каўтнуў сліну. Стэпа ж увесь час не пакідала ўсміхацца: вясёлая ўсмешка быццам урасла ў яе твар, каб не стухнуць цэлы дзень.

— А вы там скора будзеце? — запытаў Рыгор.

— Вось хай толькі крыху сцямнее, — у адзін голас адказалі Пятрусь і Сёмка і пераступілі парог.

— Бывайце здаровы, цётачка, дзякуем за пачостку; жадаем на Рыгоравым вяселлі паўторна сысціся, — ужо ў сенях пажадаў Сёмка.

— І вам шчыра дзякую, мае дзетачкі, што вы ўсё-ткі не забываеце нас… Прыходзьце, даражэнькія мае, часцей: вы толькі і засталіся нашымі сябрамі-дабрадзеямі, — паслала ўдагон ім Стэпа.

Але апошніх слоў яе хлопцы не пачулі: шчыльна зачыненыя дзверы затрымалі іх у сенцах.

— Такі я лягу крыху задрамлю, — пазяваючы, праказаў Рыгор, увайшоўшы ў хату.

— А як жа ж, а як жа ж! — падтрымала яго Стэпа. — Вось раздзявайся і лажыся.

Рыгор моўчкі здзеў гарнітур і далікатна павесіў яго на сцяне, на драўляным круку, які калісь яшчэ, колькі яму помніцца, ён сам абстругаў з дубовага дручка і сам забіў у сцяну; затым ён ззуў чаравікі, падкінуў іх пад пол і прысеў на гатовай пасцелі. Прысеў, а лажыцца штосьці не цягнула: у яго думках панесліся

ўспаміны. Следам перад яго вачыма, раптам, вырас вобраз Зосі. Стройная і поўная жыцця, яна стаяла знаёмаю красуняю. «Няўжо за гэты час яна зусім не змянілася? — запытаўся Рыгор. — Такая самая, вясёлая і гаваркая, прыгожая і вяртлявая, — якою я яе пакінуў?.. Не, яна цяпер другая!.. А вось жа гавораць, што не сёння-заўтра к ёй будзе сватацца Васіль. Цікава, як аднясецца Зося к гэтаму!»

«І далей цікава таксама: няўжо-ткі Берагу гэта ўдасца? Няўжо Зося і пярэчыць не будзе? Ды, сапраўды, што я значу ў вачах Прыдатных? Галяк, дэмакрат, і толькі. А без бацькоў Зося не сумее і кроку ступіць».

— Што з табою, сынок, чаму ты не лажышся адпачываць? Можа, баліць што? — перабіла Рыгоравы думкі маці.

— Ды не, нічога, зараз лягу, — супакоіў Рыгор матку і тут жа лёг.

Стэпа ціха падышла да полу, далікатна і з асцярогаю апранула сына чыстым, толькі што сатканым дыванам і адышлася к сталу.

— Вы толькі, матка, на змроку абудзіце мяне, — папрасіў ён, не расплюшчваючы вачэй.

— Ой, чаму ж, чаму… Спі, сыночку, адпачынь з дарогі…

Рыгор як заплюшчыў вочы, так і заснуў, не паварухнуўшыся нават. Стэпа доўга стаяла каля яго і замілавана глядзела ў сынаў здаровы, малады жыццярады твар.

## III

Ох, ды Пятрусь, ох, ды Сёмка! Хто іх, гэтых двух хлопцаў, не ведаў у мястэчку? Мала хто не хваліў іх бацькам ды не зайздросціў ім! І было завошта! Высокі, стройны, з кудравымі русымі валасамі, сінявокі, белатвары, з адкрытым характарам, спакойны і цвёрды сын бедных сялян — вось быў Сёмка. Чарнявы, з мерным носам, валасы зачэсаны на прадзел, злёгку сутулы, але ростам сваім — кропля ў кроплю ў Сёмку — гэта Пятрусь, сын такіх жа, як і Сёмкавы бацькі, небагатых мяшчан. Як быццам бы само жыццё звязала іх — яны былі неразлучнымі ўдвух. Прыходзілі на зборню, наймаліся ў заработкі — «запісваліся» ў дэмакраты, хадзілі на няможныя сходы і спявалі рэвалюцыйныя песні, хавалі лісткі і кніжачкі — усё ўдвух, усё разам, неразлучна. Падружыліся і палюбілі Рыгора таксама аднакава, як адзін, так і другі.

Сёмка, Пятрусь і Рыгор! Нашто, здаецца, ім было расставацца, калі Рыгор выязджаў? Мусілі — вялела жыццё. Затое, толькі ён прыехаў, вярнуўся, як ім нудна была хвіліна ў разлуцы…

Так таварышкуюць толькі тыя, хто звязаны аднымі думкамі і аднымі інтарэсамі.

Калі Пятрусь і Сёмка выйшлі з Рыгоравага двара і паглядзелі ўсцяж вуліцы, развярнулася цікавая карціна: уся вуліца ад Загор'я да рынку так і кішэла людзьмі — жанкі, мужчыны, дзеці — як рой пчол гудзелі вясёлай гутаркай. Цераз дзве-тры хаты прызба памостам была ўсаджана сілцоўцамі, на сёння церасчур ужо гаманлівымі, асабліва рэзвістымі і жартаўлівымі. Ляталі, як мухі, вясёлыя дзеткі, кожнае з пішчолкаю ў зубах, з ралачкаю бярэзіны ў руцэ, з куском булкі ці блінца ў другой. Пекная, ціхая, хоць ад гэтага крыху душнаватая пагода, прыдавала ўсяму прыгожы, жыццярады воблік.

Прайшоўшы кусок вуліцы ўдвух, ля трэцяй ад Рыгоравай хаты Сёмка з Петрусём разышліся: адзін павярнуў у свой двор, а другі пайшоў удоўж вуліцы. Ісці выпала Петрусю.

Пры аднэй з запоўненых людзьмі прызбаў яго запыніла памежніца Марцэля Юркава і жартам запытала:

— Адкуль цябе нясе, Пятрусь?

Пятрусь ахвотна адказаў, што ён быў у Стэпінага Рыгора, які толькі што сёння прыехаў з Рыгі ў госці.

Усе здзівіліся, бо гэта было навіной у вуліцы, і бабы паслалі Петрусю плойму запытанняў: а што Рыгор расказваў, а ці палепшаў, ці здаровы, ці прывёз з сабою грошы і інш. і інш., Пятрусь спяшыў ды не хацеў аб усім казаць і, каб адкасніцца ад жанчын, жартоўна адказаў:

— Вось іціму назад і ўсё раскажу.

Жанчыны пагразілі яму пальцамі, але ў адказ атрымалі яго мяккую ўсмешку і заняліся сваімі гутаркамі.

Пятрусь дайшоў да хаты Прыдатных, перад якою раптоўна спыніўся і кінуў узрокам у акно. На покуці, за сталом, падпёршы бараду рукою, а галоў павярнуўшы ў акно, сядзела Зосіна маці і з некім пільна размаўляла.

— Дзень добры, цётка! — гукнуў ёй Пятрусь. Марта раптоўна павярнула галоў у той бок, адкуль данёсся к ёй гук, і, угледзеўшы Петруся, прыветна, з шырокаю, гасціннаю ўхмылкаю на твары, поўным і румяным, адказала:

— Дзень добры, Пятрусь, дзень добры, сынок! Зайдзі на часінку пагуляць!..

— Ой, цётачка, калі я дамоў спяшу; не быў яшчэ ад ранку.

— Ай, што там дома — мацеры не бачыў, ці што…

— Справы ёсць…

— Ды пакінь ты: хай справы на будні застаюцца.

— А хто ў вас ёсць? — здаўся Пятрусь.

— Хто? — нікога! Вось я — ды Зося.

— А з кім такую бяседу жывую развялі?

— Ха-ха-ха! — няўжо ты пачуў?

— Вось калі! Ды яшчэ ля Сёмкі чуваць.

— Ну, ну, зайдзі, зайдзі, — годзі жартаваць.

— Калі так, то заскочу. Хоць і спяшыў дахаты, але калі цётка Мікалаіха просіць — трэба ўважыць; дамашнія хай прабачаюць мне — на тое ж нядзеля, — пажартаваў ён.

— Вядома, я ж і кажу, — падмацавала Марта. Пакуль яны гутарылі, Зося і не паказалася ў акне.

Затое, калі толькі Пятрусь пераступіў парог хаты, як яна кацёлкаю саскочыла з лавы, прыбегла к мыцельніку насустрэчу яму і завіляла лісіцаю.

— Ну, мой госціку родны, ну, кумочак, што добрага скажаш? — лепятала жартоўна Зося, закінуўшы на Петрусёва плячо руку.

Яна была адзета ў белае, з маленькімі пралесачкамі, лёгкае плацце, сцягнутае ў паясніцы шырокаю машастоваю стужкаю; два канцы стужкі звісалі між хвальбон да самага краю падолу. На грудзях, паўз шыю, вымулёўваўся шырокі горс, выстаўляючы да сонца маладое, здаровае, поўнае жыццёвай сілы, цела. На ядвабнай жыжцы чырвонае мулі вісела маніста караль, а ў самым тоўстым радку іх выдзяляўся сярэбраны, з сіняю жуковінкай, медалік. Рукі яе былі аголены чуць не за локці і красаваліся смуглаю загараю. А на твары так і трапятала, так і бегала заварожлівая ўхмылка; Пятрусь не мог адарвацца, дый годзі, уталопіўшыся ў красуню.

— Адкуль жа, лыцар, клыпаеш?

— А нашто ведаць?

— Не, папраўдзе скажы, Петрусю, — ужо сур’ёзней папрасіла Зося.

— Ад Сымонавай Аўдоцці, — пасмяяўся Пятрусь.

— Ой, глядзі, скажу Гэлі, то будзе перцу.

— Не баюся!

— Ды ты ўсё хлусіш?

— А ты вельмі хочаш знаць?

— Вельмі.

— Ну, дык скажу: быў у Рыгора, у Стэпінага Рыгора, — з прыціскам на слове «Рыгор» адказаў Пятрусь і пачаў сачыць за Зосіным тварам. Ён заўважыў, як Зося, пачуўшы гэта, раптоўна змянілася: украдкай зірнуўшы на ўсю пору смяхлівую мацеру,

яна ўздрыганула ад радасці і не то з цікавасцю, не то міжвольна вымавіла:

— Прыехаў?!

— Прыехаў.

— Рыгор прыехаў, ты кажаш? — у сваю чаргу запытала Марта.

— А, мусіць, Рыгор! — спакойна адпавеў Пятрусь.

— У госці ці назусім?

— Жаніцца: думае да вас у сваты прыйсці, — пажартаваў Пятрусь.

— А, няхай ты залядзейся, няхай, як у цябе ніколі нічога не дапытацца, — таўхнуўшы яго ў плечы кулаком, пракрычала Марта і за нечым выбегла ў сенцы.

Ды і Зосі Петрусёў жарт прыйшоўся не па нутры: яна не то засаромелася мацеры, не то ўспомніла апошняе наведванне Васіля і, кіўнуўшы галавою, адхілілася к акну.

Пятрусь пацяў плячыма: сказаныя словы яго нічуткі не смуцілі, і ён ні каліва не каяўся, што іх сказаў.

Карыстаючыся на хвілю запанаваўшаю ў хаце сцішшу, ён некалькі разоў прайшоўся па хаце і прасвістаў матыў «Варшавянкі».

— А, ты ўжо свістаць, чарцяка! — адчыняючы дзверы, ушчунула яго Марта, махаючы закасанымі па локаць рукамі.

— А што ж мне рабіць? Адна ўцякла ў сенцы, другая адвярнулася к акну, а мне хіба моўчкі сядзець? Харошы госць, нечага сказаць.

— Уй, уй, каб ты лопнуў, каб ты! — раптам адхіліўшыся ад акна і стукнуўшы далонню па спіне Петруся, пралепятала Зося.

Пятрусь ёмка абхапіў яе рукамі, прыціснуў на квадранец к сабе, потым вырваўся і адбег к печы.

— А мо няпраўда, га?

— Не шалеце, не шалеце…

— Ну, дык будзе… А ці пойдзеш сёння гуляць, Зося?

Зося крыху памаўчала, потым адказала:

— Не ведаю, вось Волькі Ермалаішкі чакаю.

— А з ёю да Ліня пойдзеце?

Зося паглядзела на мацеру.

— Хто яго ведае. Як мама дазволіць. Далекавата, але парадзімся з Волькаю.

— Ой, чаму: і маці пусціць, і Волька захоча. Прыходзьце; прыйдзем туды і мы: я, Сёмка і Рыгор; Гэля таксама казала, што прыйдзе. Вы пусціце яе к Ліню, цётка? — запытаў ён Марту.

— Чаму не, галота хоць у балота, — адказала тая з іроніяй.
— Вось бачыш, прыходзьце, непрыменна…
— Траха што пры… Нехта, здаецца, дзвярыма бразнуў?
— А, а, на іх дохлае, на іх, гэта ўжо свінні. І чорт іх ведае, што з гэтымі дзвярыма стала: неўшчыняюцца, ды годзі. Эх, эх, вот калі гаспадар! Не ўпрасіць яго паправіць клямку, — сярдзіта крычучы, кінулася Марта ў сенцы.
— Ну, і я пайду… Прыходзь, Зося…
Пятрусь яшчэ нешта сказаў, але крык Марты заглушыў яго, і Зося не расчула. Падышоўшы да акна, яна ўгледзела, як ён хутка падрабязіў за гору.

## IV

А праз пяць хвілін, не болей, пасля ўходу Петруся, дадому вярнуўся Мікола. Сёння ён не паспеў паабедаць, як кудысь выйшаў і цэлы дзень не паказваўся. Марта, седзячы з Зосяю ў хаце, не адзін раз перабівала гутарку ўспамінам пра мужа: «Ай, ай. Ну, і дзе ж ён дзеўся сёння, гэты наш бацька?» Зося цікавілася гэтым не так востра, як маці, і на запытанне адказвала гультайным кіўком галавы.
І толькі Мікола пераступіў парог, Марта як бачыш павесялела; заварушылася, забегала, не спускаючы з яго свайго ласкава-запытальнага ўзроку, якога ён не змог спакойна перанесці і змушан быў чуць прыкметна ўхмыльнуцца нейкаю патайною, хоць і мяккаю ўхмылкаю. Марта адказала на гэта раскацістым рогатам.
— Дзе ж ты быў цэлы дзень? — запытала яна мужа.
— А табе цікава ведаць?
— Вядома, што цікава!
— Калі цікава, то вось жа не скажу.
Зося нібы не чула гэтых перагавораў: яна спакойліва, цішком сядзела на лаве, абапёршыся локцем на стол і моцна над нечым думала. Пасля раптам, быццам хто яе настроіў, усхапілася з месца, сарвала з вешалкі хустку, ускінула яе на плечы і выбегла ў дзверы. Гэта ўсё яна зрабіла так хутка, што нават бацькі не ўспелі агледзецца, як яе нястала ў хаце.
— Зоська, пачакай! Вячэ-ра-аць будзем, — пазваў Мікола.
— Я скора вярнуся! — ужо з двара адгукнулася Зося.
— А я і не скмеціў, калі яна вышмыгнула, — набіваючы пальцамі люльку, а вочы ўшчэрыўшы ў капшук з тутунём, не то жонцы, не то самому сабе праказаў Мікола.

Па яго міне, па голасе і па Міколавай няўстойлівасці на нагах Марта зразу дагадалася, што яе муж не без граху, што ён не абмінуў сёння чортавага зелля. Як кабета дужа скнарная, хцівая ж без меры і надзіва скупая, яна раптам так і ўскіпела ад злосці: ды чаму ён так не шануе грошы?.. Хоць такія выпадкі ў іх хаце траплялiся гады ў рады, толькі святамі ды ў гадзіны бясед, але патом гэта не змірыла жаднае кабеты, у якой цалкам засталася паганая натура Зэкавага котлішча, і кожны раз яна ўпікала Міколу. Праўда, Мікола зусім мала патураў на яе выгавары і часта смяяўся з таго, што яго, прыкладна пуцёвага чалавека, ды жонка на пуць наставіць хоча. На ўкоры Марты ён адказваў жартамі, і ўрэшце заўсёды канчалася мірам. Дзякуючы гэтаму асобнай грызні і сваркі ў іх хаце ніколі не было.

І сёння, калі яшчэ Мікола толькі ўзяў першую чарку ў рукі, зусім няждана стрэўшыся з Васілём Берагам, то ўжо ведаў, што яму адказаць жонцы.

Міколаў смех быў іх змірыцелем, і Марта перш хацела ўшчаць гутарку, а потым памякчэла і выгнала з галавы злую думку. Нядзеляю, верыла яна, грэшна злаваць не толькі на свайго роднага ці блізкага, а нават і на чужых людзей, і ў яе грудзях раптам абудзілася новае пачуццё да Міколы: ёй захацелася падысці да мужа, абняць яго, пацалаваць і папрасіць прашчэння.

Перш ужо Марта намерылася гэта зрабіць, потым разам нібы сумелася і ніяк не магла адважыцца. Ёй стала няёмка: яна апусціла голаў і задумалася. Але хутка яе выручыў сам Мікола: набіўшы люльку і прыпаліўшы вугальком з ямкі, ён падступіў к Марце, палажыў ёй на плечы руку і задаволена ды весела праказаў:

— Хочаш, я цябе пацалую?

— Уй, уй, адкасніся!

— Маўчы, прашу я! — і Мікола ёмка цмокнуў жонку ў выпуклы лоб. — А ты ведаеш, Мартуля, з-за якой прычыны я сённі крыху пахмяліўся? Ведаеш? Адгадай, калі не ведаеш? Га?

Марта спярша маўчала і моўчкі адступіла крокі два ад мужа, потым разам ухмыльнулася, падняла галоў і запытала:

— А па якой?

— Ды гэта, ведаеш, Васіль Бераг сустрэў мяне на рынку, скора я выйшаў з дому, ды кажа: «Хадзем, хіба, цесцю, ды паснедаем крыху». Я перш адказваўся, але ён так прыстаў, што нельга было адгаварыцца, і я мусіў зайсці з ім к Піню. Зайшлі гэта мы, вось Васіль, нічога не кажучы, паўбутэлькі на стол, а далей закускі. Перш па чарцы, потым па другой. Загаварыліся… Адкуль ні

вазьміся — прыйшоў Хлор ды яшчэ паўпляшкі — і цэлая бяседа. Вось за гарэлкаю Хлор і зварачваецца ка мне з гэткім пытаннем:

— Я, кажа, браце Міколе, маю да цябе важны інтэрас!

— Выкладайце, кажу, яго на далонь.

— А вось, кажа, ці не пара стаць нам сватамі? Я думаю гэтага, — паказваючы пальцам на Васіля, кажа, — хлопца ажаніць на тваёй дачцэ; думаю і сур'ёзна думаю. Я яшчэ так тыдзень у суботу мерыўся прыйсці к табе ў сваты, але адлажыў на нейкі час… Ну як думаеш? Што скажаш?

— Чаму не, — адказваю я, — няхай бог спрыяе.

Як толькі сказаў я так, дык мой Васіль і сам не свой ад радасці: абвісае гэта на шыю, заве бацькам і толькі; а Хлор таксама цалуецца бессціхання… Вось падумай, Марта, як жа пры такіх умовах не выпіць? Будзь бы з табою такі выпадак, як бы ты зрабіла?

Марта крыху памаўчала, весела гледзячы Міколу ў вочы, а потым мякка праказала:

— Так-то так… Але… а нам такі і ўпраўду трэба падумаць… Бадай Зосю і пара ўжо замуж аддаваць…

— Ого-о! Чаму не, — адабрыў Мікола.

— Вось бачыш… А калі аддаваць, то трэба ведаць і за каго… Надоечы мне Арына Самусёва казала, як сакрэт, што Берагі няйначай думаюць паслязаўтра прыйсці к нам у сваты. Ліха іх ведае, мо і ўпраўду ўсё… А наша Зоська, відаць, не дужа ганіцца за Васілём. Вунь, ведаеш, Стэпін Рыгор у яе на вуме. Вось і нядаўна забягаў да нас Пятрусь Прахораў і нешта балхвіў, што быццам бы хоча і Стэпа пытацца нас, ці мы не згодзімся аддаць Зосю за яе Рыгора. Па праўдзе сказаць, Рыгор сам сабою хлопец не брыдкі, толькі…

Марта развяла рукамі.

— Э, не, не, галубка, ты з гэтым маўчы-ч-ч! Што Рыгор, які там Рыгор, — сур'ёзна адказаў Мікола. — Ці ж нам рацыя згадзіцца сваю Зосю за яго аддаваць? Гэта ж значыць — бясчэсціць сябе і ўвесь наш род!!! Эт, дзіўная якая! Каб мы, Прыдатныя, сталі сваякамі нейкай там Стэпы! — ніколі, ніколі! Я, дзякаваць богу, яшчэ з вума не сышоў і ведаю, і бачу, куды і як пахіліць свае справы. З вума не выжыў… Вось хіба — Рыгор! Дурніца, і ўляпала чортведама што. Дроў ніколі не насіла з лесу на плячах, дык папрабаваць хоча. Не, не, гэтага не будзе, хай сабе не думае. І ты, глядзі, не патурай ёй…

— Не, не, я згодна з табою, — падтрымала Марта. Ці згодна яна была з ім, ці не — дагадацца было вельмі трудна, калі б су-

дзіць па яе твары; скарэй можна было паверыць, што яна толькі суцяшае, калі кажа, што згодна, а суцяшае таму, што Мікола зразу насур'ёз паставіў справу.

Мікола важна праходзіў па хаце то ўзад, то ўперад і кожнае слова выгаварваў так цвёрда, з такім націскам, што і сумнення не магло закрасціся, каб ён згадзіўся перайначыць свае думкі або каго-небудзь паслухаць ці ўважыць старонняй просьбе.

Марта не раз чула ад Зосі, што яна не ўважае Васіля нізвання і нават слухаць не хоча аб ім, калі толькі не напомні. Колькі разоў было, што Марта старалася разуверыць дачку, але нічога не памагала; ёй думалася (бач, толькі гэтым суцяшала сама сябе Марта), што дачка капырсціцца толькі датуль, покуль справа не пастаўлена насур'ёз, што далей можна будзе яе ўгаманіць, але ўсё-ткі Рыгора лічыла вялікаю стрэмкаю. Падумаўшы крыху, яна абярнулася да Міколы:

— Ну, а што ты з ёю парадзіш, калі яна ўпнецца і не захоча ісці за Васіля, ды і годзі?

— Я? Я?!. што зраблю я? — злосна вырачыўся Мікола. — Што я зраблю з ёю?.. Ты ўжо, галубка, мяне не навучыш таму, я сам добра знаю, што з ёю зрабіць, знаю… А пакуль тое зраблю, то найперш, як ты, так і яна, не забывайце таго, што я ёсць гаспадар у хаце, твой гаспадар і яе бацька; галоўнае — яе бацька… А з гэтага ясна, што толькі я павінен кіраваць усім… Ці ж то можна, каб мяне ды не паслухала маё дзіцё? Каб мае, яе бацькі, волі ды я не мог праявіць над сваім дзіцём? Што б то тады было б! Хоць бяры ды ідзі тапіцца… О, не! Я ўжо даўно рашыў, што покуль буду жыў — буду цвёрда стаяць на сваём…

К канцу гутаркі Мікола так падняў голас, што выходзіла не гаворка, а крык: быццам бы ён не з жонкаю радзіўся аб сваёй дачцэ, а сварыўся з шальмоўскім гандляром, які ашукаў яго на цэлую сотню рублёў. За гэта казала і тая сур'ёзнасць, якою агарнуўся яго твар: падняліся кверху бровы, зморшчыўся лоб, запыхалі агнём вочы, заскіжаталі зубы, а за ўсім — стук кулака праводзіў усё гэта.

Круты нораў Прыдатных Марце за дваццаць два гады яе замуства за Міколам быў добра ведам; ніводная маршчынка на лбе, ніводная ўхмылка ў кутках мужавых губ не былі ёй незразумелымі. Вось і на гэты раз Марта замаўчала — хоць не ад таго, каб збаялася гаспадара ці засердавала на яго, а з-за таго, што ёй стала цёмна і глуха блізкае наступнае сям'і. Дагэтуль усё ішло як па масле, як і трэба было, а тут разам, ні адтуль, ні адсюль пачаў у яе думках завязвацца цесны і блытаны вузел і яе, хітрую

і праназаватую кабету, казлытаць-мучыць нейкім трывожным сумненнем і нагальным запытаннем: «Усё-ўсё праз Зосю! І так неўспадзеўкі! Сваё дзіця, і столькі клопату! Зося ж не хоча, а ён настане, што ж тады будзе?»

Марта, як маці, глыбей і мацней за Міколу любіла дачку, яскравей і чутней адзнавала даччыны радасці і мукі, а ад гэтага больш і гарачэй жадала ёй шчасця; затым яна з большай асцярогаю глядзела на ўсякія планы, якія дужа лёгка, але з малою асцярогаю, будаваліся яе рызыкоўным і хванабэрыстым Міколам. «Добра-то добра аддаць Зосю за Васіля: і багацце, і знатнасць, і ўсё-ўсё; толькі ж трэба ведаць, што яна яго… не шануе… Ну, а гэтага, Рыгора, бач, хоць і любіць — толькі, — мука адна будзе, а не жыццё… У нас яна прывыкла к мяккаму хлебу, а там», — думала Марта, і перш ёй не хацелася пра гэта гаварыць, а потым не стрымалася і праказала мужу:

— А ведаеш што, Мікола?

— Ну?

— Я ўсё-такі думаю адно: нам трэба ўгаварыць Зосю, трэба перш уверыць яе, а тады ўжо крутыя меры прыняць… Вось калі толькі яна захоча, дык чаму ж не выдаць за Васіля! Як я буду рада гэтаму!.. Трэба няйначай папрабаваць угаварыць, — няпраўда — здасца… Ну, а калі ўжо ўпнецца — тады можна будзе і на іншыя рады пайсці…

— Э, пакінь! Нашла каго ўгаварваць! Гэта ж яшчэ дзіця… Якто не захоча? Чаму не захоча? А калі я, бацька, захачу? Павінна і яна захацець! — не ўнімаўся і не адходзіў ад свайго Мікола.

— Эх, і дзіўны ты, дзіўны мужчына! Непамяркоўны ты чалавек, як я бачу! — расцяжна, матаючы галавою і разводзячы рукамі, прамовіла Марта; зварушылася з месца і прайшла к мыцельніку.

Мікола нічога не адказаў: ён над нечым нібы прызадумаўся і, абапёршыся на стол, апусціў галаў і маўчаў.

Марта выбегла пазваць Зосю. Зося стаяла ў гуртку дзяўчат ля Сёмкавай хаты. Пачуўшы мацерын вокліч, яна хутка адлучылася ад сваіх таварышак і пабегла дахаты.

— Такі не дачакаліся, пакуль сама прыйду, — заўважыла яна на бягу, параўняўшыся з мацераю.

— А вядома, што не! — суха адказала Марта. — Вось павячэраем, тады хоць на цэлую ноч; ніхто табе і слова не скажа за гэта; а павячэраць-то трэба разам.

— Няўжо ж! Яшчэ, бок! А вы мо б хацелі, каб я і нядзеляй трымалася за ваш хвартух, — задзёрыста адказала Зося.

— Ну, годзі вышчарацца! Кінь людзей сарамаціць! — спыніла яе Марта і прычыніла ды заткнула за сабою вешніцы.

Зося ўбегла ў хату і зразу заўважыла, што бацька сярдзіта настроен. Ён не даў ёй нават сесці за стол, як суха загаманіў:

— А ведаеш што, Зося?

— Ну?

— А вось што; выслухай толькі: к нам думае днямі прыйсці ў сваты Васіль Бераг.

На яго твары паказалася чуць прыкметная ўхмылка. Зося ж маўчала.

— Як ты думаеш? выйдзе з гэтага толк ці не?

Зося далей маўчала: яна гэта запытанне пачула ад бацькі першы раз за ўсё сваё жыццё, і яго навіна, і голас, якім бацька яго вымавіў, і ўсё тое, што таілася ў слове «замуж», моцна ашаламаніла Зосю. Яна зразу не магла нічога адказаць бацьку, нават не ведала, ці адказаць яму на гэта. «Замуж! Васіль!» Гэтыя два нечаканыя, няпрошаныя, неспадзяваныя словы так ускалыхнулі ўсю яе істоту, узбаламуцілі думкі, што цяжка было аглуздацца. Тут свята, Рыгор, спатканне з ім, — а побач Васіль, замуж, будні! Дайце літасці! Хоць яна бокам і чула ад таго-сяго, што Васіль думае к ёй прыслаць сватоў, хоць і маці ёй раз напамінала аб гэтым, але Зося нічому не патурала, усё прапускала скрозь пальцы, лічыла несур’ёзным, далёкім, тым — што, калі і павінна быць, — то не так скора, не ўрочана… А тут — на табе — як гром з яснага неба! Звалі вячэрацць, і яна барзджэй прыбегла, бо трэба адбыць гэтую павіннасць і пайсці на вуліцу да Гэлі, а з тэю да Ліня, дзе будуць хлопцы і дзяўчаты, куды прыйдзе і Рыгор. А тут яе спатыкаюць такімі прапановамі: Васіль! Замуж! Яна сёння цэлы дзень занята Рыгорам, якога так прагла прычакаць, не бачыўшы так доўга, а ён… Які ён стаў? Што ён думае аб ёй? Ці не ўсумніцца яна пры першым спатканні з ім пасля доўгае разлукі? Усё гэта запаўняла яе думкі, усім гэтым Зося толькі і жыла… Чаму ж к ёй набіваюцца з Васілём? Што для яе Васіль? У свята ды думаць аб буднях, улетку аб зіме — ласне гэта можна; ласне не баліць сэрца? Зося гэтага сабе не дазволіць! І яна маўчала…

А Мікола задуменна то пазіраў на дачку, то адварочваўся на хату, то ізноў кідаў вачыма на Зосю. Яму рабілася млосна, і ён злаваўся: чаго яна маўчыць ды сумуе? Няўжо такі і папраўдзе думае пайсці наперакор сваім бацькам? Не, гэтага не павінна быць, ёй Мікола нізашто не ўступіць! Дачка павінна слухаць бацькі, павінна споўніць бацькаву волю.

«Не, нізашто не папушчуся, на сваім пастаўлю!» — рашыў Мікола і тут жа ўзняўся з месца, павярнуўся да Зосі і вось-вось намерыўся штосьці сказаць, як раптам бразнулі дзверы, і вясёлы лепет Тэклі, убегшай у хату, спыніў яго і заставіў змаўчаць. За дзяўчынкаю ўвайшла і Марта. Мікола абярнуў узрок да жонкі і таксама памкнуўся штосьці сказаць, але і тут асекся. Толькі матнуў галавою і сеў ізноў пры стале.

Марта нічога не западозрыла і ў сваю чаргу маўчала. Толькі адна Тэкля не ўнімалася.

— Тата, га, тата, а заўтра хто павядзе каня? — запыталася яна.

Гэта Міколу змякчыла настрой; ён абярнуўся к дачушцы і ахвотна адказаў:

— Заўтра папросім Юзіка, а ты пагуляеш дома.

Маленькая Тэкля весела ўхмыльнулася і барзджэй палезла за стол, прысела на каленях і пачала чакаць вячэры, перадаючы ўзрокі то ў мыцельнік на мацеру, то на нудную, заклапочаную сястру. Больш яна ўзіралася на Зосю: ёй рабілася незразумелым, чаму такі сёння, нядзеляй якраз, калі ўсе, каго яна ні бачыла на вуліцы і на рынку, такія вясёлыя, гаваркія, а Зося хмурная, жудлівая, маўчлівая? Хто яе пакрыўдзіў?

Тэклю так цікавіла гэта, што яна не магла змаўчаць, каб не праканацца. Падсунуўшыся блізка да Зосі, яна з асцярогаю кранулася яе рукі і цішком прашаптала:

— Што з табою, Зоська?

Зося маўчала, толькі ўкосным узрокам кінула на сястрыцу ды зноў зрабіла нудную міну. З гэтага Тэкля выявіла, што Зося пэўна і на яе сердзіцца, і задумалася: сваім дзіцячым розумам яна не магла дайсці, за што б на яе Зося так моцна злавала, што і гаварыць нават не хоча? «Здаецца, — прыпаміна́ла яна, — я ёй сёння нічога такога не зрабіла, нават слова брыдкага не сказала. Няўжо яна без прычыны? Дык чаму ж без прычыны?»

Ёй стала горка і крыўдна; адсунуўшыся ад Зосі, Тэкля плаксіва праказала:

— Дык чаго ж ты на мяне злуеш? Што я табе зрабіла?

— Не чапай мяне, — агрызнулася Зося.

— А яй-яй! Пані гэткая! і аказацца нельга! — і маленькімі кулачкамі Тэкля выцерла ў сініх вочках заблісцеўшыя слёзы.

— Што ўжо там за задзёры? — умяшалася Марта, уладваючы вячэру.

— Паненка наша нешта не ў ласцы сёння, — укалола сястру Тэкля.

— Чаго ж ёй не хапае?

— Не ведаю… Капырсціцца нешта!.. — ваткнуў Мікола. — Чаго ёй нестае, чаго не хапае — то яна і сама не ведае. Вось толькі намякнуў ёй аб Берагах, дык гэтым так уразіў, што быццам язык адцяў.

— О, хванабэрыя вялікая! — у руку мужу падказала Марта.

— І дзе яна набралася яе? На што лепшае дык не сквапна, а на гэта — адразу… Эй, дачушка мая! Рана ты пачула ў сабе моц, як я бачу!.. на нядобрае гэта верне-э…

Мікола перамяніў голас.

— Ты ўсё думаеш, Зоська, што мы табе ліха хочам ці знарок на цябе бяду наклікаем, калі хочам паставіць на сваём? Эх, эх, дзіўная ты! Мы, твае бацькі, дабра хочам табе; мы цябе ніколі на дурное не папхнём. Мы… мы заўсёды стараліся для цябе лепшага. Васіль будзе цэлая знаходка як для цябе, так і для нас; гэта ж цэлы скарб адкрыецца табе. Падумай толькі, нябога! Берагі! Жарты сказаць! У адным гэтым слове хаваецца столькі паважнасці, столькі самавітасці, што ўсім на завіду; хто ў мястэчку, а хто і ў ваколіцах. Падумай ты, пасудзі ў сваёй галаве! Бе-ра-гі-ы!..

Мікола важна правёў пальцам па лбе і пацягнуўся ўсім целам, нібы гэтым хацеў прыдаць большую вагкасць сваім словам. Але Зося імі не тронулася нізвання, прапусціла іх між вушэй. У бацькі свой рашчот, а ў яе свой — хто ж можа ручыць за тое, чый вярнейшы? Бацьку — бацькаў, Зосі — Зосін. Ці ж гэта разгадка? І Зося ведала аб гэтым — затым і аставалася пры сваіх думках.

— Вось пакуль суд ды справа — наце вячэрайце! — падаючы на стол міску падагрэтай капусты, ад якой востры смачны пах напоўніў зразу ўсю хату, прамовіла Марта.

На гэта ніхто нічога не адказаў, і Зося, не ждучы, покуль бацька накроіць хлеба, дастала сама толькі што пачаты бохан, адламала акраец і ўсмак прынялася есці.

Тэкля, гледзячы на яе, старалася не астацца. Усмак елі і Мікола з Мартай.

Пакуль канчалі першую страву, ніхто не прамовіў і слова, быццам усім так спешна трэба было есці, што дарага была кожная хвіліна. Толькі тады, калі Марта прыняла са стала зусім парожнюю міску і пайшла з ёю ў мыцельнік па другую страву, Мікола аблізаў лыжку, акуратненька палажыў яе на стол і, карыстаючыся вольным часам, праказаў да Зосі:

— Папраўдзе, дачушка, скажы нам: згодна ты прыняць сваты ад Васіля ці не? Нам жа хочацца заўчасна знаць. Скажы, Зоська?

Зосю гэта як нажом пырнула. «Значыць насур'ёз?» Яна так і пачырванела ад злосці, так і затраслася:

— Ды адкаснецеся вы ад мяне з гэтым Васілём! Ушалопалі ліха ведае што! Васіль, Васіль! Чхаць я хачу на яго і на яго сваты. Вам дорага яны, дык…

Зося хацела пусціць лаянку, але стрымалася. Мікола да таго раззлаваўся, што ажно пабялеў і як у сударзе затрапятаў; не мог нават уседзець на месцы і вылез з-за стала.

— Ці ты чуеш, Марта? Ці ты, маці, чакала? Ці я табе не казаў? Ласне можна патураць ёй, га? Ласне можна здавацца? — голасна, проста крыкам, падступаючы к жонцы ў мыцельнік, гукаў Мікола.

— Праўда, церасчур ужо зазналася… Ну, супакойцеся крыху… Ідзі садзіся, Мікола… Павячэраўшы…

Мікола павярнуў да стала, але не ўнімаўся з крыкам:

— Дык калі ж ты так, дык і я так! — гразіўся ён Зосі, садзячыся за стол. — Знай жа, галубка, што ты зробіш так, як я захачу, як я пастанаўлю, а не як ты…

Ён грукнуў кулаком па лаве, ажно Тэкля падскочыла.

— Будзе… яшчэ рана табе муштраваць нас; яшчэ рана хамут на шыю надзяваць… Пачакай, пабачым…

Зося маўчала; яе брала за жывое і ёй хацелася яшчэ раз якім словам кальнуць бацькоў, але нешта стрымала, заставіла змоўчаць, затаіць злосць у душы. Яна прыняла выгляд, што быццам нічога не прыкмячае, што нібы гэта не к ёй нават гаворыцца. Прыгнуўшыся над міскай, яна старалася чым скарэй кончыць вячэру і ўцячы з хаты, каб не чуць нічога і не бачыць.

Ёй усё гэта было адваротна і надаедна. Ці ж яна думала? Ці ж дагадвалася? Адкуль навісла над ёю гэта цяжарная ўдушлівая духата, засмуціўшы яе вочы, здавіўшы сэрца, прыліпшы да ўсяго цела. Цяжка, брыдка на душы!..

Не помнячы, што робіць, Зося вылезла з-за стала, падышла да ложка і прыпынілася, тут жа забыўшыся, чаму і па што яна сюды падышла. Потым быццам ёй хтось шапнуў, што тут ляжыць яе паўсачак, што яна падышла яго ўзяць. Зося накінула яго на плечы ды выбегла з хаты.

На вуліцы ўжо змеркла. Чэрвеньская ноч сходзіла на зямлю ў дзіўным пакою, у ружовых, смуглаватых затухаючых водблісках зайшоўшага сонца, у белай пары, якая паднімалася з зарэчных паплавоў, як кадзільны дым, ціха і далікатна. Змрок увачавідкі гушчэў, выпаўзаючы з усіх куточкаў ды прытулачкаў, распаўзаўся смялей і смялей. Цёплы і пахучы, здэцца, гэта ён выносіў з сабою на вольнае паветра з ачышчаючай пыл вільгаццю і лёгкасць, і пах, і спакой.

— Куды ж мне пусціцца? — сама сябе запытала Зося, выткнуўшыся на вуліцу; і толькі што ўзялася разгадаць, як раптам пачула:

— Куды ты?

Гэта клікнула Гэля, якая, прытаіўшыся, стаяла і чакала Зосю; Гэля з квадранец назад як падышла к акну; Прыдатныя яшчэ вячэралі, і яна мусіла пасядзець, пачакаць Зосю. Стукнулі дзверы — Гэля настаражылася.

Заўсёды вясёлая, рэзвая і смышлёная, чорная смуглянка, з бяздоннымі вачамі і прадаўгаватым носам на белым, армянскага тыпу твары, яна яшчэ выдавала сябе бядоваю жартаўніцаю. Заўсёды над кожным яна адпальвала якую-небудзь шутку. Паджартавала яна і над Зосяю.

— А каб цябе прогліца, каб цябе! — выклялася Зося на Гэлю, пачуўшы раптоўны крык і садрагнуўшыся, як асіна, ад знянацкасці.

Гэля покатна зарагатала.

— Табе смешна, дурніца, а ў мяне душа ў пяткі ўскочыла.

— А яй-яй, няўжо?

— Ну, куды пойдзем? — запытала Зося.

— Вядома, што да Ліня, — адказала Гэля.

Пабраўшыся за рукі і ссунуўшы касынкі на плечы, яны з ціхім напевам пусціліся ўздоўж вуліцы, проста да рынку.

## V

Заснуўшы, Рыгор так смачна спаў, што нават ніводнага разу не перавярнуўся з боку на бок, не хроп, як заўсёды, нават, здавалася, і не дыхаў, хоць было відаць, як яго шырокія здаровыя грудзі, грудзі зусім не дваццацідвухгадовага хлопца, а саракалетняга мужчыны, як гэтыя грудзі мерна ды паважна падымаліся ды апускаліся. Адна яго рука ляжала так, што пальцамі трымала вуха, а локаць выдаваўся на хату; другая рука працягнута ўздоўж усяго цела, траха не да самых калень проста выцягнутых ног. Коўдра прыкрывала яго да самай галавы і ляжала ўвесь час так, як палажыла яе маці. Хоць у хаце і гудзелі мухі, але ніводная, як згаварыўшыся, і не пасягла садзіцца яму на твар ці на руку. Многія нават і не падляталі блізка, а каторая знянацку спускалася, то толькі, здавалася, каб паглядзець на яго поўны, малады твар.

Стэпа, прылёгшы каля печы, спала не так смачна, не так спакойна, як яе сын. Старыя гады, пакутнае жыццё аднялі ад яе гэта. Некалькі раз яна паднімалася з полу, праходжвала па

хаце, падыходзіла да сынавай пасцелі, умільна і спачувальна ўзіралася ў яго заплюшчаныя вочы, абвітыя светла-шэрымі дугамі броў, у роўны, стройнага абрысу нос, у поўныя губы, у белыя валасінкі вузенькіх вусікаў. Узіралася падоўгу, запойна, і ў яе мацерыных грудзях кіпелі хвалі нявыказанай, нязмернай, не апетай нікім у канец любові к свайму адзінаму сынку. Гэта яе любоў разлівалася па ўсім целе, кіравала ўсім чуццём і думкамі і неабачным, схаваным ля вачэй праменнем пераходзіла з яе істоты ў Рыгораву. Ёй, Стэпе, перацярпеўшы столькі нядолі і пагарды і дажыўшы да таго, што яна мае свайго абаронцу, які ў кожны момант уступіцца за сваю мацеру, — ці ж не вялікае шчасце, ці ж не глыбокая радасць?

«Чаго хацела — таго і дачакала!»— і вольна і бязвольна шапталі яе губы, цюкала сэрца.

І хоць уперадзе бачылася і чакалася старасць, і хоць зналася добра, што працаваць трэба будзе і тады, мо аж да самай смерці, бо не працаваць, сядзець нядбайна, — ці ж можна? — хоць зналася гэта, патом нічуткі не пужала яе, нічуткі не суміла яе думак і надзей.

У густым сплёце жаданняў і радасці Стэпа прысядала на лаўцы ля акна, абапіралася барадою на далонь рукі і глядзела ўперамешку: то на пол, то ў акно.

Рыгор соладка спаў, — гэта на палу, а на двары — бегалі дзеткі, разадзетыя ў чыстыя, а некаторыя і ў новыя танныя гарнітурчыкі, важна праходзілі знаёмыя і незнаёмыя мяшчане і мяшчанкі. Чуўся крык і гоман воддыхнага вулічнага жыцця, але ўсё гэта праходзіла паўз яе, мэрам бы якая далёкая і таемная здань мала ёй цікаўная і зусім яе недатычная.

Ад акна хвіліна ў хвіліну цягнула яе к полу, туды, дзе спаў Рыгор. Стэпе здавалася, што не толькі яна, яго маці, з усёю істотаю аддаецца сёння сыну, а і ўся хата, кожная рэч у хаце, усё-ўсё, што яна бачыць вакол сябе, нячутнай мовай вітае госця: дзве вешалкі, палічка ў мыцельніку, вярбінка з-за акна — уперыліся адным супольным ласкавым узрокам на Рыгора. Калі для ўсіх адпачынак — то для Стэпы ён і свята разам!

У салодкім пачуцці, у праявах ружовых мар, у абдыме надзейных думак Стэпа зусім не прыкмеціла, як скончыўся дзень і ўцякло сонца з хаты, а на змену яму паціхутку пачаў уваходзіць змрок падходзіўшай ночы. У яеваччу і без сонца ўсё сіяла, радавалася і смяялася…

Стоячы ў акне, Стэпа прыпомніла, што Рыгор, лажучыся спаць, прасіў разбудзіць яго на змярканні; успомніла і нібы

перапужалася, ці не дала толькі яна пераспаць яму, ці не абманула яго. Адвярнуўшыся ад акна, яна хутка падышла к полу, далікатна кранула Рыгоравай рукі і спынілася.

«Шкода будзіць, — прашаптала сама сабе: — так смачна спіць сынок мой. Але ж ён прасіў няйначай разбудзіць яго». Потым пачала будзіць, прыказваючы: «Рыгор, Рыгорка! Устань, сынку! Ты ж прасіў абудзіць цябе».

Рыгор моцна спаў і ляжаў не варушачыся, потым раптам павярнуўся і расплюшчыў вочы.

— Уставай, сынку, — пазвала маці мацней. Рыгор пытальным узрокам акінуў маці і салодка пазяхнуў. — Ужо вечар, Рыгорка! Ты прасіў абудзіць! — перасказала Стэпа, бачачы, што Рыгор не ўстае.

— Помню, помню, маці, зараз устану! — адказаў ён і злез з пасцелі. — Вось выспаўся, дык выспаўся, — задаволена прамовіў Рыгор і пайшоў к мыцельніку.

Стэпа дагадалася, што Рыгор хоча памыцца, і спешна апярэдзіла яго; хапіла пітнічок, выбегла ў сені, начэрпала ў вядры вады і ўнесла ў хату: потым падставіла макацёр і сама паліла Рыгору на рукі.

Рыгор памыўся, выцерся і пачаў апранацца. Стэпа і тут падсабляла сыну, стараючыся паказаць сваімі ўслугамі, наколькі яна любіць і цешыць яго. Але Рыгору не трэба было нічога гэтага, бо ён і так добра адзнаваў і ведаў усё тое, што сядзела ў мацерыным сэрцы…

— Не турбуйся, маці, я сам, я сам, — стрымліваў ён.

Апрануўшыся, Рыгор выцягнуў з-пад лавы куфэрак і, адамкнуўшы яго, дастаў два маленькія вузельчыкі. Падаючы іх мацеры, ён праказаў:

— Вось вам, маці, гасцінец! Тут хустачка з кабатом, а гэта — мэшты: а ў дабавак яшчэ гэта, — прыкладаючы з вузельчыкам некалькі зялёненькіх паперачак, праказаў Рыгор.

Расплываючыся ад радасці, усё гэта ўзяла Стэпа з рук сына, кінулася к яму і моцна і шчыра пацалавала яго ў шчаку.

— Дзякую табе, дзіцятка маё! — толькі і прамовіла.

Далей слёзы затрымалі словы, і яна змаўчала.

З паўгадзіны ў хаце было так ціха, што чуваць было, як бзынкалі мухі, як шамацелі тараканы за печчу…

Чуваць было, як два родныя сэрцы, мацеры і сына, цюкалі ў грудзях, кіпучы хвалямі мацнейшай любві — мацеры к сыну і сына к мацеры.

Рыгор першы загаманіў:

— Дайце мне, мама, перакусіць чаго.
— А чаго ж табе даць, сынку?
— Што ёсць у вас.

Стэпа рухава пабегла ў мыцельнік і прынесла на стол кусок тае самае булкі, што ў абед не даелі, а да яе наліла кубак малака і падала сыру.

— Выбачай, Рыгорка, што больш нічога не прыпасла. Заўтра згатоўлю, — просячы ўважыць за ашчаднасць, за немагчымасць чымсь і як найбольш дагадзіць сыну, праказала Стэпа.

— Ды нічога, нічога!! Не клапацецеся вельмі так, маці, — супакоіў Рыгор. — Хопіць з мяне, што ёсць, — дабавіў ён.

Перакусіўшы, Рыгор вылез з-за стала і выйшаў з хаты.

Стэпа прайшла за ім у сенцы, высунула нават галаў на двор і стаяла датуль, пакуль Рыгор не схаваўся з яе ваччу.

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

### I

Хата Ліня стаяла на рагу Тыльнае вуліцы, пры павароце на Магільны перавулак на Лешы. Дарога Рыгору ляжала траха не цераз усё мястэчка. Да свайго выезду з Сілцоў Рыгор, як і ўсе сілцоўцы, добра знаў, дзе знаходзіцца кожная хата, цяпер жа, пасля двух гадоў адсутнасці, ды яшчэ ўвечар, яму цяжкавата было ўспомніць розныя дробязі і тым болей, што за апошнія гады многа чаго пераіначалася ў Сілцах: так мо разоў пяць траплялiся пажары і нішчылі цэлыя вуліцы мястэчка, а адзін самы большы з пажараў, які трапіўся спусціўшы год пасля Рыгоравага ад'езду, так расстроіў быўшы да пажару план Сілцоў, што не толькі чалавеку ў Рыгоравых умовах, а і заўсёдным жыхарам неяк ніякавата было глядзець на новую перапланоўку Сілцоў. Толькі Рыгор выйшаў з свайго двара і дайшоў да Перасечнага перавулка, як зразу спыніўся і пачаў меркаваць: «Можа, яшчэ далей трэба прайсці па вуліцы, а мо сюды павярнуць направа? Не ведаю!.. Напрапалую павярну ў перавулак!» — рашыў ён і павярнуўся тылкам да вуліцы.

На правым ад яго баку, выязджаючы з Сілцоў, ён пакінуў, наколькі помніць, старую разваленую карчму Лейбы Бляхара, які так любіў свой куток, што не пакідаў прадаваць гарэлкі пад страхам быць задушаным праваленай страхою. Насупраць Лейбавай карчмы жыў другі, знаёмы яму яўрэй — Шолам

Стрэльба, самы важны майстар-шапачнік. Як на карчме Лейбы, так і на хаце Шолама былі прывешаны шыльды, размалёваныя ўсякімі хварбамі, розных формаў і гатункаў шапкамі ў Шолама і пляшкамі ў Лейбы.

Калі б хто ні мінаў гэтага месца, заўсёды пазіраў на шыльды. Рыгор следаваў агульнаму прыкладу. Ён і цяпер паддаўся гэтаму. Але, зірнуўшы на капяжы хат, Рыгор, хоць і ўпоцемку, скмеціў, што бывалашніх іх прыкрас няма ды і хаты нейкія зусім другія.

І далей Рыгор не пакідаў з цікавасцю, паколькі магчыма было ўвечары, раззіраць вакол сябе, патроху пазнаючы і ўспамінаючы некаторыя дэталі сілцоўскіх выглядаў: вось, здаецца, новенькі плот Сюцькі, а вось, бадай, Гляк гумно паставіў, а вунь, напэўна, і Шчыглава хата.

Яго меркаванні падыходзілі да сапраўднасці, бо Шчыглава хата, нейкім дзівам зацалелая ад вялізарнага пажару, як і калісь, рабіла сабою рог на Перасечным перавулку ля Падаўжной вуліцы. «Цяпер не заблуджу», — уверана падумаў Рыгор, завярнуўшы на Падаўжную, дзе ўжо ён кінуў разглядаць па баках ды лавіць перамены, а пайшоў смела і ўверана.

На вуліцы шпацыравала шмат моладзі, хлопцаў і дзяўчат.

Ён пачаў прыслухоўвацца да вясёлае рэзвае гутаркі, думаючы па ёй пазнаць каго-колечы ад знаёмых. Гэта адцягнула яго ўвагу, і Рыгор не прыкмеціў, як зраўняўся з Яўрэйскім перавулкам, які перасякаў толькі адну вуліцу і, быццам баючыся кагось, зварочваў направа ды ўцякаў у другую.

Гэты перавулак быў новы, пралажаны пасля пажару, і Рыгору паказалася, што ён заменьваў сабою Мокрую вуліцу, якую па новаму плану скасавалі.

Параўняўшыся з Яўрэйскім перавулкам, Рыгор спыніўся: «Нічога не будзе, трэба запытацца ў каго-небудзь», — рашыў ён. Як на тое трэба, з боку сябе ён угледзеў прабягаўшага хлапчука, штось дудунючы сабе пад нос.

— Гэй, хлапец, пачакай адно! — пазваў яго Рыгор.

— А што дзядзьку трэба? — адазваўся хлапчук.

— Скажы, браток, як гэта прайсці на Лешу?

— А ласне вы не тутэйшы?

— Тутэйшы не тутэйшы, табе ўсё роўна, толькі скажы.

— А скажэце, скуль вы будзеце? — не згаджаўся пілявы хлапчук.

Рыгор уступіў цікаваму хлапчуку і жартліва сказаў:

— Я смалінскі.

— А чаго вы прыехалі? — пытаўся далей малы.

— Не дурыся, шалапут, та дам капейку на цукеркі.

Хлапчук узрадаваўся і падышоў блізка к Рыгору ды выцягнуў руку. Рыгор дастаў з кішэні капейку і падаў яе хлапчуку.

— Вось ідзеце гэтым перавулкам да канца, потым павернеце направа па вуліцы; затым увойдзеце ў другі перавулак, а там ізноў на вуліцу; далей спусціцеся з горкі і пойдзеце проста-проста да павароту, і там пачнецца Леша… — намалоў хлапчук і знік.

Рыгору апісаная хлапчуком дарога зразу дапомніла знаёмыя мейсцы, і ён пусціўся ісці.

Жукавая вуліца, у якую ўваходзіў Яўрэйскі перавулак, была ціхая і пустая: агонь быў стушаны ва ўсіх хатах, а на вуліцы не чуваць было жаднага зыку, не спатыкалася ніводнага чалавека. З другіх канцоў мястэчка даносіліся да яго вушэй стройныя песні моладзі, крык і выгукі. Рыгор прыслухаўся да знаёмых яму песень і варочаў у памяці нядаўняе мінулае, зараз далёка адляцеўшае ад яго і не выклікаўшае ў ім тых пачуццяў і настрояў, якія яму былі ўжыўны да паездкі і жыцця ў горадзе. Цяпер ён лішні раз адчуў, што ў яго жыцці прайшла высокая мяжа, паабапал якое два розныя светы. Той свет, у каторым ён жыў да паездкі ў Рыгу, страціў сваю цнотную цікавасць, пашарэў і пахаладзеў. Той другі, з якім ён сустрэўся ў шумным бурлівым горадзе, сярод тысяч рабочых, новых для яго людзей, у заводскіх майстэрнях — гэты свет запаланяў яго нутро, заварожваў думкі і пачуццё. Рыгор адчуў, што тая прага наведаць Сілцы, з якою ён прасіўся на адпачынак, канцэнтравалася амаль выключна на жаданні ўгледзецца з маткаю, Зосяю ды з таварышамі. Іншыя матывы прадстаўлялі сабою нешта нямоцнае, крохкае, аджываючае. Грунт, на якім ён рос і гадаваўся, выглядаў кладкаю, пакладзенаю для пераходу з аднаго берага на другі. Калі давялося вярнуцца назад, то не для таго, каб гэта паўтарацць часта, шкадуючы пакінутага, а з тым, каб яшчэ раз паглядзець на тое, што, магчыма, назаўсёды пакідаецца… І раптам прагучэўшая песня дзесьці ўлева ад яго паказалася Рыгору дужа мізэрнай і ціхай, калі ён перакінуў сваю думку ў грымлівыя сцены рыжскага завода… «Так, маці, Зося, Сёмка і Пятрусь, якіх мне даводзіцца зараз мо апошні раз бачыць у Сілцах», — падумаў Рыгор і пачуў:

— Рыгор! Куды ты?

Рыгор міжвольна адступіўся назад.

— Ха-ха-ха! — пачуў захлёбісты рогат. — Вось, брат, табе горш як Рыга, — праказаў нечаканы жартаўнік, у якім Рыгор адразу пазнаў Сёмку.

— А каб ты аглуздзеў, як я… Цьфу, каб ты прапаў! — вылаяўся Рыгор. — Ці ж гэта ты знарок дагэтуль стаяў за плотам ды пільнаваў мяне?

— Знарок — не знарок, а гэта табе за тое, што ты такі пэўны. І дзе ж ты быў так доўга? Заблудзіў ці якое ліха?

— І заблудзіў, і праспаў, што ж рабіць… Вунь зайшоў у другі канец Жукавай вуліцы, ледзьве выбраўся.

— А ты думаў — жарты? — пасмяяўся Сёмка.

— Але…

— А мы з Петрусём ужо прачакаліся цябе і рашылі, што ты не прыйдзеш; на ўсякі выпадак я і выйшаў страчаць.

— О, не! Хоць бы яшчэ гадзіну блудзіў… А Пятрусь дзе?

— Ды там, у Ліня.

— А Зосі няма?

— Чаму не, і Зося там; нават і Бераг Васіль не забыў прыйсці. Поўная хата хлопцаў і дзяўчат.

— Няўжо і Васіль там? Мусібыць, ён не ведае яшчэ, што я прыехаў?

— Я зусім іначай думаю: ён загэтым і прыйшоў, што праведаў аб тваім прыездзе; ён так напужаўся гэтым, бадай што не адстае ўжо ад Зосі.

— Як гэта? — пацікавіўся Рыгор.

— Да так: не сягоння-заўтра сватоў пасылае к Прыдатным.

— Няўжо? Ці то можа быць?

— Што? Сумляваешся?

— Не верыцца.

— Павер.

— А Зося як глядзіць на гэта?

— Ды што Зося? Тут, брат, не ў Зосі рэч, тут сам Мікола кіруе ўсім… Па Зосі — ніколі б гэтага не было, бо яна яго не любіць, але, мне здаецца, не хопіць у яе сілы паперашкодзіць бацькавай волі; смеласці не хопіць. А бацькі так цвёрда паставілі звязаць яе з Берагамі, што, бадай, ніякія рады не памогуць. Свая хэўра, знатнасць! Рука к руцэ цягне… Дзедзічы!..

Рыгор задумаўся. Берагі выклікалі ў яго нутры агіду і адваротлівасць.

— Дык, па-твойму, мне мо зусім не варта і мяшацца? — упэўніўся Рыгор.

— Чаму не варта мяшацца? Наадварот: ты стань так, каб быць плотам, цераз каторы нізашто б не пераскочыў Васіль. Хай сабе там бацькі таргуюцца ды радзяцца… Я ведаю добра, што

Зося да цябе мае найлепшыя адносіны. Павер мне: колькі разоў яна мне прызнавалася, адкрыта, не саромеючыся. Цяпер чакала цябе, як мешыяса. Толькі, вядома… местачковая дзяўчына…

Рыгору таварышавы словы лісцілі, і яму хацелася скарэй убачыць Зосю.

— Мне таксама здаецца, што да мяне Зося адносіцца нядрэнна. Яна мне заўсёды пісала ў лістах, клялася, завярала ў прыязненным пачуцці. Але… ты ведаеш сам. Хоць, скажу табе, у мяне і намеру таго няма. Тут ідзецца не на тое, каб мне завалодаць Зосяй! Тут галоўнае ў тым, каб выбавіць яе ад небяспекі папасціся ў лапы гэтага паскудніка… Зося — добры чалавек і прыгожая дзяўчына. І было б крыўдна, каб… ды мне ў гэтым выпадку спрачацца з Берагам нялёгка.

— Чаму? Якая прычына ў тым, што ты не можаш з Берагам паспрачацца? — запытаў Сёмка.

— А таму, што я — пралетар, наймюшчы чалавек, а ён — усё: і знатнасць, і багацце. А без гэтага ў Сілцах нікуды носа не паткнеш. Чуў, здаецца, як бывала Радзівон нам казаў: «Тады я за цябе аддам сваю дачку, калі ты будзеш мець у тры разы больш, чымся яна мае». А што яго за дачка? Ды сам ён зусім нераўня Берагам. А я што? Кожны помніць мяне балаголам, кожны не забыў пастуха.

— Плюнь на ўсё. Што табе бацькі… А ў выпадку чаго і Зося…

— Ясная рэч, — кіўнуў галавою Рыгор.

Сёмка ўзяў яго пад руку, і яны, прытуліўшыся плячом к плячу, пайшлі да Ліня.

За пяць-дзесяць крокаў ад іх, у шэрані ночы, чорнаю сцяною абмулёўвалася нелапая, у тры акны, выпускаўшая з сябе шырокія пукі святла, хата. З двара, які заварочваўся з вулкі і дугою абгортваў вулічны бок хаты ды падымаўся крыху пад горку, таксама выбягалі вузенькія палоскі прамення. Роўныя высокія таполі і чорныя маладзенькія густыя ялінкі, што роўненька, уперамешку раслі паўз платы, агараджваючы двор, стройнай густой сцяною баранілі з паўдзённага боку жоўтую саламяную страху ад вятроў і выпадковых пажараў.

З глыбі двара да іх даходзіў звонкі рогат і рэзвы гоман, якія раптоўна на хвілю-другую, калі хто прачыняў сенішнія дзверы, станавіліся яшчэ зычнейшымі, вясёльшымі, а як зачынялі — цішэлі.

— Чуеш, што за ігрышча там? — запытаў Сёмка. — Вось гэта і ёсць Лінева хата. Дзівіся!

— Гэта?

— Але.

— Ну, дык зразу павернем ці перш паглядзімо? — запытаў Рыгор, якому ніякава стала ад таго, калі ён падумаў, што ўсе на яго вырачаць вочы і пачнуць ахаць ад яго неспадзяванага прыходу.

— А чаго ж саромецца, ідзем.

І не паспеў Рыгор азірнуцца, як яны ачуліся ў сенцах.

Сапраўды, Рыгораў прыход для ўсіх прысутных, апроч Петруся, Зосі ды Гэлі, быў зусім нечаканым. Умомант сціхлі песні, скончыліся жарты, збіліся ў кучу скокі, і ўсе як адзін, згрудзіўшыся ў гурток, устрамілі вочы на Рыгора. Пятрусь, які перш не хацеў таўхацца ў гурце, таксама пралез к Рыгору і пачаў спавядаць яго за тое, чаму ён спазніўся і так доўга не прыходзіў. Пасля Рыгора пачалі горача вітаць. Нават многія, якіх Рыгор не помніў і якія Рыгора мала знаалі, не адставалі ад усіх. Толькі адзін Васіль стаяў нааддалёк, ля жарон, і, адвярнуўшы галаў, задумана азіраў сцены, столь і чатыры старыя аблезшыя абразкі.

Рыгора гэта спатканне лісціла. Ён не чакаў, каб яго прыходу аддалі гэткую ўвагу. Здзіўлена, з няскрытым задавальненнем ён міла паглядзеў на ўсіх. Але, калі яго ўзрокі спаткаліся з Васілёвымі, то той варожа адвярнуў галаў. Рыгор скмеціў гэта і яхідна ўхмыльнуўся.

— Зося! — клікнуў ён, калі ўсе вярнуліся да перарваных гульняў.

Зося падышла і гасцінна прывіталася.

— Калі ж ты прыехаў? — запытала яна.

— Сёння, у абед, — адказаў Рыгор.

— І паспеў ужо барзджэй сюды прыбегчы? — смяшліва праказала Зося.

— Цябе захацелася ўбачыць, — пажартаваў Рыгор.

— Вось памалу толькі, — адказала Зося, — падзівіся толькі, як вораг твой на цябе пазірае, — пажартавала яна.

Рыгор усміхнуўся і кінуў вёрткі ўзрок у бок, дзе стаяў Васіль, якому, відаць, было не да скокаў і не да жартаў.

— Буду мець гэта на прымеце, — адказаў Рыгор. — А ўсё-такі, можа, мы выйдзем крыху прайсціся? — запрапанаваў ён Зосі.

— Чакай, мы зробім так, каб усё выйшла гладка: ты пастой ці пасядзі крыху, а я скажу Сёмку, і праз колькі хвілін мы з ім выйдзем на двор, а потым спяшы і ты, — растлумачыла Зося.

— А ласне ты баішся Васіля? — запытаў Рыгор, якому план Зосі паказаўся крыху прыкрым.

— Не, ай-ай! І чаму ты не хочаш зразумець? Нашто ж, няйначай, каб усе бачылі? Ты ж ведаеш: назаўтра па ўсіх Сілцах разнясуць.

— А ты баішся?

— Не тое, але…

— Дзіўна, аднак.

— Ну, ты ж бацькоў маіх павінен ведаць.

Рыгор змоўчаў. Зося кінулася ў гушчу моладзі і пачала шаптацца з нейкім незнаёмым Рыгору хлопцам.

Перад Рыгорам мігаліся: Пятрусь з Гэляю і Сёмка; Хірысон Пуза таптаўся тут жа… Але між усімі ён сцярог толькі Зосю, не спускаючы яе з вачэй: зрэдку ён яшчэ пазіраў на Васіля, каторы ўжо тупаў па сенцах, аб чымся гутарачы з выйшаўшым у сені Янкам Грыбам… Хвіліна ад хвіліны Васіль пазіраў на Рыгора, штосьці паказваючы Янку. Раптам яны выйшлі і праз квадранец вярнуліся назад.

Гэтыя Васілёвыя манеўры настаражылі Рыгора: ён дагадваўся, што Васіль хоча яму нешта падстроіць, але яму было смешна з гэтага.

Рыгор бачыў, як гэткую ж насмешку з Васіля састроіў і Сёмка, вывеўшы ў яго на вачах Зосю з сянец.

Васіль, астаўшыся ў дурнях, падаў выгляд, што не заўважыў гэтага, але пільна сачыў за Рыгорам, пакуль той не пакінуў зборні.

На вуліцы стаяла поўнач, і маладзік у апошняй квадры толькі што вылез з-за лесу. Хоць ён быў і тоненькі-вузенькі, як сярпок без ручкі, усё-такі ад яго было даволі відно.

Рыгор мерным ступам, не спускаючы вачэй, накіраваў уздоўж вуліцы і праз хвілін дзесяць, не болей, апынуўся на загіне, дзе спыніўся і пачаў раззіраць па баках. Сёмкі з Зосяю не відаць было. «Дзе б яны згінулі? Бадай, чакалі-чакалі мяне і пайшлі далей», — рашыў ён і наўдагад павярнуў направа, пад Алюстратаву хату. Ішоў ціха, над нечым думаючы, і сумеўся, як раптам з-пад плота чыйгосьці саду яго пазвалі:

— Куды ты?

Рыгор хутка спыніўся і агледзеўся на вокліч: к яму падходзілі Сёмка з Зосяю.

— Куды ты так разагнаўся? — смеючыся, запытаў Сёмка.

— А хто вас ведае, куды вы схаваліся і дзе вас шукаць! — адказаў Рыгор.

— Вось трэба было пачакаць крыху на загіне — і мы вярнуліся б, — весела паведаміла Зося, падышоўшы так блізка к Рыгору,

што той пачуў яе цёплае ап'яняючае дыханне і ўгледзеў белы, чысты, прыгожы твар. Сёмка выпусціў Зосіну руку і адступіў крок назад.

— Я пайду, хай вам добра гуляецца! — пажартаваў ён і развітаўся.

— А Гэля там, бадай, адна застанецца? — запытала Зося ў Рыгора, калі Сёмка быў ужо ваддалёк ад іх.

— Нічога, Сёмка яшчэ яе застане там, ды і Петруся я пакінуў, здаецца, у Ліня.

Адказаў Рыгор на Зосіна запытанне, потым змаўчаў: не то не прыдумаў, з чаго б усчаць новую гутарку, не то і меў што казаць, ды не хацеў, чакаючы першага слова ад Зосі.

Зося таксама маўчала…

Але, калі іх языкі не варочаліся і не выпускалі губы зыкаў, затое маладыя гарачыя сэрцы абменьваліся шчырым, цёплым, поўным кіпучага агню пачуццём; раз'юшана біліся яны ў тахт адно другому, быццам рваліся выйсці з грудзей і зліцца ў адно. Як Рыгор, так і Зося адчувалі гэта, ведалі, і чатыры зыркія вокі, скрыжаваўшыся сваімі ўзрокамі, паказвалі гэту ведамасць.

Калі яны крануліся ісці, то Зося міла пахіліла голаў на Рыгорава плячо, а бокам шчыльна прыліпла к яго руцэ.

Непрыкметна для саміх сябе яны падышлі к самаму канцу вуліцы, з якой пабегла дарога ў поле.

З самага краю вуліцы, па левым яе баку, стаяла падбудаваная, яшчэ зусім прыстойная хата, з двух бакоў асаджаная тоўстымі бярозамі і клянінамі, уперамешку з садовымі дрэўцамі. Калісь, як Рыгор успомніў, у гэтай хаце жыў Міхась Цвік, а пасля смерці, калі той запісаў яе свайму ўнуку Кастусю, у яе мусілі перабрацца нейкія шляхты з суседняга з Сілцамі засценка. Хто ж цяпер валадае гэтаю хатаю — Рыгор не ведаў, ды не вельмі і цікавіла яго ведаць.

Ля хаты з вуліцы была пастаўлена лаўка, над якой вісеў нізкі, шырокі капеж, як казырок. Вокны ў хаце яшчэ былі не адстроены, а прыкрыты новымі, прывешанымі аканіцамі. Параўняўшыся з хатаю, Рыгор запрапанаваў Зосі:

— Можа, прысядзем?

— Такі прысядзьма, хоць ужо і позна на дварэ.

— А табе заўтра трэба рана ўставаць?

— Не ведаю, мо бацька і ўспора.

— Ну, дык ідзем дамоў?

— О, не, не, не!.. Што ты кажаш! Я рада, што цябе ўбачыла.

Яны прыселі ля тыльнага вугла, у месцы, куды збоку густая кляніна зганяла ўжо разыходзячыся змрок.

— Як жа хаця ты маешся, Зося?

Яна ўсміхнулася.

— Ды няма чаго скардзіцца: жыва, здарова: бачыш, якая тоўстая стала, хоць у саху. Вось ты там як гадаваўся?..

— Што аба мне пытаць: не хочацца нават і ўспамінаць нічога. Калі паверыш мне, усе мае думкі сходзіліся на адным: угледзець цябе як хутчэй.

Зося з умільнасцю паглядзела на Рыгора і шчыльна прыціснулася да яго.

— А каб ты ведаў, Рыгор, як я цябе чакала! Проста ўрымсціцца не магла… Дні гнала, гнала ночы — а сённі, ідучы раніцою паўз хату — знарок думала забегчы да мацеры запытаць, ці не прыехаў ты… А калі Пятрусь, забегшы па дарозе ад цябе к нам, паведаміў, што ты прыехаў, я душою ўжо была ў вашай хаце, з табою.

Рыгор палажыў на мяккай Зосінай шчацэ пякучы пацалунак.

Зося адказала на гэта крэпкім ціскам яго рукі. Але гутарыць не хацелася ніводнаму. Мэрам бы ўсё было вядома і зразумела, хоць яшчэ нядаўна кожнае з іх збіралася гаварыць да бясконца. А зараз, мэрам бы хто адцяў языкі, і яны сядзелі, шчыльна прытуліўшыся адно да другога, чужыя хараству ночы і заварожаныя яе цішынёй.

А на вуліцы паходзіла на тое, нібы ўсё прыслухоўвалася да іх, чакаючы, калі яны загутараць.

Але яны маўчалі, не патураючы на тое, што там высока пад чароўным уборам неба ўжо займаюцца досвіткі, бялее ўсход, на паплавах і ў полі паднімаецца лунь і адзінокі, астаўлены зорамі месяц да таго збляднеў, што трудна яго адлічыць ад небнай сівізны.

Іх мо захапіў бы на гэтай лаўцы і першы прамень узышоўшага сонца ці рана ўстаўшы і накіраваўшы азіраць сваю палоску рупны гаспадар сілцовец, або кемкі ўзрок клапатлівае гаспадыні з суседняе хаты, каб раптоўны зычны гук, данёсшыся з другога канца мястэчка, не перабіў іх маўчанне.

— Што там? — усхапіўшыся, трывожна запытала Зося.

— Ды нічога, нічога, — супакоіў яе Рыгор, — мо які падпіўшы буян разгарланіўся.

— Хаця б не пажар толькі?..

Тым часам крык паўтарыўся яшчэ некалькі раз, пачаў набліжацца, а потым разам сціх.

— Гэта, бадай што, хлопцы расходзяцца ад Ліня, — дагадвалася Зося.

— Ці то можа быць? Ласне? — дзівіўся Рыгор.

— Вось дзіва. Там гульня ідзе цалюсенькія ночы.

— Калі так, то, бадай што, хлопцы.

Зося паднялася з лаўкі і паглядзела на неба.

— Глядзі, рассвіло. Ці не пара і нам, Рыгор, ісці дахаты?

Рыгор акінуў яе замілаваным узрокам і засмяяўся:

— Два гады не бачыліся, а стрэліся і гаварыць нечага… І хутчэй расходзіцца…

— Бо ты ж павінен быў мне расказаць навіны, а між тым — ні слова…

— Я чакаў тваіх навін.

— Маіх навін! Смяешся, Рыгор. Адкуль яны ў мяне?

— Такі ніякіх і няма?

Зося сарамліва апусціла вочы.

— Ты намякаеш мо на тыя чуткі, што пускаюць па мястэчку? Плюнь, Рыгор.

— Гэта не сур'ёзна?

— Не можа быць сур'ёзна… Эх!..

— Ну ідзем!

— Ідзем!

Яны рушылі ўсцяж вуліцы.

З поля дзьмула свежым халадком, прабірала вільгаццю.

— Табе холадна? — справіўся Рыгор.

— Нічога, зайду дамоў… Дык ты верыш, Рыгор, пушчаным чуткам?

— Або яны не праўдзівы?

Зося нічога не адказала.

— Чаго маўчыш?

Яна паціснула плячыма.

— Людское жыццё складаецца часамі зусім ад іх незалежна.

— Няўжо так будзе і з намі? Я б таго не жадала.

— Вось гэта мне падабаецца. Калі ў цябе маецца сіла волі, то ты можаш яго павярнуць іначай, у другі бок…

Рыгор паглядзеў на Зосю, чакаючы, што яна адкажа.

— Не думайма аб гэтым, — пачала яна. — Ведаеш, Рыгор, я б, здаецца, ішла з табою так бясконца, несупынна, хоць да таго месца, дзе ёсць канец зямлі, дзе б сіняе неба не загарадзіла нам пуціны. Павер, што ў табе адным зышліся ўсе мае жаданні. Мне цяжка робіцца, калі я падумаю, што ўсё можа раптоўна рушыцца, разбіцца на дробненькія кавалачкі, і я застанусся ні з

чым, адзінотаю, як апалы з дзярэўца лісток, замецены ветрам кудысь далёка на сметнік… А гэта ўсё можа стацца. Але, не… што я. Не падумай, Рыгор, нічога дрэннага. Я… я буду змагацца да канца. І можа, толькі не хопіць сіл ці не знойдзецца дапамогі збоку — тады пішы прапала. А калі залежыцьме ад мяне, то павер, што я — без бойкі не здамся…

Рыгор настарожліва слухаў Зосю і цешыўся, што яна хоць у гутарцы ды мае гэткія дадзеныя, якімі не сорамна пахваліцца каму не хоць. Гэта новаадкрытая Зосіна ўласцівасць дабаўляла яго пачуццю новае сілы і глыбіны. Ён захапляўся думкамі, як павярнуць справу так, каб іхняе знаёмства не кончылася ўпустую і не паслужыла козырам для тых, хто яго ненавідзеў, як ворага, і каго ён лічыў тым жа. Зося як быццам бы давала на гэта права, калі верыць яе словам, але, сапраўды, ці ўсё залежыць ад Зосі? Можна было адчуваць, што ў ёй маюцца добрыя парывы, што яна не дазваляла і думаць, каб там, у яе за плячыма, гаспадарылі яе доляю, каб таргавалі яе любоўю, хочучы абмяняць на нейкую дзьмутую і няясную ёй знатнасць ды славу, каб з яе пачуццём, як з картамі, гулялі…

І хоць многія, пачынаючы ад бацькоў і канчаючы Гэляю, напаміналі Зосі аб Васілёвых сватах, якія маюцца хутка адбыцца, яна нядбайна махала рукою і гневалася за тое, што ёй надазаляюць «ліха ведае чым».

Цяпер жа, калі гэта «ліха ведае што» зноў з'явілася перад ёю, пачутае з вуснаў Рыгора і атруціўшае шчасліва перажытыя квадранцы, Зося не на жарты задумалася, нават пасумнела і доўга не магла нічога сказаць…

Папраўдзе: што ж яна зробіць? Не пойдзе замуж за Васіля, ды і годзі? Так бы то яна сумела зрабіць, каб была адна, сама сабою, а то ж яна жыве з бацькамі, у сям'і, ды бацька яе такі злы і настойны… Бацькава воля вісіць над ёю. Бацька! О, бацькі!..

«Але ж я магу слухаць іх, як бацькоў, датуль, пакуль яны не запатрабуюць ад мяне болей, як ад дзіцяці, — думалася Зосі. — Ну, а калі яны пераступаюць гэта, намерваюцца нават заляйцаць мяне, каб кіраваць, як бессвядомай жывёлай, — я пакідаю ўжо быць іх дзіцём. Магу запратэставаць, маю права ўступіцца за сябе, як за самастойнага і непадлеглага чалавека».

Гэтыя і падобныя ім перадумы зблытвалі перад Зосяю неразвязны вузел задач, і яна мучылася няпэўнасцю ў адказе Рыгору. Каб абмінуць гэта, Зося парадзіла:

— Не атручвайма, Рыгор, шчаслівых хвілін. Мы жывем пакуль бягучым.

— У гэтым так мала ўцехі…

— Маўчы, прашу я…

І яна зноў задумалася.

— Я ўсімі сіламі буду змагацца, каб наша шчасце надалей працягнулася, — пасля некалькіх мінут змоўку праказала Зося.

Рыгор нічога не адказаў: і большага ён ад Зосі патрабаваць не мог; не мог, бо знаў, што на большае — трэба больш сіл, а ў Зосі іх бракуе.

У яго з'явілася жаласць да Зосі: ці ж не даволі яе слоў для таго, каб паверыць ёй, што яна глыбока пакутуе?

— Дык заўтра сустрэнемся? — запытаў Рыгор, перакінуўшыся думкаю ў заўтрае.

— Няйначай, няйначай!

— А дзе?

— Дзе толькі ты хочаш і калі ты хочаш…

— Мне здаецца, лепей усяго ў хвойніку… Прыходзь так гадзіне а чацвертай, буду чакаць цябе ля сценкі, з берага…

Яны падыходзілі к хаце Прыдатных.

— Прыйду, прыйду, — заверыла Зося, моцна паціскаючы яго руку.

— Буду чакаць!

На гэтым яны разышліся. Зося схавалася за вуглом, у двары, а Рыгор, крыху пастаяўшы, накіраваў дахаты.

## II

Васіль бачыў, калі Сёмка вывеў Зосю з сянец, бачыў таксама, як выйшаў і Рыгор, але нічому гэтаму ён не мог паперашкодзіць, а таму зрабіў выгляд, быццам гэта яго і не цікавіць. «Што за наўда? Вось выйшаў, пройдзе з ёю раз-другі на дварэ ды зноў вернецца ў сенцы… Ды ці пойдзе яшчэ Зося з Рыгорам? Нябось, бацька так нашколіць за гэта, што толькі сцеражыся. Чаму ёй не знаць гэтага, — знае, добра знае. Нічога, нічога…»— супакойваў сам сябе Васіль.

Тым часам мінула з гадзіну, а ні Сёмка з Зосяю, ні Рыгор не варочаліся. Васілю гэта стала рупіць і неспакоіць…

— А можа, і мы пройдзем крыху? — запытаў ён у Янкі.

— Куды пройдзем? — перапытаў той.

— Ды вось… ведаеш… бач, я хацеў бы яшчэ сённі бачыць Зосю.

— Ці ж яна не вернецца?

— Вернецца… толькі…

У гэты момант у сенцы раптоўна ўбег Сёмка. Жывы, вясёлы, ён, як заўсёды, унёс ажыўленне сваімі жартамі і частушкамі.

Васіль кінуў першы план, змоўк, зрабіў сярдзітую міну на твары і задумаўся: «Дык, значыць, тут такі хітрыкі». Злосць закіпела ў яго нутры, як кацёл на жары; ён перакусіў бы, здавалася яму, засаб — Сёмку, Петруся і Рыгора. Нездабраваць бы нізашто і Зосі: выходзіць, што яна насмяялася з яго… «Эх, зараза!» — вылаяўся ён і, будучы не ў сіле ўстояць на адным месцы, прашнураваў туды-сюды разоў з пяць сенцы і падышоў да Янкі.

— Янка, дык хадзем.

— Вось не ўрымсцішся, — насмешліва адказаў Янка.

— А табе не ўсё роўна?..

— Вядома, што не ўсё роўна: я хацеў бы таксама з тым-сім угледзецца, — дабавіў ён.

— Ну, то як сабе хочаш, — захванабэрыўся Васіль і зрабіў некалькі крокаў ад Янкі да парога.

— Чакай, чакай, не злуйся ўжо так: і я іду, — супыніў яго Янка.

Васіль павесялеў і, узяўшы таварыша пад руку, выйшаў з ім з сянец.

Гэтае іх вазганіны ніхто не прыкмячаў, бо кожны меў сваю справу: толькі адзін Сёмка, як шпіён, сачыў за імі і так цешыўся ўнутры, што не мог стрымацца, каб не сказаць Петрусю і Гэлі. Яны ўтраіх толькі і правялі сваімі ўзрокамі Васіля з Янкам з сянец. Гэта Васіль заўважыў і ўжо з-за вушака азірнуўся на сенцы ды пусціў брудную лаянку.

— Ведаеш што, Васіль, — загутарыў Янка, калі яны выходзілі з двара.

— А што?

— Толькі хай мы іх стрэнем, ты падыходзь, нічога не кажы і… бяры Зосю падпахі ды ідзі… Не зачэпе! А зачэпе — будзе каяцца…

— А ты думаў што! Толькі б адно дзе іх спаткаць, тады б не стаў цырымоніцца ні каліва, ні беднага; а слова адно наперакор прамовіць, зразу бацну ў морду, — пахваліўся Васіль. — Толькі кудэма нам ісці, каб стрэць іх?

— Пачакай толькі: ці пахіліць нам спярша на Яўрэйскі перавулак, потым на Здобінскую вуліцу, га? — не то парадзіў, не то запытаў Янка.

— А давай! — згадзіўся Васіль, і яны павярнулі направа.

Ішлі спешна, бадзёра, адхіліўшы на тылак шапкі і расшпіліўшы каўняры; нападаючы на каменні ці абсацам камаш, ці

канцамі палак — толькі стук пускалі вакол. Васіль увесь ажно пыхаў ад прагнага хацення чымсь барзджэй сустрэць Рыгора з Зосяю і раз назаўсёды адвадзіць яго ад яе…

«Ну, і задам жа я сукінаму сыну. Найду з чым прычапіцца!» — весяліў ён сам сябе.

Але, як на злосць, праходзілі яны вуліцы і перавулкі, зварочвалі ў глухія завулкі, рабілі пярэсцігі, хітравалі, а нічога не выходзіла. То сям, то там спатыкалі парачкі, якія ці ішлі, ці сядзелі: або Янка, або Васіль углядаліся ў твары, пазнавалі, давалі добры вечар, пытаць жа аб Зосі з Рыгорам не хацелі…

Васіль рабіўся сам не свой; ён кіпеў ад злосці, як смала ў гаршку; сярдзіты быў на ўсіх і ўсё, а болей на сябе самога ды на Янку.

— Калі бо ты, Янка, многаму напсаваў: я прасіў цябе выйсці трохі раней, а ты ўсё марудзіў, — папракнуў ён таварыша.

— А ты думаеш, тады дык зразу нагналі б іх? — занедаволіўся Янка.

— А можа.

— Што — можа, — перабіў яго Янка, — ласне ўгадаеш, дзе яны, — чорт іх ведае; ты думаеш, — а мо і дамоў пайшлі…

— Усё можа быць! — супакойваючыся і зміраючыся, праказаў Васіль.

— Ну, вось, бачыш: нічога не парадзіш; астаецца і нам ісці дамоў… Ты яшчэ сваё нагоніш, не патурай, — угаворна махнуў рукою Янка. — Ідзем лепей дахаты.

— Такі і хадзем… Ну і шчасце яго, што не ўдалося злавіць. Усыпалі б добра, ведаў бы другі раз, — пагразіўся Васіль. — А як, бок, ты думаеш, Янка, — запытаў ён, — а калі дойдзём з ім да бойкі, возьмуцца за яго таварышы?

— Вось дзіўны які! На самы перад Сёмка з Петрусём, а там, бадай, і ўся хэўра. Іх многа, дэмакратаў гэтых. Браце, з імі цяжкавата справіцца… Ну, але ж можна злавіць дзе-кольвек і аднаго Рыгора…

Янка сказаў гэта зусім ціха, толькі з прыціскам і так уверана, што ў Васіля закраўся нейкі страх чапаць Рыгора; і тая адвага, што дагэтуль п’яніла яго зверскае пачуццё і бурна кішэла ўнутры, пачала слабець, астываць.

«Яно, бадай, і праўду кажа Янка, — паразмысліў Васіль. — Зачапі яго, гэта паставіць голаў пад дэмакрацкія кулакі. Трэба як-небудзь іначай хітраваць».

— А праўду такі ты кажаш, Янка, лепей не варта ўздымаць гэтай гісторыі, а то з-за няма нічога толькі сораму наробіш.

Гатовы яшчэ так, як і ў пятым годзе, страляць з леварвера, і што ты з імі зробіш? Вось прыехаў з горада — можа, і леварвер прывёз з сабою. З такімі жарты малыя. Толькі вельмі крыўдна за тое, што, як наперакор яшчэ, стараецца, сукін сын, насмяяцца з цябе. І павінен жа добра ведаць, што нічога яму не выхадзіць ад Зосі, а то-та ж пражэцца: дагэтуль лісты ўвесь час пісаў, а цяпер з першага дня ўжо і на спацыр. А гэтая дурніца таксама слухае яго. Не, тут толькі і можна дзейнічаць праз бацьку, інакш нічога не выйдзе…

— Вядома, вядома, што так; вінавата многа і Зося: не пайшла — сілаю не пацягнуў бы… Так, на бацькоў трэба ціснуць, — згадзіўся Янка.

— А гэтак такі зраблю. Заўтра ж знарок убачу Міколу і аба ўсім пагутару. Няпраўда, бацька сваю волю пакажа ёй, — быццам найшоўшы поўную разгадку ўсім сваім сумненням, весела і спакойна заключыў Васіль.

— Так, а чаго саромецца, — падахвоціў Янка.

З гэтай гутаркаю яны прайшлі добры кусок вуліцы; было ціха вакола, ажно чулася, як трапятала лісце на ясені… Раптам гэту ціш прарваў прарэзлівы піск катоў.

— Цьфу, каб на вас дохлую, — вылаяўся Янка.

— Яны наўзнарок!

— Хай яны падохнуць… Дык я чуў, што ты ў сваты наладзіўся да Зосі? — перайшоў на другую тэму Янка.

— Ну, а як ты парадзіш?

— Гэта, зразумела, твая справа. Тут цяжка што-колечы парадзіць.

— Гэтага, бачыш, не я хачу, а маці настае ды дзядзька Хлор. А па-твойму, як здаецца: Мікола будзе гатоў? Не павінен адказаць… Па-мойму, нізашто не адкажа, — завяраў Васіль, — я гэта добра ведаю, бо яшчэ тыдзень таму назад я выпадкам забег да Зосі, а Мікола з Мартаю мяне за рукаў, ды ў хату, і як гасцінна прынялі! Марта дык уюном так і ходзіць вакол мяне ды, брат, зяцем прызывае… І Мікола іначай не скажа: «Зяць, то-та, зяць, то-та». Сёння таксама выпівалі разам: я, дзядзька Хлор і Мікола. Гутарылі аб сватах, і Мікола — рукі растапырае.

Васіль гаварыў і смяяўся, махаў рукою, і, відаць было, што яму перадаваць быўшыя з ім здарэнні надта весела.

— Гэ, калі так, то лахва. Маладзец ты, — патрапаў Янка Васіля па плячы.

Чым больш Васіль гаварыў, тым вясёльшым рабіўся.

Што яму было да Рыгора? Рыгор для яго — смецце, не болей; нават ужо яму не хацелася сёння і спатыкацца з ім. Усе яго думкі і хаценні былі ў адну точку, у планы пра сваты. Яму раптам захацелася, каб скарэй перажыць сённяшнюю ноч, заўтрашнія дзень і ноч і дачакацца пазаўтрашняга дня. Васіль, здэцца, каб мог, то пагнаў бы час як можна хутчэй, у пераскок, у абмін непатрэбных яму дзён.

Янка, які ішоў побач з ім, выдаваўся яму зусім не тым, заўсёдашнім звычайным таварышам, Хвёдаравым сынам, з якім ён, Васіль, ужо болей дзесяці год таварышкуе, і што важна, праз увесь час не сварачыся і не гневаючыся, — а Янка стаў Янкамбратам, шчырым дарадчыкам, палавінаю яго самога.

У Васілёвым нутры абудзілася прагнае хаценне кінуцца яму на шыю і доўга-доўга, запойна цалаваць яго. Ён нават міжвольна намерыўся падняць рукі, каб ахапіць Янку, абняцца, але раптоўна спыніўся, астыў і праказаў:

— Глядзі, Янка, у аўторак нікуды не выходзь з хаты…

Яны параўняліся з Янкавай хатай, якая стаяла на ўзгорку за Цішкавай, абнесеная вузенькаю градою садку.

— Буду цябе чакаць, — суцешыў ён Васіля. — А тым часам я ўжо і дома, — кінуўшы ўзрок на сваю сялібу, дабавіў Янка.

— А ўжо позна? — запытаў Васіль.

— Я думаю, што позна, — адказаў Янка, — трэба ісці спаць.

І ён працягнуў Васілю руку.

— А я яшчэ… Дабранач! — паціскаючы са шчырасцю Янкаву руку, развітаўся Васіль. — Я па цябе ў аўторак зайду, — адышоўшыся на некалькі крокаў, гукнуў ён.

Янка ўжо гэтага не чуў, бо стаяў на парозе і бразгаў клямкаю ў дзвярах.

## III

Назаўтра Рыгор прачнуўся а дванаццатай гадзіне дня і калі расплюшчыў вочы, то ўгледзеў, што ў хаце нікога няма. Стол стаяў засланы белым абрусом з чырвонымі і сінімі каморкамі на краях. У мыцельніку, пад чысцюсенькім, надвое зложаным трапкачом, ляжаў касцёр блінцоў; на акне стаяў збаночак з малаком, прыкрыты ад пылу і ад мух беленькім драўляным кружочкам. Праз дваровыя вокны праглядала ў хату цёплае бліскучае сонца, і пукі праменняў яго рассціляліся па зямлі, адзін пук ля печы, другі недалёка ад полу.

Рыгор падышоў к акну і паглядзеў на двор. На вуліцы кіпела местачковае жыццё. Ён раптам вярнуўся думкамі ў Рыгу, выявіў перад сабою размахі яе бурнага віравання і заключыў: «Якая непараўнальная розніца паміж горадам і мястэчкам. Фактычна, тут, у Сілцах, непарушны спакой, калі параўнаць яго з Рыгаю. Там сапраўды куецца зацятая барацьба між двума людскімі станамі».

Ён падышоў к мыцельніку, дзе старанна вымыў халоднаю вадою твар, выцерся палатняным ручніком і адчыніў акно.

— А гэта ж і маці тут сядзіць? — угледзеўшы на прызбе маці, праказаў Рыгор.

— Ты ўжо ўстаў, сынок? — запытала Стэпа.

— Не, яшчэ сплю! — пажартаваў Рыгор.

— Дык годзі спаць, уставай ужо. Пара абедаць, — у сваю чаргу пакпіла Стэпа і паднялася з прызбы ды павярнула ў хату. — Ну, та ўставай, ды будзем абедаць; ужо, бачыш, за полудзень мінула.

Рыгор прайшоўся па хаце і пад уплывам бадзёрага настрою прадэкламаваў адрывак з «Жалезнае дарогі» Някрасава.

— Сядай, сыне, абедацьмем.

Рыгор усеўся за стол, на якім ужо стаяла яда.

Абедаючы, ён справіўся ў мацеры, ці не заходзілі да яго хлопцы. Маці дала даведку, што нікога не было; тады Рыгор перайшоў на другую тэму, пачаўшы распытваць маці, як яна жыла ўвесь час, калі яго не было ўдому, што перажыла і як яе маецца здароўе.

Хоць Стэпа ў сваіх лістах да сына болей усяго і гаварыла аб сваім непачэсным жыцці, але, зачэпленая сыноўскаю спагадаю за самае жывое месца, яна нанова ўсё, слова ў слова, нібы па-пісанаму, пачала апавядаць аб сваім жыцці на працягу апошніх двух гадоў.

Ніводзін трапунак, ні адна навіна Сілцоў не схаваліся ад яе, не выйшлі з яе памяці: усё Стэпа добра помніла і як па-пісанаму пераказвала Рыгору.

І ў яе апавяданні многа было выказана аб горы, недахватках і крыўдзе, якія неадходна сачылі за Стэпаю, гналіся за ёю па пятках. Стэпа ў чорных жалобных мулях абмалявала заўсёднае сваё галаданне, холад сіберных зім, які прыходзілася ёй перацярпець у неапаленай хаце, аб заўсёдных сварках за даўгі з Грышкам Кулём; не забыла яна, паміж гэтым, упамянуць і таго, што трапілася з ёю так тыдзень таму, калі Васіль Бераг адабраў ад яе дровы, аблаяў і яшчэ наштурхаў за няманішто…

Апошняе настолькі ўсхвалявала Рыгора, што ён ажно так і ўзгарэў.

— Як? Васіль Бераг… смеў чапаць старую кабету? Ах, злодзей, ах, паскуднік няш-ш-часны-ы… Н-ну-у, распл…

— Ша, ша, сынок, ліха яго вазьмі. Ты з ім не займайся… мала што; ён нямоцна, — супакоіла сына Стэпа, — не ў гэтым, Рыгорка, рэч… Гэта толькі маленькі прыклад… Увогуле, сынок, так крута прыходзілася, што выказаць нельга.

Яна палажыла на стол лыжку і прадаўжала апавядаць:

— Прыйдзеш, бывала, з падзёншчыны, сядзеш у запечку, абапрэшся галавою аб печ і зацягнеш думкі, бесканечныя, заблытаныя, цёмныя і адваротныя. Галава ажно трашчаць пачынае ад іх і, здаецца, вось-вось расколецца на дзве палавіны — і тут табе каюк. Вядома, што ж за дзіва, калі адусюль пралазіць гора, смяецца і скача… А к гэтаму яшчэ адна-аднюсенька вакол: здэцца і зайду сягды-тагды да каго-небудзь, сям-там сустрэнуся з кім — і хоць бачыш і ведаеш, што гэта людзі, такія ж як і сама, але паткніся да іх са сваім горам, дык хто цябе выслухае? Хто захоча цябе суцешыць, калі ў кожнага свой клопат за горла давіць. А, думаецца, хаця б хто выслухаў тваю споведзь і адно-другое слова ўцехі праказаў — ох, колькі б цяжару спала з плеч! Колькі б сілы прыбавілася б табе! Дык не — ніхто. І ўсё думкі свае я варочала к табе, пасылала іх з лёгкім ветрам, з хуткай хмарай. Сяду, бывала, у акне альбо на прызбе, прыгледжуся на маладых хлопцаў, тваіх таварышаў, і сама сабе кажу: якія ж шчаслівыя тыя мацеркі, чые дзеці жывуць пры іх заўсёды. У некаторых па трое, чацвёра, і ўсе пры хаце. А гэта — адным-адно дзіця, і з тым лёс разлучае, заганяе далёка ад вачэй. І як яму там паводзіцца: можа, няшчаснаму, трапляецца цэлымі днямі галоднаму і халоднаму ды неабмытаму быць, цёмныя ночкі пад адчыненым небам каратаць. Слухаю гэта, як чытае Сёмка ці Пятрусь твой ліст, і, хоць чую, што ты пішаш, як і што ты там жывеш, а, дальбог жа, душа ўсё не хоча верыць, што праўду ты мне пішаш. Мне здавалася, што ты мяне толькі супакойваеш ды сцяшаеш, каб не апячаліць мяне, а сам зносіш там усякія крыўды. Ой, Рыгорка мой, сынок мой, як рада я твайму прыезду, як я шчаслівa пацешыцца з цябе!..

Рыгор сядзеў моўчкі. Мо ў паўгадзіны раз апускаў лыжку ў міску, падносіў да рота і не чуў, ці браў яе ў рот, ці выліваў на стол. Усе яго думкі аддаваліся мацерынай споведзі, кожнае слова, якое Рыгор лавіў з неаслабяваючай цікавасцю. Ён незмігутна глядзеў у мацерын твар, ужо стараваты, пажоўклы і зморшчаны, з адбіткам вялікага гора, прынятага ў жыцці; сінія, сухія губы яе

бессціхання варушыліся, а ўпалыя вочы час ад часу выточвалі буйныя, як каралі, і, як раса, бліскучыя слёзы.

Рыгору стала шкада мацеры. Але ён ведаў, што не ў гэтым тая дапамога, якую ён можа зрабіць. Не ў адной мацеры была справа. Сілцы мелі чым пахваліцца з гэтага боку. Вялікі процант местачковых жылі паўбабылямі, перакідаючыся з хлеба на ваду. Бедната на кожным кроку сустракала сабе насмешку з боку невялікай колькасці знатных гаспадароў-дзедзічаў. Апошнія заўсёды адкрыта пацвільваліся з падобных Стэпе беднякоў, на кожным кроку кідаючыся здзекам і пагардаю.

— Што ж зробіш, маці, — супакойваў Рыгор, калі Стэпа ад надышоўшай к горлу крыўды абарвала сваю аповесць, — што ж парадзіш, калі лёс ужо наш такі… Але ведай тое, маці, што нас многа-многа такіх… шмат больш, чымсь падобных Берагам… Прыйдзе час, калі ўсё пераменіцца. Хто быў нічым — той стане ўсім… Як пяецца ў нашай дэмакрацкай песні…

Сказаўшы гэта, Рыгор вылез з-за стала… Яму захацелася выйсці на прастор, у поле, пабыць там аднаму…

«Ды і Зося скора пойдзе ў лес», — успомніў Рыгор і пачаў збірацца.

— Чаму ж ты так мала еў?

— Досыць, маці, пад'еў.

— Куды ж ты думаеш пайсці, сынку?

— А вось думаю ў хвойнік прайсціся. Хочацца крыху ў лесе пабыць, падзівіцца полем, — адказаў ён. — Ды і што рабіць у мястэчку, а ў лесе хаця пасапу чыстым паветрам.

— А па-мойму, хай бы ты лепі, Рыгорка, астаўся ў хаце ды спачыў. Вось, можа, хлопцы прыйдуць… А ў лес ды ў поле яшчэ сумееш нахадзіцца, — папрабавала ўгаварыць яго Стэпа, поўная прагі глядзець і глядзець на сына, каб уволю нацешыцца ім…

— Ды я, ведаеце, і не вельмі ўтомлен, каб спачываць; спачыць яшчэ сумею.

— Ну, воля твая.

Рыгор сабраўся і павярнуў у дзверы.

— Та, хаця, сынку, не забаўся ў лесе, а прыходзь вячэраць, — папрасіла Стэпа, калі Рыгор пераступіў парог і ўжо ўзяўся рукою за клямку сенішніх дзвярэй.

— Ды так, на вячэру прыйду… А вось вы, маці, калі часамі зойдуць хлопцы, паведаміце іх, што я сёння ў Ліня буду, — папрасіў Рыгор і схаваўся за хатаю.

## IV

Хвойнік, не зусім вялікі, так мо дзесяцін трыццаць лясок, ляжаў на ўсходнім баку Сілцоў, якраз выпіраючыся сваім рогам у самы роў-даліну, шырокі і плоскі, пасярэдзіне якога працякае маленькая рачулка, паабапал якой капусныя гароды, кусочкі нівак, яравых і жытніх, і невялічкія паплаўцы. Калісь, як кажа легенда, што не толькі жыве паміж жыхароў мястэчка, а і ў кніжках падаецца, — нібы гадоў соцень з восем таму назад гэтаю далінаю-ровам працякаў Нёман; але таму дэспату-ваяводу, якому ў той час належалі Сілцоўскія землі, раскіданыя на многа міль вакола, штось запала ў голаў змяніць адвечную пуціну вялікае ракі. З гэтага часу Нёман пачаў цячы тудэма, кудэма цячэ і ў нашы дні, яго ж ранейшае дно высахла, зарасло травою, а берагі згладзіліся і замураваліся.

На поўдзень ад хвойніку, калі стаць тварам к Сілцам, якія пекна красуюцца на другім баку даліны-рова, высіцца старыннае замчышча-гара, абведзенае глыбокім ровам і высокім валам.

З левага боку і наперадзе замка красуюцца зарослыя багатымі раслінамі могілкі; далей могілак у адзін бок — поле, у другі — малады гушчэрны арэшнік.

Каб выйсці ў хвойнік з Сівулінскай вуліцы, на каторай стаяла Рыгорава хата, трэба было прайсці гэтаю вуліцаю ў процілежны ад рынку канец.

Рыгор хутка прайшоў вуліцу. У капусніку ён ход убавіў, каб цешыцца акольваючым яго выглядам. А выгляд быў дзіўны! Зелянеўшыя шнуры ніў, толькі што засаджаныя расадаю чорныя, роўныя грады з глыбокімі разорамі між іх, выкрутасы бягучай рэчкі. Так унізе. Зверху ж глядзела чыстае, пабялелае ад сонца неба, пякучае сонца; у паветры віліся жаваранкі і, як срэбрам, сыпалі сваімі песнямі. Сапло прыемнай свежасцю. У Рыгора васкрослі ўспаміны дзіцячых гадоў, тае пары, калі ён з другімі хлопцамі-таварышамі, малыя і распусныя яшчэ, кралі бручку з гародаў, зрывалі мак і шчаўе. Часта ім траплялася пападацца за гэта ў рукі гаспадароў і быць бітымі; але гэта не памагала, і яны не пакідалі сваіх паводзін.

Так бывала летам, калі ўсё спела. А вясною, чуць толькі паказвалася цяпло, пачынаў раставаць снег, часцей выблісквала сонца, Рыгор з хэўраю сваіх таварышоў кожную нядзелю бегалі ў хвойніку і шукалі ў ім голых мясцін зямлі; дзе знаходзілі — разуваліся і ступалі босымі нагамі. Потым, як сонца настолькі прыўдарала цяплом, што снег запаўняў вадою разоры і раўчукі,

а рэчка мо ў сто раз пабольшвалася, ён глядзеў паводкі, цешыўся яе бурнымі хвалямі, якія хутка няслiся кудысь туды, к Шансаваму возеру, а адтуль за памешчыцкі лес, дзесь далёка-далёка. Гледзячы і любуючыся паводкаю, Рыгор успамінаў мацерыны байкі. Адна з гэтых баек казала, што калісь-то, спакон вякоў, у адным месцы працякала вялізарная рэчка, па якой швэндаліся караблі і ганяліся плыты. Потым, у адзін час, трапілася так, што па рэчцы той паехаў ноччу плаваць ведзьмін сын, і вось, толькі ён адплыў ад берага і хацеў пераехаць на другі бок, як паднялася страшэнная бура-завіруха: неба зацяглося цёмнымі-працёмнымі хмарамі, зашугаў страшэнны вецер, сіберна захваляваў ваду, і човен не вытрымаў — абярнуўся, а ведзьмін сын пайшоў на дно.

Бура сціхла, нібы і чакала сабе ў ахвяру маладое жыццё… Калі да ведзьмы дайшла гэта страшная вестка, тая ажно за галаў хапілася ды рашыла пакараць раку за яе такую штуку. Выйшаўшы на бераг, яна падняла ўгору рукі і закляла яе. Вада ўмомант увайшла ў зямлю, пакінуўшы толькі маленькае жаральцо; тую ж дзірку, якою вада ўвайшла ў зямлю, ведзьма закрыла юшкаю. На тым месцы якраз з’явілася крыніца, якую празвалі «Віруноваю». Калі кінуць у яе камень ды прыслухацца, то можна пачуць звон: то камень стукаецца аб юшку. З часам надыдзе пара, тую юшку ведзьма здыме, рака выйдзе з зямлі і зойме сваё русла.

Непрыкметна для самога сябе Рыгор падышоў к таму месцу, дзе сценка падымаецца на гору, і лёгка ды таксама непрыкметна падняўся, а там скора дайшоў да граніцы лесу.

Зразу яго абдаў пахнучы смалою ветрык, да вушоў данёсся спеў пташак. Лясная краса так і цягнула яго, жывасiламі, у глыб лесу, у гушчэрныя кусты ядлоўцаў, у падгалісты арэшнік. Але ён захацеў астацца з берага лесу, на прагаліне, дзе абяцаў Зосі быць, дзе яго можна было скора ўгледзець і адкуль перад яго вачмі разгортваўся дзіўны вобраз…

Рыгор прысеў, разгарнуў кніжку і прыняўся чытаць. Але штосьці чытанне яму не давалася, не лезла ў галаў, перабівалася наплывам іншых думак, калыханнем другога пачуцця. Тады ён кніжку адлажыў убок і пачаў глядзець супроць сябе, то паднімаючы вочы кверху, то апускаючы іх кнізу: блакітны абшар, заліты залатым праменнем сонца, нізка аблягаў над зямлёю, быццам увачавідкі спускаўся ўсё ніжэй і ніжэй, каб зусім сысці з вечнае высі, прыкласціся да зямлі, зліцца з ёю і стварыць вечную, квітуючую вясну; зрабіць так, каб гэныя кусты, што нібы пухкім дываном убралі лямагільны ўзгорак, гэтыя вярбіны і алешыны ў два разы апяразваючы рэчку; гэту самую

рэчачку з чыстаю вадзіцаю, плюхацеўшаю дзенна і ночна пад зялёнымі шатамі карон, не прапускаючых к ёй праменняў сонца; далей — зялёны луг, што ўбраны пухкаю травою і размалёван кропелькамі ўсялякіх красачак, пачынаючы ад беленькага вясёлага цюцюпана да чырвонай смалянкі, — гэты зялёны луг, што як днём, так і ноччу гудзіць, іграе ад музыкі нязлічаных стварэнняў, што лётаюць над ім; і гэты хвойнік з роўнымі высокімі дрэўцамі, з густымі кустамі, з хорам птушак — адным словам, усё тое віраванне жыцця, якое ў поўнай сіле і моцы праяўляецца цёплым летам, — каб гэта віраванне не мела перапынку, бесперасціхання бурліла, цякло, кіпела.

Вось і не дзіва, што, зацяхаючыся марамі, Рыгор не толькі што не чуў ціхага шэпту сасновых карон, мернага памінутнага стуку падаючых леташніх сухіх шышак, песняў вясёлых птушак, а і не прычуў нават, калі і адкуль падышла к яму Зося. І толькі раптам закрыўшыя яго вочы чыесь цёплыя і мяккія рукі ды подых ад распаранага маладога цела заставілі Рыгора запытаць:

— Зося?!

— Адга-а-да-аў! — вясёлым і задаволеным голасам адказала Зося і зняла рукі з вачэй ды стала над ім так, што край яе лёгкае, картуновае спадніцы дакранаўся пакудлачаных яго валос.

Рыгор паспешна падняўся, паправіў на сабе кашульку і лепей разгарнуў пакамечаную жакетку ды з лёгкаю пытальнаю ўхмылкаю на расчырванелым твары ўмільна паглядзеў на Зосю.

— Чаму так позна? — запытаў ён.

— Чорт яго ведае — спазнілася… — Яна крыху памаўчала. — Вось чаму: толькі, ведаеш, мы скончылі абедаць і яшчэ я не паспела вылезці з-за стала, як, бац — хто ж ты думаеш? — Васіль у хату. Я проста так і знямела ад злосці; а ён, ведаеш, доўга не чакаючы, рассеўся сабе на ўслоні, спыніў бацькоў і давай гутарку разводзіць. Перш тлумачыў адно, потым — другое, а далей-болей паціханьку давай і да мяне дабірацца. Я гэта, не даўшы яму разысціся, так і перапыніла на слове: «Прашу мяне не чапаць!» І гэта з такой злосцю я вымавіла, што нібы вадою апарыла; ён ураз і змоўк ды павярнуў зноў на другое… Я перш думала пасядзець ды перачакаць, покуль ён перакажа і пойдзе, а потым і самой ісці. Але мінула цэлая гадзіна і ўжо нават другое чуць не палова, а мой Бераг, як заведзеная машына, балхвіць і балхвіць, не думае ўцякаць. Я тады, нічога не кажучы, драла з хаты, не ўспела нават і прыахаяцца, як бачыш.

Рыгор зірнуў на Зосю і ўгледзеў, што яе бялесыя льняныя валасы, заўсёды акуратненька расчэсаныя на прадзел і завітыя

ў дзве аднамерныя па даўжыні і таўшчыні касы, на скорую руку былі згорнуты ў куклу, нядбайна прышпілены, так што палойкі іх звісалі па шчоках і расплываліся па ветры.

— Бач, які дасціпны хлопец гэты твой Бераг, — заўважыў Рыгор і засмяяўся.

Зося сарамяжа і крыўдліва адказала яму тым самым: ціхаю, труслівою ўхмылкаю.

Рыгор быў весел у гэты час, і яму зусім не хацелася чымсь бы ні было атручваць Зосін настрой. Бачачы, што яго словы нібы яе смуцілі, ён перамяніў гаворку.

— Та прысядай жа, Зося… Мо часамі бачылася ты з кім-небудзь? З нашых, бач?..

— Не… А з кім? — садзячыся на краі разасланай Рыгорам жакеткі, запытала Зося.

— Ды, бач, з Сёмкам ці з Петрусём.

— Што, і яны маюць прыйсці сюды?

— Не, я аб гэтым з імі нічога не гаварыў, але мо трапункам і заблудзяцца.

— Хай бы лепш не прыходзілі; мне хочацца сённі пабыць з табою ўдваіх, — праказала Зося і кінула Рыгору ў твар вырванаю зелянінкаю.

Рыгор гультайна адхіліў голаў і, засмяяўшыся, праказаў:

— А па-мойму ж, няхай бы прыйшлі.

Зося саромна скасіла ўзрок і, стрымоўваючы ўнутры кіпучае пачуццё ласкі, моцна, порыўкамі, сапла. Рыгор не спускаў з яе вачэй, прыслухваўся к яе сопу і гультайна, нерухома сядзеў на адным месцы, як бог у нірване. Потым асцярожна падаўся назад, выняў з-пад боку руку, галавою прыблізіўся к яе твару і сказаў:

— Чаму ты маўчыш? Аб чым думаеш?

— Так, ні аб чым, — коратка адпавела Зося. — Вось скажы мне, чаго ты так пільна ўглядаешся ў мой твар? Ты колеш мяне сваімі ўзрокамі! — дабавіла яна і прыапусціла векі.

— А на каго ж мне глядзець? Я і чакаў таго, каб паглядзець.

— Ты хлусіш, Рыгор. Ты кпіш…

— Я кплю? Адкуль ты ўзяла гэта?!

— Няўжо ты не хлусіш?

— Ні каліва. І не думаю.

Рыгор абняў Зосю і надарыў яе зацяжным пацалункам.

Зося не чакала гэтага і сарамліва апусціла вочы к долу.

З-за куста пачуўся лёгкі хруст, быццам пад нагою зламалася ветка. Рыгор хутка падняўся на ногі і пачаў узірацца. Аднак нідзе нічога не было відаць. Спакойныя хвоі, як і заўсёды, глядзелі

ў неба сваімі зялёнымі іглістымі каронамі, адкідаючы ад сябе доўгія слупы ценяў, канцы якіх упіраліся ў кусты і гінулі.

У кустах, як заўсёды, лёталі малюсенькія пташкі, валовы вочкі, рэзва чвырыкалі, лавілі мошак і асалоджваліся жыццём. У прагаліны адсвечвала яскравае сонца.

— Нічога і нікога, — праказаў Рыгор, апускаючыся ізноў на зямлю.

— Давай пройдземся далей; ну, хоць за Алешную сценку, — запрапанавала Зося.

— Пойдзем, — згадзіўся Рыгор і спрытна стаў на ногі. — А кудэю пойдзем: між граніцу ці лесам? — запытаў ён.

— Лесам лепей.

Яны крануліся і пайшлі…

Першыя крокі ім удалося зрабіць па выцерабленым і вымятым месцы, а далей дарогу пачалі загараджваць густыя арэхавыя і яловыя кусты, ламаччо. Прыходзілася хвіліна ад хвіліны згінацца, каб не зачапіць галля, вярцецца ў бакі, азірацца. Павуцінне лезла ў вочы і ліпкімі серабрыстымі ніткамі абляпляла іх твары; садзіліся на лоб і шчокі мошкі, гулі авадні. А духата — ажно бялізна прылiпала к целу…

Рыгор ішоў папераду, адхіляў галлё і трымаў у руках, пакуль пройдзе Зося, потым выпускаў яго, а сам зноў забягаў наўперад. Галлё, вырваўшыся з Рыгоравых рук, як сталёвая спружына, старалася ўцячы на звычайнае месца і толькі гудзела…

Прайшоўшы ганоў з двое гушчарнікам, яны саўсім нечакана для сябе ўпёрліся ў Крывое балота, густа абраслае з берагоў высокаю асакою і рэдкімі кустамі стырчкаватае блішчастае ракіты.

Яны спыніліся і агледзелі яго, як ёсць, і ўздоўж і ўшыр; балота цягнулася ўперад ганоў са трое і заварочвала вузкім канцом у левы бок, дзе хавалася між кустоў. Абысці яго з гэтага боку не трэба было і думаць, і яны павярнулі направа. Ганоў у двух ад балота паказалася роўненькая, як струнка, заросшая руцяною мяккаю мураўкаю, прыгожая сценка; адзін канец яе выходзіў на граніцу хвойніку і ўпіраўся ў жытні палетак. Калі б паглядзець уздоўж — то здавалася — то не сценка, а вялікая труба, знарок нейкім праложаная праз лес. Другі канец сценкі ўпіраўся ў малады, светла-зялёны ад вырасшых на некалькі карчоў пупінкаў, густы ельнік.

Уверсе ж кароны старых хвой, сходзячыся з двух бакоў сценкі, сплыталі жывы полаг; але гэты полаг быў не зусім густы, бо праз яго прабівалася праменне сонца, як праз вялізарную тарку

ці рэшата, і рэзвымі мігатлівымі зайчыкамі гуляла па зялёным махрастым уборы. А калі было прыгледзецца чутку пільней, падняўшы вочы, то відаць было трапятанне сіняватага паветра, нібы сіта ў млыне. У паветры лёталі матылькі, якія, здавалася, і квадранца не маглі спыніцца на адным месцы, бо тое ж трапеткае паветра іх насіла на сабе.

Калі Рыгор з Зосяю, быццам згаварыўшыся і заўчасне абдумаўшы, спыніліся на сценцы і моўчкі, бы заварожаныя, стаялі некалькі хвілін і цешыліся пекнасцю прыроды, якую многа разоў яны ўжо бачылі паасобку і тры, і пяць гадоў таму назад, якраз над імі, на тоўстай, але крывой хвоі паказалася вавёрка; яна, бы знарок, набягала на іхнія вочы, саскочыла на самую нізкую галінку і, узіраючыся на іх пранозлівымі, хітрымі і ў той жа час мілымі вочкамі ды верцячы доўгім, як памяло, махрастым хвастом, быццам шпіён, падасланы кім-небудзь, старалася да акуратнасці разгледзець як Рыгора, так і Зосю, а пасля пабегчы і расказаць паслаўшаму. Рыгор перш цешыўся з гэнага вёрткага і прыгожага звярка, а потым захацеў спужаць вавёрку і сагнаць з хваіны; ён схапіў з галавы капялюш і размахнуўся, але вавёрка і вокам не павяла, толькі хутка абкруцілася навакола сябе.

— А каб ты здохла! — вылаяўся Рыгор і нагнуўся за аскабалкам.

— Ды пакінь. Няхай сабе гуляе ціха, — разуважыла Зося, — хадзем далей.

Рыгор яшчэ раз махнуў капелюшом, крыкнуў: агу! і яны сышлі да сценкі…

Недалёка напалі на круглую зялёную прагаліну і спыніліся.

— Вось тут трэба прысесці, — запрапанавала Зося.

— Давай спынімся, — згадзіўся Рыгор і пры гэтым зняў з рукі жакетку, падабраў ля маладзенькай бярозкі, у цяньку, лепшую мясцінку і разаслаў яе.

Зося першаю кінулася на зямлю і прылягла, падпёршы рукою правую шчаку. Рыгор жа дастаў ралку бярозы, адламаў ад яе віціну і паважна апусціўся на жакетку побач з Зосяю.

— Вось тут нас дык ужо, каб і хацеў, ніхто не знойдзе, — сказаў ён, — што хочаш, тое і рабі, — дабавіў услед за сказаным і ласкава паглядзеў на Зосю.

— Ці ж мы зладзеі, што што-небудзь благое рабіць будзем? Няпраўда, Рыгору?

— Вядома, што так… Я ж на гэта не хіліў… Я меў у воку лес, яго прыроднае хараство… чаго, жывучы ў горадзе, бывае абмаль…

— І ў Рызе таксама?

— І ў Рызе… Зразумела, што не для ўсіх. Рыга якраз у сваіх ваколіцах багата зеленню, але не часта туды трапіш.

— Чаму? — пацікавілася Зося.

— З-за браку часу… Нашаму брату, ведаеш, даволі працы… Дзевяць гадзін пры машыне, а прыйдзе вечар — трэба і ў бібліятэку зайсці, і газеты праглядзець, і з таварышамі па арганізацыі сустрэцца… Толькі нядзеляй часамі вырвеш магчымасць…

— Выходзіць, па-твойму, што ў горадзе нудна?

— Зусім не выходзіць; ці ж у адным лесе ўсе пераважнасці!

— Я разумею, таму і пытаю цябе. Мне, бачыш, цяжка ўявіць сабе, не бачыўшы; але я адчуваю ў сабе нестрыманую прагу пабыць у горадзе… Мне думаецца, што я б там зусім інакшаю стала б…

— Ты не абмыляешся, Зося… І хто табе не дазваляе гэта зрабіць?

— Які ты, Рыгор, цудны! Мэрам бы тут мая добрая воля. Ты разважаеш, як мужчына, і зусім не ўлічаючы ўмоў майго сямейнага жыцця… Эх!

Зося глыбока ўздыхнула, і па яе свежым твары прабегла нездаваленне.

— Ну, ёсць жа, Зося, і дзяўчаты тваіх гадоў і твайго палажэння, якія маглі кінуць вёску, парваць з сям'ёю і апынуцца ў горадзе. Вось у Рызе маецца фабрыка «Праваднік», дзе робяць галёшы; ты думаеш, там адны мужчыны? Наадварот — там працуе сотні жанок і дзяўчат. І многія з іх пакінулі вёскі і мястэчкі… Тут усё залежыць ад цвёрдага хацення і рашучасці… Чалавек павінен умець змагацца за тое, што ён лічыць лепшым у жыцці для сябе і для мас працоўных… Разумееш…

Зося не адказала зразу. Рыгоравы словы глыбока запалі ў яе нутро, робячы ў яе думках і поглядах сапраўдную рэвалюцыю. Яшчэ на гэту тэму яна ні з кім ніколі не гутарыла, і гэта тэма была для яе адкравеннем.

— А ведаеш, Рыгор, як бы мне хацелася пабыць у вялікім горадзе, хоць крыху б пажыць! Каб, здаецца, я была свабодна, каб нада мною ніхто не стаяў, я б няйначай паехала з табою ў Рыгу.

— А што ж табе перашкодзіць гэта зрабіць? — выпрабаваў лішні раз Рыгор Зосіну цвёрдасць.

— Што? Эх, эх! Ну, і чаму ты так судзіш?

— Чаму?

— Ласне табе няведама, што нада мною вісіць бацькава воля…

— Гэта я добра ведаю, — адказаў Рыгор. — Але пачакай: а калі яны твае бацькі, то ты іх не дзіця? Ты служкаю ім павінна быць, з якой толькі карысць выцягаюць? Дык, вось, калі яны твае бацькі, то павінны цябе і любіць; а калі яны цябе любяць — то чаму ж ім не ўняць тваёй просьбе, не даць табе волі? Толькі захаці, скажы, што табе гэта і гэта павінна быць даступна і — канец. Хто ж мусіць папярэчыць? Па-мойму, так.

— Ой, пакінь, Рыгор, гэтак казаць. Няўжо ж яны, ты думаеш, мяне не шкадуюць або не любяць. Яны і шкадуюць мяне і любяць, але ў іх гэта па-свойму выходзіць.

— Пакінь, пакінь, Зося. Гэта не любоў, не шанаванне, калі чалавек занявольваецца, калі падсякаюцца яго хаценні, мардуюцца жаданні… Табе здаецца, што яны цябе забяспечыць хочуць, калі шукаюць нейкае грашовае славы ды багацця. Ой, не! Вельмі многа абмылішся, калі так думаць будзеш. Гэтым цябе хочуць прынудзіць астацца на тым месцы, на якім яны стаяць, знішчыць пазывы твайго сэрца… Ты бачыш нешта завабнае, вялікае перад сабою, тваё нутро рвецца да яго, а іх ліпкія рукі стрымліваюць, не пускаюць.

— А ўсё-ткі, як сабе ні кажы, а мне дужа трудна зрабіць так, як ты радзіш: кінуць бацькоў і ехаць ад іх у горад, — адкрылася Зося, падмацаваўшы свае словы кіўком галавы.

— Чаму так?

— Не ведаю чаму… Не хватае не то смеласці, не то адвагі, чагось-то не хватае, і баюся я пайсці на гэта. Ты — ты другое дзела: ты мужчына, ты вольны і смелы.

— Пераказваю, колькі і дзяўчат ёсць такіх!

— Можа, але многа меней чымсь мужчын…

Рыгору нецікаўным паказалася далей гаварыць аб гэным. Ён бачыў, што ў Зосі перамагае сумненне над рашучасцю і што яшчэ многа разоў давядзецца падбадзёрваць яе падобнымі сённяшняй гутаркамі.

Рыгор заўважыў, што гэткія гутаркі маюць свой дадатны бок і моцна ўплываюць на Зосю. Але занадта глыбока ўрасла яна ў асяроддзе цвілое мяшчанскасці, у балота кутніцкага самадурства і ганарлівасці. «Бацькава воля» — гэта разуменне, якое перадаецца ў іх сям'і з пакалення ў пакаленне, як маралі своеасаблівага дзедзіцкага дамастроеўскага ладу, убітага бацькамі і ў Зосіну галаў. Яе, здаецца, і нігілісцкі тон у гутарках з Рыгорам, але зусім нявольны ад націску бацькоўскага выхавання. Зацятая абярэжніца родавых нахілаў, Зосіна маці многа пастаралася над тым, каб зрабіць з свае дачкі верную і непахісную сваю паслядоўку.

Бацька ж браў сваім пахаджэннем, якое ён хітра абгрунтоўваў на падвалінах заможніцкай гаспадаркі. Ён старанна захоўваў складзеную доўгімі гадамі шляхам розных прадпрыемстваў сваю гаспадарчую прывілейнасць. Мікола меў руку старшыны і папа, чуў прыхільнасць з боку заможнае верхавіны мястэчка і валасці і, апіраючыся на гэта, бярог дачку ад уплываў «дэмакрацкіх» думак, ад знаёмства яе з падобнымі Рыгору хлопцамі. Берагі — то была мэта Прыдатных, да якое яны імкнуліся з вырашэннем Зосінага лёсу… Рыгор гэта разумеў, калі на гэты раз перайшлі ў гутарцы з Зосяй на іншую тэму.

— Не сярдуеш?

— Не, нічуткі.

— Дамоў не спяшыш?

— І не думаю.

— І есці не хочаш?

— Не… Не клапаціся… Можа, ты што задумаў?

— Я не, не!.. Мне міла тут з табою…

— Каб то была праўда!

— Якраз яна і ёсць тут.

Зося шчыльна прытулілася к Рыгору і шчыра яго пацалавала ў шчаку.

— Мне б не хацелася думаць, што ты назаўсёды астанешся ў Сілцах, але… не-э-э, не… гэтага не будзя-а-а-а, — сцешыла сябе і Рыгора разам Зося і замёрла ў бязвольнай утоме.

Рыгор абгарнуў яе абедзвюма рукамі, шчыльна прытуліўся к ёй і засаб некалькі разоў пацалаваў яе; пацалаваў і пачуў, нібы цэлы келіх пахучага, найсалодшага мёду з-пад маладых пчол чыясь нябачная рука ўліла ў яго рот, адкуль ён, растаўшы на віно, раптоўна разліўся па ўсім яго целе, ад галавы да самых пят, і нейкім прыятным, тонкім і вострым хмелем ускружыў яго галаў, задранцвіў усю істоту… Толькі сэрца не мог спыніць, і яно білася ў паспешным перацюку.

— На, вазьмі ад мяне, што толькі табе патрэбна, — з заплюшчанымі вачыма і бяссільна схінуўшаю галавою, путанаю моваю праказала Зося і ў прыятнай сударзе спусцілася з Рыгоравых калень на мураўку, дзе расцягнулася ва ўсю даўжыню свае пекнае стройнае постаці… Бязвольныя рукі яе ляглі між бакоў, і выразнымі абрысамі абмаляваліся пукатыя грудзі, высока падымаючыся ад глыбокага роўнага сопу…

Рыгор на хвілю, нібы сумеўшыся ад нейкага раптоўнага дзіцячага сораму, быццам замёр, застыў: безразборная міна яго твару, пасавелыя вочы, вяласць рук казалі аб тым, што ён бяз-

волен, у чыіх-то руках… Але мігам перамяніў настрой і выгляд і рашуча праказаў:

— Зося-а, Зоська! Чаму ты так кажаш? Няўжо ты думаеш, што я пайду на ўсё. Я цябе дужа шкадую, каб не паважаць…

Зося, як ляжала, так раптам паднялася і раптам пасумнела, быццам спалохаўшыся за тую адкрытасць, якую знянацку дапусціла ў сваёй гутарцы з Рыгорам.

«Ой, што ж ён падумае!» — адрыгнулася ў ёй дамастроеўская мараль дзедзіцкага асяроддзя.

Рыгор, каб не даць здэтанавацца, адцягнуў яе ўвагу на іншае, запытаўшы:

— Пойдам, Зося?

«Ах, якая ж я дурніца. Што ж я зрабіла! Ён гатоў палічыць усё гэта за…»

Паўторна праняслося ў яе галаве нейкае сумненне, і замест простага адказу на запытанне яна перапытала:

— Ты мяне не любіш, Рыгор?

— З чаго ты ўзяла? Што табе здалося? — супакоіў Рыгор і пры гэтым усхапіўся на ногі, прабег некалькі раз узад і ўперад па прагалінцы; потым апусціўся на калені, заглянуў Зосі ў вочы і запытаў: — Чаму ты так кажаш?

Зося не адказала. Праз хвіліну дабавіў:

— Я цябе чым-небудзь пакрыўдзіў? Даруй мне: я не ведаў, што гэтым цябе пакрыўджу.

Зося маўчала. Моўчкі паднялася, паправіла растрэпленыя валасы, падвязала шаль і кранулася ісці. Рыгор крыху пастаяў, потым нагнаў яе і ласкава запытаў:

— Дахаты, Зоська? — і, не атрымаўшы адказу, ціхім крокам пайшоў побач з ёю.

## V

На дварэ ўжо вечарэла. Асеўшы нізка, сонца раскідала па абшары пачырванелыя, астываючыя праменні, якія доўгімі яскравымі каснікамі пралазілі між лясную гушчэр. У каронах дзярэў і ў кустах пачаў збірацца змрок, і зелень зрабілася смугла-зялёнай. У паветры стала многа халадней і адчувалася, як у малюсенькіх, непрыкметных кропельках асядала раса. Востра запахла вячэрняю сырасцю.

Моўчкі, цішком, перайшлі Рыгор з Зосяю сценку, толькі акінулі ўзрокамі вакол сябе.

— Выбівайсмася на граніцу, — парадзіў Рыгор.

— Добра, — ціха адказала Зося; і, выпусціўшы гэта слова з губ, разам пачула, як з яе плеч зняўся нейкі цяжар.

— А ці далёка тая граніца?

— Ды не. Вось пойдзем так — то скора выйдзем. Свеціцца, здэцца, вундзека.

— Ты не сярдуеш, аднак, — запытаў Рыгор, нахіліўшыся к ёй. Зося сорамна ўсміхнулася і адказала:

— Не, не сярдую.

— То дай жа я цябе за гэта пацалую.

І Рыгор прагна ўпіўся губамі ў Зосіну шчаку.

— Ах, Рыгор…

— Мо і заўтра мы прыйдзем сюды?

— Можа, забачым…

— Ты скажы напэўна.

— Прыйдзем!

## VI

Тым часам Рыгор з Зосяю выйшлі з лесу на граніцу і павярнулі к мястэчку. Здалёк (ад хвойніку да Сілцоў лічылася не болей адной вярсты) Сілцы былі відны як на далоні: старыя маленькія хаткі мяшчан, з саламянымі стрэхамі, парослымі зялёным мохам (ад чаго здавалася, што то зусім не хаты, а старанна акопаныя і абрэзаныя вялікія стагі травы ці купіны), перамяжаліся з троха навейшымі, пакрытымі — дзе новаю і яшчэ жоўтаю гонтаю, а дзе пасівелаю старою драніцаю, — яўрэйскімі дамкамі. У тым месцы, дзе болей стаяла апошніх, наглядалася нямерная цесната і не відаць было ні каліва зелені; сялянскія ж хаты былі апераваны зялёнымі невялічкімі садамі і гародамі.

Крыху наадгон ад хат, на самым ілбе гары, высіўся новы будынак школы з зялёнаю, ужо не ад моху, а ад хварбы, шапкаю страхі. Шырокі, чатырохкантавы школьны пляц быў абгароджаны каменным павапленым парканам, між якога ў радок раслі высокія плакучыя бярозы, шатныя кляніны і каштаны; між іх зелені відаць было некалькі гімнастычных прыладаў, якія выдзяляліся з зелені дзярэў. З паўганоў ад школы, шмат далей ад берага мястэчка, не ўступаў у вышыні будынак местачковай аптэкі. За аптэкай ляжаў Лог, ад мястэчка забудаваны хатамі як найгушчэй, а з другога ўклону, ад поля, пабіты на гароды.

Быў ужо зусім адвячорак, і сонца вісела над лесам, то яго праменні, пападаючы ў вокны хат, адбіваліся залацістым водсветам. А калі глядзець на поле, то таксама нельга было нацешыцца:

такі прыгожы вобраз ляжаў перад імі! Ужо нелапое жыта, аблітае чырвоным заходзячым сонцам, мела нейкі асаблівы, не то масянзовы, не то бурачны колер і, гойдаючыся ад ціхага ветру, катала роўныя, доўгія і крывыя скруткі, з аднаго боку чырвона-бурыя, а з другога бела-зялёныя. Жытні палетак цягнуўся на цэлыя вёрсты ўдаўжкі і ўшыр і здаваўся, калі глядзець на яго з-пад лесу, кудэма ішлі Рыгор з Зосяю, адным суцэльным кавалкам. А то былі ўсё вузенькія ніўкі-шнурочкі, адмежаваныя дзе пукатымі, барадатымі межкамі, як змейкамі, што беглі між сцен жыта, то далікатна зробленымі разоркамі, таксама ў сваім бегу не адстаючымі ад межак. З другога боку жытняга палетка, так далёка, як ахопвалі іх узрокі, пачыналіся яравыя палеткі, падмалёваныя ўжо маладою жаўтаватаю зеленню аўса і рутнейшаю — ячменю. За яравымі палеткамі пачыналіся лясы.

Рыгор з Зосяю ціхай путанай хадою моўчкі прайшлі каля цэлых ганоў, увесь час цешачыся полем, удыхаючы поўнымі грудзямі свежае паветра.

— Ну, як, прыгожая рэч? — абярнуўся Рыгор да Зосі. — Хоць начуй тут у полі! — дабавіў ён.

— Што ты: здурэў, ці што? — здзівілася Зося.

— Чаму?

— Так. Ці ж ты ніколі не быў у полі, ці ніколі не бачыў гэнае красы?

— Хоць і бачыў, толькі яно ніколі, мне здэцца, не было такім, як сённі, цяпер вось…

— Прыйдзем заўтра і тое самае застанем.

— А ты ж прыйдзеш?

Рыгор міла зірнуў Зосі ў вочы, ажно тая не вытрымала і лісліва засмяялася.

— Чаму ж не, я сказала, што прыйду…

— А калі Васіль… ну, прышле к табе сватоў?

Зося — быццам хтось кальнуў яе іголкаю ў самае хворае месца — пачула вялікі і праціўны боль, які раптам расплыўся па ўсім яе целе і страсянуў ім. Твар яе збялеў, смуткам акрыліся вочы.

— А калі прышле — то што? Хай прысылае, чорт яго бяры…

— Дык цябе ж бацькі могуць не пусціць.

— А то я іх так і пабаюся!

— Дык трэба іх слухаць, ты мне гэта казала.

— Ай, ай! Пакінь, Рыгор, смяяцца з мяне, — сярдзіта перабіла Зося.

— Што ты, Зося! Пры чым тут смех. Я гэтага ніколі не дазваляў сабе.

— Тады не кажы мне нічога пра Васіля. Мне балюча і праціўна слухаць…

Зося не даказала. Відаць было па яе настроі, што яна адчувае глыбокае ўзрушша і цягчыцца кожным дапамінкам пра розныя чуткі аб Берагавых намерах. Загэтым Рыгор рашыў нічога не ўспамінаць. Але Зосі не маўчалася.

Прайшоўшы з паўганоў моўчкі, яна першаю загаварыла:

— Эх! і надаела мне ўсё гэта!..

— Што! Чаму?

— Так, вельмі праціўна.

— Альбо ж нельга паправіць?

— Зноў пра гэта?

Рыгор убачыў, што гутарка зноў пераходзіць на балючую для Зосі тэму, і пасьпяшыў знайсці ёй іншы напрамак.

Якраз яны мінулі лес і падышлі к самаму краю гары, з якое трэба было сходзіць у капуснікі. Праўда, адгэтуль ішла яшчэ і другая сцежка, але яна накіроўвала між другога боку жытніх палеткаў і сходзілася з Сівулінскаю дарогаю; гэтым шляхам ісці было шмат далей.

— Ну, кудэй пойдзем, Зося? — абярнуўся Рыгор да Зосі.

— Я думаю, капуснікамі лепей.

— Ідзем капуснікамі.

Пабраўшыся за рукі, Рыгор з Зосяю ішлі перш ціха, падварочваючы то ў адзін, то ў другі бок, а потым, калі мінулі самую стромасць, Рыгор пусціўся бегчы і пацяг за сабою Зосю…

Хутка яны былі нанізе, пры беразе рачулкі.

— Часамі прыемна размяцца падобнай гімнастыкай, — сказаў Рыгор, спыніўшыся.

— Ну, вядома, маленькі хлопчык, пазабаўляцца трэба, — пасмяялася Зося.

— Так, бывае… Ну, цяпер скажы: табе нічога, калі пройдзем да вуліцы разам?

— Вунь яшчэ што выдумаў! А што, мяне арыштуюць за гэта? — здзіўленая Рыгоравым запытаннем, адказала Зося.

— Не тое што арыштуюць, але часамі маці каб не…

— Пакінь, пакінь выдумляць ліха ведае што, — перабіла Зося. — Што? Мне бацькі мо забароняць з людзьмі сустракацца? Які ты смешны!

Рыгор нічога не адказаў. Маўчала далей і Зося; ідучы, яна глядзела ў зямлю, сочачы за махам тонкага лазовага дубчыка, які шустраю змейкаю бег наперадзе іх…

## VII

Ужо было змеркшы, калі яны ўвайшлі ў мястэчка. Але на вуліцы жыццё не ўмірала. Там-сям стаялі кучкі сілцоўцаў, абгаварваючы пытанні бягучага часу; бегалі неўгамонныя дзеці. Пастушкі вялі з пашы коні. Гаспадыні па дварах увіхаліся з гавядаю.

Паміж іх праехала некалькі фурманак блізкіх к Сілцам хвальваркоўцаў, знаёмых Зосі; яны аддалі ёй прывітанне. Адзін нават знайшоў патрэбным кінуць жартам, на які, аднак, Зося не адказала.

Супроць Сёмкавага двара яны зусім нечакана спаткаліся з Гэляю, Петрусём, Сёмкам і Волькаю, якія стаялі і аб нечым пільна гутарылі, справодзячы сваю гутарку вясёлым покатным смехам.

— Пахвалёны! — жартам прывітаўся Рыгор.

— На векі! — смехам адказала Гэля.

— Дзе ж то так бадзяліся, панове? — запытаў Сёмка.

— Ды вось — крыху праходзіліся.

— Харошая праходка: цэлы дзень у доме не застаць. Ці не ў Пляшуках толькі былі?

— У Ліцку нават, скажаш, — адказаў Рыгор.

— Апроч жартаў, адкуль ідзіцё? — запытаў Сёмка.

— З хвойніку, — ухмыльнуўся Рыгор, — а вы дзе таўкліся?

— О, браце, мы сёння столькі нахадзіліся, што каб расказаць, то на цэлае апавяданне хапіла б, — распаляючы завіды, паведаміла Гэля.

— Ну, ну, апаведайце нам хоць маласць, — хапіўшы яе за руку, папрасіла Зося.

— Ого! Нізашто не скажам, нізашто, нават і не думайце, — падхваціў Пятрусь, падмігнуўшы Зосі.

— Чаму ж гэта, ці то сакрэт ужо?

— А такі і сакрэт! — умяшалася і Волька.

— Ды ўжо годзі пацвільвацца!

— Та ша, ша. Слухай цяпер і дзівіся, — усё раскажу.

Усе прыціхлі. Гэля бегла пачала расказваць:

— Вось толькі што я паабедала, як барзджэй забегла к Вольцы і з ёю мы пайшлі к Ліню… Прыйшлі гэта пад хату, заглянулі ў акно і бачым, што нікога няма дома: не толькі Палуты, а нават і бацькоў… Мы гэта адтуль проста на могілкі… Прыйшлі, пахадзілі троха між помнікаў, пачыталі надпісы, потым нарвалі бэзу і назад у мястэчка… Выйшлі гэта мы на рынак, аж бачым: едуць да шлюбу нейкія шляхты. Мы іх правялі да Меркі, дзе яны

спыніліся… Пацікавіліся, што яны з сябе ўяўляюць, і знайшлі, што маладая — даволі прыгожая, а малады — тае…

Гэля скрывілася.

— Не гань толькі нашага брата, — пажартаваў Сёмка.

— Чаму? Праўды няможна сказаць? — упікнула Волька.

— Якая ж тут праўда: быццам я не бачыў яго таксама.

— Ну, і як па-твойму?

— Я лічу наадварот: маладая — дрэнь, а малады — цукерачка, — пажартаваў Сёмка.

Хлопцы голасна рассмяяліся.

— Ну, добра, — перабіў Рыгор, — а як-то вы сышліся ўсе?

— Ды ці ж гэта ў горадзе. Выйшаў хто на вуліцу, гукнуў і ўсе тут, — пралепятала Гэля, і хапіла за Зосіну руку вышэй локця, і заглянула ёй у самыя вочы, покатам рассмяяўшыся.

— Пакінь дзяцініцца. Цябе ж насур'ёз пытаюць, — занедаволілася Зося.

— Ша, ша, супакойся, — сцішыла яе Гэля.

— Гэй, кіндар, — перабіў Сёмка, — трэба пайсці вячэраць: як думаеце пасля вячэры?

— Вядома, к Ліню, — у адзін голас праказалі Пятрусь, Гэля і Волька.

— А ты, Рыгор, нябось, таксама спаць не ляжаш? — абярнуўся да Рыгора Сёмка.

— Яно б не пашкодзіла і паспаць.

— Дык Зося ж пойдзе таксама, — падхваціў Пятрусь і тут жа абярнуўся да Зосі: — Пойдзеш, Зося, да Ліня?

— Не ведаю, мо і пайду, — адказала Зося.

Дзяўчаты адлучыліся і разбегліся па хатах.

— Ну, дык пойдзеш? — перапытаў Пятрусь Рыгора, які раптоўна задумаўся і моўчкі стаяў на адным месцы.

— Што там спаць! Пакінь… Гэ-гэ-э! Дык ты задумаўся чаго? — зазірнуўшы Рыгору ў вочы, прапяяў Пятрусь. — Ці не па Зосі толькі журышся? Пакінь тужыць, таварышу. Ад гэтага не загінем. Ды, па-першае, думаецца, што Берагу не так лёгка і хватнуць Зосю… А па-другое, — ці ж яшчэ мала на свеце такіх Зось знойдзецца! Ой, ёй-ёй! Вось вернешся ў Рыгу да пакахаешся з гэткай паненкай, што Зося і не падходзь. Пакінь, кажу, тужыць… — і Пятрусь паляпаў Рыгора па плячы, падмігнуў і засмяяўся.

У Петруся гэта ёмка атрымалася, як і заўсёды. Рэзвы і вясёлы, ён быў прыемным кампанам, паміж таго, што быў шчырым і адданым таварышам. Петруся шанавала ўся іхняя кампанія

як разумнага, смелага і дападкога таварыша. Сын небагатага земляроба, ён змалку быў аддадзены бацькам у наймы за парабчука, пасля ў вучні за каваля. Але кавальскае рамясло яму не спадабалася, і Пятрусь прабаўляўся і летам і зімою выпадковымі заработкамі, дапамагаючы гэтым у хаце. Пацёрты ў пераплётах жыццёвай нядолі, ён чулей за другіх успрыняў сацыялістычныя настроі і разам з Рыгорам увайшоў у Сілцоўскую арганізацыю сацыял-дэмакратаў. І цікава тое, што, будучы земляробам, ён не адчуваў у сабе жаднае прывязі да зямлі. Яго цягнула ў рабочае асяроддзе, у горад, куды ён мерыўся вось-вось адпраўляцца.

— Табе, як і Рыгору, толькі ісці па гэтым шляху, — радзіў Сёмка. — Паедзеш — не згінеш са сваёю прыкідлівасцю.

Гэтае думкі трымаўся і Рыгор, які любіў і шанаваў Петруся як ляпейшага таварыша і сябра. Петрусёва кампанія выклікала ў Рыгора глыбокае здавальненне.

— Ды я мала аб гэтым і дбаю, толькі… ка сну мяне хіліць, — праказаў Рыгор пасля кароткага змоўку.

— Годзі табе! — наставаў Пятрусь.

— Што вы не згаворыцеся? — умяшаўся Сёмка.

— Нешта Рыгор наш знябыўся, — нібыта спаць захацеў ці мо якія патайныя планы задумаў…

— Няўжо?

— Ці ж ты не прыкмячаеш?

— Не, мне ні ў шманкі.

З Сёмкавага двара данёсся вокліч:

— Сёмка, Сёмка! Ідзі вячэраць!

— Іду! — адклікнуўся ён.

— Па дамах, хлопцы! — абярнуўся Сёмка к Рыгору і Петрусю і павярнуў у двор.

Пайшлі і Пятрусь з Рыгорам.

На дварэ ўжо было цёмна: стаяла парная ноч.

## VIII

Не паспеў яшчэ Рыгор апамятацца, толькі знайшоўшы магчымасць павячэраць ды перакінуцца двума-трыма словамі з мацераю, якая праз цэлы дзень не магла прычакацца яго ў хату, седзячы да самага цямна ў акне і не прапускаючы вачыма ніводнага чалавека, хто б ішоў вуліцаю, каб не паўзірацца на яго і разгледзець: ці не Рыгор гэта па абмылцы абмінуў сваю хату, — не паспеў Рыгор апамятацца, як па яго ўжо забеглі Сёмка з Петрусём і жывасілам выцяглі з хаты…

На двары, за вуглом, іх чакалі дзяўчаты, ціха прытаіўшыся і ўкрадкаю паглядаючы ў хату.

Трохі недавольны тым, што таварышы папярашкодзілі яму выпаўніць надуманы яшчэ ў лесе план, — астацца, прыйшоўшы з лесу, дома, — Рыгор, выйшаўшы на двор, умомант перанастроіўся, калі ўгледзеў рэзвую вясёлую кампанію моладзі.

«А і сапраўды, што за цікавасць лажыцца спаць так рана. Можна будзе выспацца і за раніцу. А тут такая пекная ноч прападзе задарма!» — падумаў ён, пачуўшы Зосін голас…

Шасцярма ў кампаніі: Рыгор і Зося, Сёмка і Волька, Гэля і Пятрусь, яны са смехам і жартамі пайшлі ўздоўж вуліцы, чуць не загарадзіўшы яе ўпоперак, як плотам.

Прайшоўшы да рынку, павярнулі ў Яўрэйскі перавулак, каб выйсці на Ракаўскую вуліцу. Але тут яны спыніліся і аднагодна перарашылі да Ліня не ісці, а разысціся хто куды.

— Ну, дык што ж: давай мы, Волька, пойдзем з табой назад, — абярнуўся Сёмка к Вольцы, і яны хутка адлучыліся ад кампаніі.

У супрацьлежны бок пайшоў Рыгор з Зосяй…

Не мінула і паўгадзіны пасля таго, як яны разышліся, раптоўна падуў сіберны вецер. Па вуліцах падняўся пыл, закруціліся віхры, жалобна загулі садовыя дзярэўцы. Цёмна-сіняе неба яшчэ болей пацямнела, і, прыгледзеўшыся на яго заходні край, можна было ясна адлічыць тоўстую, пукатую граніцу — мяжу з хмар, на адзін бок якой мігалі крыху памутнелыя зоры, а па другую рассцілалася алавяна-гнядая, усюды роўная прастора. Другога краю яе не было нідзе відаць, бо ён заходзіў за лес, які цёмным, чуць выразным шнурком адгароджваў зямлю, упіраючыся вярхамі ў неба, быццам бы падтрымоўваючы яго, а камлямі, як кіпцямі, ушпіліўшыся ў зямлю. Як не сачыць было за хмараю, то нельга было прыкмеціць, ці яна стаяла на адным месцы, ці з кожным часам надыходзіла бліжэй і бліжэй. Праўда, пасля кароткага перапынку, калі не кідалі вочы на яе сваіх узрокаў, а потым раптам ўзіраліся, заметна было, што хмара стаяла бліжэй к зеніту, больш ахапляла пад сабой небнай сіні, зацьміўшы яскравыя зоры. Штомомант узмацняўся гром і павялічвалася маланка.

Рыгор з Зосяю, трапіўшы на ўчарайшае месца, толькі што разгаварыліся аб пытаннях Рыгоравага ад'езду, як знянацку подых ветру, прыляцеўшы з поля з дзікім гулам, прамчаўся між іх, потым перабег вуліцу, устраміўся ў платы і заліўся ў яго шчылінах непрытомнай, разгульнай музыкай. У дварах заскры-

пелі вешніцы, пачуўся стук пахіленых платоў, свіст вырванай завіхранай уверсе саломы.

Не кажучы адно другому ні слова, бы згаварыўшыся, Рыгор з Зосяю падняліся з месца і шпаркім ходам пайшлі дадому.

Дарогаю то Рыгор, то Зося штохвілю заварочваліся назад, паднімалі кверху вочы і ўзіраліся на хмары, якія, адышоўшы намнога ад лесу, сталі хутка імчацца па небе, быццам наганяючы каго, і тушылі адну зорку за другой.

Вецер крапчэў і крапчэў, папіхаючы іх у плечы і трэплючы крысамі Рыгаравай жакеткі, а Зосінай спадніцай. А калі хмары якраз апынуліся над іх галовамі, то маланкі ажно сляпілі вочы, а гром, здавалася, трос зямлю.

— Хаця б не захапіў нас дождж, — праказала Зося, калі яны паспешна ішлі ўжо сваёю вуліцаю.

— Ды ўжо невялікая бяда, калі і пакропіць крыху: пяць крокаў зробіш і дома, — супакоіў Рыгор. — Мне далей, і то я не клапачуся, — дабавіў ён.

— А мо яшчэ дождж і не пойдзе, — паглядзела Зося на неба.

— Не. Вось накрапляе.

— Ах, на яго ліха, сапсаваўся вечар…

— Шкадуеш?

— Чаму ж не шкадаваць. Гэткіх вечароў не многа трапляецца.

— Якіх?

— Наогул…

Зося сарамліва панікла ўзрокамі.

— Лета наперадзе.

— Думаеш…

— Чакай, чакай. Пастой! — хапіў яе за руку Рыгор. — Вось пастойма крыху пад капяжом, можа, прыціхне; а не — то двор сумееш перабегчы хоць і ў навальніцу…

Зося згадзілася, і яны падышлі пад капеж Прахоравай хаты, што стаяла побач Прыдатных, прытуліліся к вуглу між канцом лаўкі і сцяною і на момант прыціхлі.

— Ну, дык дзе ж мы такі заўтра ўбачымся? — дапэўніўся Рыгор, засланіўшы Зосю ад вуліцы сваёю постаццю і палажыўшы ёй на плячо далонь рукі.

— А я і сапраўды не ведаю, — сціснуўшы плячыма, адказала Зося, гледзячы строма ў вочы Рыгору і прыкусваючы губы.

— А каб гэта ў Ліня?

— Можа, і ўдасца. Або ты мяне так хочаш убачыць? — наводна запытала яна і задаволена ўсміхнулася.

— О! яшчэ… — хацеў уверыць Рыгор, але ў гэты момант якраз над Прахараваю хатаю мігнула звілістая асляпіцельная стужка бліскавіцы, нібы нажом раскроіўшы неба на дзве палавіны і азіяўшы сцяну хаты, вокны, капеж страхі і Зосін твар. За бліскавіцаю грукнуў гром, мэрам выстрал з дзясяткаў гармат, ускалыхнуўшы зямлю.

— Уцякайма, хіба! — парадзіла Зося, намерваючыся бегчы.

— Пойдзем, пойдзем: толькі… заўтра ў Ліня?

— У Ліня! Напэўна!

Зося спрытна саскочыла з лаўкі, хутка перабегла вуліцу і схавалася ў двары за вешніцамі.

Рыгор астаўся адзін і прастаяў датуль, пакуль яна падбегла к дзвярам, некалькі раз трывожна бразнула клямкаю, увайшла ў сенцы і заперла дзверы…

Пасля раптам сарваўся з месца і ўподбежкі накіраваў дахаты. Ідучы, ён абярнуўся назад і ўгледзеў, што за ім гоніцца доўгая палоса праменняў з вокан Прыдатнага хаты.

Калі Рыгор параўняўся са сваёю хатаю, то ён угледзеў, што і яго маці не спіць, а ціха сядзіць ля століка, штось шэпча губамі і кідае на вуліцу пуглівыя зіркі. Ён паціху завярнуў у двор, стаў пад капеж, прытуліўшыся да сцяны, і пачаў цешыцца навальніцаю.

«Бадай што іх дзе-колечы захапіў дождж», — падумаў ён пра Сёмку з Волькаю ды Петруся з Гэляю.

І толькі падумаў, як — прымха! — зразу пачуў іх гоман, нёсшыся да вушэй з цемі вуліцы. Рыгор барзджэй адышоў ад сцяны, уперыўся вачыма ў гушчэрны змрок і адлічыў, як між яго швыдка прамігнула чатыры сілуэты. Ён спярша намерыўся аклікнуць, а потым перадумаў, засмяяўся гэтаму і направіўся ў хату.

Маці паглядзела на яго і міла ўсміхнулася.

Была дванаццатая гадзіна ночы…

Назаўтра Рыгор прачнуўся а другой гадзіне дня: ён праспаў каля чатырнаццаці гадзін так смачна і так непрыкметна, што праз усю ноч ні разу не прачнуўся, ні разу не перавярнуўся з боку на бок і як лёг, скурчыўшыся, падлажыўшы руку далоняю пад вуха, так і прачнуўся, лежачы на тым самым баку, толькі выцягнуўшы ногі.

У хаце было ціха. Маці не было дома.

На дварэ стаяла пагода зусім нецікаўная: цёмныя хмары віселі над зямлёю, і накрапваў рэдкі дробны дождж, падліваючы ваду ў глыбокую, растоптаную каровамі гразь. Мокрыя расістыя ралкі бярозы поўзалі па шыбах акна і вадзілі шырокія

вадзяністыя плямы, з-за якіх сумнаму і без таго святлу цяжэй рабілася пралезці ў хату, маркотную і спакойную. З капяжоў спадалі рэдкія цяжкія кроплі, працягаючы паўз вокны доўгія белыя каснікі.

Ад усяго гэтага Рыгору рабілася нудна і сумна.

І ён выразна адчуў у сваім нутры тую розніцу ў перажываннях, якія наводзіла мястэчка ў ранейшыя гады і якія напаткалі яго зараз. Не, цяпер Рыгор быў далёкі ад Сілцоў! Горад палажыў на ім глыбокі адбітак. Горад урасціў яго ў сваё бурлівае жыццё, уцягнуў у вадакрут дынамічных падзей фабрычнага асяроддзя.

Ці ж бы, будучы ў Рызе, ён меў хоць хвіліну, якую б дапусціў змарнаваць дарма? Ніколі! Разбегі машын у майстэрні, заўсёдашняе аколенне рабочым калектывам, шырокія гарызонты, якія адчыняліся яму пасля кожнага сходу заводскай арганізацыі сацыял-дэмакратаў; наспяваючыя супярэчкі ў адносінах паміж рабочымі і гаспадарамі прадпрыемства… Штодзённая руплівая падгатоўка да класавых боек — усё гэта рабіла Рыгорава жыццё рэзвым, рухавым, цікавым. Ён з бадзёрым настроем адпраўляўся ў завод, з зацятасцю фанатыка прыступаў да працы і рабіўся адзінкаю моцнага, злітага калектыву некалькіх тысяч рабочых. Калі гудок апавяшчаў аб сканчэнні работы і з завода вырынала армія людзей, Рыгор не мог наглядзецца хараству іх з’яднанасці, не мог нацешыцца з тае магутнае сілы, якая залягала ў гэтым калектыве. Ён бачыў, як толькі адчыняліся заводскія вароты і з іх выходзілі на вуліцу першыя грамадкі слесараў і токараў, ліцейшчыкаў і пракатчыкаў, вуліца цалкам пераходзіла ў іх распараджэнне… Рыгору тады ўспаміналіся незабываныя падзеі з рэвалюцыі пятага года, сляды і знакі якое бліскучымі іскрамі праносіліся праз доўгія гады.

У яркіх вобразах паўставалі карціны магутных забастовак, сутычкі з паліцыяй. Маляваліся карціны гераічных схватак «лясных братоў» з карнымі драгунскімі атрадамі па станцыях чыгунак, пры раскіданых вёсках… Гігантам вырастаў адважны атрад Тукумскіх рэвалюцыянераў, трымаўшых захопленым з рук царскае ўлады невялікі гарадок на працягу двух тыдняў у сваіх руках.

Наступнае нясло больш магутныя ўзрухі ў рабочых гушчах — гэта ён адчуваў. І наспяванне рэвалюцыйных падзей электрызавала гэтага перадавога мешчанчука.

І вось цяпер, калі ён знаходзіцца ў Сілцах, дзе так параўнаўча спакойліва цячэ жыццё, дзе з буйное ў 1906 годзе арганізацыі асталося некалькі маладых, малавопытных таварышаў, — там,

у Рызе, прайшло жыццё некалькіх цікавейшых фазаў у сваім развіцці. Рыгор дзівіўся таму, што зараз яму малазразумелымі робяцца тыя пачуцці, якія ўспыхвалі ў ім па дарозе да Сілцоў.

Праўда, тут, у Сілцах, ён мае матку, некалькі лепшых сваіх таварышаў; праўда, маладосць, звязаная з мястэчкам, пакінула ў ім шмат цікавых успамінаў, непазбытых эпізодаў… Але… гэта ўсё ў мінулым. Наперадзе праглядалі іншыя вокагляды… Наперадзе адчыняліся новыя прасторы. Можна было спадзявацца, што яны поўнасцю затуляць усё дагэтуль пережытае ў Сілцах. А можа, Рыгору хацелася ўсяго, каб тыя блізкія яму людзі, як Сёмка і Пятрусь ды іншыя, не асталіся ў недасяжным яму адгоне, каб іх можна было перабраць у горад, перакінуць у іншыя абставіны і не даць змарнавацца ў асяроддзі местачковага спакою?.. Праўда, і ў Сілцах павінен быць штурхач, павінны быць людзі, праз якіх бы будзілася сацыялістычная ідэя, збіраліся яе паслядоўцы… Ну, усё ж у адносінах да Петруся і Сёмкі Рыгор прадпачытаў горад. Так, гэтыя яго таварышы павінны будуць расстацца з Сілцамі… А вось Зося!..

І калі ён успомніў Зосю, праведзены з ёю ў хвойніку час, то яму стала незразумелай Зосіна няволя ў густых сетках мяшчанскасці, яе дробныя інтарэсы, засасанасць багнаю забабонаў струхлелае шляхоцкае традыцыйнасці. Між тым з Зосі мог быць выпрацаваны дадатны тып гарадскоe дзяўчыны-работніцы. Толькі адна бяда — некаму над гэтым папрацаваць, а ў яго часу мала… Усё ж ён не пакіне яе без свайго ўздзеяння… Не!..

Рыгор пачаў умывацца…

## ЧАСТКА ПЯТАЯ

### I

Салодкі, смачны і глыбокі быў сон Рыгора — недарма ж ён праспаў столькі даўгіх гадзін! Зусім не такім сном спаў гэту ноч Васіль. Хоць ён, стомлены і раззлаваны, лёг многа пазней Рыгора і мог спаць пад мерны шумок дажджу ціха і спакойна, усё-такі сон яго быў не глыбокі і спаў ён не так, як заўсёды, а несціхана прачынаўся. Думкі адна за другою лезлі яму ў голаў, шавяліліся ў ёй, як пчолы, і прасіліся на разгадку. То Зося, то Рыгор, то Рыгоравы таварышы, стаўшы за апошнія два дні яго люцейшымі ворагамі, так і мігаліся перад ім і, што горш за ўсё, быццам чапалі яго рукамі: варочалі за бакі, адплюшчвалі вочы,

затрымоўвалі прыход сну. Рабілася душна і млосна ад злосці, і Васіль без ліку разоў варочаўся з боку на бок, то выцягваў ногі, то падкурчваў іх, а руку падкладаў пад шчаку або засоўваў за пазуху, за расшпіленую на ўсе гузікі кашулю. Коўдра рабілася несцярпіма цяжкою, і ён памаленьку ссоўваў яе з галавы на плечы, з плеч на пояс, а з пояса на ногі. Але гэтым нічога не выйграваў, бо бессціханая бліскавіца, бухаўшая на ўсім небе штохвілю, праз усе чатыры акны мчалася ў хату, асвечвала яе, як велізарным ліхтаром, а страшэнны гром, здавалася, біў ля самых яго вушэй — праганяючы рэштකі сну.

Васіль злаваў і крывіўся і мусіў коўдру зноў нацягваць на голаў, ухутвацца ў яе, як у сена, таіцца і сілаю ўшпільвацца за хвілінныя ўзвеі здрому. Але толькі ён пачынаў сапці ды пахропваць, як раптам, немаведама скуль, нападаў на яго нейкі дзікі сверб, і ён адчаянна пачынаў чухаць то шыю, то паясніцу, то цяглiцы ног. Чухаў і ахаў, ахаў і праклінаў тую хвіліну, у якую лажыўся спаць… Праклінаў, але нічога не памагала…

Толькі а пятай гадзіне ночы, ці мо і таго пазней, Васіль суцішыўся крыху і задрамаў. Аднак сон быў нядобры: да апошняй хвіліны, у якую ён прачнуўся (а гэта было а дзясятай гадзіне раніцы), Васілю сніліся нейкія страшныя, цудоўныя і нез'яснёна трывожныя сны. Здавалася, што ён цягаецца дзесь у вялікім і чужым яму горадзе, босым і абарваным. Галодным, здэцца, ходзіць па вуліцах, усыпаных добра адзетымі людзьмі, якія, нібы адзін чалавек, не прамінуць, каб не паглядзець на яго і сплюнуць. Уперадзе не наглядалася ніякага прыстанішча, і балючыя думкі рэзалі нутро. Вось ён ужо рашыў ісці туды, у фабрычную палавіну горада, на высокі мост, каб кінуцца з яго ў ваду і ў адзін момант рашчытацца з усімі мукамі жыцця. Рашыў і пайшоў. І толькі гэта ён пачаў набліжацца да моста, як раптоўна, мэрам з зямлі, стаў перад ім Рыгор і загаварыў: «Куды ідзеш? Чаго ты тут?» Але ён так спужаўся, што заплюшчыў вочы і толькі цішком праказаў: «Я ўмру без прытулку і з голаду». — «Што ты надумаў, хлопец! Хадзем да мяне!» — здаецца, праказаў Рыгор і павёў яго нейкімі глухімі вулкамі да сябе. Васілю было сорамна, а Рыгор спакойліва ішоў сваёю дарогаю і вёў Васіля. Потым, здаецца, раптам на адной з доўгіх і чыстых вуліц яны павярнулі ў двор, дзе і ўвайшлі ў белы мураваны дом. Рыгор правёў яго ў багата ўбраную кватэру, пасадзіў, здаецца, за стол і пачаў частаваць адмысловаю ядою, якое ён і ў вочы не бачыў, дарма што слыў багацеем. Васіль, здаецца, са смакам прыняўся за яду, ажно пена цякла з губ. Тым часам Рыгор кудысь выйшаў, прабыў не

болей хвіліны і прынёс з сабою чысты і яшчэ цэлы гарнітур і шапку. Даючы Васілю, праказаў: «Апраніся ды едзь дадому, а то там цябе ўжо жывым пахавалі і ўсё дабро прысвоілі чужыя людзі… Вось яшчэ на дарогу пяць рублёў грошы». Пры гэтых яго словах, здавалася, далей, з суседняе каморкі ўбегла Зося, вясёлая і чырвоная маладзіца, і, убачыўшы Васіля, палахліва крыкнула: «Ой, чаго ж ён тут, гэты Бераг?»

Ад гэтага крыку Васіль прачнуўся і пачуў, як у яго нутры штось цяжкае і ліпкае пацяглося па сэрцы. Перад вачыма яшчэ доўга не гінулі свежыя адбіткі вузкіх вуліц, таго дома і кватэры, у якія завёў у тым горадзе Рыгор, самога Рыгора і Зосі,

«Фу ты! Згінь ды прападзі! І спляцецца ліха ведае што!» — праказаў ён сам сабе, працёр вочы і падняўся з пасцелі.

— Уставай ды мыйся, сынок, будзем цёплыя блінцы есці! — пазвала Васіля маці, нырполячыся са скавародамі ў печы.

— Ды я такі ўстаю… Ах, на яго ліха!..

— Што, што такое? — запытала Тадося.

— Ды я сон нейкі гадкі сніў, — адказаў Васіль.

— А які? Паведай толькі мне, — зацікавілася маці.

Васіль, доўга не думаючы, расказаў сон. Тадося пільна выслухала, павярцела галавою і заахкала. А калі Васіль запытаў мацеру:

— А як табе здаецца, маці, што то азначаў гэты сон? — Тадося ўверана і рашуча адказала:

— Усё трэба разумець наадварот, сыне.

— Наадварот? Няўжо праўда?

— А то думаў літаральна?

Васіля гэта тлумачэнне задаволіла і супакоіла, і ён праз мінуту пакінуў думаць аб гэтым; а кінуўшы думаць пра сон, яму лягчэй зрабілася і на сэрцы: нягледзячы на хмарны дзень, уваччу было ясна і весела. На змену цяжкіх думак, народжаных адваротным сном, у яго галаве заігралі зусім новыя, зусім другія думкі: думкі пра тое, што на сённяшні дзень выпадала зрабіць. Гэта, бач, пра сваты.

Учора Васіль пабываў у дзядзькі Хлора, многа і доўга гаварыў з ім аб гэтым. Хлор прачытаў яму багатыя маралы, навучыўшы, як і што трымацца з Прыдатнымі, чым апераваць у гутарцы і што мець за козыры ў руках, калі справа будзе хіліцца не ў іх бок.

Васіль гэта добра помніў і як на шылах чакаў к сабе гасцей, не выходзячы нікуды з хаты.

Снедаць добра не снедаў, бо спадзяваўся з гасцямі не стаяць ды пануквацца, а ў кампаніі есці; вылезшы з-за стала на хату, ён пачаў памерна тупаць узад ды ўперад, час ад часу падыходзячы к аднаму, то к другому акну і пільна ўзіраючыся за гумно, ці не ідзе хто да іх. Але як час быў ранні, то, вядома, ніхто і не мог прыйсці; Васіль, не ўгледзеўшы нікога, нецярпліва адыходзіў ад акна…

Тадося не пакідала ўвіхацца з гаспадынскаю работаю: кончыла з печчу, упусціла на двор кароў, падаіла іх і зачыніла ў хлеў. Пасля прыбрала ў двары і сенцах. На гэта пайшло каля гадзіны, і калі Тадося вярнулася ў хату і застала Васіля ўсё яшчэ ў задуменным тупанні, то яна ўздзівілася: што за клопат абуяў ім?

Цікавасць заставіла Тадосю запытаць Васіля:

— Чаго ты, Васілька, так заклапочаны?

Васіль спыніўся тупаць і злосна праказаў:

— Калі бо дзядзька так доўга не ідзе.

— Прыйдзе, сынку, яшчэ рана… Ці ж варта злавацца…

— Не! Калі рабіць — дык рабіць… Пакуль збяромся…

— Паспеем, сынку, паспеем…

Пакуль яны так гаварылі, зусім цішком, непрыкметна, Хлор прайшоў двор і раптам апынуўся ў хаце.

— Дзень добры ў хату! Што за спрэчкі?!

Тадося кінула работу і павярнулася да Хлора. А Васіль хутчэй жа падаў дзядзьку зэдлік. Прысеўшы, Хлор зняў шапку і прыгладзіў валасы.

— Ну, што ж, нябожа, не перадумаў? — весела запытаў ён Васіля.

— Ды чаго перадумваць! Калі рашано, дык і падпісана, — адказаў Васіль.

— Ну, чуеш, Тадося!

— Чую, чую, Хлорык! Як я шчаслівa! Мой ты братка! — натхнёна прамовіла яна.

Васіль маўчаў.

А Хлор, важна седзячы, закаціўся бясклопатным, задаволеным смехам, ажно яго маленькія, кноразавы вочкі, упаўшыя глыбока ў тоўсты сыты твар, заплылі вільгаццю слёз і брыты гладкі падбародак заварушыўся; а на шчоках заметна абмалёўваліся роўныя круглыя ямачкі.

— Бач, рада, маці-ы… Ха, ха, ха!

— Ох, Хлорачка! Чаму ж мне не радавацца! Я ўжо даўно чакала гэтага і думала — не прыжду, ажно…

— Цяпер для мяне ўжо ніхто не суддзя! — перабіў мацеру Васіль. — Калі ўжо рашыў, то і быць па сяму… Вось і з Янкам мы так ужо гаварылі ўчора… Праўда, ён павінен таксама прыйсці. Янка хваліў за рашучасць…

— Ну, ды і без Янкі мы справімся, — задаволена праказаў Хлор.

— Э, дзядзька, не! Я з ім ужо даўно ўгаварыўся… Гэта ж мой самы блізшы таварыш…

— Так, так, — падмацавала Тадося.

— То пачакаем, добра, — згадзіўся Хлор.

— А колькі часу цяпер? — запытала Тадося.

— Ды вось я пагляджу.

Хлор выняў з кішэні камізэлькі тоўсты сярэбраны гадзіннік, хвацка, прылоўчана адчыніў яго і, кінуўшы ўзрокам, праказаў:

— Ды ўжо дванаццатая пайшла.

— А, як скора прабег час! Здаецца, толькі яшчэ была раніца.

— Час скора бяжыць.

— Вось мо перакусім чаго, Хлор?.. Ды, бок, а жонка твая не загляне?

— Нашто яна! Жонка, калі захоча, то і пасля паспее… А есці я яшчэ не хачу.

— Дык я ж дастараўся падмачыць яду, — падхапіў Васіль і, не чакаючы адказу, хутка выбег у сенцы і прынёс кварту гарэлкі.

— Што ты, што ты! — замахаў аберуч Хлор, калі ўгледзеў у руках Васіля чырвоную шапку бутэлькі. — Што ж ты гэта ўздумаў, нябог? Спакушаць старога чалавека! — скарамоўкаю, разбаўленай сытым смехам, праказаў Хлор, а ў самога тым часам на губах сабралася слінка.

— Не-э, дзядзька, не-э! Гэта-то ўжо трэба-а! — настойваў Васіль.

— Ах, надзіва, на ліха мне! — перабіла Тадося. — Толькі я нічагуткі не змагла згатовіць… Што ж, няхай яечня за ўсё адказвае…

— Ды і што вы прыдумалі? Хіба і сапраўды мяне за госця лічыце? Вот табе і на: з сваяка ды ў госця перавярнулі, — жартаваў Хлор.

— Вось ты толькі, швагрусь, пакінь усякія цырымоніі ды садзіся трактуйся, — папрасіла Тадося.

Хлор быў заўсёды смелым у братавай хаце і нічуткі не саромеўся нікога і не цырымоніўся. Вось і на гэты раз ён не заставіў сябе доўга чакаць і першым усеўся на покуці, як дома. Тадося

ж, ахопленая з галавы да ног пачуццём вясёласці, прысела да краю стала.

— Налівай жа, швагер! — папрасіла Тадося.

Швагер не чакаў і хутка выпаўніў просьбу братавай. Пачатак быў з лёгкай рукі: поўная чарка іх траіх абышла па некалькі разоў і зрабіла з імі цэлую перамену: усе яны сталі неймаверна вясёлымі, добрымі, гасціннымі і гаманлівымі; кожны стараўся выказаць чымсь найбольш добрых сваіх вартасцей, якія знайшліся ад гарэлкі. Перш гаварылі так: адзін тлумачыў, а два слухалі, а калі заварушылася ў галаве, гамонка ўсіх змяшалася ў адну.

За гутаркаю пасыпаліся песні; запявалам вызваўся Хлор, завёўшы разухабістую вясельную песню. Хацела яму памагчы Тадося, але Янка сваім раптоўным прыходам, якога не падсцярог нават і Васіль, папярашкодзіў гэтаму.

— Дзень добры ў хату! — на ўвесь голас прагукаў ён, каб звярнуць на сябе ўвагу.

— А, Янáчка! Хадзі, братан, сюды, хадзі! — падскочыў да яго Васіль, абвіс на шыю і некалькі разоў засаб пацалаваў таварыша; потым узяў за руку і павёў к сталу.

З прыходам Янкі Тадося, Хлор і Васіль яшчэ больш павесялелі, і маленькая перакуска, на якую звалі дзядзьку і швагра Хлора Васіль з мацерaю, разраслася і разбухла ў цэлую бяседу, якая зацяглася чуць не да вечара, толькі дзякуючы Янку, які піў мала і ведаў, за чым прыйшоў, час ад часу даваў ведаць аб сватах.

А калі ўжо змрок пачаў прыкметна лезці ў хату, то ён вылез з-за стала і запрапанаваў:

— Ужо час! Ці вы забылі аб сватах?

Янкавы словы мэрам абудзілі ўсіх.

— Але, але, трэ ісці, — азваўся і Хлор з-за стала, хутка адзеў шапку і прыгатовіўся.

— Васіль, будзь гатоў! — напомніў ён Васілю. — А ты вось, маці, благаславі Васіля! — абярнуўся Хлор да Тадосі.

Янка ўхмыльнуўся.

— Нічога, і без благаслаўлення дастукаемся свайго, — сказаў ён.

— Не, не, сынок, я благаслаўляю ўсіх, — настаяла Тадося.

І, устаўшы з месца, яна падышла да сына, пераждагнала яго капу разоў, потым абярнулася з гэтым к Хлору, затым к Янку.

Як Васіль, так і Хлор з Янкам пасля благаслаўлення перш пацалаваліся з Тадосяй, потым перацалаваліся паміж сабою і выйшлі з хаты.

Тадося павяла іх у двор, зачыніла за сабою сенцы і стала на парозе ды ўмільна глядзела ўслед ім да тых пор, пакуль яны не зайшлі за горку і не схаваліся з вачэй.

II

Калі Рыгор памыўся, адзеўся, крыху перакусіў і выйшаў з хаты, каб пайсці к Сёмку, то яму прыйшлося толькі прайсці сенцы ды пераступіць адною нагою сенішні парог.

Сёмка, зрання сядзеўшы і нудзіўшыся ў доме, таксама задумаў перабегчы да Рыгора, каб удвух з ім аб сім, аб тым пагутарыць, а потым пайсці дзе-небудзь гадзіну-другую пагуляць.

Стрэціўшыся якраз на парозе, яны абодва на момант замяліся: ніводзін не ведаў, што сказаць. Але гэта зараз прайшло, і Сёмка першы, зарагатаўшы, праказаў:

— Вось дык стрэча!

— Але. Я направіўся якраз да цябе.

— Ну?

— Сапраўды.

— А я таксама: давай, думаю, праведаю яго, можа, ці жыве ён… пасля ўчарашняга дажджу. Здорава, усё-ткі, нахвастаў ён цябе ўчора.

Рыгор ухмыльнуўся.

— Можна было на гліну раскіснуць.

— Не болей, як вас.

— Чаму ты так думаеш?

— Ды проста… Я бачыў, як вы сцігалі вуліцаю…

— Не можа быць?

— Сапраўды.

— А дзе ж ты быў? — здзівіўся Сёмка.

— Ого! не скажу! — пацвіліўся Рыгор.

— Чаму? Няможна?

— Я вяртаўся дамоў і прыпыніўся крыху пад капяжом свае хаты, каб палюбавацца навальніцаю. Стаю і думаю: якаво гэта з імі. Нябось, дзе-кольвек і іх засцігне дождж. Аж раптам чую твой голас. Перш думаў пазваць, а потым рашыў: хай бягуць.

— А… Праўда… Апаласкаў крыху… Здаровы дождж, спаць было смачна.

— Ну! А я доўга не мог заснуць. Што ж мы стаімо так? — перамяніў гутарку Рыгор. — Мо ў хату ўвойдзем? — запрапанаваў ён, усю пору стоячы адной нагою ў сенцах, а другой на ганку і трымаючыся рукою за клямку дзвярэй.

— Па-мойму — не варта: я дасюль у хаце сядзеў, — не згаджаўся Сёмка, — лепей пяройдзем да Волькі: там павінны быць Гэля, а мо і Пятрусь. Маеш ахвоту?

— Ці ёмка туды ісці: мо бацькі няўзлюбяць, занятыя чым…

— Нічога, нічога; яе бацькі дужа добрыя і прыветныя людзі… яны любяць, калі хто прыходзіць к ім. Ермалай, бач, Вольчын бацька, як пачне табе баяць усякія байкі ды спавяданні казаць, дык ты і вушы развесіш. А Юстына, брат, толькі смяецца ды ліслівенька ў вочы паглядае, быццам мые цябе сваім узрокам… Слухай, пяройдзем, тады забачыш, што праўду кажу… Ты мо сумляваешся, што Свістуны… — угаварваў далей Сёмка Рыгора.

— Не ведаю. Неяк ніякавата… Як падумаю аб бывалішнім, калі заўсёды Ермалай сцябаў мяне пугаю, злавіўшы ці ў гародзе, ці з канём, дык і цяпер валасы дыбам становяцца.

— Яшчэ чаго неставала. Прыпамінаць уздумаў. Хіба і цяпер ты думаеш у гарод залезці, а потым ужо ісці ў хату… Ідзем, ідзем. — І Сёмка хапіў Рыгора за руку і сцягнуў з парога, а сам усчыніў дзверы. — А ты зашчапі або прысунь, — сказаў ён Рыгору, засмяяўшыся.

Рыгор паслушна прасунуў руку ў акенца, дастаў у сенцах закрутку і спусціў яе з падчэпленае нітачкі, потым папрабаваў за клямку, стукнуўшы каленам у дзверы, і, праканаўшыся, што яны туга запёрты, сышоў з ганачка. За ім услед саскочыў і Сёмка.

— Я б, ведаеш, хацеў наладзіць хоць адзін сход нашай арганізацыі, калі яна яшчэ трымаецца, — падаў думку Рыгор.

— А гэта было б нядрэнна. Перад тваім прыездам мы рабілі маёўку ў хвойніку. Было чалавек дваццаць нашае і яўрэйскае моладзі… Ты б расказаў нам пра Рыгу што-кольвечы. Гэта трэба перадаць Петрусю, ён зробіць.

— Я сам з ім пагавару на гэту тэму.

— І то рацыя…

— Пра ўсё парадзімся ўтраіх. Добра? А цяпер ідзем да Свістуноў… Ідэя!

Яны пайшлі ўсцяж вуліцы да Волькі Ермалаішкі.

Хата Ермалая Свістуна стаяла па тым самым баку вуліцы, што і Рыгорава, так мо прымерна хат на восем далей, наўскасяк Прыдатных. У Ермалаевым двары быў маленькі гародчык, у якім Юстына кожны год рабіла тры градкі і сеяла на іх шчаўе. Між плота, у двух вуглах гародчыку, раслі дзве кудравыя ігрушкі-дзічкі, а пасярэдзіне некалькі штук вярбін; яшчэ ў ім былі кусты вяргінь і мяты. Хата мела ў сабе пяць вокан: тры на двор, а два на вуліцу; усе гэтыя вокны былі пахварбаваны ў ружова-белую

мулю і парэзаны рамкамі на пяць шыб. За хатаю ішлі сенцы, потым камора, а далей некалькі хлявоў для двух коней і трох кароў. З самага ж краю быў прыбудованы невялічкі сметнічак, на гоны ад якога, у канцы пляца, стаяў новы пекны свіронак. Адным словам, будоўля Свістуна ні на чуткі не рознілася ад будоўляў усіх сілцоўскіх гаспадароў-сераднякоў.

Ідучы да Свістуноў, трэ было мінуць хату Прыдатных, і вось, калі Сёмка з Рыгорам параўняліся з ёю, дык абодва наіскось паглядзелі ў яе вокны; але ні той, ні другі нічога там не ўбачылі і маўчліва направіліся к Вольцы.

Нечаканы іх прыход здзівіў Вольку, а таксама і зарадаваў: яна весела адскочыла ад акна і апавясціла Гэлю, якая ўжо гадзін са дзве гуляла ў яе; за Гэляю яна сказала і бацькам.

— Ну, дык што ж. Міласці просім! — праказала Юстына, пачуўшы бразг дзвярмі.

Яна сядзела ў запечку ў чорным кабаце, без хусткі і ў брудным палапленым фартусе.

— Хаця хату ім адчыню, — дабавіла яна і, як белка, рухава і рэзва, знялася з месца і падбегла к дзвярам.

Ермалай жа, як ляжаў на палку, палажыўшы абутыя ў боты ногі на прымурак, так і не паварухнуўся. На ём была апранута старая пярэсценькая камізэлька, з-пад каторай выходзіў вялікі каўнер белае, старасвецкае кашулі; на галаве доўгія валасы яго былі змазаны салам, бо добра зіхацелі, і прычэсаны акуратнеnькім прадзельцам. Твар Ермалая паходзіў на твар біблейскіх людзей: мерны, зарослы шырокімі бакамі і доўгаю барадою; сінія, мяккія вочы, буйны, прадаўгаваты нос. У губах ён трымаў люльку і бессціхання цмокаў ёю. Ляжаў незварушана, нібы толькі напалавіну жывы, быццам упіўшыся тутунным хмелем.

Калі Сёмка з Рыгорам увайшлі ў хату і ў хаце падняўся гоман, смех і жарты, тады і Ермалай час ад часу даваў аб сабе знаць, што ён не спіць, а ўсё чуе і бачыць; а знак аб сабе ён даваў тым, што пасмейваўся і калі-нікалі ўтыкаў у гутарку свае словы.

— А я думаў, што дзядзька ўжо сабраўся спаць, — пасля некаторага змоўку праказаў Сёмка, падышоўшы к Ермалаю.

— А што ж, браток, мая справа такоўская: свята — спачывай, будні — працуй. Была пара, вандзігаў і я так, ого-о!

— А чаму б не выйсці куды пагуляць?

— Ды я думаў таксама, толькі куды ісці. Пагода няважная, на вуліцы гразка, а на места — лянуюся, прызнацца; к суседзям жа не маю хэнці.

— Ну, а заўтра дзядзька думае рабіць што ці яшчэ свята? — запытаў Рыгор.

— Ды яно, як бы табе сказаць… не то свята, не то будні… пэўней, што свята. Градавая серада, з даўных святкуем, чаму ж і цяпер не святкаваць… Папрабую, пашлю Вольку ў Паплавы, хай назбірае там воз-другі камення; а болей — нічога. Коням авёс пакуль што ёсць — няхай жуюць на здароўе, — паведаў Ермалай і зацягнуўся: з губ вылецела доўгая стужка густога дыму, які цэлаю хмараю разаслаўся пад столлю.

— Я таксама думаю гуляць.

— Вядома, ды і ўсе будуць святкаваць…

Пакуль Сёмка гутарыў з Ермалаем, Рыгор спакойна, нібы баючыся ці сароменючыся, падышоў к сталу і ўкрадкі, непрыкметна пазіраючы на Юстыну, якая тое і рабіла, што толькі ківала галавою, пераносячы вочы з Сёмкі на Рыгора, а з Рыгора на Сёмку, прысеў разам з Волькаю насупроць Гэлі, якая стаяла, абапёршыся рукою на стол.

— Вось яны там няхай аб сваіх справах балакаюць, вядома, як гаспадары, а тут мы давай аб свае, — абярнулася Волька к Рыгору.

— Вядома. На свае справы і мы будзем гаспадарамі, — адказаў Рыгор.

— Ну, дык я пачынаю: як вы хаця заблудзілі сюды?

— Я і сам не прыдумаю. Гэта, бач, усё Сёмка састроіў: стрэў мяне на вуліцы і так прыстаў, што я мусіў паслухаць — ісці за ім. Такім манерам і прыйшлі.

— Ну, Сёмка на гэта мэт, — ціха праказала Волька і азірнулася на мацеру.

— І дзякуй яму, — праказала Гэля, пачуўшы, аб чым Волька кажа.

— Гэта на шкоду не пойдзе, — умяшаўся і Рыгор.

І прагавораныя ім словы рассмяшылі абедзвюх дзяўчат. Найболей смяялася Волька, хоць не адставала ад яе і Гэля. Рыгор глядзеў на іх і таксама ўхмыляўся.

Юстына стаяла ў тыльным акне і раз-поразу кідала ўзрокам на вуліцу.

— А бачце, бачце! — раптам загукала Юстына, перабіваючы і гутарку Ермалая з Сёмкам, і смех Рыгора з дзяўчатамі. — Ці не ў сваты толькі вунь ідзе Васіль Бераг з сваім дзядзькам і з Янкам Грыбам.

Усе замоўклі і, хто як сядзеў ці стаяў, разам пакідалі свае месцы і пазбегліся к вокнам. Рыгор, Гэля і Волька згрудзіліся ў

вулічным покутным акне. Юстына ж з дзецьмі і Сёмка ўлезлі ў тыльнае. Нават падняўся на палку і Ермалай і хоць не злез з яго, але стараўся ўгледзець у верхнія шыбы, стаўшы на каленьках.

А ў гэты час Хлор, Васіль і Янка ўжо былі якраз ля Прыдатных, і Янка, ідучы з правага боку, першы захіліў у двор. Іх праводзілі вачыма чуць не з кожнае хаты, між якую яны праходзілі, а таксама і стрэчна ішоўшыя па вуліцы жанкі і мужчыны.

— Вось і на нашай вуліцы будзе вяселле. Гатоўся, Ганна! — казала адна кабета другой, сустрэўшыся і спыніўшыся якраз перад вокнамі Ермалаевай хаты.

— Мне як мне, — адказвала другая, — а табе-то напэўная бяседа склеіцца.

— А глядзі, які дасціпны гэты Хлорык, — цягнула далей гутарку першая, зусім не патураючы, што іх слухаюць каля дзесяці чалавек з акон тае хаты, ля якой яны стаяць, — гэта дык Хлорык! Гэта дык ён! Гэта ж, бач, ушчуў, што прыехаў Стэпін сын у госці, дык барзджэй напяроймы. І што ж ты думаеш, Ганулька, гатоў адбіць Мікалаішку за свайго Васіля… А мне здаецца, па праўдзе кажучы, гэты самы яго нябог, Васіль — хоць ужо ён мне і прыходзіцца нейкім сваяком — і нагі не варт Стэпінага сына: той, галубачка мая, хлопец — толькі пацешыцца ды палюбавацца ім, а гэта — салоха, нягеглец… Будзь бы на мяне, я б ніколі сваёй дачкі не выдала б за гэткага, як Бераг, нягледзячы, што ён багаты ды знатны…

— Пакінь казаць, дзіўная. Цяпер не вельмі глядзяць на красу, грошы давай — вось у чым увесь сэнс. Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае, ці то хлопец, ці дзяўчына, — разважала другая кабета.

Юстына зацікавілася іх перасудамі і гатова была сама адчыніць акно і памагчы ім, але гэтаму перашкодзіў Сёмка, які раптам адвярнуўся ад акна, выйшаў на хату і з пагардай праказаў:

— Цьфу! Згінь, прападзі! Дурная будзе Зося, калі папруцінаю не выпрэ з хаты ўсю тройцу…

Усе зірнулі на Сёмку.

— Пакінь брахаць. Каго ж лепшага яна можа чакаць! — стрымала яго Юстына.

Дзяўчаты ўкрадкаю пераглянуліся.

Ім няёмка стала за Рыгора, які, аднак, мала патураў таму, што бачыў. І сваты, і гутарка жанок за вокнамі хаты, і тая цікавасць, якая захапіла Вольку ды Гэлю, здаваліся яму зусім звычайным, добра яму вядомым з’явішчам. Гэтага і трэба было чакаць, бо гутаркі, што і да яго даходзілі, будаваліся не на пустым паветры.

Але Рыгора займала Зося, як чалавек. Апошняя гутарка з ёю асабліва яскрава падкрэслівала ў ёй характэрныя ноткі нездавальнення сваім палажэннем і хоць не напружнае, але выразнае жаданне знайсці з яго выйсце. Магчыма — Рыгор дапускаў, — што дзяўчыніным настроем кіравала часткова і пачуццё любові, усё ж Зося цягчылася тых абставін, у якіх яна знаходзілася і якія ўскладняліся бацькаўскім намерам звязаць яе замуствам з Берагамі. Успомніўшы рашучыя заявы Зосі не папусціцца бацькавай волі, Рыгор не быў упэўнены, што Зося падніме бунт супроць бацькоў. А калі і паспрабуе пасупярэчыць, то з гэтага выйдзе мала толку.

Рыгора займала пытанне, якім парадкам яму паперашкодзіць Берагаваму замаху на Зосю? Што зрабіць, каб дапамагчы ёй выбрацца з багны зацвілае шляхецкасці і ступіць на шлях новага, інакшага жыцця.

Задача была не з лёгкіх. Рыгор гэта прадбачыў. Тым не меней ён не думаў выпусціць з рук тых магчымасцей, якія ў яго меліся. Гэтыя магчымасці, у асноўным, заключаліся ва ўгаворах Зосі. «Дзяўчыну трэба ўгаварыць, заверыць, упэўніць у тым, што не на Сілцах сходзіцца свет і не ўсе дарогі вядуць у кулацкія хаты праз гвалтоўны замуж», — раздумоўваў Рыгор, плануючы, як і што сустрэцца з Зосяю і яшчэ раз пагутарыць на гэту тэму. Яму цікавымі здаваліся і парады Сёмкі, ад якога можна заўсёды атрымаць разумныя і талковыя думкі. Рыгора цягнула абгаварыць гэта пытанне з таварышам, і ён запрапанаваў Сёмку выйсці прагуляцца.

Сёмка не супярэчыў, і яны хутка пакінулі Свістунову хату.

— Паглядзі во, — пачаў першым Сёмка, калі яны ачуліся на вуліцы, — як піць даць Зося апыніцца ў Берагаў.

— Ты думаеш? І нічому ўжо ніяк нельга паперашкодзіць?

— Дзе ты бачыў? Прыдатны сагне яе ў барані рог.

— Няўжо гвалтам?

— Або ты не ведаеш таго? Калі табе прыйшлося забыцца!..

— Шкада Зосі… як чалавека і харошага таварыша…

— Так, яна, бадай, адна ўвесь час знаходзілася ў нашай кампаніі; пры ёй можна было гаварыць і аб сакрэтах… Яна не чужылася страшных і зненавісных другім дэмакратаў… Нават, ты ж памятаеш, колькі разоў Зося наведвала нашы маёўкі… Тым часам — во… У адзін момант апыніцца ў абоймах гэтага дзедзіцкага вырадка…

— А я думаю яе і надалей падагітаваць… Авось у дзяўчыны знойдзецца смеласці, і яна задумае паспрачацца з бацькамі…

Ты ж, з свайго боку, Сёмка, паспрабуй уплыць на яе… Свая дзяўчына… — Сёмка няўверана паглядзеў таварышу ў твар. — Сумняваешся?

— Так… Мяне дзівіць, Рыгор, што ты судзіш так, мэрам бы табе наша сілцоўская сапраўднасць зусім невядома.

Яны прайшлі вуліцу і па Сівулінскай дарозе выйшлі ў яравыя палеткі. З поля нясло вільготнай свежасцю, але руцянеўшыя ўсходы цешылі маладым жыццём. Дзесьці, па другі канец палеткаў, зычэлі гукі пастуховых берасцянак і плаксіва залівалася нудлівая жалейка. Пры бліжэйшай вёсцы махалі скрыдламі пару ветракоў. З дзясятак падвод, нагружаных мяшкамі збожжа, накіроўвала да іх вузкімі завілымі сценкамі. Нечакана з Сівуліна ехаў тамтэйшы ўраднік, вядомы кожнаму сілцоўцу па дзевяцьсот шостаму году, калі ён на працягу ўсяго студня месяца рабіў абláву на сілцоўскіх сацыял-дэмакратаў… Ураднік пільна паглядзеў на знаёмых яму хлапцоў, правёўшы іх узрокамі. Але ні Рыгор, ні Сёмка не прыдалі гэтаму жаднае ўвагі. Яны завярнулі направа, да гуменішча, не пакідаючы абгаворваць закранутае Рыгорава пытанне. Сёмкаў песімізм не здавальняў Рыгора, і ён стараўся яго развеяць сваімі довадамі.

— Ты, браце, паддаешся нецікавым настроям… цябе ўпарта зацягаюць сілцоўскія інтарэсы дробных…

Рыгор не дасказаў, бо зусім нечакана для іх абодвух як з зямлі вынік Пятрусь. Ён вяртаўся з працы, з сякераю за плячыма, падперазаны саломенным перавяслам, у старых, растрапаных лапцях.

— Спацыруеце? Шчаслівыя! Нават градавую сераду святкуюць — чым не любата, — загутарыў Пятрусь.

— А сам зверадзіўся, бедны, — адказаў Сёмка.

— Болей вашага. З восьмай гадзіны вось дагэтуль гвараздаў сякерай за восем злотых…

— Наймаўся?

— А то ж што… Гладышы хлеў становяць і вяршкі нанялі агаляць…

— Затое грошай назбіраеш…

Яны накіравалі вулачкаю ў мястэчка. Рыгор увёў у курс гутаркі Петруся і папрасіў яго думкі на закранутае пытанне. Пятрусь заняў сярэдзіну між Рыгорам і Сёмкам, аднак стаяў за тое, каб Рыгор паспрабаваў яшчэ агітаваць Зосю.

На разыходзе яны абгаварылі справу наладжання сходу мясцовай арганізацыі с.-д., даручыўшы гэта Петрусю. Пятрусь ахвотна даў абяцанне падгатовіць сход на суботу і апавясціць Рыгора.

— Ну, ты зробіш паведамленне аб становішчы ў Рызе! Ідзе?

— Ідзе!

На гэтым хлопцы разышліся па хатах…

III

Пакінем на кароткі час Рыгора, Сёмку і Петруся ў доме, а самі прасачым, з якою цікавасцю страчалі Прыдатныя сватоў і як іх стрэцілі; потым паслухаем іх гутаркі.

Якраз у той самы час, калі Хлор Бераг, чырвоны і поўны, з Васілём Берагам і яго таварышам Янкам Грыбам, вясёлыя і бравыя, пад хмяльком, падыходзілі пад хату Прыдатных, а Янка зрабіў ужо першы крок у двор, Мікола Прыдатны важна стаяў у хаце супроць дваровага акна і штосьці задуменна пазіраў на садок, які ўжо адцвітаў і белым уборам пахучага квету, як макам, засыпаў гразкаватую чорную зямлю між новага частаколу. Марта ж, яго жонка, за нечым была выйшаўшы ў двор. Зося знаходзілася ў хаце: яна стаяла ў запечку перад вешалам і пільна шукала між павешанай вопраткі хусткі, якою яна хацела акінуцца, каб перабегчы на часінку-другую да Волькі.

Мікалай, угледзеўшы іх, порстка замітусіўся і пачаў шукаць вачыма Марты.

— Тэкля, дзе маці? — шэптам запытаў ён дачку.

— У сенцах, — адказала тая і выбегла.

— Зоська, прыхарашыся! — абярнуўся ён да Зосі, якая знярвованай стаяла на адным месцы, пад вешалам, ашаломленая тым, што вакол яе рабілася.

А тым часам госці набліжаліся да сяней. Марта, нібы швайцар, ёмка нарасхлест адчыніла дзверы і, стаўшы наўпрост, гасцінна захісталася перад гасцямі.

— Добры вечар, дарагія мае! Ці не заблудзілі толькі, родненькія? — разлілася яна і папрасіла ўвайсці ў хату.

Госці паціснуліся з Мартаю за рукі, а Васіль, здаецца, і пацалаваўся.

— О, суседухна! Нас выпадак праслаў за вялікім дарам да вас, — пераступіўшы парог у хату, весела вымавіў Хлор.

— Не за дарам прыйшлі, а малойца прывялі вам у дар! — паправіў яго Янка, вітаючыся з Міколам.

— Ці за дарам прыйшлі, ці дар прынеслі, — мы вам дужа рады! — адказаў Мікола, нізка схінуўшыся і папрасіўшы сватоў сесці.

Для Зосі ж іх прыход быў настолькі непрыемным, што яна ўся разгубілася: не ведала, што гаварыць, ці мо зусім не гаварыць;

нават Янку і Васілю, каторыя першыя загаварылі з ёю, яна адказала змоўкам. Яна як абярнулася пры ўваходзе гасцей у хату тварам к дзвярам, так і стаяла, не хочучы парушыцца з месца. Хлор з Янкам паказаліся ёй тымі махлярамі, якія кожную восень прыходзілі к яе бацьку і да другіх мяшчан купляць коні і таргаваліся да ачамернасці, а потым ішлі на барышы: піць гарэлку.

— Зоська, га, Зоська! Ты прыадзенься хаця крыху, такі-та ж госці прыйшлі к нам, — шапнула дачцэ Марта.

— Адкаснецеся вы са сваімі гасцямі! — злосна адказала Зося, адвярнулася к акну і ўзорылася на вуліцу.

Марта зазлавала даччыному адказу і моцна ўстрывожылася. «Гм, гм! і чаго яна капрызіцца? Вось, на яе цураха, якая ж такі яна ўпартая! Гэта ж трэба, яшчэ непрыемнасці нарабіць!» — прабегла ў яе галаве, і Марта зноў падышла да Зосі ды ўжо ласкава папрасіла яе выйсці на слова ў сенцы. Зося маўчліва адвярнулася з акна, зняла з вешала хустку і ў справоджанні Янкавых ды Васілёвых узрокаў пайшла следам за мацераю.

— Зоська! Та чаго ж ты капрызішся? — зачыніўшы за сабою дзверы, запытала Марта.

— Ды вот так! Вы самі павінны гэта ведаць! — коратка і злосна адказала Зося.

— Дык, значыць, ты хочаш сораму нарабіць? — спытала далей незадаволеная Марта.

— К чорту я іх пасылаю! — голасна, што мо зачулі і ў хаце, адказала Зося.

— Ша-ша-а! А то яшчэ пачуюць! — стрымала Марта дачку, паднесшы к яе вуснам далонь, а потым злосна вырачылася:— Чаму непатрэбны? А каго ж ты будзеш чакаць? Мо гэтага галадранца? Глядзі, адно, глядзі… Нешта ты вельмі смелаю стала: не спытала мусібыць доўга бацькавай пугі? Гэй, дачушка!

Зося разгорнілася і заплакала.

— Ну, дык добра, добра! Кідайце мяне жывою ў яму!

Зося закрыла вочы рукамі і кінулася тварам у халаднаватую падушку.

Марта не паспагадала дачцэ, а яшчэ болей раззлавала на яе: у злосці, як у агні, уся чырвоная, з пенаю на губах, яна прабегла некалькі раз па сенцах, выскачыла на хвіліну ў двор, вярнулася і, бачачы, што Зося ўсё яшчэ стаіць, утуліўшыся ў падушку, падбегла к ёй і сіберна тузнула яе за рукі.

— У хату ідзі, я табе прыказваю! Ідзі ў хату, ведзьміна адроддзе!

— А вось не пайду, не пайду! І што вы мне зробіце! — агрызнулася Зося ды зноў уткнулася ў падушку.

— Ну, глядзі ж, нябога! Каб гэта табе омегам не вылезла, — паківала Марта пальцам у бок Зосі і пакінула яе адну.

Пакуль Марта з дачкой валэндаліся ў сенцах, у хаце Мікола прыняў на сябе ролю гаспадыні і паспеў рассадзіць гасцей за стол, падаць ім гарэлкі і прыгатаванай Мартаю закускі.

— Не адказвайцеся, вы ж у нас рэдкія госці! — запрасіў Мікола і агляну́ўся на дзверы.

Якраз з сяней увайшла Марта. Яе выгляд кінуўся ў вочы Міколу.

— Што гэта з табою? — запытаў ён.

— А нічога! Не клапаціся! — супакоіла мужа Марта.

— Не, ты скажы, скажы! — не адставаў той.

Пры гэтых словах госці паглядзелі на Марту, потым пераглянуліся між сабою.

— Не дурыся! Не перашкодзь людзям.

Мікола не стаў далей нічога казаць і хутка выбег у сенцы.

Зосі ён нават не прыкмеціў упацёмку. Падышоўшы к хвасе з жытам, ён выняў гарэлку і хутка павярнуў у хату.

— Што ж! Для мілых гасцей… — праказаў Мікола, стукнуўшы поўнаю пляшкаю аб стол.

— Справы, справы! — падхапілі ўсе агулам.

І бяседа шырылася. На ўсіх найшла нейкая асаблівая вясёласць. Хлор, Янка, Васіль, як Мікола і раптам перайначаная Марта, нават і Тэкля, — усе наперабой гутарылі, смяяліся і жартавалі, запіваючы ўсё гэта гарэлкаю і закусваючы сырам, каўбасою і булкамі. Аб Зосі, здавалася, і забыліся! Здавалася, прыйшлі толькі з тым, каб папіць, пазакусваць.

— Што ж, суседзе Міколе! — заводзіў голасна Хлор, трымаючы ў руцэ кілішак, калі ўжо сцямнела і ў хаце Прыдатных зажухацела лямпа. — Што ж! Трэба сёння прыйсці да ладу, няйначай. З хаты не выйдзем… Мне так мой нябог вялеў! — Хлор палопаў Васіля па плячы. — А што ж! Можа, думаеш, сусед, мне не пара яго жаніць? О, не думай! Самы раз… А табе зноў!

Ён прыстукнуў кулаком па стале. Усе паглядзелі на Хлора.

— Я ж кажу, суседзе, што табе таксама пара дачку выдаваць. Хваліцца я не люблю і ніколі не хваліўся, заўсёды кажу адну праўду: а то праўда, што нашы дзеці, бач, твая Зося і мой нябог Васіль, як лепш не трэба, адно да другога падходзяць. Маладыя, здаровыя, прыгожыя абое! А знатнасці таксама не пазычаць. Гэта зусім не тое, што які там Самусь ці Габрусь, а ўсё-ткі Бераг або

Прыдатны. Ці ж не праўду мо я кажу! Га, Мікола? Я ведаю, што тут гаманы мала можа быць. Кожнаму відаць усё як на далоні… А калі відно кожнаму, то табе, суседзе, я думаю, яшчэ больш і ляпей, як другому… Вось, я ж цябе і запытаю цяпер: згодзен ці не ты аддаць сваю дачку за Васіля? Адкажы мне праўду і зразу ж адкажы, прашу я.

Мікола, разявіўшы рот, з тлустаю ўхмылкаю на твары, выслухаў Хлора і адказаў:

— Вунь! Чаму ж не! Вельмі-вельмі рад я гэтаму, даражэнькі суседзе! Дужа рад! Твой Васіль ужо даўно ў нас з Мартаю на прымеце… О, яшчэ якая лахва! А што ён якраз падыходзіць да мае дачкі — то і казаць нечага. Толькі, сваце…

— Што, што, што «толькі»? — перабіў Хлор. — Ты не мей у навыку «толькі» адгаворвацца, а то гэтыя «толькі» рвуцца на столкі. Чаму ж? Калі мелі Васіля ўваччу, чаго адвільвацца? Хіба мо наадварот кажаш? Мо думаеш адно, а гаворыш другое — тады, вядома, рэч іншая. Я буду ведаць, як адказаць. — Хлор нацягаў сур'ёзную міну. — Што ж! Папрашу выбачыць за лішні клопат і… за дзверы…

Сказаўшы гэта, ён весела рассмяяўся. Мікола яму памог сваім смехам. Абодва зразумелі адзін другога і былі вельмі рады, што справа адразу бярэ добры паварот.

Марта не ўпільнавала, з чаго пачалася гутарка ў Хлора з яе мужам, бо сама яна была занята з хлопцамі: з Васілём ды Янкам. Але калі вясёлы смех Хлора заглушыў усё, яна барздзжэй пакінула хлопцаў і абярнулася к мужчынам.

— Што, што, што? Што думае рабіць Мікола? — запытала яна Хлора.

— Рабіць-то нічога не думае, але нешта вожыкам узірацца пачынае на нас.

— Як гэта? Што сват гэтым хоча сказаць? — перапытала Марта.

— Як відаць, то не вельмі вы збіраліся нас спатыкаць; а можа, зусім і не чакалі?..

— Што гэта, што? Чаму сват так гавора? Што магло трапіцца гэткае! І калі гэта? Мікола, га, Мікола? — абярнулася Марта да мужа. — Што ты сабе дазволіў нагаварыць?

— Ды нічога, нічога! Сват пажартаваць хоча, — сцешыў жонку Мікола.

— Вы для нас, сваце, — зноў перайшла Марта к Хлору, — вы для нас — самы даражэйшы госць, якога мы калі мелі шчасце страчаць. Мы цалюсенькі тыдзень больш ні аб чым і не думалі,

апроч як аб вас… мы вас чакалі. Што ты ўшалопаў сабе, Хлор? Ось калі, ось калі, які ты дзіўны!

Хлор і не думаў сердзіцца, а цяпер, калі яшчэ Марта так перад ім раз’ехалася, да таго павесялеў, што не мог нацешыцца.

«А я ўмею, як справу паставіць!» — задаволена падумаў Хлор, а праз хвіліну запытаў:

— А Зося ж то дзе?

Яго словы пачулі ўсе і як адзін азірнуліся на хату. Адсутнасць Зосі, пра якую ўсе забылі, зараз ставіла ўсіх у няёмкасць. Кожны ў думках пытаў сябе: «А дзе ж Зося?»

Але адказаць не давялося, бо якраз адчыніліся дзверы і Зося ўвайшла ў хату.

— Зося, Зоська, хадзі сюды! — абярнуўся да яе Хлор. — Дзе ж ты ходзіш? Хіба мы табе не любы?

— Ды не, яна сёння рана прачнулася і мусібыць спаць захацела, — адказала Марта.

Зосі ж быццам гэтага і трэ было: усё тое, што залягала ў яе на сэрцы, не давала паварушыцца языку; а вусны не выпускалі слоў. Як загіпназаваная, села яна пры ложку і маўчліва сядзела. Ні ўходы за ёю мацеры, ні разувага бацькі, ні жартлівая гутарка Хлора, ні цёплыя словы Васіля — нічога не кратала яе і не мела жаднага ўплыву. Зосіны паводзіны былі капляю дзёгцю ў бочку мёду.

Тым часам ужо на дварэ падыходзіла к поўначы…

Але на вуліцы адчувалася шумлівае ажыўленне. Сваты выклікалі шырокую зацікаўленасць, і каля хаты Прыдатных таўклося шмат сілцоўцаў, не толькі моладзі, а і пажылых. Вакол здарэння ішлі разнастайныя гутаркі і перасуды. Імёны Зосі, Васіля і Рыгора скланяліся на ўсе лады, абгаворваліся з усіх бакоў. Чуліся спачуванні аб Зосі, якой «немаведама за вошта ўхапіцца». Васілёва заможнасць ставілася на высокую ступню, як моцная перавага над Рыгорам. Тым не меней і за Рыгора раздавалася многа галасоў. Узважыўшы, можна было смела сказаць, што за Нязвычным аставалася амаль не цалкам сімпатыя ўсёй моладзі. Рыгор браў сваім знадворным выглядам, сваім палажэннем гарадскога чалавека і тымі якасцямі таварыша і сябра, якія адчуваў кожны, хто б з ім не меў тых або іншых адносін. Неставала аднаго — гэта матэрыяльнае базы. Уласніцкая нотка прабівалася амаль не ў кожнае жанчыны, якая не пашкадавала часу, каб прыйсці пасудзіць з суседкамі пад хату Прыдатных. Гэта зычэла будзёншчынай, сухім дзяляцтвам, але мела пад сабою грунт у абставінах местачковага жыцця. На Нязвычных

глядзелі, як на брукавых людзей, не звязаных ні з зямлёю, ні з рамяством. Найміцтва Рыгора з ранніх гадоў і пабіранне Стэпы трапунковаю падзёншчынай былі вядомы ўсяму мястэчку. Пры гэтым Нязвычныя не мелі жаднай родавай сувязі, а аставаліся адны, як беспрытульныя. Зразумела, што Рыгорава паездка ў горад і яго падтрыманне адтуль мацеры патроху перайначвалі да іх адносіны мяшчан. Знаходзіліся гэткія, што прарочылі Рыгору бяспечную будучыню, а Стэпе — сталую дапамогу.

Усё ж дзедзіцтва трымалася сваіх поглядаў. Нязвычныя выкрасляліся імі з самавітых людзей і бязлітасна ненавідзеліся, як дэмакрацкае адроддзе. Водгук дзедзіцкай варожасці да сілцоўскае беднаты знаходзіў некаторую падтрымку і сярод тых сілцоўцаў, якія па сваім маёмасным стане бліжэй стыкаліся з беднякамі, ніж заможнаю верхавінкаю мястэчка. Многа было гэтаму прычын, а галоўнейшая заключалася ў адсутнасці належнай свядомасці.

Гэта не было навіною ні для кога. Тым болей ведаў пра гэта Рыгор. І, выйшаўшы да Сёмкі, а з ім падышоўшы да грамадкі людзей, ён якраз наткнуўся на абгавор сябе.

— Што Рыгор, — казала якаясьці жанчына, — як верацяно без пражы: куды ткнуў, там і месца. Бачыш, мая сястрыца, маці век грады поле, а восенню дровы цягае з лесу… Прыйдзе зіма — то кудзелю смугліць — талек са тры на тыдзень высуча, лічы, што за заробак… Якое ўжо там жыццё. Вось, можа, цяпер крыху акрыяе, калі Рыгор узаб’ецца на якое-кольвечы сталае месца, а так… Іншая рэч Бераг… Тут ужо голымі рукамі не схопіш, не… Паглядзі — хто яму не льсціць: і старшыня, і поп, і кожны сілцоўскі гаспадар… Прыдатных не абыдзеш — яны чуюць, адкуль смачна пахне…

— Ды ўжо ж, — адказвала другая, — кожны шукае сабе, што выгадней. Харaством не наліжашся, калі ў жмені няма чаго сціснуць. А Берагавы хваскі ды кубельчыкі, нябось, лопаюцца ад перапаўнення. Сувойчыкі, бачыш, усе паплавы ўсцілаюць палатном. Кароўкі ідуць — мэрам дваровыя, адна ў адну. А дроў не трэба бярэмем з лесу цягаць: кастры стрэхі распіраюць… Нажыліся, ліха ім, як п’яўкі на чужой крыві…

— Кінь, Саламея… Сваімі сіламі: скнары, бачыш, прайдзісветныя; душацца голаю бульбаю, а ўсё ў панчохі чырвонцы тохцяць. Тадося, дык хто ж не ведае, праз усё лета посціць, каб лішні фунт масла збіць ды саракоўку ў скарбонку ўкінуць… Так гадамі і накідалі… Зразумела, што і без нячыстых спраў не абышлося… Людзі круціць умеюць…

— Ого, яшчэ як!.. Берагі! Каму невядомы іх суды з Бусламі? Бач, дзесяцін тры сялібнае зямлі нізавошта адцягалі… Крывасмокі… Каб на мяне…

Сёмка тузануў Рыгора за рукаў, і яны адышліся да суседняй хаты.

— Чуеш?

— Чую. Як табе падабаецца гэта дыскусія?

— Плюнь. Есць да чаго прыслухоўвацца. Табе баб'ё столькі нагаворыць, што вушы загразнуць.

— Цікава, аднак… Якое яшчэ ліпкае рабалеп'е перад знатнымі… Калі нарэшце людзі вызваляцца ад гэтага гіпнатызму!..

— Цемната, Рыгор… Балота… якое ўсё ж высыхае. Ты вось чуеш, калі хто раней асмельваўся так востра характарызаваць нашых дзедзічаў? А зараз кожная Саламея ці Прузына не палезе ў кішэню па слова. Людзі нутром адчуваюць, дзе іх вораг і дзе блізкі. Вось прыедзь у Сілцы праз год, і ты станеш агульным кумірам… Не смяюся… Калі б падзяліць сілцоўцаў па накіраванасці іх сімпатый надвая, то павер, што за Берагамі ты знайшоў бы куды меншую палову, ніж за сабою… Так.

— Магчыма.

— Не магчыма, а сапраўды… Тая самая Зося, каб яе ўзяў у зварот, ражном бы сустрэла гасцей, але…

— А што ты казаў пра яе пару гадзін раней…

Сёмка падаўся назад.

Зразумела, што яна не Гэля. Каб ёй Гэліну рашучасць — тады б…

— Во бачыш… Ёсць вядома, што ў даным выпадку многае залежыць ад Зосі. Знайдзіся ў яе больш смеласці, — можна было б выпрацаваць стойкага чалавека…

— Лепі менш пра гэта думай…

Яны не заўважылі, як па суседстве з імі, праз вуліцу, згуртавалася зборня моладзі, і паўночная пара напоўнілася заводзінамі розных абрыўкаў песень. Сярод апошніх можна было чуваць бадзёрыя напевы «Варшавянкі» і цягучыя, сумныя рэчытатывы «Девушки».

З пераплёту рэзвай, ажыўленай гутаркі выразна адзначаліся звонкія, пераліўчатыя сказы неўгамоннай і заўсёды жывой у кампаніі Гэлі.

— Падыдам? — запытаў Сёмка.

— Давай! — згадзіўся Рыгор.

— Кінь думаць пра Зосю.

— Памыляешся, калі так думаеш.

Пры набліжэнні да зборні на іх накіравалі хлопцы пару зыркіх, бліскучых электрычак, асвяціўшы перад усімі іхнія твары.

— Га-а-а! Таварышы дарагія! — выгукнула Гэля. — Прасімо да кампаніі.

Яна хапіла Рыгора за руку і ўсадзіла побач сябе і Волькі, з другога боку якое прысеў Сёмка.

У тую ж хвіліну раздаліся стройныя ўздымныя напевы любімай сілцоўскай моладдзю песні — «За заставай, у харчэўні ўбогай»…

IV

Гэта было каля другое гадзіны ночы. Сваты яшчэ цягнуліся доўга, ажно іх застала світанне. За ўвесь час гарэлкі было выпіта як мае быць, а нагаворана ўсяго-ўсякага чортава процьма. У гаворцы, прыязненай, мяккай і гасціннай, даходзіла да таго, што Хлор ці Мікола раптам пачыналі злаваць адзін на другога, паднімалі гучны гоман і насупваліся. А следам настрой мяняўся, і сваты цалаваліся.

Толькі адзін Васіль цэлую пору быў хмуры, як вожык: яго рэзала за жывое, чаму Зося, седзячы пры ложку, не заікнулася да яго жадным словам. Чаму і за што?

І яму яскрава ўспаміналіся спатканні з ёю, і дужа яскрава, выразней ад усяго, той вечар, калі Зося з ім і гаварыць не захацела. Усё гэта ўставала перад Васілём у празрыстых, непрыемных для яго рысах, якія ўздымалі сумніўныя, няўвераныя раздумы, нараджалі неспакой і засявалі лёгкую падозранасць да яе.

У гэтым настроі ён не мог вызваліцца ад ачамерных, цяжкіх думак, у якіх аддавалася месца Рыгору, які, нібы прымха якая, не пакідаў яго ўражання, а стаяў, як страшнае зданне, перад яго вачыма.

За сталом, пад хмель і вясёласць дзядзькі Хлора, таварыша Янкі, бацькоў Зосі і яе маленькае сястрыцы, Васіль не перасціхаў думаць: «Няйначай як гэты самы Рыгор усяму перашкодзіць? Іначай, няўжо ж бы Зося так вяла сябе тады, калі ў яе хаце сваты?.. А можа, тут што іншае мяшае: можа, яна нездарова? Запытаю!» —рашыў раптам Васіль і праказаў да Зосі:

— Што з табой, Зося? Табе мо нездаровіцца? Чаму ты ўвесь вечар такая нудная?

На яго запытанне Зося не азвалася ні словам, ні бедным, а яшчэ горай нахмурылася, нібы даючы знаць Васілю, што яна не намерана з ім гаварыць.

Гэта Васіля абурыла: ён пачаў нерваваць, выразна неспакоіцца і пільна, да недалікатнага сачыць за кожным моргам Зосі, за кожным кіўком яе галавы, за малейшым рухам яе губ.

Зося прыкмеціла гэта і адвярнулася ў акно. «Што ж такі ва ўсім гэтым хаваецца?» — пытаў ён трывожна самога сябе і азірнуўся на дзядзьку.

Азірнуўся і ўбачыў на твары Хлора адбітак падобных сваім думак.

Хлору Зосіны ганоры не спадабаліся горай, чымсь Васілю; толькі ён ведаў сваё: Зося сілы не мае — бацькава воля!

«Бэчся, бэчся, дзевачка — не ўстрашыш гэтым!» — смяяўся Хлор у сваім нутры.

Урэшце сваты дамовіліся: зрабіць на Пётру ўладзіны, а ў дзве нядзелі пасля Пётры — вяселле.

Шчырыя пацалункі Прыдатных з Хлорам, Васілём ды Янкам — служылі пячаткамі для зробленай умовы.

— Хто іх пашкадуе, як не мы! — вылезшы з-за стала, разыходзіўся Хлор.

— Вядома, вядома, сваце! — згоджваўся Мікола. — Патураць ім не трэба ні каліва, ні беднага. Яны яшчэ дзеці.

Зося стаяла ў мыцельніку і чула ўсё гэта; у яе нутры звёртваўся клубок цяжкіх думак. Адваротна было да таго, што, калі Хлор з Янкам падышлі к ёй, каб на прашчанне пацалавацца, яна злосна адмахалася рукамі.

— Пакінь ты, Зося, свае ганоры. Не думаў я, дзівача, гэтага, зусім не думаў, — ківаючы галавою, нездаволена праказаў Хлор, і сытая, праназаватая ўхмылка заліла яго твар. — І навучылася такі-та ваша Зоська нейкай фанабэрыі. Няўжо гэта «гарадскі» той адукорыў яе? — абярнуўся ён к Марце.

— Ды нічога, нічога. Яна зусім не фанабэрыстая. Можа, знебылася — вось ёй і не на вуме нічога. Не патурайце, сваткі! — разлілася перад Хлорам Марта.

— А чаму сват так думае? — умяшаўся і Мікола.

— Ды вось я падышоў падзякаваць ёй, а яна і глядзець на мяне не хоча.

— Яна саромеецца…

— Ай, сваце, нашто шуткаваць. Яна церасчур хванабэрыстая ў цябе, — наставаў Хлор.

— Павер, сват, зусім не… Нашто на ўсё звяртаць увагу.

— Ды яно ж так, вядома, толькі…

— Нічога, нічога…

— Ну, та годзі аб сім… Дай толькі, сваце, іх звязаць разам, тады само жыццё іх усцягне на дарогу… Я думаю, што з кожным з нас так траплялася ў тыя часы, калі мы былі яшчэ хлопцамі: хто з нас не хванабэрыўся, хто не капрызіўся. Бач, помніцца мне, як я сам, бывала, — не падыходзь ка мне… Толькі, сваце, тое, што Васіль зусім ужо іншы чалавек, дык, здаецца, чаму б яго злаваць. Будзь да яго добрай Зося — дык наколькі яшчэ ён палепшае-а-а! Мяккасць заўсёды мяккасцю дастаецца… А то, я бачу, ён хіліцца да яе, а яна і не дбае.

Мікола паважаў свата як разумнага і хітрага чалавека і да яго рэчы прыслухваўся, як не трэба шчырэй. А словы Хлора лісцілі яго, казлыталі пачуццё, і Мікола наперабой пераказваў: «згодзен, зго-о-о-дзен», а каб Хлор болей верыў, абымаў яго і цалаваў. Марта стаяла паміж імі, злажыўшы рукі на грудзях, і ўмільна давала волю задаволенай ухмылцы на паружавелых шчоках. За кожным спадабальным ёй словам яна смяялася і азіралася на дачку, якая ціхенька, непрыкметна стаяла ў мыцельніку, прыдаўленая адваротным торгам.

Усе быццам і забыліся, што яны вылезлі з-за стала, каб ісці дадому; гутарка абяцала не мець канца. Каб не певень, прагукаўшы за акном, у якое раптам павярнуліся ўсе, дык яшчэ б ішлі рады, але Янка, абярнуўшыся к усім, праказаў:

— Вой, ужо ж раніца. «Едзьма, сваткі, дадому-у»…

Хлор кінуўся Міколу на шыю, расцалаваўся з ім, потым паўтарыў гэта з Мартаю і, хапіўшы Янку пад руку, зацягнулі ўдвух п’янымі галасамі песню і выйшлі з хаты.

Уся сям’я Прыдатных правяла іх на вуліцу…

Васіль спыніўся, каб прайсці з Зосяю, але Зося як стаяла ў хаце, дык і не кранулася з месца.

— Зося, ну дык чаму ты так ганорна? — закінуў Васіль.

— Я? Нічога… — суха, упаўголаса адказала яна.

— Дык за што ж ты злуеш на мяне?

— Прашу цябе, Васіль, не раздражняй мяне…

— Нават так? — жахнуўся Васіль.

Зося не адказала.

— Васіль, га-а, Васіль! — выйшаўшы на вуліцу, у адзін голас прагукалі Янка з Хлорам. — Што ж ты, брат, ашукваеш нас? Зосі шкад… баішся пакідаць. Нічога, не ўцячэ.

Васіль, пачуўшы вокліч, павярнуўся да выйсця.

— Дабранач, Зося! — праказаў ён і намерыўся заглянуць Зосі ў твар, але тая ёмка адвярнулася, і Васіль абмежаваўся адным поціскам рукі.

У гэты час бацькі вярнуліся ў хату.

— А дзе ж Зося? — запытаў Мікола, пераступіўшы парог і не заўважыўшы яе.

— А чаму? — перапытала Марта.

— Так, ці не пайшла часам з Васілём?

— Э, не; яна ў сенцах, мабыць.

— Ах, на яе цураха, і што яна бочыцца ўсё. Гэта ж узяла і толькі брыдкасці нарабіла, так абышоўшыся з імі. Скажуць: навучылі.

— Ды пакінь, гэтага не скажуць… Дурная яшчэ, я табе скажу. Унь ушалопала сабе нейкага там Нязвычніка. Прогліца яго якраз прыгнала з горада…

Мікола паматаў галавою і задумаўся. Марта паглядзела на яго і прамовіла:

— Чаго думаеш!

Мікола раптам сышоў з месца.

— Э, нічога… Давай лажыцца спаць, заўтра абсудзім на свежую голаў.

## ЧАСТКА ШОСТАЯ

### I

Яшчэ толькі-толькі сонца паднялося з-за лесу і пачырваніла верхавінкі сілцоўскіх хат, як у акно Нязвычных пачуўся стук і запытанне:

— Стэпа ўдому?

Рыгор прачнуўся і паглядзеў на хату. Маці была ў сенях — ён пачуў яе ўвіханне з карытцам.

— Маці! — паклікаў Рыгор.

Стэпа ўбегла ў хату і, скмеціўшы пад акном Лейзара Бірмана, адазвалася:

— Ты, Лейзар, хацеў мне што сказаць?

— Так. Ты час маеш?

— Маю.

— Пойдзем паграсаваць градак з дзесяць, га?

— Адна я?

— І Матруна Грышкава ідзе.

— Колькі ж дасі хаця за гэта?

— Гэ, не пакрыўджу. Або гэта ўпершыню табе. Тры злотых атрымаеш. Глядзі, во, паўдня ўжо на дварэ. Збірайся.

— Добра… Іду, толькі перакушу чаго-небудзь… Яшчэ ж толькі што каровы пагналі.

— Кінь ты… Зараз на ранкі прыгоняць… Хутчэй.

Лейзар адышоў ад акна, паглядзеў на сонца, пасля змераў крокамі ўласны цень і пакруціў галавою.

— Матруна! Не марудзь там! — гукнуў ён у бок Загор’я.

Стэпа порстка завярцелася па хаце, жуючы на хаду скарынку хлеба. Але клопату аставалася поўна; адкуль ён браўся, трэба было дзівіцца: хата была не падмецена, малако Рыгору не прыпасёна, да Песі не наведана за алеем… А галоўнае, Рыгор яшчэ не ўстаў. Яна бязмоцна развяла рукамі і не ведала, як ёй абысціся з сынам.

— Стэпа! — якраз пачулася з-за акна.

— Гэта ты, Матруна? — адазвалася Стэпа. — Ідзі, галубка, я даганю… Рыгор! Рыгорка! — асцярожліва пазвала яна.

Рыгор падняўся і паглядзеў на мацеру.

— Ты ўжо тут, сынок, як-кольвечы ўладуйся без мяне: я перайду да Лейзара зараблю якую двазлотку. Есці табе… Надзіва мне… ну, што ж, убачай: адрэжаш у кубэльчаку сала, а то малако кіслае ў берасценчыку, во, у мыцельніку, бульба ж за засланкаю ў печы… А прыйду на абед, можа, крупніку звару або чаго іншага… Калі ж пойдзеш куды — закруці дзверы і…

— Ах, ці варта было, маці, табе згаджацца.

— Дзе ж ты бачыў: цяпер работы так мала, а ў хаце добра і тры злотых… Прыйдзе лета — та да жніва седжма сядзецьмеш, а гэта — добра, што пазваў.

Рыгор нічога не адказаў… Ужо ён зноў драмаў, калі маці бразнула дзвярыма, а следам — засаўкаю. Наступіўшая ціш дазволіла яму праспаць да дзясятае гадзіны, калі папрыходзілі каровы з поля. Рыгор сабраўся, адшукаў пакінутую мацерай яду і, паснедаўшы, выйшаў на вуліцу.

Вуліца была пустая. Каровы разышліся па дварах. Толькі адзінокія малышы грыбкамі тырчалі пры вушаках пазачынятых вешніц, ды гультайна пераходзілі з двара ў двор незанятыя ў стада свінні. Зрэдку выбягаў з двара ў адной бялізне запознены гаспадар і хутка бег у бок Загор’я з сякерай за поясам ці з плугам за плячыма. У яўрэйскім канцы вуліцы было яшчэ цішэй. Субота мяртвіла ўсе праявы будзённага жыцця. На дробных ганачках, пад капяжом, сям-там спакойліва адпачывалі старыя. Моладзь яшчэ спала пасля ўчарашняе гульні.

Рыгор вярнуўся ў хату і прыняўся за кніжку. Першыя некалькі старонак зацягальнае цікавае аповесці Горкага «Супруги Орловы» былі ім натуральна праглынуты. Але хутка ён пачуў, што надалей тупее ўспрыняцце чытанага, і загарнуў кніжку.

Думкі пераносіліся ў Рыгу, напружана ловячы магчымыя там адбыцца ў яго адсутнасці здарэнні. Яго знаходжанне ў Сілцах аднімала пажаданы яму ўдзел у гэтых здарэннях, нічым яго не запаўняючы… «Праўда…»

Рыгор успомніў, што сягоння яны згаварыліся з Петрусём наладзіць сход сілцоўскае моладзі. На сходзе, было ўмоўлена, ён зробіць інфармацыю аб настроі рыжскіх рабочых. Ён барзджэй хапіўся за гэту думку і пачаў будаваць схему сваёй інфармацыі. У памяці аднаўляліся перажытыя ім моманты стрэч і знаёмстваў, удзел у заводскіх сходах і ў сходах сацыял-дэмакратычных гурткоў, наспяваючыя канфлікты ў галіне эканамічных адносін. На бледным фоне местачковай штодзённасці праявы рыжскага рабочага жыцця выступалі багатымі, яскравымі прасветамі. Безумоўна, што, добра апісаныя і перададзеныя, яны пакінуць на слухачоў глыбокае ўражанне і паднімуць іх настрой. Толькі б удалося Петрусю наладзіць сход…

Вакол гэтага пытання праз увесь дзень вярцеліся Рыгоравы думкі. З імі ён хадзіў у лес і ў жытнія палеткі, з імі некалькі разоў прымаўся за працяг чытання горкаўскіх твораў. І адвячоркам, апынуўшыся зноў у хаце, ён з няцерпам чакаў Петруся. Але пачало ўжо змяркацца і нават маці вярнулася з работы, а Пятрусь не з'яўляўся. Рыгор нарыхтаваўся самому пайсці да яго, калі той, засопшыся, убег у хату і стаў падганяць Рыгора спяшыць, бо ўжо яго чакаюць. З гутаркі выявілася, што запозненасць у скліканні сходу атрымалася ад таго, што доўга не ўдавалася адшукаць падыходзячай хаты. Перш назначана было ў Хаіма Калеса, пасля перанеслі да Іцкі Хрома.

— Ну, а Сёмку паклічаш? — упэўніўся Рыгор, калі яны выйшлі на вуліцу.

— Я ўжо яму паведаміў…

— Калі?

— Найшоў час, не клапаціся.

Яны выйшлі на Жукаву вуліцу, каб абагнуць рынак і вакольным шляхам спусціцца на Лог. Якраз быў час адыходу суботы, і вуліца кішэла людзьмі. Вярнуўшыся з лесу, моладзь аддавала звычайную павіннасць рабочай біржы.

— Тут павінны быць і некаторыя з нашых, — заўважыў Пятрусь.

Аднак яны прайшлі ўсю вуліцу і нікога патрэбнага ім не напаткалі. Было ясна, што ўсе апаведамлёныя знаходзіліся на месцы. Гэта заставіла іх скараціць шлях, павярнуўшы наўскасяк праз школішча.

Калі яны апынуліся на ўзгорку, за спускам з якога, прытуліўшыся да плота, стаяла некалькі старэнькіх хатак, то Пятрусь паказаў на адну з іх і прамовіў:

— Здаецца, нікога не відаць… Давай абыдам справа і зайдам з другога канца.

З-за белых занавесак у вокнах нікога не заўважалася, але толькі яны ўвайшлі ў сенцы, як пачулі ажыўленую гутарку. У хаце, у бакавым маленькім пакоіку, яны засталі па пятнаццаці чалавек хлопцаў і дзяўчат. Быў ужо з імі і Сёмка.

— Позніцеся. Ужо Іцкаў бацька адчыняе курсы, — сустрэў іх Сёмка.

— Нічога, мы бацьку не папярашкодзім, — запэўніў Іцка.

Тым не меней было рашано пачаць сход. Старшынство аднагодна перадалі Петрусю, які, не адкладаючы, прачытаў намечаную раней павестку сходу.

У павестцы значыліся наступныя пытанні: становішча ў Сілцоўскай арганізацыі с.-д., перадстаячая забастоўка гарбароў, інфармацыя т. Нязвычнага і бягучыя справы. Па першым пытанні ўзяў слова Пятрусь. Ён у сціслых формах асвяціў палажэнне ў арганізацыі, стан яе працы і перспектывы на бліжэйшы час. Петрусёвы вывады не выклікалі аспрэчвання і, пасля некаторых дробных заўваг і дадаткаў, былі прыняты поўнасцю. Яшчэ менш заўваг прыйшлося зрабіць па другім пытанні, каторае выносілася ўтройчы. Згодна характарыстыцы Іцкі — справа з падгатоўкай да забастоўкі развівалася нармальна і спрыяльна для гарбароў. Толькі адзначаліся рэдкія перабоі ва ўзносе паасобнымі таварышамі адлічэнняў у забастовачны фонд…

— Трэба сказаць, — пахваліўся Іцка, — што гаспадары насур'ёз занепакоіліся нашаю рашучасцю змагацца. І ходзяць чуткі, нават і досыць упартыя, што Евель Шмуклер намераны не дапусціць у сябе абвяшчэння забастоўкі. Гэта нас абавязвае яшчэ з большай настойнасцю дамагацца сваіх патрабаванняў. Патрэбна правясці паўторны сход рабочых, каб не даць аслабіцца ўвазе да шчыльнай арганізаванасці ў падыходзячай класавай бойцы.

Паведамленне Іцкі падняло настрой сабраных, і калі Рыгор пачаў рабіць інфармацыю, яго слухалі з напружанай увагай.

— Рыга, таварышы, — казаў ён, — з'яўляецца вялікім рабочым асяродкам і буйным рэвалюцыйным цэнтрам. І тыя здарэнні, што наспяваюць у гушчы рыжскіх рабочых, мецьмуць агромністае, усерасійскае значэнне. А гэтыя здарэнні не звычайныя, тым болей што яны адчыняюць новую паласу ў развіцці рэвалюцыйнага руху. Пасля некаторага перапынку, звязанага з

развоем рэакцыі, рабочы клас вяртаецца да новых боек, каторыя будуць рашаючымі. Я выязджаў з Рыгі, калі ішла спешная падгатоўка да забастоўкі на машынабудаўнічым заводзе. Рад буйных пякарняў ужо баставалі… Адбывалася бурнае хваляванне грузчыкаў… І майце на ўвазе, таварышы, адно цікавейшае з'явішча, што ўсімі памянёнымі выступленнямі кіруюць сацыял-дэмакраты. Нанесеныя правіцельствам раны ўжо зажываюцца, і рэвалюцыйна-сацыялістычны рух у Рызе набывае новага развою. Можаце судзіць аб яго росце хоць бы па аднаму таму, што наш завод налічае ў сацыял-дэмакратычнай арганізацыі да сотні чалавек… Так што будзьце ўпэўнены, наперадзе ў вас знаходзіцца магутны атрад перадавых рабочых… Часы рэакцыі мінаюць, і над краінаю збіраецца новая рэвалюцыйная граза… Вось чаму і ў вашых умовах трэба напружыць усе сілы да арганізацыі як местачковых рабочых, гэтак і сялянства… Горад чакае падмогі ад вёскі, рабочыя — ад сялян. Няхай жыве рэвалюцыя!

Рыгоравы словы сход правёў ціхімі, але баявымі воплескамі. Гэта маніфестацыя рэвалюцыйнага пачуцця напалохала Іцкавых бацькоў, якія разам апынуліся пры дзвярах і пагражальна застукалі кулакамі.

Іцка выбег з пакоя і вярнуўся з угаворам сядзець цішэй, бо ўжо бацька заняты з вучнямі. Дзеці насцярожліва слухаюць, што робіцца за сценкаю, і адцягаюцца ад вучэння.

У пакоі заўважна пацішэла, і запытанні да Рыгора пераказваліся паўшэптам. Як і трэба было чакаць, яго інфармацыя востра зацікавіла сабраных на сход, і Рыгору многа прыйшлося гаварыць, каб задаволіць зацікаўленых рыжскімі падзеямі з рабочага жыцця. Рыга вырасла ў выабражэнні маладых сілцоўцаў у завіднае і прывабнае месца, куды паляцелі іх жаданні і думкі. Усе не маглі захаваць у сябе вырасшай завіды Рыгору, які дайшоў да таго, каб стаць прадстаўніком вялікага рабочага калектыву, каб зрабіцца трубкаю магутнае машыны… Ведаўшыя яго да паездкі ў Рыгу, як Пятрусь, Сёмка ды іншыя, дзівіліся таму росту Рыгоравай палітычнай свядомасці, што яму надаў горад. Скрозь роздумаў над ідучымі падзеямі не адзін з прысутных кранаў планаў перабрання з Сілцоў у той ці іншы прамысловы цэнтр. Многія прасілі Рыгора парадзіць ім у гэтым.

Уражанні ад пачутага з Рыгоравай інфармацыі занялі шмат часу, і бягучыя пытанні захапіла адзінаццатая гадзіна. Але позні час не палохаў ніводнага ўдзельніка сходу. Іх цікавасць не аслабла да канца абгавору пастаўленых на павестку пытанняў. Бадай, іх выплыла б і яшчэ, каб можна было бескантрольна рас-

параджацца памяшканнем. Ды гэтаму памяшалі Іцкавы бацькі, якія папрасілі сына выправіць гасцей.

Сход разышоўся не разам, а парамі і тройкамі, Рыгор пакінуў Калесаву хату разам з Сёмкам ды Петрусём.

Праведзены сход пакінуў на ім выразны адбітак задавальнення. Ён не спадзяваўся, едучы ў Сілцы, што ў мястэчку захаваліся ажно дагэтуль падобныя напатканым рэвалюцыйныя работнікі. Часы чорнае рэакцыі, балюча адбітыя на становішчы даволі моцнай раней Сілцоўскае арганізацыі, усё ж канчаткова не зліквідавалі сацыялістычнага руху сярод сілцоўскай моладзі. І калі арганізацыйная сувязь цярпела ад недасканалай наладжанасці, то якасны ўзровень уцалелых работнікаў шчасліва абмінуў і паліцэйскія рэпрэсіі і ўплыў літаратурнага дэкадансу, страціўшы вялікую колькасць меней устойлівых сяброў арганізацыі. Паведамленне, зробленае Іцкам Калесам, пра надыходзячую забастоўку гарбароў асабліва моцна кранула Рыгора. Яму выразна прадставілася грандыёзная карціна шырокаразгорнутага наступу рабочых на ўмацаванні зусім не забяспечанага на вечнае панаванне самадзяржаўя. Наяўнасць сацыялістычнага руху і рабочых выступленняў у Сілцах і, чаго дзіўней, у вёсках, як выявілася на сходзе, была знамянацельнай. Мястэчка ў яго набывала іншых адносін, якія маглі затрымаць часта ўспыхваўшыя ў Рыгора жаданні як найхутчэй з ім расстацца…

Увогуле Рыгорам апанаваў бадзёры, ваяўнічы настрой, у якім патанулі нядаўна хваляваўшыя яго пытанні.

— Ну, як мая інфармацыя? — пацікавіўся Рыгор, калі яны прайшлі ў сваю вуліцу.

— Дужа цікавая… Ты наглядаў мо, з якой увагаю мы цябе слухалі?..

— Да шкоды, я не захапіў усіх матэрыялаў… Аднак… вы маеце, хлопцы, на вошта аперціся. Я не чакаў…

— Ды яшчэ чалавек з дваццаць добрых хлопцаў набярэцца… А сёе-тое і вёскі прыбавяць.

У далейшым абгаворы выплываўшых з праведзенага сходу пытанняў яны параўняліся з Сёмкавай хатай. І толькі намерыліся вырашыць, як быць, ці разыходзіцца па хатах, ці яшчэ зрабіць праходку да Ліня, калі пачулі гучны стук ні то калком па дошцы, ні то каменем у дах.

— Што за цуды! — праказаў Сёмка.

— Прабяжы ўдасканалься!

— Давай удвух.

Пятрусь упікнуў таварыша ў маладушшы, і той умомант аддзяліўся ад іх і паскорана накіраваў у бок пачутага стуку. Але яны не паспелі перакінуцца сказамі, як Сёмка ўжо стаяў каля іх.

— Ну? — справіўся Рыгор.

— Твой супарат выйшаў ад Прыдатных.

— Бераг? — праверыў Пятрусь.

— А які ж чорт… Ды, пэўна, п’янаваты, бо пайшоў, уючы абаранкі… Прапала, браток, Зося… — пацвіліўся Сёмка з Рыгора і развёў жарт з разухабістым смехам.

— Што ж, памянем, калі так… — І, памаўчаўшы, дадаў:— Тут справа не ў каханні, браткі, а ў ратунку Зосі як чалавека.

— Ведаем, — упэўніў Сёмка за дваіх. — Ды ўжо позна. Усілілі птушку як мае быць; згаварыліся на вяселлі, бачыце.

— Нават? — пацікавіўся Рыгор.

— А ці ж доўга ўмеючы!

— Астаюцца, значыць, памінкі…

Ужо над хвойнікам займаўся золак, калі яны, развітаўшыся, накіравалі ў тры бакі, кожны да свае хаты.

## II

Вялікую долю віны за тое, што Прыдатны гасцінна і ласкава сустрэў сватоў, Рыгор гатоў быў ускласці на Зосю; самому сабе, дзяўчатам і таварышам — ён адкрыта наракаў на яе.

У гэтым, аднак, Рыгор перасаляў. Зося калі і была вінавата, то толькі ў сваёй бязмоцнасці паперашкодзіць замахам Берагоў. Западозрыць жа яе ў папушчэнні або ў спачуванні бацькаўскім намерам не магло быць і думкі. Зося сама мучылася, бачачы разведзеныя вакол сябе інтрыгі і не знаходзячы ў сабе магчымасцей іх перапыніць… Назаўтра, з самае раніцы, скора яе разбудзілі, Зося, мэрам непрытомная, з апутаным цяжкаю нудою целам, мо цэлую гадзіну то і рабіла, што толькі тупала з хаты ў сенцы, то з сянец у хату. Было ніякавата глядзець на яе: асавелыя, запалыя глыбока вочы, смуглы ўзрок, звялыя і збялелыя шчокі. Бралася за работу, а работа выпадала з рук, не рабілася. Нават гаварыць ёй было цяжка, і толькі на настойныя, па некалькі разоў перапытаныя запытанні бацькі ці мацеры, яна невыразна адказвала, а то ўсё маўчала. Бацькі бачылі гэта, толькі не хацелі прыставаць, дапэўняцца, што з ёю, і, прыпісваючы ўсё фанабэрыі, прапускалі паміж вушэй. Не гэткай цярплівай была Тэкля: чымсь упарцей Зося маўчала, тым наглей яна навярэджвалася гаманіць з ёю. Але Зося ні словам не абмаўлялася: спушчала

нават сваёй сястрыцы поскубы яе за рукаў, пацвільванні і дзіцячыя надазойлівыя жарты.

У Зосінай галаве грудзіліся чорныя, густыя, як гразь, і клейкія, як гліна, думкі; распіралі сабою балючую голаў, разганялі па ўсёй істоце адваротны цёк нейкіх тупасці, бесцікаўнасці і аднакавасці ка ўсяму, што вакол яе. Калі бацькі пазвалі яе снедаць, яна наадрэз адказалася і нават не захацела ўвайсці ў хату. Зося не патурала і ўгаворам Тэклі. Як не хацелася нічога, так не хацелася і есці. Ёй было ўсё роўна.

Так мінула паўдня, і, калі падышоў абед, яна звярнулася да мацеры:

— Дайце мне чаго з'есці.

Марта была не ў сабе і маўчліва падала ёй вынутай з печы цёплай стравы. Запахла смачным, прыемным пахам. Зося ляніва прысела за стол і пачала есці…

А ў гэты час Марта незмігутна сачыла за дачкою, нырпалючыся па запечку. Да яе напрошвалася пытанне, ці здарова хаця яе Зоська, і засявала пужлівыя гадкі. Але, помеж з гэтым, не тухла ў ёй і ўпартасць правучыць дачку. «Хай жа сабе пакапрызіцца, паўпіраецца троха… Няпраўда, здаволіцца, надаесць… А пасля… пасля такою мяккаю зробіцца, што пагнеш ва ўсе бакі… І чаго, бок, дурніца, ушалопала сабе ліха ведае што? Не, гэта, бач, адна ўпартасць тая нямерная… Вось што значыць, калі чалавек мала адукацыі жыццёвай мае. А-яй-яй, як я падумаю сабе, які цяпер свет стаў цырымонны! Гэта ж… Не, нельга змірыцца!» — судзіла сама з сабою Марта, скоса пазіраючы на дачку.

Гэта самае Марта некалькі раз пераказвала і Міколу, седзячы за снеданнем; пераказвала і другой дачцэ, Тэклечцы, якая ішла ў яе… Пераказвала дзяўчынцы з вялікай ахвотай, бо бачыла, што тая пільна яе, маці, слухае.

Праз Тэклю Марта перадала Зосі вяленне ехаць зябліць папар. Але гэта не прынялося Зосяю за крыўду. Наадварот, выезд у поле даваў ёй магчымасць развеяць надазойлівыя думкі і цяжкае адчуванне.

Яна скончыла абед і выйшла ў двор. У двары, за плотам гарода, стаяў новы панарад, на якім ужо быў паложаны плуг. Зося адцягла панарад на сярэдзіну двара і пайшла за канём. Праз некалькі хвілін яна пакінула хату.

Зося на полі прабыла чуць не да самага цёмнага: не то, каб у яе было столькі работы (яна мела пазябліць двое-трое ганоў папару), але ёй захацелася правясці чымсь найболей часу адной. Работу яна скончыла ў тры-чатыры гадзіны, а ўвесь апошні час

праляжала на паплаўку, выпрагшы каня з плуга і пусціўшы яго пасвіцца. Цёпленькі дробны дожджык ні каліва не мяшаў ёй ляжаць у тонкай картуновай кашульцы пад пакрытым дзяругаю нарадам. Зося ляжала і, паглядаючы на неба, цешылася прабегваючымі па ім хмаркамі, любавалася раптам выбліснуўшаю вясёлкаю.

Нежадана для самое сябе пракралася смелая думка: «А што б, каб гэта і напраўду ўзяць ды ўцячы ад бацькоў і паехаць з Рыгорам у горад?» — За гэтай думкай перад ёю паўстала здань невядомага ёй агромністага горада з вычварнымі вобразамі яго будынкаў, пляцоў, фабрычных каміноў. Забегалі тысячы не бачаных ніколі людзей, машын. Ад горада думка лёгка перакінулася да Рыгора: панясласе перш у хвойнік, к таму месцу, дзе яны былі з ім; адтуль памчалася ў яго хату; потым вярнулася ізноў на поле, к ёй, нічога не найшоўшы і нічога не сказаўшы, толькі пасеяўшы ў яе нутры гарачыя, нестрыманыя жаданні як-кольвек яшчэ раз угледзецца з ім і доўга-доўга гаманіць. Але толькі Зося абмалявала ў сваім ураджанні ўсю прыемнасць стрэчы, як перад яе вачыма раптоўна вырасла ў нешта дзікае і адваротнае ўчарайшае здарэнне са сватамі. Васіль, Хлор, Янка. Сярдзіты і няўпрошаны бацька, радасная, неўгамонная маці і вясёлая бесклапотная Тэкля… Сваты, гарэлка, гутарка — торжышча перад яе вачыма за яе істоту, зусім няпрошаныя ёю жычэнні шчасця і долі… а далей… ой, далей — намаганні Хлора да пацалункаў, выгавар ёй і бацькам за адмаўленне ёю гэтага, надаедлівае прыставанне Васіля… Нарэшце, удары аб рукі, умаўленні на лад і намёкі пра згоду выпхнуць яе з хаты, звязаўшы яе долю з агіднымі Берагамі… Усё гэта, сплыўшыся ў адну пляму, зацягнула яе небасхіл ды пачало прыціскаць яе к зямлі. Зосі зрабілася млосна, нецярпліва. І Рыгор выяўляўся зусім інакшым ад таго, якім яна яго стрэціла анэгды. «Можа, ён і гаварыць ужо не захоча са мною, можа, і не гляне на мяне… Можа, і не паверыць, што я зусім невіноўна… О, траха што не павера!»

І Зося стуліла галаў, заплюшчыла вочы, заткнула вушы і доўга-доўга так ляжала. Толькі лёскат калёс праязджаючага па сцежцы чалавека заставіў яе падняцца і агледзецца.

Ужо змяркала, і пара было збірацца дахаты. Яна злавіла каня і спешна запрагла, але ехаць — ехала павольна, мяркуючы быць дома поцемкам.

«Сёння я на вуліцу не выйду», — рашыла яна дарогаю.

Так і зрабіла.

III

— А я скажу папраўдзе: з такімі людзьмі, як Прыдатныя, заўсёды можна ладзіць. Я ніколі не думаў, каб яны абое, як Мікалай, так і Марта, былі гэткімі простымі, адкрытымі і разумнымі людзьмі. А то ж яно так. Пацеха — і годзі! Толкам растлумачаць табе кожнае слова — растаеш перад імі. О, галубка, ах, Тадоська, маючы гэткіх сватоў, няма чаго казаць, што не па сваёй столцы мы папалі. Мне, дурному, здаецца, што Прыдатныя на ўсім мястэчку толькі нас адных і паважаюць, толькі і лічаць нас адных за людзей. Вось ведай, Тадося, і яны за ўсё ў нашых вачах павінны быць паважанымі. Такія ўжо ўмовы — фундамент да харошых спраў. А, Хлорка!.. а, Васілька! на цыпачках ходзяць перад табою. Нашто Янка чужы, а і да Янкі — пёрайкам. Я спярша, калі ішоў, думаў: а вось — неўспадзеўкі мы ўрынемся ў хату, а яны і не чакалі нас. Ажно зусім іначай… — Хлор сплюнуў і пагладзіў бараду. — Паверыш, з самага ранку былі нагатове: усё было прыбрана, прыпасена. А прыйшлі — ага-а, сваточкі, ага-а, даражэ-нькія. А дзе ж вашы жаначкі-і… А дзе ж Тадося, а дзе Алеся… «Прыйдуць, кажам, пасля». І думаю я: а трэба было, надзіва, і вас пазваць.

— Ды няхай, убачым на гэты раз, — перабіла Тадося, стаючы перад Хлорам у ліслівай смірэннай позе.

— Не кажы, трэба было… Але хто ж тое мог ведаць ці думаць нават, што так выйдзе. Выйшла ж як лепш не трэба, і, галоўнае, зусім неспадзявана ўсё. Табе, брат Васіль, — павярнуўся Хлор к нябогу, які сядзеў на ўслоне, між мацераю і дзядзькам, падапёршы спіною стол, — табе, кажу, Васілька, трэба паставіць Нязвычнаму Рыгору кварту гарэлкі. А ведаеш чаму?

— Чаму? — задаволена ўхмыльнуўся Васіль.

— А таму: каб ён не прыехаў у госці, дык ты б быў нядбайным і яшчэ не падумаў бы жаніцца… А тут, як лепш не трэба — ён цябе сам на гэту думку папхнуў. Вось цяпер толькі і ведай, што гатоўся да ладу ды да вяселля… Няпраўда мо?

— Праўда, праўда, — у адзін голас праказалі і Васіль і Тадося.

— То-та ж… А Міколу Прыдатнаму я і ўперад думаў, што не трэба адказвацца. Так ён і зразумеў. Ой, ой! Ды хто ж не можа таго зразумець? У жыцці ўжо прыпасен такоўскі закон, па якім яно кіруе думкамі людскімі, а думка думку нойдзе.

Гэтак гутарыў Хлор, прыйшоўшы к сваёй братавай назаўтра пасля сватоў. Гутарыў ды задаволена пасміхаўся, пазіраючы

то на Тадосю, то на Васіля, якія самі пад сабою ног не чулі ад гутаркі «ўдачнага» дзядзькі.

— Але, але, Хлорык дарагі, —казала Тадося, калі крыху прытаміўся Хлор і змоўчаў, каб выкурыць цыгарку, — я ж кажу, — як я рада, як я рада ўсяму гэтаму! Хоць яно і прыйшло зусім неўспадзеўкі, нягадана, нядумана, толькі, дзякуй табе, Хлорка, што так павярнулася. Ведаеш, даражэнькі, учора я не магла як дачакацца Васількі. А калі ён прыйшоў і расказаў, чым кончыліся сваты, мяне азіяла нейкая нябесная сіла, і я ўся нібы на дваццаць гадоў памаладзела: ад радасці не магла заснуць, а сённі, зірні на мяне, і спаць не хочу. А яй, ай! А і маладзец мой сынок, Васілька.

— Яшчэ, бок, не маладзец! — праказаў Васіль, крыху прысароміўшыся перад дзядзькам.

— А чаму ж? Чаму не? Вось цудны! Табе смешна з маіх слоў. Эх, эх, сынок, ты яшчэ не ведаеш таго пачуцця, якое ахоплівае мацеру ў той час, калі яна занята лёсам свайго дзіцяці. Не ведаеш — затым і смяешся, цудненькі.

— А ты? Ты ж таксама дзіўная кабета! Ці ж плакаць яму ад тваіх слоў! Па-мойму, Васіль добра і робіць, што смяецца; на тое ён вясёл і задаволен. Вось нам ужо з табою, Тадося, прыходзіцца меней смяяцца, бо мы ўжо ўвесь смех свой высмеялі. Праўда? А ён — ён толькі ў тых гадах, каб смяяцца. Яго чарка поўная вінам, дык чаму ж не піць, чаму не п’яніцца ёю!

Хлор узняўся з лавы, перайшоў два разы хату, потым паглядзеў у акно ды зноў усеўся на сваім месцы.

— Ну, то ўсё добра, што добра. Адно адным, а цяпер давай пяройдзем да другога. Як бачыш, Тадоська, справа навертваецца — давай жа парадзіцца сённі аб пасагу; гэта такоўская рэч, што адкладаць не гадзіцца… Я, ведаеш, думаў і ўчора намякнуць, а далей, сабе думаю, не: трэба парадзіцца з Тадосяю. За ноч надумаўся і прыйшоў да вас. Ну, што ж вы скажаце мне на гэта?

Запытанне Хлора крыху мэрам смуціла як Тадосю, так і Васіля; апошні нават задумаўся і прайшоўся па хаце.

— А давайце, дзядзька, папрабуем Язвішча папрасіць, ды к гэтаму яшчэ з сотню грашмі. Не будзе многа, — праказаў Васіль, прыпыніўшыся тупаць па хаце.

— Што ты, што ты, Васіль! Дык гэта ж усё роўна, што нічога не прасіць. Што там Язвішча! Колькі яго? Гэць! Адно заікніся з гэтым — Мікола сам асмяе цябе, не то што ўсе мяшчане. Мікола з гэткім пасагам гатоў аддаць Зосю за самага беднага хлопца.

Ласне гэта пасаг? Кожны скажа: вось табе і Бераг. За жонкаю атрымаў пасагу ўсяго кусочак поля. Калі ў той самы час Саўка Швец за Гальяшоваю Васяю ўзяў цэлых пяць дзесяцін. А падумай, што ён варт. Хлеба аднаму яму не хапала з яго заработку. А цяпер глядзі — не падступішся к яму: гаспадар. Дык вось, калі гэткія бяруць такоўскі пасаг — то што казаць аб нас? Па-мойму — давай Мікола чвэрць пахатнае. Вось гэтым мы толькі і можам падтрымаць свой гонар. А Мікола згодзіцца — павінен згадзіцца. Папраўдзе, калі судзіць, то ён павінен даць табе цэлую траціну свае гаспадаркі, бо нашто ж яму. Траціна Зосі, траціна меншай дачцэ, а траціну можна да смерці за сабою аставіць. Усё ж роўна і яе давядзецца аддаць. А ўсяго поля ў Прыдатных, нябось, звыш дваццаці дзесяцін… Але ўжо няхай пяць дае пасагу. З другога ж боку — ці Міколу трэба вучыць, каб ён гонар свой падтрымаў? Калі рабіць вяселле — дык каб усе ведалі, што вяселле. Нябось, захочам жа пазваць: і папа, і пісара, і старшыну. Гэ-э! Гзымс патрэбен… Няпраўда мо, Тадося?

Тадося ўсё яшчэ стаяла на старым месцы ў той самай позе, толькі відаць, што ўжо ногі яе стаміліся, бо яна то напірала на адну, даўшы спачыць другой, то наадварот. Садзіцца ўжо яна сабралася даўно, толькі з-за гутаркі Хлора ўсё не магла сесці, баючыся ўпусціць хоць адно слаўцо. Калі ж Хлор абярнуўся к ёй з запытаннем, Тадося перш пасьпяшыла сесці, а потым загаманіла:

— Ты ведаеш, Хлорык, нічога ўжо сапраўдней не трэба выдумаць, як твае словы: здэцца, усё ты казаў, як здымаў з пісанага… Акуратна!.. Чаму ж, — згодна з такімі словамі, — чаму ж такі і не даць Міколу пяці дзесяцін зямлі ў пасаг? Вось калі. За першаю, ды гэткаю прыгожаю дачкою… Няйначай, калі збяромся на Пятра на ўладзіны — так і пастановім: пяць дзесяцін — або…

— Што ты, што ты, маці, — перабіў Васіль, — мо хочаце сказаць: «Або не трэба вяселля?..» Не, не, да гэтага не трэба даходзіць. А то мы гатовы папсаваць усёй справе. Нельга забываць, што Зосю сцеражэ гэты голік. І, ведаеце, збівае дзяўчыну з толку…

Хлор сурова паглядзеў на нябога і рассыпаўся ў разважанні:

— Ды што-о ты, Васіль! Кінуў бы ўжо гаварыць дарэмшчыну… Рыг-ор-р! Што-о-о знача твой Рыгор? Няўжо-о-о ж, ты думаеш, што Рыгор табе раўня?.. Хто ж Рыгор з сябе? Лапатнік, балагол, галадранец. Ну, ушчапіў капялюх, дык ужо, думаеш, і паніч. Невялікая мацыя, невялікі хвэрт, нябось Мікола зразу раскусіў — калі і заікнуцца не дае аб ём… А Зося — ну, што ж Зося? Кахае? Плюнь, яе каханне, як туман: перад вачыма

стаіць, а збоку зірні — пуста… Ты думаеш, што ніхто не ведае, што Рыгор там у горадзе робіць. Э, невялікая цаца! Увесь сэнс не ў тым, што ёсць цяпер, а як можна ўсё жыццё скарыстаць, перажыць. Вось у чым гвозд… Хто скажа, што Рыгор можа з табою зраўняцца? О-о-о!

Хлор скончыў і зірнуў на Тадосю; тая падмацавала яго рэч паважным матком галавы і гэткаю ж самаю, як і Хлорава, вясёлаю ўсмешкаю. А Васіль — Васіль да таго быў угамонены дзядзькам, што далей не ведаў, што больш і казаць.

«А такі дзядзька разумны чалавек! Ого-о-о!» — заключыў Васіль і маўчаў, маўчаў.

— Усё так, усё… — перабіла кароценькую ціш Тадося. — Твае словы, швагер, — чыстая праўда. Аб нас усё мястэчка кажа, што Берагі — то гордасць Сілцоў. Няўжо нам раўняцца з якім там Рыгорам?

— Во! во — разумна!

Васіль быў збіт з панталыку і мэрам замяўся, не ведаў, што казаць: потым раптам схамянуўся, шырэй адплюшчыў вочы і ўверана праказаў:

— А ведаеце што, дзядзька? Калі так, дык папрашу вас узяць на сябе турбацыю аб пасагу. Добра?

Хлор усцешліва засмяяўся.

— Вось калі, чаму не, я на ўсё гатоў, я нічога не баюся… І, ведайце, усё на сваём пастаўлю, — прыстукнуў ён па стале кулаком.

— Ах, каб цябе, ды бадай цябе, які ты, Хлор, занятны, — пахваліла швагра Тадося і залілася смехам. — Вось за гэна сядай ды паабедам за хэўраю, а то ўжо, бадай, хутка і вячэраць прыйдзецца.

— Э, не, не, і не думайце! Абяцаў дадому прыйсці на абед, — папрабаваў адказацца Хлор, але Васіль з мацераю так прысталі да яго, што ён мусіў здацца і палез за стол.

Тадося пачала ўвіхацца ля яды.

## IV

У пятніцу, на шэрай гадзіне, Сёмка пакінуў нераспрэжанага каня і запыленым, замурзаным, у старой будзённай жакетцы, босым і нават з дубчыкам у руцэ, пабег да Рыгора. Ён дужа спяшыў, бо нават забыў зазірнуць і ў акно, што заўсёды не прамінаў, а зразу направіўся ў хату. Рыгор спакойна сядзеў за сталом і вячэраў; побач з міскаю ляжала кніжка. Ён быў у адной сарочцы, толькі ўстаўшы з пасцелі пасля спачынку.

— Сёмачка-а мой! Зірні толькі на яго! Вось дзіўны які! Гэта ж ён так не мае часу, што ў адну пору дзве справы хоча рабіць: і пад’есці і начытацца. Ды праз цэлы дзень ён блізка ўсё чытае… З хаты нікуды не выходзіў. Зранку выйшаў на часінку і хутчэй назад вярнуўся, — сустрэла Сёмкаў прыход Стэпа.

Сёмка выслухаў Стэпу, потым падышоў к сталу, зазірнуў з ліслівай ухмылкаю Рыгору ў вочы і жартоўна праказаў:

— Што ж ты, брацє, так запрацаваўся? Прыехаў к нам спачываць, гасціць, а аддаешся працы з большым намаганнем, чым у горадзе. Кепска, Рыгор! Не пахвалю за сё! Хай то нам — то іншая рэч. Нам самы прыпар падыходзіць, сезон, як кажуць. З сонцам уздзірайся з пасцелі, а лажыся спаць блізка не ў поўнач, і то з работаю не ўправіцца. Вось зірні на мяне, як арыштант той: цёмны, чорны. А што маеш з гэтага? Ледзьве хапае да вясны. Каб не зарабіў сям-там ўрыўкамі — то ў хаце і капейкі не было б. Покуль збярэш — колькі мук вынесеш, колькі сэрца тваё перабаліць! Чакаеш і думаеш: а тут град, а то няўрод, — ой, як цяжка жыць нашаму брату! Вось і рыпаешся несціхана, як вол той, ярмо цягаеш… Ну, а ты? Робіш, а аб гаспадару ды яго набытку і не думаеш.

— Затое ж восенню вы — панамі глядзіце: зберыцё з поля, змалоціце, і бочкі, і хваскі паўнюсенькі… Можна і свінчо падкарміць, і каняку выгадаваць ды прадаць — вось грошы і ёсць. Што і казаць — усё-ткі гаспадарства — не наша дзела. Нам жа — толькі рукі адказвайце на ўсё: дастаў працы — маеш хлеб, не — дык здыхай з голаду. А час няровен: сёння чалавек здароў, а назаўтра — і не ўстаць, — выказала сваю думку Рыгорава маці.

— А ў іх? У іх таксама! — уставіў Рыгор.

— Эй, цётка, цётка, лёгка сказаць: гаспадарка-а-а! Можна завідаваць, чаму не. А прыгледзішся — як тое зданне: тут ёсць, а тут няма. Сухоты адны! Колькі таго поля, а падаткаў — сып асмінамі. Уся сям’я працуе цэлы год, а ў канцы — нічагусенькі ў адплату. Наша гаспадарка… Адно слова — гаспадарка. Яшчэ калі ўрадлівы год — то ні сё, ні то, а вось як леташні — пяць коп саломы нажалі замест жыта ды коп па дзесяць саломы замест аўса з ячменем… Каб не картоплі — выжыць нельга было б. Вядома, зусім іншая рэч, калі ўзяць гаспадарку гэткую, як, напрыклад, Прыдатных, Берагаў, Грыбаў ці другіх, падобных ім. Вось там ужо ёсць на чым развярнуцца: рукі грэе яна добра. А мы — ні гаспадары, ні парабкі.

Сёмка схіліў голаў і нядбайна матнуў рукою. Стэпа пільна выслухала яго і праказала:

— Ды яно-то так, вядома.

— Але, на іх ліха, — падаў сваю думку Рыгор, адзначыўшы захілам ліста месца кніжкі, дзе спыніўся чытаць, і палажыўшы яе на лаве. — І обмарак ведае, як гэта ўжо ім так пашанцавала? Пане мой, нажылі цэлыя маёнткі, маюць тысячы грошы і нібы-то тыя: жывуць, цешацца ды толькі пасмейваюцца з другіх. Нічога ім не трэба, ні да чаго іх не цягне. Як жывёлка… Вядома, мне зусім незавідна, але гэты стан людзей мне дужа адвароцен… усяму мястэчку цяжка ад іх! За імі сонцу не праглянуць…

— А ты думаў што? Гэта — чортава насенне, гэта — атрута людская!.. Адваротныя людзі, смерць ненавіджу я іх з іхнімі фанабэрамі, з іх гонарам і знацтвам! Гэта павукі, трутні, п'яўкі…

— Эй, дзеткі мае, вы ўжо маўчыце! Маўчыце, небажаткі! Ліха іх бяры з іхнім багаццем: яны нам хлеба не даюць… Толькі б яны не прычэпліваліся к нам.

— Вось у гэным і сэнс. Прычэпліваюцца! — пачаў Сёмка, садзячыся поміж з Рыгорам. — Прычэпліваюцца, і знарок. Дагэтуль з Берагаў як бы ніхто і не прыкмячаў, што ў Прыдатных ёсць дачка Зося, а трэ было Рыгору загуляць з ёю, як уся банда Берагаў узварушылася: і тут жа сваты, і ўладзіны, і вяселле! А вы думаеце, цётка, што не назнарок тут ідзецца? Ого-о-о!

— Гэта-то праўду кажаш, Сёмачка, — праказала Стэпа, — ды ці ж варта гэтаму патураць. Каб толькі і бяды было, што гэта. Але тут справа іначай стаіць. Нябось, памятаеш, як злавіў мяне пры калодзезі з галяйком?

Рыгор матнуў рукою і з лёгкай іроніяй праказаў:

— Так, каб большага клопату не было. Ну, другі раз няхай толькі паспрабуе даць волю рукам… тады…

— А што тады? Паедзеш і толькі цябе бачыў, а тут маці адна. Праўда, на нас ляжыць абавязак узяць старую пад абарону. І мы гэта зробім…

— Дзякуй табе, Сёмачка. Ты ж толькі і ёсць у мяне адна надзея.

— Нічога, цётка, не дамо вас у крыўду, будзьце пэўны… Ага, бок… — Сёмка абярнуўся да Рыгора: — Я, між іншым, выпадкова сёння стрэўся з Зосяю.

— Ну-у-у?! — пацікавіўся Рыгор. — І як яна сябе адчувае?

— Або разбярэш!

— А дзе? як? і што? Нябось, абмяняўся словам-другім…

— Ды проста: мне якраз трапілася ехаць Папярочнаю сценкаю Выгану і між Прыдатнага палосы. Яшчэ здалёк я ўгледзеў, што хтось арэ папар, а параўняўшыся — бачу: Зося. Вось я і спыніў каня. Спыніў, а сам і думаю: гукну, калі не прыкмеціць.

Доўга стаяць не трапілася: толькі павярнулася з плугам, як зразу мяне ўгледзела і пазвала: «Хай конь пастаіць, а ты ідзі хаця прывітайся. Чуеш, Сёмка?» — «Слухай, табе лепш каня пакінуць», — адазваўся я. Яна, праўда, нічога не сказала болей і хутчэй падышла да мяне. Падышла, прывіталася. Мне неяк стала смешна, і я міжвольна ўсміхнуўся, а потым запытаў і аб сватах: «Ну, што ж, можна прывітаць?» Зося перш мэрам бы засаромелася, а далей-болей, патрошку разгаварылася і кажа: «Няўжо і ты, Сёмка, не давяраеш мне? Няўжо і цябе трэба саромецца? Паверыш — сама не ведаю, што мне рабіць і як быць! Мне вялікая крыўда, што Рыгору даводзіцца не верыць мне. Але ён добра не ведае тых умоў, у якіх я знаходжуся… Няхай не думае, што я хачу таго, што робіцца са мною… Я прагуся ўсёй істотаю, б'юся як рыба аб лёд, а ўсё на адным месцы. Будзе, кажа, залежаць ад яго: захоча — дапаможа, не — што ж парадзіш…» Мне нечага было ёй казаць, хоць я і мала ўпэўнены ў яе жаданні што-кольвечы зрабіць для гэтага. Дзяўчына, разумееш, і не дурная, ды асяроддзе занадта ліпкае і гнускае… Але ты з ёю сустрэнься і пагутары… Кідацца зразу нельга.

Рыгор з цікавасцю выслухаў таварыша. І яму стала ўцешна, што Зося не пакідае пачуцця нездаволення і думак пратэсту. Пры наяўнасці гэтага можна было глядзець на яе зусім інакшымі вачыма. Сустрэцца самому з Зосяю — было б вельмі пажадана. І Рыгор не схаваў гэтага ад Сёмкі.

— Так, пацікаўся, пагавары. Напэўна, яна заўтра будзе ў Ліня. Я скажу Вольцы — тая прывядзе яе…

— Ды ўжо б, небажаты, не варта было б залазіць у гэтую кашу, — умяшалася Стэпа, пільна прыслухоўваючыся да хлопцавае гутаркі.

— А чаму?

— Або ты, Сёмка, не разумееш. Лішняя прычэпка ў Берагавых руках.

— Пляваць. На ўсякае чыханне не навітаешся.

— Го-а-а! Можа, яно і так, усё ж, сынок, трэба ўлічваць кожную рэч.

— Ну, не Рыгору ж кланяцца кожнай ачамеры. Усякая дзедзіцкая сволач гэтага хацела б, толькі — трасцу, не дажджэцца… Зломіць голаў сабе і ўсяму свайму котлішчу. Не патурай, Рыгор. Дык заўтра вечарам…

— Заўтра?

— Заўтра!

— Я зноў успомніў, — вярнуўся Сёмка да папярэдняе тэмы. — Вы кажаце — гаспадарства!.. Ха-ха-ха. Гаспадарства.

Толькі што завецца гаспадарствам, а сапраўды… Ды дзе ж дзенешся… Бацькі пажылыя, а ў мяне ў руках жаднага таленту. Чалавек, можа, кінуўся б у другі які бок, а што з таго выйдзе? Гэтак і карпееш на загончыках ды ашматках… Я разумею, каб гэта таго поля, ну, дзесяцін з дзясятак, валоку якую, а то э-э-эх!.. Ні богу свечка ні чорту качарэжка, як тая пагаворка кажа. Ты, Рыгор, шчасліў, па-мойму. Сяк-так, урыўкамі, пазнаёміўся з слясаркаю і цяпер, глядзі, ужо апынуўся ў майстрах. Молат, абцугі, напільнік узяў у кішэню і паехаў… Як птушка пяро… А калі і гэтых прыладаў не маеш, то не бяда: кожны завод табе іх нарыхтуе — бяры… Але ніякі чорт лысы цябе не прыкуе да аднаго месца. Не-э, дармо! А мне ўжо… ах, вось і зараз трэба бегчы дахаты… Зусім забыў — каб ты спрахла, каб ты! — што трэба было плуг падрапараваць… Ах!.. А то заўтра раніцаю… прыйдзецца прасіць у каго… Так, твая справа, Рыгор…

— Не кажы, Сёмка… Мала чым выйграў і Рыгор. Вось, глядзі, вандруй па свеце і развозь сілу. Як той прадавец, прынамсі… Што ж у яго, у Рыгора, бач, ёсць? Толькі голыя рукі, якіх часта ніхто не хоча выкарыстаць. Так, так… Паглядзі на мяне… Добра, калі за лета месяцаў паўтара паходзіш у заработкі, а то… сядзіш. Дроў вязачку прынясеш, калі яшчэ падсілкуешся, а не… нічога ж свайго няма; кожнае каліўца купі — ад хлеба да запалак, ад…

— Пераменіцца, маці, нічога…

— Пераменіцца? Ды каб жа яно хутчэй… Але… прабавалі, вунь, у пятым годзе, і што выйшла? Бачыце, параспіхалі людзей немаведама куды і што, а воз і цяпер тамака.

— Пераедзе на іншае месца…

Стэпа ўтулілася ў акно і з хвіліну разглядала панадворак.

— Хвароба іх ведае, бойся і сказаць што праўдзівае. Сабакі гэтыя, стражнікі, нябось, соўгаюцца па падвоканню. Вунь і надоечы, казалі, бачылі іх пераадзетымі на нашай вуліцы.

Хлопцы сабраліся выходзіць.

— Хіба ж і ты, Рыгор, ідзеш? — запытала Рыгорава маці.

— Правяду Сёмку…

— Няхай бы пасядзелі крыху ў нас.

— Трэба, цётка, ісці спаць. Заўтра, толькі пачне світаць…

Яны выйшлі на вуліцу і толькі павярнулі ў бок Сёмкавай хаты, як іх пераняў Пятрусь.

— Куды-ы?

— Я — дахаты.

— А я да цябе, — дадаў Рыгор.

— Сапраўды?

— Так, так.

Яны адышліся ўбок.

— У вёсцы Катлах, бачыце, таварышы, здарэнні…

Пятрусь аглядзеўся па баках.

Дарогаю праехала некалькі падвод балаголаў.

— Здарэнні, — з націскам паўтарыў Пятрусь. — Напэўна паліцыя ўжо там. З-за сервітуту выйшла. Камянецкі забараніў катлоўцам выганяць каровы ў лес, а яны, вазьмі, ды не толькі на сервітут, а яшчэ і на паплавы дахітрыліся… Незнарок… І калі аконам з парабкамі памкнуліся заняць у хлеў, дык яму так уляпілі хлопцы, што той ледзьве ўцёк… І гэта не без удзелу нашых… Костусь Варыёнчык, Саўка Пiлiпчук — то-а — зацятыя хлопцы.

Паведамленне, пачутае з вуснаў Петруся, ашаламіла Рыгора сваёю нечаканасцю. Ён раптам паддаўся ваяўнічаму настрою.

— Глядзеце вы! Я гэтага не спадзяваўся. Цікава! Бурліць!..

— А ты думаў, вёска заснула? Ці мы тут кінулі працу?

— Малайцы хлопцы!

— Бачыш!

Пятрусь з Сёмкам весела ўхмыльнуліся. Да іх данёсся ляскат вартаўнічае брашчоткі. Хлопцы сцішылі гутарку.

Хутка яны разышліся па хатах…

І Рыгор, лёгшы спаць, доўга не мог заснуць, захоплены бурлівым пачуццём радасці з прычыны катлоўскіх здарэнняў.

V

Назаўтра дзень выдаўся ясным, пагодным.

Рыгор а дзясятай гадзіне раніцы, з кніжкаю і палкаю ў руках, пакінуў хату і пайшоў у лес. Маці запытала.

— Не астануся начаваць, — адказаў Рыгор.

— Та ты ж прагаладаешся, сынок.

— Не клапацецеся, маці; захачу есці — прыйду.

— А калі хлопцы цябе запытаюць, што ім адказаць? — ужо на двары дагнала Рыгора маці.

— Скажыце, што я ў хвойніку, — адказаў ён.

Як сказаў, так і зрабіў: у лесе Рыгор прабыў да вечара. І калі прыйшоў дамоў, то яму маці расказала наступную гісторыю.

А сёмай гадзіне, хто праходзіў Сівулінскаю вуліцаю, стрэціў вясёлую і п’яную кампанію, якую зложвалі сабою Васіль, Янка, Хлор і Мікола. Абняўшыся па двух, Мікола з Васілём, а Хлор з Янкам, яны распяяліся на ўсю вуліцу і гэтак ішлі з самага рынку. Ішлі — і то паспеўвалі, то ў покрык гутарылі. За імі цэлаю грамадою беглі дзеці, крычучы і жартуючы з п’янымі. З п’яных

пацвільваліся і старыя жанкі ды мужчыны. Але гэта не смучала як Хлора і Міколу, так і хлопцаў, Янку і Васіля. Наадварот: ім здавалася пад п'яную руку, што яны сёння героі дня, лыцары; і чым далей адыходзілі ад рынку, тым гучней і нахабней гутарылі. «Што мне гэны бізунец, гэны галадранец? што мне ён за шышка, Нязвычны гэты?! Плюю я на яго! — драўся на ўсё горла Васіль. — Ён думаў мне падножку зрабіць, а сам пакаціўся… Ха-ха-ха! Вось шчанюк, і куды ён задумаў лезці. Гэ-э-э! Адзень, брат, перш порткі ды прышпілі добра, каб не з'ехалі. Тады будзеш часцей і пабольш купляць у старца нажабраванага хлеба… Ага! Ды дроў не забудзь купіць, каб другі раз маці не крала з маёй пасекі, тады можна будзе і рызыкаваць… А цяпер — ой, яшчэ зялёны зусім. Хі-хі-хі! І лезе, нябось, к Прыдатнаму. Пабачым яшчэ, пабачым… Не-е-э, брат! Не на таго нарваўся, не з тым маеш справу… Вось шчасце тваё, што мы з Янкам не падсцераглі цябе надовечы, а то б добры пачастунак справілі. Ой-о-о! Ды яшчэ пачакай — гэта табе дарам не пройдзе: я паспею адрыгнуцца».

Васіль злосна скрыгітаў зубамі і вымахваў рукою ў паветры. Хлор прытрымліваў нябогаву руку і адцягаў яе ўніз.

— На каго ён так гразіцца? — зацікавіўся адзін з мужчын, стоячы з суседам ля вешніц свайго двара.

— Не ведаю. Нешта, мусібыць, мае к некаму, — адказаў другі.

— Ды гэта ж на Нязвычнага Рыгора, — паведаміў зацікаўленых, учуўшы іх гутарку, пілявы хлапчук.

Мужчыны засмяяліся, адвярнуліся ўбок і прыняліся за сваю гутарку. А Васіль не ўнімаўся:

— Ды не, не! Ты толькі, дзядзька, не лякайся — то ўсё будзе добра, — супакойваў ён Хлора.

— О, не, не, я троха смялей за цябе: я хутка запраўлю яго туды, дзе Макар козы пасе, — адказаў Хлор.

— А і варта, гада, варта. Н-не-э, братан, з намі табе нездабраваць, не!

— Што-о, што гэта… Хто там цябе, зяць, хоча крыўдзіць? — пытаў Мікола.

— Ды вунь з Рыгі прыехаў басяк нейкі… Стэпы Нязвычнай сын…

— А што там за ён? — і Мікола моцна топаў нагою. — Пакажыце хаця мне яго, што там за мацыя. Хто навязваецца мне ў зяці?.. Хэ-хэ-хэ! Няпрошаны зяць. Не, брат! Мая дачка намнога даражэй за гэткіх зяцёў. Не надзейся-а! Мая дачка з сягонняшняга дня не павінна і стрэцца з табою. Прры-ы-ка-ажу! Не дапушчу-у!

— А і праўда, а і праўда, сваце, — пахвальваў Міколу Хлор. — І не след, каб твая дачка шаландалася з кім-небудзь… Люблю цябе за рашымасць, хвалю за адважнасць. Давай пацалую.

І Хлор перадлюдна абвешваўся на шыю Міколу і цалаваў яго ў поўную сытую шчоку. Мікола не аставаўся ў даўгу. Гэта сцэна смяшыла дзяцей, якія налпам крычалі:

— Во, во, дзядзькі, так! Гэтак!

З гэткім вяселлем падвялі Прыдатнага да самае хаты.

Мікола ўсіх пацяг да сябе, і вунь — глядзі — бяседа стаіць на ўсю хату.

— Дык вось, сынку, што ў нас робіцца. Яшчэ добра, што не памкнуліся з кулакамі да мяне. Ад гэтых паскуд можна ўсяго чакаць.

Рыгор, ахоплены вострым абурэннем, доўга моўчкі тупаў па хаце.

## ЧАСТКА СЁМАЯ

### I

Месяц прамінуў, як дзень: азіраючыся назад, Рыгор падводзіў вынікі гэтаму часу свайго адпачынку. Ён памятаў, з якім узнятым настроем варочаўся з заводскае канторы на кватэру з адпускным пасведчаннем. Многа розных думак перабегла ў яго галаве, шмат невыразных чаканняў займала яго праз усю дарогу. Рыгор маляваў сабе мястэчка водлуг ранейшых сваіх уражанняў і перажыванняў. Здалёк, будучы ў горадзе ў зусім інакшых абставінах, ён заўважаў, як гэтыя абставіны выціскалі з яго ранейшыя настроі і сувязь з местачковымі ўмовамі жыцця, з яго вузкім колам інтарэсаў, з абмежаванымі магчымасцямі ў справе рэвалюцыйнай чыннасці. Рыга адчыніла перад ім шырокі агромністы небасхіл, увёўшы яго ў блізкае яму рабочае асяроддзе. Ён хутка асвоіўся з новымі абставінамі фабрычнага жыцця, прасякся агульнымі настроямі рабочых гушчаў, адчуў выразную цягу да цеснае злукі, да поўнага зліцця з працоўным калектывам. Грукат машын у заводзе, гудкі на працу і штодзённае наведванне з сотнямі таварышаў буйнога завода, астаўленне яго пасля працы, калі сталёвымі грамадамі рабочых укрываліся вуліцы гарадскіх аколіц — усё гэтаператварала з Рыгора найміта-падзёншчыка, звязанага з мястэчкам, у Рыгора індустрыяльнага

рабочага, у адзінку цеснага шчыльнага калектыву працоўнай арміі. Лёгкая ўсвойнасць слясарскае работы таксама спрыяла гэтаму. У Рыгора лёгка адмерлі ўсякія жаданні вярнуцца жыць у мястэчка. Не, ён пра гэта не думаў і не дапускаў сабе гэтага. Але, едучы да мацеры, ён цікавіўся паглядзець, азнаёміцца з Сілцамі, у якіх прайшло яго дзяцяцтва і юнацтва, з якімі былі звязаны першыя афармленні яго поглядаў і дзе яшчэ аставаліся блізкія таварышы. Не пакідаў Рыгор думак і пра Зосю, якая першай дзяўчынай заранілa ў яго нутро пачуццё кахання. Праўда, выязджаючы з Сілцоў, ён адчуваў сваю цягу да Зосі куды вастрэй, як то было ў час намеру прыехаць на пабыўку. Але апошнія два гады жыцця ў Рызе пакуль не маглі спаражаваць яго любові да сілцоўскае мяшчанкі-дзедзічкі. Рыгор не хацеў раней аналізаваць прычыны свайго зацягнення Зосяю, не крытыкаваў сваіх да яе адносін. І толькі стрэўшы яе ў першы дзень прыезду ў Сілцы, пачуў, што справа кахання да Зосі не такая непахісная рэч, каб без яе няможна было абысціся. Свой погляд на Зосю ён грунтоўна пракрытыкаваў пасля гутаркі з ёю. І перад Рыгорам ужо Мікалаішка выглядала іншаю, як уперад. З пачуцця любові пачалі вытыркаць вышэйшыя моманты ацэнкі яе, як чалавека… таго чалавека, з якога можна б было атрымаць карысць для рэвалюцыйнага руху, для змагання за вызваленне працоўных. Той факт, што Зося доўгі час мела ў сабе цягу да таварышкавання з сілцоўскімі дэмакратамі, сведчыў за гэта. Рыгор не мог не верыць Зосінаму жаданню і намерам не паддавацца бацькавай волі, а змагацца з яго мяшчанска-дзедзіцкім уздзеяннем на яе. Ён бачыў Зосіны непрыхільныя адносіны да Берагаў, наглядаў патугі да супраціўлення замахам на яе. Гэтыя Зосіны ўласцівасці расцэньваліся Рыгорам як магчымасць не папусціць дзяўчыну засмактацца местачковай багнай. Аднак час паказваў іншае. Берагавы сваты казалі за тое, што Зося не мае сілы парваць прыгатаваныя для яе сеткі. Не трэба было і завярэнняў Сёмкі пра Зосіну няўстойлівасць, лішнімі аставаліся і спробы Зосі выбачацца перад Рыгорам. Здарэнні не маглі нават падняць буры ў шклянцы вады. Тым не меней Рыгору хацелася да ад’езду ўбачыцца з Зосяю. Аставаліся лічаныя дні яго пабыўкі, а далей — хто мог запэўніць, што ён мецьме выпадак яшчэ раз наведаць Сілцы? А калі б такі выпадак і здарыўся, то што адбудзецца за гэты прамежак часу з кожным з яго знаёмых, у тым ліку і з Зосяй?

Ідучы ранкам у лес ці выходзячы ў палеткі, Рыгор не раставаўся з жаданнем напаткаць Зосю і пагутарыць з ёю начы-

стую. Але выпадкі не траплялiся. Яксьці адбывалася так, што Волька і Гэля даволі часта сустракаліся з ім, а Зося… Праўда, яе таварышкі паведамлялі Рыгора, што да Прыдатных амаль не штодня наведвае Васіль. Абы пачало змяркацца, як ён і паўзе з-за гары… І чамусьці Зося годзіцца з яго прыходам, не пакідаючы хаты. Са слоў Волькі можна было заключыць аб неадабрэнні Зосіных паводзін яе таварышкамі. Гэтыя апошнія папікалі яе ў кутнасці, у надмернай пакорлівасці бацькам, нават у абабленасці. Аднак справа ад гэтага не паляпшалася. Зося вачавідкі мянялася ў сваіх настроях.

Адным разам Рыгору трапілася адзін на адзін пагутарыць з Гэляй. Ён прагульваўся па жытніх палетках і знянацку стрэўся з ёю: Гэля хадзіла аглядаць пшаніцу і варочалася дамоў.

— Ты, я бачу, Рыгор, запасісся на ад’езд водырам красуючага жыта, — загаварыла яна першай.

— Так, дарога доўгая.

— І ўжо, напэўна, не гэтак хутка прыйдзецца ёю ехаць.

— Або я магу ведаць.

— Ну, ты ведаеш, што я б… так-такі і часта гэта рабіла.

— Табе так здаецца, Гэля.

— Магчыма… Яно, праўду кажучы, тут зусім невялікая мацыя. Іншая справа горад… Ты ведаеш, Рыгор, што я мару аб тым часе, калі я пакіну Сілцы…

— Так, як і Зося…

Рыгор сказаў гэта так сабе… бо адчуваў, што Гэля гаворыць даволі рашучым тонам. Наогул, Рыгор праканаўся ў пераважнасці Гэлінай цвёрдасці над цвёрдасцю Зосі. Гэля прадстаўляла з сябе зусім інакшы тып; гэта быў тып энергічнай, нягледзячы на жартаўлівасць і вясёласць, чужой мяшчанскай сантыментальнасці дзяўчыны. У яе характары адмячаліся мужчынскія рысы. І калі гэтым яна заранила ў Рыгору пачуццё сімпатыі да сябе, то Пятрусь сваю сімпатыю да Гэлі яшчэ болей павялічваў. Рыгор некалькі разоў падмеціў Петрусю, што той «не памыляецца, маючы гэткія адносіны да Гэлі».

На гэты раз Гэля прадставілася Рыгору яшчэ ў больш выгадным відзе. Выказанае ёю жаданне пабываць у горадзе асабліва спадабалася яму.

— Я пастараюся цябе перабраць… Ды, напэўна, Пятрусь гэта зробіць хутчэй майго.

Гэля недаверліва махнула рукой.

— Вы ўсіх нас пераберацe, — іранічна заўважыла яна.

— Не мы перабярэм, а вось — падобныя Берагам вас перабяруць…

— Кінь, Рыгор… Або Зося, думаеш, цалкам віноўна за гэту гісторыю?

— Хто яе вініць!

— Чаму… Ведама гэта…

— Я толькі не думаў, каб яна аказалася зусім бязвольнай… ці мо яна мне няпраўду казала, калі завярала, што будзе спрачацца бацькавым капрызам…

— Не вельмі паспрачаешся… Зразумела, кожны чалавек па сабе. На мой лад — а мо так мне здаецца — я бы знайшла ў сябе сілы не паддацца…

— І мне так здаецца. Вось чаму, па-мойму, я не сумляваюся, што твае мары аб горадзе могуць з часам стаць рэчаіснасцю…

Часта бывае так, што адзін выпадак адкрывае перад табою чалавека паўней, ніж доўгае з ім знаёмства. Так было і з Рыгорам. Гэля ў гэтай гутарцы выявіла сябе Рыгору зусім інакшай, ніж ён яе ведаў дагэтуль. І ў гэтым новым яму Гэліным я Рыгор бачыў тое, чаго не хапала ў Зосі.

## II

Тым часам аставалася ўсяго некалькі дзён да ад’езду. Рыгоравы думкі пераносіліся ў Рыгу. Цікавасць да Сілцоў меншала, хоць ён заўсёды любіў як найпаўней запамятаваць вобраз тых мясцін, з якімі расставаўся і з якімі не быў пэўным сустрэцца паўторна. Як здарэнні павернуць справу ў адносінах да Сілцоў, нельга было наперад угадаць. Рыгор не браўся заверыць сябе, што больш не ачуецца ў родным мястэчку, але разам з тым у яго не было ўпэўненасці ў тое, што хоць калі ды яшчэ раз яму ўдасца аглядаць яго жывапісныя мясцовасці. У кожным разе будучае мецьме свае настроі і свае адценні пачуццяў, а зараз… Рыгору хацелася выкарыстаць апошнія дні аглядам сілцоўскіх летніх ландшафтаў, любаваннем росквіту зялёнага лета. І ён не спыняў кажнадзённага наведвання хвойніку, прагулак па яго гушчарніку, асалодай яго парным пахучым паветрам. З хвойніку ён накіроўваў або ў бок жытніх палеткаў, або ў супрацьлежны бок, дзе галелі рудыя папары, стыкаючыся з гарыстымі сядзібнымі ўчасткамі сялянскіх гародаў.

Вакола Сілцоў за кожным палеткам, як вартавыя самадзяржаўнага ладу, ляжалі памешчыцкія маёнткі. Яны сціскалі сваімі агромнымі суцэльнымі прасторамі вузкія худыя ніўкі вёсак і ўпарта напіралі на Сілцы. Кожны дзень у тым ці іншым канцы местачковых палёў адбываліся сутычкі між панскімі

паслугачамі і мяшчанамі — земляробамі: там стражнік пераймаў дзяўчат з травою, там аб'ездчык напаткоўваў бедняка-сілцоўца з пяццю-шасцю арэшынкамі на кашэль ці з веццем на венік і складаў пратакол, там паплаўнічы лавіў выпадкам перабегшую ў лес карову і накладваў штраф за шкоду. Націск цяжкай варожай рукі п'явак-паноў адчуваўся даволі моцна. Ва ўгоне за сялянствам, у дробных да яго прыдзірках ляжала помста паноў за добрапамятлівы дзевяцьсот пяты і шосты гады. Напалоханыя ідучай расплатай за векавыя здзекі, паны ў гэтыя гады яскрава адчулі на сабе вачавідкую небяспеку. І калі самадзяржаўю ўдалося супыніць на нейкі час расхвалёванае мора рэвалюцыйнага шторму, пачулі ў сабе моц і паны. І парушаныя, перацятыя на час іх замахі на сялян аднавіліся з новаю сілаю, аснашчаныя зверствамі і здзекамі.

Рыгор чуў пра гэта амаль не кожны дзень. Разнастайныя факты роўна сведчылі за абвостранне класавых адносін між памешчыкамі і сялянствам. А падобныя катлоўскім здарэнні казалі за надыход часоў адплаты з боку сялян сваім прыгнятальнікам. Рыгор зацяжна марыў пра той момант, калі ўсе вунь тыя асяродкі панскіх умацаванняў, гнёзды эксплуататараў будуць разбураны паўстаўшымі працаўнікамі. Ён уражаў сабе, як грамады беднякоў з вёсак і з мястэчак пераможнымі калонамі накіруюць ва ўсе канцы і далучаць да супольнае ўласнасці гвалтам прыгорнутыя, аднятыя ад працоўных землі. Ён слаба памятаў 1905 год, але з яго памяці не згладзіліся прыгожыя карціны сельскіх дэманстрацый, якія канчаліся мітынгамі на дваровых дзядзінцах. Памятаў Рыгор і тыя моманты, калі цёмныя лістападаўскія ночы асвятляліся вогненнымі факеламі з панскіх двароў. Следам Сілцы наведалі паліцэйскія стражнікі. Пачаліся арышты, расправы, экзекуцыі. Але паліцэйскія ўжо былі не ў моцы знішчыць пачуцця класавай варожасці ў сялянскіх гушчах. Яны не маглі астудзіць палкай веры ў немінучасць прыходу новага рэвалюцыйнага ўздыму, які не пакіне пасля сябе каменя на камені з будыніны самадзяржаўна-панскага ладу. Зноў жа Рыгор браў за ілюстрацыю сваім прагнозам катлоўскія здарэнні.

Аднак, думаючы і мяркуючы аб наступных часах класавых боек у вёсцы, Рыгор памятаў адно і ў гэта адно, найважнейшае, верыў, — што вёска сама па сабе нічога не зробіць. Кіруючую ролю ў наступных, як і ў мінулых, рэвалюцыйных схватках мецьме рабочы клас.

І ў выніку сваіх разваг ён напружана імкнуўся назад у Рыгу. Там, у рабочых кварталах, адбываецца бурны рост падгатоўкі

да надыходзячых сражэнняў, там, пры свістах і вярчэнні машын, гартуецца пралетарская ваяўнічасць.

…Над гэтым жытам, над зялёнай ярыною… залунаюць чырвоныя сцягі…

Кожны дзень, засуцэленым кругабегам, праносіліся перад Рыгорам бліскучыя вобразы створаных ім у думках падзей. Гэтыя падзеі набіралі выразныя формы, напаўняліся багатым зместам бадзёрых настрояў і справодзілі яго дамоў у абдыме яскравай урачыстасці.

III

Рыгора абудзіў рэзкі бразг металу; ён прыслухаўся — кляпалі касу. Знаёмы, прыемны напеў прыпарнае працы. Касьба? У полі пачынала красаваць жыта — Рыгор любаваўся перакатамі хваль, над якімі, як пырскі, шарым туманам паднімаўся красоўны пылок. На шырокім галу сточаных каласамі ніў бегалі палкія ўзрокі маладога рабочага. Але кляпанне касы?..

Калі Рыгор адзеўся і выйшаў на вуліцу, то пачуў, што бразг даходзіць з-пад Сёмкавай хаты. «Няўжо ён збіраецца так загадзя да касьбы?» — праказаў сабе Рыгор і накіраваўся да таварыша.

Праўда. Седзячы на акораным круглячку, Сёмка рытмічна ківаў рукою, выпускаючы бразглівыя стукі. Паўкруглая спіна свяціла на сонцы белаю кужэльнаю сарочкаю. Галава згіналася над парогам, дзе была ўбітаю бабка.

На дзеравяным гваздзе ў сцяне вісела доўгае белае кассё.

— Гатовішся да касьбы? — над Сёмкавым вухам праказаў Рыгор.

Сёмка кінуў стукаць і азірнуўся.

— Трэба, таварыш!

— Скора касіць?

— Ды ўжо ж…

Абодва прыселі на парозе.

— Не баўся, сынок, — данеслося з хаты. Следам выйшла Сёмкава маці. — Дзень добры, суседзе. Вучышся косы кляпаць? Забыўся ў горадзе.

— Забыўся, хоць молатам б'ю не горай ад Сёмкі.

— Так, бач, молатам… А думала, можа, пяром часамі?

— Есць тыя, што і пяром, а мы молатам.

— Ды ўжо ж, радзіліся для працы: каму пры зямлі з сахою, каму з молатам пры кавадле. А каму — гатовае.

— Выб'ем з рук, няпраўда…

— Не баўся, сынок, — тым жа тонам, што і першы раз, праказала Сёмкава маці і схавалася за дзвярыма.

— Трэба паехаць пазябліць ганкі-другія ды ўкасіць разам з тым бярэмейка травы… Ну, што ж, збіраешся, Рыгор?

— Пара. Даволі гуляць — молат з напільнікам чакаюць.

— Або не пачакаюць яшчэ які тыдзень?

— Не магу без працы. Нябось сам і хвіліны не перадасі на гульню…

— Наша справа няроўня вашай… Так давай праедамся ў палетак.

— Чаго?

— Сустрэнем Зосю.

— Дзе?

У Лужках. Нядаўна паехала, таксама зябліць…

— Можа б, пазней?

— Маці гоніць…

— Зараз не магу… Прызнацца, яшчэ не снедаў нават. Пасля.

— Прыходзь — табе ж аднака прагульвацца, ці ў хвойнік, ці ў Лужкі.

— А што думаеш…

— Сапраўды.

— Перайду да хаты.

Рыгор павярнуўся і выйшаў з двара. За ім панесліся аднаўленыя ўдары малатка. Але ён не дайшоў да свайго двара, як бразг сціх. На вуліцы заўважна паспакайнела.

У двары ўвіхалася з вязкай дроў маці.

— Вы зноў з дрывамі?

Маці азірнулася. Запацелы твар выказваў балючую ўтому. На хударлявых скронях чарнелі сляды слёзных рагаў. Асавелыя вочы тупа глядзелі на Рыгора.

— Трэба, сынку. Каня не маю, на чым прывезці. А вазок дроў каштуе пяць рублёў.

— Ну, насіць жа на плячах болей вярсты…

— Гм, цудны які? Усё жыццё носім. А хто ж мне прынясе. Вольны час — трэба выкарыстаць, а пачнуцца заработкі — шкада… Ты ж мо яшчэ нашча зусім?

— А яшчэ такі і не еў…

— Надзіва мне…

Стэпа, як стаяла, так кінула ашматкі патрапанай аборкі і жмах вышмуляных ануч з пляча і панеслася ў хату.

Сухія ломкія ламачыны паваленым плотам ляжалі на камяністым грудку каля парога.

Рыгор памкнуўся даць ім лад, але пачуў з хаты:

— Не чапай, сынок, я сама ўладую. Ідзі пасілкуйся. Гэта не твая справа… Гуляй, бо зараз…

Яна недасказала, і калі Рыгор увайшоў у хату, то ўгледзеў, што маці выцірала слёзы.

— Ты мо гаварыў з Сёмкам наконт падводы?

— Згаваруся яшчэ, маці… Ды што гаварыць загадзя — паедзе, вядома.

Стэпа зложыла на грудзях рукі і доўга стаяла на адным месцы, пільна гледзячы на сына.

— Падумаю, сынок, — паківала яна галавою, — і, здаецца, што б то было, каб ды ты астаўся дома. Якое было бы шчасце мне… Але, ведаю, што гэтага нельга зрабіць. Суджана, каб мы дажывалі па адным…

— Нічога, маці, сустрэнемся. Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды.

Ён паглядзеў на гадзіннік, які паказваў першую гадзіну пасля палудня.

«Лужкі-ы? Так, болей дзвюх вёрст».

Яго думкі вярцеліся каля Зосі. Сёння найлепшы выпадак угледзецца з ёю на ад'ездзе.

— Ты будзеш дома, Рыгор?

— Чаму?

— Я думаю яшчэ раз прайсці за дрывамі.

— Кіньце, маці, што вы сабе ўзялі ў голаў.

— Няўжо ж у хаце сядзець! Усе людзі працуюць, як мурашкі бегаюць, стараюцца, а мне сядзець — не, сынок, брыдка… Калі яшчэ магу сяк-так, то трэба цягнуць, а сцісне — тады… Ты пачытай, я доўга не забаўлюся…

— Я маю справу…

Яны разам выйшлі з хаты і адначас разышліся ў два канцы вуліцы.

## IV

Каб, падняўшыся на ўзвышша, за якім пачынаўся хвойнік, Стэпа азірнулася направа, у бок Сівулінскае дарогі, яна б угледзела, як Рыгор мернаю ступою адмяраў мяжою роўныя крокі напрамкам да Лужкоў. Яму ў палетку сустракаліся рэдкія адзінкі сілцоўцаў, або аглядаўшых свае палоскі, падбіраючы каменне, або спяшыўшых у пасеку… Над зялёнаю рунню насіліся вясёлыя жаўранкі, клубкамі падаючы зверху ўніз. Праляталі вароны ў бок лесу ды ў шызай вышыні луналі буслы. Наперадзе тырчаў

лысы курган, за якім пачынаўся папар. Там, дзесьці, насупраць вунь тае дзічкі-грушкі, павінна быць Зося.

Налева ад Рыгора цягнулася паласа Прыдатных. Густы, ядраны ячмень выдзяляў яе з памежных вузенькіх ніў, засеяных свірэпістым аўсом. Гэтая ж паласа прадаўжалася і ў папарным палетку, але наварочвала яшчэ болей улева.

Ужо ад кургана Рыгораў узрок дасягаў таго месца, дзе за сівым канём мігалася белая хусцінка. Наводдалек, управа, бачыўся другі араты, але Зося была бліжэй.

Яна вярталася назад, ідучы настрэчу Рыгору, калі Гнедка натапырыў вушы і чмыхнуў, угледзеўшы зблізку сябе незнаёмага чалавека. Зося хвасянула каня бярозавым дубчыкам, не пацікавіўшыся з прычыны яго настарожлівасці.

Але Рыгор не хацеў паказацца Зосі знянацку. Ён аддалёк кінуў у дрэўца камень, ажно гулка зашапацелі спакойлівыя лісці, адцягнуўшы на сябе ўвагу аратага.

Ад грушкі Зосіны вочы перанесліся на Рыгора: знянацкасць не абмінула яе.

Зося ажно збянтэжылася, угледзеўшы яго перад сабою.

«Якім цудам і чаго ён?» — прамігнула вострая думка ў Зосінай галаве, але не было часу для роздуму: Рыгор махаў ёй шапкаю, аддаючы ветлае вітанне.

— Адкуль ты ўзяўся?

Плуг выкаўзнуў з рук і пахіленым убок зрабіў доўгі агрэх. Гняды спыніўся.

— Чаго ты сюды?

— Я праходжваўся яравым палеткам, пасля…

— Не хлусі, Рыгор, табе хтосьці сказаў, што я сёння ў Лужках. — Зося пытальна глядзела Рыгору ў вочы. Рыгор гатовіўся прызнацца. — Іначай табе не ўспала б у думкі.

— Ты думаеш?

Ён узяў яе за поўную патрэсканую руку і пачуў, што ў ёй заложана сталёвая моц аратага.

— Чакай, Рыгор, я адвяду на паплавіну каня і прыпну яго на момант.

— Давай я правяду баразну.

Зося ўсцешліва засмяялася.

— Папрабуй!

Гняды павярнуў да іх настарожлівыя ўзрокі, паставіў вушы і ўгледзеў, як Зося падвяла Рыгора да плуга, прачытала кароценькую інструкцыю і гукнула:

— Нно-а, Гняды.

Пруткія Рыгоравы рукі здрыгануліся ад штуршка, але ён не выпусціў лемяша з зямлі, а роўнаю струною накіраваў побач суседняе баразны. Размякчаны суглей бярэстаю вывіваўся з-пад плуга, бліскаючы глянцам на адрэзаным месцы. З свежае разоры нясло тленам зямлі і пахла сокамі закалупленай цаліны.

Прайшоўшы з паўганоў, яны бачылі, як дападкія вароны старанна рэвізавалі пралажаную баразну.

— Утаміўся? — паіранізавала Зося.

— Сумею прайсці і назад.

Але з паваротам Гнедага Рыгор не ўправіўся, і Зося сама зрабіла гэту аперацыю.

Рыгор цешыўся, гледзячы на спрыт і паваротлівасць дзяўчыны, з якімі яна ўвіхалася на яго вачах. Плуг лёгка падаваўся Зосінаму кіраўніцтву, і на яе твары бліскала ўхмылка, пакуль Рыгор не пераняў плуга з яе рук.

— Тут цвярдзей, — паскардзіўся ён.

— Не ў гэтым справа.

Зося заўважыла, што Рыгор пачырванеў, і яго белы, чысты ад загару твар абвільжыўся тонкім наслоем поту.

— А ты думаеш, я ўтаміўся?

— Крыху падобна да гэтага.

Рыгор, аднак, не здаўся, пакуль не параўняўся з месцам, з якога пачаў баразну.

— На-а!

Зося выпрагла Гнедага з плуга і прыпяла на паплавінцы.

— Падыдзі. Дык табе ніхто не паведаміў, а ты сам мяне знайшоў? — праверыла яна паўторна.

— Або не ўсё роўна?..

Праз хвіліну яны ляжалі на разасланай дзярузе пры возе.

— Ты не чакала?

— Прызнаюся, што не.

— Паперашкодзіў працаваць?

— Хопіць часу.

Яе рука лягла на Рыгоравых плячах. Ён чуў яе ўзмоцненае дыханне і пачашчаны пульс.

— Але ж ты зарабілася сёння. Бацькі…

— Не ўспамінай. Ці толькі сёння…

— Калі ж ты даарэш?.. Ты памятаеш хвойнік?

— Рыгор… я ведаю, што ты глядзіш на мяне іначай ад ранейшага. Я заслужыла: імкнуся, ды не выстарчае сілы. Нутром я твая, ну нада мною бацькава воля, скавала мяне… Усё ж, дарагі мой…

Наступны момант аддаўся сузіранню нез'яснёнага хараства запаленай іх выабражэннем прыроды, бяздоннаму шчасцю неперажываных хвілін, апойнасці заварожванага пачуцця…

Разгойданае цюканне сэрца, ненасытная прага салодкага эфірнага паветра, подыхі лёгкага ветрыку…

І прарэзлівы, нахабны, дзікі покат рогату:

— Ххі-ыхха! А-а-а-ххэ-эк!

Узнятыя ад нізу і пахіленыя налева ўзрокі праводзілі па сцежцы траскацеўшыя драбіны вазніцы. Белая дробная каняка рыссю мчалася між шэрага фону папарнага палетка. Водгукі сухога лёскату калёс працягалі інтанацыю людскога смеху.

— Хто б то быў?

— Ды не ўсё роўна, хто!

— Ён бачыў? Ой, бачыў, бачыў!..

Зося хапілася рукамі за галаў і заплюшчыла вочы.

— Няўжо-а ты, Зося-а-а, нагэтулькі маладушна?

— Маўчы-і…

Яна адышлася ад яго і нейкі час задуменна глядзела ў густую карону грушы.

Рыгор зрабіў некалькі крокаў ад яе.

— Чакай, вярніся. Праедзем са мною да выгану?

Зося ўвішна хапілася запрагаць каня.

Хутка Гнеды стаяў у аглоблях, пад жоўтаю кантоваю дугою.

— Садзіся…

Конь павярнуў насустрач асядаўшаму за лес чырвонаму агромнаму сонцу. Па свежай раллі цягнуліся доўгія, вычварныя цені.

— Ты скора ад нас едзеш? — справілася Зося.

— Скора.

— Так. Калі мы сустрэнемся, Рыгор, яшчэ раз? І пры якіх умовах?

— Будучае пакажа.

— Ну, я цябе не…

— Ты думаеш?

Зося замаўчала, але ў яе вачах Рыгор прачытаў цвёрдае запэўненне сказаным словам.

На зямлю спускаўся адвячорак… Чыстае лазурковае неба разгорнутым парасонам абнімала шырокія прасторы. Зямля дыхала маладымі, жыццятворчымі сокамі. Лёгкай парай цягнуліся ўгару яе вясновыя ўздыхі.

Над Сілцамі насіўся прыглушаны шум. Каля выгану Рыгор злез з воза, развітаўся з Зосяю і ўверанай хадою накіраваў у мястэчка.

V

Падыходзячы к свайму двару, ён спаткаў Іцку Хрома.

— Нарэшце!.. Маці затужылася.

— Але ты з якое прычыны да мяне? Нешта ў лесе здохла.

— Няхай бы здыхала, толькі не тое, на вошта ты намякаеш. У нас і ў мястэчку звяр'я хапае.

— Ты праў, Іцка.

— Я кажу пра нашых гаспадароў…

Яны вярнуліся ў хату.

Стэпа дбайліва ўвіхалася ў мыцельніку. Каб Рыгор пацікавіўся, то бачыў бы, як маці гатавалася да яго ад'езду. Яна старанна пакавала купленыя сыр і каўбасу, абвязваючы іх у белыя завільжаныя анучкі. На лаўцы каля прыпеку ляжала акуратна згорнутая, чыста памытая і пакачаная бялізна. З-пад полу выглядаў адкрыты чамадан, на дне якога ляжалі першыя рэчы. Ацягнуты сумам мацерын твар сведчыў пра жалобу, якую моцна перажывала старая. Яна не абмінула, каб не выказаць Іцку сваіх расхваляваных думак і горкіх скаргаў пра адзіночнае жыццё. Іцка разуважаў Стэпу, як мог, і таму яна радчэй і цішэй уздыхала. Але старой цяжка было стрымаць напіраўшую горнасць.

— Будзем вячэраць?

— Не мяшае.

Стэпа ўвішна падала Рыгору ўсё, што магла згатаваць. Рыгор еў і слухаў Іцку, які падрабязна расказаў яму пра развіццё канфлікту ў гарбарскай прамысловасці Сілцоў. З часу сходу ў яго на кватэры адбылося шмат змен у развіцці перагавораў паміж рабочымі і гаспадарамі. Адзнакі ўступчывасці з боку гаспадароў, пра якія можна было казаць раней, зараз абярнуліся ў вострую апазіцыю заяўленым патрабаванням з боку рабочых. Мякчэй стаяла справа толькі ў адной майстэрні, але стварылася небяспека, што і яе гаспадар паддасца агульнаму прадпрыемскаму настрою. Гаспадарская непрымірымасць сустрэла ў рабочых падвойную рашучасць да забастоўкі. Многія адзнакі сведчаць за магчымую перамогу рабочых. Зробленыя заказы на вялікі нарад выцяжак не церпяць адкладу. Гэта штурхае гаспадароў на паскоранае вырашэнне канфлікту, але забастоўка немінуча. І Іцка прыйшоў угаварыцца з Рыгорам, каб ён прыняў удзел у сходзе рабочых.

— А на калі намечаны сход?

— Праз дзён тры… Я ўжо ведаю, што ты не магчымеш прыняць удзелу — маці казала.

— Шкада, ведаеш, а хацелася б.

— Нічога не зробіш.

— Пажадаю вам пасьпяховай перамогі.

— Думаем не паддацца. Настрой гарбароў баявы. Хлопцы ўжо праводзяць другую забастоўку.

— Наогул гарбары перадавы атрад.

— Чаму Сілцы, трэба аддаць справядлівасць, не спяць. Пра Катлы, зразумела, чуў?

— Падобнае днямі адбылося і ў Асінаўшчыне.

— Што ты кажаш?

— Перадаюць.

Іцка прайшоўся па хаце і перавёў гутарку на іншую тэму.

— Як бы ты думаў, Рыгор, наконт таго, каб мне паспрабаваць пераехаць у горад?

— Адабраю думку.

— Сапраўды, цягне. Калі б можна было з Рыгі паведаміць.

— Пастараюся…

— Ты ведаеш, мястэчка засосвае. Не адчуваецца пралетарскага асяроддзя. Здаецца, каб гэта ў фабрыку з тысячу рабочых… Армія…

Іцка завісліва паглядзеў на Рыгора і абярнуўся да Стэпы:

— Гатовіце сыну ў дарогу?

Кабета раптам адвярнулася на хату і глыбока, зацяжна ўздыхнула:

— Доля, сынок, ужо такая. Людскія дзеці пры бацьках, а гэта…

— Не тужы, маці… — суцешыў Рыгор.

Выходзячы з хаты, Іцка падмацаваў яго ўцеху заспакойваючым сказам да Стэпы:

— Ён бліжэй з вамі нааддалёк, ніж тыя, хто з іншымі зблізку…

Рыгор правёў Іцку да вуліцы і вярнуўся. Стэпа стрэла яго амаль на парозе наступнымі словамі:

— Хоць пасядзі на расстанні з мацерай. Бо калі мы ўжо ўгледзімся — хто можа сказаць… — Яна разгорнілася і заплакала. — Дай мне наглядзецца на цябе… Два ж даўжэрныя гады не бачыліся, а гэта колькі дзён, як квадранец. То мяне няма ў хаце, то ты ідзеш гуляць і толькі на ляту, выпадкам прамігнеш… А тут — во — заўтра ўжо і зусім пакідаеш. Як і не наведваў, мэрам бы і не быў… Вясёлкаю, бляскам, іскраю…

Апушчаная ў паднятыя плечукі галава сіратліва нахілялася ўправа. На плоскіх, выгнутых грудзях складзеныя накрыж рукі

супакойвалі раз'юшанае сэрца. Пад заўпалымі вачмі выдзяляліся смуглыя, зеленцаватыя дугі, і па ссохлых губах бегалі нервовыя дрыжыкі.

— Паглядзі, сынок, гэта я нарыхтавала табе ў дарогу.

Абое падышлі да мыцельнікава акна і прарэвізавалі ўзрокамі невялічкі запас правізіі, што Стэпа прыгатавала Рыгору.

— Хоць на дарогу ды ў першыя дні па прыездзе.

— Не трэба было, маці, дармо растрачвацца. Хавалі б лішнюю капейку, а я…

Дзве хударлявыя рукі растапырыліся выпрастанымі далонямі перад Рыгоравым тварам. І палкія любоўую ўзрокі ўстраміліся ў яго спачувальны твар.

— Што магла — прыдбала, а большага не прасі.

— Кіньце выбачацца. Ласне я нічога не ведаю?

— Ну, як жа такі, без нічога адпусціць. Такі-та ж я маці, і так шчасліва была стрэцца з табою, і… што ты кажаш, Рыгорка. Адна ноч, і паміж намі зноў…

Замурзаны хвартух падняўся да заслежаных воч. Рыгор выняў з-пад полу чамадан і палажыў у яго некалькі дробных пакункаў і пару кніжак.

— Хочацца гаварыць, а язык прыліпае. Горнасць сціскае грудзі. Хоць ужо пішы мне, сынок; а то я буду маўкліва паглядаць на твой гасцінец і сіратліва плакаць… Пішы, пішы! Каб я доўгімі гадзінамі не дарма ўглядалася ў вокны, чакаючы ўгледзець паштальёна. Каб ён не абмінаў хаты. Я калі слухаю твой ліст, та мне здаецца, што ты стаіш перада мною і бачу цябе, як зараз. А хай месяц не атрымоўваю твае весткі — нібы, як сопуха, і свет не мілы, ні каліва, Рыгорка, не мілы. Сэрца ные-ные, як бы хто яго чэмерам змачыў. Туга, туга, о цяжкая, кандальная туга… Ляжыш і дратуешся, ідзеш — нічога не міла. Сёмку, Петрусю, Іцку, дзяўчатам — не даю праходу: а мо той што ведае, а мо гэты чуў, а мо… І бачыш, як іншыя задаволена смяюцца, жартуюць, заўсёды на вачах — думаеш: а Рыгор дзе? А што з Рыгорам? Пішы…

— Кінь, маці, жалобіцца.

Ён умільна паглядзеў на Стэпу.

— Або я ўміраю? Або навекі расстаюся? Кожны раз я магу кінуць завод і прыехаць. Ніхто мяне не прывяжа да месца… Не ў адну Рыгу дарогі сходзяцца… Будзе цесна ў Рызе — ёсць Пецярбург, Масква ёсць… Буду пісаць і буду памагаць. А вы тут не звераджайце сябе праз меру. Колькі аднаму чалавеку трэба? Запасіць — навошта…

— Ну, а скажы ж, Рыгорку, ці намеран ты хоць праз год наведаць мяне?

— Буду намагацца. Але год — гэта многа часу. Ой, як многа! Магчыма, што я і вас страчацьму ў сябе, усё магчыма — год. А бывае і раней года…

Стэпа няўпэўнена, з лёгкім недаверам паківала галавою. Потым падышла да чамадана і праверыла паложанае ў яго.

— Заўтра булку спяку — пакінь мясцінку.

Яна прычыніла чамадан і заікнулася, каб пра нешта дапомніць Рыгору, як стукнулі дзверы.

Абое абярнуліся да мыцельніку і настаражыліся.

— Позна, скажаце?

То быў Сёмка.

— Добры вечар! Лажыцеся спаць?

— Не па-твоему.

— Ды ўжо відаць, відаць…

Ён акінуў узрокам хату і, заўважыўшы чамадан пры печы, праказаў:

— Рыхтуешся?

— Каб што лепшае, Сёмачка, рыхтуецца, — адказала за Рыгора маці. — Ці даўно мы яго страчалі, а гэта, во, зноў у дарогу. Як табе падабаецца, га?

— Трэба!

— Нікому так, як яму. Табе не трэба, Петрусю не трэба, а Рыгору…

— Няўжо такі вы не ўтаймуецеся, маці? — сухаватым галасам пераняў Рыгор.

Сёмка змякчыў яго.

— Але, паверце, што не ён мне завідуе, а я яму… Паверце…

— Ды ўжо ж, — няўверана адказала Стэпа.

— Каб гэта ды разам з ім — чаго б больш я хацеў… Сілцы, думаеце, мацыя?..

— Не ў Сілцах справа, суседзе.

— Так, маці ёсць, зразумела, і адна к таму… А думаеце, падобнага не бывае?..

Сёмка звярнуўся да Рыгора:

— Значыць, а трэцяй?

— Лепей своечасова…

— Зразумела… Добра… Раніцаю праедуся на гуменні і…

— Чакай. Я папрашу зайсці да нас.

— Але, сынок, — дадала Стэпа.

— Будам бачыць… Бывайце…

Ён порстка выбег з хаты. Не паспела Стэпа засунуць дзверы, як Сёмкаў свіст пачуўся з-пад яго хаты. У лямпе выгарвала газа.

— Бачыш?

— Лажэмся ўжо…

Стэпа справіла Рыгору пасцель і патушыла лямпу.

## VI

За маленькім сталом сядзелі адзін пры другім чацвёра мужчын і двое жанок. То былі Рыгоравы таварышы, Сёмка і Пятрусь ды Сёмкаў бацька — Хведар. З жанчын былі — Хведарыха і маці Рыгора. Яны сышліся правесці Рыгора, і Стэпа не абмінула, каб іх пачаставаць.

— Гэта, можа, вяселле, можа… можа, першая і апошняя бясёда з-за Рыгора, мае суседзі дарагія… — спавядалася Стэпа.

— Кінь! Кінь, суседка. Вось я ўжо гэтага не люблю… — разважаў Хведар. — Або твой сын навекі з табой расстаецца? Або ён адзін такі ў свеце? Хто ручыць, што мы заўтра вось гэтых малайцоў не будзем праводзіць?

Хведар накіраваў два пальцы на Петруся і Сёмку.

— Не журыся, Стэпа, дарма. Чым дрэнна, што Рыгор звязаўся з горадам? Ты пацешся ім, якавы ён у цябе. Людзям на завіду. Ты б хацела, каб хлопец, як чарвяк, у зямлі калупаўся? Або за балагола цягаўся? Цудная! Найшоў талент — няхай трымаецца… Добра… Каб у мяне не інакшае палажэнне — хто б Сёмку пры куце трымаў? Бяда, што я нядушлы ды нейкі шматок зямлі прыліп да ног, а то б… Ды мала яшчэ што выйдзе з часам. Бывае так, што кінам-рынам зямлю і… Або вось Пятрусь, думаеш, не жыве думкамі ў горадзе? Не прападзе-э, таксама. Затое многа выйграе, ніж будзе тут па падзёншчыне цягацца… Трэба цешыцца з сына, а не плакаць па ім.

Хведарыха дапаўняла мужа:

— Але, але… Стэпачка, я ж дык не здзіўлюся з Рыгора. Бярэ завісць, паглядзеўшы. Чысты, акуратны, белы, як пісар які. Паглядзі на яго і параўнай з нашым або з Петрусём… Куды-і — там. Мне смешна, калі гэты дзедзічы пачынаюць хваліць Берагоў. Каб на вас, думаю, прогліца, дурні вы, дурні, каналупы вы, куды вам раўняцца да…

Хлопцы не пярэчылі старым, час ад часу перакідаючыся між сабою адрыўнымі сказамі.

— Табато і то, што вы ў нас адны і ёсць прыяцелі. Ці за дарадай звярнуцца, ці папрасіць чаго — толькі да Пэўных… Рыгору ліст напісаць — Сёмка, прачытаць — ён жа… Каб не вы — хоць скрозь землю — вядома адна, як цвік, аднюшанька. Вось таму і баліць сэрца і рэжа ўнутры, што адна… Усякая погань цябе чапае бяскарна… Ідзе вуліцаю — лае, сустракае з дрыўмі — адбірае. Вядома ж, думаю… А пры Рыгору — зусім іншае.

— Не зачэпіць удвойчы, будзь пэўная…

Хведар грозна патрос кулаком над сталом.

— Кінь, — сутрымала яго жонка.

Хлопцы пахвалілі Сёмкавага бацьку за храбрасць.

Стэпа набралася бадзёршага настрою, і на яе твары заблішчалі просветы надзей і ўверанасці. Яна жывей зарухала пры стале, змяніла тон у голасе і на разважлівую гутарку Хведара адказвала крохкімі ўхмылкамі.

Але ўсё гэта зноў прапала, калі Рыгор паглядзеў на гадзіннік і папрасіў Сёмку:

— Можа б, пара было рыхтавацца?

— Якая гадзіна?

— Другая на сходзе…

— У мяне воз напагатове, але…

Сёмка пакінуў застолле і выйшаў з хаты. Усе, хто астаўся, бачылі, як Стэпа ўверанымі вачмі праводзіла яго, ажно пакуль ён не схаваўся ў сваім двары.

Пасля яна праверыла сынаў чамадан, яшчэ штосьці ўпакавала ў яго і, упрошваючы Пэўных закусіць, чым ёсць, раз-поразу паглядала ў вокны. Кожная хвіліна ўлічвалася Стэпаю ў актыў супакою, але разам з тым забаўленасць Сёмкі расцягала Стэпіну напружанасць у чаканні.

І калі пачуўся першы стук калёс толькі кранутага воза, як яна змянілася ў твары і праследжана паглядзела на Рыгора.

Рыгор вылазіў з-за стала; на яго паваротах і ў яго ваччу выразна адмячалася развітальная спагада.

Ён абягаў узрокамі кожную хатнюю рэч, вешалку і траму, печ і кручкі ў сценках, выпуклае бервяно ў тыльнай сцяне і закураны комін, пахілены чатырохкутнік дзвярэй і сточанае шашалем абшаляванне вокан. Усё, здавалася, слала яму развітанне, канчаючыся ў пераплёце хатняй мазаічнасці.

Але ў асяродку стаяў чамадан, і Рыгор накіраваў проста.

Хутка шчаўкнулі замочкі, і ён стаў дзяржаннем угору.

Хведар працягнуў Рыгору руку, а другою абняў яго праз плячо.

Яны пацалаваліся, і Стэпа адазвалася на гэта галосным усхліпам.

— Годзе-э, маці! — разважыў яе Рыгор, і яго голас паглынуў стук дзвярэй, упусціўшых Сёмку за чамаданам.

Сёмкава маці сваімі развагамі Стэпы скрала выхад Сёмкі.

Аднак выхаду Рыгора з хаты нельга было ўнікнуць ад Стэпінага разжалобленага плачу.

На вуліцы Рыгор азірнуўся ў бок Загор'я і ўбачыў, як перад ім заматалася некалькі рук. Ён углядаўся, ды зацягнутыя жалем вочы не маглі распазнаць нікога.

Між тым махаўшыя рукамі Гэля і Волька паспелі нагнаць яго пры павароце на Сівулінскую дарогу.

Абедзве таварышкі пажадалі Рыгору шчаслівае дарогі і неадхільна сачылі, пакуль падвода з праважатымі не схавалася за заломам.

Гэля і зараз не забыла выказаць пажаданне ўбачыцца ў горадзе…

І, як той, раз атрымала ад Рыгора цвёрдае адабрэнне.

За мястэчкам, на Крыжавых дарогах, Сёмка спыніўся.

Рыгор аглянуўся на Сілцы і радасна ўхмыльнуўся: яны праводзілі яго зеленню сваіх садоў і водсветамі цёплага сонца ў вокнах хат, бесклапотнымі дзецкімі выгукамі і баявым нарастаннем гарбарскае забастоўкі.

З-пад хвойніку дзьмуў лёгкі ветрык, пасылаючы ўдагон водырны пах красуючага жыта і пахкае хваёвае смалы.

Рыгор апісаў у паветры шырокае паўдужжа і расцалаваўся перш з мацерай, пасля з Петрусём.

— Варочайся, маці, дахаты і чакай першага ліста. Дзякую шчыра за гасцінцы… А цябе, Пятрусь, чакаю ў госці да сябе… Бывай!

Рыгор узлез на воз і падаў Сёмку знак паганяць каня.

Затарашчалі калёсы. Завіўся густы слупок пылу і як хвіранкаю засланіў ад Стэпы падводу.

Рыгор чуў горнасныя сказы, але не мог разабраць іх сэнсу, хвалюючыся ўкладзенай у іх палкай мацерынай любоўю.

Запаўдзённае сонца смяялася золатам свайго прамення, а ў распараным паветры віўся рэзвы жаваранак, пасылаючы развітанне…

З недалёкага лесу беглі настрэчу кудравыя дубкі.

## *Квадра ІІ*
## НА ПЕРАГІБЕ

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

#### І

Аўторкам, у дзень Рыгоравага ад'езду, Зося прачнулася крыху пазней, чым прачыналася заўсёды.

Прачнуўшыся, яна чулася стомленай, разбітай, нявыспанай: нейкі цяжар душыў галаў, мярцвіў цела, кідаў на сударгі. У яе галаве блуталіся адрыўныя разнастайныя думкі. Ніяк нельга было ўлежаць; але, разам з гэтым, Зосі не хацелася і ўставаць з пасцелі — як бы хтосьці прыкаваў яе да ложка…

У гэткім стане Зося праляжала каля дзвёх гадзін.

Тым часам у сенцах павіднела: праз закратаванае акенца ўлілася вузкая палоска сонечных праменняў, якія блішчастаю залацістаю стужкаю працягнуліся ад сцяны ажно да ложка, апаўшы дробнымі лёгкімі іскаркамі на Зосін твар. Праз сітца праменняў мігаліся шустрыя мошкі, зрэдку калыхаліся камары і раз-поразу перарэзвалі яго суцэльнасць чорнымі ніткамі мухі. У сенцах было ціха-ціха. Гэта Зосю асвяжыла, прыдало бадзёрасці і жывасці, знайшлася ахвота падняцца, сысці з ложка і брацца за якую-небудзь працу… Але за якую працу? Зося задумалася, памаўчала з хвіліну і здаволена ўсміхнулася. Зусім не да будзённых інтарэсаў было ёй у гэту хвіліну.

Перад ёю занасіліся ружовыя надзеі, жаданні; паўсталі цікавыя ўражанні. Злітным, суцэльным шэрагам выраслі перад Зосяю жывыя адбіткі яе спаткання з Рыгорам. Хвойнік, кусты, вавёрка, пацалункі… і словы, словы к Рыгору… (Лёгкі ўздрыг і непрыемнае пачуццё на хвіліну кранулі Зосіна сэрца… Але ў яе знайшлося сілы заглушыць усякія адзнакі сумавання, і яна вярнулася да светлых успамінаў.) І перад ёю раптам усталі Лужкі, зялёная паплавінка, папар навакола, курган… Вось набліжаецца Рыгор, яна супыняе ворыва, чакае… Рыгор падыходзіць… яна хінецца да Рыгора, закіпае бурліваю прагаю неабмежнае ласкі, зліваецца з ім у адно суцэльнае… Вось, як цяпер, чуе яго цёплае дыханне, ловіць паспешны бой сэрца і… тане ў хвалях кіпучага шчасця…

Зося заплюшчыла вочы, замерла ў спакоі, каб паўней уваскрасіць нядаўнія часіны кахання, як раптам у яе вушы ўрываецца

востры, калючы смех: «Хі-хі-хі! Хе-хе-ха-ха!» — паднімае яе з падушкі, неміласэрна трасе яе постаццю.

Зося ўстала на калені, хапілася рукамі за галаў, сціснула зубы і ўся ўскіпела ад невыказнай злосці. Стук дзвярэй вярнуў яе к рэчаіснасці: яна адвярнулася к дзвярам, паглядзела, — то ўвайшла Тэкля.

— А, ты ўжо ўстала, Зося? — запытала дзяўчынка, нібы ўнесеная ў сенцы святлом яскрава ранняга сонца. — А я ўжо іду будзіць цябе. Мама ў гародзе рве зелле…

— Зачыняй дзверы, я ўстану, — адказала Зося. Тэкля ўзялася за клямку і ціха павяла з сабою дзверы, любуючыся тым, як яны заграбалі за сабою ўпушчанае пры адчыненні святло, вымятаючы яго зноў на двор.

— Як адзенешся — пазаві нас, — сказала Тэкля, бразнуўшы дзвярыма.

У сенцах зноў стала цёмна. Зося саскочыла з ложка і выбегла на палойку прамення, якое ўлівалася праз аконца. Выбегла і стала, як статуя, выпрастаўшыся і ўстраміўшы ў аконца вочы. Пастаяла, паглядзела. Пасля адняла ўзрок і правяла ім па сваёй постаці. Пацешылася белізною рук, зірнула на грудзі, здаволена ўсміхнулася і хутка ўбегла ў хату.

Святло абдало Зосю і на момант асляпіла яе. Зося спынілася ў парозе, пастаяла крыху, пасля працёрла вочы і агледзела хату. У хаце было ціха, чыста і прыемна. Усё было ўладавана на сваім месцы. Зосі кінулася ў вочы, што на кручку, які тырчаў у тыльнай сцяне, нічога не вісіць — гэта значыла, што бацькі няма ўдому. Яна падышла да мыцельнікавага акна, паглядзела направа ў канец двара, к паветцы — там воза не было: значыць, бацька паехаў на поле. Чаго і што — Зосі не цікавіла, абы яго не было ўдому, і некаму будзе раздражняць яе.

Як нібыта тая, спакойна і важна прайшлася яна некалькі разоў па хаце, пасля падышла к вулічнаму акну і паглядзела. Праз хат дзве ўгледзела Вольку, якая спяшыла кудысьці з мяшком на плячы. «Ці не па мяне ўжо яна ідзе? — падумала Зося ўголас. — Бадай, у траву сабралася. Якая руплівая гаспадыня!»

## II

Не заўважыўшы Зосі, Волька прайшла ў двор і паглядзела ў акно.

— Заходзь, заходзь, не ўзірайся. Я дома, — пазвала Зося.

— А я думала, што цябе нямашака ў хаце, — адказала знадворку Волька.

— А дзе ж я буду?

— Мала дзе! Як быццам яна ўвесь час з хаты не вылазіць!

— Усё ж не гэтак, як ты. Ты вельмі ўжо зарупілася.

— Трэба, бачыш, нічога не парадзіш.

Волька ўсміхнулася.

— Дык яно так, але… усё ж, галубка, зайдзі ў хату.

Волька адышла ад акна і накіравалася да дзвярэй.

Зося падбегла к люстэрку і паглядзелася: на ёй усё было акуратна. Заплеценая каса спускалася ўздоўж плеч; пасамкі валос брыжастаю тасьмою ацінал і яе белы, крыху стомлены твар; але наспех адзетая спадніца і кашулька сведчылі аб лёгкай на гэты раз нядбаласці Зосі. У агульных рысах яе фігуры, стройнай і цікавай, вызначалася свежая малажавасць і рэзвая лёгкасць, якія рабілі яе зусім не падобнай да стараннага аратага і жняца.

— Што ты ўглядаешся так пільна? Харошая ўжо, харошая, — пажартавала Волька, увайшоўшы ў хату.

Зося здаволена ўсміхнулася і адказала:

— Ведаеш, ужо з гадзіну, як устала, а неяк усё не было як і на сябе паглядзець.

— А бачыш, я дык паспела ўжо мяшок травы прынесці ды вось зноў сабралася ісці.

— Я ж кажу, ты ўжо завельмі рупная гаспадыня.

— Трэба, цудная ты! Вунь маці нешта залягла з учарашняга вечара, дык хто ж зробіць за яе?

Волька падышла к люстэрку і пацікавілася на сябе.

— Зосечка, што ж ты не кажаш? Я ж проста як страшыдла якое! І ты ж падумай, у гэткім вось выглядзе, як цяпер… сустрэлася раніцой з Сёмкам… Х-ха-а-ха!

— З Сёмкам?! Няўжо? Каб цябе цяміла, як ты паспела! Ну, і спрыт жа ў цябе.

Зося ўголас засмяялася.

— Ты вось толькі і напраўду не падумай, што я знарок з ім наладжвала спатканне… Зусім нават не хацела гэтага. Нясу так, ведаеш, траву вулачкаю, а ён якраз тыц са сценкі: «Чакай, — крычыць, — Волька». Я ж мусіла спыніцца. І гэтак удваіх разам прыйшлі дамоў.

— Нябось, нагаварыліся па дарозе досыць?..

— Вось толькі не выдумляй, чаго не трэба, — перабіла Зосю Волька, адвярнулася ад люстэрка і падбегла к акну. — Гаварыла-то гаварыла, — іншым тонам сказала Волька, — толькі зусім не аб тым, аб чым ты можаш падумаць. Гаварылі мы, калі хочаш ведаць… аб Рыгору.

— Аб Рыгору?!

Зося раптам змяніла міну, вытарашчыла вочы на таварышку і настаражылася.

— Так, аб Рыгору, мая міленькая, — спакойліва пераказала Волька, — ты, пэўна, ведаеш, што ён сягоння выязджае. Вось якраз сягоння яго Сёмка адвозіць у Ліцк.

Зося хоць і ведала, што гэтымі днямі Рыгор выязджае, але тое, што яго ад'езд выпаў на сягоння, было для яе зусім раптоўным і неспадзяваным. І Вольчыны словы ўзварухнулі ўсю яе істоту.

— Няўжо такі сягоння? — як бы не хочучы верыць гэтаму, яшчэ раз перакаланалася Зося.

— Так, так… А ласне ён табе не сказаў пра гэта?

Зося смутным узрокам паглядзела ў акно.

— Я нават, прызнацца, і не пытала ў яго…

— Не пытала?

— Не, не пытала… і таму, Волечка, не пытала, што, ведаеш, няма ніякай карысці пытаць… няма карысці, бо ўжо між намі пастаўлена загарадзь… высокая, шчыльная загарадзь…

Зося зрабіла міну, на якой адбіваўся глыбокі жаль.

— Загарадзь вырасла, а сэрца зусім не хоча згадзіцца з гэтым. Не магу згадзіцца з думкай, што давядзецца з ім расстацца…

— Ды я добра ведаю, Зоська, што і казаць, але… прыходзіцца часамі з многім чым згаджацца…

— Вельмі, даражэнькая, цяжка…

Зося абняла Вольку аберуч, палажыла ёй на грудзі галаву і глыбока ўздыхнула. Волька спагадліва пагладзіла таварышку па галаве.

— І так сталася, што нават і пабачыць нельга на ад'ездзе: нельга па-людску развітацца, — жаласліва выказала Зося, стрымліваючы горнасць.

— А ласне, Зоська, ты яго не бачыла з таго разу, як была з ім у хвойніку? — запытала Волька.

Зося адразу не знайшлася, што адказаць. «Ці прызнацца мне ёй, ці схлусіць?» — падумала сабе і як бы сумелася ад свае думкі.

— Прызнацца табе, сястрыца, адзін раз сустракалася з ім, — нясмелым і няпэўным голасам адказала Зося, — толькі то ўжо мінула, адышло… і так хочацца, каб яшчэ сёння…

— Дык хадзем праводзем яго! Што там глядзець на розныя перасуды! Каго і што баяцца? Плюнь на ўсё, і хадзем. Га, Зося? — выспрабавала Волька таварышку.

— Ой, што ты кажаш! — здзівілася Зося. — Як жа мне ісці, аброчанай, закантрактованай… Гэта ж калі ўгледзіць маці ці

бацька, дык жыццё атруцяць; спакою не будзе ні днём, ні ноччу… Дзе ты бачыла, Волечка…

Стук дзвярэй перабіў іх гутарку: Зося безнадзейна матнула рукою, нявесела ўсміхнулася і, адступіўшыся ад Волькі, хапіла рукамі за косы.

— Трэба косы паправіць, — ні к чаму выказала яна, — а то, глядзі, і я на пудзіла нейкае падобна.

— Так, завяжы лепш у куклу; хоць табе, па-мойму, куды лепш прыстае каса.

Расчыніўшы дзверы нарасхлест, клубком укацілася ў хату рэзвая, вяртлявая Тэкля.

— Дзень добры, Волечка! — пралепятала яна тоненькім пявучым галаском.

— Кінь патвораць, Тэкля, — пагразіла дзяўчынцы Марта, пераступаючы парог і здаволена смеючыся.

— Добры дзень табе, суседка! — з лёгкім жартам прывіталася яна з Волькаю.

Волька адказала засаб абедзвюм. Марта нядбайна кінула ўзрокам на Вольку і нехаця засмяялася.

— Ты ўжо, я бачу, нарабілася, а наша Зося кагадзе з пасцелі. Бацька зранку паехаў у лес па ламачча, а я сабе думаю, няхай Зося гадзінку лішнюю паспіць.

— А цяпер вам крыўда, — папракнула Зося і адвярнулася к акну.

Марта, як бы хто яе штурхануў, падскочыла на месцы, замахала рукамі, зачырванелася ўся, як бурак, ды вокрыкам сказала:

— Бяда, Волечка, нам з ёю. Слова нельга сказаць: так і ўскіпіць, як смала на агні; ці робіш ёй лепш, ці стараешся для яе — хоць бы што; усё ёй нечага мала, усё ёй не дастае чагосьці… Чакай, галубка, — памахала Марта пальцам у бок Зосі, — пабачым, як будзе табе ў Берагаў; як Беражыха будзе табе дагаджаць. Ці дасць табе Васіль гэткую волю, якую ты маеш у бацькоў…

Марцін крык напалохаў Тэклю; дзяўчынка адышлася ад Волькі, села на лаўцы каля акна і штосьці ціхутка замармытала сабе пад нос…

— Так, вас ужо загадзя цешыць, што Берагі мяне сцiснуць у кулак. Цешцеся!.. Мабыць, дзеля гэтай пацехі знарок і ўпіхаеце мяне ў тое пекла… Няма чаго казаць, добрыя бацькі… Слухай вось, сястрыца, — абярнулася Зося да Волькі, — пэўна і твае бацькі тое робяць?

Волька маўчала: ёй было ніякавата слухаць хатнюю сварку; яна ўстала з месца і выйшла на хату.

— Трэба ісці дамоў, а то там без мяне нічога не будзе, — і азірнулася на дзверы.

Тэкля саскочыла з лаўкі і пераняла Вольку, хапіўшы яе за руку.

— Пагуляй, Волечка.

— Ды пагуляй!.. Вельмі, падумаеш, ты патрэбна ў хаце. Так-то мацеркі без вас і не абыходзяцца ніколі, — суха вымавіла Марта.

— Дык, ведаеце, цётачка, не то каб не абышліся, але нешта мама сёння нездарова; з самага ранку ляжыць.

— Ласне? Што ж гэткае з ёю? — спагадліва запытала Марта.

— А хто ж яго ведае; на колікі ў баку скардзіцца, — адказала Волька і выйшла з хаты.

Зося правяла Вольку ў сенцы, вярнулася ў хату і маўкліва ўгледзелася ў покуцьнае акно. Тэкля падбегла да стала, ухапіла кавалачак хлеба з-пад абруса і выбегла з хаты. Марта, нахмураная і злая, прымасцілася ў запечку крышыць зелле.

Хвілін дваццаць у хаце было ціха. Пасля Марта перарвала маўчанку, спакойліва запытаўшы Зосю:

— А ты ж хаця ела што-колечы? — Зося не адказала. — Чуеш, Зося, я да цябе: ты ела што? — выказала Марта.

— Не, нічога, — чорства адказала Зося, не адварочваючыся ад акна.

— То бяры, во, еш; я дам, чуеш, Зося? Хадзі к сталу.

Зося перш думала яшчэ паўпірацца, каб гэтым, як найгорш, дадзець мацеры, але тут жа перадумала і нехаця, падкрэсліваючы незаўважлівасць да яды, падышла к сталу і моўчкі прысела. Марта адвярнулася ад зелля і падала Зосі снеданне.

— З’ясі гэта, то яшчэ дам, — сказала пры гэтым. І, крыху памаўчаўшы, дадала:— А перад вечарам, дачушка, пайдзі ў палеткі ды назбірай якое травы каню; бацька прасіў.

— Добра, — скрозь зубы адказала Зося, як бы не чуючы, аб чым яе маці просіць.

Але праз хвіліну яна раздумалася. «А і добра якраз; пайду ў траву не ў палеткі, а ў пасеку, да Ліцкага шляху: мо і прыпільную, як будзе ён ехаць. Хоць здалёк ды яшчэ раз гляну».

Гэтая думка хутка цалкам завалодала Зосяю і захапіла ўсю яе ўвагу.

III

Ад снедання да моманту, калі Зося сабралася ісці ў траву, прайшло некалькі гадзін. На выхадзе з дому яна забегла ў гарод і запытала ў мацеры:

— А дзе мне ўзяць мяшок?

— Вазьмі там, у сенцах, на подзе… Ды не старайся ўжо, дачушка, каб поўны нарваць; колькі знойдзеш, абы было на раз падкінуць каню, — спакойліва выказала яна дачцэ.

Зося нічога не адказала: забрала мяшок і выйшла з двара.

На вуліцы было ціха: каля хат на прызбах і сярод вуліцы ў пяску забаўлялася некалькі дзетак. Сталага — не відаць было нікога.

Толькі апынуўшыся на канцы вуліцы, пры звароце да студні, Зося ўгледзела, як Волька чэрпала ваду. Асцярожна, тулячыся к платам, яна падкралася да Волькі ззаду і нечакана для той выгукнула:

— Дзень добры!

Волька сумелася і раптам адвярнулася да Зосі.

— Зоська, ці ж можна так! Зусім перапалохала ты мяне.

— Ды мо не памрэш? — жартам адказала Зося.

Волька перамяніла голас.

— Так, можа, і выхаю сяк-так, — і, каб перамяніць гутарку, запытала Зосю: — А ты ж куды гэта?

— А вось маці паслала па траву.

— Ага! бачыш і сама клапатлівай стала, а то бо ўпікала мяне…

— Мяняецца становішча: рана ты, а зараз я…

— Апроч гэтага, табе, як той казаў, трэба на сходзінах папрацаваць на бацькоў: як кажуць, адрабіць за пабыўку ў іх, — пажартавала ў адказ Волька.

Але Вольчыны словы прыняла Зося зусім не за жарты: яны востраю калючкаю прайшлі ў яе сэрца.

— Ай, Волечка, табе жарты, а мне плач, — адразу пасумнеўшы, прамовіла Зося, — сходзіны… Ты ведаеш, даражэнькая, што мне гэтыя сходзіны, — у магілу сходзіны. Не ведаю, як я пераживу іх, як прымірuся з імі… Ведаеш, сястрыца, працівілася я, упіралася, але сілы не старчае: да таго бацькі настроіліся, што ніяк ты іх не пераканаеш; гаварыцца не даюць. «Мы, — кажуць абое, — дабра табе хочам, шчасця і славы шукаем, а ты яшчэ працівішся». Шчасце, слава, дабро! Ну і пераканай іх, калі хочаш… Прызнаюся табе, Волечка. — Зося сцішыла

голас і агледзелася вакол: — Доўга думала аб тым, як бы ўцячы; кінуць-рынуць усё — і хату, і бацькоў, і ўцячы ў горад, услед за Рыгорам. Але, падумай, галубка, што ж я зрабіла б там, каб, чаго нядобрага, ды Рыгор адхіліўся ад мяне? І я так мучуся, так пакутую ў заблытаных рашэннях і планах, што не ведаю, к чаму ўсё гэта прывядзе. Куды ісці і на вошта рашыцца?

Волька пільна выслухала Зосю і толькі магла адказаць ёй невыразным: «Так, так, але, але. Вядома, што праўда». Яна шкадавала Зосю і стала горніцца на сваё бяссілле, на нязнанне, як і што парадзіць таварышцы на яе скаргу і крыўду. Ці кідаць Зосі бацькоў ды ўцякаць у горад да Рыгора, ці скарыцца ёй бацькавай волі і рахмана ісці насустрач свайму лёсу. О, каб гэта можна было як-колечы звязаць гэтыя дзве дарогі! А то — там каханне, і разам — беднасць, недахваты, праклёны бацькоў; а тут — дастатак, багацце і нялюбы чалавек, цёмная нез'яснёная будучыня. «Як тут угадаць, каб даць правідловую параду — няведама: скажаш адно, а выйдзе горай — тады ўся на табе адказнасць. Гэта ж не для сябе…» І Волька змаўчала, гледзячы Зосі ў вочы, у тыя вочы, якія прагна чакалі ад Волькі рашучага адказу.

— Ведаеш, Волечка, начамі не сплю, а ўсё думаю ды думаю, — не дачакаўшыся ад таварышкі ніякае супакойлівае парады, выказалася Зося. — Сённяшнюю ноч, дык паверыш, ледзьве перабыла; усю мяне агарнула страшэнная нудота, бяссонне, неспакой, цяжкае разувер'е. Вось так і ные ўсё цела, тузаюць сударгі, галава ажно разрываецца ад блытаных калючых думак; кідае ў пот, у жар, то ў холад, розныя страшныя здані верцяцца перада мною… І цалюткую ноч…

— Зоська, — перабіла разжалабеная Волька, — а ты, сястрыца, і сапраўды неяк пагоршала за апошні час; змізарнела, апусцілася… Даражэнькая мая, я табе не раджу прымаць усё гэта да сэрца… Ды к гэтаму, хто яго ведае, а мо і лепш будзе так, як бацькі мяркуюць… Усё ж бацькі, няўжо б яны свядома аддавалі цябе на здзек? Падумай сама…

І Волька замаўчала, паглядзеўшы ў бок Берагавае хаты.

Зося павярнулася і пайшла.

Яна прабегла ўсю сценку, павярнула да скрыжаваных дарог, абагнула іх і пакіравала ў бок пасекі. Парупіла азірнуцца назад. Якраз адгэтуль відаць добрую палавіну Сілцоў. Зося акінула вокам шэрыя хаткі між зялёных купак садоў, спынілася на царкве і тут жа адвярнулася ўправа, на гасцінец, які цягнуўся шырокаю ламанаю стужкаю далёка, к Жмыгінскаму лесу.

Зося ішла мяжою, між зялёнага блізкага да каласавання ячменю. Яе абдавала густым салодкім водарам зялёных палёў; наганяла бадзёрасці і маладога дзявочага задзёру. Усё выглядала ў ружовай хварбе, прыемнай для вачэй і асвяжаючай нутро. Нельга было спыніцца вачыма на адным месцы, — яны разбягаліся ва ўсе бакі. Угары насіліся жаўранкі, ападаючы нізка-нізка к ярыне, а пасля, строма варочаючыся назад, у чырвоны промень сонца. То сям, то там, па прадоўжных і папярэчных сценках праязджалі на фурманках ці праходзілі пехам у белых сарочках земляробы. Зося прыкмячала ўсё гэта як бы міжвольна, нехаця, мяльком, стараючыся не спусціць вачэй з гасцінца. Усцяж яго разгону, наколькі сягала вока, то ўперад, то ў бакі пралятаў яе ўзрок, нібы каго ловячы ці ганяючыся за кімсьці. Але Зося нічога не магла прыкмеціць на ім: шэрая шырокая стужка яго не выдзяляла на сабе ніякае чорнае плямінкі. Гэта пачало Зосю нерваваць, дрэнчыць. «Ці толькі не праехаў ён?» — задавала яна сабе пытанне. «Пакуль я стаяла там з Волькаю ды пакуль дабегла сюды, бадай што Рыгор прамінуў Масткі і апынуўся ў лесе… Ах, ліха надало мне спаткацца з Волькаю, ужо б даўно я была тутака і не прапусціла б Рыгора… А цяпер — прапала…»

Зося спынілася, не дабегшы да Масткоў, адняла ўзрок ад гасцінца, глыбока задумалася. Вочы самі сабою апусціліся кнізу, на зелень травы, на палавую мятліцу, якая выбівалася з гушчы травінак і цягнулася ўгору, на казачкі-венічкі, на жоўтыя гаршчочкі, на высокія цыбастыя кравянкі. Босыя запыленыя ногі абняліся мяккім пухам траяністых інталяжаў. І лёгкім лунем падніmaліся з гушчы поплаўнай травы, з прыкразялёнага яе мошасту нарысы суботніх абставін: зялёны подсціл лугавое прагалінкі, пасярод яе воз, а каля воза — яна з Рыгорам… Мігам праняслісяшчаслівыя хвіліны, швыдкія, як маланка, і ў той жа час — доўгія, зацяжныя… А следам трэск калёс і злы, калючы, востры смех: «Хі-хі-ха! Хе-ха-хі!»

Зося страсянулася ўсім целам; раптам адарвала ўзрок ад зямлі, саступіла з месца і пaглядзела на гасцінец, акінуўшы яго ад Масткоў да цёмнага вытырку Жмыгінскага лесу. І якраз на граніцы лесу яе ўзрок затрымаўся. «Га-а! Так і ёсць! — уголас праказала яна, выцягнуўшыся ўсёй постаццю ў бок лесу. — Чула маё сэрца… Няхай бы я крышку раней! Што ж, прапала…» Зося павярнулася к лесу і зрабіла некалькі рашучых крокаў, але раптам спынілася, бо пачула цяжкую ўтому, якая сціснула яе нутро, звязала постаць і затушыла бліснуўшую энергію. «Прапусціла-а», — пашкадавала яна і безнадзейна развяла рукамі…

У адказ ёй блізка-блізка завёў сваю сухую жорсткую песню драч.

Прайшло многа часу.

Ужо змрок густою шэрасцю аплёў зямлю, хаваючы сваім полагам абшар прагалу і змяншаючы Зосін вокагляд. За гасцінцам, у дрыгвяніку, жабы ўзнялі хор; ім заўтурыла труба, а следам і жалейка пастухоў; са збажыны загукала перапёлка; над дрыгвянікам паднялася кнігаўка; некалькі дзясяткаў варон праляцела над Зосяй, кіруючыся на Сілцы. Белы валь луні распасцёрся над зеленню поплаву, значна астудзіўшы паветра. Промень на захадзе з чырвона-палаючага рабіўся бурачным, а па краях пераходзіў у буланы колер.

Гэты вобраз прырода малявала як быццам бы для адной Зосі, якая задуменна, нерухома стаяла пасярод зялёнага поплаву, як русалка, як здань якая. Яна здавалася дамалёванай, як неабходная часціна цэльнасці вобраза, і без яе ўсё згубіла б сваю прыгожасць. Але Зося гэтага не заўважала: яна жыла сваім асобным, сабраным у яе істоце жыццём. Пакуль нямела сэрца ад цяжкага болю разлукі, яна стаяла на адным месцы, а толькі боль паціху прытупіўся, Зося кранула ўбок, паглядзела на лес і ў думках паслала: «Бывай здароў, Рыгор! Бывай здароў! Бывай здароў, мой мілы таварыш!»

Калі яна адвярнулася к Масткам, то ўгледзела Стэпу, Зося ступіла пару крокаў уперад, правяла яе вачыма і выказала спачуванне. «Што думае яна, бедная маці? Яе таксама асіраціў Рыгор. Пакінуў жа адну адною… Бедная. Шкада мне цябе».

Успомніўшы, зачым прыйшла ў поле, яна старанна, не зважаючы на нічога, нарвала повен мяшок травы і хутка цвёрдаю ўпружыстаю паходкаю ішла ўздоўж мяжы к Сілцам.

## IV

На дварэ было цёпла, нават парна. З цёмна-машастовага неба глядзелі мільёны зорак. За Стэпінаю хатаю, у садку Лявона, чвырыкала начніца. З капуснікаў даносіўся жабін крэкт і перагук перапёлкі. Дзесьці на другой, ці то Здобінскай, ці то Тыльнай, вуліцы брахаў, завываючы, сабака; каля рынку ляскала бразджотка вартаўніка. Потым данесліся да Стэпы песні начлежнікаў. Паступова ва ўсіх хатах пагаслі агеньчыкі, толькі ў Прыдатных яшчэ не спалі.

Стэпа цішком сядзела, міжвольна прыслухоўваючыся да кожнага зыку. Паціху разбягаліся думкі, разбаўляючыся ў некую

шэруюмешаніну. Усё больш і больш выплывала ўтома, няволіла яе, звязвала суставы цела і спыняла развой думак. Перш Стэпа працівілася гэтаму, бадзёрачыся і праз сілу паднімаючы плечы. Але скора абязмоцнела, сцяжэла дарэшты і прытуліла голаў да сцяны. Пачалі зліпацца вочы, і раз-поразу яна стала забывацца ў салодкай дрымоце; адзнанне працівілася — ёй не хацелася заснуць на прызбе: зусім ніякавата будзе, калі хто ўгледзіць. Але штосьці прыцягала яе да месца і не давала магчымасці падняцца ды пайсці ў хату. І Стэпа паціху, непрыкметна заснула, шчыльна прыліпшы к сцяне. Заснула, і, як бы ў працяг думак, раптам усталі прад ёю сны. Ні адтуль, ні адсюль яна апынулася ў нейкім вялікім горадзе, шумным і цесным. Высачэзныя муры туга сціснулі вузкія, крывыя, цёмныя ад пылу і дыму вуліцы. Тысячы раз'юшаных, нібы напалоханых людзей несупынна швэндаюць у абодва канцы, кожны самотна, кожны па адным, без усякае цікавасці да ўсіх. Шум, крык, як на кірмашы, глушыць і цісне на голаў, нервуе. Як угарэлыя, носяцца самакаты, тарашчаць рамізнікі, прабягаюць вагоны. Нехта ўкінуў яе ў гэты вадакрут людскі, вывеў на вуліцу і пусціў ісці. Яна рушыла з месца і, як трэсачка, падхопленая на бурныя хвалі, паплыла ўсцяж глыбокай разоры-вуліцы. Ідзе-нясецца, мінае бясконцы лік агромністых блішчастых вокан, шэрагі слупоў, сотні народу. Пачынае мігацець уваччу, дурніць у галаве; ад цвёрдых каменняў з непрывычкі шчымяць ногі. Жалезнымі абручамі гняце задушлівы цяжар, перамагае яе і пачынае блытаць ногі; міжвольна сцішаецца хада. Стэпа чуе, што яна замінае другім, што людзі, якія натыкаюцца на яе, незнарок штырхаюць, лаюцца і зварочваюць у бакі. Але нічога не можа зрабіць — не хапае сілы, каб паспяваць разам з другімі і, нарэшце, падае на цвёрдыя каменні тратуара. Да яе падбягаюць людзі, шумяць, крычаць, пасылаюць хто за доктарам, хто за рамізнікам. І раптам у агульныш шоламе галасоў яна чуе чыйсьці блізкі, знаёмы ёй голас-вокліч: «Стэпа-а! Стэ-па-а!» Следам працягнутая рука прабуе яе варушыць, катурхае. Стэпа хоча падняцца, устаць, але чуе сябе нібы прывязанай к месцу і ніяк не можа зрушыцца. А той, хто яе кліча, усё настойней валтузіць яе за руку і, нарэшце, галасна-зычна крычыць ёй на вуха: «Паднімайся, Стэпа!» Крык, як рукою, знімае з яе ўвесь цяжар і дае мажлівасць расплюшчыць вочы: Стэпа прачынаецца і бачыць перад сабою мужчыну, якога нейкі час не можа распазнаць. А той спакойліва маўчыць, чакаючы, пакуль яна што скажа. Але ў Стэпы не варочаецца язык, каб што-колечы сказаць

незнаёмаму ёй чалавеку, і яна ўпарта маўчыць ды прыглядаецца. Нарэшце чалавек першы загаворвае да яе.

— Што з табой, Стэпа? — пытае. — На вуліцы поўнач, а ты дрэмлеш на прызбе?

Па голасе Стэпа пазнае Сафрона Дратунца — вартаўніка — і адразу супакойваецца.

— Гэта ты, Сафрон? А я думала — немаведама хто.

Стэпа прыпомніла, якім чынам яна апынулася тут, але Сафрону не захацела расказаць, каб ён назаўтра не распусціў па мястэчку.

— Ах, Сафронка, гэта ж у мяне, нешта нейкае, схапіла балець галава, і я чаго-чаго ні рабіла — баліць, ды годзе. Тады я паднялася з пасцелі і думаю: выйду хіба я на вуліцу, а мо перастане. Выйшла, прысела гэтак каля вугла і прыкархнула. Вось дзякуй, браток, што хаця абудзіў ты мяне, а то да раніцы праспала б, — схлусіла Сафрону Стэпа.

Сафрон прысеў каля яе і закурыў люльку.

— А я іду так у абход, прыглядаюся паўз хат і бачу: як бы сядзіць нехта каля сцяны. Падыходжу, ажно чалавек: прыглядаюся — Стэпа. Давай, думаю, разбуджу. І прыняўся будзіць, аж бачу, ты не прачынаешся лёгка: спіш, як пасля вяселля якога. Тады я гукнуў мацней, і як гукнуў — ты і прачнулася, — весела казаў стары.

— А, нябось, і ўгледзеў жа ты мяне, вочы старыя, а яшчэ празрыстыя, — пажартавала Стэпа.

— Пара прывучыццца ў цемні разглядаць; вось ужо дзясяты год, як вартаўнічым служу.

— Ажно дзясяты год!.. — здзівілася Стэпа.

— А вядома што. Ад таго года, як памёр Пранук Гладыш. Вось ужо на Юр’я было дзевяць гадоў, як ён памёр. Памёр і пакінуў мне спадчыну.

— Як хутка, аднак, прамінуў час, — я і не агледзелася.

— Ды яно ўсё хутка прамінае. Толькі, здаецца, учора ты, я помню, замуж выходзіла, а цяпер — глядзі: і мужа паспела пахаваць, і сына красаўца выгадавала; выгадавала і на чалавека зрабіла. Паглядзі, ён пан у цябе, людскі, гарадскі чалавек. Ходзіць па мястэчку, і ўсе зайздросцяць.

Сафрон зацягнуўся люлькаю і ўслед зацяжна ўздыхнуў.

— Нябось, спіць ён у цябе соладка і не патурае, што маці сядзіць на вуліцы з хвораю галавою.

Стэпа глыбока ўздыхнула і ойкнула ўголас, ажно Сафрон насцярожна павярнуўся да яе.

— Дзе ты, Сафронка, бачыў — спіць; ён у мяне не гэткі, каб спакойным быў, калі маці прыхварне ці занядужае. О, мой Рыгорка — залаты чалавек, шчыры сын мой, толькі… — надышоўшая к горлу горнасць не давала спакойна казаць, — толькі… толькі… майго родненькага няма ўжо ўдому… Учора ці сёння — як тут лічыць — я зноў правяла яго з дому.

— Значыць, ты зноў адна? — здзіўлена запытаў Сафрон.

— Адна, Сафронка, аднюсенька-адна.

— Так, так, — спагадліва заматаў галавою Сафрон, — таварышы мы з табою, Стэпа, па сваім адзіноцтве. Праўда, ты яшчэ хоць трошкі, але шчаслівейшая за мяне, бо ўсё-ткі хоць не дома, а маеш сына. Ну а я… — Сафрон махнуў рукою, — а я вось пяты год ужо, як апошнюю дачку пахаваў. Пахаваў дачку, а з ёю і ўсё, што мяне яшчэ цікавіла ў жыцці. Цяпер адзін, як той саўлук, цягаюся начніцаю, бразджу-бразджу, як пахавальным звонам, праводжу сваё астатняе, валацужнае жыццё, не патрэбнае ні мне самому, ні другому каму. Вось, як гэтая ноч, гэткае яно ў мяне — цёмнае, бяспросвітнае, жорсткае і балючае. Ведаеш, Стэпка, кляну яго, заклінаю, напрошваюся смерці — бо абрыдла жывым гніць, канаць адарваным ад жыццёвага грунту… Але скаргаў маіх не чуе ніхто, і я вось рухаю, хаджу, сцерагу, бразджу. Бразджу, бо не хапае пакуль у мяне сілы налажыць на сябе рукі. Няма сілы — раз; а па-другое, можа, і грэшна жывасілам звярэджваць жыццё. Велена лёсам так жыць — трэба жыць. І, бачыш, жыву… — Сафрон зарагатаў, і ў яго рогаце пачулася варожая знявага да ўсіх бядот уласнага жыцця, да яго пагарды над ім, Сафронам.

— Кепска жывеш ты і не лепш я жыву, — згадзілася Стэпа, — напэўна, думаю, і яшчэ ёсць гэткія, як мы… Затое, вось, другія — хоць бы Прыдатныя ці Берагі — за нас аджывуць. Бачыш, заняліся вяселлем, і колькі гаманы пайшло па мястэчку, якой цікавасці вакола!.. Збіраюцца, бегаюць, закупляюць, носяць, носяць з рынку. Цэлымі начамі агонь у хаце. Могуць і ўмеюць праводзіць свае ўрачыстасці… Не па-нашаму з табою…

— Вядома, каму ж не жыць, як не ім: зямлі процьма, хлеба — па горла, грошы — не пералічыш… Кумаўство з начальствам, з папом. Другія на іх падрабляюць. Чаму ж не жыць добра ў гэткіх варунках? Пакуль — жыццё іх свята.

Сафрона перабіў рэзкі свісток правяратага. Ён хутка ўсхапіўся з прызбы і заклекатаў бразджоткай на ўсю вуліцу.

— Правяраюць. І аднаго разу не прапусцяць, на іх ліха. Пайду пакажуся, а то яшчэ аштрафуе, чаго добрага. Дабранач, Стэпа!

І Сафрон, старанна бразджучы, хуткім крокам пайшоў ад Стэпы, кірункам да рынку. Стэпа таксама ўстала з прызбы, паглядзела ўслед яму, паківала галавой і накіравалася к сабе ў хату.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Дзве істоты, якіх паставіла жыццё ў розныя варункі, кожная з сваімі асабістымі пазывамі і жаданнямі, якія дыктавала ім найвялікшая ў свеце сіла — любасць, адной — любасць кахання, другой — любасць мацеры, — дзве істоты, Стэпа — маці і Зося — каханая, адчувалі вялікую страту для сябе ў Рыгоравым ад'ездзе. Тая і другая сваімі думкамі праводзілі яго ў далёкую дарогу, сваімі ж сумненнямі выказвалі баязлівасць, каб гэтыя праводзіны былі не апошнімі, каб толькі жыццё не назаўсёды зарасціла паміж імі жаданых дарожак спаткання. І дробкамі свае істоты як Стэпа, так і Зося цесна вязалі сябе з Рыгорам, сціраючы ў сэрцы халодныя і цёмныя прагалы, што іх раз'яднала соткамі вёрст.

А Рыгор, глыбока-ўражлівы, чулы сэрцам, лавіў нутром цёплае пачуццё блізкіх і любых сабе людзей і адзываўся іх бурным хваляваннем аб утраце цёплае, зжытае еднасці. Кожная вярста, аддаляючы яго ад Сілцоў, мяняла настрой, і паціху сум пакідаў, надыходзіла бадзёрасць, тупілася вострасць перажытку на развітанні. Ужо ён сам, свядома, а не мімаволі, для цікавасці, варочаўся ў думках назад, прабягаючы ўсцяж мінулых перажыткаў. Сілцы, дзе ён рос, дзе пасвіў каровы, дзе служыў балаголам — бач, браў навуку для чарствога жорсткага жыцця, дзе загартоўваўся, — гэтыя Сілцы ўжо далёка адыходзілі ад яго, пакрываліся плеўкаю даўнасці. Часова, у пабыўку, крыху расплылася гэтая плевачка і выразней выявіла мінучасць, падкрасіўшы яе адноўленым пачуццём спаткання з таварышамі, з Зосяю… Так, гэта цешыла яго з асалодаю рэдкіх хвілін. Ну, а што датычыць маці, Рыгор адчуваў — яе любасць да сына, як і сынава любасць да яе — ніколі не ўбавіцца, не астыне. Ён магчыме прыязджаць дамоў, сустракаць яе, горача вітацца; а мо здарыцца магчымасць, і ён перавязе яе да сябе, у горад. З Зосяю — іначай: перажытыя хвіліны могуць не вярнуцца. І паколькі адчуванне неўзваротнасці шчаслівых хвілін краталя яго сэрца, Рыгор меў прыемнасць аглядацца на Сілцы і адчуваць утрату

іх… Але і гэта пакрысе забывалася і траціла сваю вострасць у параўнанні з блізкім наступным: перад Рыгорам адчыняліся іншыя небасхілы; з-пад Ліцка, з-за Ліцка глядзелі на яго здані разнастайнага шумлівага жыцця горада, жыцця, якое таіла ў сабе многа нечаканага і таму цікавага для яго. А вось з яго віру выплывае раптоўна зусім нядуманае і нечаканае здарэнне і прынясе яму ў многа разоў глыбейшае сутрасенне. Зося, маці… Яе плач, яе трывога, яе жаль… Усё гэта нязначна і дробна перад мажлівасцямі наступнага!

Сёмка сядзеў побач таварыша, пашлёгваў пужкаю каня і не перашкаджаў яго думкам. Рухавая палавая кабылка, кругленькая, як яблычка, дагледжаная гаспадарным Сёмкам, несупынна трухала дробным няспорным бегам, раз-поразу звякаючы падковамі па каменнях. У двух каляінках, у мяккіх мясцінах — глыбокіх, а на цвёрдых — чуць выбітых, каціліся ўподскак добра ашыненыя калёсы, нямерна трасучы лёгкі возік. То пералескі, то пасекі, то выбітыя стадам выганы, то сенажаці-паплавы, то рознакалёрныя ніўкі мігаліся паабапал. Сёмка цікавіўся росквітам летняй расліннасці, пары разбухання жыцця, кіпення яго сокаў, і з гаспадарскай цікавасцю падмячаў больш старанную апрацоўку тае ці іншае нівы — скутак дбайнасці земляроба. Вынікала ўнутры чуць прыкметная незадаволенасць к таму, што ў яго бацькі так скупа зямлі, такое мізэрнае гаспадарства, што нельга развярнуцца для выявы іх земляробскіх здольнасцей… На міжвольнае выяўленне гэтага пачуцця Сёмка адказваў самапапрокам, чаму ён ніяк не можа канчаткова вызваліцца ад уласніцкіх нахілаў, і пужліва правяраў сваю ўстойнасць у сацыял-дэмакрацтве. Каб не выдаць свае таямніцы Рыгору, ён чуць-чуць паварочваў галаў направа і акідаў лёгкім позіркам твар таварыша. І, бачачы, што Рыгор сядзіць у роздуме ды зусім бесцікаўна прапускае між сябе ўсё тое, што яго, Сёмку, цікавіць, дзівіўся і думаў. Пасля мяняў пагляд і разважаў так:

«То зразумела; Рыгор не гаспадар поля, не земляроб… Машыны, молат, абцугі — вось што прызначана яму. Аднаму — адно, другому — другое. Рыгор едзе ў горад і думае пра сваю машыну, пра фабрыку, пра напільнік, а я яго вязу і аглядаю палеткі, збожжа. У гэтым мы пайшлі па розных дарогах. Я прывязан да зямлі, а яго носіць жыццё з канца ў канец. Адрывае ад дому і гоніць дзесьці за сотні вёрст у горад. Напэўна, трывожыць яго разлука і з маткай і з Зосяю; я ведаю Рыгора. Такі людны, такі зжыўны чалавек: на ім адбіваецца найменшае здарэнне, найменшы выпадак з самотнага жыцця кладзе на ім вельмі выразную

адметку. Шкода яму і Сілцоў, шкода і мацеры, таварышоў, шкода і Зосі. Але іначай нічога нельга зрабіць, і Рыгор мусіць ехаць».

У сваіх разважаннях аб таварышавым жыцці Сёмка даходзіў да спагады к Рыгору і пачынаў шкадаваць яго. Але гэткі напрамак сваіх думак ён хутка перайначваў і, прымаючы іх за сваю слабасць, мяняў свой узрок на Рыгора. «Не, — выводзіў Сёмка, — дарэмна я кажу, што Рыгору цяжка расставацца з Сілцамі, ён не такі чалавек. Ён створаны не для Сілцоў, — жыццё адчыніла перад ім шырокую дарогу. Сілцы — то ж яны нам, прывязаным да загонаў, да сахі, а Рыгору — на ўсе чатыры бакі».

І Сёмку цешыла тое, што ён мае гэткага таварыша, як Рыгор, што ён такі блізкі к яму чалавек, так зжыты з ім на працягу доўгіх гадоў шчырага таварышкавання. Цешыўся і гардзіўся. І чым мацней разгаралася гэта пачуццё ў яго нутры, тым выразней прабівалася жаллівая спагада наконт яго ад’езду з Сілцоў. Сёмку напрашваліся пытанні — ці ўдасца, сапраўды, яшчэ калі-небудзь спаткацца ім, ці мо зложацца ўжо так умовы, што іх сённяшняе расстанне будзе астатнім і пахавае сабою ўсе багатыя ўспаміны аб разам пражытым мінулым.

«Усё можа здарыцца. Дык хоць цяпер успомніць пражытае, абгаварыць сёе-тое адзін на адзін».

І Сёмка рашыў перабіць Рыгоравы думкі.

— Ты ўсё, мабыць, Рыгор, знаходзішся дагэтуль пад уражаннем пражытага расстання?

Рыгор крыху памаўчаў, пасля цвёрда загаварыў:

— Не вельмі, ведаеш, каб гэта так глыбока. Ты сам разумееш, што ў Сілцах мне няма месца. Няма — ужо так прыйшлося. І я ні на што за гэта не сярдую. Але вось тут другая закавыка — гэта пытанне з мацераю. Адна, старая, бязмоцная. Ды…

— Яно, праўду кажучы, ты патрэбен для Сілцоў і паміма таго, што гэта цікава мацеры. Ты патрэбен нам для нашай арганізацыі. Паглядзі, у нас, бадай, няма гэткага чалавека, які б мог добра пакіраваць справаю. Ты пабыў у горадзе, пацёрся ў адпаведных колах і сумеў дасканала пазнаць, як і што ладзіць падобную працу. Бо што ж мы — Пятрусь ці я: таўкомся ўвесь час у гэтых Сілцах і ні з месца. Куды ж нам размахнуцца! З плугам, з касою — то і мы мэты, а ўжо да гаворкі, чаго ад нас пытаць. Гэтыя ж Якавы ды Сролі таксама недалёка ад нас адышлі… А ты — зусім інакшае. Паглядзі, пабыў у нас нейкі час, а колькі сілы нам уліў, колькі пасобіў у арганізацыйнай працы! А паедзеш, у нас зноў пацішае… Праўда, я ведаю, што там, у горадзе, табе больш размаху, і працы таксама больш, ды, пэўна, і працаваць

сярод рабочых куды цікавей, як з нашым мяшчанствам, але… і ў нас патрэбна праца мо яшчэ больш, як дзе… Скажы, браток, ці ты не задумоўваўся часамі аб гэтым?

— Чаму не задумоўваўся. Думаў, і многа думаў — толькі я ж кажу, за вошта мне ўчапіцца дома? Пасвіць каровы? Ці да Бэркі за балагола? Ці да Загуцкага ў двор за парабка? А ў горадзе я адчуваю сябе інакш. За год паспеў падвучыцца за слесара, пазнаўся і звыкся з умовамі заводскага жыцця… І цяпер як-ніяк, нягледзячы на маю ранейшую прывязчывасць да Сілцоў, цягне мяне ў горад хаценне як найглыбей пазнацца з яго жыццем, дастаць тыя веды, без якіх мы толькі напалавіну людзі, а напалавіну пакорлівыя нявольнікі… Не толькі жыць, а і змагацца, браток, трэба ўмець. А гэтаму трэба вучыцца. Вучыцца ж толькі і можна ў горадзе. Кніжка, лекцыя, тэатр, курсы — усё там ёсць, і абы ахвота — вучыся і вучыся. Ужо вось, пабыўшы каля двух гадоў у горадзе, я чую сябе зусім не тым Рыгорам, што спакойна выслухоўваў Бэркавы сваркі, што прыслухоўваўся да Глякоўскіх перасудаў. Я цяпер, дружышча, выпатрашыў з сэрца малейшыя адзнакі пакоры перад моцнымі, да каплі знішчыў веру ў мірнае паляпшэнне нашага жыцця і стаў заядлым, неўтамімым змаганнікам. Горад уліў у мяне гарт, сілу, а завод засталіў маё нутро… Мне нямерна падабаецца гарадскі шум, рух, натоўп раз'юшаных грамад…

— А нашых Сілцоў як і не было ўжо для цябе? Наведаўся раз, і больш — бывайце здаровы назаўсёды? — запытаў Сёмка.

— О, не! Я еду ў горад, каб вучыцца ў ім не для аднаго сябе.

## II

Сёмка з увагаю выслухаў Рыгора; яму цікавым было кожнае слова таварыша. Яго ўдумная, грунтоўная гутарка выяўляла перад Сёмкам незвычайнага чалавека, якому патрэбна вучыць, а не вучыцца. Сёмка ясна адчуваў, наколькі Рыгор вышэй яго ў ведах. І гэта яшчэ больш наварочвала яго сімпатыю да Рыгора. Тая спагада, што пракрадалася ў яго сэрца да таварыша, уступіла месца пачуццю радасці таму, што Рыгор выязджае з Сілцоў. «Сапраўды, — рашаў Сёмка, — што там зямля, лішні кавалачак яе! Што з таго, калі я маю нейкую гаспадарку: хату, палоску поля, каня, пару кароў? Неадгінна верцішся ў гразі, у пыле, рыешся, як крот, кладзеш сілы на працу, а ні прасветласці тае, а ні прыемнага скутку. Толькі адцягае цябе ад змагання, прывязвае да ўласнасці і атупляе пачуццё пратэсту, чыстату

пазываў. З Сілцоў — нікуды. А гэтыя Сілцы так і ацягаюць цябе ўніз, так і засосваюць цвілою будзёншчынаю. А Рыгор! Што яму? Свет адчынен ва ўсе бакі — мерай, лятай. І ён добра робіць, што настойна дамагаецца, каб больш свету пабачыць, каб чым больш навучыцца і стаць свядомым чалавекам. Шчаслівы, што мае рашучасць. Мне пакуль гэтага нестае».

— Ну, а скажы, Рыгор, — запытаў Сёмка таварыша, — ты там, у горадзе, ужо і блізкіх людзей маеш і дружбу вядзеш з імі, забываючы нас?

Рыгор усміхнуўся.

— Чаму не! Таварышаў лёгка ўсюды знайсці, тым болей у тых абставінах, якія аднолькова ўплываюць на людзей. Вось хоць бы завод узяць: тут ужо ўсе працаўнікі адной долі, аднаго багацця, адных умоў жыцця. Кожны жыве стукам молата, вёртам машыны, скрыгаценнем напільніка. Я, другі, дзясяты… Амаль роўныя заработкі ва ўсіх. Роўна, таксама, кожнаму свеціць праз мурзатыя вокны сонца, роўна дурманіць чад, роўна пыл і жалеза раз'ядаюць лёгкія. І трэба тры-чатыры дні, ну найбольш тыдзень, каб сысціся новаму чалавеку, каб пазнацца і стаць не толькі знаёмым, а таварышам ці сябрам. З розных канцоў людзі, якія мо і не думалі аб тым, што доля прывядзе іх спаткацца і стаць сябрамі… Цікава, браток. Я неяк хутчэй за другіх зжыўся з большасцю рабочых свайго завода. А да гэтага яшчэ партыйная справа, — і яшчэ больш новых людзей…

— Ты, вядома, таксама нясеш адпаведную працу ў арганізацыі? Цікава, ці многа ў вас людзей зарганізавана?

— Я ж табе казаў ужо, скора прыехаў: некалькі сот будзе. Ды, брат, хлопцы — адзін у другога. Я ўпаўнаважаным ад завода…

Слухаючы Рыгоравы апавяданні пра горад, Сёмка адчуў у нутры казлытнае жаданне — што, каб і яму пабываць у горадзе? Каб пачуць, як на гэта паглядзіць Рыгор, Сёмка запытаў:

— Слухай, Рыгор, а як бы ты паглядзеў, каб у адзін дзень, зусім нечакана для цябе, нібы прымха якая, шусь я к табе на кватэру і: «Добры дзень, Рыгор!»?..

— Што рабіў бы? — засмяяўся Рыгор. —Хутчэй бы самавар на стол, збегаў бы за паўбутэлькаю і закускаю і: «Сядай, Сёмка, нечаканы і неспадзяваны, але пажаданы мой госць».

— Так. Нечаканы і неспадзяваны. Вось у гэтым і ўвесь сэнс, што неспадзяваны. Скажы папраўдзе, Рыгор, ты, мабыць, зусім не спадзяешся, каб гэта магло стацца са мною, га?

— Што ты! Што ты гаворыш! Чым жа я лепшы ад цябе? Як і я, можаш ты кінуць усё, сесці на чыгунку і праз дзень у Рызе

ці дзе ў іншым горадзе. Нават табе гэта яшчэ лягчэй зрабіць, бо да чыгункі можаш на сваім кані даехаць.

— Ну, ты, Рыгор, не жартуй: я ўсур'ёз такі думаю аб гэтым, — штосьці падзадорыла Сёмку.

— Ніякіх жартаў. Будзь ласкаў. Я таксама ўсур'ёз кажу. І больш таго, нават раджу табе гэта зрабіць: нічога не згубіў бы, павер. Вярнуцца да зямлі, да тваёй гаспадаркі — кожны раз можна — не ўцячэ нікуды.

— Дык, па-твойму, мне пабываць у горадзе? — яшчэ раз запэўніўся ў шчырасці таварышавай парады Сёмка.

— Раджу, як свайму сябру.

Сёмка хапіўся за сотні ўз'юшаных думак і пытанняў і адказаў:

— Ну, дык і быць па сяму, чакай, гатуй стрэчу, запасайся гарэлкай, купляй самавар… З бацькам сваім я скора паладжу: ён у мяне чалавек уступны і разумее дзела. Абы якое пабочнае прыгоды не здарылася… Прыеду і табе ліст прывязу ад мацеры… а другі ад Зосі.

Рыгор сур'ёзна паглядзеў на Сёмку, нібы правяраючы яго словы. Яго ўзрок заставіў Сёмку аслабіць катэгарычнасць сваіх завярэнняў, і ён дадаў:

— Яно бы, па-мойму, — не толькі мне, а і многа каму з сілцоўскіх хлопцаў не шкодзіла б праветрыцца крыху за межамі свайго мястэчка. І калі, па-твойму, ад мяне аднаго была б карысць, то ад пяцёх ці дзесяцёх яе было б у некалькі разоў болей. Няпраўда мо?

Рыгор, было відаць, не спыніўся думкамі на Зосі ці ўмела затоіў іх у сваім нутры, бо з тым жа настроем адказаў Сёмку:

— Чаму няпраўда! Вядома, што так. А думаеш, Петрусю або Саўку не варта было б паехаць?

— Трэба, трэба. Добра разумею гэта.

Гутарку яны расцягнулі да цёмнага, і ўжо была ноч, калі яны ўехалі ў вёску Міжканаўе.

— Што за вёска мае быць? — запытаў Рыгор.

— Міжканаўе, пэўна. Знача, дванаццаць вёрст будзе, — няўверана адказаў Сёмка. — Трэ папытацца, вунь, здаецца, нейкія падводы ля студні стаяць.

Якраз пачуўся скрып вочапу і стук каванкі аб зруб студні. Следам заржаў конь. Рыгор паправіўся на сядзенні, якое растраслося і ссунулася наперад, і паглядзеў на гадзіннік. За цемнатою цяжка было разгледзець, колькі зараз часу. Рыгору паказалася, нібы гадзіннік стаіць на адзінаццатай гадзіне ці крыху болей. Але ён не ўдасканальваўся: яму было ўсё роўна, раней ці пазней

на гадзіну будуць яны ў Ліцку. Машына адыходзіць на Вільню а чацвёртай гадзіне раніцы, — значыць, яны паспеюць. А спаць на возе ніяк не прымосцішся. Ды, папраўдзе, Рыгору і не хацелася спаць. Свежыя ўражанні расстання, ціхая цёплая ноч, цікавая сяброўская гутарка з Сёмкам — адганялі ўсякі сон. Да гэтага, Рыгор быў прывычан начамі ў дарозе не спаць. Бывала, служачы балаголам, кожны тыдзень ён дзве-тры ночы праводзіў у дарозе, часта вейкаю не маргнуўшы. А заўсёды быў навярэджан, складаючы і накладаючы паклажу. Доўгія халодныя асеннія ночы, ночы зімнія — снег, завея — трэба было праз усю дарогу або сядзець на возе або ісці за возам пехам. А цяпер? Што і казаць — куды там да сну!

Рыгор разглядаў у змроку аднакія прыземістыя, абсаджаныя садкамі хаткі, студні траха не ля кожнае з іх. А калі Сёмка прыпыніў каня пры той самай студні, ля якой падводчыкі паілі коней, ён злез з воза і першым пачаў гутарку з падводчыкамі.

— Вы адкуль будзеце? — запытаў Рыгор аднаго з іх.

— Мы круглявецкія; на кірмашы былі ў Сталеве.

— Вялікі кірмаш быў?

— Добры кірмаш.

Падводчыкі запыталі ў Рыгора, каторая гадзіна, і, калі ён сказаў наўдагад, што ўжо за адзінаццаць перайшло, яны перагаварыліся між сабой і спешна ўселіся на вазы.

— Як дарога на Сілцы? — пагнаўшы коні, запыталі падводчыкі.

— Добрая, — адказаў Сёмка, — а ўперадзе як?

— Нічога, можна ехаць: падсохла. Дабранач!

— Дабранач!

Адна за адной трое хурманак загрукацелі ўсцяж вёскі.

— Вось хто жыве, — абярнуўся Сёмка да Рыгора, поячы каня, — галёкаюць па свеце і абманваюць людзей.

— Так, перакупства — самы непаважны занятак: займаздароў людзі траця часць, абманваючы даверных.

— Але згадзіся, Рыгор, што і на гэта трэба мець здольнасць. Гэта пракідкія хлопцы…

— Вядома: трэба набіць рукі і навярцець розум. Ёсць многа розных марнатраўцаў, якіх нам трэба карміць сваёю працаю: і тых, што намі кіруюць, і тых, хто нас абманвае, і тых, якія за нашу працу для іх нават людзьмі нас не лічаць. Шмат трэба перабудовы. Як ты думаеш, калі мы з гэтым управімся? Я думаю, што не так скора. Га?

Рыгор усміхнуўся.

— Вядома, што не так скора; трэба многа патуг, сілы і змагання палажыць.

— Ну, а як доўга яшчэ, па-твойму, працягнецца гэтак?

— Гэта цяжка сказаць, браток. Хочацца верыць, што не вельмі доўга.

— Не радуеш ты мяне, Рыгор. Значыць, праз усё наша жыццё так і будзем мы, як тыя валы, хадзіць у ярме: я па нікчэмнай палосцы зямлі, а ты ў чатырох мураваных сценах завода?

— Трэба, брат, настойней змагацца. Кожнаму — колькі сілы хопіць — варушыцца, бунтаваць…

Сёмка паматаў галавою і зацяжна прапяяў:

— О-о-хох-хо! Доўгая і сіберная песня!

Рыгор незадаволена адказаў:

— Точаць цябе чэрві някер'я. Дрэнна, Сёмка!

— Садзіся, паедзем, — перабіў яго Сёмка, павярнуўшы каня ад студні і прагукаўшы: — Но-о, малая! Яшчэ вёрст трынаццаць асталося!

## III

Некалькі часу хлопцы маўчалі, нібы прыслухоўваючыся да конскага тупату і стуку калёс. Пры гасцінцы, у прарытай канаўцы, крумкалі жабы, а зверху кідаўся рэдкі плакучы піск кані. Наўскасяк, управа, блішчаў агеньчык начлежнікаў.

— Значыць, яшчэ гадзін тры, і мы расстанемся з табою? — раптам выказаў Сёмка.

— Але. Што ж, нічога не парадзіш, прыходзіцца…

— Ты ўжо толькі, Рыгор… Но-о-о! Падбяжы-ы, на цябе ліха-а!.. Ты ўжо толькі, Рыгор, не забывай пісаць нам. Не шкадуй на гэта часу. Усё апішы: што стрэнеш прыехаўшы, як жыцьмеш, як будзе паводзіцца табе. Ты ж ведаеш, як дарага нам усё гэта. А мы ўжо адсюль будзем дасылаць табе карэспандэнцыі. Патрэбна цесная сувязь… Вось Слынскі ўзгорак — яшчэ дзве вярсты ззаду асталіся…

— Няйначай, буду пісаць, аба ўсім буду пісаць… а ты вось, браток Сёмка, не адкажы ўжо маёй мацеры, калі яна будзе прасіць цябе, каб ты пісаў ёй пісьмы… Хто ж, акром цябе, ёй гэта зробіць?

— Ай, ды навошта казаць: я пісаў тваёй мацеры дагэтуль і надалей буду пісаць. Гэта рэч няцяжкая; шкада адно, што больш важнейшай дапамогі не магу ёй зрабіць… ды то, прыйдзецца,

пасоблю і большым чым. Тут жа недалёк — кожны дзень бачымся. Так што, браток, аб гэтым не клапаціся.

— Вельмі дзякую табе.

Яны праехалі яшчэ з гадзіну часу; да Ліцка аставалася зусім нямнога; яго блізасць выразна напаміінала аб сабе. Спускаючыся з узгорка, на крутым павароце гасцінца, да іх данёсся рэзкі зацяжны свіст цягніка. За свістам пачуўся глухі лопат выпускаўшага пару паравоза. А калі гасцінец звярнуў улева, адразу паказаўся бляск пабляднеўшых ліхтароў; падымалася ўгору высокая цёмная вадакачка, нібы стараючыся падглядзець усход сонца.

Рыгор кінуў думаць, прыпадняўся на месцы і ўпёрыўся вачыма ў бок станцыі.

— Вось і прыязджаем, — з лёгкім хваляваннем выказаў ён.

— Сяк-так дабраліся: усяго чатыры вярсты асталося.

— Скора прыехалі.

— А чаго ж там! Каб паганялі каня, то прыехалі б яшчэ хутчэй.

— Няма чаго спяшацца; і так прыйдзецца яшчэ чакаць цягніка.

— Ну, супачынеш крыху; усё ж стаміўся як-ніяк за дарогу; гадзін з сем папатрасліся, нябось.

— Дзе там супакой той! Прыехаўшы ўжо супачыну… Ну, а ты, Сёмка, зараз жа і назад?

— Вядома, чаго ж бавіцца! Да гадзіны другой вярнуся, дык яшчэ ў мяне добры кусок дня ў запасе.

— Так… Пэўна… Дык вось, Сёмачка, — Рыгор патрапаў таварыша па плячы, — як толькі прыедзеш дадому, не забудзь забегчы да мае мацеры і сказаць, што мы заехалі добра… І суцеш яе там, хай не вельмі гаруе…

— Добра, добра… Усё выпаўню…

Яны параўняліся з карчмою, што стаяла недалёка ад Ліцка.

— Можа, хочаш перакусіць чаго ці выпіць шклянку гарбаты? — запытаў Сёмка Рыгора.

— Не, неахвота; можа, ты б хацеў?

Сёмка пацісну плячыма.

— Хто яго ведае, як тут быць.

— Дык давай заскочым; папытаем, калі пэўна ідзе машына, і як толькі ёсць у нашым распараджэнні якіх мінут пятнаццаць — дык і вып’ем гарбаты ды перакусім.

Сёмка прыпыніў каня і ўзбег на ганак старога, з уціснутымі ўнутр сценамі будынка, і пастукаў у дзверы.

Дзверы былі запёртымі.

— Спяць, мабыць, — сказаў Сёмка.

— Пастукай мацней: агонь жа свеціцца.

— Па звычаі агонь… Што ж, паедзем на станцыю і там знойдзем гэткага дабра, як гарбата.

— Ды вядома што.

Сёмка збег з ганка, улез на воз і пагнаў каня.

Ад карчмы пачыналася брукаваная дарога. Каля станцыі іх нагнала некалькі хурманак, якія таксама спяшылі на машыну. З кашалямі на руках, пакрытымі бруднымі хусткамі, заспаныя, ішлі туды ж сельскія жанчыны з булкамі і піражкамі. Усё гэта прыдавала ажыўленне, паказвала клапатлівасць, рух і ўплывала на хлопцаў нейкаю асабістаю руплівасцю, нязнанай і чужой мястэчку. Рыгор адразу аднавіў перад сабою дух і пэнт гарадскога жыцця, ужо добра вядомага яму; Сёмку ж гэта было нова і цікава, як новае. Далей Ліцка ён яшчэ не трапляў, і Ліцк кожны раз, калі б ён ні прыязджаў у яго, выклікаў асабліва рэзвы і жывы настрой, нейкі ўздым і бадзёрасць.

— Ведаеш, люблю я гэткае ажыўленне, як тут, — абярнуўся Сёмка да Рыгора, — каб і хацеў памарудзіць, дык нельга.

— Не па-сілцоўскаму; тут ужо горадам крыху папахвае.

— Ну, там, пэўна, у некалькі разоў усё гэта шумней і цікавей?

— Вядома што; тут маленькая, не вузлавая станцыя, а і то, як бачыш, усё так і рупіць, і рухае.

Гутарачы, яны ачуліся каля станцыі. Забруджаны гноем і саломаю вялікі каластанцыйны пляц выглядаў рынкам, на якім вось-вось хутка адчыніцца кірмаш. З правага боку ад садку станцыйных служачых, пры рэльсавых парэнчах у шэраг стаяла некалькі дзясяткаў сельскіх падвод і рамізніцкіх каламашак. Ля некаторых з іх стаялі падводчыкі — другія ж былі пустымі, без нікога. Сёмка пад’ехаў к бакавой падводзе з левага боку і спыніў каня.

— Точка, — праказаў ён да Рыгора і злез з воза.

Рыгор падняўся, атрос салому і таксама саскочыў на зямлю.

Да іх падбег з-пад станцыі насільшчык і запрапанаваў:

— Прыкажаце рэчы на станцыю ўнясці?

Рыгор пераглянуўся з Сёмкам і адказаў:

— Няма чаго нясці: самі справімся.

Насільшчык ухмыльнуўся, пастаяў з хвіліну і моўчкі адышоў.

— Ну, Сёмка, правядзі мяне на станцыю. Каня пакінь.

— Ды я думаю, што можна каня аставіць аднаго. Стаяць жа другія падводы.

— Папрасі каго з падводчыкаў паглядзець за тваім возам — спакайней будзе.

Сёмка заручыўся згодаю аднаго рамізніка, а сам з Рыгорам пайшоў на станцыю.

## IV

Невялікае мураванае памяшканне станцыі мела звычайны станцыям выгляд: пасярэдзіне будынка праходзіў калідор, разразаўшы яго надвое; направа ад калідора мясцілася багажня, скарбніца і невялічкі першы клас, а налева — другі і трэці класы. Рыгор з Сёмкам пайшлі направа, у першы клас, куды ішлі амаль не ўсе пасажыры. У каморцы, досі чыстай, пры расстаўленых двух ці трох сталах, на крэслах і пры сценах на лаўках сядзела дзясяткаў са тры пасажыраў; некаторыя з іх спалі, умайстраваўшыся пры сваіх клунках, другія проста драмалі, апусціўшы галовы, трэція спешна падсілкоўваліся гарбатаю. За багата ўстаўленым буфетам увіхаўся сярэдніх гадоў мужчына-буфетчык, шустры і рэзвы гандляр, відаць, добра набіўшы руку на гэтым рамясле. Раздаючы праданае з лоўкасцю мастака свае справы, буфетчык сярдзіта пакрыкваў раз-поразу на сваю пасобніцу, тоўстую, чырванатварую, непаваротную дзяўчыну-сялянку, падперазаную паласатым хвартухом, без хусткі, з разбэрханымі косамі, якая даглядала за вялікім паплеснявелым мурзатым самаварам. Дзяўчына моўчкі, паслушна адгіналася і баязліва пазірала на гаспадара.

Клапатліва, як нашароханыя, бегалі то з класа, то ў клас кандуктары з цьмянымі ліхтарчыкамі, тэлеграфісты з паперамі, дзве-тры дзяўчыны з канторы. За сцяною буфета звінеў тэлефон, а пры ім чыйсьці голас несціхана выкрыкваў: «Что-о? Говори-ите-э? Слушаю, я слушаю…» І звон тэлефона і крык пры ім раз-поразу перабіваў рэзкі свісток паравоза, які прабягаў між вокны станцыі і голасна свістаў, адгукваючыся на свісцёлкі стрэлачніка то ў адным, то ў другім канцы станцыі.

Рыгор з Сёмкам прыкмецілі пры адным стале два парожныя крэслы, падышлі і занялі іх.

— Ты пастой, Сёмка, а я куплю білет, — праказаў Рыгор і пабег да касы.

— Добра.

Сёмка не агледзеўся, як Рыгор вярнуўся назад.

— Цяпер можна перакусіць сяго-таго. Чаго б ты хацеў?

— Усё роўна: вазьмі гарбаты і каўбасы з хлебам.

Рыгор падышоў к буфету і прынёс усё тое, што Сёмка загадаў. Абодва хутка справіліся з гарбатай, і Рыгор прынёс яшчэ па шклянцы. Закусваючы, хлопцы маўчалі: Рыгор над нечым пільна раздумоўваў, угледзеўшыся ў шклянку, а Сёмка з вострай цікавасцю сачыў за станцыйным рухам. Ці ўваходзіў пасажыр, ці прабягаў чыгуначнік, ці раздаваўся смех, вокрык які, Сёмка адварочваўся, лавіў яго і адказваў настарожанасцю. І калі ён час ад часу ўспамінаў, што яму вось-вось прыйдзецца развітацца з Рыгорам і варочацца назад у Сілцы, яго ахоплівала непрыемнае пачуццё, вялікая неахвота варочацца аднаму. Сёмку прыкоўвала да сябе ўсё тое, што ён бачыў перад сабой на станцыі і што выглядала ў яго ваччу новым і прыемным. Вось узяць бы тых дваіх — кабету і мужчыну, — што прытуліліся адно да другога, седзячы на лаўцы, і соладка, апойна храпуць. Сёмка не разумеў іх нядбайнасці ды бесцікаўнасці да ўсяго і думаў аб сабе, што давядзіся б яму прабыць на станцыі хоць трое ночаў, ён і не ўздрамнуў бы нават: сядзеў бы і пільна сачыў за кожным рухам станцыйнага жыцця. А каб гэта яшчэ яму давялося паехаць куды чыгункаю! Як бы цікава было бачыць жыццё буйных вузлавых станцый, дзе, па словах Рыгора, людзі кішаць, як мурашкі ў мурашніку! І тая думка, што ўжо раз уставала перад ім у дарозе, калі ён прыглядаўся да пасажыраў, якія пакідалі свае месцы, як і Рыгор, і кудысьці з надворку спакойліва ад'язджалі, — думка паехаць у горад да Рыгора зноў выбілася наповерх, падгастрылася руплівасцю і засвідравала ўнутры. Ехаць… ды не то што пачакаўшы, пры добрым выпадку, а ехаць як найхутчэй, зараз, вось хоць бы разам з Рыгорам і з усімі гэтымі пасажырамі… ехаць — цягнула Сёмкаву істоту. Хоць бы некалькі часу пасапці новым паветрам, падзівіцца іншымі вобразамі, перамяніць елкія многагадовыя клопаты, шэрую аднакавасць земляробскай працы. Хоць бы некалькі часу, хоць бы на месяц, на другі адлучыцца, а то — глядзіш — праз якіх гадзін сем ізноў перад табою бедныя, прылепленыя да зямлі хаткі Сілцоў, пыльныя, загноеныя вуліцы, прагледжаныя наскрозь Хлоры, Прыдатныя, Крумкі, Гладышы ды іншыя пастаянцы мястэчка… «Не, цяпер я нядоўга ўтрымаюся дома, хай што хочуць робяць бацькі», — заключыў Сёмка.

А ў дзверы класа ўсё надыходзілі новыя і новыя пасажыры, мігаючыся між Сёмку. Вось прайшоў здаровы, паўнатвары, вусаты, у бразантовым халаце з каўпаком на адкідзе, багаты фальварковец-шляхціч, ці мо нябуйны памешчык; у руках

ён трымаў добры фібравы, шэрай хварбы куфэрак; увайшоў, агледзеў пахмурным суровым узрокам клас і прыпыніўся каля акна… Вось ускочыла, як напуджаная якая, тонкая, вяртлявая, затуленая густым тулем, з перавязанай праз плечы тоўстаю хусткаю, а ў руках з некалькімі сакваяжыкамі і парасонам не то мяшчанка, не то фальваркоўка. Вось важна перашагнуў парог нейкі казначэйскі чыноўнік у шырокай палярыне, з гостра паднятымі ўверх вусікамі важнага чыну, з гонарам, ведаючы сабе вартасць чалавек. За ім прайшла купаю сям'я — мужчына-гаспадар у палапленай крамнай жакетцы, у аблезлай шапцы, з дзіцём на руках і кабета-жонка, таксама бедна адзетая, з клункам старых манаткаў і з двума невялічкімі дзеткамі. Увайшлі, баязліва азірнуліся, як бы папаўшы не туды, куды б следавала ім, і бяспомачна спыніліся каля дзвярэй. Куды яны едуць? Чаму з дзецьмі? Такія бедныя з выгляду, што жаль рэжа сэрца. Ці на новае месца, ужо знойдзенае, ці мо шукаць яшчэ куска хлеба, папярэдне пераехаўшы ў другое месца? Цікава. Сёмка ажно падняўся з месца, каб пільней разглядзець твары гэтых людзей. Але яму гэта паказалася няёмка, і ён зноў прысеў… Прысеў і рашыў паказаць іх Рыгору; але толькі павярнуўся да яго, каб прагаварыць слова, як тут жа, збоку, угледзеў маладую пекную белакурую дзяўчыну, апранутую ў цёмнае да стану паліто, з таннаю пастэркаю на галаве. Яна сядзела бокам к сталу, трымаючы кашэлік на прыполе, і ўкрадкаю, наўскасяк пазірала на Рыгора. Сёмка ўпарта паглядзеў на дзяўчыну і ўлавіў у нарысе яе твару вялікае падабенства з Зосяю; тыя ж сінія валошкавыя вочы, сярэдні роўны лоб, прадаўгаваты нос, адпавядаючы гэткаму ж твару, чыстыя, з лёгкім ружам, шчокі, поўныя чырвоныя губы пекна выразанага нешырокага рота над прадоўжным падбародкам; той жа, заўсёды мілы, жывы, нестухаючы пераліў чуць прыкметнае, але палкае, цягучае, вабячае ўхмылкі. Уся постаць яе, як вымалеваная мастаком, выглядала лёгкай, паветранай; ад дзяўчыны нясло здароўем, жыццярадасцю. Сёмка міжвольна заглядаўся на яе, адцягваючыся думкамі ад усяго іншага, што хвілю назад цікавіла яго. Ён не мог адвярнуцца, не зважаючы на няёмкасць, якую, відаць было, адчувала незнаёмка, прыкмеціўшы ўпарты Сёмкаў узрок. І толькі калі дзяўчына адвярнулася ў другі бок, Сёмка апусціў вочы.

Брудная будзённая адзежа, у якой ён быў адзеты, запылены твар, вясковая прастата і непаваротнасць, якія выступілі перад ім, засаромілі Сёмку: ці не падмеціла толькі гэтага дзяўчына і, гледзячы на яго, ці не смяецца толькі ў нутры сваім?

Сёмка паглядзеў на Рыгора і чапіў яго за руку.

Той адвярнуўся на Сёмку.

— Зірні толькі, Рыгор, налева, — сказаў Сёмка на вуха таварышу, — вунь сядзіць Зося, точ у точ.

Рыгор крута павярнуў голаў і стрэўся з узрокам суседкі.

Яе падабенства на Зосю міжвольна кінулася яму ў вочы.

— А што? Мо няпраўда? — запытаў Сёмка.

— Праўда, настаяшчы дубальт, але, здаецца, куды прыгажэйшы, — адказаў Рыгор. — Цікава, куды яна едзе? Вось ды каб у мой бок!

— Запытай, — парадзіў Сёмка.

— Трэба, — згадзіўся Рыгор і павярнуўся да дзяўчыны.

Сёмка настаражыўся, і ўвесь — адна цікавасць — чакаў, як пойдзе гутарка між Рыгорам і незнаёмаю дзяўчынаю.

— Выбачайце, вы далёка едзеце? — далікатна, ціхім голасам запытаў Рыгор.

Дзяўчына здаволена ўсміхнулася і ахвотна, смела адказала:

— Да Рыгі. А вы куды? — Яна павярнулася к Рыгору.

— Я таксама туды, — паспяшыў паведаць Рыгор.

— Вы хлусіце, мабыць? — не паверыла дзяўчына.

— Чаму вы так думаеце? Я сур'ёзна кажу. Вельмі рад, што разам паедзем.

— Вы ўжо будзеце маім праважатым, — дасціпна запрапанавала дзяўчына.

— З вялікаю ахвотаю. Каб вы ехалі не ў Рыгу, дык і то я паехаў з вамі, — шчыра, не ўмеючы стаіць узнятага ў сабе пачуцця, сказаў Рыгор.

— Няўжо?

Сёмка тайком ухмыляўся, чуючы іх гутарку, і стрымоўваў гострае жаданне і самому ўставіць слова-другое. Але кожны момант, толькі парываўся расчыніць рот і выгаварыць што-кольвек, як нешта хапала яго за язык і ён змаўкаў.

Рыгор жа слова за словам развёў з дзяўчынаю гутарку. Ён забыў нават, што каля яго сядзіць Сёмка, занядбаў блізкай разлукай з ім і выпусціў з думак усё тое, што меўся напомніць яму пры расстанні. Павярнуўшыся да суседкі, Рыгор незмігутна глядзеў ёй у твар, цешыўся яго мілавіднасцю і, як воск ад агню, раставаў пад яе сапраўды пекным узрокам.

— Рыгор! — у кароткі перарыў між чарговым запытаннем дзяўчыны і Рыгоравым адказам пазваў Сёмка таварыша.

— Што? — не адварочваючыся, запытаў Рыгор.

— Я, браток, думаю ехаць. Ужо прайшло колькі часу. На дварэ зусім развіднелася. Ну, бывай здароў!

Рыгор штосьці прамовіў да незнаёмкі, падняўся з месца і пацалаваўся з Сёмкам.

— Не забывай, браце, пішы часцей, — яшчэ раз папрасіў Сёмка Рыгора і павярнуўся да дзвярэй.

— Гэта мой найлепшы таварыш, — паведаміў Рыгор незнаёмку, — выбачайце, я правяду яго на двор; мне трэба папрасіць ад яго адной рэчы.

Рыгор нагнаў Сёмку і выйшаў з ім з класа.

— Вітай ад мяне ўсіх: Зосю, Гэлю, Петруся, тваіх бацькоў… І не забудзь зайсці да мае маткі…

— Добра, добра, усё выпаўню… А ты, у свой чарод, не забудзь прыпісаць мне ў першым жа лісце, як і што ў цябе выйдзе з гэтаю дзяўчынаю. Красуня, на яе ліха. Ты ўжо не пакінеш, пэўна, яе праз усю дарогу? Толькі глядзі-ы, каб… — Сёмка не дасказаў, насмешліва пакачаўшы галавой. — Я бачу, ты вельмі скора ўліп у яе…

Рыгор здаволена ўсміхнуўся і нічога не адказаў.

— Ну, бывай здароў! Шчаслівай дарогі! — пажадаў Сёмка, яшчэ раз пацалаваўшыся з Рыгорам.

Той памахаў яму ўслед капелюшом, пастаяў з хвіліну і вярнуўся ў клас.

І толькі ён паспеў падысці к дзяўчыне, як сярод пасажыраў падняўся рух і бегатня. Усе ўзняліся з сваіх месцаў, хапіліся за клумкі і куфэркі і кінуліся к выйсцю на перон.

Пачуўся званок, абвяшчаючы падыход поезда.

## V

Рыгор са сваёю спадарожнай, не спяшаючы, выйшлі з класа, абгледзелі вагоны і накіраваліся ў другі ад заду. У вагоне было свабодна, і яны занялі ў першым ад выхада аддзяленні два месцы пры акне. Рэчы свае і дзяўчыны Рыгор гаспадарна ўладаваў на верхняй лаўцы, а сярэднія дзве прыназначыў пад спанне, павесіўшы на кручку з аднаго боку сваю жакетку, а на процілежным — дзяўчыніна паліто.

— Вось цяпер спакойна можам ехаць аж да самай Рыгі, — пацешыў ён новазнаёмую, — хочаце, пойдзем на перон на хвіліну-другую?

— Каб не спазніцца… Во, другі званок…

Яны ўсё ж падышлі к дзвярам вагона і агледзелі перон. На платформе кішэла народу: адны пёрліся са станцыі, спяшаючыся ў вагоны, другія на момант выскаквалі з вагонаў і мерыліся збегаць на станцыю ў буфет; трэція няслі ў руках розныя рэчы, купленыя ў буфеце. Папарна праходзілі сюды-туды ўсцяж будынка станцыі праважатыя і проста цікуны, што прыходзілі, нягледзячы на гэткую рань, да кожнага поезда на станцыю пагуляць і паглядзець на пасажыраў. Каля дзвярэй пры сцяне выдзялялася некалькі хвігур рамізнікаў, якія пільна сачылі за прыехаўшымі ў Ліцк. Як угарэлыя, бегалі ўзад ды ўперад насільшчыкі, парожныя і з паклажай у руках: некаторыя з воклічамі правозілі к багажнаму вагону пошту і варочаліся з тачкамі к багажнаму аддзяленню.

— Нічога цікаўнага; звычайна, як на станцыі, — вымавіла дзяўчына да Рыгора.

— Так, пойдзем на месца.

Пакуль яны стаялі ў дзвярах вагона, к ім падселі чатыры пасажыры: старая сялянка, сярэдніх гадоў мужчына, маладзіца — яго жонка — і пажылая кабета.

Усе з іх пазаймалі вольныя месцы, не пакушаючыся на тыя, што былі заняты Рыгорам са сваёй падарожнай.

— На нашы месцы ніхто не пасягаў? — запытаў Рыгор у старое сялянкі.

Тая пільным узрокам агледзела як Рыгора, так і яго новазнаёмую дзяўчыну, і ўверана адказала:

— Каб хто і пасягаў, то мы не дапусцілі б; раз месцы заняты, ужо не закон іх перахопліваць. Тут двое кабецін намерваліся сесці, але мы сказалі ім, што месцы заняты.

— Дзякуем вам, — падзякаваў Рыгор і следам прагаварыў да дзяўчыны: — Вы мо спаць хочаце?

— Не, на станцыі, прызнацца, троха і хацелася, а цяпер зусім не.

— А калі хочаце, то, будзьце ласкавы, — я вас з прыемнасцю павартую.

Прапануючы сваёй падарожніцы спаць, Рыгор зусім не хацеў, каб яна забралася на полку і спала, пакінуўшы яго аднаго сядзець; яму жадалася, каб дзяўчына сядзела перад ім, а ён глядзеў бы на яе. Рыгор і сам адчуваў цяжар дарогі і бяссоннай ночы, але крапіўся, змагаўся з утомай і млявасцю, адганяў дрымоту і казаўся вясёлым і бадзёрым…

Праз нейкі час яму захацелася праведаць імя дзяўчыны, каб ямчэй было з ёю абыходзіцца.

— Вось ужо колькі часу, як мы знаёмы, а яшчэ не ведаем нават, як кожны з нас завецца… Вы, мабыць, не маеце імя, прыгожая незнаёмка?

Лёгкі смех пакрыў яго дабротны твар. Дзяўчына таксама какетліва ўсміхнулася.

— Я-то з імем, ну, а вы, напэўна, без яго…

— Якое ж яно ў вас, цікава?

— А вам канечна хочацца ведаць?

— Хочацца… як вам сказаць; яно б і не шкодзіла.

— Калі так, то скажу: натапырвайце вушы, — дзяўчына ўголас засмяялася. — Ганнаю завуся я, падабаецца ці не?

— Гэтага я вам не скажу; за паведамленне ж дзякую… А маё імя — Рыгор. Рыцарскае троха?

— Вядома, не троха, а многа, — пажартавала Ганна.

— Ну, цяпер мы, думаю, трохі больш знаёмы: хоць можна па-людску звярнуцца адно да другога. Мо няпраўда… Ганна?

Апошнія словы Рыгор правёў ветлівым узрокам на Ганну. Тая адказала не менш мілым, нават прагавітым возіркам на Рыгора; яму паказалася, што сінія, пякучыя вочы яго знаёмай не дарылі яго дасюль гэткай ласкавасцю, як на гэты раз. Але, прыгледзеўшыся на Ганну, Рыгор заключыў, што яе мастацка-правільны, як намаляваны, мяккі твар, падкрашаны маладым, свежым ружам, пастаяннай бегатнёй рэзвых зайчыкаў непагрэшнае жывое ўхмылкі, што яе стройная, як вылітая, постаць, поўная жыцця і руху, не могуць не выкрываць салодкага кіпення яго палкага пачуцця. Рыгору не хацелася ўспамінаць — што толькі-толькі як ён развітаўся з Сёмкам і прасіў яго кланяцца ўсім і асабліва наведаць яго мацеру. Ён ужо быў заварожаны Ганнаю, якое ніколі дагэтуль не бачыў, якая выпадкова вынікла перад ім. Сядзеў і глядзеў ёй у твар, ёю зачараваны. Не чуў, ці стаіць цягнік, ці едзе; не бачыў, ці сядзіць хто каля іх, ці яны адны аднымі, не цікавіўся, што за акном вагона. Сядзеў і не мяняў позы, быццам вылепленая мастаком фігура.

Гэтая сабранасць усёй Рыгоравай істоты ў адным фокусе і жалезная сіла цвёрдасці, якую вылучаў ён на Ганну, прымушалі яе, маладую, чулую дзяўчыну, ахвотна карыцца Рыгору, нерухома, урачыста сядзець і пераліваць унутры, як рэчка хвалі, узбуранае пачуццё. Ганна, як бы ў аддзяку Рыгору — дар за дар, упарта ўзіралася ў яго белы твар, у шэрыя праназаватыя вочы, на высокі лоб, і, падобна Рыгору, абураная разгойданым пачуццём і навеянымі марамі, забывала, куды едзе, адкуль едзе, дзе была і што рабіла… Ні настаўнік Герасім, з якім яна два тыдні бегала

па бярозавым гайку, госцячы ў цёткі, ні Андрэй — паштавік у Рызе, з якім яна не адзін раз правяла шчаслівыя хвіліны — ніхто і нішто не ішло на думкі: Рыгор засланіў сабою ўсё.

## VI

Старэнькая бабулька, што сядзела поруч з Рыгорам, суцешна паглядала на іх, адобрана ківала галавою і сама сабе ўміляла. Не пакідалі без увагі Рыгора з Ганнаю і занятыя пільнай дзелавой гутаркай між сабою пасажыры — мужчына са сваёй кабетаю: час ад часу, не кідаючы гутаркі, адварочваліся яны к акну, азіралі з ног да галавы і Рыгора, і Ганну, вымаўлялі па іх адрасу пару слоў і пераходзілі да свае гутаркі. Цікавіліся імі і астатнія двое пасажыраў з іх аддзялення. Толькі бачыўшы за сваю службу на чыгунцы шмат чаго цікавага, заклапочаны кандуктар, параўняўшыся з іх аддзяленнем, бесцырымонна, не лічачыся ні з чым, прагукаў:

— Вашы білецікі!

— Дзе мы ўжо будзем? — запытала Ганна і паглядзела ў акно вагона.

— Зараз праведаем, — адказаў Рыгор, таксама выглянуўшы ў акно.

— Хутка Малажава, дзеткі, — умяшалася бабулька.

Рыгор з Ганнаю адхіліліся ад акна і зноў паселі на сваіх месцах.

— Малажава, кажаце? — перапытаў Рыгор.

— Але… А вам, дзеткі, куды трэба? Не ў Вільню часамі? — зацікавілася бабулька, задаволеная тым, што нарэшце знайшлася магчымасць адчыніць рот.

— О, не, цётачка, мы едзем далей… але па дарозе на Вільню.

— Далей! Яшчэ нават далей ад Вільні! О-ё-ёй! Ды мае ж вы дзеткі! Ды навошта ж вам так далёка забірацца ад дому? І ці вас бацькі спакойна адпусцілі ў гэтую даль?

Ганна ўкрадчыва пасмейвалася, гледзячы на бабульку. Рыгор спагадліва пазіраў на яе, гатовы і далей гутарыць з ёю.

— Ды што казаць аб дзецях, вось вы старая і таксама едзеце кудысьці, — уставіў ён.

— Так, можа, і так, — задаволеная тым, што з ёю ахвотна Рыгор гаворыць, казала яна далей, — жыццё гэткая рэч, што вымушае часта рабіць тое, чаго б і не хацеў. Ты кажаш, дзеткі, што я старая, а еду; мушу, родненькі, ехаць: забралі вось два гады таму назад сына ў салдаты і з таго часу не бачыла, не

пускаюць чамусьці на пабыўку; а паглядзець хочацца, як і што ён там маецца. Ды мне не вельмі далёка: маё месца вось зараз за Малажаваю, а з Ліцка я еду выпадкова — была там у гасцях у брата. Гадоў з дваццаць не бачыліся, дык як прыехаў надоечы — рады няма: прыстаў, каб я наведала яго. Вось я мусіла паехаць і прагасціць тыдзень; а зараз еду ад яго і проста, не злазячы, да сына. Вось брат даў крыху сала, каўбасак са тры, і я вязу. Мацерына сэрца, дзеткі, — як не наведаць роднага дзіцяці. Ён сын у нас вельмі паслушны і добры; заплакаліся, калі бралі ў салдаты. Але… хаця б вайны не было, а паслужыць-то хай сабе паслужыць. Год за годам і пройдуць гэты гадкоў тры. А, чаго добрага, узбурыцца вайна, тады ўжо, хто ведае, як яно выдзецца, ці давядзецца яму вярнуцца дамоў! А дома, бач, мы ўжо і дзяўчыну нагледзелі яму; прыгожая, як лялечка, Несцера Капыла дачка — вам ён невядомы, пэўна? Вось гэткая ружачка, як ты, мая котка…

Гутарачы, бабулька ўвесь час рухала на месцы, размахвала рукамі, палажыўшы пры сабе клунак, і старалася не спусціць вачэй ні з Рыгора, ні з Ганны. Завязаная пад бараду старая шаліновая хустка паціху з’ехала ў старое з галавы і агаліла сівыя рэдкія косы; бурнос яна расшпіліла сама, бо ў вагоне было душнавата. Відаць было па той шчырасці, якою бабулька справодзіла гутарку, што гаварыць для яе — вялікае здавальненне і што за сваё жыццё ёй нямала прыйшлося пашчабятаць.

Ганна з цікавасцю, з цёплым уміленнем сачыла за іх гутаркай.

Яе карціла жаданне як найхутчэй кончыць дарогу, выйсці з цеснага душнага вагона і ачуцца на вуліцы Рыгі, а там — або ў парку, або за горадам, на беразе шырокай Дзвіны, на ўзмор’і. Уставалі вобразы перажытых хвілін, калі яна часта з паштавіком Андрэем адпраўлялася на гулянкі на ўзмор’е ці на ўздзвінне. Музыка, месячныя ночы, лёгкія туманы, неагляднасць вадзяных прастораў затокі. Андрэй, вясёлы, рэзвы, услужны, безумоўна, закаханы ў яе. Гэта месяц таму назад… А цяпер? Не, цяпер яна не хацела б жыць з Андрэем. Рыгор зацьміў яго сабою. І Ганна ў самых дробязях пачала маляваць перад сабою вобразы надуманае стрэчы з Рыгорам у Рызе, стала выяўляць тое пачуццё, якое, безумоўна, захопіць яе, і тыя словы, якія павінны будуць казацца.

Чым глыбей удавалася яна ў думкі, тым з большай прагаю жадалася хутчэй ёй даехаць да месца. Пагнала б цягнік, каб магла, выскачыла б ды паляцела, каб не баялася. Што можа стацца за дарогу? А мо Рыгор толькі з першага ўзроку падараваў ёй

столькі ўвагі, а надалей астыне, зачарсцвее, адумаецца? У свеце так многа выпадковага! Мала з кім прыходзіцца ў дарозе стрэцца ды пагаварыць! Але што ж з гэтага? Выйшаў з вагона — выпусціў з памяці. «Ці ж не можа таго стацца між мною і Рыгорам? Хто знае, што крыецца ўнутры гэтага чалавека? Ён гаворыць са мною, уважліў да мяне, як уважліў да гэтае бабулькі. Пад'едзем к Вільні — бабулька злезе і ніякага следу не пакіне па сабе. На яе месца сядзе другая, трэцяя, а мо і… дзяўчына. Скажа да Рыгора слова, кране яго за сэрца ласкавай ухмылкаю — а гараджанкі ўмеюць гэта, — і ён заварожыцца, пакінуўшы мяне. Гой, не было б толькі таго!»

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### I

Быў позні вечар, калі яны прыехалі ў Рыгу. Вакзал тануў у празрыстых агнях электрыкі. Сотні разубранай публікі швэндалася па прасторным пероне ўзад ды ўперад. Сапло гарадской нервовасцю, рухам і заклапочанасцю.

Толькі Рыгор з Ганнаю выйшлі з вагона, як іх зразу абдаў цяжкі, злітны ў адзін тон, прыгнятаючы гуд. Панясло спёртаю духатою і нейкім удушлівым смуродам. Рыгор паспрабаваў загаварыць к Ганне, але выказанае ім слова раптам заглухла. Яны маўкліва ў гушчы пасажыраў выйшлі праз вакзал на вуліцу, адышлі к боку і прыпыніліся: трэ было абмяняцца планамі, як і што ехаць на кватэру і калі ды дзе стрэцца. Але толькі яны сталі, як тут жа падбеглі да іх двое чалавек — рамізнік і пасыльны з гатэля — і пачалі набівацца з прапазіцыямі.

— Я адвязу куды трэба, — некалькі разоў засаб пераказаў рамізнік.

— Можа, нумарок панам трэба? У нас чысценькая, ціхая гасцініца. Зусім нядорага.

— Не, не, мы нікуды не паедзем, — адказваўся Рыгор, і, калі яго не слухалі, ён кінуў аднеквацца.

— Табе куды ехаць? — абярнуўся Рыгор да Ганны на ты і сумеўся. Але Ганна прыняла яго фамільярнасць за звычайнасць і не звярнула на яе жаднае ўвагі, сама перайшоўшы на абыходжанне ў першай асобе.

— Тройкаю, — адказала Ганна, — а ты як паедзеш?

— Я направа… Вось табе мой адрас.

Рыгор падаў Ганне картульку, хочучы яшчэ штосьці сказаць ёй, але раптам з-за вугла паштовага будынка паказаўся трамвай.

— Ну, вось, садзіся ды паедзеш.

Ганна падалася наперад. Грамада людзей, што чакала трамвая, зарухала, замітусілася і напёрла к рэйкам; Рыгор трымаўся Ганны, супыняючы натоўп.

— Дык заўтра вечарам?

— Непрыменна! — кінула Ганна.

— Я цябе чакаю.

— Толькі не схлусі, а то…

— Ну, што ты, сапраўды, сумняваешся… Ці мо назнарок?

Ганна не паспела адказаць: падаспеўшы трамвай перабіў яе намер. Замітусіўшыся, яна, як стаяла ўперадзе, так разам кінулася на заднюю падножку пярэдняга вагона; Рыгор пасобіў ёй падняцца і хутка быў адціснуты натоўпам назад. Тады ён адышоў убок і паглядзеў у акно, але Ганна яго не прыкмеціла. Перад ім замігалі аўтамабілі, несканчоным шэрагам зашнуравалі пешаходы, загрукаталі цяжкія вазы рамізнікаў; зараз прайшло некалькі вагонаў трамвая пятага і шостага нумароў; вакола бегалі газетчыкі і выкрыквалі назвы газет, таўхаліся хлапчукі з папяросамі ў скрыначках; крадучыся і саромеючыся, нясмела падышла старэнькая бабулька і папрасіла ахвяры.

Увесь пляц варушыўся і мігацеў, прымаючы нейкі цудоўны выгляд пад белым святлом электрычных ліхтароў. У ценях Верманаўскага парку раздаваўся смех і згушчаны тупат гуляўшых. Здалёк, з Задзвіння ды з іншых канцоў горада, даносіліся разназычныя гудкі.

У іх аркестры Рыгор падлавіў знаёмы яму гудок з свайго завода. Адметны ад другіх, басісты, хрыплаваты, ён пралез у Рыгорава нутро і разліў у ім джаролца дбайнай будзёншчыны. Побач з гэтым узняліся ў яго галаве рупныя думкі аб заўтрашнім ранні, калі гэты самы гудок праб'ецца праз акно яго каморкі, падніме з пасцелі і пагоніць на завод. Перад ад'ездам на пабыўку думалася: мала што можа трапіццца за столькі часу! І завод пакідаўся безуважна, як быццам гінуў з яго вачэй. Але час, праведзены за межамі завода, прамігнуў, як маланка, нічога не змяніўшы ў Рыгоравым жыцці. Цяпер жа ён зноў вярнуўся назад, у той жа горад, да таго ж завода. І толькі адна ноч аддзяляе ад духаты і пылу, ад разгойданага гудзення і гострага вока майстра. Але ўжо праз колькі хвілін яго ахапілі зусім іншыя раздумы, іншае хаценне; гостра закарцела, каб хутчэй паказаўся яго трамвай, каб раней папасці дадому, запёрціся ў сваёй каморцы і

аднаму ў ёй грунтоўна пераглядзець перажытыя за час пабыўкі ўражанні. Трэба ж абмеркаваць усё, перадумаць, пераацаніць і ведаць, як і што пакіравацца далей. Ад нецярплівасці Рыгор не мог спакойліва стаяць на адным месцы.

Нарэшце паказаўся яго нумар трамвая. Рыгор спрытна схапіў рэчы і ўзлез на заднюю пляцоўку задняга вагона, прытуліўся да сценкі і задаволена ўздыхнуў.

II

Праз гадзіну Рыгор быў дома, у сваёй каморцы, якая сустрэла яго гэткай жа, ні на каліва нязменнай, якой ён яе аставіў. Стаялі ні на крок не перастаўленымі тры крэслы: адно — каля невялічкага століка ў правым кутку, адно — каля надворнае сцяны, трэцяе — каля тыльнае; стары паўаблезлы ложак, засланы паношанаю коўдраю, з невялічкаю падушкаю на ёй — выглядаў прыросшым; вісела некалькі фотатыпных і літаграфскіх малюнкаў, адцісненых з вобразаў мастака Айвазоўскага, запыленых і аблезлых ад сонца. Тулілася ў правым кутку ад увахода невялічкая шафа, а супроць яе, у другім кутку, умывальнік. На століку ляжалі ў тым жа парадку, у якім іх пакінуў Рыгор, два невысокія стосікі кніжак і між іх некалькі сшыткаў паперы.

Спёртае, душнае паветра абдало Рыгора, і ён паспяшыў адчыніць акно; сеў і заглядзеўся на двор. З-за сцен будынкаў бурліваю хваляю даносіўся да яго заціхаючы гарадскі шолам; праменне ліхтароў асвятляла цёмнае неба і перакідалася на двор. Цёплая пагода, напаліўшы днём каменне бруку і сцены муроў, зараз павявала душным паветрам, якое ні каліва не астуджвала Рыгора.

Адпачыўшы крыху, Рыгор падняўся з крэсла і пачаў тупаць па пакоі. Міжвольна паўсталі думкі — ціша і адзінокасць патваралі ім, — і Рыгор аддаўся раздумам. Выразна, як у кінематографе, адзін за другім, пачалі прамігаць нядаўна перажытыя ім моманты. Вось Сілцы, хатка, маці, таварышы, цёплая стрэча з імі, інфармаванне аб прыватным жыцці, гулянкі. А далей — спатканне з Зосяю, хвойнік, зелень і, нарэшце, перад ад’ездам, спатканне пры сценцы, за ворывам, дзе ён пачуў ад Зосі пякучыя словы: «Бяры ад мяне — што ты хочаш…» На гэтым моманце Рыгор панатужыўся перапыніць успамінкі. Яму пасобіла работніца гаспадыні кватэры, Вільгельміна, якая раптам прачыніла да яго дзверы і запытала:

— Можа, вам гарбаты падагрэць, Рыгор?

— Калі вам не трудна, — згадзіўся ён.

Вільгельміна дабрадушна ўсміхнулася і выйшла з пакоя. Рыгор падышоў к акну і паглядзеў на двор. І нібы знарок хтось накіраваў яго думкі да Ганны. «Што яна робіць цяпер? Цікавая, аднак, дзяўчына! І трэба ж было мне з ёю спаткацца».

Зося, нядаўна паўстаўшы ў яго выабражэнні, раптам сышла з памяці, затуліўшыся вобразам Ганны. Рыгор пачаў перабіраць усе падрабязгі стрэчы і знаёмства з ёю, а далей перайшоў да абдумоўвання наступнага спаткання. Але якім чынам? Рыгор тут жа памкнуўся ўспомніць перш вуліцу, на якой Ганна жыве, а пасля дом; паглядзеў на гадзіннік, раздумаў і нарэшце астаўся пры рашэнні пачакаць да заўтрага, не пакідаючы хацець ды спадзявацца, а мо надасць ёй прыйсці яшчэ і сягоння.

Раздумоўваючы, Рыгор стаяў непарушна і сачыў у адно месца, як завароажаны. Яго крануў рэзкі выгук песні і адначасна музыкі на фартэп'яне, раптоўна вылецеўшы з прачыненага акна суседняе кватэры. Малады зычны альт выводзіў пявучыя мелодыі арыі Антака з оперы «Галька». Рыгору стала прыемна слухаць мілагучныя ноты ў голасе маладое жанчыны; яны праходзілі ў яго нутро, хапалі за самыя каразлівыя мясціны і настройвалі на рэзвыя вясёлыя перажыванні, на новыя ўспаміны. Нез'яснёная сіла, заложаная ў зыках музыкі Манюшкі, да таго была прыемнай для яго, да таго завабнай, што ён літаральна ўбіраў у сябе кожны перабой, кожны адценак яе вібрацый. Яму хацелася б слухаць і слухаць бясконца і так жа бясконца хваляваццa, дрыжаць, калаціцца на хвалях салодкіх перажыванняў.

Аддаўшыся гукам музыкі, Рыгор як быццам бы патануў у іх. Для яго было зусім неспадзяваным асцярожнае ўвойсце ў каморку Вільгельміны з прыгатаванай гарбатаю.

— Дазвольце? — запытала яна, падыходзячы к сталу.

Рыгор машынальна сарваўся з месца, зрабіў некалькі крокаў ад акна і здзіўлена спыніўся перад Вільгельмінаю.

— Уваходзьце! — смяшліва праказаў ён.

— Прачакаліся, пэўна? Ведаеце, пакуль увіхнешся з іх вячэраю, дык гатова адурэць: кожную рэч трэба запытаць, аб усім парадзіцца; гэта ж такія паны, што не дай ты рады… А скупікі — дык наўздзіў…

Вільгельміна асцярожна паставіла гарбату на стале; паправіла абрус і прымайстравала крэсла.

— Піце, пакуль гарачая, — запрапанавала яна.

— Дзякую, — праказаў Рыгор і прыняўся за гарбату.

Аб Вільгельміне ён тут жа забыў, хапіўшыся перарваных ёю думак. Але работніца не ўважала на гэта і, абапёршыся на спінку ложка, пачала сачыць за Рыгорам: ёй хацелася пагутарыць з ім, аб сім, аб тым распытаць.

— А тая ўсё грае, на яе цураха, — пачала гаворку Вільгельміна.

Рыгор паспешна адвярнуўся ад стала і паглядзеў на служанку здзіўленым узрокам, нібы сказаўшы: «А ты яшчэ тут?»

Вільгельміна на момант замаўчала, пасля перамяніла стаянку, папраўілася на нагах і ўжо смялей павяла гутарку далей.

— І не надаесць кожны вечар трумкаць! Проста увушшу звініць ад гэтага фартэп'яна. Праз цэлы месяц адно і тое. Ліха іх ведае, пэўна, няма чаго людзям рабіць. Вось граюць, пяюць, нараджаюцца — і толькі… А ты працуй на іх век, прасветлае мінуты не бачачы; бегаеш, таўчэшся за якіх-небудзь няшчасных восем рублёў у месяц, і яшчэ колькі ўшчункаў ды папрокаў атрымаеш. — Вільгельміна колькі мінут памаўчала. — А можа, я вам перашкаджаю?

— Не, нічога, калі ласка, — суха адказаў Рыгор.

Работніца павярнулася і пайшла з пакоя, але ў дзвярах, прачыніўшы іх, спынілася і запытала:

— А вы заўтра пойдзеце на завод?

— Абавязкова, Вільгельміна, пайду.

— Дык я вас абуджу, калі хочаце?

— Вельмі прашу, буду дзякаваць.

У калідоры пачуўся званок.

— Хто ж бы там быў? — здзівілася Вільгельміна і, не зачыніўшы дзвярэй, выбегла з Рыгоравага пакоя.

Рыгор зачыніў за ёю дзверы, матнуў галавою па адрасу работніцы і паглядзеў на гадзіннік. «Ужо другая гадзіна», — не то здзівіўся, не то проста праказаў ён.

На дварэ ўжо было ціха, толькі рэдкія глухія гукі даходзілі дзесь з-пад вакзала, роўна заміраючы ў сценах двара: у суседніх вокнах патухлі агні. Рыгор крыху пастаяў каля акна, пасля прычыніў яго, занавесіў фіранку і пачаў збірацца спаць.

## III

Пасля ўсяго перажытага і перадуманага ў звязку з дарогаю Рыгор спаў, нібы апоены макам. Толькі лёг, як праз момант заснуў, не паспеўшы нават перавярнуцца на другі бок, як то ў яго было звычайна, і на адным баку праспаў да раніцы. Праспаў бы,

напэўна, без просыпу да гадзіны дванаццатай дня, каб акуратная Вільгельміна роўна а палове сёмай не пастукала ў дзверы. Рыгор ад стуку прачнуўся, падняў голаў і паглядзеў у акно; але спрасонку, не прыгледзеўшыся, яму паказалася занадта рана, першае развідненне, і ён зноў прылёг, нацягнуўшы на галаву коўдру. Несвядома прамігнула гарачае прыемнае пачуццё, якое яму шапнула: «Пачакай, паспееш яшчэ напрацавацца», — і следам безадгукнае парашэнне, — не ісці на работу да заўтрага. Заспакоены, ён хутка заснуў, глыбока і смачна.

У кватэры было ціха, нішто не перашкаджала спаць, і ён беспаварухна праспаў ажно да дванаццатае гадзіны дня. Гэтага было досыць, каб уволю выспацца, каб супачыць. І Рыгор прачнуўся бадзёрым, свежым. Падняўся з пасцелі і ў адной бялізне прайшоў па пакоі. Пакой выглядаў нейкім нарадным і вясёлым, як ні разу да гэтага. Жывымі здаваліся карцінкі на сценах, учора смутныя, запыленыя, выглядала пачышчанаю мэбля. Ён падышоў да акна, адшмаргнуў фіранку, прачыніў яго і глыбокімі дыхамі пацягнуў надворнага паветра і сонечнага святла. Стала яшчэ бадзёрай, як бы хто ўпусціў у яго цела жыццядаўчы эліксір. Рыгор сціснуў кулакі, прарабіў гімнастычныя махі і раптоўна, адбегшыся ад акна, прыняўся адзявацца. Аб заводзе не хацелася і думаць; наогул, ён цяпер жыў пачуццём, а не думкамі: цягнула да сну — ён спаў, захацелася адзявацца, пасля ўмывацца — ён прыняўся за гэта. Толькі тады, калі ўжо адзеўся і разоў з дзясятак прайшоўся па пакоі, завярцелася думка і паднялася свядомасць, якая падказала яму намаляваць цэлы план сённяшняга дня. З гатовым планам Рыгор і выйшаў а першай гадзіне на вуліцу.

На вуліцы было душна: сонца паліла, не шкадуючы, і да таго нагрэла брук, цэглу дамоў і асфальт тратуараў, што ад іх нясло, як з печы. Цяжка было сапці і не хапала паветра, каб задаволіць прасмаглыя грудзі. Рыгор перайшоў на ценявы бок вуліцы і памаленьку прайшоў да знаёмае кавярні, дзе ён заўсёды снедаў. У кавярні, куды ён завярнуў, было шмат халадней і прыемней. Але чамусьці ў ёй было зусім нямнога людзей. За адным столікам, каля буфета, сядзеў нейкі сярэдніх гадоў мужчына за бутэлькаю сельтарскае вады, а насупроціў, у кутку — двое дзяўчат, значна падбеленых пудраю, у памятых капотах. Яны паглядзелі на Рыгора пры ўваходзе ў кавярню і раз-поразу кідалі на яго бессаромныя ўзрокі. За буфетам сядзела знаёмая яму буфетчыца, сімпатычная дзяўчына, трымаючы ў руках кніжку. Рыгор папрасіў сабе шклянку гарбаты, французскую булку і

чвэртку каўбасы, спакойліва, не спяшаючы, паснедаў і, даўшы «бывайце здаровы» буфетчыцы, выйшаў.

Нягледзячы на духату, на вуліцы кішмя кіпела жыццё: шнурком беглі тратуарамі ў адзін і ў другі бок людзі, клапатлівыя, не маючы вольнае хвілінкі, з партфелямі, з палачкамі, з папкамі. Сярэдзінай, па бруку, шмыгалі самакаты, гуськом цягнуліся ламавікі, на перадках, запрэгшыся, як жывёла, плішчыліся ручныя перавозчыкі паклажы, спрытна вывіваліся сярод іх веласіпедысты. На рагах вуліц, пры ліхтарах, а то на падаконніках магазінных вокан стаялі і сядзелі чорныя забруджаныя грузіны, ваксоўшчыкі абутку і ўперамешку чырвонагаловыя пасыльныя. Ім, пэўна, не было душна ад сонца, загартаваўшага іх загарэлыя твары і прагрэўшага да апошняе жылкі іх вытрывалыя постаці; таксама яны былі прывыклымі ўжо і да смуроднага пылу, які згушчаў сабой паветра і прасочваўся дыханнем у лёгкія. Характар работы прывучыў іх да вулічнага шуму, да нервовага гарадскога руху: хай сабе пячэ сонца, хай падымаюцца слупы пылу, а ім трэба стаяць на сваім месцы і чакаць, зазіраючы ў вочы прахожым, пакуль каторы з іх працягне чаравік або даручыць занясці пакет. Гэтакіх усё ж трапляецца нейкая лічба — і іх умела пазнаюць і пасыльныя, і ваксоўшчыкі абутку. Глядзіш — то адзін, то другі на вачах вядуць сваю справу. Таго ж чыну і таварышы іх — газетчыкі: на кожным рагу вуліцы сустрачалі яны Рыгора, прапануючы навязчыва сталічныя і мясцовыя газеты. Многія з прахожых з зайздросцю пазіралі ў вялікія, чыста выцертыя шыбы, магазіны, косячы вачыма або на хвілю-другую супыняючыся пры акне.

Прамінуўшы некалькі вуліц і перавулкаў, Рыгор нарэшце апынуўся на Узбярэжнай.

З Дзвіны нясло прыемным халадком і водгукам самавітага рэчнага жыцця. Нягледзячы на ціхую пагоду, Дзвіна паважна ганяла шэрагі невысокіх рэзвых хваль. У іх пералівах прыгожа гулялі празрыстыя пасмы прамення, зацяняючыся ў спадзе і асвятляючыся на спінках хібкоў. Дробныя пырскі вады блішчастым галёнам рассыпаліся над вадою, як бы хапаючы сонечнае святло і ўносячы яго ў халодныя глыбіні вады. Кожны сувой хваль вачавідкі вынікаў пасярэдзіне рэчкі, паціху раскалыхваўся і па раз намечанай дарозе накіроўваўся касяком к гранітным берагам. Дайшоўшы да берага, шлёпаўся ў яго і разбіваўся, уступаючы месца новаму валу. У тых месцах, дзе прарэзвалі Дзвіну параходзікі і параходы, уздымаўся скрутак вады, калыхаўся з напружанай сілай і ў выглядзе казачнага чудзішча нёсся за сваім

радзімцам-параходам. На спатканне ім з розных канцоў спяшылі рэзвыя чаўнакі, гострымі лычамі ўзбіраючыся на высокія хібы і строма спадаючы з іх. З шырокіх памостаў, якія складаліся з процьмы плытоў, разносіліся над рэчкаю рэзвыя выгукі і смех плытнікаў.

Рыгор на нейкі час прыпыніўся на беразе, паглядзеў ва ўсе бакі Дзвіны і паціху рушыў налева, у бок завода, які агромністым зданнем высіўся над вадою рэчкі, паднімаючы свае коміны на ўзровень вострых шпіцаў высокіх кірхаў. Чорныя згусты атрутнага смуродлівага дыму камякамі вырываліся з шырокіх лёх каміноў і брудным шляхам прасціраліся над дахамі дамоў і над чыстаю вадою Дзвіны. Час ад часу Рыгор адрываўся і вачыма, і думкамі ад прастораў рэчкі і пераносіўся да заводскіх карпусоў. Перад ім выразна вымалёўваўся рэзкі кантраст між вольным размахам вадзяной стыхіі і абмяжованым сцісклым, прыдушаным тоўстымі сценамі, заводскім рухам.

Чым бліжай ён падыходзіў к заводу, тым паўней выдавалася яго жыццё, злітае ў магутныя стукі малатоў, у бразг жалеза, у свіст і траскатню паравікоў. Медны імпэт яго, прамагнічаны нейкай крэпкай сілаю прыцягнення, захопліваў Рыгора цалкам, як вір, укручваў яго сабою і ачула цягнуў у завод. Помеж з жалезнаю сілаю яму хутка пачалі чуцца ў яго стуку і бразгу прыемныя ноткі знаёмай музыкі, якія ўскаралі яго хаду, утуравалі цвёрдаму ступу ног і паважнаму цюканню сэрца. Думкі як быццам бы аддзяліліся ад кіраўнічага цэнтра і перадаваліся ва ўладу гэтай музыцы.

## IV

Рыгор падышоў да заводскага тыну з высокіх, падвостраных уверсе дошчак і, у дадатак, убранага калючым дротам, агледзеў яго ўсцяж і ўверх і накіраваў да брамы. Цяжкія жалезныя вароты, ухарошаныя рысункамі і дзвюма галовамі льва з чыгуннага ліцця свайго вырабу, стаялі надзейным вартаўнікам ад уваходу пастаронніх людзей; аднак, нягледзячы на гэта, на шуле брамы выглядаў выразаны з медзі надпіс:

«Пастаронnім уваход забараняецца».

Рыгор адняў вочы ад жалезных варот і абярнуўся да бакавых варотцаў з маленькім акенцам, праз каторыя звычайна ўваходзілі ў завод рабочыя. З боку гэтых варотцаў, пры тыне, які ўгінаўся на гэтым месцы, стаяла невялічкая двухмясцовая лаўка. «Ці ісці, ці не?» — усумніўся Рыгор і нават адступіўся некалькі крокаў

ад брамы, вырашаючы. Да гэтага моманту, праз усю дарогу, яму не давялося паставіць перад сабою гэта пытанне, і зараз для яго было яно нечаканым. Але, абдумаўшы і ўзважыўшы яго, ён рашыў пайсці ў кантору і заявіцца аб звароце з пабыўкі.

Падышоўшы к варотцам, Рыгор крануў за ручку і забразгаў. Мігам з акенца пачуўся голас:

— Хто там? Чаго трэба?..

Рыгор паглядзеў у акенца варотцаў і ўгледзеў у ім маршчыністы, худы, аброслы рэдкаю бародкаю твар стоража завода — старога латыша Караля.

— А, гэта ты, Нязвычны? Ужо вярнуўся з пабыўкі?

— Як бачыш.

Караль за доўгую службу на заводзе паспеў налаўчыцца добра памятаваць у твар, а то і па прозвішчы, амаль не кожнага рабочага. Трэба было яму раз-другі ўгледзець любога навічка, пачуць яго імя ці прозвішча, як ужо Караль памятаў. З некаторымі рабочымі ён блізка знаёміўся, суседкаваў і кожны раз пры стрэчы з імі кідаўся ў гутарку, стараўся ладзіць у абыходжанні, услужваць, дзе і калі трэба. У ліку апошніх быў Рыгор. Караль хутка асвойтаўся з ім, палюбіў яго і адносіўся да яго з пашанаю. У выпадках, калі Рыгор пазніўся на работу, а дошка з нумарамі рабочых замыкалася, Караль прапускаў яго, браў сабе нумар і цішком падвешваў на дошку. Яму было вядома, калі Рыгор адбыў з завода ў пабыўку, на колькі яму гэта пабыўка дадзена і калі яна скончыцца. Пры ад'ездзе Караль шчыра развітаўся з Рыгорам і надзяліў яго багатымі пажаданнямі на дарогу.

Угледзеўшы Рыгора зараз, ён хутка адчыніў варотцы і выйшаў на вуліцу.

— Глядзі, як хутка прамінулася твая пабыўка, — з нейкаю спагадаю праказаў сторож.

— І не ўгледзеў нават, — адказаў Рыгор, — заўтра вось зноў на завод, зноў за напільнік ды молат.

— Ой, бяжыць, дзеткі, час, бяжыць з ім і наша жыццё, — заматаў галавой Караль, забыўшыся пра завод і непрычыненыя варотцы, — ці ў дабры жыве чалавек, ці паганае яго жыццё, з аднакавым рухам яно нясецца. Вось так і весь век прамігне — азірнуцца не паспееш, як апынішся на парозе магілы. Ці даўно я астаўся на гэты завод, а глядзі — хутка пятнаццаць год міне, як я на ім служу. А ўсё, што прыйшлося пабачыць і пачуць, як маланка блiснула — бліснула і згасла назаўсёды… Так, так, не перайначыць ужо людзям гэтага: як напісалася спакон веку, дык і ідзе адным, роўным простым шляхам, няўхільна, непаваротна…

Што ж — няхай ідзе! Ці няпраўда?.. Давай, паведай хіба, як і што ты пражыў удому. Нябось, там у вас, пэўна, і край зусім інакшы, і людзі іншыя… У многіх месцах быў, а там не давялося быць ні разу… Радавалася, вядома, матка твайму прыезду, га? Два гады ці болей не быў удому, ды дзіва, што ўзрадуецца! Эх, дзеткі, яшчэ б не радавацца! Столькі турбацыі пакладаецца бацькамі пры вашым выгадаванні, столькі пакуты пераносіцца, пакуль вас у людзі вывесці, а выведзеш у людзі, паставіш, як той казаў, на ногі — дык і бывай здароў дом і бацькі. Я ведаю, сынок, гэта, добра ведаю; на сабе пераЖЫЎ… Што ж зробіш з вамі, ветраноснымі! Толькі ўспадзе вам у галаў якая думка: на ўстрэм вачч у несяцёся вы з ёю ў туманную далечыню. Ці ж можна вас утрымаць! Так і вырываецеся з рук, як распуджаныя жарабяты, толькі боль паплыве па бацькаўскім сэрцы да горнасць сціснe асірацелую душу… Пэўна, думаю, маці твая не песні пяяла, калі праводзіла цябе назад у Рыгу, га? Раўчаком, нябось, ліліся слёзы з вачэй старое, цягнуліся рукі за табою, ды што ж, за фалды не ўчэпішся! Едзеш — едзь, яшчэ блаславенне паслала на дарогу… А сэрца на вугаль счарнела, а ўсе жылы на дрот згартаваліся. Ці няпраўду мо кажу, га?

Рыгору рупіла хутчэй заявіцца ў кантору, каб прапісацца ў пору, і ён адхіляўся ад гутаркі з Каралем, павяртаючыся ў варотцы. Караль жа ні на чога не шманаў, увайшоўшы ў гутарку, і пільна глядзеў Рыгору ў вочы, размахваючы рукамі і часта прытупваючы нагамі.

— Прамігнуў час маланкаю, — цягнуў далей гутарку Караль, — і глядзіш — ты зноў на заводзе. Пэўна, і дома быўшы, чуў яго шолам. Спаў і чуў. А я, вось, прывык. Сяджу і нібыто той: гадамі сяджу. Ні ў госці, ні на пабыўку не іду, бо няма куды і няма да каго. Няхай гудзіць, хутка загудзіць у магілу — тады будзе і спачынак, і пабыўка. Яшчэ год, яшчэ год — і бывайце здаровы завод і людзі, і ўвесь свет… Не шкадую, ведаеш, ніззвання; бо куды ж, сапраўды кажучы, гэтае жыццё? Навошта яно годна! Гадамі сядзець ля парога, як той сабака, і пільнаваць чужое дабро… Чаму і што яно ўсё так склалася — не разбяруся, хоць і чую вялікую няпраўду і вялікі непарадак. Але ўжо неяк уцягнула цябе, прыбіла тваю сілу і супярэчнасць, і вось сядзіш пакорліва, падаешся ва ўсе бакі, куды цябе схіляюць… Не, брат Нязвычны, не раджу я табе быць такім, як я, рахманым і падатлівым: ні да чога не прывядзе гэта падатлівасць. Трэба быць цвёрдым, непадатным, упартым, тады шмат большага дасягнеш. Вы яшчэ маладыя і можаце загартавацца, выбраць правідловы

шлях, пакуль не позна. Ваш брат, рабочы, ужо зразумеў, у чым крыецца непарадак жыцця, і прабуе павярнуць яго на інакшую сцяжынку. Вось, паглядзі, хоць бы перапёкі: забаставалі і трымаюцца цвёрда і ўпарта…

Рыгор паглядзеў Каралю ў вочы.

— Ласне перапёкі ўжо забаставалі?

— Бастуюць, ужо колькі часу, амаль не тыдзень. Кажуць, арыштоўваюць іх, ловяць па горадзе і за горадам на сабраннях, а яны стойка трымаюцца на сваім, ані кроку назад. І малайцы, скажу я, малайцы. Я дарую ім тое, што праз іх забастоўку падаражэў хлеб — няхай сабе; менш чвэрткаю ў дзень з’ем, але затое ведаю, што гэтым памагаю людзям дамагчыся палягчэння свайго становішча. Трэба ж супольна вясці змаганне з гаспадарскім уціскам. Годзе паддавацца панскаму гвалту: перамаглі ў пятым годзе, дык думаюць, гэта працягнецца на сотні гадоў. Дарма! У пятнаццатым ці ў дваццатым шчасце можа адвярнуцца… А я табе скажу, Нязвычны, што ўсё залежыць ад вашае, рабочых, злучнасці: вось бастуюць перапёкі, муляры, а да іх патрэбна прылучыцца ўсім заводам і фабрыкам. Каб нідзе ні дымку, каб нідзе ні стуку: і так горад за горадам. Нябось, нядоўга спрачаліся б! Па адным ці невялічкімі грамадкамі могуць перамагчы, а будзь усе з’яднанымі ды дружна наступам паведзены — тады зусім інакшыя песні пойдуць. Мо няпраўду, думаеш, кажу?

— Вядома, што так, гэтак і павінна быць, гэтак і будзе. Вось пачакайце крыху — толькі момант падыдзе. Нам, рабочым, нечага губіць, апроч сваёй няволі, — падмацаваў Рыгор.

— Братка Нязвычны, — прыцішаным голасам вымавіў Караль і пільна агледзеўся вакола сябе, прыслухаўся ў бок брамы, — ужо фабрыканты запалоханы: пэўна, ведаюць і чуюць, чым гэта можа скончыцца для іх. Шэпчуцца вось і нашы дырэктары ўвесь час, а ў горадзе — дык багацеі адкрыта гавораць, што магчыма другая рэвалюцыя. Я пільна прыслухоўваюся і чую…

Караль зрабіў маленькую маўчанку.

— А думаеш, на нашым заводзе ўсё ціха? Не патурай; вось надоечы я чуў, як Артур Цвібель з Міхасём Камаром размаўлялі: наспяе, браток, нешта цікавае, наспяе…

Караль мнагазначна паківаў галавой і зрабіў крок назад.

— А ласне Міхась Камар не выехаў на пабыўку? — пацікавіўся Рыгор.

— Не. Толечкі вось ён прайшоў на завод. Нават пра цябе запытаў, ці не вярнуўся…

Караль раптоўна абарваў гутарку: за варотцамі пачуліся чыесьці шагі. Скалануўшыся ўсёю старэчаю постаццю, як перапуджаная авечка, ён паспешна кінуўся ў двор завода. Рыгор пайшоў услед за ім. Ля варотцаў яны абодва спаткаліся з двума суб'ектамі, не то канторшчыкамі, не то дырэктарамі, якія, раскурваючы гаванскія цыгары, аб нечым пільна гутарылі. Стораж пакорліва з-за вушака пацісnуў левую рукою варотцы, а сам падаўся ўсім целам назад, каб даць начальству прасторна выйсці на вуліцу.

Рыгор, адмеціўшы гэта, злосна скрывіў твар і хутчэй адышоў убок, павярнуўшы к канторы. Каб прайсці ў яе, трэба было перарэзаць наўскасяк увесь двор: кантора знаходзілася ў заднім корпусе заводскага будынка, хаваючыся ад двара за высокую тыльную сцяну.

V

Рыгор, не азіраючыся, перасек двор і хутка апынуўся перад ганкам канторы. Паднімаючыся к уваходу, ён нечакана пачуў ззаду сябе ціхі вокліч і абярнуўся назад: з-за сцяны завода, таксама ў кірунку да канторы, ішоў Міхась Камар — яго добры знаёмы, таварыш па цэху і настаўнік па практычных ведах палітычнага руху.

Рыгор спыніўся на пятай ступеньцы ганка.

— Га, здароў, сябар! — уголас прагукаў Міхась да Рыгора, працягнуўшы яму руку і зрабіўшы шырокую цёплую ўхмылку на твары.

У адзнаку свае павагі да Міхася Рыгор саступіў на дзве ступенькі ніжэй, ухіліўся перад ім і горача пацісnуў яго руку.

— А вы, ласне, не ездзілі на пабыўку? — пацікавіўся Рыгор.

— Куды там мне на пабыўку, — весела адказаў Міхась і тут жа сцішаным голасам дадаў: — У нас хутка можа разыграцца гэткая рэч, што ўсе зараз адправімся на пабыўку, ды на доўгую…

Рыгор насцаражыўся і са здзіўленнем запытаў у Міхася:

— А ў чым справа?

— Пачакай, я табе раскажу ўсё: давай паперш справім дзела ў канторы… А пакуль скажу, што ты вельмі добра зрабіў, што пад'ехаў к часу: цяпер кожны чалавек павінен быць на ўлічэнні. Тут завязваецца такі вузел, што — ой, ой, ой!..

Рыгор цалкам захапіўся Міхасёвым паведамленнем і ўжо забыў нават, зачым ідзе ў кантору. Усе планы і настроі раптам вылецелі з галавы, і распаленая ўвага завярцелася каля пачутага

ад Міхася. Нейкая бадзёрая трывожнасць ахапіла ўсю яго істоту і рэзкім свярбячым казлытаннем забегала па целе.

Міхась аперадзіў яго на некалькі ступенек і першым падбег да дзвярэй канторы, азірнуўшыся на Рыгора.

— Што ж, прыняў блізка да сэрца тое, што я сказаў?

— Наадварот, я зарадаваўся вашай вестцы.

У дзверы абодва ўвайшлі моўчкі, а ў калідоры Рыгор запытаў Міхася:

— А вы чаго ў кантору?

— Ды вось, трэба атрымаць за звыштэрміновую работу.

— А сёння вы не на рабоце?

— Да палудня працаваў, а з палудня гуляю: трэба было скончыць некаторыя дамашнія справункі; распачаў калі ўжо,і цягнуліся дагэтуль… Ну, а ты як прагуляў пабыўку?

— Эт, ні то ні сё… а ўсё ж такі крыху спачыў…

— А чаму так — нявесела?

Рыгор не паспеў адказаць: яны ўвайшлі ў пакой, разгароджаны на некалькі каморак стройнаю драцяною загарадкаю, з невялічкімі акенцамі, як то бывае на пошце ці ў банку. За загарадкаю на свабодна расстаўленых сталах працавала шмат канторшчыкаў і рахавальнікаў. Бразджэлі лічыльнікі, чуліся ціхія перашэпты. Аднак апошняе не перашкаджала шпарка і дакладна здавальняць наведнікаў-рабочых, якіх перад кожным акенцам стаяла па некалькі чалавек. Сярод рабочых было многа знаёмых Рыгору і Міхасю.

— Ну, я зайду сюды, — сказаў Міхась, — і калі спраўлюся хутчэй цябе, то пачакаю пры дзвярах.

Рыгор павярнуў у другі бок, заламаўшы направа. Якраз яму пашанцавала: канторшчык, да якога ён меў справу, за хвілю перад ім адпусціў апошняга чалавека і тут жа справіў Рыгораву прапіску. На гэту цырымонію пайшло не больш пяці хвілін, і калі Рыгор падышоў к дзвярам, то яму самому прыйшлося пачакаць Міхася каля чвэрткі гадзіны.

— Бачыце, я скарэй вас; вы нешта доўга разважалі, — праказаў Рыгор падышоўшаму да яго Міхасю.

— Грашовая справа не так лёгка робіцца, — адказаў той. — Ну, а цяпер ты куды? — запытаў ад сябе Міхась.

— Пэўна, дадому, а па дарозе паабедаю. А вы?

— А мне трэба спяшыць дадому. Давай правядзі мяне да перавозу.

— Добра, якраз я сам меўся тудэю ісці.

Яны выйшлі на заводскі двор, перасеклі яго ў кірунку да Каралевай будкі і прыпыніліся. Караль не даў сябе доўга чакаць: хутка выбегшы з будкі, ён машынальна ўзяў пад казырок і адчыніў ім дзверцы.

— Заўтра, нябось, абодва прыйдзеце на работу? — запытаў іх і жартліва дадаў: — Няма чаго траціць часу.

— Ото ж і ёсць, — разам адказалі Рыгор з Міхасём.

Але стук дзверцаў, якія тут жа зачыніў за імі Караль, скраў іх словы, і стары моўчкі шмыгнуў назад у сваю будку.

Рыгор з Міхасём азірнуліся і павярнулі ў той бок, з якога Рыгор ішоў на завод.

Ім аставалася прайсці да прыстані каля вярсты. Рыгор не хацеў траціць часу, і толькі яны адышліся крокаў з дзясятак ад заводскае брамы, як ён хутчэй паспяшыў завесці гутарку.

— Дык вы паўней паведаміце мяне аба ўсім?

— Абавязкова… — Міхась навакол азірнуўся. — Вось што, брат, надоечы папярэдні дэлегацкі сход ад фабрык і заводаў вырашыў баставаць. Нельга, бачыш, прапусціць гэткага выдатнага моманту, які склаўся цяпер. Абурэнне ў рабочых гушчах паднялося высока. Усе як адзін з жалезнаю рашучасцю настроены пратэставаць супроць суду над балтыцкімі і кранштацкімі матросамі. Вось на днях павінен адбыцца паўторны станоўчы сход дэлегатаў, каб намеціць дзень абвяшчэння забастоўкі. Трэба не ўпускаць часу і не распыляць сіл. Якраз можна будзе падтрымаць дух і булачнікаў таксама. Колькі часу яны бастуюць, а падмогі няма; нават больш таго: між самімі ідзе няўладзіца — частка бастуе, другая пайшла працаваць. Гэта сее нездаровы настрой… А вось і на заводзе кампаніі: які час бастуюць адны і не да лепшага, а глядзіш, фабрыканты перамогуць і пойдуць у наступ. Ужо чуваць гутаркі аб лакауце. Патрэбна, каб нас не засталі раптам — лепей нам ударыць усім разам на ворага… Загэтым і паміж партыямі наладжана каардынацыя чыннасці…

— Так, так, так, — цалкам згаджаючыся з Міхасём, поўны натхнення адказаў Рыгор, — толькі тады выйграем, калі самі пойдзем у наступ… Настрой уздымны ўсюды… Вось у нас, дзе я быў, гатовілася забастоўка гарбароў… на вёсцы канфлікты сялян з памешчыкам…

— Вось бачыш…

Міхась хвіліну падумаў.

— Ты, пэўна, зусім не спадзяваўся, што так шырока разлюцца здарэнні. Тыя маленькія адзнакі, якія адмячаліся перад Тройцаю, зусім не казалі на гэта… Яно, бачыш, заўсёды так бывае…

— Ведаеце, таварыш Міхась… — перабіў Рыгор. — Каб я ведаў, што ўсё яно прыме гэткія формы, я б і тыдня дома не прасядзеў… Дзе там адпачынак у час пажару! Мяне ўсяго ахапляе абурэнне, забірае прага… Пара ўжо нарэшце сказаць рашучае слова… Праўда, і дома я дарам не праседзеў…

— Шша-а!..

Міхась суняў Рыгора.

— Ты цішэй… Пара прыспела падаць голас — падавай. Напіраюць злучанымі сіламі капіталісты і ўрад. Пачулі нядобрае для сябе… А калі напіраюць, то не гнуцца ж самохаць!

— Пэўна, у трубу сагнуць… Падумаць толькі, да чаго дайшло. Хоць бы ўзяць вёску — выказаць нельга, што там чаўпецца!Ураднік, старшыня, стражнік, поп, нават дзясяцкія — усе агулам глумяцца з бедняка. Не адгукніся, не абзавіся, слова не вымаў — усё аглядайся, усё бойся. Маўчы, як нямы. Але не маўчаць, а чакаюць, што горад скажа, што мы тут пастановім.

— Гэтага мала, патрэбна рашучая падмога з боку сялянства…

— Мне думаецца, што яна будзе. Я суджу па сваім месце. У нас большасць — бядняцкае малазямельнае сялянства; ёсць багатая спадчына нарадавольчаскай чыннасці: яскравая памяць аб 1905 годзе. Арганізацыя сацыял-дэмакратаў хоць і невялікая, а ўплыў мае вялікі. Між вёскамі маецца цесная сувязь — у кожнай ёсць некалькі нашых чалавек…

— Так, але ўсяго гэтага мала, вельмі…

Міхась не даказаў і змоўк. Рыгор не прымеціў нават; захоплены настроем моманту, ён сягаў і думкаю, і пачуццём у блізкай будучыні, якую абяцалі выкінуць наповерх хвалі раскалыханых здарэнняў. Выабражэнне яго не магло справіцца з тым вобразам, поўным сілы і магутнасці, руху тысячных грамад, які ў выразных рысах насіўся ў яго ваччу. Перад гэтым вобразам прыкметна нікла і гінула ўсё тое, што было не звязана з агульным жыццём, з ідэямі працоўных гушчаў. У Рыгоравым нутры ўвачавідкі нарастала прагнае жаданне як найхутчэй падцягнуць здарэнні, прыспяшыць іх развязку і, разам з гэтым, не абысці іх самому, не абмінуць, а абмыцца імі, кінуцца ў іх віраванне, уплыць сваёю чыннасцю на іх развіццё і пасобіць пакіраваць па сваім разуменні. О, ён даў бы ім кірунак, смелы і адважны!

Рыгор ажно скалануўся ўсёй постаццю ад надышоўшага пачуцця ўздыму. Паглядзеў на Міхася. Мімавольна падумаў: «Руху, змагання, помсты! Хай бы адчулі на сабе, якая сіланазбіралася ў нашых радах!..»

— Так… — ацвярозіў Рыгора Міхась. — На днях назначаны другі дэлегацкі сход… Ад нашай майстэрні, ведаеш, выбралі і цябе… Што ты скажаш?

— Як яно выйшла? Ці ж ведаюць, што я прыехаў? Або без мяне не знайшлося? — здзівіўся Рыгор, а сам палаў ад радасці… — Ці не вы, адно, Міхась, пастараліся?

— А калі я, дык ты нездаволены?

— Не тое, толькі думаў…

— Годзе думаць, пара сур'ёзна брацца за справу…

Рыгор памаўчаў, ён толькі і думаў аб сур'ёзным.

— А скажыце, Міхась, які настрой на нашым заводзе? — перайшоў ён на другое.

— Як і ўсюды: рвуцца на барыкады…

Рыгор падумаў, пакуль прайшлі які сажань, пасля зноў запытаў Міхася:

— Ну, а як, па-вашаму, можна спадзявацца на поспех?

— Па-мойму, адно: будзем маўчаць — то, напэўна, прайграем, а станем адбівацца, то хоць прайграем, але не столькі…

— А такі прайграем, ці так, ці гэтак? — сумеўся Рыгор. — Дакуль жа нарэшце мы будзем прайграваць, скажыце?

Міхась усміхнуўся. Паглядзеў па баках.

— Трэба вучыцца выйграваць на… прайграным.

— Балюча і немажліва гэта… Годзе! Трэба напружыць усе сілы і паўтарыць пяты год…

Міхась узяў Рыгора за руку.

— Астынь, астынь, браток. Занадта ты гарачы, як я пабачу. Лепш паціхеньку, вобмацкам, збіраючы сілы, вырахоўваючы, а не без азірку, нагалам. Пачакай — яшчэ год, яшчэ год…

— І колькі гадоў?

— Колькі выпадзе — тут не скажаш дакладна.

Рыгор сярдзіта матнуў рукою ў бок горада. Міхась не ўтрымаўся і ўголас зарагатаў:

— Зялёныя!

У яго словах Рыгор адчуваў недачасную спакойлівасць і падазрона падумаў: «Ці ж можна з гэткім настроем ісці ў бойку».

А Міхась, чалавек гадоў сарака пяці, нагледзеўшыся і начуўшыся, пераждыўшы шмат забастовак і паўстанне пятага года, многа разоў губіўшы палкасць і захапленне з-за частых няўдач, пазіраў на Рыгора, як на вучня, упікаў за яго моладасць, шкадаваў сваіх ранейшых гадоў і тут жа сам сабе цешыўся, як бы ў адплату за іх, што яго сілы і турбацыя не загінулі, што з кожным часам новыя і новыя шэрагі ваяк выступаюць на арэну змагання

за вялікія ідэі вызвалення працоўных. Багатая сокамі цаліна агромнай краіны расціла маладыя пасынкі. Што, сапраўды, усе тыя пакуты, якія давялося перанесці! Міхася, арыштаваўшы ў першамайскую маніфестацыю, марылі тры месяцы без работы — ці ж не дзеля таго гэта, каб дзень ада дня, на вачах, уверана ды ўпарта ўзрастала на гэтым новая хваля маладое бунтоўнае сілы, сілы, якая нясе ў сваім росце магутныя заданні новаму, вольнаму жыццю!

Вось Рыгор! Колькі іх ідзе па Міхасёвых слядах!

І далей, далей, туды,за Дзвіну, туды, да заліва, адыходзілі чорныя цені мінуўшчыны, праясніліся паземы, і побач расла вера, маладое натхненне.

Міхась ступаў па напаленых каменнях тратуара і адчуваў, як прутка выпростваюцца ногі, як лёгка адмяраюцца рашучыя, цвёрдыя крокі. Ён ішоў праз гушчу варожага яму жыцця, якое сціскала яго звакол, давіла духатою атрутнага паветра, — а яго вера маланкаю разразала згусткі павіслай жыццёвай духаты.

Рыгор, ідучы побач, замоўкшы, задумаўшыся над тымі ж заданнямі, што і Міхась, цешыў апошняга сваім настроем і глыбокім пазнаннем падаспелых пытанняў моманту.

Міхась не сцярпеў, каб не выказаць Рыгору свайго пачуцця.

— Ведаеш, Рыгор, ты ўзбадзёрыў мяне сваім настроем. Я вельмі рад тваім словам; я рад, што ты ўбіраеш іх гэткім натхненнем.

Рыгор быў палішчаны.

— Я радуюся, таварыш Міхась, што папаў у гэтыя ўмовы жыцця; я шчаслівы, што не закалыхала мяне мястэчка сваёю будзёншчынаю. Я блаславуляю той момант, у які я стаў на шлях змагання. Сіла яго збіралася ва мне гадамі, гартавалася, а зараз вось выбухае наповерх. І кажу я вам: майму жыццю няма і не будзе іншае дарогі, як дарога несупыннага, кіпучага, самазабыўнага класавага змагання за свабоду…

Рыгор слова за словам паднімаў голас. Захапляўся пачуццём, ківаў галавою і перабіраў пальцамі. Пешаходы, што наганялі іх ззаду і што ішлі насустрач, цікавіліся, павярталі ў іх бок галовы, некаторыя азіраліся, іншыя чуць-чуць усцішалі хаду; бывалі, што іранічна падсмейваліся. Нарваўся адзін такі, што бесцырымонна спыніўся, параўняўшыся з імі, і пільна пачаў прыглядацца. Рыгор не прыкмеціў, але Міхась, напрактыкаваны на людзях, заўважыў цікавага і тузануў Рыгора за рукаў: Рыгор сціх і паглядзеў на Міхася…

Зусім блізка была прыстань. Перад дашчанаю будачкаю ціснуўся натоўп людзей, якія чакалі парахода. Да іх надыходзілі ўсё новыя, гусцеючы і павялічваючы кожнаю асобаю людскую грамаду.

Рыгор з Міхасём сышлі з тратуара, перасеклі вуліцу і апынуліся ў гушчы натоўпу. Як і ўсе, паглядзелі на рэчку.

Дзвіна паважна гайдалася ў каменных берагах. Лёгкія скруткі спакойлівых, нібы прыўтомленых хваль, пярэстых ад пераліву святла з ценем, кудысьці задуменна вялі паход. Белымі, буйнымі птушкамі насіліся лёгкія пparticipate паруснікі, як правадыры хваль; каля абодвух берагоў цісналіся пукатыя, ужо засмоленыя і яшчэ жоўтыя баркі, заплыўшыя вадою плыты. Далей і бліжэй шнырaлі параходы і параходзікі.

— Якая магутная рака! — падзівіўся Рыгор.

Міхась нічога не адказаў: натоўп зарухаўся і падаўся да сходаў; іх абодвух збілі з месца — падыходзіў параход.

— Ідзі лепш, каб не натаўхалі, — параіў Міхась і схаваўся ў людзях.

— Да заўтрага, бывайце! — паслаў за ім Рыгор.

## VI

Расстаўшыся з Міхасём Камаром, Рыгор прайшоў у горад, дзе адну за другою паспешна справіў усе свае патрэбы. Па дарозе дамоў ён захіліў у парк і некалькі разоў засаб абышоў па дарожках аблюбаваны круг. Ім увесь час валодаў узвышаны, неастываючы настрой. Пра работу, якую мусіў заўтра ж з раніцы пачаць, ён і не патураў. Усе яго думкі неадлётна віліся вакол гутаркі з Міхасём. Яна адчыніла Рыгору новыя паземы, паказала заварожную таямніцу бурлівага перажывання, хлынула бляскам бясконцай, разліўной, як Дзвіна, урачыстасці. Шэраю палоскаю, мігаценнем імжэла невыразнае адзнанне аб павіннасці працаваць, аб закураных сценах заводаў, аб жалезнай браме, аб сторажу Каралю. І гэта не чапала яго, як не чапаў яго ўвесь парк са сваім жыццём: з вясёлымі дзеткамі, што ганяліся за апукамі і абручамі, з бонамі ў беленькіх пастэрачках і з кухаркамі — у гафтаваных хвартушках, з бяздомнымі валацужкамі, з шляхетнымі бабулькамі-скарэдніцамі, з вясёлымі рэзвымі парачкамі, з сахар-марознікам і прадаўцом featured рознакалёрных пухіркоў. Толькі б дапомніць яму хацелася гэтым людзям, што іх лёс у многім залежыць ад тых здарэнняў, якія хутка пранясуцца над гора-

дам, над Дзвіною і над Верманаўскім паркам. Рыгор паглядзеў вакола сябе.

Ён ведаў, што яго думкі і планы, што яго перажыванні і настрой няведамы нікому. Яго пацягнула прысесці пад лахматым, капялюшыстым клёнам, з боку ўквечанай клумбы, наўскасяк ад сажалкі. Ён прайшоў наперад, паглядзеў на адну, на другую лаўку, вярнууся назад, але ўсюды было заседжана, занята. Тады Рыгор выйшаў з парку на вуліцу і ўспомніў, што да яго можа прыйсці Ганна. «Авось ды надумае — пайду! Абяцаў жа быць. Трэба спаткацца!»

Ішоў і думаў аб Ганне. Пазіраў на сонца і лавіў яго чырвоныя праменні ў водблісках вокан, у праваллях між высокімі мурамі. Баяўся не спазніцца. Не азіраўся назад; ёмка віляў між пешаходаў, калі-нікалі саступаў на брук.

Нарэшце — дома. Рыгор каля брамы спыніўся і паглядзеў у бакі, а мо Ганна ідзе яшчэ ці ўжо выйшла, вяртаецца дамоў і з астатняю надзеяй кідае праглівыя возіркі? Нічога не ўгледзеў і павярнуў у двор, на ўсходы, да кватэры.

Ніякага следу ні знаку. Вільгельміна адчыніла дзверы і прасунула ў іх свой непрыгожы твар.

— Да мяне ніхто не прыходзіў? — даведаўся Рыгор.

— Не, ніхто. А ласне хто меўся зайсці? — пацікавілася Вільгельміна.

— Так сабе, мо каму і надумалася б, — схлусіў Рыгор.

— А вы ўжо з завода?

Рыгор усміхнуўся:

— Праспаў сёння.

— Няўжо? Я ж будзіла — роўна а сёмай гадзіне стукала ў дзверы.

— Я чуў, дзякуй; але не захацелася ўставаць.

— Вядома — пасля дарогі затаміліся… А я думала, што вы на заводзе, цэлы дзень не чуваць у хаце… Ды яшчэ паспееце нарабіцца…

— Пэўна, мы натое і жывем, каб рабіць.

І ён прайшоў у свой пакой. У пакоі было ціха і свежа; адчыненае праз увесь дзень акно ачысціла паветра, падсушыла. Глухім гудам уплываў гарадскі шум; Рыгор зачыніў акно і пастаяў каля яго хвілін з дзесяць. Пасля адышоўся на сярэдзіну пакоя, паглядзеў вакола і прылёг.

А ў гэты час, перажываючы хваляванні няпэўнасці, набліжалася к дому Ганна. Ціха, але ўверана, раззіраючы па баках і час ад часу паглядаючы на нумары дамоў, яна ішла да Рыгора з

такім разлікам, каб прыйсці на кватэру на змроку, калі б, напэўна, ён быў дома. Яна не баялася зблудзіць, бо лічба дома і асабліва нумар кватэры — № 33 — добра запамяталіся ёй, нібы хтось выразаў скальпелем на сэрцы. Яна іх бачыла, нават адчувала з моманту, калі іх выказаў Рыгор. Расказвала мацеры, як і што гуляла ў гасцях, што там чула і бачыла, як жывуць дзядзькі і знаёмыя, — а думка ўвесь час вадзіла перад яе ваччу лічбу дома і лічбу кватэры — роўныя, вочастыя, стройныя тройкі. Хадзіла на рынак купляць харчы — і гэтыя лічбы нясла з сабою. Яны кідаліся Ганне ў вочы на кожным муры, дзе чырвоныя на цёмным полі, дзе белыя — на сінім, выразнейшыя, то цямнейшыя. У іх была патаемная сіла прыцягнення. Ганна не ведала, як скаратаць дзень, каб нарэшце падысці да гэтых троек і заглянуць за іх заслону. Рыгор!.. Між дваіх троек, жывы, рэзвы, як мастацка намалёваныя лічбы і — захоплены ёю, Ганнаю… Як хутчэй скаратаць дзень? Быў бы ён дома! Бралася за кніжку, калі маці адлучалася ў горад, вадзіла вачмі па радках літар, а з іх паяскоў вынікаў знаёмы твар, яго пекныя рысы. Губіўся сэнс, і галава павярталася да дзвярэй — дзе клямка з прадоўжнаю ручкаю таксама падобілася на тройку. Паглядала ў адно акно, то ў другое і, бачачы толькі кароценькія клінкі ценяў на спрэс залітых сонцам сценах і дахах дамоў, востра недаволілася, чаму гэтым днём, як назнарок, так доўга не заходзіць сонца. Нібы хтось прыбіў яго на адным месцы, і яно не можа крануцца кнізу! Гэта ж трэба! Некалькі разоў пачынала збірацца ісці — не магла чакаць, — але падыходзіла да дзвярэй і адразу паварочвала назад. Куды ж сярод дня! Рыгора, напэўна, няма ўдому… А шостай гадзіне Ганна выйшла на двор. Але яснасць дня, паднятае над мурамі сонца зноў вярнулі яе ў хату.

— Забылася нечага? — запытала маці.

— Хустачкі.

— Ты не баўся, дачушка, — папрасіла маці, калі Ганна выйшла.

— Не, не.

А сама і не думала, што хлусіць мацеры. Толькі б застаць Рыгора, а там — як удасца… І ўжо захіліўшы за рог дома, забыла аб мацеры.

Свяціла сонца — крыху пачырванелае. «А калі крыху раней прыйду», — рашыла Ганна, адкідаючы сумненне.

Непрыкметна прайшла Ганна ўсю дарогу і зусім нечакана апынулася каля дома… Было відна — няхай сабе. Толькі кінула вокам паўзвыш брамы, праверыла лічбу і павярнула ў двор. Яе

паварот адмеціўся лёгкім цюканнем сэрца, іначай звычайнага. Але не сумелася, перасекла двор, запоўнены дзецьмі, і ўзышла на ўсходы. Адзін, другі, трэці пралёт. А вось і дзве тройкі — хтось хацеў захаваць — палінялі; усё ж для яе выразныя.

«Званю!» — падбадзёрыла сама сябе і пазваніла, каб пэўней было.

За дзвярыма пачуўся гучны тупат, і зараз жа яна пачула запытанне:

— Вам каго?

— Рыгор Нязвычны дома?

Вільгельміна — яна адчыніла дзверы — адразу нічога не адказала, а падазрона аглядзела Ганну з ног да галавы, зрабіла чарствую міну на твары, пасля двухсэнсоўна запытала:

— Ры-го-ор? А на-во-ош-та-а ён?

— Мне ён патрэбен, ці дома? — з налётам нецярпення адказала Ганна.

— Патрэ-эбен?! — зацягнула Вільгельміна. — Ідзіце! — і прапусціла Ганну ў кватэру.

Ганна ўвайшла і спынілася ў цёмным калідоры.

— Вунь там, направа, — падказала Вільгельміна, засвяціўшы агонь, — апошнія дзверы, — дадала яна, — ён дома, пастукайце.

Ганна падышла да дзвярэй і нерашуча спынілася, але хутка сабралася і пастукала. З-за дзвярэй пачуўся голас:

— Хто там?

А за голасам пайшоў клапатлівы рух.

— Адчыніце, Нязвычны!

Рыгор адчыніў дзверы і, замест прывітання, перапрасіў Ганну:

— Выбачай, што я ў сонным выглядзе: натупаўся за дзень па справах і змардаваўся.

— З гэткай цікавасцю мяне чакаў? — падцяла Ганна.

— Што-о ты… пакінь.

— Садзіся… А я ўжо думаў, што ты… можа, і не прыйдзеш?..

— Спаў і думаў?

— Перад сном…

Ганна прысела.

## VII

Рыгор доўга глядзеў на Ганну, стоячы побач: і ў профіль твару, абгорнутага русымі косамі, і на галаву, якая густа ўбіралася чыстымі ільнянiстымі палойкамі гэтых кос, сабраных на задзе галавы ў багатую, абаранкамі, куклу: збягаў яго ўзрок па белым снежным полі шырокіх роўных плеч да перацятае стужкаю паясніцы: змераў рукі, танклявыя, мармуравыя, за локці аголеныя; асмельваўся прыкмячаць белыя туфлі і нацельнага колеру панчохі. Рад быў, што ніхто, што сама Ганна не перабіваюць яму любавацца маладою дзяўчынаю.

Рыгор не чакаў, а рука сама апусцілася Ганне на правае плячо. Тая здрыганулася.

— Чаго ты?

Маўклiва Ганна паднялася, прайшла некалькі разоў па пакоі, пасля прысела на ложку.

— Садзіся, — паказала рукою. — Якая ў цябе строгая гаспадыня! — калі Рыгор сеў, сказала Ганна. І паглядзела яму ў вочы мяккім, але праназаватым узрокам. Рыгор абняў яе, прыціснуў да сябе і пацалаваў.

— Гэта работніца, бач?

— Не ведаю, тоўстая гэтая, пляскататварая. —Рыгор засмяяўся. — Праўда, праўда! Абараняе цябе.

— Малайчына.

— Добра жывяцё з ёю?

— А не сварымся.

— Ну, ну, скажы? — Ганна бязвольна апусціла голаў яму на грудзі. — Я ўтамілася сёння не менш твайго.

— Якім чынам?

— Я прагавіта, запойна чакала вечара, каб хутчэй убачыцца з табою. Ты паверыш?.. Утамілася, хачу прылегчы… Папраў падушку… — Рыгор выпаўніў просьбу і ўстаў. — Ты баішся, каб я цябе не прыспала? Садзіся… Бліжай, яшчэ бліжай… Кажы мне што; як ты правёў дзень? Ці чакаў мяне?.. На вуха, прыхіліся, я не чую… — Яна закінула руку яму на шыю, прыцягнула да сябе. — Ты чакаў мяне? А спаў, нябось; нават выйсці адчыніць не схацеў… Даў мажлівасць вылаяць мяне, праэкзаменаваць… Чуеш! Я сама набіваюся табе, надазаляю… Кажы, каб…

Яе словы ціхлі водлуг таго, як Рыгор усё шчыльней прытуляўся да яе, пакорны, адданы яе раз’юшанаму жаданню, паслушны рухам яе рукі… Ганна спавядала яго, ён маўчаў, баяўся супярэчыць, шкадаваў — бо мілаваў яе зацяжны выказ плаўных сказаў,

трапяткіх зыкаў, шаўкавістага тону ў голасе. Яшчэ не чуў ён да гэтага моманту падобных напеваў, не прабаваў гэткае асалоды ў ценькіх вібрацыях агрэгата густым подыхам шэпту. «Спачывай, спачывай, мая мілая», — білі думкі ў галаве.

Гарэла лямпачка пад столлю, і шэры змрок ліў у акно алавянае праменне. Туманнае святло аблівала каморку, скрадаючы ўбогасць яе абсталявання…

## VIII

Каб хто заглянуў у пакой Рыгора праз гадзіну, то ўгледзеў бы, як двое маладых істот маўкліва стаялі ў акне і пільнымі, праглівымі вачмі паглядалі на белаватае, нібы затуманенае неба, якое скрадала зыркасць зор і пекнату лазурку, нізка ападаючы на шэрыя дахі муроў. Здалёку да іх даходзілі гукі свісткоў, прытоены, нібы падземны, гул і пісклявыя зацяжныя ноты скрыпкі. У каморцы, за іх спінамі, было святлей, ніж на дварэ, але ніводнаму з іх не хацелася аглядацца, каб не абудніць настрою, які паціху ападаў, сыходзіў з апагея ўздымнасці. Зыкі скрыпкі справодзілі яго да раўнаважнасці, але помеж выклікалі пераражытыя хвіліны, тым ці іншым звязаныя з іх спатканнем і зараз далёка адышоўшыя, часткаю загісторыя ў іх жыцці.

Да Рыгора з'явіліся вобразы Сілцоў, ажылі постаці Сёмкі, мацеры, нават Зосі; цугам паняслісія пацеркі ўспамінаў, пераражыванняў. Нібы другім пластом сваіх думак, не падлеглых яму, ён пацiху ды паважна перабіраў мінулае… Але цесна быў завязаны асяродкам свае істоты з Ганнаю. Ён адчуваў, што Ганна марыць ім, жыве спатканнем, п'е хвілі бягучага жыцця, як бы чытаў яе думкі, што ляцелі ў Ліцк, на станцыю, дзе з новым днём зараджалася іх знаёмасць. Неразрыўным сплётам — цягнік, гутарка ў вагоне, гулянне на станцыях. Пасля — Рыга, дзень чаканняў і нарэшце… каморка, вось-вось ён побач, жывы, неапісаны. Як многа пераражыткаў! За гэткі малы кавалак часу! Чым так зачараваў яе Рыгор? Быў Герасім, якім яна жыла, з якім столькі часу гуляла, якога, думала, нізашто не заменіць, — нядаўна рассталася з Андрэем, а раптам — Рыгор!.. Ганна не стрымалася і бязвольна апала яму на плячо, ажно гайданулася.

— Што з табою, Ганна? — падхапіў яе Рыгор.

— Нічога. Я так шчаслівa, я гэтак рада жыццю, мой Рыгор…

Ён адвёў Ганну ад акна і пасадзіў на крэсла, сам стаў перад ёю, умільна гледзячы ёй у вочы.

— Ты не сярдуеш, Ганна? — перасцярожна запытаў.

Яна скрала адказ. Толькі праз некалькі хвілін нясмела вымавіла:

— Ты не думаеш правесці мяне?

— Што ты! Зараз!

Яна рушыла да дзвярэй. Перагарадзіўшы ёй дарогу, Рыгор сказаў:

— У Рызе неспакойна: ідуць забастоўкі, арышты рабочых. Кожную хвіліну я магу падзяліць лёс сваіх таварышаў.

Ганна жахнулася і пужліва паглядзела Рыгору ў вочы.

— Рыгорка, не мяшайся ты, не мяшайся… — Узяла яго за руку: — Прыходзь да нас начаваць.

Рыгор усміхнуўся.

— Не мяшайся-а. Цудная ты! Я мушу не адставаць ад другіх, я мушу разам з маімі таварышамі змагацца за волю, за шчаслівае жыццё працоўнага люду… Я не магу сыходзіць убок, калі на мяне напіраюць… Разумееш, Ганна? Трэба абараняцца… Трэба на гвалт адказаць гвалтам…

— Усё ж, прашу цябе, — беражыся… Дзеля мяне, дзеля мае просьбы, шчырае, сястрынае просьбы.

Рыгору шкада стала Ганны, якой былі мэрам бы незразумелы яго словы, яго воклічы. Ён задумаўся.

— Не пайду, пакуль не дастану згоды.

У адказ Ганна атрымала пацалунак і ўверана рушыла з каморкі.

Вільгельміна праглянула з кухні і ціхім голасам папярэдзіла Рыгора:

— Я на ланцужок не вазьму — захапіце ключ.

Рыгор правёў Ганну да самага дома; вярнуўся гадзіны праз дзве. Каля дзвярэй успомніў, што ключа не захапіў; здаецца, браў, а памацаў у кішэнях — няма. Прыйшлося званіць. Вылаяўся на сябе за сваю забыўчывасць, але тут жа ўважыў — незвычайныя абставіны. Хапіўся за званок і пацягнуў засаб два разы — зазваніла, як над вухам, ажно праняло ўсяго. Занадта. Прыкусіў язык.

Сонная, раз’юшаная зараз жа каля дзвярэй апынулася Вільгельміна.

— Хто там? — пачуўся моцны шэпт.

— Я, Рыгор, адчыніце.

Адчыніліся дзверы. Вільгельміна ў споднім спадніцы, у гарсаванай кашулі сарамліва падалася ўбок.

— Не глядзіце, Рыгор.

— Выбачайце.

Рыгор прайшоў к сабе. У каморцы было светла: не трэба было агню. Рыгор раздзеўся і падышоў да ложка; абапёрся на яго спінку. І, як заўсёды, перакінуўся думкамі ў Сілцы — яны чапляліся за Рыгора! «Ці можа сабе дапусціць Сёмка ўсё тое, што прывёў яго неасцярожны паказ пальцам у Ліцку на станцыі? Ці паверыць ён, што я так хутка сумеў блізка сысціся з гэтай дзяўчынаю, падобнаю да Зосі? Напэўна, ён зусім ужо выпусціў Ганну з памяці, як большасць пасажыраў. Мужчына з дзіцём на руках і побач яго маладзіца з другім, што ехалі на новае месца, мо знанае, знойдзенае, а мо яшчэ невядомае зусім — гэта сям'я, пэўна, выразней усяго адаб'ецца ў яго выабражэнні. Каб ён ведаў, што я тут вытвараю! Смяяўся б покатам, цешыўся б».

У супрацьлежным акне патухла святло. Рыгор апусціў фіранку. Каморка праваліласяў шэрасць ночы. Ён паглядзеў на двор — было шэра і на двары. Цьмяны водсвет ліхтароў чуць-чуць мігаў над дахам бакавога муру.

«Сапраўды, — адвярнуўшыся на каморку і гледзячы ў яе шэрасць, задумаўся зноў Рыгор, — цікава ўсё ж са мною. Так заклапаціцца дробнымі справамі прыватнага жыцця! Якія ў іх прынцыпы ці законы, каб на іх будаваць тыя або іншыя планы? У параўнанні з агульным жыццём — то ж мізэрная нязначнасць. Усё залежыць ад агульных умоў: паправяцца — выйграю і я, пагоршаюць — пацярплю з іншымі. Значыць тады — патрэбна змаганне супольнымі сіламі за супольныя мэты ».

Думаючы яшчэ з паўгадзіны, Рыгор папераменна пераходзіў з полюса да полюса ў дзвюх разнастайнасцях сваіх думак. Рабіў параўнанні, выводзіў супольнасць між асобаю і масаю, даводзіў і разбіваў доказы пераважнасці самотных інтарэсаў над агульнымі.

Нарэшце адчуў утому: пачалі блытацца думкі і перарывацца ўспаміны. Ацяжэла галава. Рыгор паглядзеў на гадзіннік — гадзіннік паказваў палову другое.

Непрыкметна прабег час. Успомніў, што заўтра на работу, і кінуўся ў пасцель…

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

### I

Рыгор разумеў Сёмку, і калі судзіў аб ім, то судзіў упапад.

Расстаўшыся з таварышам, Сёмка не паспеў яшчэ выехаць з прывакзальнага пляца, як ужо выпусціў з думак не толькі Ганну, а і ўвесь вобраз вакзальнага руху. Усё злілося ў мінутным выбуху нейкай метусіны і адразу расплылося ў лёгкім тумане. Астаўся адзін Рыгор, з якім не разрываліся яго думкі, які загартаў сабою і вакзал, і яго рух. Услед цягніку несліся Сёмкавы думкі, а ў грудзях яго адчувалася прыкметная пустата. Не верылася, што прыйдзецца аднаму вярнуцца ў Сілцы. Вырасла ў яго галаве многа розных вялікіх планаў, якія ахоплівалі ўсё жыццё і вярцеліся вакол яго. Сёмка раз-поразу азіраўся ў бок вакзала, пакуль не выехаў за пасёлак.

Цёплая сонечная раніца чаравала поле. Зелень кушчастае густое ярыны ізумрудзілася полівам чырвоных праменняў сонца, сапла цёплым парным паветрам пасля мыцця халаднаватай расою. Цёмнымі лахматымі брыжамі абкідалі поле маладыя лясы-хвойнічкі. З кута раўнакутніка, які апісваў маладняк, каля пералеску нёсся гук трубы-беразоўкі і зычныя рэзвыя галасы пастушкоў. Крычалі вароны і перакідваліся з месца на месца сіваваронкі. Цыбаты бусел спацыраваў па граніцы лесу, адначасна сумяшчаючы службу палясоўшчыка і паплаўнічага. Паважна апускаў голаў, пасля паднімаў яе і глядзеў у бакі. Пэўна, цікавіўся заліўным траскатаннем некалькіх жаўранкаў над рунню. Косаю сцежкаю, што выходзіла з хвойнічку і накіроўвала ў левы ад Сёмкі бок, да вёскі Пралескі, паціху, чуць-чуць варушачыся, ехала на адгоне адна ад другой пара фурманак. На драбінах сядзела па адным чалавеку ў белых сарочках; яны выглядалі гіпсавымі фігуркамі, якія хтось акуратна паставіў на вазах і пусціў ціхім тупат коней, каб не разбіць іх ад трасяніны па калдабоінах выбітае сценкі. Хутка выйшла з рогу хвойнічку трое кабет ці дзяўчат з поўнымі мяшкамі травы на плячах. Здалёк паказвалася, што вось-вось цяжкая ношка прыгне іх да долу, ападзе сваёю вагою і прыдушыць або пераломіць аголеныя за калені ногі. У паветры было ціха; расліны стаялі заварожанымі.

Сёмка ўладзіўся сесці так, каб паглядаць абапал гасцінца, сочачы за пасевамі. Ён суздром захапіўся полем і любаваўся ім, як мастак сваім вобразам. Яно родна Сёмкаваму сэрцу, блізка яго разуменню. Змалку прывучыў яго бацька хадзіць каля зямлі, любіць яе і даглядаць. За якія восем гадоў Сёмкавы ногі пакінулі

мільёны слядоў у мяккай глебе па вільготных разорах і на цёплым баранаванні; яго праца, што цеплатою і потам пералілася ў мяккі парашок чарназёму і суглінку, напаіла мільёны камялькоў аўса, жыта, грэчкі, ячменю; яго вочы, шустрыя і празрыстыя, афарбаваліся колерам валошкі, нажылі зоркасць птушкі. Сёмка пайшоў па бацьку, толькі ад натуры прыдалося яму больш ахвоты да працы пры зямлі. Злажыўшы яго з бацькавай сілу, стараннасць і ахвоту — яны б за пяцярых напрацавалі. Але шматок зямлі ў чатыры-пяць дзесяцін, які меў Сёмкаў бацька, не даваў мажлівасці разгарнуцца. Прыходзілася спыняць размах! Тым часам Сёмка бачыў, што ёсць многа людзей, якія маюць па пятнаццаць, па дваццаць, па сорак і па больш дзесяцін. Сёмка бачыў цэлыя маёнткі і ведаў, што ўласнікі іх самі не працуюць, а другім не даюць… Гэта заўважыў ён яшчэ юнаком, калі ўпершыню пачуў скаргу бацькі на розныя недастачы ў хаце. І з таго часу задумаўся глыбока над пытаннем, як зрабіць, каб лепей размеркаваць зямлю. З гэтымі думкамі ён умешваўся ў бацькаўскую гутарку, з імі ён падрастаў, аручы зямлю, праз іх дайшоў да сацыялістаў. Але Сёмка стаў сацыялістам асабовым — бунтаром і ў той час прыхільнікам «надзелу зямлі, колькі можна апрацаваць уласнымі рукамі». Гэтага надзелу ён ні на момант не выпускаў з галавы; «надзел зямлі, колькі можна апрацаваць уласнымі рукамі» стаяў у асяродку праграмы ўсіх яго дамаганняў, каля яго вярцеліся мары аб сацыялізме.

Вяртаючыся з адвозу Рыгора, Сёмка пільна сачыў за нівамі паабапал дарогі, крывіўся на вузкія і зайздросціў шырэйшым. Тайком нарушылася вострае жаданне — мець бы сабе такую — гэтак дзесяцін у дзесяць гаспадарку. Усё-ткі было б на чым развярнуцца. Відаць — дзе шырэйшая палоска, там збожжа лепшае. А ў фальварках — дык проста яно паказвае на другі завод, на інакшы сорт. «Я апрацаваў бы з бацькам дзесяцін пятнаццаць — смела, — думаў ён: — чаму ж мне іх недастае? Папы, паны, шляхта маюць тысячамі дзесяцін, а мужыку — тры, пяць, сем… Няпраўда, сацыялізуем!» — матаў Сёмка пугаўём у бок фальваркаў і пераходзіў да думак аб рэвалюцыйным руху, аб яго поспеху, аб прыходу сацыялізму. Тут жа перамігаліся ў памяці таварышы з Сілцоўскай арганізацыі, усё нейкія асаблівыя, непадобныя адзін да другога, і ўсе — на яго. «Зямля — мала каго цікавіць. Працоўны дзень, паляпшэнне ўмоў працы, павелічэнне пенсіі. А працаваць да цёмнага ў полі? Замурзанаму, босаму, забруджанаму ў гной? Найбольш гарбары, шаўцы, краўцы — вось

яго таварышы. А сялян-земляробаў — два-тры; ён — Сёмка, Пятрусь і Саўка…»

Сёмкавы думкі краталіся Рыгора. «І Рыгора нават не клапоціць зямля — можа, гэта і лепш. Узяў вось, кінуў-рынуў Сілцы і паехаў — нічога пазадзе. Сілцы пры ім і без яго — тыя ж Сілцы; прыехаў у Рыгу — яго Рыга, пераедзе ў іншае месца — і там сваё. Рукі — вось яго статак. А каб гэта сказаў мне: Сёмка, едзь у Вільню ці ў Рыгу — кідай Сілцы, ці ж бы я паехаў? А бацькі? Ха-ха-ха! Рыгор мо і паверыў, што я ў адзін раз, раптоўна, вазьму і апынуся ў Рызе… Не-э-э, даражэнькі-ы сябру, мабыць, гэтага не будзе-э… Я так сабе, да слова, сказаў. Нялёгкая справа, — прыкаваўся да зямлі — тупай. Каб і хацеў — то не адарвешся адразу. Аднаму — сцены завода, другому — прастор нівы, лес, поплаў… Рыгор кажа, што «зямля любіць вучоных», то праўда. Шчырая праўда. Толькі тое бяда, што часта зямля не дае мажлівасці вучыцца. Ну, хоць бы ўзяць мяне: я цёмны нявольнік зямлі. Куды ж мне да горада!.. Я ведаю, што горад можа навучыць, як лепей і мацней змагацца за зямлю. Але мяне само жыццё загартавала на гэта».

Сёмка цалкам аддаваўся гэтым думкам, ажно забываў пра ўсё іншае. Конь паціху клыпаў, трасучы воз. Усё гарачэйшым рабілася сонца. Прыпякала, цяжыла яго, хіліла на сон. Але ён упарта адганяў дрымоту, папраўляўся на месцы і далей перабіраў думкамі. Ад тэмы аб зямлі — перайшоў асабіста да Рыгора, і адразу паўстаў яго вобраз у тым выразе, які адбіўся пры развітанні: як жывы, вось. Здавалася, што ён не пакінуў Рыгора ў Ліцку, а адвёз іншага чалавека. Вернецца ў Сілцы і стрэне яго ці на сценцы між палеткаў, ці каля хаты на прызбе. Сёмка пражыў і прадружыў з Рыгорам вясёлыя рэзвыя гады юнацтва: разам вучыліся ў дарэктара па хатах, разам рабілі саначкі і лыжы ды коўзаліся на іх; разам па чатыры гады пасвілі каровы. Дружылі і тады, калі падраслі і Сёмка стаў земляробам, а Рыгор астаўся служыць у балагольстве. Па адных зборнях хадзілі, браліся адзін за другога, калі хто хацеў аднаго з іх пакрыўдзіць. Самі ўдвух дайшлі да дэмакрацтва, і адначасна Сідар Вузел упісаў іх у сацыял-дэмакрацкую арганізацыю. Як жа забыць ім адзін другога? Як пагадзіцца з думкамі, што Рыгора ўжо не будзе ў Сілцах, калі вернецца Сёмка. Каб то Рыгор не прыязджаў — мо яно іначай было б: усё-ткі час патроху бярэ сваё — памяць паддаецца новым абставінам. Але Рыгор вазьмі — і прыедзь; а далей — спатканне, гульня, гутаркі, успаміны аб мінулым, і

мяжа перарэзалася, як бы Рыгор ніколі не выязджаў з Сілцоў. А гэта зноў — шась і знік, і не будзе яго… Няўжо такі не будзе?

Гэткі пераплёт жыццёвых з’явішчаў блытаў Сёмкавы думкі. Цікава ўсё робіцца на свеце!..

«Гэта ж прыеду ў Сілцы і мушу зайсці да яго мацеры, каб паведаміць, як і што мы даехалі. А пайду на зборню — Рыгора не знайду. Яго ўжо не будзе ў Сілцах, ён ужо будзе ў Рызе».

Сёмка азірнуўся навакола, мэрам хочучы праканацца, што ён адзін, без Рыгора. Узрок яго коўзаўся па гладзі руцяністай зелені і дзе губіўся ў сівай далі, а дзе перасякаўся сцяною лесу або шэрым узгоркам, — Сёмка Рыгора не бачыў. Ён ад злосці, ці з крыўды, хвасянуў займаздароў па кані і ўголас нокнуў: «Но-о-о, каб ты здохла! Падбяжы ж крыху!»

Конь ірвануўся і мо з паўганоў прабег скорым трухам, а далей зноў умерыў хаду.

Белая шырокая дарога выхілястаю стужкаю бегла далёка да ўсходу, рэжучы зялёныя нівы.

II

Быў палудзень, калі Сёмка прыехаў дамоў. Якраз нікога не было ўдому — на зашчапцы дзвярэй вісеў замок. «Дзе ж бы яны былі ўсе?» — падумаў Сёмка, супыніўшы каня перад дзвярыма і пазіраючы на гарод. Пасля злез з воза, пастаяў з хвіліну ды пачаў распрагаць каня. Але не паспеў ён рассупоніць хамута, як пачуў з-за вешніц голас:

— Дзень добры, Сёмачка! Ці ж ужо вярнуўся, сынок?

То казала Стэпа — Сёмка пазнаў па голасе.

— Ідзіце, цётка, сюды, — пазваў яе.

Стэпа прайшла ў двор, падблізілася да Сёмкі і некалькі хвілін памаўчала, сочачы за распраганнем. Калі ж Сёмка вывеў каня з аглабель, завёў у хлеў і стаў збіраць збрую, Стэпа ўлучыла момант і запытала:

— А як жа, сынку, заехалі?

— Добра, цётачка. Скора і добра. Пасадзіў яго на поезд…

— На поезд-і-ы?

Стэпа разгорнілася і ўцерла хвартухом вочы.

— Добра-а, кажаш? Мой сынок сеў на поезд ужо. Мае дзеткі, калі ж я яго ўгледжу ўжо… Гой, Сёмачка-а, дзе ўжо тое дабро. Вось ты прыехаў, а яго няма; вас дваіх у бацькоў ды абое дома, а гэта адзін-адзінёшанек, і таго не суджана бачыць. Адна мушу жыць, як манашка якая… І мне нядобра, і ён, пэўна, не зусім спакойны.

Абое прыселі на прызбе.

— Нічога, цётка, не сумуйце-е так… Ехалі мы весела, праз усю дарогу гутарылі, смяяліся. А на станцыі ў Ліцку я яшчэ падшукаў яму на дарогу дзяўчыну, як лялька. Разам паедуць… Вяргіня проста — куды там Прыдатчанка!

Перад Сёмкам выразна залунаў вобраз Ганны.

— Чаго тужыць, — далей казаў Сёмка, — вы думаеце, што толькі адзін Рыгор і паехаў? Тысячы людзей едуць: маладыя і старыя, адзінкамі і сем’ямі; пэўна, многія ад бацькоў у свет, іншыя да бацькоў, бацькі да дзяцей. З месца на месца, з горада ў горад, за шчасцем і праз няшчасце. А ўсе разам — ганяюцца за сваёю доляю, шукаюць чагось лепшага… Ці ж толькі вам адным нядобра? Гэта тут, у Сілцах седзячы, думаецца, што Рыгор адзін такі, а пaглядзелі б, што чаўпецца ў Ліцку на станцыі — дзіва!

Стэпа здзіўлена ківала галавою, і відаць было па яе міне, што сэрцу няма спакою ад Сёмкавых слоў. Мала дзе што ёсць — ёй балючы свае раны.

— Што ж, Сёмачка, — загаварыла яна, — і я б, мілы мой, ахвотна кінула б усё ды паехала з ім. Як падумаю, што мне адной давядзецца жыць — няма сілы цярпець.

— Пачакайце, вось: ажывецца трохі і перавязе вас да сябе. Ці ж тут вельмі трудная рэч?

— Ай, дзе там, сынок, везці старыя косці невядома куды, — не згадзілася Стэпа, — добра вам, калі вы маладыя, перад самым жыццём, а мне… Вось пацягаешся які гадок — ды на Пасечныя. Яно ж таму і цяжка гэтак, што на парозе смерці, можна сказаць, ды адной заставацца. Каб ранейшыя сілы ды рухавасць — мо б іншымі вачыма глядзела б, а цяпер вось… Як у людзей — то ёсць блізкія, родныя або свая добрая стача, а гэта — як кол той — адна-аднэю… А быў бы дома Рыгорка — іншыя паперы: я чула б сябе, як за мураванаю сцяною; захварэла — было б каму даглядзець, памёрла б — было б каму пахаваць па-людску. А цяпер, схопіць хвароба, задушыць, дык дзён пяць паляжыш, пакуль даведаюцца людзі. Або, каму гэта трэба праведваць? Каму і дзеля чаго я карысна? Вось, мой Сёмачка, у чым захаваны ўвесь жах мае адзіноты… Паглядзіш на другіх — вясёласць з воч не сыходзіць: дзеці дома, поўна хата гоману, рэзвасць, вясёласць нейкая, а ты, колькі ні прызірайся — Рыгоркі не ўгледзіш.

Стэпа да таго разгорнілася, што не магла далей казаць. Яна ўнырыла тварам у хвартух і мо хвілін пяць выцірала заплаканыя вочы… Ад гэтага ніякавата рабілася Сёмку: шчырая споведзь Стэпы праходзіла ў яго нутро і кратала за душу. Яго пачуцці

зліваліся з пачуццямі кабеты-мацеры і адчынялі перад Сёмкам глыбокую пустэчу, якую нядаўна займаў Рыгор. Аднак, не хочучы паддавацца сумнаму настрою, Сёмка жадаў развеяць яго і ў Стэпы. Памаўчаўшы крыху, ён зноў пачаў разважаць старую:

— Дый чаго ўжо вам, цётка, занадта сумаваць! Няўжо такі і сапраўды вы памрыцё, не дачакаўшыся Рыгора? Не трэба глядзець у вочы выключна нядобраму; трэба ведаць, што жыццё не без добрых выпадкаў. Вось пражывеце якога з паўгода адны, адале Рыгор забярэ вас да сябе, ажэніцца там, возьме многа пасагу і ўсё паверне на новы шлях. Рыгор — чалавек недурны; у яго ёсць і талент, і ахвота, і спрыт. Чулі б вы, колькі разоў ён мне дапамінаў, каб я, прыехаўшы, суцешыў вас, не даў сумаваць па ім.

Тон, з якім Сёмка выказаў гэтыя словы, яго бадзёры выгляд і адчуваная Стэпаю шчырасць ды спагада да сябе злёгку разагналі насядаўшы на яе цяжар, адчынілі ёй край цёмнага пазему і бліснулі крохкаю, нясмелаю надзеяй. Стэпа адчувалася крыху весялей, і месца смутку займала пачуццё невыказнай любасці да Рыгора.

— То ж то, каб жа так сталася…

— Або прыедзе сам па вас, — дадаў Сёмка, — забярэ і паедзе. Мо нечакана гэта выпадзе… Горад усё можа зрабіць — то не наша зямля, якая адно ведае — выцягнуць з цябе ўсе сокі, а пасля забраць у сябе.

— Ой, зробіць горад, — з напускным недавер’ем сказала Стэпа, — вось колькі часу ён пражыў у ім, а што добрае знайшоў? Толькі адно, што вытравіў хаценне жыць у доме, пры мацеры… Бачыш, сынок, ты тут цішком, паважна рыешся і рыешся ў зямлі, даглядаеш бацькоў і сябе, а Рыгор — носіцца са сваімі думкамі, плануе ды мяркуе немаведама аб чым. Думаеш, гэтае не мяшае яму? Вельмі ўжо шырокую натуру мае — каб усім добра зрабіць…

Сёмка не стрымаў ухмылкі на губах.

— Цётачка, ці ж гэта ганьба? Рыгор ведае, што толькі тады будзе добра і нам, як добра ўсім будзе. Ён ведае, што вам цяжка жыць таму, што занадта лёгка жыць другому. Або Рыгор паехаў бы ў горад, каб тут было добра?..

— Ай, дзеткі, дзеткі, што вы задумалі? Ці мала ў вас свайго клопату? Ласне вы можаце перайначыць тое, што вякамі стаіць?..

Стэпа не даказала — голас Сёмкавага бацькі, Хведара, які непрыкметна для іх падышоў к возу, перабіў Стэпін сказ.

— Ужо і дома? — раптам прамовіў Хведар.

— Як бачыце. Ужо больш гадзіны вас чакаю: прыехаў, а хата замкнута…

— Дзень добры, Стэпа! — перабіў Сёмку бацька і прысеў помеж са Стэпаю.

Дзве касы, што прынёс з сабою, палажыў з правага боку.

— А дзе ж маці?

— Або я ведаю?

— Пэўна, у траву пайшла з хлопцам…

— Так, так, Саламея… пайшла ў траву, я бачыла.

— Гм! А трэба было ёй ісці. Прыспела. Паабедаўшы, пайшла б… Нябось,есці, Сёмка, хочаш?

— Ды нічога, пачакаю.

Хведар выцер рукавом пот на лбе, разгладзіў доўгую клінастую бародку, паправіў косы і пытальным узрокам паглядзеў на Стэпу.

— А ты ўжо прыйшла аб сыну праведаць што-колечы? Непакоішся, вядома.

— Дзе ты бачыў — спакой! Сэрца чарнее, работа не міла…

— Вось то-та ж і тое: на свежую памяць… Што ж ты з імі парадзіш: кінуў і паехаў, а ты тут, маці, як сабе хочаш — сумуй, бíся, тужы… Гэткі ўжо свет.

— Навошта казаць — кінуў, — умяшаўся Сёмка, — а што б яму тут рабіць?

— Чаму, што рабіць? Касіць, служыць, а мацеру сцерагчы. Сцерагла ж яго, як быў малы, працавала. Нябось, згубіць мацеру — не знойдзе другое…

— Ды што ім бацькі!

— Або Бэрка не ўзяў бы да сябе?

Сёмка зарухаў на месцы.

— Кіньце ўжо гэтага Бэрку. Досі ўжо яму балагольства. Мала ён папацягаў цяжару ды папаблытаўся і ў Ліцк, і ў Вільню; увосень і ў мароз. Наеўся гэтага хлеба ўдосталь…

— Яно ж гэтак, сынок, не вельмі добра служыць балаголам, але як трэба — нічога не парадзіш. Робяць жа людзі і цяжкую работу. Вось Бэрка, глядзі, як неміласэрна працуе… Ды, думаеш, там, на заводзе, лягчэй?

Хведар безнадзейна матнуў галавою.

— Ай, кінь ужо ты, Стэпа. Ласне іх угаворыш? Не ў нас яны, што і казаць. На іншы шлях пайшлі — няхай. Пабачым — выйграюць што ці не…

— То ж вядома… Ды яно б маўчалася, каб тое здароўе або крыху лепшыя ўмовы жыцця; але ўсяго бяды — жыць старому няма як: чакалася ўцехі, вясёласці, а тут вунь што.

— Я ж ведаю. Вельмі дрэнна.

Хведар падняўся з прызбы і пацікавіўся на вуліцу.

— Прапалі недзе. Скора каровы пагоняць, а іх няма.

Падышоў да прызбы і праказаў Сёмку:

— Давай самім шукаць чаго есці; дакуль жа яе будзем чакаць.

— Ды я ўжо так і думаў; хіба дайце каню.

Хведар адшчапіў замок і пайшоў у сенцы, а Сёмка, падняўшыся з прызбы, падышоў к возу, каб зняць з яго салому, посцілку і палукашак.

Стэпа некалькі часу пасядзела моўчкі, а пасля ўстала з прызбы, зрабіла два крокі да вешніц.

— Дык дзякуй табе, Сёмачка, — прамовіла яна, мэрам апамятаўшыся, —хоць крыху адвяла душу, а то цэлую ноч непакоілася. Што ж зрабіць, няхай здароў едзе — гэтак ужо трэба… Хаця, сынок мой, не адмовішся ліста напісаць. Мо ж хутка паведаміць ён аб сабе?

Яна пайшла з двара.

— Добра, цётка, добра, — паслаў ёй удагон Сёмка.

І тут жа адцягнуўся думкамі ад Стэпы і ад Рыгора, а пачаў меркаваць, як і што павясці бліжэйшую працу на гаспадарстве. Здавалася, што гэты час як быццам бы павінен быць крыху вальнейшым, а то-та ж цэлая процьма работы! Папар не зяблены, пасека не ачышчана, не загароджаны пастаўнік, засекі ў гумне не падрапараваны. Ці ўдасца наогул справіцца з усім гэтым да касьбы! І Сёмку задрэнчыла хутчэй спяшыць у Лужкі, каб заараць к вечару ганоў з чацвёра. Ён паглядзеў на сонца — паказвала на другую гадзіну пасля палудня.

— Хадзі есці, — паззваў яго бацька.

Сёмку не вельмі хацелася абедаць. Утома ад бяссоннай ночы давала аб сабе чуць: балела галава, вісеў нейкі цяжар на спіне, рабілася млосна. Добра было б легчы адпачыць.

— Не хочацца есці.

— Хоць малака кубак выпі.

На гэта Сёмка згадзіўся: выпіў малака і хутка завінуўся каля воза.

Праз нейкі час быў гатоў і выехаў у Лужкі на ворыва. Дарогаю ён зноў углыбіўся ў думкі аб жыцці, аб яго разнастайных патрэбах і вымаганнях, аб настойным, упартым змаганні з ім. Дзівіўся, якім развоем здарэнняў патыхала ад яго, і адзначаў сам сабе паступовы поспех у сваім разуменні ўсё большага ліку жыццёвых з’явішчаў. І тут жа адчуваў, што чым глыбей адчыняюцца перад ім жыццёвыя тайны, тым веліч іх цікавейшая і ўражанне ад

іх большае. Ажно не хацелася ўглыбляцца ў яго нетры, а цягнула адвярнуцца на лёгкія зялёныя пейзажы прыроды.

Управа роўнаю сцяною струніў хвойнік, калісь яднаўшыся з густым непраходным лесам Скадыбамі. За Скадыбамі пачынаўся Жмыгінскі лес, а гэты, у свой чарод, падыходзіў да суседніх лясоў. Гэткім чынам на дзясяткі вёрст цягнулася шырокая палоса лясоў, якая абнімала вакола Сілцы, мэрам шалік чалавечую шыю. Сёмка ўваскрашаў перад сабою даўно забытыя моманты з часоў пастушыных, калі цэлымі днямі прыходзілася яму блудзіць са стадам па гушчарных нетрах ельніку, залазіць у балотныя багны, губіць гавяду і губіцца самому. Часта злучаўся з Рыгорам і, не паладзіўшы, разлучаўся: браў сваё стада і гнаў у іншы бок.

Ад хвойніку і пастушыных часоў Сёмкава думка пераносілася да недалёкай пары сёмага і восьмага гадоў, калі яму разам з Рыгорам упершыню цёмнай перадвелікоднай ноччу давялося раскідаць па дарогах пракламацыі. Вось па гэтай самай сцежцы, што зараз едзе, накладалі яны дзясяткі лістовак і кніжачак, якія заклікалі да нізрынуцця самадзяржаўя, да адабрання ад паноў зямлі, да заваёў устаноўчага збору.

А пад’ехаўшы да крыжавой дарогі, Сёмка пераносіўся ў яшчэ ранейшыя, юнацкія гады, калі верыў, што на скрыжаванні дарог водзіцца нячыстая сіла і штовечар палохае людзей. Колькі разоў ён напалохаўся тут! Помніцца яму — адзін раз нешта гналася за ім да самага мястэчка. Уцякаў, а калі прыгледзеўся — бегла Гладышова авечка…

А вось і грэбля! Тая самая, што летась бачыла дзікі вобраз здзекаў з яго паліцэйскага стражніка. Толькі падсохла зямля, як сагналі паўмястэчка на папраўку грэблі. Дзяўчаты, хлопцы, старыя, моладзь… Прыняліся за работу, а стражнікі ўсё падганяюць. Сёмку не сцярпелася, і ён агрызнуўся. А стражнік, нічога не кажучы, — раз, два, тры разы — нагайкаю. Ён паспрабаваў бараніцца, але куды там! Стражнік яшчэ больш раззлаваўся і даў не шкадуючы.

Па целе Сёмкі прайшоў сударажны ўздрыг, а ўнутры закіпела злосць.

Ён перакінуў узрок на захад, у бок панскага двара. Вузкая градка маладога бярэзніку адмяжоўвала панскую зямлю ад зямлі вяскоўцаў. Здаецца, нядаўна на тым месцы, дзе раскіданы хаты сялян, стаялі вялікія лясы, куды часта зганялі сілцоўцаў на аблаву на ваўкоў. Адну гэткую аблаву Сёмка добра запомніў. Пайшоў, адбіўся ад мяшчан, заблудзіў у лесе і да цёмнага швэндаўся па глыбокім снезе, пакуль выйшаў на дарогу. Папа-

калаціўся нямала! Цяпер тых лясоў ні следу… Бярэзнік вырас на вачах. О, гэты бярэзнік! Як любы ён Сёмку! У ім, гуляючы з Волькаю, Сёмка пачуў першыя пазывы любасці да яе. То была пара, калі маладыя бярозкі брынялі салодкім сокам. У шэрых мяккіх купінах тарчалі блакітныя вочкі пралесак. Рухавы заяц прабягаў некалькі разоў перад імі, абарочваючыся. То ён, то Волька ламалі пруткія ралкі голых бярозак і глядзелі, як з іх сачыўся сок. Як хацелася яго піць! Цяпер зялёныя лісці шатуюць маладыя галовы стройных дзярэўцаў. Пераліваецца залаты пыл сонца і п'ецца белымі камялькамі.

Дзе яна, Волька, цяпер? Арэ, сее ці мо ў бярэзніку?

— Но-о! малая, малая!

Пагнаў каня — бо нельга ж так захапліваццa ў той час, калі мусіш ехаць на працу, на капаніну ў зямлі! Але вачэй не закрыць — не спыніць узроку — так і цягне яго то сюды, то туды, з месца на месца. Пранёсся захадам ды поўначчу і рвецца на поўдзень-усход. Там сцелюцца між хвойніку паплавы сенакосу, упіраючыся ў маленькія засценкі і хутаркі. Зялёнае возера, сярод якога шэрыя выспачкі — будынкі. Куды можна заплысці па яго хвалях?

Сёмка пад'ехаў да месца, дзе трэба было зварочваць убок, на папярэчную сценку. Конь ужо ведаў гэта і сам павярнуў направа. Сёмку пакарцела праверыць, ці ўсё ў парадку на возе, ці не забыўся чаго-колечы. Паглядзеў і супакоіўся — было ўсё пад рукамі: прытуплены зрэзаны плуг, аброчная торба з кормам каню, прыпон і жакетка. Тады ён злез з воза, падвязаў лейцы за біла і пайшоў следам. Ішоў і аглядаў папарныя галы. Сонца шмат знізілася, але яшчэ грэла добра. Пахла сухою зямлёю і гавяжым гноем. Па свежай раллі скакалі кучамі вераб'і; бегалі жаўранкі і тупалі вароны. Птаства да таго было смелым, што і не ўважала ні стуку калёс, ні фыркання каня, ні посвісту Сёмкавай пугі. То сям, то там на шэрым галу бачыліся аратыя, якія прыдавалі свае манатонныя зыкі да рэзвага спеву жаўранкаў. Дзьмуў лёгкі ветрык, ласкаючы твар і зганяючы спякоту.

Праз некалькі хвілін Сёмка спыніўся каля свае палоскі, вузенькай, зарослай пырнікам і дробным дзятлікам. Праворна і ўвіхна распрог каня, залажыў яго зараз жа ў плуг, паправіў на возе торбу і жакетку і пагнаў. Лямеш глыбока нырнуў у зямлю, выварочваючы яе набок рассыпчатымі камякамі. Роўная істужка разоры ціха развіналася следам за Сёмкам, нідзе не адыходзячы ад мяжы на болей, чымся ставала ўлегчыся вывернутай плугам зямлі. Сёмка на вока адмяраў першыя гоны, якія хапалі ад сценкі да невялікага ўзгорку з тоўстым каменем пасярод палоскі.

## III

Упусціўшы плуг у зямлю а гадзіне шостай, Сёмка не выняў яго на працягу некалькіх гадзін. Гоны за гонамі, ён узараў без адпачынку, засаб, трое ганоў, пакінуўшы недаворанымі толькі адны. Араў наўздзіў ахвотна, з нейкім асабістым захапленнем, з заядласцю ўпартага, неўгамоннага крата. Дзе дзеліся тыя ўтома, млявасць і санлівасць, якія апаноўвалі яго ўдому і справодзілі на ворыва. Адкуль надыходзіла тая ахвота, стараннасць; нават карцела скончыць і чацвёртыя гоны, але, разлічыўшы, што можа захапіць змрок, Сёмка рашыў аставіць іх на другі раз. Ды нельга ж так мучыць каня, трэба адпачыць жывёле. Сёмка даў каню захвачаны авёс і, пакуль конь падпасваўся, прылёг каля воза.

Астылае паветра дыхнула вячэрнім заспакаеннем; адзін за другім сціхлі жаўранкі, сталі раз’язджацца аратыя. Пералётам да балот далі аб сабе знаць кані. Сёмка нічога не прапускаў, каб не ўсачыць, але, сцешыўшыся, усё ж не мог змагацца з надыходзячай санлівасцю. Пазіраў к небу, у яго глыбіню, і міжвольна плюшчыў вочы, мэрам бы нябесная сінь давіла на вейкі; аглядаўся на пачырванелае сонца, што села на лясныя верхавіны. Пасля апусціў голаў на скрыжаваныя рукі і паціху пачаў засынаць. Заснуў бы мо і надоўга, але раптоўны зык пастуховай трубы, даляцеўшы з-пад бярэзніку, абудзіў яго. Сёмка хутка падняў голаў і паглядзеў на каня: той стаяў на адным месцы, трымаючы на шыі пустую аброчку-торбу.

— Чакаеш ехаць! — выказаў Сёмка, падняўся і запрог. — Пакуль заеду, якраз змеркне, — і крануў.

Паганяць шкадаваў, а пусціў паволі — і так утаміўся конь. Сам прысеў на возе, бокам да каня, спусціўшы ногі між калёс, і бяздумна змоўк.

Моўчкі даехаў да шляху, не помніў і не прыкмеціў бы нават, што выехаў са сценкі, каб пры павароце не пачуў воклічу:

— У яму ўедзеш! Правей трымай!

Сёмка падняў голаў і абярнуўся ў бок воклічу. На грудку пры дарозе, аблёгшы на вялікі поўны мех травы, сядзела Зося.

— Адкуль ты вынікла, як русалка? Ці не ў канаве спала? — пажартаваў Сёмка.

— Гэта твой сон?

Зося паднялася.

— Ты думаеш, што я спаў?

— І думаць не трэба, калі бачыла; конь ліха ведае куды зайшоў, за канаву.

— Ці ліха? Няўжо такі я драмаў?

— Сумняваешся?

— Яно-то і не дзіва — увабраў за гэту пору нямала. Ну, ідзі садзіся, ды па дарозе пагутарым.

Зося спрытным замахам рук ускінула на пляча мяшок з травою, ажно схавалася пад ім, і паднясла на воз. Сёмка памог зняць і ўзлажыць.

— Садзіся на траву, — запрапанаваў і пагнаў каня. Яна ўскочыла і села тварам да Сёмкі.

— Чаму ты так позна варочаешся? — запытаў Сёмка, паглядзеўшы на Зосю.

— А чаму ты так позна з ворыва?

— Я?

— Так, ты…

— Бачыш, цэлая гісторыя са мною.

— Цікава.

Зося настаражылася.

У баку Жмыгінскага лесу пачуўся нястройны гук некалькіх пастуховых труб, яго дапоўніў плач жалейкі і трывожныя крыкі пастухоў. Да гэтых гукаў дадалі свой разнастайны рык каровы. Абое — Сёмка з Зосяю, забыўшы аб гутарцы, адвярнуліся к лесу. З яго гушчэчы, пацямнелай ад змроку, як з агромністай закуранай дымам і сажаю лёхі, роўным шэрагам, стройна, як птушкі на адлёце ў вырай, зашнуравала рознакалёрная, разнарослая гавяда. Матаючы галовамі і пачаргова рыкаючы, яна выводзіла сабою жывую нітку, якая пацеркамі раскідалася па зялёным гале выгану. Мэрам бы хтосьці раскідаў яе, як фокуснік стужкі, каб паказаць асаблівую стройнасць жывёльнага парада. Ужо пярэднія хаваліся ў платах гародаў, заходзілі за грудок і знікалі, а з лесу ўсё яшчэ не пакідалі паказвацца новыя і новыя. Хутка над іх шэрагамі завіўся камякамі белы лунь, выпушчаны пасекаю ды бярэзнікам, і акольны вобраз прыняў яшчэ больш дзіўны выгляд, дапамінаючы ўрачыстае вандраванне казачных пілігрымаў з ахвярнікамі ў руках. Забелены дол служыў ім абрусамі, а вячэрнія птушкі — вестунамі аб дасягненні блізкай мэты.

— Паглядзі адно, як цікава расцягнуўся цуг кароў! Вось колькі гавяды ў Сілцах!

Сёмка працягнуў пугаўё.

— А гэта ж не ўсе, гэта толькі з лясной пашы. Вось і згадзіся пастаронні, што Сілцы бедныя.

— А сапраўды яно і так — каб гэта зусім бедных, дык наўрад ці знойдзеш.

— Што ты, Зося! — пераняў Сёмка. — Плявузгаеш ліха ведама што. Як бы нічога не ведае… Колькі ёсць гэткіх, што малака ў вочы не бачаць; я не кажу таго, што ў большасці каровы — фундамент усяго: здохні карова — і няма чаго есці, і прападае гаспадарства. Гэткіх сотню можна налічыць… А Рыгорава маці?

Зося змаўчала; каб Сёмка паглядзеў на яе, то адразу падмеціў бы, што дапамінанне аб Рыгоравай мацеры адбілася смуткам на Зосіным твары. У нутры ж нельга бачыць — а там у Зосі так і захадзіла хадуном, так і разлілося нешта цяжкім атрутным жарам. Яна паправілася сядзеннем, каб хоць крыху астудзіць раптоўнасць у перамене настрою і думак… Стэпа — што, то, бач, Рыгор! Зранку кратаў ён Зосіных думак і пачуцця, а з паўдня да самага вечара і зараз вось, едучы і гутарачы з Сёмкам, яна выпадкова адцягнулася ад яго сваімі думкамі. І так было добра, лёгка і спакойна, нядбайна неяк! Не прыходзіла на памяць, што Сёмка ўчора адвозіў Рыгора, што сёння вярнуўся, што, адвозячы, пэўна, многа аба ўсім гутарыў з ім і… кратаў яе, Зосі. А гэта — на табе — нечакана!

— Што ж ты маўчыш? — паглядзеў ёй у вочы Сёмка.

А Зося ўжо цалкам была захоплена нахлынуўшымі на яе ўспамінамі аб нядаўніх днях, аб гульні з Рыгорам, аб выніках кахання і аб яго скутках. Жывасілам цягнула глядзець на дарогу ў бок Лужкоў, высочваць тую сценку, дзе яны развітваліся. Выпукла, як яблык, паўстаў перад яе вачыма вобраз Рыгора ў хвілі развітання: вось ён стаіць, спагадліва прынагнуўшы галаў і ўстраміўшы ў яе твар пытальны ўзрок. Стаіць і далей схінаецца да пацалунка: пара рук, важкіх, здаровых, выгінаецца ў дугу, адна настрэч другой, і змяёй агібаюць яе стан. Хвіліна, міг — і цёплыя губы кладуцца мяккім, сочным абрыкосам на яе прагныя вусны.

Зося парухала губамі, прыкусіла іх, мэрам бы хочучы праверыць, ці не пакінуў на іх Рыгор чаго-кольвечы. Тут жа захацелася ёй таксама, хоць бы ў сотай долі, адчуць тое самапачуццё, той настрой, тыя перажыванні-заміранні, якія прамігнулі пры тым пацалунку… Што б яна дала за гэта! Настойна выплывала з далёкіх глухіх куткоў яе нутра гаручая крыўда, — Зося не ведала, на каго гэту крыўду кіраваць, — чаму тады ў хвойніку ўсё так ціха, пуста абышлося? «То Рыгор вінават», — мігнула думка, як іскра з крэсіва, але Зося не пагналася за ёю, а барзджэй дастала апраўданні Рыгору: «А чаму ж Рыгор ажно на Лужкі прыйшоў да мяне? А чаму яго вочы тумаціліся слязьмі, калі ён глядзеў на мяне пры развітанні? А чаму ён мяне прытрымоўваў за руку,

калі я намервалася ехаць? А праз вошта ён у горнасці вымаўляў словы? А чаму, калі разышліся, дык пакуль можна было бачыць, раз-поразу спыняўся на мяжы, напружваў узрок праз шэрасць адвячорку і сачыў за мною? Напэўна, ён тады верыў моцна, што я не згублена для яго, што мы не разлучаліся ў той момант. Напэўна!»

Зосі здавалася, што так, — яна з кожным часам усё больш пераконваецца ў гэтым. А каб жа хто падмацаваў гэтыя яе дагадкі! Го, як бы яна была шчаслівая! На што б яна тады рашылася! Якім бы моцным штырхачом было б гэта ёй адважыцца да рашучых, непаваротных крокаў. Акрыліла б яе, паставіла б на цвёрды грунт.

«Ці не адкрыўся толькі Рыгор Сёмку? — падумала нерашуча Зося і неўпрыкмет паглядзела на яго. — Няўжо ён утоіць? Няўжо не прагаворыцца? Няўжо астанецца ўсё ў тайне?»

Зосі задрэнчыла вызваць Сёмку на гутарку. Як найхутчэй, каб паспець хоць што-кольвек пачуць, пакуль даедуць да мястэчка. Яна заварушылася на сядзенні, некалькі разоў глыбока ўздыхнула, павярцела галавою і стала перад пытаннем — з чаго ж пачаць? Ласне раптам, столькі памаўчаўшы, ёмка зачапіць Рыгора! Што падумае Сёмка? Ці не ўгледзіць яе слабасць?

Каб гэта сам Сёмка зачапіў гэта пытанне! Яна прагна сачыла за ім, заглядала ўкрадкаю ў яго твар, чакала. Але ён маўчаў, мэрам назнарок таксама чакаючы, што скажа яна.

Так праехалі з паўганоў.

Зося нарэшце не сцярпела.

— Сёмка! — раптам аклікнула яна. — Хоць бы ты расказаў…

І сумелася, не дасказаўшы.

— Аб чым? — запытаў Сёмка, дагадваючыся аб Зосіных думках.

— Ды аб тым, як вы ехалі з Рыгорам у Ліцк.

— А цябе гэта цікавіць?

— Пытаю — раскажы.

Сёмка ўсміхнуўся.

— Ехалі добра… Была цёплая ноч… Гэткая панавала ноч, што хацелася пяяць ды думаць… аб вас.

— Ты жартуеш, Сёмка! — не здаволілася Зося і працягла мятліцаю па яго твары.

— Я кажу праўду, я не люблю жартаваць… Рыгор праз усю дарогу гаварыў аб табе…

— Не жартуй, Сёмка! — перабіла Зося, а ў самое так і зацюкала радасцю сэрца. Невыказнае ўміленне разлілося па ўсёй істоце, і дзяўчыне стала добранька-добранька.

— Што ты ўшалопала.

— Я думаю, што калі ды ўспамінаў мяне Рыгор, то толькі ліхам.

— Каб мне такога ліха жадалі мае ворагі…

Гэты сказ паказаўся для Зосі сур'ёзным, і прыемнае пачуццё ўверанней завалодала ёю. Яна пачула, што вось-вось заплача ад шчасця. І яшчэ раз выспрабавала Сёмку:

— Ну ўсё ж, вельмі крыўдаваў на мяне Рыгор?

— Чаго табе хочацца? Ну, крыўдаваў… крыўдаваў за тое, што не мог папярашкодзіць бацькавай волі. Так, крыўдаваў, але на сябе. А на цябе — нізвання. За вошта мог ён крыўдаваць на цябе, калі ён так цябе шануе, шануе…

Зося абярнулася ў адно прагнае чуццё. Міжвольна падбліжылася да Сёмкі, ажно кранула яго шчакі сваёю, ды ліслівa, завабна паглядала ў яго замрочаны твар. Толькі б ён казаў праўду! Толькі б не прыхарошваў ды не прыбаўляў! Толькі б не суцяшаў! Ёй не трэба абманчывых мар!

— Ну, што ж ён хаця казаў? Што ён думае…

— Рыгор у многае верыць і на многае спадзяецца… Між іншым, ён прасіў мяне перадаць табе ўклон.

— Ты не хлусіш?

— Што ты, Зося, ушалопала сабе!

Сёмка нокнуў і абярнуўся да Зосі, пачуў цеплату яе цела. Тут жа раптам прыпомніў Ганну. Вакзал у Ліцку, суматоха, бегатня, процьма людзей і між усімі — Ганна. Падобная на Зосю, як блізнец.

Ён прыгледзеўся Зосі ў вочы і падумаў: «Якое ўражанне яна зрабіла б цяпер на Рыгора?»

Перад Сёмкам вырас радасны твар Рыгора, калі той угледзеў Ганну. «Пэўна, ён ужо зусім іначай думае аб Зосі, — і Сёмка пашкадаваў суседкі, як брат шкадуе сястры: Зося не ведае таго і не трэба, каб ведала».

— Ды што і за карысць, што ён думаў пра мяне. Усё роўна ад гэтага мала карысці, — уздыхнула Зося.

— Чаму?

— Ці ж ты не ведаеш? У мяне вызначаны шлях.

— Усё ў тваёй волі.

— Кінь-кінь, Сёмка. Мне тое самае казаў Рыгор. Я сама гэта ведаю, але я не ў сілах што-колечы зрабіць. Мне трэба падмога — трэба, бо я… тану. На мяне запала моцная варожая сіла, якая або задушыць мяне, або прывядзе да роспачы, да непрытомнасці, і тады толькі…

У Зосіных словах зычэла праўда: яна выкладалася Зосяю ў абголеным страшным выглядзе. Ці ж саромецца таварыша? Але ўсю цяжкую непрыкрытасць гэтай праўды Сёмка сам ведаў і адчуваў. Болей таго: калі ён дапускаў мажлівае захапленне Рыгора Ганнаю, то глыбіня Зосінай трагедыі намнога павялічвалася.

Сёмка бачыў гэта так яскрава, як свайго каня, што клыпаў уперадзе, як зорку, што міргала над маладым бярэзнікам, — і шкадаваў Зосю. Шкадаваў уразіць яе самалюб’е хоць адным намёкам на крохкасць далейшых іх адносін з Рыгорам. Нават сам цярпеў ад таго павароту спраў, які пхаў Зосю ў Берагаў абдым. Сёмку па яго шчырасці верылася да апошняга часу, што тыя некалькі дзяўчат-мяшчанак, з якімі доўгі час яму з Рыгорам, з Петрусём даводзілася гуляць, а гуляючы, уплываць на іх свядомасць, — што гэтыя дзяўчаты выхаваюцца пад іх уплывам у іншыя, больш чыстыя ад наслояў мяшчанскае бросні натуры, злучаць сябе з імі і пакажуць прыклад новае сям’і, новых абставін у сямейных адносінах. Раней малявалася гэта Сёмку ў ружовых фарбах і чакалася моманту першай спробы ажыццявіць крылатыя планы. Колькі было сяброўскай гутаркі на гэту тэму! Якою ідыліяй патыхала!.. А то-та ж — вось як. Падыходзіць момант — і ўсё рушыцца… Сёмка бачыць гэта перад сабою, а пасобіць не можа, і толькі мае самаўцеху, што цяжкія абставіны. «Якая ўсё ж крыўда!» І ў Сёмкі не паднімаўся язык на гутарку — хацелася маўчаць і не раніць Зосінае душы living рознымі абяцанкамі. «Пацешыў крыху — і будзе з яе. Хай памарыць аб шчаслівых хвілінах». Ён здаволіўся, што Зося сапраўды аддалася розным перадумам мінулага і маўчала. Вось, вось яны даедуць да мястэчка і зусім перарвуць гутарку, бескарысную, безгрунтоўную.

Ужо ім у вочы заблісkалі рэдкія агеньчыкі з вокан хат, пачуўся ўжо клапатлівы скрып варот, пярэгукі па дварах, перадсонны рык гавяды. Ужо конь пачуў блізкасць адпачынку і зарагатаў прывітанне мястэчку.

Моўчкі даехалі да платоў вулачкі, кудэю Сёмка накіраваў каня, мінулі першае гумно.

Зося агледзелася і прамовіла:

— Чаму ты сюдэю едзеш?

— Ды вось, хачу каня напаіць.

— Чакай, я злезу.

— Чаму?

Зося не сказала. Але Сёмка дагадаўся, што яна не хацела, каб Васіль Бераг ці яго маці ўгледзелі, што яна з ім едзе.

«Чаму ж бы мне не аб’ехаць іх хаты», — папікнуў сябе Сёмка і спыніўся:

— А хай бы даехала да студні.

— Усё роўна, дайду. Ты яшчэ будзеш каня паіць ды што, а я проста пайду…

Яна зняла з воза мех, падкінула на плечы і, падзякаваўшы Сёмку, паспешна пайшла ўперад. Сёмка знарок некалькі хвілін патрымаў каня спыненым, а пасля ціха рушыў следам за Зосяю. Ён бачыў, як яна, параўнаўшыся з Берагаваю хатаю, ускорыла хаду і за рэчкаю патанула ў цені. Даехаўшы да Берагаў, ён угледзеў вялікае святло ў іх хаце і пачуў рэзвую дзелавую гамонку. Стала ясна, чаму Зося не ехала з ім.

«Якая асцярожная ўсё ж», — праказаў Сёмка па яе адрасу і павярнуў каня ў бок студні.

## IV

Прычынаю таго, што ў Берагавай хаце жухацела святло ды ішла гучная гутарка, была невялічкая, зусім выпадковая суседская бяседа. Яе выклікаў сваёю асобаю старшыня Андрэй, які наведаў Берагаў па справе куплі імі пляца ў мешчаніна Шэі Краўца, на які пазарыўся сусед Шэі і завёў гутарку аб тым, каб памяшаць Берагам. Старшыня прыйшоў папярэдзіць Тадосю, а якраз у хаце папаўся і Апанас Хрыпак, Берагаў памежнік. Гэта надаўміла Тадосю пачаставаць рэдкіх гасцей. У дадатак яны пазвалі Хлора і Дзям’яна Квіту.

Усадзіўшы ўсіх за стол, Васіль з мацерсаю, не ў меру раздобраныя, тупалі вакол стала і шчыра ўпрашвалі выбачаць іх ашчаднасці і закусіць.

— Чым хата багата! — праказвала развясёленая Тадося. — Затое, даражэнькія, калі прыжджом Васілёвага вяселля, дык не гэтак загуляем!.. Закусвайце — вы ж у нас рэдкія госці. Як бачыце — сёе-тое прыдбана. Сяк-так пераажылі цяжкую пару, калі мне адной даводзілася на ўсе бакі кідацца… Ведаеце, мае даражэнькія, як пакінуў мяне гаспадар, дык так прыпякло, так прыпякло, што я думала — не акрыяю ніколі, вядома, адна. Васіль яшчэ малы, а гаспадарства нелапое, — і што ж ты аднэй бабе зробіш. Дзякаваць, Хлор пасобіў, а то б… ну, а цяпер усё іначай. Цяпер я пані. Мой Васіль — усё мае…

— Няма чаго казаць, — патураў Тадосі старшыня, — ты маладзец, кабета; я ўжо сяджу і думаю сабе: добра выкруцілася Тадося, пахавала гаспадара, нацярпелася, а ўсё ж і з гаспадарствам

справілася, і сына выхавала, як ляльку, ды жаніць прычакала. Відаць, што ты цяпер не пакрыўджана ў жыцці…

— Так, майго Васільку, каб не ўрачы, усе любяць за яго людскасць, самавітасць. Бацюшка ж — дык не нацешыцца, бо, прызнацца, апроч усяго ён у мяне і набожны. Жывём — а ніколі не сварымся, як то бывае ў іншых. Трэба мне — я ўступаю, прыходзіцца яму — ён падаецца; ніякіх супярэчак у хаце. Вось і цяпер, — парадзілася з Хлорам, каб жаніць — сказалі яму, і хоць бы слова — добра. Намякнулі на Прыдатчанку — добра.

Васіль маўкліва слухаў мацерыну атэстацыю і цішком толькі падліваў дзядзькам гарэлку ды падсоўваў закуску. Чуючы іншыя ліслівыя словы ад мацеры, ён адварочваўся ў акно і паглядаў у цемру надворка. І толькі тады, калі Тадося перайшла да вяселля, Васіль пачуў некаторую каразлівасць гутаркі і перасцярог мацеру:

— Ды будзе ўжо вам так расхвальваць мяне…

— Чаму? Ласне я ганьбую цябе? Можна ўсім ведаць аб тваіх дадатных баках, не пашкодзіць гэта… — не здаволілася Тадося.

— Так, так, так, — уставіў старшыня, — каб я меў гэткага сына, як ты, нічога не хацеў бы. Сваё званне з прыдачаю аддаў бы… Нават… — ён павесялеў і прыняў іншую, зухвальскую міну. — Каб ды ведаў, што будзе такі сын, прылажыў бы ўсе старанні мець яго… — Гэтыя словы рассмяшылі ўсіх; засмяяўся і старшыня. — Ну, вядома, — дадаў ён, — абы-якіх то і радзіць не варта; я такога правіла трымаюся. А харошага сына мець — трэба быць шчаслівым.

— Жартаўнік наш старшыня! — выказаўся Апанас і пастукаў Андрэя па плячы.

Гэта фамільярнасць казала за смеласць, якую прыдала Апанасу гарэлка. Увайшлі ў вясёлы настрой Дзям’ян і Хлор. Апошні шчыра паціснуў руку старшыні за яго словы, а Дзям’ян нават памкнуўся падняцца, каб пацалаваць Андрэя, але раптам перадумаў і толькі непрыкметна дзеля другіх пашавяліў губамі. Старшыню ж імпанавала агульная ўвага прысутных, і ён не саромеўся прыняць адпаведныя свайму чыну тон, позу і настрой.

— А думаеце, мужчыны, невялікая заслуга ў выхаванні Васіля за Хлорам? Па-мойму, каб не Хлор, то Тадосі б вельмі цяжка было справіцца з гэтым. Яна праўду кажа, адзначаючы гэта. Ужо тое колькі варта, што Хлор сумеў пераняць Васіля ад розных непахвальных кампаній. Тут патрэбна цвёрдая мужчынская рука, хітры падыход, каб правясці між ямак і калдобін. Маці! Мала што маці! Кабета, пры гэтым занятая кабета — ці ж бы

яна дагледзела за ім? І, будзьце пэўны, Васіль даўно круціўся б з гэтымі басякамі-дэмакратамі; а можа б, к гэтаму часу і сядзеў бы дзе. Цяпер дужа неспакойны час, скрутны так, што вельмі цяжка абмінуць, каб не папасці ў яго вадакрут. Вы паглядзіце! — старшыня ўвайшоў у апломбу. — Колькі вы налічыце у Сілцах, ды нават ва ўсёй воласці, гэткіх людзей, як Васіль? Нават мужчыны — і тыя, на іх цураха, многа дзе забаламучаны дэмакрацтвам — не кажу ўжо аб моладзі… Вось чаму Тадося павінна дзякаваць свайму швагру.

Словы старшыні пападалі ў цэль: Хлор няскрытна лісліўся імі, і пакуль Андрэй казаў, умільна пазіраў то на старшыню, то на Васіля, то на Тадосю. І думаў сам сабе: «А разумны, аднак, чалавек Андрэй. Нездарма каторы раз яго воласць абірае за старшыню. Удаецца ў кожнага жыццё і ведае яго, як сваё».

— Я — дзядзька Васілёў, — замяніў старшыню Хлор, — мусіў ахоўваць свайго нябога. Бо, праўду кажа наш паважаны старшыня, каб не глядзелі за ім, магло б многае што стацца. Цяпер, калі я гляджу на Васіля, устае гонар ва мне — то ж мой выхаванец. Я не хвалюся, а дзяцей гадаваць умею добра. Вось у мяне двое малых, а загадзя магу сказаць, што выведу іх у парадачныя людзі.

Хлор адкінуўся на сцяну і выцер рукавом губы.

— Вядома, вядома, вядома… — не астаўся ў даўгу Апанас Хрыпак. — З дзяцьмі, як са шклечкам, трэба акуратна абыходзіцца: так і сачы за імі, каб не выпусціць з рук. У мяне, праўда, іх няма, але ўжо лепш не мець, як мець распусных ды звіхнутых з пуці. Ці ж добра бацьку, калі яго дзіця ўлада арыштоўвае ды саджае ў астрог або ссылае? А гэткіх цяпер процьма: па ўсім краі, ва ўсім свеце. Пішуць жа газеты аб гэтым. Ды навошта далёка шукаць — калі вось, пад бокам, колькі хоць такіх: Сёмка Хведараў, Янка Змітраў, Пятрусь Прахораў, процьма… Як паветра якое — гэта дэмакрацтва; па ўсіх кутках і шчылінках разыходзіцца. Вунь і ўчора, расказвалі, дык чалавек пяць стражнікі прывялі з вёскі Катлоў. І, думаеце, што яны чаўплі? Сабралі ў нядзелю сход мужыкоў і давай пад'южваць: «Глядзіце, зямлі ў вас — курыцы ступіць, а пад бокам тысячы дзесяцін у паноў Камянецкіх. Адкуль яны набралі, як не паадбіралі ад вашых дзядоў, ад працоўнага народу. А яны забралі — дык і ў іх трэба забраць… Таксама і з лесам; у вас хаты рушацца, а ў паноў Камянецкіх — сотні дзесяцін страявога лесу. Яны сякуць яго, прадаюць і складаюць грошы ў банках, а на вас вада цячэ. Ці ж так справядліва? Ці ж мы павінны моўчкі глядзець на гэта?»

І іншага ўсяго набаялі мужыкам, а тыя вазьмі і паслухай. Назаўтрае ранюсенька сабраліся грамадою і гайда ў панскі лес. Пайшла павальная рубка. Іх прасіць, перасцерагаць — дзе там! Пакуль не вытрабавалі стражнікаў… Вось як… ці праўда, ці не? Андрэй ведае… А раней гэтага эканома збілі за пашу…

— Вядома, не хлусьба, — падмацаваў старшыня.

— Ай-яй-яй! Як распусціліся людзі! — падзівіўся Дзям'ян.

Пахаяў «бунтаўшчыкоў» і Хлор.

— Вось і бачыце! — заматала галавою Тадося. — І то, бадай, работа сілцоўскіх сацыялістаў? Пэўна так! З чаго ж яны жывуць? Хоць бы гэты Стэпінчык — ездзіць па свеце, як валацуга; мала чаго ён навучыцца! А прыедзе сюды — і давай пераймаць другіх. — Некалькі хвілін яна памаўчала, мэрам дапамінаючы аб нечым. — А Сахрона Быка, думаеце, хто спаліў, як не Стэпінчык? — дадала яна.

— Можа стацца, вельмі проста! — падмацавалі ў адно слова Хлор з Апанасам.

— Тут, на добры лад, мусіць Андрэй сказаць сваё важкае слова! — вывеў Дзям'ян.

— У чым? — не зразумеў Хлор.

— А ў тым, каб троха павылавіць гэтае рыбкі з сілцоўскага возера.

Старшыня задаволена ўхмыльнуўся. Пасля пагладзіў развесістую бараду і патрос паважна галавою.

— Вылавім! А вы думаеце, мы дрэмлем? Я ручаю сваёю галавою, што вылавім…

— Закусвайце, дзядзькі, — перабіваў Васіль, захопліваючыся гутаркаю мужчын.

А старшыня завяраў, рухаючы тулавам, рукамі, нагамі, мэрам бы дзеля таго, каб прыдаць сваім словам непарушную аўтарытэтнасць:

— Як венікам, вымецем усю гэту нечысць. Ведаеце, усё неяк не хочацца займацца; думаеш — а будуць крыўдаваць, а пачнуць наракаць… А зараз я бачу, што ўсе на маім баку. Грамада са мною. Чаго ж больш трэба! Вось я і прылажу пячатку…

Старшыня стукнуў кулаком па стале, ажно пасуда забранчала.

Васіль зарагатаў на ўсё горла і адышоў ад стала. Але тут жа скочыў на ранейшае месца і, скардзячыся, загаварыў:

— Дык ведаеце, дзядзечкі, на мяне і на Янку Грыба ўвесь час грозяцца. Нават па вуліцы прайсці боязна. Прыехаў, згуртаваў хэўру і пад'южвае…

Ад надышоўшай злосці Васіль не мог усяго выказаць і, замест слоў, некалькі хвілін адчайна памахаў рукою.

— Думаеш, ніхто не ведае? — уставіла Тадося. — А з Прыдатчанкаю праз каго ўсё выйшла? Праз гэтага самага абармота. Падгаварыў-падгаварыў дзяўчыну, наплёў усяго на нашу сям'ю й збіў з панталыку… То была добраю, рахманаю дзяўчынаю, а гэта гаварыцца не дае аб Васілю…

Тадося паглядзела на сына.

— Праўда?

Васіль кіўнуў галавою.

— Вось бачыце… Ну, яшчэ закусіце… Каб не бацькі — зусім звіхтавалася б дзяўчына. Але добра, што Мікола ды Марта моцныя людзі — узялі дачку ў рукі… Ого, што і казаць! Гэта згубцы нейкія… Тут толькі ад Андрэя залежыць…

Старшыня ж з усіх гэтых гутарак выводзіў адно: на яго сілу і начальніцкую моц «пакладаюць надзею многія паважаныя сілцоўцы». Значыць, яму суджана зрабіць вялікую справу «ўміратварэння» воласці. Няхай ён падчыняецца земскаму ці прыставу, а без яго нельга падысці ўмела і дасціпна да вясковых умоў. Гэта — заданні старшыні. Часамі гэтага не ўважаюць па начальству, а сапраўды яно несумненна.

— Будзь спакоен, Васіль! — пацешыў старшыня. — Усё зробіцца. Твайго кшталту людзям будзе заўсёды лепш жыць. Вер! Усе гэтыя дэмакраты і сацыялісты нойдуць сабе належны прытулак… Начальства не спіць, — Андрэй паківаў пальцам, — яно ведае, дзе ракі зімуюць…

У гэтым напрамку гутарка працягнулася яшчэ з паўгадзіны: госці не шкадавалі ні слоў, ні праклёнаў, накіроўваючы іх на бунтаўшчыкоў-дэмакратаў; вынаходзілі розныя абвінавачванні іх, прыпісвалі ім віну ў сухавеях, у градабіцці, у няўродах і інш. А калі выказаліся ўволю, расходаваўшы цікавасць і запас слоў, — перайшлі да песень. З добрага пачатку старшыні прапялі некалькі трапароў і перайшлі да свецкіх. У пяянні прынялі чынны ўдзел Васіль і Тадося. Да гэтага ўвіхаўшыся каля гасцей, цяпер яны прыселі да стала і шчыра, да адказу адчынілі вусны.

Пяянне забрала цэлых дзве гадзіны. Ажно здзівіліся ўсе, калі Хлор выпадкова паглядзеў на гадзіннік і праказаў:

— Ого, а ўжо гадзіна першая па поўначы!

Тады зарухалі на месцах і тут жа пачалі вылазіць з застолля. Першым вылез на хату старшыня. Каб паказаць сваю далікатнасць, ён падышоў да Тадосі, працягнуў ёй руку і падзякаваў;

тое самае зрабіў і з Васілём. Апанас і Дзям'ян абмежаваліся слоўнай аддзякай.

Тадося з прыемнасцю прыняла далікатнае абходжанне Андрэя і для выгляду запрасіла мужчын яшчэ крыху пасядзець.

— Чаго вам дрэнчыць? А калі ўдзень спачынеце? Расклапаціліся ўжо вельмі! Астанецца на ваш век працы! Частуйцеся!

У яе голасе і ў руках адзначаўся павышаны настрой і рэдкая для яе раздобранасць. Падыходзіла то да аднаго, то да другога і таўхала іх у плечы, цягнула за рукі, намервалася цалавацца. А калі ўсё ж гэта не пасабіла і госці намерыліся ісці, яна зрабіла нездаволеную міну і спакойна прамовіла да ўсіх:

— Ну, калі ўжо згаварыліся не паслухаць — нічога не парадзіш. Сілаю ж мы вас не ўтрымаем… — Крыху памаўчала і іншым тонам дабавіла: — То ўжо выбачайце хаця: чым хата багата. Прыжджэм Васілёвага вяселля — іначай загуляем…

І, правёўшы гасцей з двара, на развітанні дапомніла ім:

— Вы ж помніце тое, што я мушу вас бачыць на Васілёвым вяселлі. Вы дзеля мяне найлепшыя сваякі… Андрэй, ці чуеш? Прыяцель ты наш харошы — не адлучайся нікуды!

— Не, не! Дзякую, Тадоська, дзякую.

— Тут не ў падзяцы рэч…

Іх гутарка, рэзкая і гуллівая, сярод ціхай ночы зычным водгукам разносілася ва ўсе бакі.

Адказам на яе з Сівулінскай вуліцы данёсся трывожны стук браздзоткі. Гэта паслужыла перасцярогаю, і госці змоўклі ды паціху разышліся.

Тадося з Васілём вярнуліся ў хату і патушылі агонь.

## V

Вярнуўшыся з ворыва, Сёмка пры ўездзе ў двор прыкмеціў, што ў хаце сядзіць нехта чужы: запаленая лямпа сведчыла, што да іх зайшоў рэдкі госць — пры сваіх паліцца газнічка. «Хто б то быў і з якое прычыны, цікава?» — падумаў Сёмка і, як бы ў адказ думкам, пачуў:

— Дзе ты блытаўся гэтак доўга? Ты, брат, мы бачым, буржуем хочаш стаць: жарты, да поўначы сядзець на полі.

Сёмка пазнаў па голасе Сроля Доўгага, наезнага ў Сілцы гарбара, сябра сілцоўскай арганізацыі.

— А як жа, мушу гаспадарства даглядаць. Гэткія нашы ўмовы.

Злезшы з драбін і паглядзеўшы ў акно, заўважыў у хаце і Віктара Стаўбуна, які аб чымсьці вёў гутарку з Сёмкавым бацькам.

— Наша справа — не ваша: у нас няма абмежаванага рабочага дня: узышло сонца — выязджай, зайшло — канчай. А ў вас: перабыў свае дзесяць гадзін — і бывай здароў.

Загаварыўшыся, ён паціху пачаў распрагаць каня і ўладавацца з ім.

— Ды кінь ужо, я сам распрагу, — выйшаўшы ў двор, пераняў бацька, — хлопцы, вунь, чакаюць гадзін са тры. Ідзі да іх у хату… Пэўна, настаў, каб заараць усю палосу —- так бавіцца…

— А такі чуць-чуць і не ўхадзіў ад сценкі да граніцы, — пахваліўся Сёмка.

— Я так і ведаў… Чуеш, маці? — крыкнуў Хведар праз акно. — Сёмка ўхадзіў каля чацвярых ганоў! Ха-ха-ха! Вось маладзец!

— Ды навошта табе было гэта?! — выказалася маці.

Сёмка пакінуў бацьку пры кані, а сам увайшоў у хату і павітаўся з таварышамі.

— Бачыце, як страшыдла якое! — паказаў ён на сваё адзенне. — Калі тое будзе, што магчыму я з поля прыехаць падобным на чалавека?

— Можа, і будзе, — выказаў Сроль, — тады, як і мы лепей выглядацьмем.

— Ды не, дзеткі, вам гэтага ўжо не прычакаць, — разуверыла іх Сёмкава маці, — хаця б так, як ёсць, было б заўсёды…

Сёмка прысеў на ўслоне, скінуў шапку і паведаміў таварышоў:

— Думаеце, чаму я так запазніўся? Ехаў да гасподы і напаткаў Мікалаішку Зосю; узяў падвезці, і як разгутарыліся, дык і заняўважылі, ці ідзе конь, ці стаіць. Так шагам і краталі болей гадзіны.

— Мы так і ведалі, што тут не без прычыны, — пакпіў Сроль.

— То-та ж: дзяўчына тым болей.

— Ды ты за дзяўчатамі, бадай, шчырэй гонішся, як за зямлёю, — дадаў Віктар.

Маці за нечым выйшла ў сенцы.

— Ды тут, ведаеце, надзвычайны выпадак; трэба было з Зосяю перагаварыць сёе-тое. Рыгор перадаў паклон, а побач хацелася вызнаць яе настрой у звязку з сватамі, усё разам мела пэўную цікавасць…

— Дык Рыгор, знача, ужо кінуў нас, — з несхаванаю спагадаю вымавіў Віктар, — так, а шкода, ведаеце, яго. З ім іначай чулася.

Каб жыў тут — можна было б шырока працу развярнуць — яго і вопыт багаты, і здольнасці немалыя… Бяда наша ў тым, што нічога добрага не застаецца ў нас; вынікне, пакажацца таленавіты хлопец — і зараз жа едзе ў горад. А тут — як была пустач, так і астаецца… Вось і паварушы людзей…

— Няма з намі, то ў горадзе сваё нагоніць, —суцешыў Сроль.

— У горадзе! — не згадзіўся Віктар. — Горад больш нашага мае… ды гораду не столькі людзей і трэба… Самы грунт у нас ды вось у гэтых вёсках. А Рыгор якраз і падходзіць да мясцовых умоў: селянін, і гэткі верны сацыялізму… Нездарма ж яго так ненавідзелі нашы багацеі. Чулі, чым пахла ад яго. Колькі стараннеяў палажылі, каб збавіцца як…

— Праўда, праўда, — падмацаваў Сёмка, — каб Рыгор пабыў яшчэ колькі часу, дык нездабраваць бы яму…

— Ну, з часам аддзякуем.

Сёмка засмяяўся і пачасаў патыліцу.

— Братка Сроль! Хто яго ведае, ці хутка дачакаем мы таго часу… Бачыш, прыкмет мала. Дзевяцьсот пяты год адышоў далёка, а новага не відаць. Тым часам абцугі ўсё цясней сціскаюцца.

— Пэўна, яшчэ шмат трэба змагацца. Можа, і не прычакаць нам. Ну а дзеля другіх не трэба?..

Сроль змоўк і паглядзеў на дзверы. Сёмкавы бацькі ўвіхаліся на двары, абгаворваючы хатнія пытанні. Брат Сёмкі, Ігнатка, што дагэтуль пільна прыслухоўваўся да іх гутаркі, знябыўся і прыкархнуў.

— Слухай, Сёмка, — ціха, на вуха Сёмку, прамовіў Сроль, — мы прынеслі да цябе схаваць літаратуру: толькі што атрымалася з Вільні. Трэба будзе распаўсюдзіць на Пётру, а ў нас няма як пакінуць. Ты дзе-колечы ў гумно ці ў хлеў запхні, і хай пакуль паляжыць.

Сёмка памаўчаў і прычыніў акно. Падумаў крыху і адказаў:

— Што ж зрабіць: няма дзе ў вас, захаваю я. Ці ж то першыня? Прыносьце.

Сроль засмяяўся.

— Ужо прынесена — вось.

Ён паказаў на нелапы пак паперы.

— Тут пяць тысяч — хопіць па ўсіх дарогах. На Пётру ў абед трэба будзе рассыпаць.

Сёмка ўзяў пак і хутка аднёс яго ў падпечак.

— Заўтра перахаваю…

У гэты момант у хату вярнулася маці. Не падазраючы нічога, яна адвярнулася ў мыцельнік і пачала ўвіхацца з пасудаю. Неўзабаве ўвайшоў і Хведар.

— Сёння ўжо хай конь пастаіць у хляве, — прамовіў ён да Сёмкі.

І прыняўся за люльку. Шчыра зацягнуўся некалькі разоў засаб і пусціў на хату густыя камякі дыму. Па хаце расплыўся цяжкі ўдушлівы імпэт атрутлівага самасею. Маці не ўцярпела і вылаялася:

— Прыпаў зноў, як муха да мёду. І не скучыць, ліха яму! Адну за другою, адну за другою. Гэта ж сталёвае сэрца трэба… Ды тое перапятрае… Можа, ужо і так усё нутро прасмаліў. То ж жартачкі, няма ўнімку, няма сціханку: смаліць ды смаліць… Вось жа і Сёмка мужчына, а і не падумае…

— Будзе, годзе, годзе ўжо! — пераняў Хведар. — Ты мяне не перайначыш…

Ён сеў каля печы і прадаўжаў спакойна курыць.

— Цьфу! — сплюнула маці і перайшла на ціхі голас.

Сёмка пераглянуўся з хлопцамі, і ўсе цішком засмяяліся. Але, каб не прыдаваць увагі бацькоўскім спрэчкам, яны перайшлі да новай гутаркі, якую ўзняў Сёмка.

— А вы ведаеце што? Нашым хлопцам усім трэ было б у горадзе пабываць. Апроч карысці — іншага нічога. А то мохам абрасцём у гэтым глухім кутку.

Віктар выйшаў на хату.

— Ды, прызнацца вам, — з настроем прамовіў ён, — я такі і рашыўся пусціцца за Рыгорам. Паеду, павандрую па свеце. Можа, не загіну… Працы найду — абы здароўе было. Няпраўда?

— А што ты думаеш? — падтрымаў яго Сроль. — Паедзеш і работы дастанеш, і свету пабачыш, і назад вернешся. Ды калі які час прыйдзецца без працы пабыць — выручаць хлопцы… Я таксама быў у гэткім становішчы, як з Веліжу ў Сілцы дабіраўся: каля дзесяці местаў праехаў, пакуль натрапіў на работу; і хлопцы ўсюды выручалі — не галадаў. А з дому пусціўся з адным рублём… А калі часамі і давядзецца крыху пацярпець — што ж: на горы жыць вучацца.

— Ды яно ж так. Баішся воўка — у лес не ідзі. Думаю восенню проста на Слонім пусціцца.

— Хіба і мяне бяры з сабою? — напаўжартоўна ўставіў Сёмка. — Куды ж мне аднаму ў Сілцах заставацца. Хай яна залядзеецца, гэта зямля.

— А чаму ж не? — ухапіўся Віктар. — Сапраўды, давай разам. Збяры з поля, і паедзем.

Сёмкавы бацькі нашарохаліся: Рыгор быў яскравым прыкладам. Чаго добрага, возьме і паедзе і Сёмка. Хведар заварушыўся

на лаўцы і мнагазначна кашлянуў. Настаражылася ў мыцельніку маці; яна кінула важданіну з пасудаю і адвярнулася да хлопцаў, паглядзеўшы на іх сур'ёзным узрокам.

— Бацькі ж мо не будуць пярэчыць? — дапэўніўся Віктар і паглядзеў на мацеру.

Тая зрабіла крок уперад і замахала падкасанаю рукою.

— Вось ты толькі не пад'южвай Сёмкі, — з налётам злосці ў голасе праказала яна. — Збіраешся ехаць — то едзь сабе здароў… Добра табе, калі яшчэ твае бацькі маладыя ды здаровыя… А Сёмка на вошта нас пакіне? Жабраваць? Вунь глядзі, як Стэпе соладка без Рыгора… Едзем!.. Едзь…

— Чакай, чакай, Саламея, — перасцярог жонку Хведар, падняўшыся з лаўкі і выйшаўшы на хату, — ты не крычы гэтак, можна і ціха пагаварыць… — Ён пагладзіў бараду і адкашляўся. — Баба — па-бабскаму… Давайце цішэй пагутарым… Вось хоць бы ты, Віктар: кажаш — разам з Сёмкам ехаць у горад. Пачакай жа, ну, а ты ведаеш, што гэта цягне за сабою? Пэўна, і не думаеш аб гэтым: сказаў — і ўсё. Ты ж рамеснік, а Сёмка? — хлебароб. Ты ў кожным месцы можаш дастаць работы — а Сёмка? За дворніка якога ці за вартаўніка ісці? Чым ён выйграе на гэтым? Абы ў горадзе быць… Браток, перад тым, як зрабіць, трэба перш добра падумаць ды рашчытаць: а што ў скутку атрымаецца?

Хведар падступіўся яшчэ бліжэй.

— Вось у нас маецца мізэрнае гаспадарства — ведаеш сам: крыху тае зямлі, пара кароў, свінчо, каняка; мы паціху варушымся каля яго, уходжваемся і сяк-так назбіраем на год хлеба; а то прызаробім часамі — так і жывецца. Няважна, бедна, затое незалежна; як і што захацеў — тое зрабіў. Не так — сваё дзела, асабістае. А ў горадзе? — папіхачом быць. Вось што важна, браце.

— То-та ж і ёсць, — дадала маці.

— Ат, дзядзька, часамі і не гэтак! — не згадзіўся Віктар. — Вы кажаце — ніхто вас не чапае? А сапраўды — кожны дробны начальнік мае ўласць над вамі.Ураднік, старшыня, сотнік — каму няцяжка — кожны мае права парканууць вас. Гэта толькі лічыцца — вольны… А бывае ў горадзе — так добра нападзеш на работу, што можна махнуць рукой на ўсё іншае. Едуць жа без жаднага рамясла і жывуць… ды яшчэ як жывуць! Хоць бы ўзяць Рыгора; які ён вельмі быў рамеснік — а, бачце, так падвучыўся, што зараз лічыцца лепшым спецыялістам.

— Або ты ведаеш? — перабіла Саламея.

— Ды не, братка, Сёмку няма чаго зарыцца на горад. Я б і не перашкодзіў яму, нічога, але трэба праўду казаць…

Хведар махнуў рукою і вярнуўся на лаўку. Прынялася зноў за кінутую работу Саламея. Хлопцы пераглянуліся між сабою і нейкі час памаўчалі. Сроль пaглядзеў у акно і паказаў на нешта Віктару. Перашапнуліся.

Пасля Сёмка знарушыў маўчанку:

— Ай, яно-та нам і ў горадзе кепска, дый тут не лепш. Каб ужо сапраўды тая гаспадарка, а то сорам сказаць. Часам падумаеш-падумаеш — і, здаецца, кінуў бы яе ды збег куды-небудзь. Слёзы — не жыццё. Каб не верыў у будучыню — не варта было б і жыць…

— Дый што ты, сынок, кажаш! Не грашы яшчэ за сваё жыццё. Вунь як жыў з мацераю, пакуль агораў гэту зямлю! Хлеба ў хаце не было, абадранымі хадзілі. А прыходзілася маўчаць, — каму ж паскардзіцца!

— Эх, дзядзька, — умяшаўся Сроль, — у тым уся бяда, што вы маўчалі. А мы ўжо не думаем маўчаць. І каб павясці іншае жыццё — дык ездзім па гарадах, вучымся, як адвыкнуць ад маўчанкі.

Хведар падняў вочы і некалькі хвілін пільна паглядзеў на Сроля. Пасля спагадліва выказаўся:

— Што ж, зычу поспеху. Ці ж я супроць гэтага што маю? Ніколі. Вучыцеся жыць іначай — можа, што і выйдзе, але… ласне ўся навука ў горадзе? Адны няхай тут, а другія — там. Бо калі і перайначваць — то з адным горадам не патрапіць…

Саламея адышлася з мыцельніку да печы і завіхнулася ў качэргах.

— Выбачайце, — раптам перапрасіў Сроль, — мы да таго засядзеліся, што далей нельга; а тым часам Сёмка галодны сядзіць. Даруйце, што перашкодзілі вам цэлы вечар… Самі павячэралі, а людзям…

Яны накіравалі да дзвярэй.

— Ды нічога. Думаеце, мы вас саромеліся б, каб ужо вельмі хацелі есці? — супакоіў Сёмка.

— Усё ж нам пара ісці.

Хведар злез з месца і намерыўся прайсці за хлопцамі.

— Выбачайце, што горача пагутарылі з вамі. Усяк бывае…

— Ды што вы! — у адзін аголас загаварылі Сроль з Віктарам. — Хто мог падумаць гэта? Ласне мы не ведаем цёткі ці дзядзькі? Вось калі! Наадварот — яшчэ нам трэба перапрасіць вас. Бывайце здаровы!

— Ідзеце здаровы, дзеткі.

Яны выйшлі з хаты. Хведар пайшоў за імі. А Сёмка адвярнуўся к акну і пачакаў, пакуль таварышы прайдуць міма.

— Ну, бывай! — кінуў Віктар.

— Прыходзьце нядзеляю!

— Яшчэ мо і да нядзелі разоў пяць наведаем.

Апошнія словы Сроль падаў з канца двара, пасля чаго хлопцы схаваліся за рогам. Сёмка паглядзеў услед ім, адале кінуў узрокам на неба.

— І цямнюткая ж ноч! — здзіўлена праказаў сам сабе. — А паветра — мэрам бы хто разліў луг. Проста як удзень! Добрая ўстанавілася пагода. Каб толькі так пастаяла які тыдзень — то ўжо і касіць патрэбна.

— Ды будзе не будзе пагоды, а дзён праз дзесяць трэба збірацца на касавіцу, — рассудзіў Хведар.

Саламея падала вячэру на стол.

— Будзеце хлопца.

Хведар падышоў да ложка і пачаў катурхаць Ігнатку. Хлапец паварушыўся і штосьці замармытаў.

— Уставай! зверадзіўся вельмі!

За вячэраю ўзнялася хатняя гутарка.

— А ў каго вы куплялі косы? Ці добрыя хаця будуць? — запытаў Сёмка бацьку.

— Хто іх ведае: выбіраць-то я, здаецца, выбіраў старанна. Можа, з сотню перабраў. Звіняць добра… Ды ліха іх бяры, на касавіцу хопіць. Не ўлезеш жа ў сярэдзіну!

— Пэўну. Толькі і бяды…

— Толькі і бяды! Чаму ж ты гаворыш так? Цудны які? Гэта ж грошы каштуе! А дзе ты іх набярэшся, калі пачнеш выкідаць… — уставіла Саламея.

Хведара заўзяло:

— То хай бы сама пайшла і купіла! Ушчуваць можаш, нябось, а самой зрабіць — няздатна.

Сёмка заспакоіў бацькоў.

Пагутарыўшы яшчэ пра сенакос, як і што прыдабыць яго збоку дзесяціну-другую, сям’я скончыла вячэру і разышлася спаць. Было ўжо за поўнач.

VI

Сілцоўцы пачалі касавіцу за чатыры дні да Пётры. Пагода якраз устаялася і абяцала пацягнуцца надалей. Гэта спрыяла касавіцы, і нельга было адкладаць. Тым болей у гэтым годзе швыдка паспявала жыта. За якіх тыдні паўтара пасля Пятра магло наскочыць жніво.

Ужо дзён за два перад выхадам на паплавы пачалася падгатоўка: сілцоўцы зарухалі каля гумен, каля кос, каля вазоў. Хто цягнуў з лесу жэрдзе для стаўбоў, хто ўвіхаўся з сухастоінаю-ялінаю, апрацоўваючы яе на рубель, хто строіў кассё, хто майстраваў да парога ці да калодкі бабку. А з палудня перад днём касавіцы пайшло агульнае, дружнае, як па згаворы, кляпанне кос. Перш рэдкія нясмелыя стукі паляцелі з аднаго двара, адгукваючыся праз вуліцу ў другім, а пасля часцей і часцей, пераскакваючы з двара на двор, з вуліцы на вуліцу, пакаціліся яны срэбным шротам усцяж вуліц, праз гароды і сады, па ўсім мястэчку. Зазвінелі тысячамі неразрыўных, перабойных удараў, зліліся ў густыя пацёкі з'яднанага пагоджанага пяяння. Мэрам бы па нейчым вяленні іх стальны перапеў выліваў магутныя мелодыі працоўнае сімфоніі.

Час ад часу, паперамення, неабачнаю хваляю пераліваласся ўдоўжкі і ўшыркі лёгкае ападанне гукаў траскатні, каб зараз жа аддацца новым уздымам. Праз гадзіну, калі стук увайшоў у раўнавагу, ён, здавалася, зліўся ў адну суцэльную крэпкую гаму, выглядам конуса, верхавіна якога сыходзіла ўверсе вострым шпіцам, а аснова шырокім веерам абдымала ўсе Сілцы. У віхры бразгу танулі ўсе іншыя зыкі. Ды іх, напэўна, не было ва ўсім мястэчку. Бо птушкі, што не паспелі вылецець у поле, гавяда, што асталася пры доме, дзеці і старыя, што не адлучыліся з мястэчка, — усе замоўклі і прыслухоўваліся да ўрачыстых зыкаў кляпання кос. Нават дзярэўцы ў садах настаражыліся і не трапяталі лісцем; нават ветрык, зранку павяваўшы, прыціх паміж платоў, за вуголлем, знізіўся да раслін. І атакованае на небе сінім, пабялелым ад жары, сонца не хацела доўга сходзіць кнізу. Толькі цёплае паветра, раскалыханае самым стукам, нервова трапяталася пад асвечанымі капяжамі хат, над зелянінаю гародаў, у шчылінах загарадзі. Мэрам бы ўцякала кудысь к лесу, за мястэчка, на прастор, дзе б не гудзелі гэтыя сталёвыя восы.

Кляпанне цягнулася да заходу сонца, да цёмнага, урэзалася ў нетры ночы, дасягнула поўначы і, праўда, зацішаным голасам, але падляцела на спатканне ўсходу сонца. І было яму вітан-

нем, і было разам маршам для касцоў, якія з расою, якая нібы вытварылася з гучных мільённых удараў малаткоў, пайшлі на свае палоскі.

Так, касцы амаль што не спалі. Чуць завязаўся ў небе золак, яны паўзнімаліся з пасцелі, зарухалі, забегалі… У белыя торбачкі ўлажылі прыгатаванае жонкамі і мацяркамі снеданне. У спалосканыя баклажкі нацадзілі халоднае, чыстае вады. Перакрыжаваліся, мэрам рыцары, зброяю, ядою і трункам. І, як тыя ж рыцары, у роўна-белым зрэбным палатне, з косамі, адбітымі да бляску, адточанымі да брытвы, уснашчанымі мянтушкамі, пашнуравалі сценкамі і дарожкамі, сцежкамі і межамі ў бок хвойніку. Шнуравалі, а святло ярчэла, золак разгараўся: у першых — серабрыліся на косах джалы, а ў чародных чырванелі. Першыя адзначалі кассямі косыя крыжы на ўзрошанай траве, а апошнія не падмочвалі і ног. Але к усходу, калі над хвойнікам спыхнуў крывяны пажар праменняў і вярхоўі стройных хвой абярнуліся голкамі ў бок выглядаючага сонца, і апошні касец змоўк, перабег прагон ад Сілцоў да паплавоў і стаў у новы шэраг, у шэраг на работу.

Тым жа з’ядналым гмахам, які выцінаў музыку кляпання, захапіліся касцы ў касьбе. Так плывуць рыбакі на доўгім, лёгкім чаўне, паднімаючы і апускаючы ў ваду вёслы; так сякуцца ў атаках на вайне, размахваючы шаблямі, штыхамі. Касцы — былі першым шэрагам салдат, што ідуць у наступ, стыкаюцца з ворагам і пачынаюць секчыся. Толькі мігалі доўгія дугі пад лязамі блішчастых кос! Толькі свісталі смяртэльную песню стромныя замахі, кладучы свежую траву ў роўныя пакосы. Мэрам разгорненыя сувоі палатна, рассціляліся роўныя пракосы зялёнага мяккага мошасту. Радкамі, на локаць адзін ад другога, між прагалін зялёнай пакошы. Пракос ад пракосу аддзяляўся густою бародкаю травы, якое не падцінаў насок касы…

Над зялёнымі паплавамі насіліся дробныя хвалькі густога паветра; качалі на сабе матылькоў, стрэлак, вос, блыталі лёгкія нітачкі-павуцінкі. Трапяталі незгамонныя жаўранкі, то ўзнімаючыся высока ўверх, то каменем падаючы ў траву. А трава, падцятая касою, выдыхала сваё зялёнае жыццё густым мядовым водыхам. Дзяцельнік выпускаў белы мёд, мяцёлка — крышталёвыя капелькі сіропу, малачайнік — ліпкую, белую смятанку, казачкі — цукроўку. Кожная травінка, кожная зялінка вылівала апошнія сокі, варочаючы іх паветру, касцам, каб пасля пераняла іх зямля дзеля новага ўзросту травы. І шырокімі, бурлівымі пацёкамі разліваўся пахучы водар над поплаўным галам, паіў

касцоў, бадзёрыў іх для несупыннай працы, жывільнаю сілаю пераліваўся па разгарачаных постацях, асвяжаў кроў, бунтаваў сэрца, роіў бадзёрыя жыццярадыя думкі і надзеі.

Глыбока дыхалі касцы! Узнімаліся падгарэлыя смуглыя грудзі, выстаўленыя з-пад кашулі на гарачае сонца, пілі мядовы сенны пах; трапаліся на галовах лахматыя палойкі нерасчэсаных валос, цвёрда пераступалі ногі. Тыя, што прыйшлі першымі, урэзаліся сваімі палоскамі глыбей ад другіх, ад прыйшоўшых пазней. Шэраг касцоў выглядаў паломаным, пабітым на ўступы, але калыхаўся раўнамерна, як па ўказцы. Толькі тры-чатыры чалавекі з агульнага ліку папераменна мянцілі косы. І шасталі мянтушкі скрыпячымі зыкамі, пераплятаючы імі посвіст кос, і аддавалася рэха дзесьці далёка-далёка за паплавамі, мэрам бы звала каго… Звала грабцоў.

Ужо з абеду пачалі яны прыбываць на пакос. Ішлі па адным, па два, грамадкамі; з паднятымі ўгору граблямі, з гаршчэчкамі і слоікамі, неслі абед для касцоў — вясёлыя, рухавыя: жанкі, дзяўчаты, хлапчукі, дзеці; жанкі і дзяўчаты ў белых хустачках, схаваўшы не толькі голаў, а і ўвесь твар, у лёгкіх кашульках, высока падаткнуўшыся. На зялёных межах выразна адзначаліся тоўстыя ікры ног, як белыя слупкі; над гладдзю жытніх палеткаў, паспяваючых ужо, калыхаліся пукатыя грудзі. Дзе ішла грамадка — чуліся песні: неразрыўным касніком слаліся ад Сілцоў да паплавоў.

Абед рабіў перабой разгойданай працы: касцы клалі на пракосах косы, утыкалі іх пры сабе і ўсаджваліся за яду. Пачыналася гутарка, але ненадоўга. Няможна марнаваць часу: толькі мігалі рукі над гаршкамі. У хвілі спраўляліся з страваю, запівалі падагрэтай у баклажцы вадою, уціралі рукавом пот і зноў браліся за косы. Мянцілі, пазіралі на сонца і на поплаў, адмяралі шагамі правідловасць мяжы.

Касілі.

А пабялелыя пракосы, накошаныя зрання, перакідаліся грабцамі на другі бок. Мігаліся граблі, і ў агульным выглядзе паяднаная работа касцоў і грабцоў выказвала сабою вясёлую, рэзвую ігру-гулянку ў русалкі, у карагод ці што іншае.

Яшчэ дзівавей стала к вечару, калі на паплавах пачалі ўзрастаць круглыя стройныя копы: яны выступалі, мэрам з зямлі, адбягаліся адна ад другой, гналіся за касцамі, ухіляліся ў бакі.

Вертунамі забягалі між іх шалаўлівыя дзеці. І асеўшае над лесам сонца разагнала іх доўгія цені. Пастухі прыгналі стады кароў: пакоша — каровіна вяселле. Замукалі, зарыкалі, уподбег кінуліся на поплаў. Захрумсталі зубы сочную, маладую травіцу.

## ЧАСТКА ПЯТАЯ

### I

На Пётру ў Сілцах фэст. Але людзей вабіць не гэта, а тое торжышча, якое з даўных-давён адбываецца ў Сілцах у дзень гэтага свята.

Штогод Сілцы старанна гатовяцца да яго. З далёкіх аколіц, з суседніх мястэчак, а то і з павятовага горада з'язджаюцца на гэты дзень тысячы народу, які напаўняе мястэчка данельга. Ад ранняга ранку да позняга вечара вядзецца бойкае, буйнае торжышча. Ідзе гандаль на жывёлу, на збожжа, на рэчы хатняга вырабу. А помеж з гандлем адбываюцца пачосткі па карчмах, запоіны, барыш. Тут нямала перападае і сілцоўцам. Кожны з іх мае знаёмага на вёсцы, які лічыць сваім абавязкам натрапіць да яго фэстам з цэлаю сям'ёю. А як жа з госцем не пачаставацца? Гэта не часта, а раз у год. І ідуць пачастункі, вядуцца сватанні, раскідаюцца запрасіны. Пройдзеш па вуліцах Сілцоў, падзівішся на рынку — учуеш песні, угледзіш пацалункі…

У гэты год, дзякуючы добрай пагодзе, з'езд народу перавысіў папярэднія гады: ужо зранку на рынку мала было вольнага месца. А к палудню ўся плошча да таго была напікована падводамі і людзьмі, што новапрыязджаючыя мусілі спыняцца ў вуліцах, захопліваючы іх далёка ў бок ад рынку. У сілцоўцаў — дык процiў свята занялі ўсе двары… Шырока разняты кірмаш глушыў мястэчка. Злітным грамавым гудам вісела над Сілцамі кірмашовая тарабаршчына. Крыкі гандляроў, смех гуляючых, рагатанне коней, рык гавяды, піск свіней — усё злівалася ў адну шумную басовую ноту. Яе гудзенне агартала шырокую аколіцу, цягнучы ў свой вір старога і малога. Людзі плылі да рынку, як вада, і ў згушчаным натоўпе, паднімаючы пыл, пацеючы, брудзячыся, удыхаючы цяжкае, смуроднае паветра, мітусіліся, мэрам мурашкі ў разварушаным мурашніку. Між бакі вялікага квадратнага пляца цягнуліся праходы-дарогі, а па іх бесканечнаю чарадою тупалі тысячы людзей. Пярэсценькія галовы, растыканыя парасоны, паднятыя ўгору аглоблі! На рынак сышліся ў лепшых вопратках, з рознымі надзвычайнымі думкамі і намерамі, з паднятым настроем, і кожны даражыў торжышчам, баючыся, каб дождж не папсаваў пагоды і не перабіў разнятага плана. Раз у раз сотні ўзрокаў падніmaліся ўгору, ганяліся за бела-цёмнымі воблачкамі і судзілі аб пагодзе. Хэўрамі дзяўчаты і хлопцы, паркамі, па адным па некалькі разоў абходзілі двухвярстовае кола рынку, перакідаючыся дзе ўзрокамі, дзе смяшком, дзе словамі. Сярод

гандлёвых гутарак і чыннасцей ішлі палюбоўныя прызнанні. Поруч з купляю-продажам, заўсёды абманным, зараджаліся знаёмствы, якія абяцалі шчаслівыя хвіліны доўгіх, часта шчырых любошчаў, кахання.

## II

Пасля гутаркі з Сролем ды Віктарам наконт распаўсюджання пракламацый Сёмка ўсе дні перад Пётраю абдумоўваў, як і што лепш будзе зрабіць гэта. Некалькі разоў ён патыкаўся зайсці да Сроля і планава абгаварыць, намеціць хлопцаў і падзяліць дарогі; але пачын касавіцы не даў мажлівасці зрабіць гэта; самі ж Сроль з Віктарам таксама не надаўмілі сябе прыйсці да Сёмкі парадзіцца. Так міналі дні — так падаспеў Пятрок. Сёмка зранку, не ўстаючы з пасцелі, сам стаў абмяркоўваць гэта пытанне: «Ісці гутарыць з Сролем — няма рацыі. Трэба сказаць Петрусю, і ўдвух пойдзем на Ліцкі шлях, к Жмыгінскаму лесу і зробім справу. Будзе шыта-крыта. А то, чаго добрага, выбаўтне хто. А цяпер гэткі цяжкі час! Арышты ў Катлах і настойныя гутаркі аб тым, што будуць трасці па ўсіх Сілцах. Няхай камітэт сам думае».

З гэтым рашэннем Сёмка а дзясятай гадзіне сустрэў Петруся. Расказаў яму — той згадзіўся. Да Сроля рашылі не ісці, а лепш прайсціся па рынку — вызнаць што-колечы. Так і зрабілі. Выйшлі на рынак і абышлі некалькі разоў вакол плошчы, раззіраючыся ды прыслухоўваючыся. З паўгадзіны патупалі з дзяўчатамі. З другімі хлопцамі не хацелі сустракацца, каб не траціць часу. Але якраз на рынку напаткалі Сроля і ў кароткіх словах паведамілі яму пра свой план. Сроль адобрыў.

А дванаццатай гадзіне Сёмка з Петрусём былі ўжо дома. Пятрусь зайшоў да сябе, а ў гэты час Сёмка збегаў у гумно па пракламацыі, пералажыў іх на дзве часткі, для сябе і для Петруся, і захапіў на ўсякі выпадак рэвальвер, які пра запас ляжаў захаваным у страсе падпаветкі.

Пятрусь гародамі перайшоў да Сёмкі, узяў частку пракламацый і вярнуўся назад, каб выйсці за мястэчка паасобку. Але гэта не ўдалося — выйшлі і стыкнуліся ля Сёмкавай хаты. Пасмяяўшыся — пайшлі ўдвух, ні на вошта не патураючы, — з гутаркаю, з смехам.

Каля хаты Прыдатных сцішылі хаду і кінулі ўзрокамі ў адчыненае акно. Прымецілі, што ў хаце ішла клапатлівая мітусіна, разбаўленая вясёлаю гутаркаю. З дзясятак дзетак вілося перад хатай і на двары, забягаючы нават у сені. Палілася ў печы.

— Прыдатныя гатуюцца.

— Так, збіраюцца выпіць за Зосіна здароўе.

— А, бачыш, Бераг узяў верх…

— Што ж парадзіш — не было настаяшчай супярэчкі…

— А добрая дзяўчына застанецца заразе…

— Вельмі шкода Зосі.

— Па праўдзе сказаць, Рыгор многаму віною…

Пятрусь пытальна паглядзеў на Сёмку.

— А што ж Рыгор? Сілаю не возьмеш. Наогул у Зосі не хапіла рашучасці. А паглядзеў бы, як чужыя дзяўчаты. Вунь, на станцыі ў Ліцку я запрыкмеціў дзяўчыну, каля нас сядзела, паказаў Рыгору. Поўнае падабенства Зосі! Рыгор гэта, нічога не кажучы, — шморг, павярнуўся да яе, кіўнуў-маргнуў і пачаў гутарку. Мо, думаеш, пасаромелася, ці што? Адкуль тая рэзвасць знайшлася, смеласць — у адказ ды ў адказ… Тут жа пазнаёмілася з Рыгорам — адно я сяджу ды і дзіўлюся, як усё проста, звычайна. А каб, сказаў, дзяўчына абы-якая — лялечка: ні каліва не ўступіць Зосі. Пэўна, трэба думаць, што Рыгор і паехаў з ёю сумежкі… А каб гэта на нашых дзяўчат, дык ці сядзела б моўчкі, ці плакаць кінулася б…

Пятрусь зацікавіўся гутаркаю Сёмкі — зацікавіўся тэмаю апавядання.

— Гэта было на ад’ездзе? — запытаў.

— Так, вось-вось…

Пятрусь сказаў:

— Яно-то праўда, што Зося паддурыла. Чаго ёй было трусіць! Жыватугам не аддалі б. Пагрызлі б бацькі, пагрызлі б, а пасля і замаўчалі б.

Гутарачы, яны сышлі з горкі, мінулі рачулку. Каля Берагавай хаты прымоўклі і пільна паглядзелі ў вокны, ці не сядзіць хто і не бачыць. У вокнах ніводзін нікога не прыкмеціў, а Пятрусь угледзеў на дзвярах замок і штырхануў Сёмку, праказаўшы:

— На рынку недзе, хата на замку.

Тоўсты жоўты сабака, Ніц, расцягнуўшыся пірагом, чутліва ляжаў у кутку між плотам і брамаю. Расплюшчыў вочы і правёў хлопцаў.

Далей, між гумнамі, пэўней было ні з кім не спаткацца: нідзе нікога. На рэдкіх прыгуменнях пасвіліся прыпятыя коні, на невялікіх дзярэўцах чырыкалі вераб’і. Але — пакуль узышлі на грудок — хлопцы азіраліся назад. Азіраліся і лавілі вушамі прыліў рынкавага гоману, які саматугам адрываўся з зямлі ды нёсся ўпрочкі з мястэчка. Кірмаш кіпеў буйным жыццём, не

патураючы на нічога, папераджаючы ўсю іншую справу кожнага сілцоўца і блізкага Сілцам чалавека. Напэўна, каб і сказаў каму, што якіхсьці пара хлапцоў кінулі ўсякую ўрачыстасць у мястэчку і накіравалі за якімі там справамі ў поле, — ніхто не паверыў бы. Як, ласне, можна памяняць фэстаўскае свята Пётры на што-колечы іншае? Каму гэта ў галаву ўпадзе? Мо адной толькі паліцыі. Але то не дзіва, бо яна ніколі не спакойна. Усюды і ўсягды ёй бачыцца і сніцца, як людзі заняты справай змагання з існуючым ладам. Потайкам і яўна. Скрытна і адкрыта. Проста і хітрыкамі. Усе, усе, а найпаўней — моладзь. Арганізацыя — рамеснікі, краўцы, гарбарчукі.

Гэта мелі на ўвазе Сёмка з Петрусём, калі не верылі загуменнай сцішы і правяралі сябе частымі возіркамі. Не шкодзіць быць старожкім… Пакуль яшчэ можна абхітрыць у выпадку чаго.

Але гумны хутка апынуліся ўзадзе: перад імі разляглiся папарныя галы, на ганоў двое ад апошняга гумна. Загуменні калыхаліся румяным збожжам усіх выглядаў — ад жыта да канюшыны. Мэрам знарочыстая разасланая тканіна — зялёна-светла-зялёная з жоўтымі палоскамі разгарталася абапал сценкі збажына. Управа, на поўнач, з-за лёгкага ўзгорку віднелася страха бліжэйшых да Сілцоў хутароў, ад іх убок — крыжаваў крылы вятрак. Вось выбег з-за мяжы, з-за жыта нейчы сабака, плямісты, буйны, і пусціўся наўскасяк, праз папар, да млына. Пэўна, пачуў іхнюю прысутнасць, бо, адбегшыся, пачаў раз-поразу азірацца. Доўга не выходзіў з вачэй, а пасля знік за горкаю.

Хлопцы правялі яго ўзрокамі і адвярнуліся к лесу, які перапінаў папарны разгон. Над яго шэрым галам лятаці рэдкія жаўранкі, але чамусьці не хацелі шчабятаць. Накіроўвалі да паплавоў, што ганоў праз пяцёра, у лёгкай лагчыне, зялёнаю плямінаю пярэсцілі шэры гал.

На папярочцы-сценцы, што аддзяляла загуменні ад папару, хлопцы прыпыніліся парадзіцца, як ісці к лесу — ці праз папар, ці загнуць на пасеку, у бок Масткоў. Вымеркавалі час, далечыню, выгаднасць пустэчы папару і пастанавілі шнураваць нацянькі, усцяж палосак. Выбралі шырэйшую мяжу і адзін за другім, гуськом, пайшлі.

Мястэчка аддалялася — апускаючыся за горку. Гоман рабіўся ціхім, глухім. Каркала варона ці квактала перапёлка, выпадкам пралятаўшы над імі — заглушалі яго.

Каля поплаву хлопцы перайшлі на косую сцяжынку, што вытапталі каровы, а пасля даездзілі хурманкі. Сцяжынка меркавала тым жа кірункам, што і самы шлях, толькі на адгон,

невялічкаю палогасцю, нібы баючыся выявіцца. Была выгадная дарога, але падбліжаўся лес і сурова пазіраў цёмнымі вачмі на бунтаўшчыкоў. Таіў у сваіх нетрах невядомае, неспадзяванае. Нейкаю скрытнаю сілаю закідаў на хлопцаў і заварожваў да сябе іх узрокі. Абодва з пачуццём няпэўнасці адчувалі яго блізасць — знаёмае пачуццё настарожлівасці перад важнаю справаю, а для другіх перад праступкам. Сёмка маўчаў — маўчаў і Пятрусь. Кожны ведаў пра другога настрой, навошта казаць. Нават не пераглядаліся, а, устраміўшы вочы ў цёмную сцяну, ішлі, не думаючы вяртацца, не азіраючыся.

Здалося даўгаватым, пакуль параўняліся з гранічкаю, але з гранічкі адразу, занядбаўшы ўсё — скокнулі ў кусты. Затрашчэла галлё — панёсся водгук. Толькі пташкі адклікнуліся! Лес жыў сваім жыццём: гулі шэршні ды авадні; доўб дзяцел сухастоіну-асіну; пархалі жаўтабрушкі, валовыя вочкі, сіваваронкі. Сам сабою абламваўся струхнелы сук і гопаў у мяккую траву; ад трапунковага ветру разам ускалыхваўся арэшнік і рабаціў уваччу; смуглымі камякамі між густых елак ціснуўся змрок. Людскога жыцця — ані знаку.

Улева прасвечваўся гасцінец. Не аддаляючыся ад яго, хлопцы прайшлі ганоў двое лесам і спыніліся супроціў балот.

— Я думаю гэттака! — сказаў Сёмка.

— Давай.

Прыселі пад ельнікам. Дасталі з-за пазухі пукі пракламацый, дыхнуўшых свежаю хварбаю.

— Ты бяжы на той бок і адыдзіся ўперад, а я пачну згэтуль.

Пятрусь пакінуў Сёмку; выбег на шлях, паглядзеў у абодва бакі, матнуў рукою і схаваўся ў кустах. Сёмка пайшоў за ім, таксама абсачыў шлях — нікога, і пачаў раскладаць белыя паперынкі. Палажыў з дзясятак — пры хвоях — на елках, пры каменнях… Адагнуўся — і ўгледзеў Петруся. На момант сумеўся. Але тут жа адышоў і ўвішна, бегаючы завілінамі, далей клаў бунтоўныя думкі на зямлю, каб пасля перакінуць іх у нутры сялянства.

Хутка шлях ганоў на трое быў убраны пракламацыямі. Хлопцы цешыліся, гледзячы ды падсцілаючы гусцей.

Параўняліся з Юкаўскаю дарожкаю, якая выдзялялася з шляху і паварочвала ўлева. Прыпыніліся за ельнікам.

— Рэшту давай за канаўкаю рассеем.

— Па-мойму — на Юкаўскай дарозе…

Раптоўны стук калёс перабіў іх: хлопцы тут жа, як стаялі, пападалі — але не спалохаліся: падводаю паліцыя не паедзе —

то з рынку. Прагарнулі раўкі і сталі сачыць, прыслухоўваючыся. На нейкі час стук заціх, а данеслася невыразная гутарка; пасля зноў затарахцелі калёсы. І калі параўнялася з імі падвода, хлопцы ўгледзелі на ёй траіх мужчын, кожны з пракламацыяй у руках. Учуткі чыталі. Па тварах бегала радасная ўхмылка.

Сёмка штырхануў Петруся ў бок, той азірнуўся — і засмяяліся абодва.

— Ці ж не прыемна гэта бачыць? — шэптам праказаў Сёмка.

— Я думаю.

Пaціху хлопцы адышлі ў кусты і скасілі на Юкаўскую дарогу. Выйшлі на яе на крутым загіне, адкуль не відаць было шляху ні з аднаго, ні з другога боку на сажняў пяць.

Давай тут раскідаем рэшту і пойдзем хутчэй; зараз пачнецца раз’езд.

Яны шпарчэй забегалі па дарозе, рассяваючы рэшту пракламацый. Угусцілі дарогу, мэрам заслалі палатном; начаплялі на кусты.

— Хопіць многім. У добры час!

III

Абодвума валодаў уздымны настрой; не хацелася вяртацца дамоў — паглядзець бы, як сяляне пачнуць разбіраць агітацыйныя лісткі! Тут жа, пад бокам у паліцыі, развінаецца вялікая справа агітацыі супроціў пануючага ладу! Якая рызыкоўнасць! Подзвіг! Хлопцы адчувалі сябе ўдзельнікамі агромністага змагання за вызваленне працоўных з-пад цяжкага ярма. Гэта адзнанне ўлівала ў іх нутро смеласць і задзёр. Лічылі сябе шчаслівымі, што ачуліся ў гэткім становішчы, і не хацелі ўспамінаць нядаўніх перажыванняў. З-пад кожнага куста глядзелі на іх не згусткі цемні, а светлыя пляміны. Елкі, арэшнік — смяяліся трэпаннем ралак і лісткоў. Дурманіў пах смалы.

Хлопцы пастаялі хвілін з дзесяць пры дарозе, палюбаваліся зробленым і заспакоенымі накіравалі дамоў. Яны не згаворваліся, кудою вяртацца, але кожны без гэтага ведаў, што лепей усяго ісці праз пасеку, а там жытнімі палеткамі, зусім іншым бокам, як ішлі к лесу. Моўчкі сышлі ў кусты і павярнулі нацянькі да палеткаў.

— Давай выйдзем на сценку, — запрапанаваў Сёмка, калі яны прайшлі з паўганоў кустамі.

— Давай!

Заламалі ўлева, прайшліся гушчарняком ганоў двое — не патрапілі і завярнулі направа.

Недалёка пачуўся пастушы гоман; зарыкала карова. Хлопцы на некалькі крокаў злевілі, але натрапілі на балота і мусілі трымаць правей.

— Заблудзілі, мабыць, — усумніўся Пятрусь.

— Нічога, давай больш не зварочваць.

— Я ўсе вочы павыпорваю…

Нарэшце нечакана ачуліся на граніцы пасекі.

— Выйсці-то выйшлі, але з якога боку?

Пачалі адгадваць, меркаваць, пазіраць на сонца.

— Спанталыжыліся.

Улева ад іх прагукаў пастушок — «кся-а-го-го-а-го!».

— Давай направа.

Хлопцы прайшлі некалькі сажняў і ачуліся на роўненькай, зарослай мяккаю мураўкаю, палосцы. Яна паходзіла на мяжу, а не на праезджую дарожку. Лахматымі грыўкамі, мэрам палоскі дэсні, выступалі два каснічкі травы паабапал лёгкае лагчынкі, кудою калісьці ступалі коні. За каляінкамі для калёс — шырэйшыя стужачкі таго ж травянога ядвабу. З густога лесу жыта, спалавелага, вытыркалі ўперад сінія галоўкі цыбатае валошкі, падгалісты куколь. Між комлікаў — вілася і на таўсцейшым — то тут, то сям — гадзінаю абкручвалася бярозка. Маленькія вочкі — яе цвет — глядзелі на падсушаную зямлю і губілі ў яе шэрасці свой бледна-сіні, на чужых соках выхаваны колер. На сценцы бялелі цюцюпаны, абдуванчыкі, жоўты малачайнік. Па ўсёй гэтай маўклівай прыгожасці — толькі паўзком, мімалётна — каўзанулі хлопцавы ўзрокі і пасля краскі і зелень, і жыта — асталіся для сябе чакаць больш цікавых, больш уважлівых, больш цёплых вачэй і шчырых адносін. Можа трапіць часам да іх гарадская дзяўчына, якая гадамі не бачыла поля, убачыць і выкажа спагадлівыя словы: «Якая прыгожасць!» А яны — Сёмка ды Пятрусь хлебаробы, што ні дзень, ужо праз колькі гадоў стыкаюцца з імі пры нараджэнні і пры ўміранні, пры зацвітанні і адцвітанні. Прывыклася: ім зараз вось патрэбна інакшае хараство — хараство высокіх пазываў, магутных калыханняў, несупыннага ўздыму.

Хутка выйшлі за ўзгорак, аперазаны долам — ганоў пяцёра ад пасекі і з вярсту ад Сілцоў. Прыпыніліся, як па згаворы. Агледзеліся навокал: ззаду шырокім дыванам — далёка ўшыркі і карацей удаўжкі — рассцілалася пасека — пасбішчы; улева, паднімаючыся даверху, на другі ўзгорак, кацілася паважнымі хвалямі жыта. На ўзгорку стыкалася з небам, і здавалася, статкі авечка-хваль паднімаліся ўгору, каб упасці на яго сіняе гала. Упе-

радзе зноў жа ўзгрудак хаваў ад іх Сілцы. А ўправа — разгортвалася шырокая даліна: канчалася жыта — пачынаўся выган, а за выганам, аддзяляючы яго ад папару, віўся Ліцкі шлях. Ён увесь — наколькі ахапляла вока — быў запоўнены хурманкамі і пешаходамі — жыў, плыў рэчкаю бурліваю. Грукацеў, курыўся пылам. То раз'язджаўся кірмаш — ехалі дадому далячэйшыя госці.

Шлях прыкаваў хлопцаў да сябе: яны ўстраміліся ў яго пільнымі ўзрокамі і мералі ад лесу да ўзгорка. Прагліся пранізаць вачмі чорную сцяну дзярэў, дасягнуць да таго месца, дзе раскіданы пракламацыі, і глядзець, як іх будуць падбіраць. Супыняцьмуцца хурманкі, злазіцьмуць мужчыны ці хлопцы, падбірацьмуць па дзве, па тры штукі.

— Ведаеш, Сёмка, так і цягне вярнуцца ды паглядзець.

Пятрусь стаў на наскі і працягнуў голаў, як бы хочучы перакінуць узрокі праз лес.

— Нічога не будзе. Падбяруць. Давай ісці, — пацягнуў яго Сёмка за руку.

Яны пайшлі, апускаючыся ў лагчыну. Шлях карацеў, а пасля і зусім знік з вачэй — заступіла жыта з усіх бакоў, як сцяна. Прыпарвала. Хлопцы знялі шапкі. Хацелася абодвум піць.

— К вечару, а гарачыня.

Калі зноў пачыналася ўзгор'е, пры заломе сценкі, улева, жытамі, сілцоўскія людзі пралажылі вузкую, беленькую сцяжынку, нацянькі, як аднаму прайсці.

— Заломім сюды і праз гароды.

— Не спрачаюся.

Ішлі, працягнуўшы рукі — згіналі жыта — і гутарылі.

— Мала ўсё ж на гэткую граmаду! Ці было ў нас з тысяча? — шкадаваў Пятрусь.

— Хопіць. Было тысяча. Хай толькі кожную прачытае адзін чалавек.

— Тысяча чалавек! А часта адну прачытае некалькі ды ад сябе перададуць. Калі яшчэ тое будзе, што аратар магчыме казаць прамову гэткай граmадзе сельскіх людзей. Падумай — тысяча! Няхай палова пяройме думку і то што значыцьме!

Пятрусь памаўчаў.

— Добра-то добра… Але колькі патрабуецца часу, пакуль мы гэткім парадкам раскалышам вёску! Гукаем, швэндаемся ўкрадкаю па лесе ды па полі, а след дзе?

— Што ты так раптоўна заняпаў духам! Муха за палец укусіла!

— Не жарты! Сапраўды кажу.

— Кінь, браце. Захочам — і свет перавернем... раней ці пазней, а перавернем. Закружыцца, як калаўрот, і толькі пыл паляціць ад старога... Вунь — як на Ліцкім шляху...

— А ты, як бачу, загарачы... Каб вачэй не засыпала.

— Прывыклі да пяску — усё жыццё рыемся.

— Было б добра...

Гутарачы, глядзелі то на сцежку, пукатую, з бакоў абмытую вадой, то на мігаценне каласоў — і не заўважылі, як падняліся на ўзгрудак, дзе меншае жыта выкрыла іх. Ветрык, нагнаты з палудню, дзе згушчаліся хмары, трапаў іх косы і студзіў твары. Пачуўся выразны гул кірмашу, усё яшчэ зычны, цвёрды, мэрам бы ніхто і нішто яго не разрэдзіла к вечару... Мэрам бы яго была несчарпаная крыніца, што вылівала ва ўсе бакі па гасцінцах, а дапаўняла з-пад зямлі, каб трымаць адзін ровень...

Зноў Ліцкі шлях — той самы наплыў людзей... Як бы знарочыста наладжаная помпа выпампоўвала нязлічаны лік хурманак і вылівала іх з цесных вуліц на польныя галы. Ажно бурліла пры будынках, што былі апошнімі ад поля.

Хлопцы не спускалі вачэй, любуючыся людскім вірам, пакуль не зайшлі ў гароды, адкуль гумны засланілі шлях.

## IV

Панясло гноем і пылам — мястэчка. Праз вузкую вулачку яны прайшлі на Тыльную вуліцу. Было прыкметнае ажыўленне: многія з мяшчан толькі што варочаліся з рынку, іншыя ўжо сядзелі на прызбах і абгаварвалі пражыты дзень, дзяліліся чуткамі і навінамі, датыркалі наступнага жніва. З многіх двароў выязджалі гасціўшыя сяляне, развітваючыся з гаспадарамі.

Бегалі па вуліцы дзеці то з булкамі, то з цукеркамі. То сям, то там дзе стаялі каля хат, а дзе ішлі дамоў парачкі — хлапец з дзяўчынаю. На іх заглядалі, імі цешыліся кабеты.

Сёмка з Петрусём павярнулі ў бок рынку. Ішлі пацяху, мэрам бы нічога не ведаючы. Сустракаліся са знаёмымі — віталіся, калі не бачыліся да таго, перакідаліся словамі, калі раней ужо сустракаліся. Але ніхто іх не пытаў, дзе і што былі — таксама нікому не было ўшманкі, што Сёмка з Петрусём больш паўдня правялі ў адсутнасці з мястэчка.

— Якаво выйшла ў Сроля з Віктарам?

— Ці хадзілі яны?

— Павінны.

— А хто іх ведае: сустрэць бы каторага з іх і распытаць.

З намерам угледзець каго-колечы з сваіх, лепш усяго Сроля, яны павярнулі ў Яўрэйскі перавулак, а адтуль на рынак.

Нягледзячы на хмары і на позні адвячорак, на рынку яшчэ было людна, куды шумней, як у звычайны нядзельны дзень: вакол крам і пры будынках стаяла шмат падвод распрэжаных, з паднятымі ўгору аглоблямі; швэндалася многа сельскіх людзей — адны за справамі з крамы ў краму, другія па піўных і корчмах, трэція ўсё яшчэ даспацыроўвалі; грамадкамі, як сходкі, убаку, пры ганках і дварах збіраліся мяшчане, ведучы бясконцую гутарку аб усім-усялякім.

Нясло вострым пахам гною і спірытусу.

Хлопцы прастаялі каля чвэрткі гадзіны, але нікога не ўгледзелі.

— Пройдзем, хіба, — параіў Пятрусь.

— Пройдзем.

Рушылі ўправа, дзе выглядала больш метусіны. Прайшлі між шэрагу гандляроў — лыкам, гаршкамі, палатном, рашотамі, між «рускіх» з кніжачкамі і карцінамі.

— Відаць, Сроля нам не сустрэць; мо дзе дома сядзіць?

— Пройдзем яшчэ раз вакола — і дахаты.

— А такі і гэтак.

Згадзіліся і павярнулі ўлева, але не паспелі ступіць, як ззаду пачулі вокліч:

— Хло-опцы-і, пачакайце-э!

Хлопцы азірнуліся і ўгледзелі дзяўчат — Вольку і Гэлю, якія іх наганялі.

— Хоць пад вечар ды злавілі! — пажартавала Волька, падаючы руку.

Гэля павіталася другою.

— Яны думалі, што мы не знойдзем іх! — дадала яна.

У хлопцаў не было настрою да смеху і жартаў, аднак яны не далі на гэта выгляду.

— Го-о! Хто ад вас вырвецца. Вы налаўчыліся лавіць хлопцаў, як кошкі мышэй, — адказаў дзяўчатам Сёмка.

— Спрытныя да мужчын, — уставіў ад сябе Пятрусь.

— Цьфу, Пятрусь! Ну што ты балхвіш! — пераняла Гэля.

Волька тузнула таварышку за рукаў капоты:

— Няхай брэшуць — не адрэжаш языкоў. — І тут жа перайшла на другое: — Вось скажыце, дзе гэта вы цэлы дзень галёкалі?

— Вас шукалі.

— Кіньце дурыцца.
— Праўда, праўда.
— Ды годзі…
Пятрусь запытаў:
— Ці не бачылі вы часамі Віктара?
— Віктара? — у адзін голас перапыталі дзяўчаты.
Пасля пераглянуліся і здзіўлена, у адзін голас адказалі:
— Як, Віктара?!
— Ды так… Я насур'ёз — патрэбен нам.
— Ну, ну, закідайце хітрыкі… Можа, выпусцілі?
— Каго і адкуль?! — не зразумеў Пятрусь.
— Ды кінь прыкідацца… Віктара ж арыштавалі сёння і… хіба выпусцілі цяпер?
— Арыштавалі?!
Хлопцы пераглянуліся і зрабілі сур'ёзныя міны. Зацішылі хаду, а хутка і спыніліся зусім, як ашаломленыя ад нечаканасці.
— Што вы кажаце? — памаўчаўшы, здзівіўся Сёмка.
— Гм! А ласне вы не ведалі? Вось мы і бачым, што вас не відаць праз цэлы дзень.
Пятрусь крануў Вольку за руку, даючы знак, каб яна змаўчала.
— На дарозе ў Асаўкі злавілі стражнікі — пракламацыі раздаваў сялянам. Другі, што быў з Віктарам, уцёк, а яго злавілі.
— То быў Хаім Крупнік, — дадала Гэля.
Хлопцы далей нічога не пыталі — было ясна, што справа прыняла нядобры зварот. Кожны па сабе пачалі думаць і меркаваць, што і як цяпер быць, каб паліцыя не захапіла ўсяе арганізацыі і не дакапалася да іх.
Сёмка стараўся прыпомніць усе тыя месцы, кудою яны ішлі ў Жмыгінскі лес і кудою вярталіся назад, стараўся праверыць, ці не падглядаў хто за імі, ці не падпільноўваў. Да яго падкрадалася сумненне і ўставала небяспека арышту і тых скуткаў, якія арышт за сабою пацягне.
Пятрусь па-свойму передумваў тое самае; ён таксама ўлічаў усе скуткі таго, што трапілася, хоць думаць аб сваім арышце — не думаў.
Да абодвух падышла нервовасць і западозранасць. Дзяўчаты прыкмячалі гэта і пугліва пераглядаліся. Нарэшце Вольга не ўтрымалася.
— То, можа, нічога. Можа, пераначуе,і выпусцяць. Ласне ўжо тут вельмі сур'ёзна?..
Словы празычэлі, а ніхто зразу не адказаў. Толькі Сёмка пусціў крохкую ўхмылку, якой засведчыў Вольчыну наіўнасць.

Вольцы стала ніякавата.

Гэля кранула яе за рукаў, намерыўшыся нешта сказаць. Пятрусь перабіў:

— А і надало ім ліха не ўсцерагчыся.

Аглянуліся і падышлі да войсця ў Сівулінскую вуліцу, патрошку пачалі пераходзіць да жартаў і непрыкметна некалькі згладзілі ўражанне ад арышту.

— Дахаты, дахаты! — парадзіла Гэля.

Моўчкі згадзіліся і пайшлі ў вуліцу. Дзяўчаты расшчабяталіся і павялі гутарку аб розных здарэннях, якія бачылі на працягу дня. Расказалі далей, як напаткалі Зосю, у якім яна была настроі.

Гутаркі хапіла на паўвуліцы, да Сёмкавай хаты, дзе кампанія прыпынілася, хвілін пяць пастаяла і разышлася.

## V

— Ай ды Сёмка! Цалюсенькі дзянёк, гэткі доўгі дзень, і не паказацца ў хату. Ад раніцы як выйшаў, дык і ні абедаць, нічога. Галодны праз увесь дзень… Дзе ты быў, хаця, нябожа?

З гэткімі словамі стрэла маці Сёмку. Сёмка састроіў фальшывую міну, ухмыльнуўся і схлусіў:

— Вас не было ў хаце, а я некалькі разоў прыходзіў. Два разы еў сёе-тое.

— Калі ты прыходзіў, то што ты еў? Я ж амаль не цэлы дзень сяджу дома, — і на рынак не выходзіла. Няўжо б не бачыла, каб ты прыходзіў?

Маці задумалася, прыпамінаючы.

— Не ведаю, дзе і што вы былі, толькі я вас не заставаў. Не было ні бацькі, ні хлопца.

— Ласне прыпомніш? Можа, куды і адлучалася, — уткнуў бацька, які дагэтуль маўчаў, стаючы каля дваровага акна.

— Вось ты, хаця, Хведар, не плявузгай ліха ведае чаго. Што я, непрытомная, ці што? Не адлучалася, кажу, праз цэлы дзень; нават знарок яшчэ яго чакала.

Хведар адступіўся на хату, матнуў нездаволена рукою і прамовіў:

— Заўсяголаў ужо з тым, што было. Кіньце ды давайце вячэрацьмем… Абы прыйшоў цэлым — хоць бы і два дні не было.

— Чаму вы кажаце «цэлым»? — падхапіў Сёмка.

Хведар абярнуўся к сыну.

— А таму, што вось Віктара ўжо сцапалі.

— Адкуль вы ведаеце?

— Ведаю. А хто гэтага не ведае? Усе Сілцы як у бубен б'юць. Я нават бачыў, як яго вялі… Усіх вас пераводзяць. Жыві ды чакай — бо пусціліся ўжо на тое.

Ён падышоў к мыцельніку і памыў рукі.

— А малога яшчэ няма?

— Нідзе не дзенецца, — адказала старая, завінуўшыся з качэргамі. — Балхвіш ты ліха ведае што, — перамяніла яна гутарку, — чаму гэта ты вымеркаваў так, што непрыменна ўсіх пераарыштуюць? Адкуль ты гэта ўзяў? Што, напрыклад, Сёмка, шкоднае зрабіў для паліцыі? Або каму ён чым перашкаджае?

Хведар вышчарыўся на жонку.

— Калі нічога не ведаеш, дык сама маўчы… А Віктар што, па-твойму, шкоднае зрабіў? Украў у каго што ці падпаліў каго? Лісткоў нейкіх з дзясятак растыкаў сялянам — вось і ўсё. Можа, сам знайшоў дзе. А глядзі — узялі і арыштавалі. Тое можа стацца і з другімі. Бачыш, гэта ж таварышы: і Сёмка, і Пятрусь, і Віктар, і Сроль. Па-нашаму — усе яны невінаваты, а начальству — бяльмо ў воку.

На двары занокаў хлапчук.

— Ігнатка прыехаў?!

Хведар кінуўся з хаты, і пакуль вярнуўся з хлапчуком, на стале стаяла вячэра. Сёмка ўлазіў за стол, крыху пасуваючы яго ад лавы. На дварэ вечарэла. У хаце па кутках туліўся змрок; знадворку праз невялічкія акенцы глядзелася смуглае алавянае святло.

— Можа, засвецім газніцу?

— Абыдземся. Павячэраем і спаць — навошта той агонь. Госці не прыйдуць.

— А табе вельмі спаць закарцела! — падкрэсліла зламысна Саламея. — Выспішся яшчэ — не надта запрацаваўся… Вунь чужыя мужчыны на прызбах сядзяць і не думаюць аб сне. А гэта ўжо вельмі…

Яе перабіў раптоўны бразг дзвярэй.

— Бачыш, людзі наведваюць, а ў нас у хаце, як у коміне — цемната. І агню засвяціць лянуецца…

Саламея адбеглася да прыпеку, знайшла сярнічкі і засвяціла агонь.

Якраз увайшла Стэпа.

— А я думала, што мо няма нікога ў хаце. Добры вечар у хату! — праказала яна.

— Добры вечар! — за ўсіх адказала Саламея. Сёмка папрасіў Стэпу сесці.

— Сядай, сядай, сястрыца, — дадала ад сябе Саламея. — Гэта наш стары гэткі — прашу агонь запаліць, а ён і ні рыдае.

Стэпа прысела.

Мужчыны вылезлі з-за стала, а Саламея падліла сабе стравы і канчала вячэраць.

— Што ж, уладзіны глядзець пойдзеш? — абярнулася Стэпа да Сёмкі.

— Думаю, — адказаў той, — чаму ж не паглядзець? Таварышка выходзіць замуж. А ўсё гэта прыйдзецца Рыгору пісаць…

Стэпа як сядзела, так зразу пахмурнела і праслязілася.

— Ай, Сёмачка! — заківала галавою. — Шчаслівыя тыя бацькі, што з дзяцьмі не разлучаюцца: і гуляюць, і жэняцца, а бацькам пацеха.

Саламея кончыла вячэру і пачала прыбіраць са стала. Хведар прысеў каля прыпеку і закурыў люльку.

— Там Рыгорка, хто ведае, як маецца, а я тут усё плачу ды плачу па ім, вачэй не асушваю.

Не адгінаючы галавы, разуважыў Хведар:

— А ці паможа табе гэты плач? «Плачу, плачу…» Карысць вялікая ад плачу. Ведама, што цяжка аднэй… — Ён зрабіў перапынак. — А з дзецьмі, думаеш, лепш? Вось Рыгор там жыве і нібыта той, а тут, глядзі, Віктара Саўкавага заграбасталі… Трудна яшчэ сказаць, як тутака лепш…

— Хведарка мой, за вошта б майго Рыгорку арыштоўвалі б? Ён жа такі добры, што ніколі нікому ніякае шкоды не зрабіў…

— Ах! — Хведар паварушыўся на месцы і паматаў галавою. — Нічога вы, бабы, не разумееце, як я бачу… А Віктар зрабіў каму што? Таксама добры хлопец, а аднака… Таму, што добры, што людзям дабра хоча, таму і арыштавалі.

Сёмка паглядзеў на бацьку і здавальняюча ўхмыльнуўся. Спадабалася гэта і Саламеі, а Стэпу здзівіла: яна наставілася ў бок Хведара і прамовіла:

— Дык, калі так, калі за дабрату арыштоўваюць, хто ж можа ручаць, што майго Рыгоркі не арыштуюць там? Гэта ж гвалт…

— А і то ж ты што думала?

Стэпа ўстала з месца і зрабіла некалькі крокаў да Хведара.

— Чаго добрага, — спуджана загаварыла, — нездарма я мінулай ноччу страшнае гэткае сніла… Пачуйце адно, — абярнулася вакола, — здаецца, сяджу так адна светлай ноччу ў хаце, раздумоўваю аб Рыгору, успамінаю мінулае — сэрца як не разарвецца, млосна так, не вытрымаць. Я і кажу сама сабе ўголас: «Не, — кажу, — не дачакацца мне цябе, сынок мой даражэнькі». І давай

плакаць, плакаць… А Рыгорка, здаецца, гэтак — шусь раптам у хату! «Добры вечар, маці!» — кажа. І стаіць, пільна гледзячы мне ў твар. Я тады хутка ўзнялася — адкуль тае сілы старчыла — разняла рукі і да яго, каб гэта абняць ды расцалаваць, а ён тутака ж завярнуўся, рушыў ісці і на хаду: «Бывайце здаровы, матуля, я забег толькі паглядзець на вас і зараз ад'язджаю далёка-далёка, ды надоўга…» Я гэта ўголас ды за ім, а ён умомант і счэз… Вось бачыце, суседзікі даражэнькія… Ці ж, думаеце, на добрае гэта?

Мужчыны выслухалі і засмяяліся, а Саламея разуважыла Стэпу:

— Ай, цудная ты, мала што вярзецца ў сне; часамі наблытаецца ліха ведае чаго, дык усяму і верыць? Вось праўдзівей усяго — ліст атрымаеш.

— Я нават думаў, што вы ўжо прынеслі ліст прачытаць, — дадаў Сёмка.

Стэпа павесялела, адышлася к лаве ды прысела:

— Мой сынок, дзе ж ты бачыў! Я сама не ўрымшчуся дачакацца… Да цябе прыбегла запытаць, ці часамі не прыслаў ён табе якое весткі? Так задоўжылася ўжо, так зацягнулася…

— А чаго ж ён будзе Сёмку прысылаць наперад? Перш мацеры трэба, а тады ўжо таварышам, —разуважыў Хведар.

— Не, я не атрымаў… Але не сумуйце, цётка, прышле хутка. Няхай агледзіцца там ды асталюецца добра. — Каб жа з ім толькі не сталася нічога дрэннага. Так ужо я прачакалася, што вытрымаць не магу. Дні і ночы непакоюся, трывожыць нешта мяне.

Стэпа кінулася ў горнасць і пачала плакаць, выціраючы вочы то кончыкам хусткі, то хвартухом.

— Напіша, напіша: ці ж вы думаеце, што ён ужо забыў пра вас? Помніцца яму ўсё: і маці, і Сілцы, і Зося.

Нязвычніха сутрымала горнасць і адвярнулася да Сёмкі.

— Ай, Сёмачка, што ўжо яму думаць аб Зосі! Яна і не прызначана была яму. Я не раз Рыгорку казала, як ён яшчэ быў дома: «Кінь, кажу, сынок, Мікалаішку — яна дзяўчына не дзеля цябе. Куды, кажу, табе набівацца да Прыдатных — гэта людзі не нам раўня, гаспадары, знатныя ды заможныя; з пагардаю глядзяць на гэткіх, як мы. Табе, сынок, кажу яму, заўсёды знойдзецца дзяўчына з роўных нам. Два-тры гадкі пачакаеш пакуль, а тады — абы хацеў: у Сілцах дзяўчат хопіць». Але ён, Рыгорка, чамусьці не слухаў мяне — ганяўся за Зосяю. Гаварыцца не даваў, ставіў яе вышэй усіх. А чаго вельмі там павабнага: ну, дзяўчына не дурная, больш-менш самавітая — ды ці ж яна адна гэткая? Толькі — у сэрца ж не ўлезеш, калі так ушалопаў… А цяпер вось якраз па-мойму сталася… Ты ўжо, Сёмачка, на

выпадак чаго разуваж яго ў лісце, адгавары, каб ён не дужа шкадаваў Зосі — заўсяголаў яны, гэтыя Прыдатныя, без іх абыдземся. Няхай сабе цешацца, а Рыгорку майму знойдзецца іншая дзяўчына. Усё ж хоць і бедныя мы, а за іншых людзей не горшыя. Не на Прыдатных сышоўся свет. — Стэпа нядбайліва матнула рукою. — Напішаш ты, Сёмка, — напішу і я ад сябе — хай махне рукой. Ці няпраўда, Хведар?

Той падняў кнот у газніцы, зняў лучынкаю нагар, скалыхнуўшы ценямі ў хаце, пастукаў некалькі разоў, каб не курэла, зацягнуўся і разважна адказаў:

— А чаму, Стэпа, няпраўда? Вядома, што праўда. Рыгору знойдзецца пара, чаго і казаць. Пане мой, такі хлопец, што ані рады. Дурноту спаганяў, што ўвіваўся за Зосяю. Мацыя вялікая, падумаеш!.. Яму яшчэ паспее вырасці…

Саламея адхілілася ад пасуды і дадала к мужавым словам:

— Як для твайго Рыгора, гэтак і дзеля майго Сёмкі знойдзецца колькі хоць дзяўчат. Абы хацелі жаніцца. Вось калі, вось калі! Няхай Прыдатныя свой гонар у торбе носяць, а мы і без яго абыдземся, абыдземся…

А Сёмка слухаў гутарку старых, пасмейваўся; час ад часу пазіраў на цёмную пляму акна, не давяраючы двароваму спакою. У вачах і ў думках стаяў Віктар, Хаім, Сроль; мігаліся пракламацыі, паўставалі лес і поле — а сэрца выбівала глухую трывогу, а цела дрыжала ў рухавай нервовасці. Не хацелася заседжвацца ў хаце — цягнула на вуліцу: хоць бы аднаму прайсціся, калі не ўдасца нікога напаткаць і пачуць свежую заспакойваючую думку, хоць бы разагнаць засеўшую ўнутры непрыемнасць ад арышту.

Якраз пачуліся песні, што зацягнулі на зборні дзяўчаты; заўтуравалі галасы і вясёлыя, бесклапотныя выкрыкі дзяцёй — уладзіны іх прыцягвалі да сябе з усіх куткоў вуліцы.

Сёмка паспешна сабраўся пакінуць хату, але спыніўся пры дзвярах, аб нечым думаючы.

Стэпа паглядзела на яго і, каб не затрымаць, папярэдзіла:

— Ды ўжо ідзі-ідзі, Сёмачка, не глядзі на нас. Ідзі, дзякую табе, што крыху душу маю суцешыў, — а то гэтак нудна, гэтак горна, што дзецца няма дзе. Цяпер пайду, мо спакайлівей засну.

Яна зрабіла крок да дзвярэй, развіталася. Сёмка прачыніў дзверы і прапусціў яе наперад сябе, а сам пайшоў за ёю.

— Ты ж не загульвайся, сынок, а то заўтра зранку прыйдзецца ўстаць ды ісці дакасіць той шматок поплаву, а днём — будзе пагода — то звазіць.

Сёмка адказаў з-за дзвярэй:

— Я ведаю.

## VI

У хаце Прыдатных пачаліся ўладзіны яшчэ з завідна… Калі Сёмка выйшаў на вуліцу, было цёмна; у Прыдатных жукацела святло, акідаючы праменем натоўп гледачоў, што грудзіліся каля хаты. Сёмка праціснуўся к двару і паглядзеў у покутнае акно; якраз у акне была Зося, якая перамаўлялася з нейкаю маладзіцаю. На бляску святла Сёмку ўдалося разабраць сумныя нарысы на Зосіным твары. Каб ніхто не падмеціў, што ён разглядае яе, Сёмка крута заламаў у цень і прайшоў да вугла тыльнае сцяны. Тут, крыху на адгоне ад прызбы, трымаючыся ў баку ад натоўпу, стаяла двое кабет, якія да таго разгарачыліся ў гутарцы, што не звярнулі ўвагі на Сёмку. Ён для цікавасці прыпыніўся крокі за два ад іх і, даючы выгляд, нібыта сам глядзіць у акно, прыслухваўся да кабет.

— Яшчэ гэтага ніхто не ведае, мая галубка, — казала адна маладзіца другой.

— А ты б узяла ды сказала, навошта хаваць, — радзіла другая ўверана і наглавата.

— Дык Зосі чамусьці шкода, — не здавалася першая, — мала што трапілася — абы ніхто не ведае… Ды, па праўдзе сказаць, чаго там вельмі саромецца. А Рыгору губляць ад гэтага няма чаго. З кім таго не бывае. Заўсяголаў…

Спевы і гоман, якія чуліся ў хаце, перабівалі гутарку маладзіц, і Сёмка мусіў пільней прыслухоўвацца, скеміўшы, у чым справа.

— Дык, кажаш, Марцэля, гэта ўсё твой Юзік бачыў? — смакавала другая.

— Вось калі — пэўна. Ехаў так з Паплавоў і чамусьці намеркаваў на Лужкі. Угледзеў воз — што ж? стаіць воз — няхай стаіць. Але пад'ехаў гэта, кажа, якраз, глянуў, аж пад возам на паплаўцы… Вось мой мудрагель як крыкнуў, як зарагатаў — ха-ха-ха! — дык і Рыгор, і Зося, як апараныя, паўзнімаліся і барзджэй паадварочваліся ўбок… Цікава, кажа, што бессаромна і бяспечна, — вось жа каля сценкі… Да таго захапіліся, што не маглі стрымацца…

Апошні сказ, пэўна, засароміў слухальшчыцу, і тая суцішна супыніла суседку:

— Каб ты спрахла, каб ты, Марцэля; цішэй крыху.

Яны мінутку памаўчалі, а пасля другая са смакам выказала:

— А цікава было б, каб гэта парадаваць гэтым Васіля. Ён, пэўне, і не думае аб сім…

— Гэ, дачуецца к вяселлю, — уверана сказала Марцэля.

— Усё ж ты ўжо не так паўсюдзь гэта…

Сёмка далей не слухаў. Адышоўся ад кабет у натоўп і задумаўся. Успомніў настрой Рыгора ў дарозе, а Зосі, калі падвозіў яе з травою. Адгадаў, што абое цяжыліся нечым. Сёмка гостра зацікавіўся, як далей пойдуць здарэнні. Ён дапускаў, што Васіль дачуецца пра Зосін грэх і будзе мсціць ёй за гэта, датычна Рыгора — сумняваўся, каб яго адцягнула ад думак пра Зосю тая дзяўчына, што стрэлася ў Ліцку на станцыі. Раздумваючы так, Сёмка падышоў да Ермалаевай хаты, дзе ішла зборня. Хлопцы і дзяўчаты прывіталі яго хорам:

— Добры вечар, Сёмка.

А следам Пятрусь цішком дадаў:

— Ты яшчэ цэлы? А я думаў — у карты з Віктарам рэжашся.

— На варагі казана, — перабіла Волька.

Усе зарагаталі.

— Абарона Сёмку, — падаў хтось з гурту.

— Дзякую ёй, — знайшоўся Сёмка. І запытаў Вольку: — Ці ж ты, Волька, не ў сватах?

— Цікавішся? — праказала Гэля Сідорышка.

— Цябе чакала, — уставіла Аксеня Астапішка.

— Мяне?! Разам не пойдзем.

— Як бачыш…

Волька рашуча перабіла:

— Годзі ўжо, годзі. Залепяталі.

Зборня ўнялася і перайшла да звычайных разважанняў, жартаў, смеху і піскаў. Адны намерваліся пяяць, другія перабівалі, трэція перакідаліся словамі. Атрымоўваўся рыначны задзёрысты бясклопатны шолам, які зліваўся з гоманам натоўпу каля хаты Прыдатных, з песнямі і крыкамі сватоў у хаце. Дзякуючы ціхай ночы гукі далёка разыходзіліся ва ўсе канцы мястэчка. Сёмка прытуліўся да Волькі і выказаў сумненне наконт свае бяспекі:

— Я ўсё-ткі баюся, Волька, каб да мяне ноччу не трапіла паліцыя.

— Няўжо ты думаеш? — жахнулася Волька.

Яе жах перадаўся Сёмку.

— Усё можа стацца.

Волька шчыльна прытулілася да Сёмкі, мэрам бы хочучы паказаць сваю рашучасць змагацца за яго да канца. І на вуха дрыжачым голасам шапнула:

— Перадай мне, калі маеш няможнага.

— Не, нічога няма.

— А ў Петруся?

— Таксама.

— Дык мо нічога?

Збоку іх зацягнулі песню: «Ды з-за хмары, хмары цёмнае». Песня заглушыла гоман у Прыдатных і каля Прыдатных ды перакатным рэхам аддалася далёка за будынкамі, у капусніках. Да зборні пачалі збягацца хлапчукі, якія дасюль віліся па падвоканні ў Прыдатных. Абступілі суцэльным ланцужком дзяўчат і хлопцаў і запішчалі ў ноту сваімі рэзкімі, піскліўымі галаскамі.

Сёмка з Волькаю нейкі час маўчалі,не то слухаючы песню, не то раздумоўваючы кожны па сабе.

Вольку брала нервовасць і таміў неспакой: яна спагадліва зазірала ў вочы Сёмку, раз-поразу падавала пытанні. Песні і жарты надаядалі — стала хацецца іх не чуць. Забылася суйздром пра сваты і пра тое, што абяцала Зосі зайсці да яе. Нешта міжвольна трымала яе каля Сёмкі, які здаваўся на гэты раз вельмі дарагім, вельмі каханым.

А Сёмка, не патураючы яе настрою, праз нейкі час нядбайна праказаў:

— Ну… што ж парадзіць: забяруць — забяруць. Пасяджу — не я першы, не я — апошні… Быць сацыялістам, трэба паспрабаваць усяго. Жыццё — змаганне…

Волька перабіла:

— Што ты! Не кажы, кінь… Ды чаго табе кідацца ў няверу.

— Ты шкадуеш?

Волька адказала ціхім пацалункам.

— А ў выпадку чаго — не пакінеш мяне, як Зося Рыгора?

— Навошта ты пытаеш?

Сёмка змаўчаў. Пазяхнуў і падняў угору правую руку.

— Ну, ідзі да Зосі, а то прачакаецца.

— Яшчэ паспею.

Але наперакор словам паднялася з прызбы і зрабіла некалькі крокаў ад дзяўчат. Сёмка намерыўся прайсці за Волькаю.

Якраз перашкодзіў Сроль, падаспеўшы да зборні.

— Добры вечар! Ці няма тут Сёмкі? — запытаў ён да ўсіх.

Сёмка падкраўся і аблапіў яго за рукаў.

— Вечар добры!

Ужо цішэйшым голасам Сроль дадаў:

— Ты мне патрэбен на хвілю.

Яны адышліся, а Волька вярнулася к прызбе.

— Я прыйшоў сказаць, каб ты быў напагатове: Хаіма Крупніка таксама арыштавалі, а зараз трусяць Рувіма Кінда… Ты падхаваў усё?

Сёмка сумеўся, не могучы скрыць хвалявання.

— Сволачы! Насталі, бачыш… Трасцу, нічога не знойдуць, калі і прыйдуць.

— Перадай Петрусю.

— Ведае і ён.

## VII

Сроль не марудзіў, а зараз жа развітаўся і пайшоў, а Сёмка непрыкметна для іншых перадаў пачутае Петрусю.

Пасля, пачакаўшы хвілінку, удваіх з Волькаю пакінулі зборню і пайшлі ўздоўж вуліцы. Прайшлі за некалькі хат і прыселі цішком ля платоў аднаго саду. Сёмка перадаў і Вольцы тое, што пачуў ад Сроля, пераняўшы яе словамі:

— Нічога, абміну гэту напасць, будзеш бачыць.

Волька, аднак, не магла суцешыцца. Тады Сёмка рашуча перавёў гутарку на другую тэму.

— Слухай лепш гэтую навасць.

— Яшчэ якую?!

— Цікавейшая ад першай.

— Ну?

Волька скора заінтрыгавалася.

— Ты скажы, табе Зося нічога не казала?

— Калі?

— Хоць калі… Ну, на гэтым тыдні ці крыху раней?

— Здаецца, нічога. Сапраўды.

Сёмка ўхмыльнуўся — развеяў нядаўнюю трывожнасць на Вольчыным твары.

— Кажы, кажы! — настойвала яна.

— З умоваю, што будзе шыта-крыта. Між намі? Згаджаешся?

— А то я калі што каму пераказвала? Папомні хоць адзін выпадак.

— Так, раней не было…

— А цяпер?.. Кінь, Сёмка, казаць ліха ведае што. Яшчэ я не дайшла да таго, каб выбрэхвацца. Будзь пэвен, што і далей нічога не зраблю… Кажы, а то я закрыўдую на цябе.

Волька апусціла голаў, а грудзі пачалі выдыхаць ціхія, чуць прыметныя гукі скаргі ды ўкоры.

— Ты ж не злуйся, Волька: я жартую, мала што. — Ён заглянуў ёй у вочы. — Слухай.

Яна насцеражылася.

— Гэта я пачуў перад тым, калі падышоў да зборні. Зусім выпадкова пачуў. І ніколі, павер, не думаў, што трапіцца так. Дзве маладзіцы перагаворваліся…

— Дык што?

Волька злосна тузнула Сёмку за плячук.

— Ды яно, усё, бач, проста… Стаялі, кажу, кабеты і між сабою гутарылі… Аб Зосі, вядома. Я прыслухаўся. Вось адна і кажа другой: «Ехаў, кажа, мой сын праз Лужкі і бачыў, як Рыгор з Зосяю…» Ну, ты дагадаешся… Верыш, Волька?

Волька не знайшлася, што адказаць: стала тут жа ніякавата за Зосю і за сябе. Не саромелася дагэтуль Сёмкі, а тут гэта пачуццё зразу аднекуль выпаўзла і кранула яе за сэрца. Мігам праляцелі ў Вольчынай галаве адрыўныя колкія думкі: «Ці ж яно так? Калі гэта?» Брацца за Зосю — Волька не смела. Не хапала адвагі прызнаць таварышчын пастулак за звычайнасць — таксама. Як тут лепш выйсці з палажэння? Сёмка прыяцель, а то-та ж гэтак застраміў, што няма як вывернуцца. А добра б і Зосю абараніць і самой астацца сухой. Гэткія справы менш усяго патрабуюць абгавору. «Навошта такі Сёмка так паставіў пытанне? Што ж за навіна, калі што і здарылася з Зосяю? Эх, мужчыны, а самі вінаваты амаль не заўжды».

Яна глыбока ўздыхнула і палажыла голаў на Сёмкавым плячы.

— Ну, што ж маўчыш? — пачула над вухам і выпрасталася зноў.

— Не, мне Зося не казала нічога… А ласне ты вінаваціш яе, калі дапусціць праўду?

— А па-твойму як?

— Па-мойму…

Волька заблуталася, а Сёмка злавіў у ёй сарамлівую нерашучасць і па-сяброўску падсмяяўся.

— Кажы, кажы, Сёмка, — адбілася яна.

— Я не віню яе, а я баюся за яе, шкадую яе… У баб доўгія языкі… Што ім каштуе хлусню разбрахаць па мястэчку, а тады…

Волька згадзілася з Сёмкам. Міжвольна яна адцягнула на сябе пуглівую думку-параўнанне — і спынілася перад голасцю праўды: магло б так стацца і з ёю, бо яна любіць Сёмку.

— Я не віню Зосі, — яна так шчыра кахала Рыгора, што магла пайсці на ўсё.

— І пайшла?

— Не ведаю, але каб і пайшла, то не грэх.

— Я люблю такіх шчырых, як ты.

Каб болей не гаварыць на гэту каразлівую тэму, Сёмка запытаў:

— Дык, можа, ты зойдзеш да Зосі?..

Маўкліва ўсталі і пайшлі.

Ужо было шмат за дванаццатую гадзіну ночы. Вуліца пусцела і цішэла. На ўсходзе завязваўся золак. Каля Прыдатных з вялікага натоўпу асталося некалькі невялічкіх гурткоў моладзі, якая ўсё яшчэ не пакідала наглядаць за ўладзінамі, як бы ахвяраваўшы дачакацца іх канца.

Сёмка падвёў Вольку, не даходзячы адной хаты, да Прыдатных, спыніўся на хвіліну і развітаўся.

— Прашу цябе — усё захавай, — парадзіла яна Сёмку.

І, адышоўшы на два-тры крокі, успомніла, што забыла запрапанаваць яшчэ адно.

— Сёмка! — ціха пазвала. Той абярнуўся. — А мо да нас пойдзеш начаваць? У прыгрэбіцы на вышках вельмі зацішна: я пасцялю табе хоць зараз. Га? Нават і бацькі ведаць не будуць.

— Не, не. Дзякуй! А мо ўсё абыдзецца добра.

— Калі хочаш? Падумай!

— Дзякуй.

Разышліся.

## VIII

Было ўжо світанне, калі ў Прыдатных скончыліся ўладзіны. Мястэчка, асабліва яго земляробская часць, прачыналася да будзённага жыцця, да звычайнай працы. Па дварах чуўся гоман і пярэзвы. Пастухі выганялі ў поле гавяду. Трубілі ў бяроставыя трубы, гралі на жалейках, крычалі і нукалі. Гавяда рыкала, мэкала, чуючы спажыўную папаску. А ўсяму гэтаму галасу ўтарылі песні і танцы сватоў. Яны гамузам выйшлі на вуліцу, цягнучы за сабою бяседу. Берагава палавіна наладзілася дахаты, а Прыдатных — праводзіць. Як пачалі ў хаце — дык праз двор і на вуліцы не маглі кончыць пацалункаў. Выкладалі адны другім тысячы розных пажаданняў, зычэнняў, пахаценняў; не было канца падзякам. Нарэшце Хлор з Фядотам Грыбам вылузаліся з Марціных рук і пайшлі ўпрысядку драпака — віліся, як немчыкі, прыгуквалі, пляскалі ў далоні, паднімалі ўверх шапкі. Сваёю зухаватасцю раздражнілі іншых — і хутка на вуліцы зрабіўся карагод. Папрачыналіся, хто яшчэ спаў, і праз вокны, а то выйшаўшы на двор, дзівіліся на раз'юшаных сватоў. Адны зайздросцілі, другія — злаваліся і клялі, трэція нядбайна паглядалі.

— А Зося дзе? Дзе Зося? Васіль, чаму не вядзеш з сабою Зосю? — гукаў старшыня Андрэй.

Абняўшыся, яны выбраліся наперад і сталі зваць сватоў дахаты. Туга, з неахвотаю — усё ж па адным пачалі разыходзіцца. Гурток з Тадосі, старшыні, Хлора з жонкаю і двух Берагавых раднякоў, азіраючыся на Прыдатнага хату, пайшлі напрамкам к Загор'ю. Ахрыплыя галасы цягнулі разбітыя ноты невыразных песень, у адзнаку развітання маталіся хусткі і шапкі.

Гэтак, пакуль не зайшлі за гару, схаваўшыся за Цішкавай хатай.

За гарою, не даходзячы да хаты Берагаў, спыніліся на развітанне. Але, зрадніўшыся за ноч, цяжка было моўчкі разысціся. Тым болей што ўладзіны паказалі поўную перамогу Васіля. Прыдатныя цалкам згадзіліся на ўсе ўмовы пасагу, якія даўно апрацаваў старанны Хлор, вельмі здавольніліся, што так пайшла справа, як хацелі Берагі. Пры гэтым гасціннасць Прыдатных таксама запісалася ў строчку: жарты — цалюткую ноч паілі ды трактавалі каля пятнаццаці чалавек! І як гасцінна ды далікатна абходзіліся! Ці ж мала гэтага для абгавору? Багатая тэма для гутаркі.

Хлор першы пачаў выліваць сваё пачуццё:

— Ну, сваткі, сённека наша свята! І свята — у гонар нашага дарагога Васількі. Чуеш, Тадося, ці не? — Хлор раскідаўся ў бакі і матаў рукамі, мэрам бы хочучы затрымаць у кучы, гуртком, усіх каля сябе. — Чуеш, Тадося? Каб ты, як і мы — Андрэй, Хвядот, Пракоп, я, — каб ты не ўзяла сёння ў рукі ніякае прылады да працы. Наша свята, а тваё — большае. Тваё найурачысцейшае свята, Тадося. Учора быў Пятрок, а сёння… Васілёк… Хадзі, чуеш, нябожа? — Хлор аблапаў Васіля і пацалаваў. — Учора святкавалі ўсе, а сёння будзем святкаваць мы, вось уся наша кампанія… Паглядзеце, родненькія, вось ён — наш князь, а яго багацце вуньдзека! — Хлор паказаў на хату. — Мой брат, Васілёў бацька, каб ведаў, як і што жывецца яго сыну і жонцы, заплакаў бы ў зямлі ад радасці. Паглядзеце, сапраўды, на Васіля…

Усе павыцягвалі голавы, ад свежага ранку пасвяжэлыя, і працягнуліся ў бок Васіля, які трымаўся прутка і падтрымліваў ужо выходзіўшага з п'яні Хлора…

— Чым Васіль сягоння не рыцар? А маладую выбралі — як ляльку! Цукар — не дзяўчына, цукровае яблычка, ружачка пахучая… Атраслі і падабралі… Падабралі — ды ў кашэлік… Ці няпраўда?

Нястройны хор галасоў адазваўся:

— Праўда, праўда, Хлор!!

А Пракоп казаў:

— А той, бач, Мікола, што за гаспадар! Што за розум чалавек! Нюхам чуе, што за хвігуру мы прывялі да яго дачкі… Ні пярэчынкі, ні задорынкі-ы! Ды куды там пярэчыць, калі само жыццё так хоча? Тут не пасаг важан, а важна тое, што Зося для Васіля, а Васіль для Зосі — лёсам прыназначаны… Чалавек бачыць, адкуль сонца свеціць… Ці няпраўда, старшыня?

— Праўда, сусед, працягаю табе руку.

Пацалаваліся.

— Ты, старшыня, таксама шмат памог, адным чынам сваім памог, — палісціў Хлор Андрэю.

Старшыня задаволіўся. Паправіўся ў стойцы і перабіў Хлора:

— Ды я, я… на ўладзінах набіў руку… Бачыце, заікнулася Марта аб пасагу, а я кінуў — і ўсё добра. Няма спрэчкі — дык няма. Мы не на таргі прыйшлі.

— Ну, то простая звычайнасць; нельга ж абмінуць, каб не закінуць словам за сябе, — уставіў Хвядот.

— Так, маладзец, Андрэй! — завёў далей Хлор. — Яго ласка не забудзецца намі…

Ева, старшыніха, перабіла:

— Дык якая ўжо тут ласка. Наадварот — мы вельмі дзякуем вам… А там — што…

— Не, не зусім не тое… Васіль! На вяселлі наш старшыня павінен быць забяспечан месцам — на покуці. Мы з гэтага часу павінны наладзіць цесныя зносіны між сабою. Нашы бацькі заўсёды добра жылі…

— Дык мы ж вельмі рады, вельмі рады, што хаця яны прыйшлі да нас. Раднякоў так не люблю, як Андрэя з Еваю… Няхай даруюць мне Хвядот з Пракопам… — казала Тадося, паказваючы на стрэчных братоў.

— А нам ласне не пачот? Берагі — не хто-небудзь, а сям'я знатная, вядомая. Мой чын — не вечны, а ваша котлішча болей веку гудзе ў мястэчку. Ці трэба казаць… — падлісціў старшыня.

— Пэўна, што так…

Хвядот не даказаў, што меў на языку. Раптоўны крык, вырваўшыся, як з зямлі, перабіў яго.

Сваты засумяціліся і абярнуліся ў бок вуліцы. А праўцом на іх нёсся хлапчук, уцякаючы ад бацькі, які гнаўся за ім па пятах з пугаю і раз-поразу хвастаў малога па голых лытках. Хлапчук кінуўся да сватоў, просячы абараніць яго, і хапіўся за руку старшыні. Сваты абкружылі хлапчука і загарадзілі яго ад бацькі.

— Кінь палохаць малога.

— Завошта ты яго?

— Каб яго паралюш узяў! — крычаў раззлаваны бацька Аўсей Карчук. — Узяў ды дзве шыбы выбіў Міколу зранку, на яго немач, і ўжо ўчыніў бяду. У хаце ні капейкі, а гэта плаці цэлую пяцьдзясятку. Падумаць! Дзе іх браць, гэтыя грошы? Я яго насмерць захвашчу! Я яго, паршы-ыў-ца-а!

Але бацьку ўгаманілі, і ён прыціх. Толькі ўзяў хлапчука за руку ды пагразіў.

— Не бі ты ўжо яго, Аўсей, — парадзіў Хлор.

— Распуснік бо.

— Хвасянуў колькі разоў, і хопіць…

— Шчасце яго — што вы абаранілі, а так бы дасталося яму на яблыкі!

Калі чалавек з хлопцам схаваўся за рагавою хатаю, сваты не вярнуліся да гутаркі, а развіталіся і пачалі разыходзіцца, кожны ў свой бок… Хлор з жонкаю пайшлі да Берагаў. У двары разгаварыліся:

— Ну, цяпер застаецца сыграць вяселле, а астатняе ўсё зроблена.

— Дзякуй табе, Хлорык. Хоць маё сэрца будзе спакойна. Як я шчаслівa, што дачакалася гэтага! Перабудзем клопат з вяселлем, нічога.

— Ды перабудзем. Хопіць часу, каб прыгатавацца. Можна пачынаць хоць з заўтрашняга.

Яны ўвайшлі ў хату і расселіся ўкол стала.

— А ты ж хаця задаволен, Васілька? — абярнулася Тадося да сына.

Васіль памаўчаў.

— Мабыць, нешта не да дыхту? Нешта было, га?

Хлор уперыўся ўзрокам на нябога. Той не мог стаіцца: паварушыўся, паглядзеў у акно, залітае чырвоным праменем, і, як бы баючыся, сказаў:

— Нічога… Нешта Зося ўсё капырсціцца. Ты да яе па-людску, а яна адхіляецца, маўчыць, дзьмецца, думае ўсё. — Васіль падняўся і выйшаў на хату. — Аж прыкра ўжо стала, — уваходзіў ён у злосць, — і не ведаю, што яна сабе думае да гэтага часу! Няўжо яшчэ бацькі не паспелі выбіць з галавы думкі аб тым валацузе? Напрыкрала проста! Усё, здаецца, ішло добра, а тут, як стромка ў здаровым целе… Вось гэта мяне злуе…

— Яна ж мо праводзіла цябе? — запытала цётка, Хлорава жонка.

— Вялела маці, дык і правяла, а сказаць — ні слова.

Хлор, ужо ацверазіўшыся, прыўстаў з месца і нядбайна матнуў рукою:

— Блаж, нябожа… Усё блаж… Да вяселля — усё выйдзе з галавы — будзь спакойліў. Няма чаго сумаваць: жэніцеся і пакахаеце адно другога. Хай сабе пакапырсціцца крыху, чаму ёй не дазволіць гэтага? Ну, а што датыча Нязвычнага — то шманкі: хай выкіне дурасць з галавы. Гэтаму разбойніку ўжо больш не бачыць Сілцоў.

Да слоў Хлора дадала Тадося ад сябе:

— Ды, вядома, сынку, калі толькі гэта цябе трывожыць, дык толькі бяды. Маладая дзяўчына — блажы многа ў галаве. Ці ж варта гэта браць усур'ёз?

Яна адышлася ў мыцельнік, пакруцілася крыху і запрапанавала:

— Вось мо снеданне згатовіць? Хлор таксама астанецца…

— Не, не, не… Не турбуйся, Тадоська, — пераняла Хлорава жонка. — Дзе ж ты бачыла! Нам трэба ісці дадому ды таксама прымацца за работу. Гэткі дзень мае быць, аж люба, — зазірнула ў акно. — Ідзем, Хлорык, ідзем.

Тадося не хацела далей упрошваць. І калі тыя намерыліся ісці, яна прачыніла ім дзверы ды першая выйшла ў сені.

Хлор развітаўся з Тадосінымі сваякамі і яшчэ раз суцешыў Васіля:

— Ты ж забудзь аб гэтым. Пакінь! Мала што!

— Ды я мала буду дбаць.

— То-та ж.

Тадося з Васілём правялі Хлоравых да кладкі праз рэчку і вярнуліся дахаты.

## IX

Пятрок нечакана прынёс з сабою многа навін для сілцоўцаў: арышт Віктара Стаўбуна, Хаіма Крупніка, мнагалікія трухі па мястэчку, уладзіны ў Прыдатных з Берагамі, якія закончыліся поўным згаворам, і набліжэнне вяселля, рэдкага, знатнага, усё гэта дало нямала гутаркі. Назаўтра, прыступаючы да будніх клопатаў, сілцоўцы на ўсе лады абгаворвалі свежыя здарэнні, перашэптваліся, падкрашалі чутае сваімі выдумкамі, дадаткамі, дзівіліся аднаму, спагадалі другому. У гутарках адмячалася зацікаўленасць да кожнага факта, нягледзячы на тое ці іншае яго значэнне, не патураючы на яго дадатнасць ці адмоўнасць. Ад-

чувалася вядомае ажыўленне, якое на нейкі час абяцала ўзняць прыкарэлую плеўку буднічнай заскарузласці ў клапатлівым жыцці Сілцоў. У аблытаных, як павуціннем, штодзёншчынай, у апушчаных у ліпкую броснію цяжкага жыцця, якое аднімала неміласэрна сілу ды здароўе, адцінала інтарэс і наганяла нямоту, —нават у гэткіх падняліся языкі да гутаркі.

Чыя ўцеха, а чый сум, каму першае, а каму другое, — а хоць маласцю чапала і адцягала на сябе ўвагу. Ужо даўно, як у Сілцах адбываліся арышты за палітыку, гадоў пяць назад і — раптам зноў! Чым жа не дзіва! А вяселле — калі так здаралася, каб яно завязвалася пад шумок, з рознымі гутаркамі, з цэлаю гісторыяй. Таксама гадоў тры, калі не цэлых пяць назад. Але з тае прычыны, што вяселле было шмат уперадзе, арышт гастрэй адбіваўся на гутарках сілцоўцаў. Кожны, каго цешыла «правучэнне басякоў» і хто шкадаваў «небаракаў-хлопцаў», аднакава цікавіла — што ж з імі зробяць? Ці выпусцяць іх, ці не? Ці на іх кончыцца, ці мо шырэй разыдзецца гэта насланне на Сілцы? Помнілася ўсім, што арышты мінулых часоў канчаліся амаль не дзеля ўсіх арыштаваных высылкаю; хто ж ручыць, што і на гэты раз іначай будзе? Бацькі, у якіх былі сталыя хлопцы-сыны, непакоіліся за іх лёс, а тыя, да каго Віктар прыходзіў гуляць і якія ведалі Хаіма Крупніка — а гэткіх было многа ў невялікім мястэчку, — тыя дрыжалі і разам спагадалі хлопцам, пасылаючы розныя добрыя пажаданні па іх адрасу. У адных апаска за арыштаваных, а ў іншых задаваленне ўзмацняліся тым больш, што халодную, дзе сядзелі дэмакраты, строга абараняля паліцэйскія стражнікі і да іх не пускалі нікога. А ў гэткіх умовах трымаюць вялікіх праступнікаў! Што ж зрабілі хлопцы? Таксама цікавіла насельнасць мястэчка. Цікавіла ды давала мажлівасць вынаходзіць розныя небывалыя праступкі. Адны складалі чуткі, нібы Віктар хадзіў за Сілцы рабіць падкоп на дарозе, кудэю павінен праязджаць спраўнік, другія перакорылі гэтым весткам, перадаючы свае, якія казалі аб намерах дэмакратаў напасці на казарму стражнікаў і пераспраляць іх; ніхто не хацеў верыць, хоць і ведалі ўсе, што ўся справа ў праклямацыях. Кулакі-мяшчане карысталіся выпадкам і перадавалі сваю радасць у тым, што «не даждацца басякам падпальваць іх гумны». Многія, каму ішло гэта на карысць, не забывалі Рыгора, хвалячыся, нібы і ён будзе арыштаваны, бо ўжо «станавы адбіў тэлеграму ў Рыгу». У паветры пахла напружанасцю.

Дапускалі, што арыштаваныя пападуць на высылку. Некаторыя лічылі абавязкам папярэдзіць знаёмага хлопца, а больш

таго, якога бачылі хоць калі разам з Віктарам ці Хаімам, каб ён быў асцярожан, каб прыціх на гэты час, каб кінуў дэмакрацтва. Уставалі ў памяці енкі і плач мацярок і бацькоў, іх пакута па дзецях, цяжкасць разлукі — так было ў 1906 годзе, калі адпраўлялі ў Сібір Смуцькавага Алёшу, Хрэнавага Фомку і Стасюка Язэпа. Іх везлі стражнікі з аголенымі палашамі, і многія казалі, што хлопцам не мінуць плахі. Што тады вычваралі іх бацькі! Пэўна, не іначай будзе і цяпер. Арыштанты — гэта афяры паліцыі! Цяпер яе воля зрабіць, што хоць.

Судзілі, хоць не ўсе, а многія, што хлопцы паплацяцца здорава. І таму, што адплата дасца ім начальствам за справядлівыя дамаганні дэмакратаў, за тое, што яны шукаюць праўды — каму тое невядома! — то нельга сказаць, каб большасць сілцоўцаў справу арышту хвалілі. Не, нават многія-многія, зусім, здавалася, ціхія і няўдзельныя ў грамадскім жыцці, зусім адсталыя, а падавалі ў голасе варожыя паліцыі тоны. Мацюкаліся на паліцыю, праклінала, пагражалі, абяцалі скорую кару.

Ішло так здаўна — глыбокая канава падзяляла прыстаўскі стан ад усяго мястэчка, за малым выключэннем. Колькі разоў станавы зураднікам ды стражнікамі выцягалі кароў за падаткі! Колькі разоў выкідаліся падушкі праз вокны за пену, за нядоімку! Колькі разоў накладаліся штрафы за навабранцаў! А выган на панскія грэблі, а ўсім памятная бойка ўсяго мястэчка за сервітуты! Бліщчастыя гузікі і цэшкі адбівалі сабою тыя іскры злосці, якія накопліваліся гадамі ў земляробскіх душах сілцоўцаў, якія дзень з дня, год з года пераходзілі ад бацькі к сыну і захоўваліся ў сэрцы, каб пасля разгарэцца ў магутнае полымя. Іскры гэтыя штораз набіраліся большай зыркасці і толькі пачынала асвяжацца паветра грамадскага жыцця, як яны выдзелілі пякучы прысак, які абліваў істоты сілцоўцаў. Адбыліся арышты — ці ж гэта не прыклад начальніцкага разбою?

Няма чаго казаць — арыштаваныя мелі за сабою хоць не выразную, але моцную маральную сілу. Можа, і мала было адзнакаў на мажлівасць яе канкрэтнага выяўлення, усё ж «бунт» колькі гадоў таму — страшнае зданне — к данаму моманту аддаваў інакшым, пажаданым і прыемным. 1905 год увёў яго ў сілцоўскі побыт, абрахманіў, і агромная большасць сілцоўцаў адчувала ў гэтым слове магнітную сілу, задзёр, адвод балючых думак. Хоць, здавалася, ляжала на іх пахудзелых спрацаваных тварах цяжкая пячатка суму, пакоры і прытоенага змоўку, гадамі ляжала яна, як налепленая, а ўсё ж пад ёю таіўся натуральны позыў да пратэсту, да помсты, да адплаты за векавую пакуту.

Сілцоўцы не ведалі, калі прыйдзе час адплаты, але і думкі не дапускалі, што ён не прыйдзе. «Можа, нашы дзеці дачакаюцца лепшага жыцця», — казалі яны. У іх было шмат адзнакаў на гэта. Дзеці — мо не ўсе і не ўсіх, але большасць дзяцей — гатовіліся на вачах бацькоў да гэтага жыцця. Чаму ж пайшло дэмакрацтва, сацыялістычнасць? На бацькаўскіх вачах мяняліся ўмовы жыцця дзяцей: гінула п’янства і карты, гінуў разбой і лаянкі, і пайшлі кніжкі, газеты, гутаркі, тлумачэнні. Ці ж гэта дрэнна?.. Ні ў якім разе. А вось начальству не па сабе, начальству дрэнна. І начальства нападае на хлопцаў, арыштоўвае іх, высылае кудысьці ў Сібір. Канава рыецца глыбей ды глыбей, разладдзе большае, абвострываецца супярэчнасць інтарэсаў… Час ад часу пачынае віравацьа класавае пачуццё.

Пётраўскія арышты — прыдатны час для гэткага віравання. Яны прыйшлі, каб узварушыць застаялы ровень сілцоўскага жыцця, — і Сілцы адбілі ў сабе расхвалёваны настрой… Уздым, няўрымнасць пераліваліся па хатах мястэчка… З кожным днём — мацней, інтэнсіўней. І з кожным днём цікавасць да пытання — калі ж адвязуць хлопцаў — усё павялічвалася. З’явілася сумненне, каб хаця іх не адправілі ноччу, цішком. Можа, паліцыя пабаіцца святла, людзей і скрые сваю расправу? Ішла дапытлівасць, разузнаванне, разведы. Вечарамі і ўночы назначалася добраахвотная варта — пэўна пад рознымі выглядамі, каб не даць западозрыць паліцыі. Наведвалі мацярок і бацькоў арыштаваных, ці няведама ім. Але і тыя нічога не ведалі. Яны былі заняты арганізацыяй абароны сваіх дзяцей: бегалі заплаканымі ад аптэкара, ліберала і ўплывовага чалавека, да адваката, які любіў часта заступацца за пакрыўджаных. Крупнікі збіралі грошы на залог, тармашылі рабіна, каб той даў падпіску ад цэлага кагалу. Стаўбуны стукаліся да мяшчанскага старасты. Усе не кідалі надзеі выратаваць хлопцаў і не пусціць іх з мястэчка. Нават перад адпраўкаю разнясліся былі чуткі, што станавы перадумаў і згаджаецца аддаць арыштаваных на парукі. Чуткі ўлілі нейкую прасветласць у напружанае становішча ў мястэчку. Сёмка, Сроль, Пятрусь — паддаліся таксама на фальшывыя чуткі і кожны па сабе перабывалі ў бацькоў арыштаваных таварышаў.

Але праз дзень надзейныя думкі развеяліся — арыштаваных адпраўлялі ў павет. Бацькі дазналіся аб гэтым першымі і з плачам разнеслі вестку па мястэчку. «Ці ты чу-у-ў? Усё-ткі іх вывозяць!» — з вуснаў у вусны перадавалася агульнае здзіўленне, насярожваючы сілцоўцаў і завучы іх на рынак, да прыстаўскага стану.

Ужо а восьмай гадзіне раніцы на рынку таўклося каля дзвюх соцень народу. Стаялі рассеянымі грамадкамі па ўсім пляцы. Гутарылі, распытвалі адны другіх; пераходзілі з месца на месца, перадаючы несціхана нарастаючыя тут жа навіны. Не спускалі вачэй з прыстаўскага дома. Калі па двары праходзіў стражнік ці павярочваўся вартаўнічы пры браме, натоўп сілцоўцаў прытойваўся, мярцвеў на момант і сотнямі вачэй апалосквў варожы стан. У кожным руху начальства западозрывалі ліхую думку, дзікі намер. Арыштаваныя гэты час знаходзіліся пад пільнаю аховаю, хоць не актыўнай, але моцнай, гранітнай сілы спагады ад сваіх суседзяу-сілцоўцаў. Яны гэта адчувалі і былі ў падвышаным настроі — так перадавалі іх бацькі, калі хто распытваў іх аб самапачуцці арыштаваных.

Аб гэтым ведалі Сёмка, Сроль, Пятрусь, якія самі пераймалі таварышаў настрой. Сустракаючыся на рынку, у людзях, яны мяняліся сваім пачуццём і здаволена разыходзіліся — нельга было кідацца ў вочы начальству.

Сёмка асабіста несціхана тупаў па пляцы, пераходзячы ад гуртка да гуртка і расслухоўваючы гутаркі мяшчан. Ён зранку выйшаў на рынак, прыехаўшы з поля, куды з досвітку выязджаў на ворыва, і бачыў, як рос натоўп на рынку, як паднімалася суматоха ў прыстаўскім двары. Якаясьці дзіцячая задзёрыстасць забірала Сёмку, у яго знайшлася адвага і нядбайнасць да сябе. Гутарылі вакол пра дэмакратаў, пра іх намеры, пра смеласць і геройства, з якімі яны вядуць змаганне з царскім парадкам, хвалілі іх — і гэта было тым грыбком, які кандэнсаваў у Сёмкавым нутры пачуццё здавальнення, самаўцеху. Гэты настрой кідаўся ў вочы кожнаму, і калі Сёмка сустрэўся ў натоўпе з Петрусём ды Волькаю, тыя адразу заўважылі ў ім перамену. Сёмка хваліўся Петрусю ды Вольцы:

— Мяне ўгаворвалі, каб я не прыходзіў з поля. А мне толькі смешна было з гэтага. Каб я не пайшоў правесці сваіх таварышаў! Каб я не прасачыў вось гэтага велічэзнага вобразу! Гэта ж паглядзець адно на нашых мяшчан ды паслухаць іх гутаркі — чаго варта! Вось бачыце, якой спагадаю мы карыстаемся.

— Ты толькі паціху, Сёмка, — заўважыла Волька.

Сёмка не паспеў нічога адказаць: грамада людзей раптам заварушылася, сціснулася ў адну густую суцэльную гушчу і падалася ў бок стану. Пачуўся злітны тупат соцень ног і рытмічны рух многіх рук. Сёмку скаланула ад надышоўшага абурэння, і ён, кінуўшыся ў натоўп, прагукнуў:

— Далоў самадзяржаўе!

Пятрусь з Волькаю ды дзясяткі суседзяў з вакол паглядзелі на яго, адны вясёлым узрокам, другія з лёгкім сполахам. Нехта збоку тузнуў яго за полу жакеткі. Сёмка азірнуўся.

— Стражнікі вунь! — пачуў ён, і тут жа людская сцяна таўханула яго назад. Праз галовы нашароханых ён угледзеў больш дзясятка коннікаў, якія злосна напіралі на грамаду, маталі бізунамі над людскімі галовамі і дзіка крычалі:

— Ассадзі-ы! Асадзі-ы назад!

Людская сцяна з натугам, паціху пасувалася на яго. Сёмку апанавала злосць, задрэнчыла выкінуць якую-кольвек штуку, і ён хапіўся думкамі за таварышаў. Дзе яны? Пагаварыць бы! Гэткі момант! З гушчы, па ўсім расцягу натоўпу, чуліся рэзкія галасы пратэсту і нездаволенне на стражнікаў.

То там, то сям мужчыны і кабеты дражнілі іх гончымі, кумяльганамі, лаялі. Дзеці-хлапчукі галёкалі на іх, як на сабак:

— Га-ля-а! Г-а-а-г-а-а!

Гэта раздражняла паліцэйскіх, і тыя з большаю злосцю кідаліся на грамаду, рассякалі яе сцяну і ўразаліся ў сярэдзіну… Раптам з правага боку ад Сёмкі пачуўся балючы крык і ўзнялася суматоха — то стражнік хвасянуў бізуном кабету. Гэта вестка электрыкаю прабегла па гушчы сілцоўцаў, скаланула кожнага, як вецер дзерава. Адзін квадранец — і сілцоўцы маглі б перайсці ў рашучы наступ на паліцыю, але нешта супыніла іх. Абмежавалася грозным гулкім гоманам, які з пяць хвілін катаўся алавяным шротам па раззлаванай грамадзе… У яго раскатах выразна чулася вострая небяспека, і стражнікі, яе заўважыўшы, ад’ехалі к прыстаўскай браме. Калі грамада заціхла, Сёмка кінуўся шукаць таварышаў: прабег управа, вярнуўся назад, пралез уперад, пытаўся сяго-таго. Нарэшце ўгледзеў Петруся са Сролем, але без Волькі, наўскасяк ад сябе, ззаду, і падышоў да іх.

— Ну, як падабаецца настрой сілцоўцаў?

— Цікава!

— Адна хвіліна — і магло б выліцца ў пабоішча.

— Чакаў я гэтага, так і рупіла кінуць каменем у паганую хару…

— Добра, што так абышлося, а не то б… крыві не мінуць…

Падышлі Волька з Гэляю.

— Што вы робіце, хлопцы, — з нейкім жахам папракнула Гэля. — Ці не ты гэта крычаў: «Далоў самадзяржаўе!»?

— Перапужалася?

Гэта ж маглі б перастраляць людзей.

— А, нябось, напужаліся самі… І, чаго добрага, маглі б на капусту скрышыць…

— Малыя выпадкі, а да чаго могуць давесці.

— Добрая агітацыя.

— Глядзеце толькі, каб вы з ёю не пайшлі даганяць Віктара з таварышамі. Паагітуеце тады…

— Вас не пакінем…

Волька намерылася прыкрыць рукою Сёмкаў рот і ўжо замахнулася на гэта.

Але ўперадзе натоўпу, якраз прыцішанага, пачуўся плач і зацяжныя прычыты. Хлопцы падаліся галовамі ўперад — апынуліся вачыма на двары стану.

З халоднае — невялічкага старога будынка, не то хаты, не то свіронка, стражнікі вывелі арыштаваных і пад канвоем павялі іх к браме. У стражнікаў былі голыя шаблі, якія блішчалі ад сонца. Рэзвыя зайчыкі шмыганулі ў людскі натоўп і раптам зноў запалілі ў ім настрой. Дапамагалі прычыты бацькоў арыштаваных:

— Куды-ы вы павядзеце-э нашых дзяцей! Дзе-эткі-ы мае-э!

Грамада ўз’юшылася і раптоўным крокам падалася ізноў наперад. Прагудзеў варожы шэпт. Коннікі накіраваліся адцісскаць. Ізноў пачуліся крыкі:

— Асадзі-ы назад!

Але людзі не слухалі — ухіляліся і напіралі. Раззлаваныя паліцыянты замахалі бізунамі, пагражаючы, сталі насядаць на пярэдніх. Пад гэтую суматню арыштаваных усадзілі на падводы, прыгатаваныя для іх загадзя.

І а другой гадзіне папалудні рушылі па шляху ў павет, пад аховаю траіх узброеных стражнікаў. Сілцоўцы напружана сачылі ўслед ім, спагадліва ківаючы галовамі і матаючы шапкамі і зычным, медным голасам шлючы ўдагон:

— Скора вярнуцца!

Арыштаваныя адказвалі выгукам:

— Няхай жыве свабода!

— Ці адчувае гэта Рыгор? — ідучы дамоў, сказаў Сёмка Петрусю.

— Гэ, ён там жыве больш напружаным жыццём… — адказаў той.

Так, Рыгор жыў больш напружаным жыццём…

# ЧАСТКА ШОСТАЯ

## I

Нягледзячы на позні час, пасля бурліва пераҗытага дня, не патураючы на ўздымны настрой, які падняла ў ім стрэча з Ганнаю, Рыгор помніў, што а сёмай гадзіне раніцы ён мусіць уставаць і ісці ў завод. Нельга праспаць нізашто! Нельга прапусціць другі дзень.

Заснуўшы хутка ды крэпка, ён раз ад разу прачынаўся і глядзеў на гадзіннік. Прачнуўся а чацвёртай, а пятай, а палове шостай…

Летні дзень паднімаў ранні золак, празрысты, сіні. Святло абдавала пакой, але адзнанне, што яшчэ можна паспаць, перамагала ўсё. Рыгор кідаўся ў падушку і засынаў. Нарэшце стрэлка гадзінніка апынулася на лічбе сем — і далей спаць было нельга.

— Так, скора сем! як адзін момант. Ах, яшчэ б гадзінкі са дзве!

Аднак сустрымаўся ад гэтае спакусы і злез з ложка. Адзеўся, падышоў к акну.

— Вечарам пасплю, калі не прыйдзе-э… Ганна…

Рыгор сілком прагнаў пяшчотныя думкі і прыслухаўся да стуку, які нёсся знадворку.

Праз пару хвілін ён быў на вуліцы.

Свежае, яшчэ не запыленае паветра астудзіла Рыгораў твар і прамыла галаву. Ён пачуў сябе развей, рухавей, знайшоўся адпаведны, рабочы настрой: перакінулася нейкая нітачка сувязі ад ранейшых дзён, перад пабыўкаю, да сённяшняга. Як быццам бы нічога асабістага не было: учора, заўчора, тыдзень таму і месяц будзіў яго гудок, і к васьмі гадзінам дня вымушан прыйсці на завод. Ласне і наўперад будзе гэткі лёс рабочага чалавека? Сотні, тысячы гэткіх, як ён; вось, праз усю вуліцу выцягнуліся, нібы цэлае войска… Рыгору заімпанавала ўдачлівае параўнанне, і ён азірнуўся назад, усцяж вуліцы. Сапраўды, яна скрозь была ўсыпана чорнымі ды сінімі фігурамі людзей, якія джаралом цяклі ў адзін і ў другі бакі. У розных канцах горада гудзелі сірэны трывожна-дысанансную мелодыю, як бы выігрывалі зору, і на яе напевы збіралі рабочых — армію. У іх руху, ва ўвераных кроках, у спакойлівых выразах твараў адчувалася магутная вялікасць творчай сілы. Кожны рабочы, шагаючы пліткамі тратуараў, нес у сабе часцінку гэтае сілы; без яе недаставала б многага, а мажліва, і ўсяго таго, на чым вярцелася гарадское жыццё. Рыгор міжвольна адчуваў гэта — можа таму, што сам быў рабочым,

што ў глыбі душы захаваў гардлівасць гэтым званнем, што сам складаў часцінку агромнае арміі. Гардзіўся самім, а праз сябе і цэлаю грамадою.

Тут жа ён параўнаў адно з другім абачны рух і падзеі забастоўкі-дэманстрацыі. На моманце пратэсту злучацца ўсе гэтыя ядынкі-рабочыя, запаляцца агнём рашучасці і пададуць свой голас. Якава будзе яго сіла? Хто не здрыганецца ад яе? З гэтымі думкамі Рыгор выйшаў на ўзбярэжную Дзвіны.

Дзе мясціўся плывучы таржок — кіпела жыццё: гандляры і гандляркі, крыклівыя, ачамерныя, рухавыя, маталі рукамі, крычалі, лаяліся з пакупнікамі. Таржок гудзеў як парушаны вулей. Шнурком спяшылі на таржок работніцы, няньκі, боны: з кошыкамі, з пляцёнкамі, з гнутымі каробачкамі. Цэлы шнур ламавых падвозіў к таржку прыпасы: бульбу, цяпліковую гародніну, крупу, муку. Мурзатыя, запэцканыя з ног да галавы, шыракаплечыя, каржастыя ламавікі па парадку разгружалі кампаніяй пярэднія падводы, тут жа замяшчаючы іх чарговымі. У іх рабоце была асабістая наладжанасць, выпрацаваная доўгім часам. Цяжкія мяшкі падхапляліся крукамі і з надворнай лёгкасцю перакідаліся на плавучку.

Па Дзвіне шнуравала некалькі катараў з людзьмі і з дзясятак пaруснікаў. З левага боку плытнікі заварочвалі к берагу даўжэразны плыт. Яны голасна крычалі адзін другому, бегаючы ўзад ды ўперад па слізкіх бярвеннях плыта. Рыгор на ўсё зварочваў увагу, усё яго цікавіла, што мела рух, што вязалася з працоўнай чыннасцю, што складала каляско агромнай машыны горада. Працоўная часць гэтай машыны вярцелася ў віры творчасці, у натужным змаганні за кусок хлеба. А там, у цэнтры, у багатых кварталах, людзі яшчэ спачывалі пры адчыненых вокнах, у мяккіх пасцелях, абароненыя другімі ад назойлівых клапот жыцця. Іх не будзілі гудкі ды сірэны, не трывожылі вымаганні быцця. Ранак будзіў аколіцы, пачынаючы з іх працоўны дзень. Горад, як і ўся дзяржава, як усё чалавецтва, дзяліўся па стану людзей на дзве паловы — рэзкія, абмяжованыя адна ад другой. Між гэтымі паловамі ляжала глыбокая канава-раздзел. Жыццё несупынна паглыбляла яе, адначасова варужаючы абодва станы. Раз ад разу выбухалі ўздымы ўзаемнай варожасці, падганяючы блізкасць рашучае схваткі.

Забастоўка, якая наспявала ў горадзе, суліла падкрэсліць яе завостранасць.

Рыгор ізноў абярнуўся думкамі к ёй. Заздрочыла хаценне, хутчэй бы яна вынікла ды як найлепш прайшла. Ён перакінуў

узрок на дымлівыя коміны фабрык і заводаў. У цёмных полагах сажы, у затуманеным небе як быццам бы ўжо калыхаліся чуць абачныя яе нарысы.

Ловячы іх, Рыгор ускорыў хаду і непрыметна для сябе прыйшоў к заводу. Вузкаю стрункаю, як каралі, укочваліся рабочыя ў цесную шчыліну варотцаў. Рыгор злажыў сабою новае звяно і пераступіў парог разам з другімі.

— А! Дзень добры, Нязвычны! — леваю рукою крануўшы казырка шапкі, прывітаў Рыгора стары Караль. — Я твой нумар ужо загадзя падвесіў на дошку. Во, глядзі і ўпэўніся! — ён ткнуў заскарузлым пальцам у драцяную пляцёнку супроць меднага кружка з лічбаю 1803.

— А Міхась Камар не праходзіў яшчэ? Не падмячалі? — запытаў Рыгор.

Некалькі рабочых абмінулі іх, вешаючы свае нумаркі і вітаючыся з Каралем.

— Не, не прыкмячаў; здаецца, яшчэ не праходзіў, я бачыў бы, — адказаў Караль.

Рыгор пакіраваў к механічнаму корпусу.

## II

Завод яшчэ стаяў, калі Рыгор увайшоў у майстэрні: не рухалі нядаўна спыненыя начною зменаю варштаты, не шыпелі разцы і зубілы, не ляскала электрычная тачылка, не кратаў цяжкі кран. Толькі ўпарожнюю вярцеўся трансфарматар са спушчаным пасам. У першым паверсе падагравалі печы, выпускаючы пару. Рабочыя, што ўвачавідкі напаўнялі цэхі, няспешна пераадзяваліся ў рабочую вопратку. То сям, то там каля станкоў раздаваўся бразг сталі, — то пачыналі даставаць струмант. Некалькі майстроў і падлічнікаў хронаметражаў прабеглі ўсцяж майстэрні, паглядзелі на варштаты і спусціліся ўніз. Рыгор акінуў узрокам цёмна-шэрыя галы будынка, уздыхнуў і падышоў да станка, дзе працаваў перад водпускам. Усё стаяла на сваім месцы, як і пакінуў; толькі ззаду, пад комлем, хтосьці уткнуў новую скрынку з напільнікамі, малаткамі, разцамі, шаблонамі, рэхвамі і шрубамі. Ён карпануў рукою, як бы шукаючы чаго, і адышоў к шафе паглядзець свайго рабочага гарнітура. Кашулька ляжала на сваім месцы, зложанай як трэба, прыпыленай. Рыгор узяў яе, абглядзеў і намерыўся надзяваць, шукаючы вачмі портак.

Гэтым часам завод рушыў: усё вакол зашыпела, закруцілася, заляскала, забранчэла. Непрыметна рабочыя разышліся па мес-

цах і прыняліся хто наразаць, хто тачыць, хто шліфаваць, хто стругаць, хто вастрыць на наждаку разцы ды зубцы.

Знізу хлынула пара, перамешаная з дымам, смуродным ды ўдушлівым. Зазвінелі ўдары малатоў па жалезе.

Рыгор вярнуўся к станку і перш хацеў прысесці ды пачакаць майстра, а пасля перарашыў і пайшоў усцяж майстэрні. Прывітаўся са знаёмымі таварышамі, перказаўся з імі двума-трыма звычайнымі словамі.

У канцы праходу, другім ад сцяны, працаваў на стругальным станку Міхась Камар. Рыгор падышоў да яго, прывітаўся і запытаў:

— Ці не бачылі майстра часамі?

Міхась агледзеўся вакола.

— Толькі што быў тут. Мо ўніз дзе пабег, у кантору… Навошта ён табе?

— А я не ведаю, за вошта прымацца.

— Зараз прыйдзе наверх… — Памаўчаў і паглядзеў на суседзяў. — Ну, заўтра сходка, не забудзь…

— Заўтра, ласне?

— А чаго адкладаць… Трэба карыстацца момантам.

— А дзе?

— У Артура Цвібеля, на Задзвінні… Яшчэ стрэнемся заўтра, а між іншым папераджаю…

— Так, добра… Ну, я пайду к станку.

Рыгор адвярнуўся і ўгледзеў майстра, які ішоў насустрач, правяраючы рабочых.

— А, Іван Пятровіч, а я вас чакаю… Што мне пачынаць?

Іван Пятровіч, здаравенны русак, з чорнымі паднятымі на рожкі вусамі, з каўнерыкам пад незамурзанай кашулькаю, выбрыты ды прычэсаны, дабрадушна прывітаўся з Рыгорам і адказаў:

— Нічога, дамо работу. Пастараемся знайсці цяжэйшую пасля гульні; нябось, набраліся сілы ўдому. — Па шырокім твары майстра прабегла цёплая ўхмылка, а вочы бліснулі патайным агеньчыкам хітрасці. — Ну, як правялося ўрэмя? — запытаў ён.

— Нядрэнна.

— Ды я думаю, у бацькоў ды каб было дрэнна.

Рыгор змоўчаў, хапіўшыся думкамі за сходку. Толькі прайшоўшы некалькі крокаў, адказаў:

— У іншых лепей без бацькоў, чым з бацькамі.

— Чаму?

— А таму, што мая маці не вельмі мае з чым сына сустрэць.

Майстар перапусціў тую ж ухмылку, кіўнуў галавою і забег у канторку. Рыгор падышоў да станка і пачаў аглядаць яго з усіх бакоў. І не заўважыў, як падышоў да яго майстар з работаю.

— Вось, вытачыце дзясяткі два гэтых шрубак, — праказаў ён і адышоў.

Рыгор паважна настроіў станок, уставіў кавалак сталі і пусціў калясо. Прывычным настроем накіраваў разец і ўпусціў яго ў сталь. І тут жа засвісцела блішчастая доўгая стружка, гадзінаю папоўзшы яму на прыпол; за ёю другая, трэцяя… Ён не спускаў празрыстага ўзроку з адной кропкі, не зводзіў увагі ад станка. Яго шустрае вярценне і разьба сталі прыцягалі да сябе Рыгораву ўвагу і разам захаплялі яго працэсам творчага руху… Ён міжвольна зліваўся з бегам каляска, з міганнем высокага адшліфаванага ў зеркала валіка.

Рыгор не прыкмеціў, як прасядзеў пры станку да абеду, неадгінна, упіліўшыся незмігутным узрокам у лёза разца. Гудок, апавясціўшы перарыў работы, растаў у завыўным посвісце станка і застаўся ім не заўважаным.

— Што так шчыра прыняўся за работу? — перабілі яго суседзі. — На абед пара.

— Ласне ўжо быў гудок?

Звычайны абедзенны рух па майстэрнях паказваў, што быў.

Рыгор спыніў станок і прыўстаў. Закалола ў плячах, задрыжалі ногі ад непрывычкі. Але ён не марудзіў і пакінуў майстэрню не астатнім.

На двары нагнаў некалькіх знаёмых таварышаў і разгаварыўся.

Гутарачы, яны зайшлі ў харчоўку. Цікавасць да настрою сярод рабочых іх завода і суседніх фабрык, якія дзясяткамі мясціліся ў гразкай непрытульнай харчоўцы, цягнула яго пабыць з імі. Заўтра яму будзе матэрыял у руках, каб адстойваць сваю думку, як найхутчэй пачаць забастоўку. Улічваючы важнасць гэтага пытання, Рыгор праз увесь час абеду падтрымоўваў гутарку з рабочымі за сваім і суседнімі сталамі. Вакол яго сышлося да двух дзясяткаў чалавек, якія пільна прыслухоўваліся да гутаркі і хвіліна ад хвіліны ўстаўлялі свае адабрэнні. Цэлаю грамадою правялі яны Рыгора ў завод.

### III

Вечарам, пасля работы, Рыгор вярнуўся на кватэру. Быў настрой нікуды не выходзіць. Пільная, захапіўшы яго цалкам, работа як-ніяк стаміла за дзень; ён адчуваў цяжар ва ўсім целе, і, калі зайшоў у пакой, — пацягнула адпачыць. Шчымела ў галаве: хацелася даць перадышку разгарачанаму мозгу.

Рыгор паспешна раздзеўся і прылёг. Яго адразу ахапіў здром; ён на нейкі момант знябыўся, некалькі хвілін прадрамаў. Але раптоўны званок у дзвярах яго разбудзіў. Рыгор схамянуўся і прыўстаў. «Ці не Ганна?» — стукнула ў галаў выразная думка. Ён прыслухаўся і, затаіўшы дыханне, пачакаў, пакуль адпёрлі дзверы і загутарылі на калідоры. Аднак па голасе ён пазнаў, што то прыйшлі не да яго, і супакоіўся; прылёг зноў. Заплюшчыў вочы і намерыўся заснуць. Але ўжо на гэты раз думкі мяшалі, ён не мог адагнаць ад сябе вобраза Ганны. Праз цэлы дзень і не думаў, — а тут раптам яна знайшлася: як бы чакала ўрочнага часу, каб цалкам запаланіць яго ўвагу і пачуццё. І якраз паспела, — ці ж ад яе ўхавацца?

Болей гадзіны ў думках і пачуцці Рыгор жыў з Ганнаю, не могучы заснуць. Нарэшце сон пачаў змагаць. Думкі хвіліна ад хвіліны станавіліся горш заблутанымі, разрываліся, губілі парадак… Тады ён прыпомніў стычку Ганны з Вільгельмінаю і ўсхапіўся з ложка.

На кожны выпадак трэба папярэдзіць Вільгельміну, каб яна ўпусціла, калі хто прыйдзе да яго.

І ён даў сігнал. Работніца пастукала ў дзверы.

— Прашу!

Адчыніла.

— Вось што, Вільгельміна, калі хто ісціме да мяне — пусціце абавязкова.

— А то ж я не пускала калі?

Дзяўчына ўперылася здзіўленымі вачыма ў Рыгораў твар.

— Не, я таго не кажу; але вы мо падумаеце, што мяне няма дома, і неасцярожна адправіце — хто прыйдзе. Да мяне мусяць сёння прыйсці…

— Добра, — і Вільгельміна выйшла з пакоя, адчуваючы лёгкую крыўду.

— Вельмі прашу вас, — паслаў удагонкі Рыгор.

І калі шагі работніцы змоўклі, ён хутка заснуў. Адчыненае акно, што прапускала надворнае паветра ў яго пакой, цішыня, што выпадкова на гэты раз панавала ў кватэры, — пасаблялі

ўкрапіцца Рыгораваму сну. Ён ляжаў, як прывязаны, непарухна і пахропваў. Прынятая поза — на правым баку, злёгку падагнуўшы ногі — не мянялася ім праз некалькі гадзін. Толькі пярэдаднем, калі знадворку пацягнула рэзкаю свежасцю, ён паправіў на сабе капу, затуліўшыся ў яе з галавою.

Ноч прамігнула, як хвіліна: было без чвэрткі сем гадзін раніцы, калі Рыгор прахваціўся. Паглядзеў у акно і з першага моманту не разабраў, ці дзень, ці адвячорак, ці раніца. А разабраўшыся, здзівіўся і пашкадаваў, што столькі часу змарнавалася ў сне. Але тая лёгкасць і бадзёрасць, што ахапілі яго, выкупалі страту. Пасля ўчарашняга перажытку ўсё выглядала яму ў ружовых фарбах, усміхалася і прываблівала сваёю прыемнасцю ды хараством.

Гудок, знаёмы, басісты, з рэзкім хрыпам, вытаўхнуў Рыгора з кватэры. Як бы штурхнуў яго і, зрушыўшы з месца, пацягнуў гвалтоўна за сабою.

Зусім за кароткі час Рыгор дайшоў да завода, без учарашняй цікавасці павітаўся з Каралем, прабег двор і ачуўся каля свайго станка. Механічна пераапрануўся, механічна пусціў станок. Як і ўчора, стройна паляцелі з посвістам блішчастыя стружкі, загуло каляско, запляскаўся шнур; па-ўчарашняму прыгравала разбаўленае дымам праменне. Толькі лягчэй было прыгнутай спіне ды падкурчаным нагам — уцягаўся ў працу, прывыкаў. Бясконцы шолам і стукатня не глушылі думак-летуценняў.

Рыгор гадзіны са тры прасядзеў пры станку бяздумна, цалкам аддаўшыся працэсу працы, адлучаны ад усяго свету. Пасля якаясь прымха натаўхнула ўспомніць пра ўчарашні вечар, ці не прыходзіў толькі хто-кольвечы да яго? А мо часамі і Ганна? Зарупіла балюча, чаму не запытаў Вільгельміну і каб хутчэй запытаць. З гэтай прычыны прыпыніў станок і паглядзеў на гадзіннік, ці хутка міне дзень. Была субота. Падыходзіў абед — значыць, заставалася яшчэ дзве гадзіны. Як ён дачакаецца? Цэлыя дзве гадзіны несупыннага вярцення станка, незмігутнай сочкі за лёзам разца!

Але не агледзеўся, як работа прыйшла к канцу.

— Кідай, чаго так прыліп да станка, — пачуў Рыгор над вухам і адняў разец ад сталі; азірнуўся і ўгледзеў Міхася Камара.

— Ды кідаю, кідаю! Зусім бы, здаецца, кінуў.

— Чаму так?

— Няма ахвоты. — І паджартаваў, хоць у душы не стаіў сур’ёзу:— Забастоўка б тая хутчэй. Сапраўды, час ідзе, а мы нечага жджом.

Міхась палажыў яму на плячо руку.

— Сягоння вырашым. Абавязкова будзь а дзявятай гадзіне ў Цвібеля.

— Добра.

І калі Міхась адышоў, Рыгор некалькі хвілін пастаяў, як азадачаны. А пасля паспешна сабраўся, амаль не першым памыў рукі і выбег за вароты, каб пераняць таварыша.

— Мне хочацца пагутарыць з вамі, — ціха праказаў, нагнаўшы.

Яны аддзяліліся ад натоўпу, перайшлі на другі бок вуліцы і, разгаварыўшыся, пайшлі па ўзбярэжнай. Рыгор з зацікаўленасцю чапаў розныя пытанні ў звязку з сучасным момантам, выпытваў настрой камітэта арганізацыі, фракцыйныя спрэчкі, асцярожна выспрабоўваў, як Міхась глядзіць на тэрмін абвяшчэння забастоўкі, і пачаў выказваць свае думкі наконт усяго гэтага.

— Мне думаецца, — казаў ён, — што зараз мы можам не толькі што абвясціць забастоўку, а і зрабіць спробу да варужнага выступлення. Гэткі ёмкі момант! Абурэнне сярод матросаў, шэраг буйных забастовак, уздым грамадскага нездаволення… Вось абгаварыць гэта як след, выпланаваць і зараз жа за справу. Рабочыя ў добрым настроі…

Міхась тузануў яго за рукаў і наставіцельна паківаў галавою.

— Адкуль у цябе гэткі запал? Беспардонны максімалізм! Які ты гарачы стаў! Адразу гатоў свет перавярнуць. Пачакай. Пабераж свайго імпэту надалей, а то — выпшыкаешся скора. Яшчэ не быў у пераробцы. Цябе латышскія сацыял-дэмакраты падбіваюць…

Для Рыгора Міхасёвы словы прагучалі зусім не сур'ёзна, як быццам жартоўна, з прадугледжанымі кепікамі.

— Вы смеяцёся? Вас туманіць апартунізм…

— Як хочаш разумей.

Ён змяніў голас і нездаволена адказаў:

— Я не ведаю, чаму вас не кратае нічога. Няўжо вам не баліць усё тое, што робіцца наўкола. Дальбог, ну — я не ўтраплю сабе, як гэта людзям удаецца так ёмка астудзіць свае пачуцці… Разганяюць з фабрык рабочых, арыштоўваюць забастоўшчыкаў, судзяць на смерць людзей, а ім хоць бы што — ліквідатарства… Мэрам так і трэба. Тут, па-мойму, ніводнай хвіліны не трэба чакаць. Лепш памерці ў змаганні, чымсь жыць у няволі…

— Праўда, праўда…

Міхась азірнуўся вакола.

— Лепш памерці ў змаганні; лепш, чымсь жыць у няволі. Але калі паміраць, то трэба адно мець у воку, ці ўсё ты купляеш сваім жыццём, ці мог бы ты яго прадаць за больш дарагую цану. Уміраць на полі бойкі трэба з рашчотам… Умерці — невялікая штука…

Рыгор задумаўся. «Міхась, якога, як-ніяк, нельга западозрыць у мяшчанскім настроі, а размаўляе дзяляцкі, куртаты меншавізм заядае».

Хто з іх праўдзіў?

Няўжо Міхасёвым настроем будзе прасякнута ўся сходка? Няўжо яго, Рыгора, ніхто не падтрымае? Усё ж Рыгор будзе цвёрда стаяць на сваім, няхай лічаць гэта за ману, за непрадугледжанасць, за мары.

— Не ведаю, чаму вы так кажаце, — развітваючыся, праказаў Рыгор, — мне здаецца, што смерць не лічыцца з рашчотам, а жыццё не мераецца розным коштам.

Адышоўшыся на сажні два, ён улавіў яшчэ адну думку гэткага сэнсу, але вярнуцца назад, каб яе выказаць, палічыў ніякаватым і, разбіраючы яе сам сабою, пайшоў дамоў.

## IV

На кватэры Рыгор не бавіўся. Каб вярней папасці на сходку, ён завідна прагулачным шагам пайшоў на Задзвінне. Па дарозе некалькі разоў спыняўся і па хвілін колькі сядзеў — у Верманаўскім парку, на бульварах. Таксама прастаяў крыху каля Дзвіны. Усю дарогу размеркаваў на паўтары гадзіны і толькі апошнюю чвэртку не ўлічыў, як лепей выкарыстаць, каб не тупаць два разы па адным месцы. Але яму ніяк не ўдалося гэтага абмінуць: незнаёмая мясцовасць і надышоўшы змрок паперашкодзілі яму адразу падмеціць патрэбную лічбу дома. Прыглядацца ён не хацеў, бо недалёчка, на скрыжаванні вуліц, стаяў гарадавы і пільна ўзіраўся за кожным пешаходам; асабліва, паказалася так, паліцыянт прыглядаўся на яго. Каб не даць выгляду, што ён шукае каго ці чаго, Рыгор уверана пайшоў да канца квартала і павярнуў направа, каб абкруціцца вакола і тады проста ды ўверана ўвайсці ў вароты. Абход патрабаваў чвэртку гадзіны, і Рыгор удвойчы прайшоў адным месцам. Ці падмеціў гэта гарадавы, ці не, ён не цікавіўся, а хутчэй прайшоў у браму.

На дзядзінцы, агароджаным высокімі мурамі, гуляла куча дзетак. Пры ўходах, на нізенькіх ганачках, сядзелі кабеты і рэзва абгаворвалі здарэнні пражытага дня. Рыгор помніў, што трэба

ісці налева, да куткавога ўвахода, і павярнуўся, бесцікаўны ля ўсіх, хто быў на дзядзінцы. Узышоў на ўсходы і вобмацкам, бо яшчэ не было электрыкі, знайшоў званок. Яму тут жа адчынілі, мігам закрыўшы дзверы.

У нелапым і, наколькі можна было падмеціць у змроку, чыста прыбраным пакоі знаходзілася ўжо некалькі чалавек: яны сядзелі ў радок на мяккай канапе за прыстаўленым да яе паўкруглым сталом. З двух канцоў стала ляжала па некалькі кніжак, у пераплёце і неапераплеценых; пасярэдзіне закрывалі прагал разгорнутыя ва ўсе шыркі газеты.

Рыгора сустрэлі моўчкі, і ён сам перарваў цішу прывітаннем:

— Добры вечар!

За ўсіх адказаў гаспадар кватэры, які сядзеў ад акна.

— Вечар добры!— І запрапанаваў: — Сядай, сябру Нязвычны…

Пасля прыўстаў і запытаў Рыгора:

— Знаёмы з усімі?

Той прыглядзеўся — людзі былі незнаёмыя.

Усім падаў руку: апошняй — дзяўчыне, якая сядзела з другога канца канапы.

Прывітаўшыся, Рыгор прысеў ля стала побач з дзяўчынай.

— Мала цікавага, — пераняў Артур, — ды якраз няма святла.

— Што ж так доўга не падаюць? — запытала дзяўчына і прыўстала з месца.

Якраз бліснула электрыка. Адзетая ў цьмяны ўзорны абажур, лямпачка дала досыць святла, так што людзі і рэчы выглянулі ў поўным акрэсленні.

— Вось прагаварылася.

Рыгор паглядзеў на дзяўчыну і захапіўся яе стройнасцю, здаровым целаскладам, прыгожай постаццю. Крыху прадаўглы смуглы твар з дасканала прымеркаваным роўным носам, цёмнымі вачамі пад густымі чорнымі брывамі, мерны лоб, абложаны чарнаватымі, прыгладжанымі ў простую прычоску косамі. Яна была адзета ў простае паўшарсцянае плацце з перахопам у стане і з высокім каўняром, які шчыльна закрываў стройную шыю. Пастаяўшы колькі хвілін, дзяўчына села і, працягаючы нагу, кранула Рыгоравай нагі.

— Убачайце!

— Калі ласка.

— Якая я няўдалая, ці не праўда?

— Гэта можна вам даравацць.

— Не вучылася абыходжанню.

І яна засмяялася. Рыгор з нейкаю патайною думкаю паглядзеў на прысутных, каб праверыць, ці яго аднаго так цікавіць гэта дзяўчына-таварыш, ці захоплены ёю ўсе прысутныя. Пяцёрка чалавек, наўзапой курачы, былі напэўна заняты іншым: яны перакідаліся адрыўнымі сказамі, некаторыя заводзілі рэвалюцыйныя мелодыі, мянялі раз у раз позы ды пазіралі на гадзіннікі.

— Нам яшчэ многіх трэба прычакаць? — запытаў ва ўсіх адзін з прысутных, даўгакосы, з бародкаю клінком, у акулярах, тыпічнага інтэлігентнага выгляду мужчына, гадоў за трыццаць.

— Павінны падысці зараз, — адпавеў яму сусед, здаровы, белакуры, паўнатвары латыш, — вось яшчэ нават Міхася Камара… Нешта-нейкае з ім.

Ён павярнуўся да Артура:

— Ці толькі прыйдзе ён наогул?

Рыгор адказаў:

— Я з ім бачыўся пасля работы; абяцаў прыйсці абавязкова.

— Не можа не прыйсці.

— Можа, што здарылася? — уставіла ад сябе дзяўчына.

— Нічога, пэўна, з ім не сталася, а ўжо ў нас гэткая прывычка — заўсёды на паўгадзіны пазніцца, — матнуў рукою інтэлігент.

— Не падабаецца мне гэта.

— А каму яно падабаецца…

Стук за дзвярыма, а следам званок перабілі гутарку. Артур кінуўся да дзвярэй і ўпусціў адразу траіх чалавек, Міхася сярод іх.

— Не думай, што разам ішлі, дагнаў іх на ўсходах, — замест прывітання праказаў ён да Артура.

— Я і не думаю.

Калі ўвайшлі ў пакой, Рыгор не даў вымавіць слова, накінуўшыся на Міхася.

— Ваша холаднасць і ў гэтым выявілася.

— А ты яшчэ не астыў? Ты — факел наш.

— Мо незнаёмы, — абярнуўся ён да ўсіх, — гэта з нашага завода, мой вучань, можна сказаць, і мая гордасць.

Усе паглядзелі на Рыгора, як бы хочучы пераканацца ў праўдзівасці Міхасёвых слоў. Пільней за ўсіх паглядзела на Рыгора дзяўчына: аўтарытэт Міхася казаў за многае.

Рыгор, нібы сумеўшыся ад Міхасёвых слоў, прыўстаў і злёгку пакланіўся ў бок таварышаў. Пасля, не думаючы, працягнуў дзяўчыне руку і шчыра, з запалам паціснуў:

— Рыгор Нязвычны!

Пэўна ён зрабіў бы тое самае і з мужчынамі, у кожным разе ён падаў намер, але Артур пераняў яго сказам:

— Я пазнаёміў ужо Нязвычнага з таварышамі.

Тады Рыгору асталося сесці, што ён і зрабіў. І пакуль тыя, што прыйшлі, перакідаліся словамі з інтэлігентам, ён выкарыстаў час для гэткай перамоўкі з дзяўчынаю:

— Убачайце!

— Калі ласка…

— Цікава, які настрой на вашым заводзе?

Рыгор паправіў сядзенне; быў рад, што яго запыталі.

— Як бы вам сказаць, я ўсяго два дні папрацаваў і не паспеў акурат разведаць, але наколькі мог прыслухацца да гутарак і сам пагутарыць — настрой баявы. Гэта мы мусім зараз падкрэсліць. Другія не цікавяцца, а я думаю — то будзе наша абмылка. — Ён памаўчаў. — А вы, таварыш, на якім заводзе працуеце? І што кажуць у вас?

— Я з «Праваднiка», — ахвотна адказала дзяўчына, а сама востра пранізвала яго сваімі цёмна-шэрымі вачмі. — У нас рабочыя нядрэнна настроены… На кожны кліч да забастоўкі адгукнецца рашучым выступленнем. — Яна з намерам унесла прапазіцыю: — Давайце разам будзем праводзіць свае пытанні. Га? Я — максімалістка…

— Латва — я таксама супроць меншавіцкай драбласці…

Яны згоднай ухмылкай заключылі гутарку і момант памаўчалі, — таксама мэрам згаварыўшыся.

— А я, ведаеце, меў выпадак падсачыць настрой вёскі, — пахваліўся Рыгор.

— Так? Якім чынам?

— Выпрасіўся на пабыўку.

— Вы шчаслівы: я вам завідую. А я каб і магла паехаць, дык няма куды… Я…

Артур перабіў іх гутарку прызывам да ўвагі.

— Пачнем, таварышы…

Усе змоўклі, паправіліся на сядзенні.

— Што ж, як водзіцца, давайце старшыню выберам.

— Міхась! Таварыш Камар!

— Так і бог вялеў, — падказала дзяўчына.

Міхась адказаў ухмылкаю і тут жа прамовіў:

— Пасяджэнне адчыняю… Наша сходка прадстаўнікоў ад заводаў і прадстаўнікоў ад мясцовых арганізацый павінна вырашыць пытанне, як і калі абвясціць агульную забастоўку ў

Рызе. Гэта пытанне, думаю, зойме ў нас увесь вечар, і іншых дадатных пытанняў мы ставіць не будзем.

— Не, не! — падмацавалі некалькі галасоў.

— Тады даю слова таварышу Якаву Гісу.

Усе маўчалі, а ўстаў чорны інтэлігент. Крыху памаўчаў, злёгку пахіліўшы лахматую бакунінскую голаў, як бы выбіраючы словы для пачатку прамовы, кашлянуў, а пасля пачаў казаць цвёрдым, трошкі гаркавячы, тэнарком:

— Вы, таварышы, сышліся сённека на гэту сходку, каб вырашыць адпаведнейшае пытанне, ці ёсць сэнс і ці тэрмінова зараз абвяшчаць агульную забастоўку. Зараз мы перажываем вельмі і вельмі рашучы момант! Царскае правіцельства кідае пярчатку працоўнаму народу і ўсяму лепшаму грамадзянству, якое падае свой голас пратэсту супроціў пануючага гвалту… Хутка разыграецца крывавая камедыя-суд над балтыцкімі матросамі… Ім ужо царскія каты згатовілі свой люты прыгавор… Мы павінны адгукнуцца на гэты замах палачоў рашучым выступленнем — забастоўкаю… Мы гэта зможам зрабіць, бо адпаведны настрой у рабочых ёсць. Ён ужо прарываецца наповерх: як вам вядома, ужо доўга бастуюць перапёкі, спыніўся завод кампаній электрычнасці… Калі мы не сумеем узяць рух у свае рукі, ён абміне нас і развінецца стыхійна сам сабою…

Прамоўца далей датыркнуўся ў сваёй рэчы дарагоўлі, што дало прычыну для дробных забастовак рамеснікаў, чапіў таго ўздыму, які ахапіў розныя куткі прамысловай Расіі; пасля перайшоў да заграніцы, даўшы агульны агляд рабочага руху і палітычнага жыцця другіх краін.

Казаў паўтары гадзіны без перапынку, складна, лагічна, без перабояў.

Закончыў з маленькім хрыпком, выгукнуўшы да сходкі:

— Ад вас залежыць вынесці тое ці іншае рашэнне…

Ён абцёр лоб хустачкаю і адышоў на сваё месца.

Рыгор дзівіўся яго красамоўнасці ды ўменню падысці да слухачоў; і карыў сам сябе, — чаму ён не ў моцы гэта зрабіць. «А яшчэ мне хацелася стаць правадыром! Ці ж я сумею?» — сумняваўся ён. І карцела чымсь хутчэй узяць слова.

Але пакуль што пачаліся даклады дэлегатаў з завода. Адзін, другі і цэлы рад прамоўцаў расказвалі аб настроі рабочых і выкладалі свае думкі наконт закранутага пытання. Апошнім казаў Міхась. Расцяжным, спакойлівым тонам прызываў ён строга абгаварыць гэта пытанне, улічыць усе дробязі яго і не

быць гарачымі не ў меру, як то «адмячаецца сярод некаторых таварышаў».

Рыгор праслухаў даклады з той жа ўвагай, як і прамову Якава; запаматаў характэрныя сказы і намёкі кожнага дакладчыка, але не думаў, што Міхась возьме слова наперад за яго, і сумеўся: «А можа, не прыйдзецца мне казаць?»

Аднак у сваім слове, нечакана для ўсіх і для самога сябе, ён знайшоў, як і што падысці да справы, сказаўшы:

— Я чуў тут прамову таварыша Якава і чуў словы іншых таварышаў. Заключыў мой паважаны настаўнік — Міхась. Нельга сказаць, каб пачалося дрэнна, але дрэнна скончылася: калі Якаў зваў да памяркоўнай рашучасці, то таварыш Міхась і яе пераняў сваёю асцярогаю. Да чаго яна вядзе, гэта асцярога? Першы дакладчык ужо адмеціў, што абурэнне рыжскіх рабочых выбіваецца наповерх, і падаў правідловую думку, што калі мы спознімся абвясціць агульную забастоўку, то здарэнні абмінуць нас і разгорнуцца ў стыхійны ўздым. Знача, «трэба спяшыць узяць рух у свае рукі». Але ці гэта знача, што мы павінны абмежавацца невыразным прызывам да забастоўкі? Не. Мы павінны асадзіць яе ў рэвалюцыйныя рамкі рашучага выступлення. Рабочыя павінны ведаць, што яны не абараняюцца толькі, а ідуць у наступ… Раз кінулі пярчатку, трэба яе падняць…

Рыгор пачаў ціхім голасам і седзячы, пасля падвысіў тон і прыўстаў; далей абярнуўся ў натхнёнага прамоўцу, гутарачы з націскам, размахамі рукі. Кожнае слова выходзіла суцэльным, адлітым, дыхала сілаю і абдуманасцю. Вясковы, беларускі акцэнт не псаваў, а як бы скрашваў высечаныя з граніту сказы. Папярэдні прамоўца, інтэлігент Якаў, налоўчаны казаць, стушаваўся з сваёю, вельмі ўжо гладкаю, адшліфаванаю і ад гэтага халаднаватаю прамоваю. Яго журнальная форма ў пабудове сказаў, цягучыя калыханні ў выгаворы пакінулі хоць і прыемнае, але зусім інакшае, ніж Рыгорава слова, уражанне. Рыгор выйграваў шчырасцю, як рабочы, здаваўся многім з прысутных чалавекам іншае ад Якава фармацыі. Нават Міхась мусіў прытаіць іранічную ўхмылку наконт «свайго вучня» і паківаць галавою ў адзнаку пахвалы яму.

Ну, а дзяўчына — тая цалкам захапілася Рыгоравымі словамі. Увесь час, калі вяліся спрэчкі, яна не спускала з яго вачэй, забыўшыся аб усім іншым. Пасля Рыгоравае прамовы яна лічыла бескарыснымі спрэчкі і праекты іншага зместу; чакала галасавання, каб падтрымаць яго.

Пастанова сходу абмежавалася абвяшчэннем забастоўкі. Рэдакцыя пастановы раззлавала дзяўчыну больш, як Рыгора. Яе гнеў крыху астудзіла даручэнне, якое нарада дала Рыгору: выступіць перад рабочымі завода з дакладам аб мэтах забастоўкі. «Рыгор сумее выкарыстаць гэта для сваіх вывадаў», — рашыла яна.

Пры гэтым ёй захацелася настроіць Рыгора зрабіць усё магчымае для надання большай рэвалюцыйнасці пастанове.

З нарады пачалі разыходзіцца па адным каля першай гадзіны. Тыя, што чакалі чаргі, гутарылі аб дробных справах, інфармавалі адзін другога аб маленькіх эпізодах з забастоўкі перапёкаў ды электрыкаў.

А Рыгор, даючы выгляд, што слухае, перадумоўваў праявы бягучага моманту, што датыркалі яго самога. І перад ім паступова адно за другім, сплятаючыся ў суцэльны ланцуг, прамігала — вяртанне з дому, запрашэнне на нараду-сход, падбліжэнне забастоўкі, гарачая прамова на нарадзе і наступнае выступленне перад тысячнай грамадой рабочых. Рыгор раўняў гэта з уступам на высокую гару: усё вышэй ды вышэй паднімаешся ўверх, усё больш ды больш шырокі гал рассцілаецца ўнізе. Усё, што ўжыўна было пры першым кроку, разрастаецца ў нешта магутнае, неабдымнае, неасяжнае. Забываешся, губіш будзённыя клопаты, штодзённыя думкі, як губяць сваю меру ды ўзрост усе рэчы, чым вышэй ты ад іх. З той высі, куды ён ішоў, будзе яму відаць не толькі Сілцы, а цэлы свет. З тае высі яго голас пачуюць усюды ўсе, бо ад яго прамовы будзе залежаць кірунак здарэнняў.

У сваіх задзёрыстых сяганнях Рыгор прапусціў між вушэй шмат цікавых навін. Таварышы смяяліся, дзівіліся, строілі дагадкі і адгадкі, развітваліся, у пакоі цішэла, а ён марыў і лунаў па высях, у будучыні, горды, недасяжны, апалены прагнымі, яскравымі летуценнямі. Нават не заўважаў дзяўчыны, якая тут жа пры ім сядзела, умілялася і чакала.

Нарэшце ў кватэры застаўся адзін Артур, — трэ было ісці.

— Пойдзем разам? — абярнулася дзяўчына да Рыгора.

Той быў палішчаны яе прапазіцыяй і далікатна адказаў:

— Вельмі рад.

Яны развіталіся з Артурам і пакінулі яго кватэру.

V

— Вам далёка ісці, таварыш? — запытаў Рыгор дзяўчыну, выйшаўшы з брамы.

— На Мар… вуліцу, — адказала яна.

— Здорава. Мне ў той жа бок, хочаце, я правяду вас?

— Калі ласка; адной мне так нязручна.

Моўчкі прайшлі яны вуліцаю да Дзвіны, спяшаючы захапіць пераход ці пераезд. Па дарозе, настрэчу прайшло некалькі чалавек. Рэдкія ліхтары асвятлялі вуліцу. Стаяла цёплая, парная пагода. З горада даносіўся ціхі шум. Калыхаліся снапы проміну, здавалася, калышучы сабою неба. На вакзалах свісцелі паравікі. Каля катарнай прыстані стаяла некалькі запозненых пасажыраў; адны ў другіх перапытвалі, ці вернецца катар.

Яны прыпыніліся і сталі чакаць. З заліва паказаўся агромністы марскі параход; дзясяткі агеньчыкаў прарэзвалі адбіткам бляску чорнае палатно Дзвіны. Зычны гудок хутка пранёсся над горадам, аддаўшыся дзесьці далёка-далёка, чуць не на моры. У тым жа баку, але шмат бліжэй, мэрам свечкі, гарэлі вокны заводаў; над імі, пад небам, гулялі пукі рэзвых іскраў. Туды глядзела некалькі пасажыраў, апісваючы прыгожасць абачнага вобраза.

Паміж тым параход падышоў к прыстані, якраз супроць іх, і пачаў разгружацца. Узбярэжная зашумела стукам калёс, выгукамі людзей, якія выяўна далятталі з другога берага Дзвіны. Нарэшце падышоў катар, і яны праехалі ў горад.

— Можа, паедзем з рамізнікам? — запрапанаваў Рыгор.

Падарожніца крыху падумала.

— Не варт, — адказала.

— А можа, усё-ткі?

— Я б хацела пабыць з вамі нейкі час.

Яе словы былі нечаканы для Рыгора.

— Я рад гэтаму, — мог сказаць ён.

І замілаваным узрокам кінуў дзяўчыне ў твар.

Моўчкі яны прайшлі добры кавал узбярэжнае, звярнулі ў завулак, крывы, глухі і вузкі, прамінулі дзве ператочныя вуліцы.

Нарэшце мімаходзь вырвалася ў Рыгора:

— Вы даўно працуеце на заводзе?

Ён прыкусіў язык, чакаючы адказу: «Да чаго ёй маё запытанне?»

Але дзяўчына, мусіць, толькі і чакала ад яго жывога зыку.

Не паспеў замерці ён у Рыгоравых вуснах, як яна словаахотліва, гасцінна адказала:

— Не, не зусім. Я сама — швачка; працавала тры гады ў адной майстэрні — тут, у Рызе. А летась восеняй кінула… бач, не сама кінула, — прагнала гаспадыня за падгавор дзяўчат на стачку. Месяц гуляла без працы, а пасля, з дапамогаю свайго дзядзькі, папала ў «Праваднік»… Чорную работу маю, цяжкую… Але нічога не зробіш. Адна — пражыву як-кольвечы… Палацаў, пэўна, не нажыву.

Яна засмяялася…

Рыгор нічога не адказаў: яму захацелася ведаць імя дзяўчыны, і думаў, ці варт пытаць.

— Ну, а вы здаўна жывяцё ў Рызе?

Прыйшлося расказаць, як і што. І шчыра, без утайкі драбнейшага факта, расказаў ён, хто і што сам, адкуль прыехаў, як папаў на завод, як пазнаёміўся з Міхасём Камаром, як жыве цяпер…

Каля дзесяці хвілін прагаварыў Рыгор, зацішыўшы хаду. І з нутра яшчэ ўсё набягалі словы, як нехта выпіраў іх сілаю, але ён сумысна прымоўк, каб запытаць яе.

— Даруйце, вы маё імя ведаеце, а самі — як тая незнакомка. Мне ніякава без гэтага. Вось ужо мы болей пяці гадзін знаёмы, а я… Няўжо нам не ўдасца больш стрэцца?

Яны падыходзілі да Верманаўскага парку; цёмнай сцяною падніманіся старыя дрэвы, навісаючы над вуліцаю.

— Мне здаецца, што… вы з далікатнасці…

— Вы сараматніца вялікая, як я бачу. Не чакаў, прызнацца, у вашым палажэнні… — І ён узяў дзяўчыну пад руку. — Мы перш усяго — таварышы. Праўда, таварыш?..

— Таварыш Наталя.

Яны ўвайшлі ў парк. Насустрач прайшло некалькі чалавек; у баках чуўся дзявочы смех. З галоўнай алеі павярнулі на бакавую. Каля лаўкі спыніліся.

— Вы любіце зелень? — запытаў Рыгор.

— Так: люблю поле, лес, кожны кусцік. Вельмі люблю; занудзіла па іх, і рвуся, рвуся… Ды бескарысна: няма куды і няма за вошта ехаць. Паверыце, я яшчэ не была гэтым летам на ўзмор'і.

— Я таксама быў усяго раз, хоць і мог бы… Са мною іншае — я не маю з кім.

— Вы праўду кажаце?

— Праўду, праўду… Хочаце, паедзем з вамі?

— Што ж, я з ахвотаю…

Абое замаўчалі, думаючы.

Раздумы аднялі некалькі доўгіх хвілін.

— Што вы маўчыцё? Над чым задумаліся, таварыш Нязвычны? Я памяшала якомусь вашаму плану? Вы хацелі ісці куды, зачым? — скарамоўна кінула чатыры пытанні Наталя.

І тон у яе голасе быў зусім не выбачны.

— Кіньце, кіньце, я пры вас — толькі аб вас думаю. Я рад нарэшце, што напаткаў сабе добрага таварыша. А то больш часу я адзін ды адзін. Хоць падзяліцца будзе з кім сваімі перажываннямі… Бачыце, штодзень — іх болей ды болей надыходзіць. Стачка! Колькі навін яна прынясе!

— Вы думаеце пра забастоўку?

— Думаю… Я, прызнацца, цалкам захоплены ёю. Гэтыя дні, ад прыезду з дому, яна завалодала мною.

— Вы баіцёся яе?

— Я?!

Рыгор не даказаў. Абое падняліся з лаўкі і пайшлі з парку.

Прайшоўшы гонаў двое моўчкі, Наталя запытала:

— А як будзе ў нядзелю?

— Давайце спаткаемся а другой гадзіне ў Верманаўскім парку. Авось падыдуць якія-кольвечы навіны…

Занятыя нязначнай перарыўнай гутаркаю, падышлі яны да самага дома, дзе жыла Наталя. Прыпыніліся пры браме, яшчэ раз умовіліся аб нядзельным спатканні і развіталіся. Рыгор спакойнаю хадою пайшоў усцяж вуліцы, да Верманаўскага парку.

Кароткі тэрмін, які давялося яму прабыць з Наталяю, пакінуў па сабе глыбокі след у яго нутры. Зусім неспадзявана напаткаў, і вось… Выпадак за выпадкам, нязначныя, дробныя, пластуюцца яны і складаюць моцныя слаі жыцця. Заўсёды непрадбачныя, заўсёды цёмныя — яны нахальна ўрываюцца ў будзёншчыну, здавалася б, раз абаснаванага працэсу і перабіваюць яго стройнасць… А мо дзякуючы гэтаму працэс жыцця набывае сваю паўнату?

Ужо добра шарэла, калі Рыгор вярнуўся к сабе на кватэру. Дворнік пакінуў браму адпёртаю і пайшоў спачываць пасля бяссоннай ночы. Ліхтаршчык тушыў ліхтары. У двары, куды прыйшоў Рыгор, некалькі ранніх асоб таўкліся ля хлевушкоў. Ціха перагаворваліся адна з другою. Ён падняўся на ўсходы да свае кватэры і пазваніў. Ніхто не з'яўляўся адчыніць. Рыгору стала няёмка, што ў гэткую пару непакоіць гаспадароў кватэры. І ён мацней пазваніў. Праз хвіліну Рыгор пачуў:

— Хто там?

— Я, Рыгор.

Вільгельміна адпёрла дзверы і, не знайшоўшы сказаць нічога путнага, паведаміла:

— Учора прынесла вам нейкая дзяўчына пісульку; я палажыла яе вам на стале.

— Дзякую… Прабачайце, што патрывожыў у гэткі час.

— Нічога, мала што бывае,

Вільгельміна прайшла на кухню, а Рыгор — да сябе ў пакой. Зачыніўшы за сабою дзверы, ён кінуўся да стала, знайшоў пісульку і разгарнуў.

Пачаў чытаць:

«Дарагі Рыгору, я была ў цябе роўна а дзявятай гадзіне. Вельмі хацелася ўбачыцца з табою, каб пагаварыць. Столькі назбіралася розных думак, столькі вынікла планаў! Наша знаёмства далёка зайшло і паставіла мяне перад настойным пытаннем: як жа быць? Чаму ж бы табе не пачакаць мяне? Значыць — непатрэбна? Бывай!.. Калі ўгледзімся — не ведаю.

Ганна».

Рыгор прачытаў і схамянуўся; задумаўся; пасля яшчэ раз уважліва перачытаў і апусціў руку з лістком; прысеў на крэсле і ўпёрся думкамі ў два словы: Ганна — Наталя. У кароткі час — дзве новыя знаёмкі, дзве маладыя, слаўныя дзяўчыны. Ганна — натура сціслая, з адчыненаю душою, даверная, прыгожая мяшчанка. Наталя — пакуль нявыяўленая, але захопная па характару, па манерах загартованай работніцы — чалавек асабістых умоў, асабістага выхавання. Дзявочасць, сакавітая, ядраная — у Ганны і суровая з арыгінальнымі замерамі — у Наталі. Дзве — на дзвюх розных ступенях абставін: Ганна — калі бурліла пачуццё разлукі з Зосяю, калі душа змагалася супроціў пустаты, якая апанавала яе пасля развітання з Сілцамі, — тады з’явілася яму. Наталя надышла ў той момант, калі ён, Рыгор, уваходзіў у прачынетую перад ім створку да стану адпаведных абавязкаў рабочага, вешчуна адказных намераў у наступным змаганні працы з капіталам. Беспытальна, паміж яго волі — тая і другая. Няўжо ён зусім бязмоцны? Адкуль тая падатлівасць у яго нутры?

Тут жа, помеж з усім іншым, выраcталі звычайныя пытанні перад Рыгорам. І следам — далейшыя скуткі адмечаных знаёмстваў… Ганніна пісулька — на першым плане. Няўжо ён варты яе вострых папрокаў? Няўжо ён здацен да благіх дзей? Можа, сапраўды, але яны яму не відны. Тады, ці можна ручаць, што і ў адносінах да Зосі ён застаўся чыстым? А як пойдзе далей?

Паўсталі нядаўнія гутаркі з Наталяю. Выявілася, што ён звязаўся таксама і з ёю: умовіліся спаткацца ў нядзелю ў Верманаўскім парку. Ён не можа не пайсці, тым болей што надарваліся адносіны з Ганнаю. А ў Наталі — столькі завабнага і новага!

«Мала што можа быць! Урэшце, усё гэта асобныя моманты суцэльнага перажывання», — падумаў ён.

Тым часам над горадам вітаў дзень. Чырвонае сонца залівала дахі будынкаў, ападала ў глыбокія выемкі-двары, адбівалася ў вокнах суседніх дамоў. Тоўсты пук яго праменняў уліваўся ў акно Рыгоравага пакоя.

Мацнеў ды мацнеў гарадскі шум.

## VI

Верманаўскі парк кішэў народам. Алеі прапускалі па сабе рэчку разадзетай святочнай публікі. Пляцоўкі былі ўсеяны дзецьмі з нянькамі, бонамі, гувернанткамі. Як бы хто шліфаваў каменні — шапацелі тысячы шагоў тых, што гулялі. Каб прыглядаўся, не знайшоў бы сумных твараў: амаль не ўсе выглядалі задаволенымі, часта — вясёлымі, многа — радаснымі. Пагодлівы дзень ухарошваў вобраз, пераліваючы золата сонца на руні лісця. Ачула асядала зверху дабрачынная цяплынь, ружуючы людское цела.

Рыгор у назначаны тэрмін з'явіўся ў парк. Разам з другімі прайшоў усцяж галоўнае алеі, раззіраючы па баках. Пасля завярнуў на бакавую дарожку, прайшоў некалькі заваротаў і спыніўся на ўмоўленым месцы, направа ад сажалкі. Якраз тут было не так багата людзей, і ён найшоў на адной лаўцы парожняе месца. Прысеў і ўстраміў вочы ў той бок, адкуль павінна была прыйсці Наталя. Ён не западозрываў нават, што яна не будзе ім прыкмечана, — абы толькі прыйшла. Вось ці прыйдзе? Таксама не хацеў думаць адмоўна. Чамусьці быў упэўнены, што Наталя не схлусіць. Але не прамінула і паўгадзіны, як Рыгор усумніўся: народ несціхана выліваў з вуліц і кіраваў у сад — парамі, па трое, адзінкамі. Найболей — маладыя мужчыны з дзяўчатамі, гімназісты, студэнты, рабочыя. Час ад часу мігалі між вачэй асобныя дзяўчаты ці хлопцы. А між іх не відаць было знаёмага твару Наталі. Ці ён нядобра разглядзеў яго? Не можа быць! Вобраз яе глыбока прайшоў у Рыгорава нутро. Палкія вочы, рымскі профіль, малыя поўныя губы, роўны, прыўзняты злёгку нос. Спрытная постаць з выхілястым станам і наўздзіў лёгкая хада. Ці ж ёй згубіцца ў людской гушчы? Вось толькі адно —

ці не забылася яна, што была ўмова? Ён пачаў адварочвацца ў другі бок, раззіраць направа ды налева, назад ды перад сабою. Вырахоўваў час, ці хопіць яго на язду на ўзмор'е?..

Якраз выйшлі з-за павароту тры знаёмыя дзяўчыны з двума нейкімі мужчынамі: Рыгор нечакана павярнуўся і стрэўся з імі ўзрокамі. Знаёмыя міла ўхмыльнуліся. Адна пазвала:

— Ідзем разам на ўзмор'е! Каго вы чакаеце?

Усе зацішылі хаду і паглядзелі пільней на Рыгора.

— Не маю часу, — чакаю знаёмага.

— Хіба не хочаце з намі? — пажартавала другая.

— Што вы? Крыўдзіце мяне.

— Прыходзьце, чакаем.

І калі яны адышліся, Рыгору стала прыемна ад гэтай стрэчы. Дзяўчаты паказаліся яму, як ніколі, блізкімі і шчырымі сябрамі, якіх шкода не паслухаць. Чаму б не далучыцца да іх кампаніі? Рыгор намерыўся падняцца, каб дагнаць знаёмых, але тут жа аддумаў: так доўга прачакаў Наталю. Яшчэ хоць дзесяць хвілін пасядзець.

Рыгор на гэтым супакоіўся і пачаў палачкаю выводзіць на пяску розныя фігуркі, літары. Вывеў, між іншым, слова «Наталя». І вось касаваў патрошку, засыпаючы драбнюткімі каменьчыкамі апошнюю літару — я, калі збоку хутка зашамалі нейчыя шагі, блізка-блізка, што прымусілі яго хутка падняць галаў і азірнуцца. Наталя дробным альтовым рогатам адказала Рыгору:

— Прачакаліся? Убачайце, — не магла раней. Вы тут заснулі чакаючы.

У белым гафтаваным маркізетавым плацці, у добра падабранай да фігуры пастэрцы, мякка-блакітнай, з шырокімі берагамі, у жоўтых мэштах — Наталя далёка не дапамінала работніцы з завода «Праваднік». Нельга было падмеціць у ёй і тых якасцей палітычнага работніка-падпольшчыка, з выразнай псіхалогіяй загаворшчыка-бунтаўшчыка, што ўжыўна ёй было на пасяджэнні дэлегатаў ад фабрык ды заводаў. Сур'ёзнасць перайшла ў лёгкую вясёласць адмысловай жартаўніцы-дзяўчыны, якой не чужы адпаведныя пачуцці, мары і жаданні…

І тое, што дзве адмечаныя якасці так пагоджана ўжываліся ў гэтай новай знаёмай, цалкам заняло Рыгора.

— Сядайце, — сказаў гасцінна. — Калі ласка, падайцеся крыху, — папрасіў ён справа суседку.

Пажылая жанчына скрыўленаю мінаю адказала на Рыгораву просьбу, прабарматала штосьці няўнятнае і адсунулася. Наталя села на вольнае месца.

— Убачайце!

— Нічога, не зацісне.

Наталя засмяялася, і з яе ўхмылкі выбліснулі іскаркі прагавітага пачуцця ды цёплай ласкі. Рыгор паглядзеў ёй у вочы — яны таілі ў сабе многа агню.

— Дык паедзем?

— А вы перадумалі?

— Каб не было позна.

— Вы вінаваты, Наталя.

— Вінавата — не адказваюся. Усё роўна справы не паправіць.

— Дык едзем… А калі пазней вернемся?

— Гэта мяне не смуціць.

Рыгор прыўстаў. Наталя следам за ім.

Перад білетнымі касамі ціснулася процьма людзей: наплыў ахвотнікаў ехаць на ўзмор’е быў тысячны. Духата і пыл гарадскіх вуліц гналі людзей у поле, да мора, на чыстае паветра. Раз у тыдзень адпачынак. Хто разумеў яго каштоўнасць — стараўся выкарыстаць як найпаўней.

Яны бачылі больш усяго буржуазнай моладзі — гладкіх, чырванашчокіх гімназістак у рудых, у сініх, у чырвоных кароценькіх сукенках, з белымі каўнерыкамі, з косамі; стройных, жыццярадых гімназістаў, больш у спартсменскіх гарнітурах, з сетачкамі для гуляння ў лапту, з скуранымі апукамі для футболу. Многія з гімназістаў адпраўляліся разам з бацькамі, поўнымі, брытымі, у манішках і капелюшах мужчынамі, у шаўковых блузах, з залатымі ланцужкамі па пояс, з браслетамі на выпешчаных руках мацяркамі… Зусім мала можна было бачыць прасцейшай, мяшчанскай або рабочай публікі. Але пападалася і яна.

Рыгор стаў у чаргу і хвілін праз дзесяць дастаў білеты. Разам з іншымі выйшлі на перон і захапілі яшчэ не перапоўнены цягнік.

— Я, прызнацца, рэдкі буду госць на ўзмор’і.

— Я таксама даўно-даўно як была там.

І калі крануўся цягнік, абое — Рыгор і Наталя — незмігутна сачылі ў акно. У гэткім стане не прымецілі, як апынуліся на месцы. Рыгор з Наталяю пратаўхаліся натоўпам, завярнулі направа, следам з іншымі. Хутка яны ачуліся на ўзбярэжжы Рыжскай затокі. Якое дзіўнае з’явішча! Што за прыгожасць! Міжвольна захапіла іх вадзяная шыр, лёгкае, п’янае паветра і гулкі, святочны настрой мнагасотнай публікі. Здавалася, у Рызе не было яе столькі. Ні мясціны вольнай. Нельга было згадзіцца, што ўся гэта публіка адпачывае ці адпачне. Шолам, пыл, тупатня тамілі,

нервавалі яе, выцягалі шмат энергіі. Але ў гэтых адмоўнасцях усё-ткі хаваўся адпачынак.

На шырокім прасторы цёмнай вады гайсалі парусpng, схіляючыся набок, шнырале доўгія вузкія чаўнакі, з угону васьмі ці дзесяці крэпкіх спартсменскіх рук; закаханыя парачкі, усцешаныя сем'і або таварышы ці сябры заводзілі песні, ганяючы сінія, жоўтыя, чырвоныя лодачкі. А наводдаль, у баку ад публічнага гульбішча, віднеліся купальні. На адведзеным для купальшчыкаў участку гулялі сотні юркіх цел — меншых, большых, цямнейшых, бялейшых. Як русалкі, як фаўны, цешыліся вадою пад сонцам, на прасторы, зняўшы ўсе ўмоўныя і ачулыя путы-ланцугі, рэзвыя людзі. Яны здаваліся старадаўнімі дзікарамі-паганцамі, што ў сівую старыну спраўлялі святы магутным стыхіям. Рэзваю хваляю бурлілі вясёлыя галасы, рогат. Паднімаліся высока белыя пырскі вады.

Рыгор з Наталяю падпільнавалі вольнае месца на адной з лавак і прыселі. Абярнуліся к мору — тое настройвала іх маладыя, палкія душы на ўздымны, ваяўнічы настрой. Акрыляліся думкі, пламянела летуценне. Вадзяны прастор і яго стыхійнасць выклікалі ў іх рухавыя задумы, вострую цікавасць да адцягненых пытанняў пра стварэнне свету, пра яго вялікасць, пра векавечнасць. І тое, што чалавецтва сумела перамагчы, здавалася б, непераможныя сілы натуры, змерыць агромныя прасторы мораў і акіянаў, уздымала па чарзе то ў Рыгора, то ў Наталі пачуццё гордасці і сілы. Што яшчэ хаваецца ў людскім розуме? Якая сіла вынікне, калі надыдзе тэрмін агульнага вызвалення прыгнечанай часткі чалавецтва? Тут і яны павінны прылажыць свае сілы, сваю смякалку, свае здольнасці. Лёс паставіў іх абоіх на адпаведны ўступ вялікага змагання за светлую будучыню. Іх думка, іх ківок рукі, выгук таго ці іншага сказу варочацьмуць здарэннямі.

## VII

Усё вышэй і вышэй рос іх уздым. Акрыляліся надзеі, разгортваліся жаданні, выціналі новыя словы ды новыя песні, вырастала натхненне. Рыгор захапіўся, уголас замарыў:

— Ведаеце, Наталя: нам трэба ўсе натугі скарыстаць на тое, каб перабудаваць свет. Есць многа прыгожасці ў жыцці, ды не дадзена нашаму брату карыстацца ёю. Бушуе мора або ціха адпачывае, буяе зелень, шуміць диброва, палошчацца сонца на морскіх хвалях… грае музыка, снуюць самакаты — няхай будзе гэта для рабочага класа. Чаму для адных толькі дасяжна, а для

другіх — недаступна? Рабочы — паўнапраўны гаспадар зямлі, вольны Ікар, волат, цэлы свет. Праўда?

Наталя захапілася яго словамі, як і на сходзе. Яна адкрыла ім сваё нутро, падалася насустрач. І ў адзнаку згоды рашучым рухам працягнула руку да яго рукі ды моцна сціснула.

— Праўда! Праўда! Праўда!.. Мы выявім сябе ў наступнай забастоўцы.

На нейкі час абое адцягнуліся ўзрокамі ад мора, ад сіняга неба, ад усяго, што ваколіла іх, і перанесліся да забастоўкі.

— Як вы думаеце, Наталя, сумеем мы зрабіць наша выступленне магутным, арганізаваным?

— Мне думаецца — ёсць адпаведны настрой.

— Мяне смуцяць нашы таварышы сваёю асцярогаю. Мала ў іх рашучасці.

— Набяруцца. Здарэнні прыдадуць яе ім.

— Ці чуюць вось гэтыя людзі набліжэнне часу, калі мы выступім?

Наталя засмяялася.

— Што ім да таго: яны жывуць сягонняшнім днём — момантам.

— Захапіць бы іх раптам.

Рыгор адчуваў у сабе невыказную энергію, агромністую сілу. Вось яна скалыхнецца і затрасе морам, здыме сонца. Ды сама стыхія здавалася яму ўмоўнай па сваёй моцы і па сваім размаху. Праўда, гэта не перашкодзіла Рыгору прасякацца яе вялікасцю і набірацца далейшага настрою.

Чырвоны промень, што заліў сабою захад неба, і круглае крывяністае сонца ў асяродку гэтага променю сапраўды былі чароўны. Сваёю дзіўнасцю гэты вобраз міжвольна прыцягаў да сябе ўвагу публікі. Быццам гарэла мора, адбіваючы полымя ў небе, і з далёкага-далёку ў пераменчывым па хварбе і па сіле цяпла набліжаўся агонь ажно да месца гулянкі. Далёка заплыўшы, парусныкі, здавалася, пападалі ў промень і гарэлі нестухаючымі факеламі.

Рыгор параўнаў чырвань променю з чырванню крыві, што «лілася ракою» ў вогненна-празрыстай Марсельезе, натхніўся веліччу вобраза і ціха завёў на вуха Наталі:

— «І ўзы-ыд-дзе-э за крыва-ваю ра-ко-о-ю сонца-а праўды і-і братняй любві-і».

Наталя ў асалодзе здрыганулася:

— Во-во-во! Як удачліва вы давялі! — пахваліла яна.

— Сапраўды?

Ён нахіліўся да яе і кінуў у вочы дзяўчыне замілаваным узрокам. Надыходзіў адвячорак. Стала адчувацца вільгаць. Публікі меншала; але паўнелі курзал, рундучкі.

Рыгор з Наталяю завярнулі ў бліжэйшы рэстаранчык.

## VIII

Прыйшоўшы на кватэру, Рыгор даведаўся, што ў яго ўвесь дзень не было нікога. Не наведвала і Ганна. Для яе было б занадта нявытрыманым прыйсці да Рыгора так хутка, пасля пакінутай яму цыдулькі. Не са спакойнаю ж душою пісала яе дзяўчына! Ганне трэба было перадумаць, вымеркаваць, разлічыць усе ўмовы і скуткі, каб рашыцца на яе. Пэўна, пасля гэтага яна не пасмела б пісаць папроку Рыгору, каб раптоўная злосць, абурыўшы яе пры словах Вільгельміны — «Рыгора няма ўдому», не вымусіла на гэта.

Ганна доўга абдумоўвала перажытае ёю пры спатканні з Рыгорам. Падыходзіла яна да гэтага з розных матываў: лічыла злачыннем з боку Рыгора і празывала слабасцю з свайго боку. Абедзве дагадкі прыгняталі яе, нервавалі. Тады яна настойна шукала тых прычын, якія б апраўдвалі тое, што яна зрабіла; з гэтай мэтаю Ганна старанна імкнулася прайсці ў Рыгораву душу і адгадаць яго тайны. Перабірала, седзячы ў пакоі адною, кожную падрабязнасць пры спатканні з ім, дапамінала тэмы гутарак праз усю дарогу, асобныя сказы; аднаўляла дзясяткі разоў вобраз Рыгора, выгляд яго вачэй, міну твару, ухмылку на губах. Усюды было чыста, незаплямена. Нельга было прычапіцца да хлопца. Няўжо так? Хацела не паверыць, але не хапала смеласці прышчапіць да сэрца фальшывае пачуццё. Аставалася вінаваціць самую сябе; Рыгорава істота пайграла на яе душы?! Не без таго. «Рыгор падкупіў мяне сваёю натураю. Гэты бялявы твар, як з мармуру, глыбокі ўзрок вачэй, высокі лоб пад капяжом густых кос. Гэта цёплая, ласкавая ўхмылка з характэрнымі рыскамі на шчаках. Узмахі рукі, пружыністыя, кароткія, мяккі тэмбр голасу, статнасць фігуры, дабрата…» А мо злая сіла затуманіла яе выабражэнне, і ўсё тое — не больш, як адна здань, мыльныя бульбаткі? Можа, настрой моманту адыграў тут балючую ролю? Наляцела пачуццё, асляпіла яе свядомасць і папхнула на гэты крок? Нельга было, колькі ні судзіла Ганна, знайсці канцы тае прычыны, якая аставіла па сабе гэткі глыбокі след. І таму, што прычына ўцякала ад яе, дзяўчыне рабілася цяжэй і неспакайлівей.

Ганна намерылася была назаўтра пасля спаткання ісці да Рыгора, пагутарыць з ім аб многім-многім, абнадзеіцца, вырашыць наступнае. Некалькі разоў яна выходзіла з кватэры, вярталася назад; меркавала, траціла ахвоту, набіралася эгаізму і адкладала на заўтра. На змроку ўжо, здавалася, канчаткова сабралася пайсці, — пераняла маці: прыхварэла і ўпрасіла Ганну астацца. Сэрца не дазволіла адказацца.

Але ў суботу, дачакаўшыся вечара, яна не мела іншых думак, ні сумнення. Выгартавала стальную рашучасць і а сёмай гадзіне выйшла з дому, уверанымі крокамі пакіраваўшы да Рыгора. Хто мог бы яе супыніць, пераняць? З чым бы яна палічылася? Ішла, як ідзе цягнік, згубіўшы машыніста, як ляціць распуджаны конь, вырваўшы лейцы з рук хурмана. Перад ёю яскравым малюнкам лунаў Рыгораў вобраз, чаруючы яе, вабячы, цягнучы непераможнаю сілаю. Яна гналася за ім, хочучы схапіць рукамі, абняць, прытуліць шчыльна да сябе і выказаць наспелыя думкі, рашэнні: як далей?

Ганна непрыметна прайшла горадам, мінула Верманаўскі парк, параўнялася з домам, дзе жыў Рыгор. Прайшла дзядзінец, усходы, ачулася пад дзвярыма кватэры. Ні пахожае думкі, якія былі пры першым наведванні. Смела, рашуча пазваніла — гэтак звоніла ў сябе на кватэры. Павяліцельна. Але некалькі хвілін патрывожылася: ці дома Рыгор?

Адчыніла Вільгельміна і запытала:

— Вам каго?

— Мне Нязвычнага, — і адвярнулася.

Адзін тон работніцы раўняўся ўдару молата па галаве.

— Нязвычнага няма дома.

Работніца думала зачыніць дзверы — Ганна пераняла:

— Альбо пачакайце тут, альбо я пайду ў яго пакой і…

У першую хвіліну не ведала, дзеля чаго гэта, і змаўчала, не то думаючы, не то шукаючы слоў…

— Чаго чакаць?

— Я яму напішу запіску.

І тут жа хапілася шукаць паперы: абмацала ў кішэні, перавярнула ўсё ў рыдыкюльчыку, знайшла запісную кніжачку з алоўкам і прылажыла яе да зачыненай паловы дзвярэй.

— Я буду чакаць?!

— Хутка, некалькі слоў.

Сышоўшыся ўсёю істотаю ў думкі, Ганна паспешна напісала той змест, які пасля Вільгельміна падала Рыгору. Нават не прачытала, ці ёмка, ці тое, што трэба, напісана. Падала, а сама,

абураная злосцю, разнерваваная, з набеглымі ў вочы слязьмі, кінулася ўніз па сходах. Упоцемку вярнулася на кватэру і, мэрам бы пратэстуючы супроціў Рыгора, запытала мацеру:

— Ці не прыходзіў Андрэй?

У голасе не было шчырасці, нават сэрца не думала пра яго.

— Не прыходзіў. Цікава, дзе ён, што ўжо колькі дзён, а яго не відаць?

Так, яго не відаць! Ганна настаражылася. Сапраўды — дзе ж Андрэй? Ганне трэба было мець козыр у руках, трэба было мець пры сабе чым засыпаць адзначаную расколіну ў адносінах з Рыгорам. Андрэй — то мост пры мажлівым адыходзе. Го! І яна хапілася за гэта імя, як за выратоўны маяк, за падкінутую дапамогу. У яе ёсьцека Андрэй, чалавек, з якім доўга знаёма, з якім блізка сышоўшыся… Як-то яна магла гэтыя дні не думаць пра Андрэя?

Ганна прыпомніла, праверыла, ці магла чым навясці яго на падазронасць да сябе. Ці часамі ён прыходзіў наведваць, ды не застаў на кватэры. Можа, некалькі разоў упадрад і пасля махнуў рукою, зазлаваўшы на яе? Можа, можа… І помеж таго, як уставалі пытанні, падагрэтыя раскалыханым пачуццём, устрывожанае выабражэнне малявала вобразы Андрэевай змены, вобразы свае адзіноты, закінутасці, беспрытульнасці. Хто віною гэтаму? — «Сама! Сама віною. Няхай бы, вярнуўшыся з гасцей, пайшла да яго, наведала, як і што ён жыве. Пагутарылі б, прагулялі б весела час. Дык не — надало занядбаць Андрэя. Як быццам бы Рыгор ведаў пра гэта. Што я гэтым выйграла?»

— Няўжо Андрэй так і не прыходзіў? — не то сама ў сябе, не то ў мацеры запытала Ганна. — Дзіва!

— А я думала, мо вы бачыліся з ім.

Бачыліся. Маці не ведае нічога. Ганна на хвіліну дапусціла, што маці дазнаецца пра ўсё, і ёй адначасова стала і горка і страшна. Яна паглядзела ў спакойны мацерын твар і не магла вытрымаць.

— Мо ён заўтра прыйдзе: заўтра нядзеля, і будзе вольны час.

— Пэўна, заўтра!

Яна перанеслася думкамі на заўтра. Пачала маляваць планы, як і што давядзецца правесці час з Андрэем, аб чым гутарыць з ім. Меркавала, калі ён прыйдзе, то з якім настроем. Ачула цягнула яе да старога прыяцеля, ён рабіўся ў яе растрывожаным уяўленні куды бліжэйшым за Рыгора, шчырэйшым. Яна часова забыла пра яго, заўтра паправіць сваю абмылку. Ці ж не бывае з чалавекам?

І, лёгшы пазней звычайнага, Ганна, пакуль не заснула, думала пра адно — пра заўтрашні дзень, пра спатканне з Андрэем. Падганяла час, каб хутчэй мінула ноч. «Хоць бы была пагода добрая!.. А што, як ён прыйдзе зрання, калі я буду спаць?»

Заснула заспакоенаю, суцешнаю. І паднялася назаўтра радаснай. Злезла з ложка — і ў акно… Сонца прыемным святлом сустракала Ганніну вясёласць. Смяяліся ў акно цёплыя праменні. Нядзельны настрой лунаў над дваром, над будынкамі горада. Даносіўся перазвон і ўрачысцей гудзелі гудкі. Няўжо не едзе ўжо да яе Андрэй? Разлічала час: на хаду, на пераезд Дзвіны, на пераход ад прыстані да кватэры. Вылічыла, што праз некалькі хвілін пакажацца ў браме. Хоць бы не захапіў яе неадзетаю.

Лёгкім скокам Ганна ачулася пры глухой сцяне пакоя, пры вешалцы з адзежаю. Увішна пададзелася, абулася; пасля ўважліва вымылася, прычасалася. Маці падала снедаць, а сама пайшла ў горад. Так усё ёмка складалася для спаткання! Прыйдзе, а яна адна-адною ў хаце, сядзіць пры акне і чытае…

Ганна адчыніла другую створку акна і перагнулася паглядзець на двор. Пасля прылатвіла крэсла і, узяўшы з свае невялічкае бібліятэкі томік Шэлера-Міхайлава ў прылажэнні да «Нівы», пачала чытаць. Безуважна: два радкі прачытае і паглядзіць у акно, два радкі прачытае і паднімецца. Усё — спакойліва і ўверана, не лічачы часу, не шкадуючы яго прабегу.

Нарэшце раптоўна перадумала план: «Чаму ж, каб ён прыйшоў? А калі я пайду да Андрэя?» Не думаючы, ці варта гэта рабіць, Ганна паспешна сабралася і хутка ўжо была на двары.

Лёгкі ветрык студзіў яе твар, настрой публікі паднімаў яе настрой. Усё выглядала ў яе ваччу пагоджанай, гармоннай складнасцю. Як побач гуляюць людзі, стаяць дзярэўцы, бегае трамвай, у дадзены час, на дадзеным месцы — гэтак яна сустрэнецца з Андрэем ці па дарозе да яго, ці на прыстані, ці пры выйсці з двара. Мог жа ён толькі цяпер сабрацца да яе — мала што ёй хацелася бачыць раней!

Праз паўгадзіны Ганна стаяла ў дзвярах беднага двухкватэрнага доміка і глядзела здзіўленымі вачмі на прывешаны тоўсты паржавелы замок. Каля яго тарчаў гузічак з маленькім кавалачкам памурзанай паперкі — астатак ад быўшай візіткі.

— Дзе ж бы ён?

Не магла дадумацца, хоць можна было дагадвацца розна, ці перабраўся на іншую кватэру, ці паехаў у водпуск. Але Ганна была ашаломленай ад нечаканасці. Замок на дзвярах спаралюшыў яе пачуццё і думкі, і яна стаяла ў нейкай отарапі, не ве-

даючы, чаго і што… І толькі праз доўгі кавалак часу адвярнулася ад дзвярэй і рашыла праведаць аб Андрэі ў суседзяў. Нельга ж без нічога варочацца — замучыць сумленне.

Яна падышла да дзвярэй кватэры нумар першы і пазваніла. Выйшла сівенькая поўная бабулька.

— Выбачайце, ці не ведаеце, куды выехаў Андрэй Калок?

Бабуля агледзела Ганну падазроным узрокам, памаўчала з хвілінку і нехаця адказала: «У Лібаву», — ды зачыніла дзверы.

Ганна міжвольна здрыганулася ўсёй постаццю, паглядзела на яго кватэру і павярнула з двара задуманаю, раззлаванаю.

«Няўжо праўда таму? — думала яна ідучы. — Паехаў і не сказаў, не паведаміў нават. Паехаў, як упрочкі, тайком…»

Яна паглядзела ўсцяж вуліцы і прадставіла сабе, як мог Андрэй ехаць вось гэтым самым месцам, кудою яна ідзе, і, едучы, мог думаць або не думаць пра яе. Абярнулася — авось здарыцца цуд, і Андрэй следам за ёю ідзе ў горад.

Ішлі іншыя людзі: якісь дзяцюк ухмыльнуўся ёй і зрабіў двухсэнсоўны намёк. Ганне стала брыдка і агідна, яна ўскорыла хаду, кінула думаць пра Андрэя і захапілася клопатам, як хутчэй вярнуцца дадому, дзе б спакойна, на адзін усё абдумаць.

Неўзабаве Ганна ачулася ў сваёй вуліцы. Знаёмыя будынкі, знаёмыя дзярэўцы, нават, вось, некалькі знаёмых чалавек. Раскланялася з імі ветліва і прайшла ў двор. У дзвярах кватэры стрэлася з мацераю, якая выходзіла на двор, і не магла, каб не паведаміць ён навіны пра Андрэя.

— Андрэй выехаў у Лібаву, ці чулі гэта?

— Няўжо? — здзівілася маці, пільным узрокам кінуўшы Ганне ў твар. — А я, здаецца, зусім нядаўна бачыла яго. Хадзіла на рынак і сустрэла — бег вуліцаю. Некалькі дзён да твайго прыезду… А хто табе казаў?

— Я іду ад яго: замок на дзвярах, а суседка паведаміла, што паехаў у Лібаву.

— Чаму ж не напісаў, ці?.. — маці ўкорна паківала галавою. — І людзі ж, аднакава!

— Э, ліха яго бяры! — вылаялася Ганна і матнула рукой. — Есці ёсць што-кольвечы?

Маці расказала дачцэ, дзе і што знайсці, папярэдзіла, што выйдзе крыху на вуліцу, і адышлася, ківаючы галавою і мармычучы штосьці сабе пад нос. Ганна спрытна павярнулася і прыйшла на кватэру.

І вось… Толькі пераступіла парог, як ёю аўладала пачуццё нейкай нядбайнасці: усе думкі, як бы хто іх выгнаў з галавы, замерлі, прыціхлі. Яна знайшла яду, усмак паела і падышла да

ложка, каб крыху супачыць. Лягла і толькі прыплюшчыла вочы, супакоілася, як раптам наляцелі ўспаміны пра спатканне з Рыгорам, пра вечар, праведзены з ім у яго на кватэры, пра сваю запіску яму. Ёй стала душна і млосна, не хацелася ляжаць, ні адпачываць…

Паднялася з ложка, злезла і кінулася тупаць па пакоіку, не гледзячы ні на што, прыплюшчыўшы вочы.

Тупала і сама сабе цвярдзіла:

— Рыгор! Рыгор! Я вінавата перад табою. Я дапусціла сабе думку, што ты мне здрадзіў… Няўжо таму праўда?— І, спыніўшыся на момант, прыстукнула нагою:— Я цябе выпрабую… Заўтра. Не, у аўторак… у чацвер… у суботу… за тыдзень у нядзелю я да цябе прыйду, нечакана для цябе… незнарок, раптам… Чакай мяне, чакай!

Стукнулі дзверы — Ганна настаражылася.

## ЧАСТКА СЁМАЯ

### I

У панядзелак пасля спаткання з Наталяю Рыгор з самага ранку задумаўся над тым, як і што яму прыйдзецца выступаць перад рабочымі. Тое, што для сходу не вызначаны дзень і час, больш усяго непакоіла яго. «А што, калі Міхасю прыйдзе ў голаў зрабіць сёння? Або самі рабочыя запатрабуюць гэтага — тады што? Я ж і каліва не падгатаваўся. Не падумаў, як і што спланаваць прамову, чаго ў ёй чапіць, што абмінуць, якія кінуць лозунгі. У суботу так ні на чым і не спыніліся рашуча, а прыйдзе час…»

Збіраючыся на работу і ідучы да завода, Рыгор раз-поразу варочаўся да гэтых думак, прыслухоўваўся да іх, забываючыся, што робіць. Падыходзячы к заводу, ён прыпыніўся і задаў сабе пытанне, ці не лепш будзе, калі сёння не пойдзе на работу, а вернецца дамоў і старанна абдумае характар свайго выступу. Перш рашыў вярнуцца, пасля аддумаў і пайшоў у завод.

Пры станку, сочачы за разцом, ён натужна абдумоўваў парадак прамовы, яе пабудову, накіраванасць. Ён ведаў, што ад гэтага залежыць яго ўплыў на рабочых. Скажа ўдачліва — зробіць па-свойму, змурзае — пасмяюцца. «Пасмяюцца, — думаў сабе Рыгор, — вось гэтыя сталыя рабочыя, практычныя, старэйшыя за мяне і ў змаганні, і работаю. А я мала каму вядомы, ні з кім не знаёмы, малады…»

Момантамі Рыгора забірала труслівасць: хацелася пабегчы да Міхася і сказаць, што ён адказваецца на гэты раз ад выступу перад рабочымі. Нават паглядаў у бок, дзе рабіў Міхась, чакаў, каб той падышоў сам і перадаў якія-кольвечы прычыны, з-за якіх усё пойдзе іншым шляхам. Прыглядаўся да рабочых, як тыя настроены сёння; ці не ведаюць, што будзе ён выступаць, і ці ўжо не смяюцца тайком. Выходзіў на абед і, мінаючы грамадку рабочых, прыкмеціў, што яны паглядзелі на яго і засмяяліся. А што будзе, як угледзяць яго на трыбуне? Сумненням не было канца: у розных прычынах, у розных з'явах насядалі на яго з нейкай адмысловай упартасцю.

А помеж, тут жа, у яго нутры жыло не меней настойнае жаданне як бы там ні было зрабіць выступленне — сказаць прамову. Чаго палохацца? Перад кім трусіць? Свае ж рабочыя. Змаганне — яно патрабуе разнастайнай чыннасці. Тут нельга спыняцца ні перад чым. Стаіш на адзначанай платформе — праводзь яе ў жыццё. Ад энергіі залежыць поспех у справе.

Рыгор правяраў свае веды і ўкараў сябе за нясмеласць. Пасля ўспомніў, як гладка і стройна казаў на сходзе той чарнакосы таварыш-інтэлігент. Якаў сумеўся, што пасля яго захацеў выступіць ён. Пэўна, пасля той усміхаўся! Але… чаму Наталя хваліла? Чаму ўсе слухалі з гэткаю ўвагаю, калі ён кідаў свае словы…

«Я чаплю ў сваёй прамове мінулых забастовак, якія адбываліся ў Рызе, спынюся на іх слабасці; адмечу розніцу ў стане цяперашнім і пяць год таму назад, пакажу на рашучасць моманту, падкрэслю патрэбнасць цяснейшай салідарнасці, адзначу меншавіцкую драбласць і зазаву да новых лозунгаў».

Вечарам, кончыўшы работу, Рыгор пайшоў у культурна-асветнае таварыства і перагледзеў некалькі кніжак палітычнага зместу. Кніжку «Рэвалюцыйны рух у Расіі» — Туна і некалькі кніжак часопіса «Просвещение» — узяў з сабою дамоў. Сядзеў позна і ўсё думаў ды планаваў.

А першай гадзіне яму паказалася, што як бы аснова прадмовы муляецца ў думках. Тады ён адышоў ад стала, выпрастаўся, як ёсць, настроіўся і, абярнуўшыся ў акно, захацеў выпрабаваць сваю здольнасць, папрактыкаваць.

І пачаў слова ў слова казаць:

— Таварышы рабочыя! Мы зараз перажываем адказны момант. Царскі ўрад рашыў агнём ды мячом знішчыць усякія праявы рабочага руху, усе спробы працоўнага народа вырвацца да лепшае долі. Паглядзіце, што ён чыніць з матросамі, якія…

Першыя словы выказаў цішком, нясмела, путаючыся, але чым далей, тым каструбаватасць прападала, голас узмацняўся, знаходзіліся новыя словы; падышло натхненне і прыдало смеласці, раскалыхала яго постаць. Рыгор не мог устаяць на адным месцы і рушыў хадзіць па пакоі, махаючы рукамі. Забыўся, што гаворыць самому сабе, што побач жывуць чужыя людзі, што на дварэ ноч. Лёгка і складна набягалі ўсё новыя сказы, думкі і раздражнялі яго ахвоту казаць бясконца…

За сцяною, у гаспадыні, нехта стукнуў і перабіў яго: Рыгор замаўчаў і паглядзеў на гадзіннік; гаварыў больш гадзіны. Ухмыльнуўся — пачуў ахапіўшую яго лёгкасць, уверанасць. Дзённыя сумненні разляцеліся, знайшлася гатоўнасць, рашучасць. «Няхай сабе хоць заўтра назначаюць сабранне — я гатоў».

З гэтым настроем Рыгор лёг у пасцель. З ім прарабіў адзін і другі дзень, не астываючы, не губячы веры ў сваю здольнасць запаліць ваяўнічым настроем рабочыя гушчы. Болей таго, кожная гадзіна давала яму мажлівасць абагаціць змест прамовы новымі ўнёскамі, новымі дадаткамі. Рэпетуючы назаўтра, Рыгор уверыўся, што яго прамова зробіць глыбокі ўплыў на слухачоў. І калі ў чацвер, напаткаўшы Міхася раніцаю, ідучы на работу, дазнаўся, што па згавору з іншымі заводамі рэшана мітынгі зрабіць сёння, Рыгор ні каліва не сумеўся. У адказе Міхасю на словы: «Ну, не дай маху, Рыгор!» адмовіў: «Пагледзімо».

З гэтага моманту ёнператварнуўся ў палкае чаканне. Падбліжаўся к заводу, а пра работу не думаў. Узрок і думкі адцягалі да сябе рабочыя, якія ішлі тут жа, помеж і ўперадзе і ззаду, наганялі яго, сустракаліся. Па іх тварах, па руках і частых вoзірках на яго і адзін на другога можна было здагадацца, што яны як быццам чакалі чагосьці рашучага, надзвычайнага. І імі валадаў гостры, падняты настрой. Рыгор не мог не паддавацца яму, тым болей што яго абгостранае пачуццё перанімала ўсё з дубальтам.

Пераходзячы з Міхасём дзядзінец, ён угледзеў двух дырэктараў, якія шwыдка прашмыгнулі ў кантору.

— Пэўна, адчуваюць, прахвосты.

Міхась кpануў Рыгора за руку:

— Маўчы…

Рыгор запытаў:

— Немаведама, як на іншых заводах? На некаторых мітынгі пройдуць сёння, на іншых — заўтра.

— А настрой якавы, не чулі?

— Усякся. Большай часткаю — добры, бадзёры. У нас глеба падгатавана.

Майстэрнямі яны прайшлі моўчкі, прыслухоўваючыся да гутарак сярод рабочых. Са слоў, якія чуліся ад гутарыўшых па двое, па трое, з настарожаных, пытальных узрокаў, зрухаў, жвавых, адрывістых і рэзкіх, можна было прыкмеціць значны ўздым настрою.

Завод распачынаў працу, вядомую, наладжаную шмат часу назад і дзень у дзень падобную ў кожным драбнюткім выяве, у кожным руху і свісце, у кожнай ноце бразгу… Але сёння, паказалася Рыгору, гэта гармонія звычайнасці, надаедлівай, звязанай з бессаромнаю эксплуатацыяй тысяч рабочых, была прасякнута новымі адценнямі, іншымі вібрацыямі, прыемнейшаю мелодыяй. Ён наглядаў у хаосе зыкаў, у пары і дыме, у цяжкай духаце — сілу бунту, віраванне магутных падзей. Разам з атручаным паветрам улівалася гэта сіла ў нутро рабочых, віравала, раз’юшвала кроў, запальвала прагу, узнімала пачуццё.

Работа Рыгору не ішла — станок адказваўся слухаць. Узрокі коўзалі паўз яго, рассягаючыся вакола па майстэрні. Узрастала чуласць; па некалькі разоў у гадзіну ён пазіраў на гадзіннік, лічыў хвіліны. Прамова не выходзіла з галавы: асобнымі мясцінамі, адрыўкамі перабіралі яе думкі, уладваючы падрабязгі…

Ледзьве дачакаўся абеду. А на абедзе — пачуццё падгастрылася яшчэ больш, узрасла настарожанасць. Кожны зык, які выбіваўся з агульнага шоламу, адымаў ад Рыгора ўвагу: ён прыслухоўваўся. І злаваўся, чаму то не ўрочаны гудок.

Каб у гэты момант падышоў да яго майстар, Рыгор абышоўся б з ім недалікатна, пакрыўдзіў бы за адно нявіннае слова, за адзін узрок. Чамусьці, пэўна, нюхам чуў гэта майстар і сёння ні разу не прайшоў між Рыгора. Як быццам яму не было да нікога жаднае справы, як быццам ён наперад зрабіў забастоўку — толькі разоў тры праз увесь дзень паказаўся ў верхніх майстэрнях. Завод ішоў без тае ўказкі, без таго нагляду, як то бывае звычайна.

Адміністрацыя ведала сутнасць надыходзячага і гатавалася іншымі шляхамі, ахвяруючы «лішні» дзень дзеля рабочых. Аб гэтым кожны з іх знаў. Каго цікавіла гэтая драбяза?..

Нарэшце гудок загуў шыбка, аклікаючы. Рыгор схамянуўся: выпаў з рукі шаблон. Думкі хапіліся за прамову, мігам перабралі ўсю, прапусцілі маланкаю. Ён супыніў станок — зняў рэмень і, не чысцячы, кінуў.

Яму здавалася, што на ўсё гэта патрацілася не больш дзвюх хвілін, але, паглядзеўшы, прыкмеціў — усе майстэрні апусцелі, пакуль ён сабраўся выходзіць. «Трэба спяшаць!» — падагнаў сябе і намерыўся кінуцца ўподбег.

Міхась з Артурам перапынілі яго:

— Чакай, разам пойдзем.

Рыгор аглядзеўся.

— Добра, што вы падышлі.

Яны ўтраіх выйшлі на двор, які кішэў рабочымі. Стаяў густы, злітны гоман. Грамада калыхалася, чакала. Яны праціснуліся між сцен майстэрняў да ганка канторы, замкнутае і пустое. Падняліся і паглядзелі перад сабою. Грамада змоўкла, прытаілася і тысячы вачэй накіравала на іх.

Рыгора на момант абдало сталёвым холадам, і ён згубіў самаўладанне — застыла сэрца. Але раптам паднатужыўся і ўвайшоў у сябе, настаражыўся. Узроку не спускаў з Міхася і не паспеў падумаць, як той праказаў:

— Таварышы! Увага! Наш сход лічу адчыненым. Слова мае таварыш Нязвычны.

— Хто, хто, хто?!

— Мацней, мацней!

## II

Рыгор не прыслухоўваўся: паправіўшыся на месцы, ён ціха кашлянуў і праказаў:

— Таварышы! Надышоў момант!

Усе замаўчалі. Выразныя, зычныя, як удары молата, стройна, адно за другім паліліся палкія словы над галовамі рабочых і ва ўсе куткі дзядзінца. Зліваліся ў адточаныя сказы, нямудрыя, але адпаведныя настрою, блізкія разуменню, без лішніх уставак, без параказаў, з прыціскамі, з перагібамі ў голасе.

— Таварышы! Ізноў мы вымушаны прыняць бойку ад нашага ворага. Ізноў нам суджана праверыць свае сілы і паказаць нашым прыгнятацелям, колькі і што мы можам зрабіць дзеля свайго вызвалення. Таварышы! Нам няма чаго губляць, апроч сваіх ланцугоў. Ланцугі ж нам пара скінуць, пакуль яны не пераелі нашага цела, пакуль ёсць хоць малая мажлівасць зрабіць рух, шавяльнуцца. Мы мусім не дазволіць вярнуцца да стану поўных нявольнікаў, якія адбывалі няволю прыкутымі. А нас да гэтага вядуць. Таварышы! Толькі нашы пратэсты не дазваляюць канчаткова нас запрыгоніць.

Мы не так даўно пратэставалі супроць Ленскае бойні. А пасля — выказвалі свой пратэст Першага мая. Зараз урад у саюзе з капіталістамі вымушае нас на новае выступленне. Бессаромная эксплуатацыя не мае межаў. Ужо нашы таварышы перапёкі

абвясцілі забастоўку. Далей — гатуецца крывавая расправа над балтыцкімі матросамі. Таварышы! прадстаўце сабе, што азначае цырымонія суду над імі. Тая самая непрыкрытая бойня. Мы не павінны без змагання аддаць нашых таварышаў у рукі катаў. Мы павінны паказаць, што рабочыя і сяляне ў матроскіх ды салдацкіх шынялёх — нашы браты, адна армія працоўных. Суд над імі — суд над намі; расправа з імі — з намі расправа. Таварышы! калі вораг наш пасуваецца на адным фронце, мы павінны даць адказ па ўсім фронце. Толькі ў рашучым выступленні — наша перасцярога ворагу…

Далей Рыгор захапіў гісторыю матроскіх бунтаў, сучасныя забастоўкі ў розных канцах краю, настрой заграпічных рабочых. І закончыў прызывам:

— Дык смела на змаганне!

У адказ усхваляваная грамада рабочых падала магутным важкім гулам сваю згоду.

— Змагацца! Змагацца!

Міхасю не ўдалося паведаміць рабочых аб часе пачатку забастоўкі — грамада не слухала. Тут жа з яе гушчы ўзняліся зычныя гукі «Інтэрнацыянала», якія перш разліліся па дзядзінцы завода, а далей сягнулі ўвысь, перанясліся праз высокі паркан на вуліцу, к Дзвіне, у горад.

Рыгор бачыў, як з гэтымі гукамі рэвалюцыйнага гімна рабочыя сталёваю сцяною рушылі з месца, павярнулі да чыгуннай брамы, і яна мігам адчынілася нарасхлёст.

Пярэднія рады выйшлі на вуліцу — заднія, калышучыся, імкнуліся за пярэднімі. Пяянне стала гулчэйшым. Грамадою валадаў бойкі, уздымны настрой. Ваяўнічасць, запаліўшыся ад Рыгоравых слоў, разгаралася ў полымя, бушавала ў магутным, з'яднаным калектыве тысяч чалавек.

Рыгор забыўся пра таварышаў, паспешна саскочыў з ганка і кінуўся ў чорную гушчу рабочых; зацягнуў «Інтэрнацыянал» разам з імі. Зычны, пявучы голас, яго высокі тэмбр узмацніў агульнае пяянне. Некалькі чалавек зацікаўлена паглядзелі на яго, не перастаючы пяяць. Пэўна, пазналі і падвысілі галасы.

У вошта выльецца дэманстрацыя? Куды накіруе свой пратэст распаленая грамада — Рыгор не ведаў і не даваў сабе ніякага адрахунку. Ён забыўся нават пра тое, што ў гэткія вось менавіта адпаведныя моманты і трэба знайсці ў сабе тую сілу волі, умеласць, кемнасць, якія б пасобілі ўлавіць агульны намер, зразумець яго сутнасць і, зразумеўшы, накіраваць з'яднаную волю да намечанае мэты.

Рыгор выпусціў гэта з вока — ён паддаўся настрою таварышаў. Але, выйшаўшы з двара, апамятаўся, што ж далей? І яму раптам успалі на думку тыя словы ды намеры, якія мелі месца і ў гутарцы з Міхасём, і на сходзе ў Артура. Запалілі нутро. Ён выбег з гушчы, як быццам у натоўпе цесна было думаць, і паглядзеў усцяж Узбярэжнай. З левага боку нядбайна гайдалася ў каменных берагах шырокая Дзвіна, справа стаяла сцяна паркана, уперадзе — слалася вузкая вуліца; яна вяла ў горад, бурлівы, тлумны горад. Чым адгукнецца ён на пераможныя матывы песні?

Але думаць было некалі. Рыгора падганяла свядомае пачуццё адкрытага выступлення. Ён кінуўся ўподбежкі, каб нагнаць пярэднія рады. Мінаючы рабочых, бадзёрыў іх: смялей!

Ужо ён раўняўся з пярэднімі, як на стыку вуліц Узбярэжнай і Прадольнай, куды павінна была павярнуць дэманстрацыя, каб прайсці ў горад, з'явіліся конныя атрады паліцыі ды жандараў і перагарадзілі дарогу. У гукі рэвалюцыйных песень урэзалася рэзкае: «Раззайдзі-ы-ысь!» На першы момант грамада не стрымалася, не перарвала пяяння, надыходзячы на коннікаў. Але апошнія, агаліўшы шаблі, кінуліся на дэманстрантаў і знарушылі рады. Нельга дый бескарысна было змагацца з варужнаю сілаю, і пярэднія расстроіліся, падаўшыся на тратуары. Пянне перабілася, змаўкаючы ўперадзе і цішэй цягнучыся над заднімі радамі. Сутычка з паліцыяй хутка перадалася па ўсёй грамадзе дэманстрантаў, і ўсе пакінулі пяяць. Замест песень то там, то сям з гурткоў рабочых панясліся выкрыкі: «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная Рэспубліка!». «Далоў паліцыю!». Моладзь выбягала наперад і ў вочы паліцыянтаў кідала гэтыя воклічы. Паліцыянты ўвайшлі ў злосць і пачалі ганяцца за рабочымі, размахваючы шаблямі і бізунамі. Некалькі чалавек, больш старэйшых, двое паліцыянтаў хвасянулі па галаве і намерыліся падбіць пад коні. Рыгор убачыў гэта і ўвесь задрыжаў ад злосці. «Ах, паганцы!» — праказаў скрозь зубы і, падмеціўшы камень, шпарка падняў яго і кінуў у аднаго з паліцыянтаў. Камень папаў каню ў шыю. Паліцыянт пагнаў каня і ад'ехаў убок, азіраючыся назад. Па прыкладу Рыгора яшчэ некалькі рабочых вырвалі з бруку каменні і запусцілі на жандараў. Адзін з іх барзджэй схапіў вінтоўку і даў выстрал. Следам уся паліцыя, падзяліўшыся па трое, з вінтоўкамі ў руках кінулася на раскіданыя грамадкі і ядынкі рабочых, дзе разганяючы, дзе арыштоўваючы.

Рыгор з іншымі накіраваў у двор бліжэйшага дома, які аказаўся праходным, і пaціху выйшаў на суседнюю вуліцу. Да яго даносіліся рэдкія выкрыкі з Узбярэжнае, мімаволі затрымлівалі,

не пускалі аддаляцца ад іх, але немагчымасць паправіць становішча дазваляла ісці адгэтуль.

Рыгор пайшоў на кватэру.

III

Ачуўшыся ў сваім пакоіку адзін на адзін, Рыгор Нязвычны стаў пераацэньваць толькі што пеpажытае. Не засвятляючы агню, ён перш падышоў да акна, прыслухаўся, ці не чуваць дэманстрацыйных выгукаў, а пасля, рухава тупаючы ўзад ды ўперад, пачаў перабіраць думкамі ўсе драбнейшыя рысы гісторыі падгатоўкі і самага выступлення, дэманстрацыі, настрою рабочых, яе значнасці, зарганізаванасці і сутычкі рабочых з паліцыяй. Дзівіўся, які цікавы вадакрут мае дынаміка здарэнняў, як цесна пераплецена асабовая думка з думкаю калектыўнай, як шчыльна звязан дробны пачатак з буйным канчаткам. Цікавіўся, да чаго прыйшоў ён з сваім нерашучым імкненнем стаць перад працоўнымі гушчамі і як неперадуглядна ўецца развіццё здарэнняў. Не даваў веры, што гэткім зыркім выблiскам занялося, працягнулася і кончылася яго першае выступленне. Дагадваўся і вышукваў тых прычын, якія мяшаюць аднаму чалавеку захапіць шворан калектыўнае думкі, грамадскае волі, каб накіраваць іх у тое ці іншае русло. Ухіляўся перад законам пераможнасці грамады над ядынкаю, так выразна, так ачула пеpажытым толькі што самім.

Тое, што дэманстрацыя скончылася разгонам, што наступнае развіццё здарэнняў цяжка было прадугледзець, — не вельмі непакоіла Рыгора. Ён цешыў сябе, лісціў свайму пачуццю адным — гэта тым, што — як-ніяк, а ў пеpажытым выбуху рэвалюцыйнасці ляжыць некаторая доля і яго энергіі, яго здольнасці, яго адвагі і таленту. Здарэнні — верыў Рыгор — не супыняцца. Важна было і знайсці сабе штырхач, разварушыцца, а там…

Рыгор адлятаў у думках ад бягучага, адрываўся ад канкрэтнага, пераносіўся ў наступнае, бліжэйшае і далейшае, малюючы сачлівыя вобразы і будуючы завабныя планы. Выабражэнне і мары — раслі, разбухалі, шырыліся, ствараючы з акольнага прадметнага свету багатую мазаіку будынка жыцця. Усё яно — адна пекната, адна прыемнасць, замілаванне. Пры гэтым асаблівасць і гострасць яго ў несціханым перайначванні, у несупынным бегу, трапятанні, у бясконцым змаганні за лепшае, за ляпейшае, за дасканалае. Кожная рэч, кожны прадмет, выглядаючы скрозь цем, пераказвае: «Уся прыгажосць у несупынным, праглівым, віруючым змаганні рабочага класа, у яго перамозе,

у яго дыктатуры». Хто ж асмеліўся сказаць яму ў гэтую пору, што ён абмыляецца, што жыццё — адна нудная, цягучая песня, заведзеная на адзін тон, накіраваная на адзін шлях, звычайная, — Рыгор запляваў бы таму вочы, празваў бы дурнем, не схацеў бы гаварыць. І як бы горача ён сустрэў таго, хто прыйшоў бы яго павіншаваць за выступленне, за бадзёрасць, за ваяўнічы настрой. Ён пацалаваў бы таго, хто б прынёс яму рэзвасць, рухавасць, бесклапотны смех… Ганна ў першыя часіны знаёмства. Наталя — са сваім бойкім, мужчынскім узрокам, з жыццярадаснымі рысамі на твары, з вераю, лёгкаю і палкаю; Міхась, выцерпеўшы рад боек, загартаваны жыццём і тугі, непарушны ў глыбокіх надзеях, — прыйшлі б яны да яго. На свежы след — падзяліўся б думкамі і перажываннямі… А перанясціся б туды, у Сілцы, да Сёмкі, да Петруся, да Сроля. Як бы ўскалыхнуў іх Рыгор! Цяпер яму выразна і ясна стала пераважнасць гарадскога працаўніка над селянінам, горада над вёскаю ў тым вялікім змаганні, якое вядзецца за вызваленне працоўных гушчаў ва ўсім свеце. Быў у Сілцах, бегаў усюды, падбухторваў таварышаў, каб тыя прылучаліся да арганізацыі, раскідаў пракламацыі, праводзіў гарбарскія і кравецкія забастоўкі, але ўсё тое — бледны адбітак сённяшняга выступлення. Адзін завод — дзве тысячы з лішнім чалавек, а злучы дзесяць тысяч, некалькі заводаў, што тады можа стацца!..

Рыгор пераходзіў да наступнае забастоўкі. Пачаў гадаць і меркаваць, як яна разгорнецца, колькі захопіць людзей, як паверне здарэнні, чым адзавецца на становішчы… чым кончыцца… Не! Аб канчатку забастоўкі не хацелася Рыгору думаць. Яго цікавіў працэс яе быцця, цікавіла яе цягучасць. Забастоўка — змаганне: рэвалюцыйныя прамовы, дэманстрацыі, сутычкі з паліцыяй. Вакола паўстанне, помеж з імі… Натужнасць, зарад, трапятанне…

Думкі прыдалі Рыгору павышаны настрой, захапленне — і ён справодзіў іх рэзкімі махамі рукі, прытоптваннем, пераказам учуткі… Ён быў падобны да электрычнага матора, які ўвесь жыве несупынным рухам, у непаглядным вярценні…

Незаўважна для яго горад заціх, павеяла вільгаццю. На паземе адмеціўся надыход золку. Перайшло за першую гадзіну. Перамагаючы сябе, Рыгор прылёг: заўтра трэба ісці к заводу, трэба ўгледзець Міхася ці Артура і праведаць наконт забастоўкі, што адбылася на іншых заводах.

Іскралётныя думкі яшчэ з добрую гадзіну мігаліся ў яго галаве, адрываючыся, гаснучы і ўзгараючыся. Бліскучым шэранем, трапяткім галёнам імжэлі, заходзячы ў глыбі здрому: Рыгор заснуў чулым сном…

Але не супачыў за тыя пяць гадзін, што праспаў да першага гудка. І стомленым падняўся з пасцелі і пайшоў у завод. На Узбярэжнай хадзілі патрулі гарадавых. Рабочыя ішлі працаваць — гэта Рыгора засмуціла. Разам з другімі ён прайшоў у завод і нехаця папрацаваў да абеду. Ідучы ў харчоўку, спаткаўся з Міхасём — пагутарылі аб дні абвяшчэння забастоўкі, аб здарэннях на іншых заводах, аб рэзультатах учарашняе сутычкі з паліцыяй. Гутарка некалькі ўраўнаважыла Рыгора: ён зайшоў у харчоўку. Цёмная, забруджаная, яна была перапоўнена людзьмі. Падсеўшы да століка, за якім абедала ўжо трое рабочых, ён заказаў абед і пачаў прыслухоўвацца, пра вошта гавораць. Рабочыя, не заўважыўшы Рыгора, цягнулі раней пачатую спрэчку.

— Сволачы, якраз перапынілі; а то б прарваліся ў горад ды хаця напалохалі б буржуазію, — казаў здаравенны рыжы хлопец.

— То-та і ёсць! Ці ж яны спацьмуць! Дзе ты бачыў! Сочаць — працуе і іх розум, — сказаў сярэдніх гадоў мужчына, з французскаю бародкаю.

— Ну, як сабе хоча ўсё, але дэманстрацыю правялі. Ведаеце, міжвольна пойдзеш на ўсё пасля гэткай прамовы. Да чаго складна гаворыць… Ці ты, Пракоп, часамі не ведаеш, хто ён такі? — ваткнуў трэці.

— З слясарнага цэха, — адказаў рыжы.

Рыгору стала няёмка: ану ж угледзяць і засаромеюцца за свае словы. Усё ж тое, што пра яго ішла гутарка, лісціла яму. Не даючы выгляду, што рэч ідзе аб ім, Рыгор кончыў абед і намерыўся сам увайсці ў гутарку.

— А вот учарашняе — я ізноў да дэманстрацыі, — казаў мужчына з французскаю бародкаю, — не так павінна было б скончыцца.

— А як? — перабіў Рыгор.

— Як? — той пільна ўгледзеўся ў Рыгораў твар, памаўчаў крыху і мякчэй адказаў:— Мякка абышліся з гэтымі цюцькамі. Трэ было ўсім хапіцца за каменні. А то стрэліў адзін, і пачалі разбягацца.

— А як жа іначай? Сталі б адбівацца — стралялі б усе. Крыві пралілося б за няма нішто…

— Як за няма нішто? — хапіўся рыжы. — За нашу свабоду… Бач, крыві баіцца. Лілі ж дагэтуль — і надалей не застрахованы.

— Пэўна…

— То-та ж…

Рыжы прыгледзеўся да Рыгора і запытаў:

— Ці я абмыляюся, ці не, здаецца, гэта ты ўчора казаў прамову?

Рабочыя ўсе ўтраіх бессаромна абярнулі ўзрокі на Рыгора.

— Я таксама прыкмеціў, але не асмельваўся казаць, — дадаў мужчына з французскаю бародкаю.

Рыгор засмяяўся і прызнаў сябе за ўчарашняга прамоўцу.

— Маладзец, добра гаворыш, — пахвалілі ў адзін голас двое рабочых.

— Так, завідна, — прыбавіў трэці.

І калі Рыгор адчыніў губы, каб адказаць ім, з суседняга століка адвярнуўся да іх стары худашчавы дзядок і ўпаўголаса праказаў:

— Асцерагайцеся, вунь у кутку сядзіць шпег. Увесь час глядзіць на ваш стол. Пакідайце харчоўку заднім выйсцем.

Яны ўсе ўчацвярых няскрытна паглядзелі ў левы куток пакоя: за маленькім, кругленькім столікам, над шклянкаю кавы сядзеў шляхетна пададзеты, з белым каўнерыкам, гладка прычэсаны, брыты чалавек. Роўна паставіўшы галаў, ён вадзіў узрокамі па ўсёй харчоўцы, як бы шукаючы каго. У момант, калі на яго кінулі ўзрокі Рыгор з трыма суседзямі, чалавек ці незнарок, ці сумысля паглядзеў у супрацьлежны канец. Карыстаючыся гэтым, яны падняліся з-за стала і выйшлі праз задняе выйсце на двор, накіраваўшыся да завода. Каля брамы, застаўшыся ззаду таварышаў, Рыгор азірнуўся і заўважыў, што той жа тып праводзіць іх на адгоне ганоў з трое. Рыгор усміхнуўся і схаваўся ў заводскі двор.

Гэты інцыдэнт нічым не адбіўся на Рыгоравым настроі. Ужо пры першым зыку машын у заводзе Рыгор выпусціў з думкі шпега і тую асцярожнасць, якую той сігналізаваў сваёю сочкаю. Гутарка рабочых, іх пахвальба Рыгору, водгук іх на ўчарашнюю дэманстрацыю — вось што займала яго ўвагу і пачуццё: значыць, ён не ашукваецца, калі думае аб вялікай важнасці праведзенага выступлення.

Помеж з гэтым прыемным адчуваннем Рыгору захацелася ў наступных падзеях яшчэ раз выявіць сябе, тым болей што, адчуваў Рыгор, у яго маюцца на гэта энергія і здольнасць. Пад свіст станка, роўны і цягучы, ён памкнуўся ўмомант збудаваць новую прамову, куды мацнейшую па сіле і глыбейшую па сэнсу: «Я ім абвяшчу…» — праказаў ён сам сабе і адцягнуў увагу ад разца, які глыбока ўеўся ў сталь і пусціў смярдзючы гарэлы дым. Рыгор паспешна супыніў станок і адняў разец. Вылаяўся рэзка і злосна. Сплюнуў і матнуў рукою.

## IV

Падвышаны настрой не пакідаў Рыгора і ў наступныя два дні: жыў ён выключна мінулай дэманстрацыяй і надыходзячай забастоўкаю. Апошнюю чакаў з тым жа нецярпеннем, што і сваё выступленне з прамоваю. І таму дні праходзілі неўпрыкмет.

У суботу, кончыўшы працаваць на дзве гадзіны раней, ён рашыў прайсці па дарозе на кватэру Верманаўскім паркам. Выйшаўшы з завода, ціхай хадою накіраваў у горад, зрабіў куплю і прайшоў у парк. Дзякуючы субоце гуляла шмат публікі, разадзетае, святочна настроенае. Чуўся звычайны, вечна жывучы, малады, сакавіты смех, кідаліся ў вочы бесклапотныя жыццярадасныя жарты дзяўчат, вёрткіх, як газелі, стройных, трапяткіх. Як быццам бы жыццё паказвала праз іх светлыя ўхмылкі сваю неўміручую прыгажосць. Ад яе нельга было ўхавацца. На руцяністых лістках акацый, бэзу, клёну, на чырвоных вяргінях ды гваздзіках гулялі зайчыкі праменю, шустрага, электроннага… Рыгора цалкам захапіла гэта віраванне жыцця, размякчэла. Ён не стрымаўся, каб уголас не падумаць: «Няўжо не прыйдзе сёння да мяне Наталя? А Ганна? Паглядзі ты, так зазлаваць! Як канфора ў ваду — каторы час і няма нідзе!» Ганна заінтрыгавала Рыгора. «Хоць бы ўгледзець яе, напаткаць дзе-колечы». У Наталю ён быў завераны, упэўнены; хацеў бы бачыць, але ведаў, што не сёння, то заўтра ўгледзіць, стрэнецца абавязкова. «А вось Ганна — хай бы яшчэ раз спаткацца з Ганнаю». Закарцела да таго, што Рыгор некалькі разоў прайшоў цэнтральнымі алеямі, прыглядаючыся ў твар кожнае дзяўчыны. Не здаволіўся, што не пападаецца Ганны, і нехаця выйшаў з парку; выйшаўшы, раз ад разу азіраўся, пакуль не схаваўся за вуглом муру. Не было Ганны, і ён, ідучы дамоў, меркаваў, калі і дзе яе можна ўгледзець. Напрашаліся гатовыя планы: узмор’е, парк, тэатр. Дзе-колечы — ды трапіцца сысціся.

Забяспечыўшы сябе надзеяй, Рыгор падбліжаўся к дому і знячэўку, не даходзячы колькі дамоў, як з зямлі вырасла ў яго ваччу Ганна. Кроў лінула да сэрца, ён здрыгануўся ад нечаканасці. Дзяўчына ішла да яго, задуманай, няўпэўненай, раззіраючы па баках. Шмат прахожых яе міналі, абыходзячы ці справа ці злева; некаторыя ўглядаліся падазронымі ўзрокамі. Рыгор не ведаў, як вясці сябе: даганяць Ганну або даць мажлівасць ёй зайсці ў двор; ён зацішыў хаду, хоць нейкая сіла падганяла яго бегчы, спяшыць, апынуцца каля яе і загутарыць. Сіла волі перамагла пачуццё — Рыгор даў часу прасачыць, куды ідзе Ганна. Колькі разоў супыняўся, не спускаючы воч.

А Ганна тым часам параўнялася з дваром яго дома, паглядзела налева і направа, замялася на момант і прайшла далей.

«Каб не пайшла зусім», —мільганула думка ў Рыгоравай галаве, і ён паспешна мінуў адзін дом, супыніўся, пастаяў крыху і ізноў зацішаным шагам пайшоў далей. І пасля перарашыў: «Затрымаюся каля брамы; не вернецца — пабягу даганяць, а вернецца — пачакаю».

Пакуль падышоў — Ганна завярнула назад і, пэўна, угледзела яго, бо раптам змяніла кірунак хады і яе тэмп.

Праз колькі хвілін яна ізноў была каля брамы, тут жа спаткаўшыся з Рыгорам.

Ён уверана працягнуў ёй руку, гасцінна ўхмыльнуўся і праказаў:

— Добры вечар! Як гэта здарылася? Ну, пойдзем да мяне?

Ганна не палісцілася гасціннасцю з боку Рыгора: не засмяялася, не падала выгляду задаваленння.

— Добры вечар! — суха і працяжна адказала. — Дзе ты быў так позна? Кожны раз, як назнарок, — прыйдзеш, а цябе не застаць.

— Кінь падазронасць… Я не ведаю, што прымусіла цябе пісаць да мяне гэткую запіску…

— Ты варт таго… Падумай сам, што я магу перажываць. Табе — нічога… — Яны прайшлі браму і накіравалі да Рыгора. Ганна ішла, апусціўшы голаў, нясмела, як арыштаваная. — Табе да таго — жаднага клопату.

— Што ж ты думаеш! У мяне — забастоўка, пытанне жыцця, змаганне; ты думаеш, я жыву выключна сабою? Я — адзін з мільёна, кропка ў вялікай гушчы працаўнікоў. Маё жыццё цесна пераплецена з жыццём гэтае магутнае суполкі людзей… Ганна! Каб ты ведала, якія здарэнні адбываюцца зараз на нашым заводзе і ў самым горадзе! Мо чула, якая грандыёзная дэманстрацыя адбылася ў чацвер! Не чытала хіба? Я выступіў перад рабочымі з натхнёнаю, палкаю прамоваю, напаліў іх да белага. З «Інтэрнацыяналам», з воклічамі — на вуліцу! Толькі паглядзець было на гэты вобраз! Тысячы чалавек, якія з’яднаны аднымі класавымі інтарэсамі, адной маналітнаю думкаю, адным жаданнем — «Уставай, пракляццем катаваны!» Зямля, здавалася, траслася ад гэтай сілы. Накіруй яе на абраную мэту — парушынкі не застанецца ад усіх перашкод… мы ішлі — лунаталі песні…

— А ўрэшце? Разагнала паліцыя!

Рыгор замоўк, як быццам чыясь рука неміласэрна парвала настроеную струну.

— Ты ведаеш? — праз колькі хвілін запытаў у Ганны.

— Бачыш.

— Ну, а калі паліцыя разагнала, дык думаеш — на гэтым скончыцца? Паглядзіш, што прынясуць наступныя дні. Жах абойме ўсю буржуазную Рыгу…

Падышлі да дзвярэй. Пазванілі.

— Цяпер рабочыя пакажуць, як з імі трэба абыходзіцца. Годзе гнулі свае спіны. Неабмежнаму здзеку мусіць прыйсці канец. Ты паглядзі, — свет будуем, а нявольнікамі ходзім. Вось…

Рыгор паказаў на зашмальцаванае крысо жакеткі.

— Не адчыняюць, — нервавалася Ганна, чужая настрою Рыгора, захопленая сваімі, зусім іншымі самотнымі думкамі. — Твая гэтая латышка… я бы з-за аднае яе не жыла тут…

Стук дзвярэй перапыніў яе. Вільгельміна адшчапіла ланцужок і адчыніла:

— Калі ласка, Нязвычны. — І тут жа скрывіла міну, угледзеўшы Ганну. З пераднамеранай думкай работніца праказала: — А да вас прыходзіла Наталя!

— Наталя?!

Рыгор перш сумеўся, а пасля ўмомант хапіўся за думкі, як адказаць, і ўсё ж, нявольны ад няёмкасці, адказаў двухсэнсоўна:

— Хто яна такая?

— Прыйдзе яшчэ, абяцала.

Ганна папередзе прайшла ў кватэру, але прыпынілася перад Рыгоравым пакоем і ўся — адно хваляванне — пачула паведамленні Вільгельміны. Кожнае слова яе, знарок падкрэсленае, адзывалася вострым болем у Ганніным нутры. Пачуццё назбіранай крыўды, якую вось-вось яна мелася выліць перад Рыгорам, зараз утройчы пабольшылася, ахапіла яе ўсю, да кончыкаў ногцяў, да кончыкаў кос. Рыгор мігам адляцеў далёка-далёка.

Ужо не хацелася пераступаць парога ў яго пакой, ужо не жадалася нічога казаць яму. Завярнуцца — і бегам дамоў. Толькі б крануцца з месца…

Рыгор падышоў да яе і, не даўшы адумацца, адчыніў дзверы ў свой пакой і папрасіў:

— Ганна, проша.

Ганна нехаця зрабіла колькі крокаў, зачыніла за сабою дзверы і стала сярод пакоя.

— Ты крыўдзішся на мяне?.. Ты думаеш, што я… Ах, якія бо вы, дзяўчаты, фанабэрыстыя, што…

Ён хваляваўся і шкадаваў Ганну.

А яна ледзьве стрымоўвала сябе ад злоснае горнасці. Раз у раз то паднімала, то апускала галаў, кідаючы асавелым узрокам у профіль Рыгоравага твару. Пераступала з месца на месца, садзілася, то ўставала, камячыла ў руках рыдыкюль; сціскала зубамі. Пасля адвярнулася ў акно і, стоячы бокам да Рыгора, усё парывалася нешта сказаць.

Рыгор не стрымаўся: рашуча падышоў да яе, палажыў на плячо руку і сказаў:

— Злуешся? Кінь!

— Ты, ты, ты! Ты адзін…

Рэзкі, нястрыманы голас яе прарэзаў настарожаную цішу.

Рыгор схамянуўся — нейкі час не ведаў, што сказаць. Сустрыманы, нясмелы стук у дзверы прымусіў абоіх настаражыцца.

— Уваходзьце!

Адчыніліся дзверы, і ў пакой праглянула Наталя. З няёмкасці — не ведала, што рабіць: ісці ці не.

— Смялей, падыходзь сюды, — падбадзёрыў Рыгор.

Яна падышла, працягнула яму руку і павярнулася да Ганны.

— Мой таварыш — Наталя, таварыш Ганна.

Афіцыяльна, суха дзяўчаты пацiснуліся за рукі. Ганна моўчкі адвярнулася.

— Я ўжо была ў вас, — весела паведаміла Наталя, садзячыся на ложак, — а вы гуляеце недзе. Абманваеш мяне…

— Я? — проста бяда: Сцыла і Харыбда — Ганна тое самае думае. Паміж двух агнёў.

Ён хацеў выпрабаваць Ганну, ці не адпусціў яе гнеў: тая маўчала, яшчэ больш нервуючыся. Гэта ўплыло і на Наталю.

— Вы пасварыліся? — запытала яна Рыгора гэтак, каб чула Ганна.

— Дзе там! Ганна проста злуецца…

— Ты, ты… прымушаеш на большае… Каб не шанавала сябе…

Ганна злосна паглядзела на Рыгора і павярнула да дзвярэй…

Рыгор перапыніў:

— Куды ты, Ганна! Што з табою?

Але яна маланкаю вылецела з пакоя, зачыніўшы за сабою дзверы.

V

— Цудная дзяўчына! — развёў рукамі.

— Што ты зрабіў ёй?

— Эх, не разумее жыцця. А настаўніца! Гарадская, да таго.

— Ты пакрыўдзіў яе?

— У вашага брата іншага не дажджэшся.

— Чаму?

— Бачыш, кідай усё: і змаганне, і агульныя інтарэсы, усё на свеце, а аддайся цалкам ёй.

Наталя скрыла ўхмылку і праглівым узрокам уставілася ў вочы.

— Вой, глядзі, не тое!

— Будзь інакшаю…

Ён захадзіў па пакоі, не ў сілах супярэчыць нахлынуўшым думкам. «Сапраўды, чаму ж мне асцярожней не падысці да яе? Чаму б мне не перапрасіць яе? Ах, натура ўжо мая — напралом, ці трэба, ці не. Пакрыўдзіў дзяўчыну! Трэба абавязкова перапрасіць…»

І ўжо быў спыніўся на гэтым, як раптам усумніўся: «Перапрасіць! У чым? Знізіцца да будзёншчыны? Ласне яна зразумее маю ласкавасць. Што я дзеля гэткай мяшчанкі! Праступнік, бунтаўшчык — не болей. Не! Я не паддамся на гэта…»

Рыгор утаропіўся ў адну кропку на сцяне і стаяў нерухома.

Наталя колькі хвілін сачыла за ім, пасля раптам павярнулася і ўголас праказала:

— Рыгор! Таварыш Нязвычны! Ты не рад майму прыходу? — Рыгор памкнуўся адказаць, але спыніўся. — Чаго ты маўчыш? Сядзьма, Рыгор!

Пакарыўся — селі.

Селі — так хацела Наталя, думаючы гаварыць, — гаварыць з Рыгорам, спавядацца яму ў тым пачуцці, якое выбухнула ў ёй пры адыгрыванні гісторыі з Ганнаю. Да гэтага Наталя і не западозрывала, што ў яе нутры наспявае нейкая моцная цяга да Рыгора. Гуляла на адзіноце, сустракалася, а прыметы гэтага не адчувала. Паважала Рыгора як добрага таварыша, нават злёгку любіла яго як прыгожага, мужнага чалавека: ну, а каб гэта захапіцца ім — пакуль не ўспадала на думкі. Сення ішла да яго з ранейшым пачуццём, — праўда, з гэткім пачуццём, якому было цяжка пярэчыць. Усё ж далёка было да адыгранага фіналу.

Захапілася — і не магла слова мовіць, толькі напружана, пільна сачыла за яго рухамі, за мігаценнем яго броў, за ціхім,

непрыметным калыханнем дробных рыс твару. Глядзела і ўкладала ў свае ўзрокі неапісанае натхненне. Той жа самы воблік, той вобраз, якія выглядалі ў Рыгору Зося і Ганна, маляваўся і Наталі. Рыгор — у гэту хвіліну не толькі таварыш-змагальнік, не толькі сябар, а і ідэал, якому мажліва і трэба пакланяцца. Каб хто запытаў яе, адкуль узяліся тыя ценькія струны ў яе нутры, тая мяккасць ды гасціннасць у гэтак неміласэрна патузанай жыццём, абчэрственай яго жорсткімі ўмовамі, заціснутай нядоляю і недастачамі істоце, — Наталя не адказала б.

І толькі праз доўгі прагалак часу, мо праз гадзіну, удвойчы праказала да яго, умаляючы:

— Чаму ты маўчыш? Кажы мне ўсё, усё кажы… Не смейся з мяне, што я гэткая… Ты сустрэў мяне сухою рэвалюцыянеркаю, а я… Ну, што ж, чалавечая ўласцівасць прысутна і мне… Скажы, скажы мне, ці я не перашкоджу табе? Мяшаю Ганне? Навязваюся? Знарушаю твае планы? Скажы, скажы… Не маўчы.

А Рыгор маўчаў, судзячы: «Што мне ёй казаць? Прызнавацца?»

Тады, пачакаўшы крыху, Наталя нервова адышлася да акна, паглядзела на двор і спакойным голасам адказала:

— А мне пара дадому. Паглядзі, — усюды патушылі агні. Правядзеш мяне?

— Аставайся начаваць. Куды табе блізкі свет цягнуцца ноччу?— Паглядзеў на гадзіннік. — Другая гадзіна па поўначы. Аставайся, Наталя. Ласне саромеешся? Ці не давяраеш мне? Начуй… Мы рэвалюцыянеры…

Наталя недаверчыва паглядзела Рыгору ў твар.

— Ты смяешся?.. А што мне дзядзька скажа?

— Ха-ха-ха! Дзядзька! На прывязі трымае цябе?

— Маўчы лепш.

Рыгор не настойваў. Моўчкі адзеў жакетку, шапку і падышоў да Наталі. Далікатным кіўком паказаў, што хоча праводзіць.

Наталя выйшла з пакоя першая.

— Не разбудзіць бы адно гаспадароў.

Асцярожна прайшлі калідор, стараючыся не стукнуць, адперлі і заперлі дзверы. Сышлі з усходаў — без слова гутаркі, адно за другім. Перасеклі двор і каля брамы абудзілі драмаўшага дворніка. Той нездаволена паківаў галавою, гультайна падняўся з месца і выпусціў іх на вуліцу.

Ціхая зорная ноч абдала іх астуджаным, але нячыстым гарадскім паветрам. Электрычныя лямпы вадзілі даўгія, дзівосныя цені. Ублізку не відаць было чалавека, але здалёк даносіўся ляскат шагоў, стукатня конскіх капыт і розныя гукі ды зыкі.

Яны накіравалі да Верманаўскага парку — ішлі мернаю, спакойнаю хадою. Усё яшчэ маўчалі, не хочучы ніводнае першым загаварыць, хоць у абоіх бушавала пачуццё і самі сабою напрошваліся словы гутаркі. Рыгору імпанавалі абставіны летняй ночы, перажытыя здарэнні; трымалася бадзёрасць. Наталя — адна адною з ім — цягнула да сябе яго ўвагу, думкі, планы; Наталя будзіла цэлы знізак мінулых перажыванняў, разгойдвала выбражэнне. Рыгор не ведаў, не адзнаваў і не хацеў разумець Наталінай маўчанкі. Нарэшце, падыходзячы ўжо да парку, Рыгор запрапанаваў ёй:

— Давай паседзімо ў парку?

— Запозна, Рыгор.

— Ты сярдзіта?

— Кінь хаця.

— Давай паседзімо.

Наталя згадзілася. Рыгор аддзякаваў моцным поціскам яе рукі.

— Ты падумай, колькі нам суджана гэткіх ночаў правясці? Хто ведае, чым і што кончацца здарэнні з забастоўкаю… Ды наогул, што нас наперадзе чакае…

Каля агароджы парку, куды яны падышлі, пачуўся гучны гоман. Яны паглядзелі ўбок: шагоў дзесяць ад іх ішла грамадка людзей; у цені дзярэў нельга было разабраць, хто і што, але ў тупаце ног чуўся знаёмы звон шпор. Рыгор спыніўся, затрымаўшы Наталю.

На светлай пляміне, якая ўразалася ў згусткі ценю, бліснулі жоўтыя гузікі паліцэйскіх. Было ясна — вялі арыштаваных.

Рыгор з Наталяю шчыльна прытуліліся да агароджы і праждалі, пакуль гэта працэсія аддалілася ад іх на добры кусок. Пасля, не заходзячы ў парк, павярнулі направа абыходам.

— Хаця б не нашых толькі? — занепакоіўся Рыгор.

— Чаго добрага — усё можа стацца. Папераджаюць забастоўку. Цяпер трэба быць асцярожным. Асабліва табе, Рыгор… Я чула, нябось, як ты выступаў.

— Чула? ну? ну?

І ён тут жа забыўся і пра Ганну, і пра паліцэйскіх, якія павялі арыштаваных, і пра жаданне пасядзець у парку, палюбавацца ночкаю, пацешыцца Наталяю.

— Ты ведаеш, чуць дэманстрацыі… крывавай дэманстрацыі не выйшла — гэткі настрой… Момант цікавы… Ну, а вось у вас што чуваць?

— У нас, ведаеш, большасць кабет… Але нельга сказаць, каб не падтрымалі вас. Выступяць…

— Трэба шчырэй узяцца за агітацыю… Усё залежыць ад ёмкасці падыходу да рабочага ці да работніцы. Ты, Наталя, павінна папрацаваць… Мусім жа паказаць, што мы — сіла, што мы апіраемся на крэпкія падпоркі…

— Так, трэба,ведама… — Двое прахожых, што ішлі ім насустрач, паперашкодзілі далейшай гутарцы. Наталя, каб адцягнуць увагу, праказала:— Бачыш, ужо і золак займаецца.

Рыгор паглядзеў уверх.

— Хаця б крыху адпачнуць.

— Так, ідзі ўжо, я адна прайду гэтых два кварталы. Ідзі.

Наталя спынілася, але Рыгор угаварыў правясці яе да самага дома. І нават пачакаў, пакуль дворнік, упусціўшы Наталю ў двор, запёр вароты.

— Прыходзь жа, — паслаў удагон і вярнуўся.

Рыгору не хацелася прыйсці на кватэру пазней, чымся прачнецца Вільгельміна. Не баяўся яе, не саромеўся — проста не хацеў, каб яна бачыла яго ранняю раніцаю не сплючы. З гэтай прычыны ён ускорыў хаду, меркаваў скараціць дарогу, пераходзячы на загібах вуліцы з боку на бок, выбіраючы перавулкі.

Горад зусім заціх, і Рыгоравы шагі гучна разносіліся пад дахамі муроў, адбіваючыся ў вузкіх вуліцах. На некалькіх рагах і на скрыжаваннях вуліц, прытуліўшыся да сцен муроў, драмалі вартавыя гарадавікі. Рыгор праходзіў між іх, не зважаў, і яны не патуралі нічому. Верманаўскі парк быў абагнуты ім з боку ад пошты зусім непрыкметна. Наогул, за спешнаю хадою Рыгор не спыняўся на адной якой-колечы думцы, прапускаючы процьму адрыўкаў. І толькі спыніўшыся ў браме дома, дзе была яго кватэра, ён знячэўку ўлавіў кусочак успамінку аб Сілцах, нейкаю прымхаю мільгануўшых у яго галаве. Улавіў і задумаўся, ажно забыўся пастукаць дворніку, каб той адчыніў вароты.

«Маці! Падумаць! Забыў! Столькі часу ні слова не напісаць! Што перажывацьме яна там, не ведаючы і не знаючы пра мяне? Пэўна, старая праплакалася, занудзела, зняверылася… А я тут — кручуся-вярчуся, як шалёны… Не, годзі маўчаць. Трэба ж, нарэшце, улучыць хвіліну-другую і кінуць ёй ліст. Маці! Ды таварышы таксама лаюць мяне здорава. Сёмка — той, пэўна, матнуў рукою… Хлусом празаве… Як жа яму не напісаць? Ах! Ды столькі ўсяго ёсць пісаць! Столькі пражыта за гэты тэрмін…»

Думаючы, Рыгор не заўважыў, як да яго падышоў яшчэ адзін жыхар гэтага дома. Падазрона абглядзеў яго з ног да галавы і рашуча пастукаў у браму. Гэта Рыгора адцягнула ад думак, і ён паціху ўвайшоў у двор следам за незнаёмым чалавекам.

## ЧАСТКА ВОСЬМАЯ

### I

«Толькі ў рашучым выступленні — перасцярога наглай заўзятасці ворага», — казаў Рыгор перад тысячнаю грамадою рабочых. І, кажучы гэта, ён выказваў сваімі вуснамі той настрой, які паступова ў гэтым годзе ахопліваў рабочыя гушчы не адной толькі Рыгі, а ўсяго неабмежнага прастору царскае Расіі. К моманту яго выступлення нездаволенне існуючым станам, абурэнне супроціў крывасмагнага самадзяржаўя, пратэсты на бессаромную эксплуатацыю капіталістамі рабочых бурліваю хваляю ўскалыхнулі працоўныя гушчы. Цяжкія гады ўціску і душэўнага заняпаду, што наступілі пасля паражэння рэвалюцыі 1905 года, адышлі ў ліхое знебыццё… Трывожныя стрэлы, што прагучалі над далёкаю Ленаю, аддаліся громкім рэхам у настарожаных сэрцах рабочых. То быў сігнал, які рашуча і дзёрзка адкідаў наглыя словы царскага сатрапа: «Так было і так будзе!» — несучы вестку аб новых днях… Жыццё выглядала ў іншым abліччы, падаючыся пад упартым законам гістарычнага развіцця.

К сходным дням ліпеня абурэнне сярод рыжскіх рабочых паднялося да вышэйшага пункту. Здарэнні ў сваім развіцці апярэджвалі людскія намеры, падрахункі, планы. Саматугам гуртаваліся мітынгі, выбухалі рэзкія канфлікты на розных фабрыках ды заводах, вынікалі стыхійна забастоўкі. Паветра напалялася вострым змаганнем працы з капіталам. Па майстэрнях пры рабоце адкрыта і смела паднімаліся спрэчкі, дыскусіі на рэвалюцыйныя тэмы. Факт агульнай забастоўкі не таіўся, а быў прызнаным, немінучым з’явішчам. Нельга было пачуць слова, якое б пярэчыла патрэбнасці яе. Наадварот, дзень ада дня ўсё рашучай ды настойней аформлівалася выразная думка — не чакаць назначанага тэрміну, а зараз жа пачынаць змаганне. Дзякуючы гэтаму яшчэ за некалькі дзён адна за другім сталі спыняцца фабрыкі і заводы. Факт ажыццяўляўся…

І вось адным днём распаленае паветра сыпнула агнём трывогі. Над багатымі кварталамі шумлівага горада распласталася здань рабочага паўстання. Што прынясе яно бесклапотным багацеям? Рупліва заварочаліся на мяккіх крэслах фабрыканты і заводчыкі, грашавікі і губернатар, домаўласнікі і вышэйшыя чыны адміністрацыі. Зашамалі губамі гандляры і мяшчане. Што ж такі будзе далей?

Калі баставалі перапёкі і электрыкі, а паліцыя ўпарта змагалася з імі праз арышты, гаспадары — праз разлічэнне з

работы, гарэла надзея перамогі над бунтаўшчыкамі. «Авось не падтрымаюць іх рабочыя іншых заводаў. Па адным чалавеку пераловяць разбойнікаў і надоўга закажуць, як весці сябе». На кожнае паведамленне аб арышце — тыкалі пальцамі і ліхамысна ўсміхаліся: «Так іх, галубчыкаў!» Але, як толькі тыя ж газеты буйнымі літарамі на першых старонках адмецілі пачатак агульнае забастоўкі, бадзёрыя выгукі прымоўклі. У багатых магазінах, у канторах і банках, у рэстаранах і дома купцы, папы, дырэктары і загадчыкі, паны і пані падазрона азіраліся адны на другіх, на вокны і на дзверы, прыслухваліся да стуку і крыку і палахліва пaглядалі, выйшаўшы на вуліцу, у бок прыгарадаў, у бок Наддзвіння, уздоўж Мітаўскае чыгункі, ці не дымяцца коміны, ці не чуваць рэвалюцыйных песняў і стрэлаў паўстанцкіх… У канцы вуліц, якія вялі да рабочых раёнаў, прагліва ўзіраліся баязлівыя вочы, чакаючы варужных дэманстрацый. Дзе праходзіла двое-трое рабочых, на іх глядзелі натрывожаныя буржуі, старонячыся ўбок, іх праводзілі падазронымі ўзрокамі гарадавікі, сачылі пераадзетыя шпегі. На вечар узмацнялася варта, выстаўлялі патрулі, а ў кватэрах багацеяў шчыльна запіраліся дзверы і аканіцы. Насіліся сумліўныя охі і ўздыхі: «Ох, ох! да чаго толькі дойдзе. Так разбазырыла чэрня! Ні начальства, ні бога нямашака. Паліцыя вінавата — трэба ж было гэтак народ распусціць… А цяпер —і ні рады!»

А па Наддзвінні і ў іншых рабочых раёнах забастоўка выяўлялася ў яскравым заміранні працы, ва ўрачыстым, раз’юшаным руху каля нерухомых заводаў і фабрык, каля ціхіх рабочых домікаў. Кучкамі, большымі і меншымі, па двое хадзілі рабочыя між высокіх сцен завода, па глухіх, крывых вуліцах і перавулках; гутарылі на тэму дня, радзіліся, сыходзіліся і распачыналі маніфестацыі. Юнакі выкідалі чырвоныя сцягі, пяялі песні, дражніліся з паліцэйскімі, якія ўдубальт варужнымі соваліся між хмурых будынкаў, падазрона азіраючыся ў бакі і навакола, трымаючыся за рэвальверы і шашкі; час ад часу гарцавалі, паднімаючы пыл, коннікі. У харчоўнях ды гарбатнях, дзе заўсёды таўкліся рабочыя ў абедзенны час і вечарам, было пуста; а дзе сыходзіліся колькі чалавек, там стаяў гоман, абгаворы бягучага моманту, вестак пра настрой на розных фабрыках і заводах, пра арышты. І па раніцы і сярод дня па вуліцах раскідаліся плакаты і адозвы забастовачнага камітэта і камітэтаў партый, разлепліваліся на сценах дамоў, на агароджах, і побач іх — распараджэнні губернатара і заявы фабрыкантаў. Грамадкі рабочых спыняліся

і чыталі, чыталі і лаяліся, гразілі помстаю ў блізкай ці далёкай будучыні.

Магутная думка — ідэя вызвалення з-пад цяжкай няволі прасякала ўсе куткі рабочых раёнаў, лучыла ў адну гушчу тысячы і дзясяткі тысяч адзінак, настройвала іх на распачлівую супярэчнасць другой, класава варожай сіле, сіле абіраццеляў і прыгнятацеляў. Нельга было не паддацца ўплыву разгарачанай помсты, змаганню — і ёю захаплялася ўсё насяленне рабочых раёнаў — ад дзяцей да старых, ад мужчын да кабет. Смерць катам! Пагібель тыранам!

Завод, на якім працаваў Рыгор, прылучыўся да забастоўкі трэцім. На пяты дзень пасля апошняе гісторыі з Ганнаю Рыгор пайшоў на завод, маючы намер падняць агітацыю за хутчэйшае далучэнне яго да забастоўкі. У чыннасці Міхася і іншых таварышаў ён наглядаў нейкую нерашучасць-баязлівасць і не хацеў далей пагоджваць з імі сваіх планаў. «Чаго адцягаць надалей? Да чаго можа прывясці іх куртатая палітыка?» — разважаў Рыгор.

Прыйшоўшы к заводу, ён сустрэўся з фактам: завод стаяў; забастоўка зарадзілася сама сабою, захапіўшы тысячную грамаду рабочых. Агромны дзядзінец ужо кішэў раз'юшанай гушчаю людзей, як мора ў час шторму. Чуліся прамовы аратараў, выгукі лозунгаў. Тыя, што стаялі каля варот, павярнуліся, каб выйсці, але чакалі ўрочнага знаку, сігналу.

Рыгор апукаю ўкаціўся ў цесную гушчу людзей і, рвучыся на ўсе бакі, пачаў падбіваць рабочых на рашучасць, на дэманстрацыйнае выступленне.

— Чаго вы стаіце тут? — зварочваўся да ўсіх, між каго праходзіў. — Пара выходзіць на вуліцу. Нечага раздумоўваць.

Агітуючы, наткнуўся на Міхася, які ўгаворваў гурток рабочых спакойна разысціся па хатах. Не стрымаўся і папракнуў яго за баязлівасць. Міхась адказаў папрокам Рыгору ў незвычайнай гарачлівасці. Супыніў яго і хацеў растлумачыць сваю правату. Але тут жа грамадою пранёсся неспадзяваны гоман і рух: яна закалыхалася і рушыла ў вароты, на вуліцу. Магутным штырхачом разбіла іх гурток і аддзяліла Рыгора ад Міхася. Праз некалькі хвілін яны ўсе апынуліся на вуліцы, у згушчаных радах рабочых, у дэманстрацыі, якая прайшла з гоны ўсцяж вуліцы і пасля сама сабою разбілася на гурткі, якія сталі маніфеставаць.

Рыгор не пайшоў з вуліцы, а амаль не да абеду маніфеставаў разам з іншымі, пераходзячы з месца на месца, з вуліцы на вуліцу. У абед ён паехаў у іншыя рабочыя раёны, каб азнаёміцца з агульным становішчам; а далей знарок наведаў «Праваднік»,

каб праканацца, як там — ці бастуюць, ці гатовяцца да гэтага. Якраз «Праваднік» працаваў: дымела труба, бразгала жалеза ў двары, пры варотцах стаяў вартаўнік. «Няўжо іх не крануць здарэнні?» — папракнуў Рыгор, пастаяўшы нейкі час перад фабрычным будынкам. «Што ж Наталя робіць? Чаму яна не агітуе?»

Нездаволеным вярнуўся на кватэру гадзіне а чацвёртай. І толькі паспеў зайсці ў пакоік, як раптам хапіўся за думку — ці не напісаць зараз вось мацеры пісьма. «Сяду, калі ўлучыў падхадзяшчую хвіліну, і напішу колькі слоў… Разам і Сёмку… Ах, каб ён ведаў, што тут вычвараецца! Каб уявіў сабе, да чаго б зайздросціў хлопец… Сапраўды, шчаслівы я, што жыву ў гэткі момант! Толькі падумаць!» Рыгор распрастаўся, падняў даверху правую руку і аблегчана ўздыхнуў поўнымі грудзямі. Не задумаўшыся, вывеў звычайны зварот — «Даражэнькая маці!» Пасля хвілін са тры пачакаў, адцягнуўшыся думкамі да іншых рэчаў, і пачаў пісаць: «Выбачайце, матка, што гэтак доўга маўчаў. Усё неяк не мог выбавіць кавалачку часу, каб сесці напісаць вам колькі слоў. А думаў — штодзень. Ведаю, што вы там загараваліся па мне, затужыліся, але, паверце, не ў сілах самому адарвацца ад тых абавязкаў, якія выпалі мне з часу прыезду ў Рыгу. Амаль не з першага дня заняўся я працаю на тым жа самым заводзе, а пасля наспелі непаразуменні паміж гаспадаром завода і рабочымі. Зараз вось вынікла забастоўка, ды не толькі на нашым заводзе, а па ўсіх фабрыках і заводах у горадзе. Пратэстуем супроціў суду над балтыцкімі матросамі, а разам з тым і супроціў цяжкага стану, у якім даводзіцца жыць рабочаму чалавеку. Толькі што адбылася дэманстрацыя рабочых з нашага завода. Каб вы пабачылі, якая гэта сіла!» Далей Рыгор пытаў у мацеры, як яна жыве і як яе здароўе; пры гэтым папераджаў, што ўвесь час думае пра яе і мяркуе, як і што ў блізкай будучыні наладзіць сумеснае жыццё. «Няпраўда ж, — не будзем мы цёнгля жыць паасобку. Калі-колечы звядзе нас доля разам».

Напісаўшы гэта, недаўменна паківаў галавою: «Даводзіцца суцяшаць старую абяцанкамі!» Але рашуча адкінуў сумненні і на трэцяй старонцы паперы прыхваціўся і ў агульных словах апісаў ужо дзеля Сёмкі ўсе важнейшыя здарэнні, якія давялося перажыць з часу разлукі. Нарэшце папрасіў яго, каб той перадаў уклоны ўсім знаёмым і Зосі і абавязкова адпісаў як найхутчэй.

На гэту дапіску пайшло не болей як паўгадзіны часу, і Рыгор, пішучы, ужо адчуваў, што пісьмо выйдзе зусім няпоўным, адрыўным, выпадковым, — не хапае сцерпу ў гэткі час спакойна пісаць. Пашкадаваў, развёў рукамі, як бы хочучы апраўдаць сябе— «не магу, што ж ты зробіш».

## II

Кончыўшы пісаць, Рыгор уважліва перачытаў напісанае і барзджэй адзеўся, узяў пісьмо і выйшаў з кватэры.

Не задумваючыся, пакіраваў у бліжэйшую харчоўку, у якой раз ад разу абедаў у тыя дні, калі не хадзіў на завод.

У харчоўцы публікі было нямала. Але рабочых можна было палічыць на пальцах. Рыгор пільна акінуў вачыма пярэдні вялікшы пакой, пасля прайшоў два бакавыя меншыя і, нідзе не ўгледзеўшы знаёмых, прысеў у правым кутку за маленькім столікам ды папрасіў вячэру.

Падавальнік запытаў, што даць, атрапаў ручніком стол і адбег ад Рыгора. «Сейчас. Хорошо!» — падаў на адгоне некалькіх шагоў. Але прайшло каля пятнаццаці хвілін, пакуль ён прынёс першую страву. Рыгор перанерваваўся і папракнуў яго. «Ничего не сделать — всем нужно», — адказаў падавальнік і другую страву падаў таксама спознена. Увогуле — вячэра адняла цэлую гадзіну. Рыгор вылаяўся на парадкі, чаго ніколі не дазваляў сабе ў гэтай харчоўцы, і выйшаў. Пацягнула дадому, хоць нешта звала астацца на вуліцы, пад сінім небам. Панелямі бясконцым ланцугом шнуравалі прахожыя.

Няслі з сабою смех, рэзвасць і бесклапотнасць. Рыгора цешыла гэта і ў той жа час злавала. Няўжо ім няма ніякага дзела да той барацьбы, якая адбываецца вось тут жа, у іх пад бокам? І следам думка перакінулася да Ганны. «Пэўна — гуляе дзе-колечы з таварышкаю і высочвае хлопца-каханка!..» Гэта разам была і іронія, але, не зважаючы на яе, у Рыгоравым нутры вынікла зянчэўку жаданне — спаткаць Ганну па дарозе дадому. Няхай сабе Наталя пачакае, калі прыйдзе раней. Ён пачаў раззірацць у бакі. Не паленаваўся і два разы прайшоў па людной вуліцы. Нават думаў прайсці ў кірунку да яе дома, а далей перарашыў і вярнуўся на дарогу к дому.

Не даходзячы двух кварталаў, абмацаў пісьмо ў кішэні і вярнуўся адшукаць паштовую скрынку. Гэта адняло яшчэ хвілін з дваццаць, так што яго захапіў змрок. У небе пачалі запаляцца рэдкія зоры, а на вуліцах — ліхтары. Павеяла лёгкім халадком. І — проста прымха, — калі падыходзіў к дому, дзе жыў, амаль не на тым жа месцы, на якім ужо раз успомніў аб пісьме да мацеры, успомніў цяпер аб грошах, якія абавязкова трэба было б паслаць старой. «А мо ёй жыць няма за што? А мо яна хварэе? Галадае? Бедная старая! Сапраўды, ці ж я не вінаваты перад ёю?.. Паслаў пісьмо — а што ёй пустое пісьмо? Як бы там ні

было, а мушу дастаць рублёў пяць і выслаць. Прыйдзе ліст, а за ім неўзабаве — грошы. Ого — пяць рублёў! Наколькі хопіць! Выстараюся, пашлю…»

Гэта было яго неадменным рашэннем: таму Рыгор заспакоіўся. Уверана і крута павярнуў у двор, каб скарэй прайсці на кватэру і праведаць, ці не заходзіў хто да яго. І вось — толькі зрабіў пару шагоў, як ззаду хтось голасна яго азваў:

— Вы — Рыгор Нязвычны?

Было знячэўку — Рыгор сумеўся і спыніўся. Да яго падышоў здаровы, шляхетна адзеты мужчына.

— Вы арыштаваны! Пойдзем.

Рыгор сярдзіта паглядзеў на нечаканага госця і, быццам бы не разумеючы, да чаго хіляцца яго словы, здзівіўся:

— Як? Што? А гэта адкуль і чаму?

Папрабаваў зрабіць некалькі крокаў назад.

Шпег растапырыў рукі і пахіліў тулава ў бок Рыгора.

— «Там» праведаеце ўсё! Пойдзем са мною, папрашу, — і, не даўшы Рыгору апамятацца, свіснуў. Умомант з'явіўся гарадавік.

Нельга было дваяка думаць — справа ясная: папаў у добрае сіллё. Рыгор мусіў ісці. Бліснуўшая на момант думка — «Ану ж паспрабаваць даць дзёру» — патухла, знікла: гарадавік ішоў ззаду, трымаючыся за рэвальвер, шпег ішоў шчыльна побач. Куды бегчы? Як бегчы? Рыгор паглядзеў у бакі, але не асмельваўся пайсці на рызыку: нешта трымала, і ён ішоў — куды вялі, не сціхаючы папракаць сябе ў тым, што так дурна папаўся. Не хацелася верыць рэчаіснасці. Няўжо гэта ліхая прыгода пойдзе сваім шляхам, а ён будзе адарваны не толькі ад забастоўкі, ад знаёмых і сяброў, але і ад усяго свету? З гэтым не гадзіўся і стараўся не дапускаць сумнення. Маўчаў, ідучы, не звяртаючы жаднае ўвагі на частыя закіды шпега, які стараўся вызваць яго на гутарку, на адказы пытанням. Дзякуючы гэтаму не заўважыў, як раптам ачуўся перш у нейкім пустым, цёмным двары, абгароджаным з усіх бакоў глухімі тыльнымі сценамі ці то парканам, а праз хвілю ў прасторнай, з тухлым паветрам, каморцы. За столікам, пустым і брудным, сядзеў нейкі паліцэйскі чын — не то гарадавік, не то жандар. Шпег кінуў Рыгора з гарадавіком і з невыразным чынам, сам шмыгнуў у дзверы, якія вялі ў другі пакой. І Рыгор не паспеў агледзецца, як з-за дзвярэй яго пазвалі:

— Проша, Нязвычны.

Рыгор пайшоў: то зваў жандарскі афіцэр да сябе на допыт. Няўклюжы, тоўсты, з рабым тварам, рыжаваты, сядзеў ён за вялікім канцылярскім сталом, адкінуўшыся на спінку мяккага

крэсла, і задаволена ўхмыляўся. Прыдаў далікатнасці, калі Рыгор пераступіў парог у яго пакой, і шляхетна запрапанаваў:

— Сядайце, вось.

Не ішла далікатнасць да яго постаці, і ў ёй Рыгор не адчуваў патрэбы; усё ж сеў, каб не выказваць пакоры стаючы. І, як нібыта той, акінуў зрокам пакой жандара: досі чысты, абсталяваны па-казённаму, з партрэтам трох цароў у жоўтых рамах, пакой выглядаў далёка не гасцінным.

— Ваша імя, прозвішча?

Жандар прыстасаваўся пісаць на блакноце, узіраючыся Рыгору ў твар.

— Рыгор Нязвычны. Запытайце ў вашага чалавека, — то быў намёк на шпега, які юліў каля дзвярэй начальнічага кабінета і нагла ўсміхаўся. Спакойны вымаў не падабаўся ні жандару, ні шпегу. Але Рыгор цвёрда трымаў сябе і пры ўсіх далейшых распытаннях. Ні слова — лішняга. І калі насабачаны ў шпягоўскай працы жандар пачаў рабіць ябедныя закіды і правакацыйныя намёкі, то Рыгор перш пагарачыўся, а пасля зусім змаўчаў, два разы пераказаўшы сказ:

— Ці я скажу, што — не, ці скажу, што так — вас не здаволіць і не пераканае. Навошта ж вашы хітрыкі, а маё нерваванне? Я лепей буду маўчаць.

Жандар злосна мармытаў у адказ, чырванеў, як бурак, і без таго чырвоным тварам, рухаў на месцы. «Гм! гм! гм!»

— Значыць, вы, Нязвычны, адказваецеся гаварыць са мною? — некалькі разоў пераказаў сам сабе і ўсё пісаў. У перамешку з пісанінай бацькаўска-ўгаворна прабаваў размякчыць Рыгора і выклікаць яго на адкрытае прызнанне. А калі той не паддаўся, жандар злосна стукнуў кулаком па стале, скрывіў твар у звярыную міну, прыўстаў і выгукнуў на ўвесь пакой:

— Адвядзіце. Пасядзіць — памякчэе!

Адчыніліся дзверы, нібы хто паціснуў у гузік, — і двое паліцыянтаў пасталі пры абодвух вушаках, чакаючы прыказу.

— Адвядзіце! — пераказаў жандар.

Рыгор безумоўна ўстаў з крэсла і выйшаў з кабінета жандара. Шпег правёў яго да выхадных дзвярэй і астаўся ў памяшканні; гарадавікі адны карсажылі Рыгора «куды след».

III

Было за поўнач, калі Рыгора прывялі ў астрог, прапусцілі праз кантору і заперлі ў камеру. І вось толькі за ім зачыніліся цяжкія жалезныя дзверы, стукнуўшы засаўкаю, і смуглае святло электрыкі выявіла шэрую, з цяжкім паветрам, пры адным загартованым акне, каморку, ён схамянуўся, задумаўся і з'ясніў сабе, што справа прыняла сапраўды дрэнны зварот. Арышт, допыты, канвой — гэта было ўступам, а астрог — скутак. Рыгор паглядзеў на разложаныя ў рад пяць ложкаў, з якіх чатыры былі занятымі, а адзін пустым, і пачуў, якім непрыемным пачуццём напаўняецца яго нутро. Утома мэрам бы прытупляла віруючую крыўду, але думкі парываліся ўжо нясціся з гэтых сцен і шчыльна хапацца за здань мажлівасцей выйсці адгэтуль.

Двое арыштаваных абудзіліся, калі ўводзілі Рыгора, і сачылі за яго настроем… у новых абставінах. Пасля, улучыўшы момант, абярнуліся да яго з пытаннямі:

— Пэўна, па адной справе?

— Пакуюць патроху…

Рыгор не зразу адказаў, мэрам бы не заўважыўшы. А далей павярнуўся да тых, што пыталі, і іранічна ўсміхнуўся.

— Пакуюць… А забастоўка без нас?

— Бачыш, без нас… Няхай таварышы даводзяць да канца… Вы з якога завода?

— З металічнага… А вы?

— Мы з Балтыцкага… Ці не ад вас, вунь, Ромусь?

Рыгор пачаў шукаць знаёмага таварыша. Абгледзеў першы і другі ложак. На адным сапраўды спаў Ромусь. Гэта прыдало Рыгору больш устойнасці і разам жа — больш надзей.

Ромусь смачна спаў. Яго здаровы сімпатычны твар быў спакойны і нерухомы, грудзі саплі ва ўсе лёгкія. Рыгор пацікавіўся Ромусевым суседам: прыкмеціў знаёмыя рысы, якія гэтак свежы яму. Лахматая шапка чорных кос. «Дзе я бачыў гэтага чалавека?» Раз'юшаныя думкі паспешна зрабілі экскурсію па ўсіх месцах, дзе яму даводзілася быць гэтымі днямі. «Дзе і што?» Дазнаўся, найшоў — на сходзе ўпаўнаважаных ад заводаў. Чалавек гэты — інтэлігент Якаў. Рыгор усміхнуўся і тутака ж выклікаў вобраз Наталі, Ганны, перанёсся ў Сілцы да мацеры і да Сёмкі, чапіў думкамі напісанага ім пісьма. Паднялася ў галаве цэлая мяцеліца думак і вобразаў, планаў і намераў. У грудзях завіхрыла разгарачанае пачуццё; адкуль вынік бадзёры настрой, нейкая асабістая ганарлівасць сваім станам, крылатасць, разгон. Ён

крануўся з месца і прашнураваў камераю ад дзвярэй да акна, выабразіўшы сябе ў такім месцы, дзе сам сабе гаспадар. Але тут жа пачуў стук у дзверы — знак, дапамінаючы чужую сілу і чужую волю над заключным. Рыгор падышоў да ложка, прысеў, каб раздзецца, і зноў задумаўся.

— Лажыся! — грозны голас з-за дзвярэй перабіў яго думкі.

Прыйшлося легчы.

І толькі пачаў драмаць, як прагудзеў за сценамі камеры гудок цягніка. Рыгор падняў голаў: гудок так быў далёка і такім паказаўся цікавым, прыемным, мэрам бы ён быў не звычайным сігналам аб прыбыцці штодзённага цягніка, а клічам перамогшае свабоды. Міжвольна пацягнула Рыгора падняцца, кінуцца да акна, паглядзець за сцены і даць вестку, што вось тут, у камеры, сядзіць ён і яшчэ чатыры нявольнікі, якіх не павінна забыць. Але хвілёвы ўздым хутка патух, і Рыгор прылёг, каб заснуць трывожным сном.

Раніцаю, прачнуўшыся разам з усімі, Рыгор адчуваў сябе зусім іначай учарашняга. Заспакоіўся праз ноч і ў нейкай долі ўспрыняў умовы няволі. Камера дапаміала прыватны пакой, дзе яны сышліся на абгаворы важных пытанняў арганізацыйнага характару. Каб не староннія фактары, як надазойлівы вартаўнічы, можна было б працягнуць гэту думку і становішча настрою многа далей; але гвалтам разбіваў яго ілюзію вокрык вартаўнічага; перш гарачая вада праз акенца ў дзвярах, пасля паверка… Рэчаіснасць, паганая і надаедлівая, біла молатам па галаве. Змагаючыся з ёю, Рыгор пасля паверкі перайшоў да апытання суседзяў, як і што, ды дзе іх заарыштавалі. Наперад ён звярнуўся да Ромуся.

— Я ўчора ўжо заўважыў цябе. Паспеў раней мяне?

Засмяяўся.

— У харчоўні, брат, разам з Генрыкам, — Ромусь паказаў на маладога здаровага белакурага мужчыну, які сядзеў на другім ад дзвярэй ложку (чамусьці ложкаў не паднімалі на дзень). — У харчоўні Грачкунаса, ведаеш, на Кірхавай вуліцы. Зайшлі гэта, каб выпіць па шклянцы піва і пагутарыць аб сім, аб тым, як… тутака ж, з гушчы людзей паднялося трое шпегаў — і на цугундар: хадзіце сюды. Абступілі, падалі свісток — і папалася птушка. Пайшлі — і вось дзе ачуліся.

Пакуль Ромусь расказваў, падышоў Генрых і яшчэ адзін арыштаваны; згуртаваліся.

— А мяне пад вечар з кватэры сцапалі, — устаў рабочы з Балтыцкага, што ўчора стрэў Рыгора. — Пайшлі ў наступ, паганцы.

— То-та ж і ёсць, хочуць сарваць забастоўку — разбіць нашы рады.

— Было б вельмі добра, каб таварышы не здаліся. Патрэбна давясці змаганне да канца.

— Не павінна быць: дзесяць, дваццаць чалавек не ўплыве на здарэнні, калі і вырвуць іх з гушчы тысяч.

— Гледзячы якіх…

— І то праўда.

— Вялі б сябе асцярожней таварышы з камітэта…

— А цікава, як Міхась Камар, што з нашага завода? — Рыгор абярнуўся да Ромуся.

— Учора да арышту спатыкаў яго.

— А ці не ведае хто-колечы з вас, як «Праваднік»? Я ўчора ў абед быў, і ён працаваў ваўсю.

— Забастуе, ці ліха яму. У іх было назначана працу прыпыніць на сённяшні дзень. Мая адна знаёмая там працуе. Ды цяперака, па-мойму, і рэчы быць не можа, каб не прылучыцца да забастоўкі, — настрой сведчыць за тое.

На тэму пра лёс забастоўкі, пра яе размах, формы, пра яе скуткі яны гутарылі і спрачаліся засаб тры гадзіны, пільна і заўзята. У час абеду перарывалі агульную гутарку, а пасля ізноў да яе варочаліся з новымі думкамі, з іншымі падыходамі і каментарыямі.

Для ўсіх дзень прайшоў непрыкметна, хутка, нават з асаблівым зацікаўленнем. Пакуль уся ўласцівасць няволі заставалася ўперадзе, вартуючы свае ахвяры ў цёмных кутках нуднай камеры, з-за дзвярэй на калідор, пры высокіх сценах агароджы, у страшных прызапасеных на кожны выпадак карцарах і баштах, у шэрагу роўных, аднакавых, утомных днёў. А пакуль істота не гадзілася з наступным, жывучы запасам прынесенай волі, надзей, імкненняў.

На шэрай гадзіне Рыгор прылёг і крануў у думках Наталі і Ганны. Захацелася, каб каторая з іх праведала аб ім, каб як-колечы дайшла да яго. Разам з гэтым хаценнем закралася сумненне, ці не паперашкодзіць яго арышт далейшым зносінам паміж ім і дзяўчатамі. Мажлівасць гэтага, бадай што пэўнасць, выкрылі глыбокую прабоіну ў Рыгаравай душы; каб запоўніць яе, Рыгор кінуў маўчанку і выклікаў суседзяў на агульную гутарку аб заграмічных рабочых, іх становішчы, аб іх арганізаванасці ды салідарнасці.

Гэта гутарка адцягнула арыштаваных ад навакольнай рэчаіснасці і заняла ўвесь час да тэрміну, калі павінны ўкладацца спаць.

## IV

Тым часам забастоўка ў Рызе разгарталася ў грандыёзную схватку дзвюх варожых сіл. Два варожыя станы, рабочыя і фабрыканты з паліцыяй, пераходзілі да рашучага і настойчывага змагання. На некаторых заводах быў абвешчаны лакаут і агульны разлік рабочых. Фабрыканты паведамлялі, што яны зачыняюць фабрыкі на няпэўны тэрмін. На іншых — гаспадары кідаліся на правакацыйныя меры, падкупаючы штрэйкбрэхераў, наймаючы больш цёмных, несвядомых безработных. Адміністрацыя горада, цывільная і вайсковая, натрывожаная стыхійнасцю пратэсту, працавала не пакладаючы рук. Падвойныя нарады паліцэйскіх, з дапамогай драгуноў, патрулявалі ў рабочых раёнах; на вуліцах і завулках, якія вядуць у цэнтр горада, вартавалі захаваныя па дварах засады, цэлыя атрады коннікаў і пешых вайсковых. Шпегі займаліся паляваннем па справах сочкі і лову асобных, больш актыўных, рабочых і адшуканнем цэнтру, які вёў кіраўніцтва забастоўкаю.

Але, нягледзячы на гэта, з боку рабочых панавала злітнае, магутнае захапленне справаю пратэсту. Завод за заводам, фабрыка за фабрыкаю, буйныя і дробныя майстэрні — прыпынялі працу і дружна выходзілі на вуліцу, абвяшчаючы сваю салідарнасць раней забаставаўшым. Розныя манеўры аб'яднаных прадпрыемцаў з паліцыяй не палохалі рабочых; не зважалася імі на лакауты, на зачыненне заводаў. Забастоўка выяўна прымала востра-зацяжны характар, падвойваючы трывожнасць становішча. У рабочых раёнах каторы дзень не сціхалі маніфестацыі, стычкі з патрулямі. Паціху рэвалюцыйны настрой перакінуўся ў навучальныя ўстановы. Газеты разносілі весткі аб распачатым руху сярод гімназістаў. Абывацелі працягалі іх глыбей, успамінаючы аб вайсковых частках, якія быццам бы адказваюцца выходзіць з казармаў на ўзмірэнне забастоўшчыкаў. Горад захапіўся сполахам, неспадзяванкамі. Прабег крывымі вуліцамі асяродкавай часткі нервовы настрой, жахлівасць, падазронасць. 1905 год усё яскравей ды яскравей выяўляў свае стальныя рысы, зазіраючы пустымі комінамі, застыгшым жыццём звычайна кіпучых аколіц.

«Праваднік» спыніўся днём пазней назначанага тэрміну — усё ж не з апошніх. Наталя многа сіл палажыла на гэта. Ужо ў першыя дні забастоўкі, калі прыпыніліся толькі два прадпрыемствы, Наталя занервавалася, хаця б іх фабрыка не асталася ззаду. Па некалькі разоў у дзень раілася з больш перадавымі рабочымі і работніцамі, вяла несупынную агітацыю, хадзіла

ў камітэт партыі. Нават забылася пра Рыгора, не змогшы яго наведаць. Помніла адно, калі, праводзячы яе дамоў, ён дапамінаў ёй «прылажыць працы». Гэта неадходна стаяла перад Наталяю да часу выбуху забастоўкі на «Праваднiку».

Затое ў момант, калі гушчы рабочых вырынулі на дзядзінец, каб далучыцца да бастуючых, Наталя не менш Рыгоравага ахапілася натхненнем; у ліку другіх праказала гарачую прызыўную прамову і ў першых радах выйшла на вуліцу з фабрыкі. Дэманстрацыя выйшла досі выдатнай, хоць закончылася пабоямі напаўшых на дэманстрацыю паліцэйскіх-коннікаў. Адным ударам бізуна захапіла яе твар, на якім, каля вуснаў, астаўся вялікі крывавы сіняк. Можа, дзякуючы гэтым пабоям, яна змагла абмінуць на гэты раз свой арышт, выпаўшы на долю пяці таварышаў і таварышак, ішоўшых побач з ёю на дэманстрацыі.

Натомленаю, але гордаю ў сэрцы, настроенаю неўгамонна, вярнулася яна з дэманстрацыі на кватэру. Дзядзька, папракаўшы яе ўжо за надмерную бойкасць, сустрэў упічышчам:

— Ну, цяперака задаволена, нябога?

Пэўна, нябога была задаволена! Пярэчыць усё ж не захацела і, запёршыся ў сваім пакоіку, аддалася ўспамінам аб Рыгору. Гэтак добра было б яго бачыць цяпер! Наталя шкадавала, што засаб каля тыдня ніяк не магла спаткацца з ім, і цікавілася, сумняваючыся ў дачаснасці гэтай цікавасці, а ці не ўспамінаў часамі Рыгор пра яе. Лісціла жаданне, каб было так, каб успамінаў, але саромлівасць не дазваляла згадзіцца з гэтым: куды яму ў гэткі час? Напэўна, і хвіліны ўдому не сядзіць, а ўсё бегае па справах, хвалюецца…

Наталя не дапушчала на першых хвілінах жаднае думкі, што з ім можа здарыцца нядобрая прыгода. Ды наогул, абурэнне ваяўнічым настроем адкідала ўсякае сумненне, усякую небяспеку і адмоўныя рэчы. Калі і заходзіла гутарка аб арыштах і трухах, то яна тут жа забывалася, нікла ў нарастаючым уздыме рабочага бунту-забастоўкі. Бач, арышты, разважала Наталя, то дробныя ўколы з боку ворага, нічога не вартыя меры, якія вораг карыстае для змагання з магутнаю сілаю дзясяткаў тысяч рабочых. Ды чаму ж, няйначай, падпадзе арышту і Рыгор? Можа, часамі здарыцца, але не якраз, каб ужо цяперака.

Паабедаўшы, Наталя рашыла праведаць Рыгора — захацела падзяліцца з ім перажытым, праканацца, як і што ў іх на заводзе, што наогул чутно ў горадзе. Былі і іншыя пазывы побач з пералічанымі, — і ўсё разам настроіла дзяўчыну ды пацягнула з хаты.

Дзядзька папярэдзіў, каб яна асцерагалася і нікуды, дзе не патрэбна, не ішла, а лепей бы ўдому сядзела. Ці ж можна было паслухаць? Схлусіла, што толькі пройдзе вуліцаю. А на вуліцы ўжо мела скончаны намер, рашэнне: ісці куды-хоць, дзе б можна спаткаць Рыгора. Пэўна, раней на кватэру.

Наталя рашуча павярнула налева і цвёрдымі, уверанымі шагамі пашнуравала ўсцяж вуліцы. Кожны крок, як клавіш раяля, выбіваў стройную, парыўчатую думку-настрой, дастаючы яе з цесных глыбінь дзяўчынінага нутра. Думка-будаванне цэлай гармоніі пачуцця выяўляла перад Наталяю ўсю сутнасць, усю значнасць, якія таіліся ў знаёмстве з Рыгорам. Нельга было не захапіцца пераборам вынікаючых тонаў, нельга было не патураць ім. І калі яна пранікла ў іх, ахапіла з усіх бакоў і паспрабавала дайсці да іх вытокаў — атрымалася жывая, сакавітая, выпуклая карціна жыццёвых здарэнняў, прыгод, якія заблутаным спляценнем давялі да спаткання яе, Наталі, з Рыгорам. Стала самой цікава, ажно яна, ідучы праз Верманаўскі парк, супынілася, прысела на лаўцы і з паўгадзіны раздумоўвала, выяўляла, лавіла дэталі.

Карціна малявалася гэтакай: жыццё яе, Наталіна жыццё — з ранніх гадоў жорсткае і мулкае бытаванне. Сірацінаю ад дванаццаці год узняло яно дзяўчыну на свае шумлівыя, вірыстыя хвалі і пачало гайдаць-насіць, як лёгкую трэсачку, стукаючы аб скалы, аб берагі, паднімаючы на хібы хваль і скідаючы ў іх правалллі. Трэба было мець у спадчыну загартаванае сэрца і ўпартую, непадатлівую душу, каб вытрымаць неміласэрныя поскубы жыцця. Наталя мела ад натуры носкі, вытрывалы характар, і гэта пасобіла ёй адолець усе перашкоды, абмінуць на шляху ўсе калдабоіны. І калі жыццё было для яе саракма пакутамі, то ў іх, у гэтых пакутах, як у горане, яна к васемнаццаці гадам засталявалася, злілася ў маналіт. Ад нянькі, ад пастушкі, праз падзёншчыцу-чорнарабочую — у швачкі, а далей — на завод, ізноў амаль што не чорнарабочаю. Перайшла, абмінула. Вытрымала экзамен. І помніцца свежа-свежа, як наіўна зычэлі дзядзькавы словы, калі той, даўшы ёй рэкамендацыю, папераджаў: «Толькі, Наталька, не пярэч ты майстру; ён гэткі каразлівы, што да нявіннага слова можа прычапіцца і разлічыць. Няхай яго халера возьме без нас. Лепш болей змаўчы, болей папусціся — на тваю карысць». Смешна і па-дзіцячы: — яна будзе карыцца! Не даждаў ён! Яна знае сабе кошт, сабе, як адной з тысячы работніц, гэткіх, як сама, і пастаіць — пастаіць за праўду. На трэці дзень пачаліся ўжо сутычкі з майстрам; Наталя рашуча і ўмела адбівала іх. Майстар не мог прычапіцца, косячы вочы, ківаючы галавою.

«Нічога, нічога, — думаў, — правучу». Але момант падыходзіў не той, каб лёгка можна было «правучваць». На Наталю азіраліся таварышкі ўсяго цэха, а патрошку, далей — і яна стала вядомаю ўсёй фабрыцы. Работніцы прызналі калектыўным розумам яе за перадавога таварыша і калектыўным адзнаннем даручылі ёй сваё давер'е: выбралі ўпаўнаважаным ад фабрыкі. Не абмыляліся, робячы гэта, нізвання. Наталя захапілася сваёй роляю, аддалася служэнню рабочай грамадзе і яшчэ больш падкрэслівала ім сваю выключную цікавасць да рэвалюцыйнага змагання. Нават дзякуючы гэтаму ў яе выхавалася асаблівая аднабокасць, якую можна было адзначыць, як нядбаласць да пытанняў полу, да палавых адносін, да ўсіх перажыванняў, што выцякалі з гэтага, што напаўнялі вякамі маладое жыццё маладых асоб. Чула яна гутаркі таварышак на падобны змест, ведала ўсе законы жыцця ў гэтых галінах, але напружаная думка, уся істота яе былі прышрубаваны да іншых пытанняў чалавечага жыцця, да праблем класавага вызвалення. Судзіла гэтак: перш павінна паправіць эканамічныя і палітычныя ўмовы жыцця, налепшыць яго дабрабыт, ухарошыць яго да ўзроўню, калі б яно стала вартым, належна адбіць у сабе ўсе парыванні рабочага класа, а далей… Бач, уся пекната, калі яна засмучана недастачамі, клапатлівасцю, нудою будзённых дзён, нікне, савее, губляе выразнасць і сакавітасць. Уся асалода — труіцца, калі няма адпаведных умоў дзеля таго, каб яе захаваць на натуральным узроўні… І датычна сябе гадала Наталя:

«Мне не суджана іншага, апроч змагання. Чым стане жыццё падзёншчыцы, калі яго звязаць сямейнымі ўмовамі? Незалежнаю, аднэю, сам па сабе — я ваяка, змаганнік. А тады?..»

Часамі было — чаму не — прарываліся ў яе нутры падсвядомыя парыванні, выразныя імкненні да разнастайнасці, да натуральнага выяўлення ўсвойных ёй, як усякай дзяўчыне, пачуццяў і жаданняў. Хадзіла ж і на сходы, і на яўкі, і на нарады — усюды былі мужчыны. Але Наталя не папускалася: абмінала коўзкія месцы, абыходзіла іх, аддаючыся палкім спрэчкам на грамадскія тэмы, на пытанні з рабочага жыцця. Таварышкі заўважвалі гэту Наталіну асаблівасць; цікавіліся, перагаворваліся паміж сабою, дзівіліся, але не наракалі.

## V

Гэткаю з’явілася яна на Задзвінне, у Артураву кватэру, на сход упаўнаважаных ад фабрык і заводаў. Рыгор угледзеў яе тою, якою яна была, сфармаваўшыся жорсткім жыццём. Як жа магло стацца, што яго гостры, варажлівы ўзрок гэтак ёмка крануў маўклівую струну заняважаных жаданняў рэвалюцыянеркі-дзяўчыны? У рысах Рыгоравага твару, у яго постаці, стройнай, вытачанай з цэлага куска, пэўна, Наталя ўгледзела, па-першае, змаганніка, шчырага, адданага ідэі рэвалюцыянера. Усё ж, усё ж пад гэтым таіліся і іншыя сілы, іншая матэрыя. «Як цікава, — думала яна, — побач, рука ў руку, нага з нагою, змагацца з таварышам Нязвычным! Аслаблюся духам — запазычу ў гэтага ваякі-бландзіна, які гарыць, палае, які да каліва праняты рэвалюцыйным настроем». А далей, толькі ён выказаў сваю думку, выразную і рашучую, нельга было сумнявацца. Рыгор — не тое, што ўсе іншыя, каго бачыла і бачыць, Рыгор — мэта. Прыпамінае, якімі багатымі здаваліся хварбы мора і неба, калі яны гулялі на ўзмор’і, яшчэ хаваючы адно ад другога патаемнасць сваіх хаценняў. Помніць, як дзіўна яна адчувала сябе, гледзячы… толькі на Рыгора і не заўважаючы соцень іншых мужчын. Пэўна, тады, з даляў шырокіх разгонаў вадзянога абшару, лёгкія хвалі залацістай вады прыняслі ёй новае, бурлівае чуццё ласкі, кахання? Пэўна, нагнаў яго подых ветру з-за атупленага пазёму пад чырвоным колерам променю? Наталя не бралася вызнаць прычыны — скуткі абурылі яе цалкам, выліліся ў прызнанне, у захапленне, якое вось зараз цягне яе да Рыгора, каторага ўжо некалькі дзён не бачыла… Чула, што без яго няпоўнае жыццё. І як соладка стала на сэрцы, калі параўнялася з брамай знаёмага дома. Некалькі хвілін — і спаткаецца, пагаворыць уволю!

Не агледзелася, як прабегла двор, паднялася па ўсходах і падышла да дзвярэй. Рашуча, рупна пазваніла.

Знаёмая работніца прачыніла дзверы.

— Вы да Нязвычнага? — ябедна запытала.

— Так, выбачайце. Ці дома ён?

Вільгельміна працягнула голаў у адчыненыя дзверы і адмовіла:

— Ведаеце — няма! Ужо некалькі ночаў не начаваў; самі не ведаем, дзе і што… — Вільгельміна спынілася, мэрам бы засаромеўшыся, што хлусіць дзяўчыне. Пасля цішком паправілася: — Заўчора прыходзіла на кватэру паліцыя: пэўна, што ён арыштаваны.

Наталя ажно жахнулася, скрывіла балюча міну і адступіла на два крокі ад дзвярэй.

— Ласне? Не хлусіце?!

— Што вы?

Яна яшчэ колькі хвілін паглядзела на збляднеўшую Наталю і паціхеньку зачыніла дзверы.

Наталя нясмелымі, блытанымі крокамі пайшла па сходах уніз. Перад яе вачыма разгарнулася роўная, бязмежная шэрасць, у істоце адчулася глыбокая праваліна. Куды ісці? — напрошвалася настойнае пытанне. І яна не магла на яго нічога адказаць. Гэтак шаломіць чалавека раптоўны гром, маланка ў цёмнай ночы, зычны стук гарматы, што знянацку парушае цішу.

Каля дзвюх гадзін Наталя ішла дамоў: яна не спяшыла, не цікавілася, каб скарэй вярнуцца, была ахоплена пачуццём утратку, невыразнасці, сумлівасці. Што дома? Ішла і спынялася пры асветленых вокнах магазінаў, разглядаючы ў іх подаўгу і бесцікаўна. Чамусьці, зусім бязмэтна, зайшла на пошту, паглядзела ка гадзіннік, прачытала надпісы над маленькімі аконцамі ў драцянай сетцы: «Тэлеграмы», «Заказная карэспандэнцыя», «Продаж марак», паглядзела на шафу абанементаў, з драбнюткімі шуфлядачкамі, з нумарамі. Бесцікаўна кінула ўзрокі на дзвюх дзяўчын, якія круціліся каля дзвярэй, пазіраючы то ў акно, то на гадзіннік і момант ад моманту падмазваючы шчокі пудраю. Некалькі мужчын прайшло з пошты і на пошту, паглядзеўшы на Наталю пытальнымі ўзрокамі. Адзін сумысля падышоў да яе і беспатрэбна запытаў, калі выбіраюць чародную пошту са скрынак. Наталя суха адмовіла — «не ведаю» і выйшла на вуліцу паперадзе цікавага суб’екта. Без дай прычыны падышла да агароджы Верманаўскага парку, пасачыла за бурным струменем публікі і нарэшце пайшла да кватэры.

Ужо сцямнела, як увайшла да сябе ў пакоік і, сеўшы на ложку, аддалася думкам, выяўленню сутнасці таго, што здарылася сённяшнім днём у яе жыцці. Паўстаў астрог — хмуры, жоўты будынак, агароджаны высокім мурам-сцяною. Пабіты на цесныя клеткі, акратаваны на вокнах. У адной клетцы-каморцы — Рыгор. Той, з кім марыла безупынна ісці на змаганне, ухарошваць жыццё кіпучым полымем рэвалюцыйнага натхнення. Якія прасторы адчыняліся перад імі! Якія далі выказваліся! Ці ж можна было думаць, дапускаць, што раптам усё гэта згладзіцца, знікне, абарвецца. І тут — вось гатова. Што ж далей? Зразумела. На пакуту — да яго, разам, удваіх. Бачыць мукі ўтому, няволю, іншыя парыванні. Якавы ён у астрозе? Што думае, чым жыве,

як годзіцца з пакінутаю забастоўкаю, да якое імкнуўся, якой аддаваўся ўсёю істотаю сваёю? Ці ведае хаця, седзячы, які паварот прымае яе развіццё? О, падумаеш, як бы радасна стрэў ён чалавека з волі… таварыша… можа, і яе? І паціху Наталя пачала аддавацца новаму дзёрзкаму хаценню наведаць Рыгора ў астрозе. Што б ні было, як ні сталася б — прайсці да яго.

## VI

Рыгор — мы яго ведаем — меў шмат гарту ў сэрцы, валадаў крэпкаю сілаю волі, каб мог лёгка паддавацца любой варожай сіле. І астрожная атрута не магла парушыць яго цвёрдасці. Толькі першы момант, калі ён ачнуўся ў астрозе, як быццам збіў яго з панталыку. Але то было ненадоўга. Пасля Рыгор асвоіўся з умовамі нявольніцтва і павярнуў свае думкі ды жаданні на новы шлях. Ён спрачаўся з таварышамі за ўсякія пытанні, якія пападалі на абгавор, выпіхаў розныя планы і праекты, каб лепей арганізаваць рабочых і паспяшней змагацца за іх вызваленне. Больш, як у другіх таварышаў, у Рыгора адчуваўся ўстойчывы, бадзёры настрой. На гэта ўплываў ход забастоўкі, аб чым яны даведаліся рознымі спосабамі. Яе шырачэзны размах, яе абгостранасць надавалі веры ў тое, што іх няволя — часовая, нетрывалая, што вось-вось грымне магутны прыбой і разаб'е сцены астрога. Казытала нутро адчуванне волі, прыгожасць неабмежнага прастору, абшараў, якія стрэнуць іх у свае вольныя абдымы. З сумыснаю, знарочыстаю агідаю пазіралі яны на вартавых у двары, у калідорах, горда і нядбала трымаліся на апытаннях у канторы, куды іх па некалькі разоў зазывалі.

Толькі рэдкімі момантамі знаходзілася спачуванне да мацеры, якой ужо нельга пасабіць, і жаданне — угледзець Наталю ці Ганну. Спатканне з аднэю з іх цікавіла тым, што Рыгор хацеў прасіць, каб яны ў той ці ў іншай форме паведамілі ў Сілцы пра здарэнне з ім. Ён цалкам пакладаўся ў гэтым на Наталю. Але сумняваўся: як, што яна праведае аб яго арышце ды ці знойдзе шляхі дабрацца да яго. Каб нічога дрэннага не здарылася, калі папрабуе дамагацца спаткання. Раздумваючы так, Рыгор баяўся за яе бяспеку. «Хай бы пакуль што не рупілася прыходзіць да мяне; хай бы…» Рыгор хацеў, у гэткім выпадку, параіць, каб яна аставалася дома, але прыпамінаў, што гэта нязбыўна для Наталі, што яна закручана не менш яго ў калаўрот тых здарэнняў, якія вынесла наповерх жыцця забастоўка… Хвіліна за хвілінаю паднімалася ў ім усё гастрэйшае жаданне, усё большы

пэнт — бачыцца! Стукаў у дзверы іх камеры вартаўнічы — Рыгор настарожваўся, прыслухоўваўся. Абы лёгкі шорах ноччу, шам — прачынаўся, паднімаў голаў, глядзеў у бок дзвярэй. На чацвёртую ноч сасніў Наталю. Перажыў са сну прыемныя хвіліны ласкі і яшчэ больш задумаўся.

Адзін раз, думаючы пра Наталю, дапусціў, ці нельга было б яе папрасіць, каб яна пераслала мацеры пяць рублёў. Гэта зрабіла б уражанне, нібы з ім, Рыгорам, нічога не здарылася, і заспакоіла б мацеру. Самому б лягчэй стала.

Настала момантамі многа бягучых, настраёвых пытанняў. І кожнае з іх далікатна, залюбована Рыгор занатоўваў на паперы; пасля мяняў іх рэдакцыю, перастаўляў чаргою, падвострываў і затупляў выразнасць кожнага з іх.

К канцу тыдня Рыгор ужо не адмячаў рубяжы, дзе канчалася жаданне і дзе пачыналася вера, ён стараўся заверыць сябе, пераканаць, што Наталя прыйдзе. Ні баязлівасць за цэласць яе, ні спачуванне ёй не знаходзілі месца ў яго нутры. Не цікавіла, як і што пройдзе, якім шляхам дастукаецца спаткання… Не лічыўся ні з якімі перашкодамі.

Але мінула яшчэ некалькі дзён — і Наталя не прыходзіла. Тады ў загартаваны ком веры, напаўняўшы яго нутро, пачалі пранікаць тонкія голачкі сумнення, ужо новага, інакшага, чым было раней, падмацаванага другімі матывамі і дагадкамі. «Забастоўшчыкі ахоплены абурэннем: усё болей выпадкаў сутычак з паліцыяй; апошняя злее і злее, страляючы ў рабочых; арышты і трухі не спыняюцца. Як тут уцалець гэтай гарачай галаве — Наталі?»

Чацвер, чатырнаццаты дзень няволі, Рыгор стрэў сумным і маркотным, — дайшлі чуткі, што забастоўка кончылася перамогаю над рабочымі. Гаспадары ўзялі верх, маглі і на гэты раз панаваць. Многія з іх, назло рабочым, зачынілі фабрыкі і заводы, каб пакараць голадам, каб правучыць іх надалей. Да чаго давядзе гэта пераможаных? Якія падонкі астануцца ў іх на душы пасля напружанай гераічнай барацьбы? На сваіх уласных перажываў Рыгор чужыя настроі, але ўверана глядзеў у наступнае.

А дванаццатай гадзіне рашыў не ісці на прагулку — заявіў таварышам. І калі тыя пакінулі яго адным, Рыгор нейкі час пасядзеў бяздумна, як у трансе, як у нірване; пасля падняўся з ложка і хапіўся думкамі за скончаную забастоўку, каб праверыць яе значнасць, яе вынікі. Прадставіў вобраз дэманстрацыі і задаволіўся, ажно павесялеў, зарухаўся, абмыў твар ухмылкаю.

Уголас, каб было мацней, каб глыбей зайшло ў сэрца, казаў сам сабе: «Забастоўка ўсё ж паказала магутную сілу салідарнасці, якая жыве сярод працаўнікоў. Забастоўка адзначыла, што між намі, працаўнікамі, і матросамі, салдатамі — непарыўная сувязь. Чуласць да аховы свае, рабочае, класавае самотнасці выявілася надзвычайна выпукла ў цягу забастоўкі. Як-ніяк, а горад, нават цэлы край, тыднямі быў прыкаваны да аколіц Рыгі. Забастоўка пралягала чырвонаю ніткаю праз гарадское жыццё, клапоты, думкі, чаканні… А я памог ёй здзейсніцца, можа, нават пасобіў абвастрыць яе развіццё — ці ж таго мала?»

Пэўна, было хоць не шмат, але досі. І тое, што было досі палажана ім працы на забастоўку, узняло Рыгорава пачуццё.

Ён пазбыўся будзённых клапот, усяго таго, што акольвае ў няволі, у сценах; ускрыліў і панёсся выбражэннем ва ўсе канцы зямлі; захацелася гутарыць, гутарыць.

«Прыйдуць таварышы — тады пагутару».

Раптам стукнулі ў дзверы.

Рыгор падбег.

— Хто? чаго? — запытаў.

— Нязвычны! — знаёмы голас вартаўніка.

Рыгор спыніўся, сышоўшыся ўсёй істотаю на думцы-чаканні: «У чым справа? Наталя?»

— Я! — адазваўся.

— Проша ў кантору.

Маленькае сумненне затульвала яскравасць надзеі.

— Іду!

Рыгор машынальна выйшаў з камеры, не чуў, як бразнулі дзверы, не заўважыў, калі прайшоў паўз таварышаў, якія вярталіся чарадою з прагулкі.

— Хто патрабуе?— Вартаўнік памаўчаў. — Га?

— Угледзіце.

На заломе калідора, кінуўшы ўсцяж яго ўзрокам, Рыгор улавіў фігуру, што стаяла пры дзвярах, каля выйсця, за невысокім парканам… жанчыны. «Пэўна, Наталя». Яе вобраз аформіўся ў рэальнасць, устаўшы выразна перад яго вачмі. Ён ішоў, а Наталя адыходзіла, нерухома, недасяжна і падцягала за сабою Рыгора.

Чуў, як траціў волю над сабою, як дваіўся на часткі, мякчэў.

Нарэшце — падышоў. Радасная ўхмылка Наталі развеяла яго ўражлівасць, дала апамятацца. Вартаўнічы стаў на воддалі пяці крокаў.

— Дваццаць хвілін часу, — і адвярнуўся ўбок, каб не перашкодзіць.

Рыгор пацалункам прывітаўся з Наталяю і адрыўнымі сказамі, перабоямі думак пачаў гутарыць з ёю. Пра кніжку, куды запісваў тэмы для гутаркі з ёю, забыў. Куды там да сістэмы!

Пачуццё напірала, а сам баяўся за кароткі тэрмін каб чаго не забыць. Нерваваўся і падганяў гутарку.

— Нам мала часу, а гутаркі колькі!

Трымаўся за яе руку, паклаўшы сваю на білу.

— Я не буду пытацца, як ты дабілася сюды, колькі патраціла на гэта часу, сілы… Наталя… Ці не была ты на маёй кватэры?.. Але што я? Навошта мне ўсё гэта… Скажы наперад, так і прайгралі забастоўку? Ах, падумаць! Столькі асталося людзей без работы… Ну, а ты? Пакуль спакойна, уцалела? Як там Міхась, Артур… Помніш таго кудравага чорнага інтэлігента? Сядзіць са мною разам… Вось скажы, як бы гэта, каб ты была добраю ды… Але што там казаць…

— Кажы, кажы, — Наталя сачыла за вартаўнічым.

— Я хацеў мацеры паслаць рублёў пяць… Сілцы, — Рыгор панізіў голас, — толькі ці варт; выйду ж, пэўна, неўзабаве — тады ўладзім… А ці пісаць мацеры?

— Маўчы, не варт — абурыш… Няхай думае, што з табою тут — нічога. Я пашлю ёй, маю грошы.

— Не, Наталя, можа…

— Нічога…

— Ты ведаеш, я чуў нутром, што ты прыйдзеш, я быў запэўнены, завераны. І толькі мяне пазвалі, як…

Вартаўнічы спакойліва павярнуў у іх бок галаў, даючы першы сігнал. Наталя прымеціла.

— Ну, як думаеш, ці хутка ўгледзімся?

— Пэўна, адміністратыўная высылка будзе, вядома…

Абое спяшылі перакінуцца як найбольшым лікам слоў і адно другога перабівалі, перапынялі, блыталі гутарку… Яе было многа, многа! Але ў самы разгар вартаўнічы спыніў:

— Пара!

Мэрам бы молатам, стукнула па галаве Рыгору. Але пярэчыць нельга — развіталіся.

Наталя павярнулася і праз два крокі зайшла за сцяну. Абярнуўшыся, каб лішні раз акінуць яе ўзрокам, Рыгор нікога не ўгледзеў. Стала крыўда, глыбокая і балючая, якое, здавалася яму, яшчэ не даводзілася адчуваць, і шкода-шкода, што спатканне абмежавалася адным момантам, шустрым мігам. Столькі каштавала мук прычакаць — і знянацку, неўпрыкмет прамігнула, згасла…

Забастоўка сапраўды кончылася не на карысць рабочых: значыць, не прыйдуць яны да турмы і не адчыняць дзвярэй, не пазавуць іх на волю…

Даводзіцца чакаць. Колькі?

Пакуль Рыгор падышоў да дзвярэй камеры — паспеў абляцець думкамі і мінулае і будучае, і Рыгу і Сілцы.

«Вось з мацераю як? Якаво ёй там?» — чуць не ўголас вымавіў, калі вартаўнічы адчыніў дзверы камеры, на шаг адступіў убок і ўпусціў Рыгора.

## ЧАСТКА ДЗЯВЯТАЯ

### I

У той дзень, калі з Сілцоў паліцыя вывезла арыштаваных хлопцаў, Рыгорава маці не пакідала дому. Вярнулася з рынку, зайшла да сябе ў хату і сядзела, не выходзячы, да цёмнага. Цалкам была пад цяжкім уражаннем перажытага: шкадавала мацярок, шчыра спачувала іх гору, шкадавала хлопцаў. Баялася разам з тым, каб нічога такога не сталася з Рыгорам. Адна кампанія. Ці ўбераждэ сябе ён у далёкім чужым горадзе? Га? Спавядалася сама сабе: «Мае вы дзеткі, мае! Як цяжка даводзіцца бацькам адказваць за вас! Гадуеш-гадуеш, радасці чакаеш, а тут — на табе! Якая крыўда! Як яно ідзецца — хто яго разгадае… Бедная Тарэся, бедная Хрума! Я адчуваю ваша гора… Але не разумею аднаго: чаму ж такі яно гэтак наладжана, што няма за вошта, а хлапцоў схапалі, арыштавалі і павязлі ў няволю. А калі — чаго ліхога — ды і з ім, з сынком маім, стане падобнае?»

Падумала — і здрыганулася ад жаху. Балючае сумненне не пакідала старое. І прагла істота: няхай бы хто яго развеяў ці паменшыў яго ўціск, прытупіў сілу. Чула, што нельга аставацца з ім, — не заснуцьме, не супакоіцца.

Адвячоркам, на шэрай гадзіне, знайшла выйсце, як бы хто падказаў ёй: пайсці да Тарэсі, а з тою разам да Хрумы — да хлопцавых мацярок, каб разам, адна перад другою, развеяць гора, суцешыцца.

Заперла на закрутку хату і пайшла. Хутка была ў Стаўбуновых. З-за парога ўзняла гутарку:

— Тарэська, ты думаеш — лёгка ўсё гэта перажыць! Я ўжо ведаю сама. Ой, галубка мая, колькі я папацярпела!.. Толькі скажы, ласне ў гэтым наша воля!.. Я думала, даражэнькая,

думала, чаму яно так складаецца ў людскім жыцці… То ці хто ж адкажа на гэта запытанне? Вядома, што не: жыццё — мора, а мы — трэсачкі на ім… Спачуваю табе, Тарэська, ад шчырага сэрца спачуваю. Ведаю, што ты паверыш…

— Ой, маўчы, Стэпа!..

Стаўбуніху абуяла горнасць. Чула Стэпіну шчырасць, адзнавала, што тая прыйшла яе суцешыць, што хоча гэта зрабіць. Ды ці ёй паможа яе спачуванне?

А Стэпа, перш стаючы каля парога, пасля прысеўшы ля прыпеку, няўсцішна гаварыла:

— Яшчэ ў вас-то другі сын юнак, дзяўчына, твой мужчына — сям'я. Ну, а ў мяне, падумай, — як стромка, адна-аднэю, як струц, у хаце сяджу, іду куды — вакола адна, чужая. Вядома — адзін ён у мяне, куды ні кінеш. Так урочана ўжо ад роду — перамяніць нельга. Думаеш, лёгка? Гадаю несупынна, дагадваюся, што і як з ім у тым горадзе, — а хто скажа! Лістоў няма — які час не піша. Да чаго яго лёс давядзе або давёў…

Тарэся слухала, але заўважвала, што яе гора — больш вострае і пякучае. Стэпа, праўда, цярпіць многа, ды ці ж параўнаць з тым, што зараз у яе, Тарэсі, на сэрцы. Віктар арыштаваны: што з ім зробяць там, куды павязлі? Можа, навекі замуруюць у каменны мяшок — ці ж не было з людзьмі? А Рыгор — можа, і жыве дзе… пэўна, што жыве…

— Усё-ткі, Стэпачка, Рыгор, можа, не падпаў таму, што мой Віктарка. Мала чаму не піша — усякая бывае прыгода, а гэта, вось, на вачах тваіх, пад мячамі вязуць тваё дзіця. Памочні-ы-к мой, да-а-рагі…

Стаўбуніха заплакала. Стэпа памагла, не сустрымалася. Праўда — сэрца слёзы точыць.

— Тарэся, ці ж думаеш, так ужо строга: не даждалі б яны, каб, барані чаго, замураваць у каменны мяшок, як ты кажаш… Ці ж павыш іх няма мацнейшае рукі? То ж чалавек — не кусок дзерава, што ў лесе гніе… А ты думаеш, мой Рыгор — там жа, як у ступе, гэтым каламутным горадзе.

— Патураць ім. Добра Віктар казаў, як яшчэ з намі быў, вось тутака седзячы, — паказала Стаўбуніха на край стала, пры акне ў двор, — казаў заўсёды: «Свет людскі — адно змаганне, кавадла і молат: папаў — расцісне, калі сам другога не расціснеш…» Казаў вось так літаральна… Цяпер вось папаўся пад молат. — Ізноў заплакала і праз слёзы запытала Стэпу: — А ці ж твой Рыгор нічога не піша?

— Кажу ж — нічога… Чуе сэрца, нядобрае нешта чуе. Сны розныя бачу, цудныя і страшныя. Горад — ступа. Старэю — а адна, без дапамогі. Ты яшчэ ў лепшым стане, ты яшчэ…

— А мне, ты думаеш… Віктар так многа пасабляў! Мужчына мой — трупцяк, дзеці — малыя. Той шмат зямлі — адна абуза… А Віктар зарабляў дваццаць рублёў. Няхай сем кіне ў хату — глядзі, які спор. А ён менш дзесяці не даваў. Часамі, як трэба што сабе справіць, прынясе менш, а то — дзясятку.

— Пэўна, як так, пэўна — добра…

З перапынкамі, у пераменах настрою, судзілі каля паўтары гадзіны. І, судзячы, згаварыліся і пайшлі да Крупнікаў.

— Яны, можа, што чулі.

Хоць бы што пачуць — сышліся абедзве: і Стэпа, і Тарэся. Чамусьці выводзілі, што Хрума, Хаімава маці, сумее іх разуважыць, прасветліць. З надзеяй увайшлі ў хату.

Стары Хацкаль сустрэў.

— Чаго трэба?

— А Хрума дзе?

Жанкі паселі, запыталі Хацкаля:

— Ці не чуў, куды іх павязуць?

Той трасянуў галавой, матнуў рукамі.

— Няхай іх ліха, столькі крыві папсавалі. Ах, ах, гэтыя хлопцы! Гэтыя хлопцы! Шчаслівa ты, Стэпа!

У Стэпы праясніліся вочы; хацела запытаць, чаму, але Хрума, увайшоўшы знадворку, перабіла:

— Што ў вас, жанкі?

— Мы самі прыйшлі даведацца. Вам лепш вядома. Можа, што чулі?

— Нічога добрага. Куды там — увесь свет калоціцца… Бунты, забастоўкі… Вунь прыехаў знаёмы з Рыгі — мяцеж. Ці ж пусцяць іх?

Стэпа, як сядзела, раптам паднялася.

— Што ў Рызе, што? Чула маё сэрца!..

— Ша, ша. Ты ўжо думаеш, што якраз з тваім сынам што здарыцца… Хай прагоніць вецер на сухія дрэвы. Ці ты маеш лад… Мала што: горад — не Сілцы: усяго многа, заўсёды многа.

Але Стэпа не магла супакоіцца — трэба было крануць яе балючую западозранасць, каб яна акамянела ў яе грудзях, закаваўшы сэрца. Думкам не было чаго кіравацца ў іншы бок, шукаць светлых плямак… «Ведама», — судзіла Стэпа. І ўжо ёй не хапіла сілы на спачуванне, не знайшлося месца для Тарэсі ці Хрумы. Як ішла — была надзея, хоць сякая-такая, цьмяная,

смуглая, а цяпер? Віктара, Хаіма павязлі ў павет, а мо праз колькі дзён і пусцяць.

А Рыгора які лёс засціг? З Рыгі даняслося ў Сілцы — нездарма; пэўна, тысячы людзей палягло. А Рыгор такі порсткі…

Стэпа пайшла, не чакаючы Тарэсі, мэрам бы пакрыўджаная на Хруму за тое, што тая паведаміла ёй гэткую вестку. Як сумысля, як назнарок.

На вуліцы, у цемрыве ночы, дратавалася сэрца, а вочы напружана нізалі змрок у бок Жмыгінскага лесу, дзе, здавалася Стэпе, стаіць Рыга. Чаму яе пабудавалі людзі? Няхай бы Рыгор не ведаў гэтага горада.

Жахлівым чудзішчам паўставалі ў Стэпіным выабражэнні зданныя будынкі Рыгі, яе непрыветлівыя вуліцы, неміласэрныя, дзікія людзі. Шолам, стукат, браскатня аддаваліся ў кожным шораху дрэў у садах, у скрыпе варот.

Прыйшла дахаты, не засвяціўшы агню, села на лаве і ўсё кляла няведаны горад, падсвядома просячы спачування хоць ад каго, хоць крупінку, каб не было нядобрага з Рыгорам, каб жахлівае праляцела неўпрыкмет. Няўжо гэтак ціха астанецца? Няўжо ніхто не кіне пісьма? Рыгор жа хваліўся вялікай колькасцю знаёмых. Дзе яны?

Стэпа хапалася за ўсё, што б хоць каліва, беднае, яе абнадзеіла, што б сказала ёй: Рыгор жыў, або — заўтра, пазаўтра ці праз тыдзень ад яго прыйдзе ліст. Стала маляваць сабе гэткі вобраз: прачнецца заўтра раніцаю, запаліць у печы, і — пакуль згатуе снеданне — прыйдзе паштальён з лістом. Падасць праз акно беленькі кавалачак паперы, які ўсё-ўсё скажа аб Рыгору. Ці ж не пара яму прыйсці, пісьму гэтаму?

## II

Стэпа да поўначы лічыла і пералічвала дні з часу ад'езду Рыгора, адкладала некалькі часу на пераезд, на асталяванне ў Рызе, на збор, каб напісаць пісьмо, на перасылку гэтага пісьма перш да павета, а з павета — у Сілцы. Хаценне перасцігала думкі, падганяла час: «А мо неўспадзеў пісьмо ўжо ляжыць на пошце?.. А мо нават паштальён ужо прыносіў яго, а мяне не было дома?» Яна падыходзіла да акна і ўзіралася ў цем ночы — ці не ўгледзіць паштальёна. Пасля ўспомніла, што раней колькі разоў яна знаходзіла пісьмы ў сенцах пад подам, куды яны залятаалі, як паштальён кідаў іх праз аконца. Чаго добрага — можа, і цяпер ляжыць там. Праверыць», — закарцела, і Стэпа засвяціла газоўку

ды выйшла ў сенцы. Старанна абгледзела ўсе куткі і шчылінкі, абшукала месцы, нават і гэткія, куды ніякім чынам пісьмо не магло б заляцець. Разгнявілася. «Значыць, не прыносіў», — заключыла і ўвайшла ў хату. Рашыла: «Ці ж кожнае пісьмо можна кінуць? А калі яно заказное, патрэбна распісацца», — было з ёю гэта.

У сумненнях дасядзела, пакуль не адзначыўся ў мыцельнікавым акне трывожны золак. Закрычалі пеўні, данёсся каровін рык. Стэпа пачула вялікую ўтому, заняпад і, не раздзеючыся, прылягла. І не то прадрамала, не то праспала гадзіны з паўтары.

На вуліцы паднялося жыццё, гоман, крык. Чырвоная раніца хлынула ў хату яскравым сонцам, да таго празрыстым, свежым, што яго праменні пранiклі ў няшчыльна стуленыя вейкі Стэпіных вачэй. Нельга далей спаць — Стэпа прачнулася і падняла з сабою ўчарашнія думкі. Ні каліва не прытупленыя, ясна-балючыя, няўтрымныя, трывожныя. Яны ганялі яе ад печы да акна, з хаты — на вуліцу глядзець пад рынак, адкуль ісціме паштальён. Клала казырком руку над вачмі, узіралася: паштальён не ішоў. Зарана.

У печы тухлі дровы — злавала, папраўляючы вілкамі, чапялою. Пасля Гірш Капаўскі знянацку нашарохаў, завучы грабці сена. Была задуманай, расстроенай, а ён раптам забарабаніў у акно.

— Стэ-э-па!

Здрыганулася — падумала радаснае, жданае, а ўрэшце — вунь што. Сплюнула.

— Воль-на на гэтым тыдні?

— Пэўна, вольна.

— Там дзён на два сена грабці трэба.

— Дзе?

— У Залужным. — Гірш пастаяў з хвілінку моўчкі, а далей запытаў:— А сын як? Не піша нічога?

За гэта Стэпа даравала Гіршу сваё разувер’е. Падбегла да акна.

— Гіршык, дарагі, сама не ведаю, што рабіць, — не піша.

— Кепска. У Рызе непакой… То прыйдзеш?

— Прыйду… Непакой?

Апусціла рукі — забыла пра пісьмо; дзе яно прыйдзе?

Цэлы дзень хадзіла па рынку, распытвала знаёмых, ці не чулі чаго пра яе Рыгора?

Мо хто вычытаў з газет, мо каму знаёмы перадаў у пісьме.

Нічога не дазналася. Бегала да Сёмкі, да Петруся — тыя суцяшалі Стэпу звычайнымі, ёй вядомымі выразамі-ўгаворамі — не паверыла.

А ў бліжэйшыя дні не глядзела ў акно, не пільнавала паштальёна. Нават у сераду, вярнуўшыся з работы, не пацікавілася паглядзець у сенцах каля поду — не было веры. Зайшла ў хату, патужыла-патужыла і намерылася лажыцца, як хтось пастукаў у дзверы. Настаражылася, стукнула думка: паштальён. Выбегла, адсунула засоўку.

— Цётка!

— Чаго, Сёмачка!

— Што піша Рыгор?

Ашаламілася старая.

— Як?!! Чаму?!

— А ласне паштальён нічога не прынёс? Наш хлопец казаў, нібы бачыў, як прыходзіў да вас паштальён.

Стэпа пакінула Сёмку і пабегла ў хату. Мігам вярнулася з газоўкаю і пільна, трапятко пачала азіраць пад подам, у ручаі жарон. Сёмка чакаў. Пасля пераступіў парог і паткнуўся к поду. Паглядзеў і весела паведаміў, угледзеўшы каля жоран шэры канверт:

— А вось, бачыце.

Стэпа выраніла газоўку.

— Няўжо-о, Сёмачка? Ох!

Нейкі час памаўчалі.

Пасля абмацалі газоўку і пайшлі ў хату. Стэпа знайшла запалкі, засвяціла агонь. Села пры стале і бязмоўна, сышоўшыся ўсёю істотаю ў праглівым чаканні, глядзела Сёмку ў вочы. У іх свяцілася шчырая просьба старое.

Сёмка абарваў канверт і паглядзеў на дату: чамусьці пісьмо было ў дарозе больш двух тыдняў; падумаў, памеркаваў, але нічога Стэпе не сказаў, а, прыхіліўшыся да газоўкі, разборна, выразна пачаў чытаць вынутае пісьмо. Некаторыя словы і сказы перачытваў па два разы, іншыя тлумачыў. Дзе пісьмо кратала Ганны, Сёмка перарваў чытанне і пераказаў Стэпе кароткі нарыс іх стрэчы з гэтаю дзяўчынаю, абмаляваў яе выгляд, падабенства да Зосі Прыдатнай. Імя ж Наталі — зблытала дагадкі…

Стэпа не цікавілася тым, як і што перапляліся дзве ўспомненыя пісьмом дзяўчыны. Вестка, што Рыгор жыў, самы факт пісьма — пераважвала ўсё, што ў ім пісалася. Яна забывала на другім сказе першы; губляла сувязь між словамі, бо ўсе яны крычалі, пялі пра тое, што яе сумненні былі дарэмнымі, што

жыццё апраўдала нясмелыя надзеі і жаданні. Пачуццё радасці і шчасця не месцілася ў яе нутры, выліваючыся перш рэдкімі слязьмі, а пад канец чытання — зычным плачам, прычытамі:

— Сыно-ок мой дарагі-ы… Рыго-ор-ка-а… Дзякуй жа та-а-бе-э, што ты не забываеш мяне, старое… Як ты-ы мяне абрадаваў… Як завесяліў мяне…

Сёмка суцяшаў Стэпу, задаволены тым, што Рыгор не абмінуў і яго. Весткі аб тым, як і што пачалася забастоўка, які ўдзел прымаў у ёй Рыгор, вельмі зацікавілі Сёмку, узнялі ў ім настрой. «Кінуў бы, здаецца, усё тут і панёсся да Рыгора, у Рыгу». Сілцы, здарэнні і прыгоды з яго ціхага жыцця расплыліся ў Сёмкавых вачах, патанулі ў яго будзённай шэрасці. Ён пачуў, упершыню так яскрава, якая дробная ці ціхая яго праца — параўнаўча з працаю Рыгора. І стала дзіўна — да чаго і навошта яму, Рыгору, цікавіцца ім, Зосяю, Сілцамі. «Толькі таму, пэўна, што мае шырокае сэрца».

— А што ж Рыгорка табе піша, сынку?

Стэпа сцішылася, прытуліла пісьмо да грудзей. Заплаканыя вочы прасілі гутаркі аб сыну.

Сёмка расказаў; не дасцярогся і ўспомніў пра забастоўку, пра тое, што Рыгор казаў прамову перад тысячамі рабочых.

— Такі не ўтрымаўся? — з лёгкім сумненнем у голасе запытала Стэпа.

Але Сёмка развеяў сумненне, пераканаў яе, што без гэтага нельга абысціся, што змагацца вымушае само жыццё, што толькі змагаючыся можна дайсці да лепшай, шчаслівейшай долі.

— Працуйце, працуйце на здароўе. Няхай вам на поспех пойдзе… А мо і дажывеце да лепшага… Толькі, сынку мой, калі што якое, дык са мною што станецца? Ці хопіць у мяне сілы вытрымаць?

— Не думаю, цётка, каб так было. Чаму, няйначай, з Рыгорам дрэннае здарыцца? Ён не такі…

Стэпа пераняла:

— А ласне ад яго будзе залежаць! Вось калі! Гэткая метусіна ў свеце — без разбору падпадаюць пад калёсы…

— Навошта думаць пра няведамае наступнае? Сёння маеце вестку — радуйцеся гэтаму: Рыгор жыве, здароў, думае пра вас.

Ён вылез з-за стала і выйшаў на хату.

— Пэўна, Сёмачка, пэўна. Ды я ўжо так рада, так задаволена — цэлую ноч не засну, цэлую ноч думацьму пра яго…

— Тут ужо і думаць не трэба многа… Заспакойцеся і засне-це… Дабранач!

Стэпа прайшла за Сёмкам і на расстанне папрасіла:

— Ты ж ужо, сынок, не адмовішся адпісаць. Ужо выдзеліш вольную хвілінку.

— Гэ, чаму не, калі ласка.

— Дабранач!

## III

Пісьмо ад Рыгора Сёмка давёў да ведама сваіх таварышаў. Па чарзе расказаў яго перш Петрусю, пасля Сролю, далей дзяўчатам. Усе навіны пісьма цікавілі, цешылі, выклікалі на нейкую нявыяўленую зайздрасць да Рыгора, да яго стану. Падзеі з забастоўкаю, яго выступленні здаваліся ўваччу хлопцаў-таварышаў недасяжна вялікімі і запалялі кожнага хаценнем самому пабыць у асяродку гэткіх падзей. Здарэнні сілцоўскага жыцця мізарнелі перад вобразамі рыжскіх падзей.

— У гэткай школе не шкодзіла б нам кожнаму павучыцца, — радзіў Сроль, калі яны сышліся адным вечарам цэлаю хэўраю з дзяўчатамі.

У Петруся гастрэй, ніж у іншых, варушылася думка — пакінуць Сілцы і пераехаць у горад. Зацікавіўся горадам і Сёмка.

— А ўсё ж, — казаў ён, — горад вырашыць усю справу з рэвалюцыяй.

— З нашаю дапамогаю, — самаўцяшаў Пятрусь.

— Так, але… цікавей ісці ўперадзе, ніж плясціся ззаду.

— Згадзіся, Сёмка, ці ж усім перасяляцца ў горад?

— Усім не ўсім, а многім трэба…

Дзяўчат інтрыгавала знаёмства Рыгора з Ганнаю ды Наталяю, і вакол гэтага між імі і хлопцамі нямала прайшло гутарак. Дасталося Рыгору, дасталося хлопцам.

— Чаму б вам не пацікавіцца палітычным бокам Рыгоравага жыцця? — упікалі хлопцы.

— У іх на першым месцы суадносіны іншага характару. Мужчына, каханак…

— Моладасць сваё бярэ.

— Дык на гэта ёсць пэўная забяспека для кожнае дзяўчыны.

— Забяспека… Прыклад з Рыгорам — на далоні.

Волька заўсёды выбягала наперад, рачавісцей супярэчыла і настойней накідалася на хлапцоў. Таварышкі давяралі ёй свае думкі і падтрымоўвалі аднагалосна.

— Бачыце — паехаў, а тут Зосі як хочаш. Так і ўсякі з вас; тутака як быццам бы мае шчырасць, а паедзе — дулю на мяду.

— А што, можа, за спадніцу ўзяўшыся, бегаць за вамі? Згаджацца на вашы капрызы і бацькоў вашых слухаць?

— Як гэта?

— А хоць бы так, як тое было з Зосяю. Хто ж вінават, што яна адказала Рыгору, ды яшчэ гэткім чынам? Па праўдзе судзячы, думаю, ніводная не абвінаваціць Рыгора.

Волька не згаджалася.

— Не абвінаваціць! Вашаму брату хочацца абяліць чалавека, хоць ён і не паддаецца гэтаму. Скажаце, што Зося вінавата? А ці не мог ён, хоць бы сам Рыгор, пераканаць яе паехаць за ім? Дык не: абы адчапіцца, а там — як сабе хоча. Куды ж ёй адной змагацца з гэткімі бацькамі, як Прыдатныя? І то яшчэ трэба падзівіцца, як яна перакорылася ім… Гэтага Рыгор не заўважае, нябось.

— Дзе яму заўважаць! У яго іншых думак поўна. Бадай што, і цяпер вось, калі мы тутака палошчам яго костачкі, ён там дэманструе з бастуючымі рабочымі.

— Так, многа іншых думак… — не згадзілася Волька.

— Вядома…

Пятрусь выказаў гэта тонам, пасля якога нельга было далей спыняцца на суадносінах між Рыгорам і Зосяю.

— Якаво б там сабе ні было… — перайшоў ён да свайго пачуцця, — а я, калі ўвайду, разбяруся з Рыгоравай чыннасцю ў Рызе, дык не ўрымшчуся тутака: цягне саматугам у горад. І думаю… сур'ёзна думаю… кінуць Сілцы.

— Куды — і табе… — умяшалася Гэля.

А Волька выкарыстала:

— Вось-вось, а Гэля?

— Баіцца Зосінай гісторыі? — падхапіў Сёмка. — Калі так, то мае поўную мажлівасць ехаць разам з Петрусём.

— Пэўна, няхай дакажа сваю вернасць.

— А трэба будзе, дык і дакажу, чаму не.

— Мы можам даказаць; ці ёсць толькі гэтая вернасць у вас, хлопцаў, — не паддавалася Волька.

— Як у каго: у Васіля Берага напэўна больш, як у Рыгора, — паіранізаваў Сёмка.

Дзяўчаты прамаўчалі.

— Вось, мабыць, ужо ў суботу і вянок будзе? — запытаў Пятрусь.

— Так, у суботу.

— Бачыце: Рыгор там у катле змагання, а Зося тутака спраўляе вяселле…

— Няма чаго ўпікаць Зосю.

Вакол пісьма яшчэ доўга ў гэты вечар спрачаліся хлопцы і дзяўчаты, таварышы Рыгора; і, разыходзячыся дахаты, не маглі расстацца — гэтак яно іх уз'юшыла.

У гэты ж вечар, на разыходзе, Сёмка пайшоў праводзіць Вольку. Падышоўшы да яе хаты, яны прыселі на прызбе, і Сёмка ізноў разняў гутарку пра суадносіны Рыгора з Зосяю.

— Гаварыць у кампаніі — мы многае гаварылі; але тое для ўсіх можна. А ёсць і іншае, чаго не варта, каб другія ведалі.

Волька з цікавасцю запытала:

— А што?

— Нічога такога, каб надзвычайнага, але ўсё ж цікавае: Рыгор пасылае Зосі ўклон. Бачыш — не забывае. Ты перадай ёй — гэта важна.

— Ну, а апроч уклону, Рыгор нічога не піша?

— Ці ж ты не чула, як я казаў?

— Чула; чаму не, ды ці ўсё ж усім расказваць?

— Не, болей нічога асабістага… Ды сам уклон многае значыць.

Волька памаўчала.

— Гэта адна далікатнасць — не болей…

— Што ты!

— Пэўна. Да чаго Рыгору Зося, калі ён мае там Ганну? Кінуў, а цяпер — хай сабе з Зосяю што хоць чаўпецца…

— Чаму?

— А таму: Рыгору ні холадна, ні горача, а пра Зосю поўна ўсякіх чутак… Як у бубен б'юць па мястэчку… Го, колькі яшчэ давядзецца ёй пацярпець!

— Што ты кажаш! У чым справа?

— У чым справа — нібы ты не ведаеш сам!

— Я ведаю, але ж…

— Ніякіх «але ж», калі, можа, дайшло да саміх Берагаў.

— Ты думаеш?

— Можна спадзявацца.

Сёмка іншым тонам адказаў:

— А па-мойму, — няхай бы праведаў ды расстроіў вяселле. Што б ад гэтага Зося згубіла?

— Эх, ты ўсё сваё… Вось бачыш, — ну, да чаго б гэта прыйшло? Дзе б тады Зосі дзецца?

— Ды пакінь, Волька, спагадаць!..

— А ты пакінь апраўдваць Рыгора…

Яны яшчэ нейкі час паспрачаліся, ні да чаго пэўнага не дайшлі і позна, каля другой гадзіны ночы, разышліся.

## IV

Назаўтра Волька ранкам спаткалася з Зосяю. Жывучы па адной вуліцы, амаль не суседкамі, яны бачыліся штодня і не па адным разе; кожная ведала пра другую. Калі Зося ехала ў паравы палетак, мусіла мінуць Вольчыну хату, а па дарозе ў жытнія палеткі Волька праязджала між хаты Прыдатных. Таварышкі пільнаваліся адна другой, наведвалі вечарамі, калі днём траплялася не бачыцца. Чым бліжэй падыходзіў тэрмін вяселля, тым больш Зося чула ў сабе патрэбу знаходзіцца каля Волькі, каб дзяліцца з ёю сваім пачуццём, думкамі і настроем. Адыход дзявочае пары, часоў росквіту, гулянак вельмі цяжка адбіваўся на Зосі; ёй хацелася, настойна штосьці застаўляла яе выкарыстаць як найпаўней апошнія дні залатой пары дзявочасці, ці хоць бы забывацца бягучымі хвілінамі аб нярадаснай, трывожнай будучыні. Яна адважвалася, наперакор бацькам і Васілю, хадзіць на прызбу да дзяўчат, куды сыходзіліся і хлопцы, і гуляць, як гуляла да заручын.

У гутарках з Волькаю Зося ніводнага разу не мінала, каб не чапіць Рыгора; пытала таварышкі, ці не піша ён пісьмаў і, калі піша, ці не дапамінае пра яе. Кожны раз Волька хацела хоць чымсьці суцешыць дзяўчыну, але не было чым. На гэты ж раз, пачуўшы ад Сёмкі пра тое, што Рыгор усё-ткі шле Зосі ўклон, Волька вельмі была задаволенай, як бы гэта тычыла яе больш, ніж Зосі. І, спаткаўшыся з ёю ў сваім двары, не дала Зосі доўга гутарыць аб іншым, паведаміўшы:

— Нарэшце скажу табе навіну…

— Якую? — зацікавілася Зося.

— Рыгор табе прыслаў уклон.

— Рыгор? Няўжо?!

Зося зачырванелася ад нечаканасці.

— Не забывае Рыгор… — праказала.

Пачуццё ўмільнасці сціснула ёй сэрца, і яна не магла нічога болей сказаць.

Волька пазірала спагадліва на таварышку і міжвольна паддавалася яе настрою. «А каб ды ведала яна, што за гутаркі ходзяць аб ёй! Бедная дзяўчына! І трэба ж сысціся гэткім умовам жыцця! А здавалася б, толькі б і жыць».

Каб разагнаць Зосін настрой, Волька перайшла на іншую гутарку, паведаміўшы:

— А нашы хлопцы захапіліся горадам; вось ужо збіраюцца выязджаць; Пятрусь першым.

— Пятрусь? — бесцікаўна запытала Зося.

— Учора хваліўся.

— Каму?

— Нам; учора мы каля Гэлі гадзін да дванаццаці гулялі. І разам гэта пісьмо ад Рыгора слухалі, Сёмка расказваў.

Зося ізноў перамянілася ў настроі, які некалькі ўраўнаважыўся.

— Пісьмо слухалі?.. Ну, а што больш ён піша? Можа, ужо там ажаніўся?

— Не… Куды яму; думаеш, ён заняты рабочай справай, каб мець час на жаніцьбу. Вунь, прамову трымаў перад рабочымі… Цяперака ў Рызе ідуць забастоўкі, і Рыгор зацягнуты ў самы агонь змагання. Пайшоў далёка ўперад па сваёй дарозе.

Волька казала і бачыла, як глыбока западаюць яе словы ў Зосіна нутро.

Кожны момант з Рыгоравага жыцця вырэзваўся яркаю плямінкаю ў яе істоце, прырастаў, як часцінка жывое матэрыі, каб астацца назаўсёды, каб вечна муляцца і дапамінаць аб шчыра каханым чалавеку. Адцягаліся Зосіны думкі за тысячу вёрст, у няведаны ёй горад, лавілі ў ім Рыгора і ўтваралі сваім імкненнем асалоду жданага незямнога жыцця. Вакольнае як быццам бы не жыло для яе і не існавала…

— І вось, паслухалі пісьмо, дык Пятрусь урачыста: «Абавязкова еду ў горад». А Гэля з скуры лезе, чырванее, злуе, агрызаецца; бач, баіцца, каб, чаго добрага, Пятрусь не пакінуў… — сказала Волька і засмяялася. І Зося пусціла тварам нядбалую ўхмылку.

У двор увайшла Вольчына маці; дзяўчаты кінулі гутарку. Прывіталіся.

— Ты, Зося, усё к вяселлю збіраешся?

— Не кажэце.

— Чаму? Кінь свае думкі, нябога.

— Нялёгка іх кінуць.

Зося не магла далей гутарыць; тое, што перагаварыла з Вольчынай мацерай, было нечым вымушаным, Да чаго не ляжала сэрца, не варочаўся язык. Нельга было не гаварыць, але думкі вымагалі іншых слоў, іншае гутаркі. Не выходзіў з памяці Рыгор. Уклон азначаў многае: будзіў нейкія смутныя надзеі, калупаў ужо заплесненыя ўспамінкі, вобразы. Нанава варочаў дзяўчыну да пераацэнкі яе думак і вывадаў аб ім, яго правасці і віны ў тым лёсе, які яе напаткаў.

Зосі хацелася, вельмі моцна хацелася выбрацца гэтым часам куды-кольвечы ў шырокае поле ці ў густы хмызняк, дзе б не было

нікога, дзе б сама з сабою яна магла праверыць усе дадатныя бакі жыцця, ацаніць вартасць яго, абмеркаваць, як і што з ім змагацца, у чым пагадзіцца, і можа — адшукаць адну, назаўсёды роўную, адзначаную сцежку, на якую стаць цвердаю ступою і пайсці рашучым крокам. Тое, што асталося ўзадзе, — забыць, занядбаць, лічыць не існаваўшым… Хацелася гэтага, але рэчаіснасць трымала Зосю ў сваіх кіпцястых руках і вадзіла так, як меркавалі законы акольных абставін.

Зося пайшла дадому і ўжо на парозе стрэлася з адваротнаю, надзойліваю яўю: маці папікнула яе за нядбаласць да тых вялікіх здарэнняў у яе жыцці, якія нясло вяселле, і выгаварыла ёй:

— Ты ўсё яшчэ не кінула сваіх цырымоніяў, дачушка. Труціш маё сэрца, нябога! Хоць гэтыя апошнія дні не зводзіла б мяне.

## V

«Каб гэта Зося ведала, што аб ёй гавораць!» Так, Зося не дагадвалася, не думала, каб тая выпадковасць, якая ўплялася ў яе жыццё, як скутак у каханні з Рыгорам, стала зместам рознай гутаркі аб ёй, плётак, нагавораў. Прайшло колькі часу, здавалася б, павінна ўсё знікнуць, павінен заглушыцца рэзкі смех, які пачуўся ёй тады ў Лужках, палічыўся за здань, за выабражэнне… Тым часам гэта было якраз не так: патрошку, слова за словам, ад аднаго да другога, і чуткі дайшлі да Берагаў. Што далей з іх выйдзе?

Каб гэта Зося ведала, што аб ёй гавораць!..

У той дзень, калі Волька перадала Зосі ўклон ад Рыгора, у Хлоравай хаце адыгралася гэткая сцэна. Адвячоркам, вярнуўшыся з поля, Хлор ляжаў у хаце на палку і марыў аб блізкім вяселлі свайго нябога, цешачыся Васілём, як раптам убегла ў хату жонка і засаб выказала:

— Вось табе і штука! Ці чуў?

— А што?

— Ого-о!

— Не чуў нічога.

— Не чуў? А трэба было пачуць…

Хлор падняўся, злез з палка і выйшаў на хату.

— Кажы.

— Ліха ведае што! Вунь усе як у бубен б’юць: Мікалаішка -а з Нязвычным… у Лужках пад панарадам… бачылі людзі… Падумай, што гэта робіцца!

— Няўжо? Што-о ты кажаш!

Хлор вытарашчыў вочы, пацiснуў плячыма.

— Нездарма! Каму прыйдзе на розум балхвiць лiха ведае што без дай прычыны.

Хлор памаўчаў, падумаў.

— Чакай, — супакоiў жонку. — Ты ўжо чакай. Па-мойму, гэта знарочыстая рэч нашых ворагаў. Ты думаеш не, сапраўды. Хiтрыкi, кажу табе, хiтрыкi. Проста — выдумана. Няма як падкапацца, дык пусцiлi чуткi, каб зганiць i Васiля, i Зосю. Не паверу, i ты, глядзi, не давярайся…

Юстына не супакойвалася: ёй зусiм было незразумелым, чаму Хлор перапыняў яе. I яна спрачалася.

— Мне казалi гэткiя людзi, у якiх нельга сумнявацца, якiя не зацiкаўлены ў тым, каб ганьбiць Васiля.

— Ты палiтыкi не ведаеш… Ласне ведацьмеш, хто твой прыяцель, а хто вораг? Яшчэ прыяцеля хутчэй можна выявiць, а ворага… Iншы ў вочы прыкiдваецца добрым, а сам думае прадаць цябе за ломаны асьмак. Цяпер многа гэткiх. Усюды пайшлi розныя сацыялiсты, басяччо, галадранства — усё з нянавiсцю на знатнейшых людзей, з зайздрасцю — узяць чужое, спалiць, згнюсiць людскую чэсць. Некаму i нечаму верыць… Вось i тут: Васiль перацягнуў Зосю, а iншым крыўда стала — i пайшла iграць у помсту. Можа, той жа Нязвычны напiсаў сваiм сябрам, каб яны пастаралiся ўчынiць якую пакасць. Бачыш, мала ён пападзуджваў Зосю, калi яшчэ быў тут! Або мацi цi блiзкiя iх пастаралiся… Я сам i думкi не дапушчу, каб гэта Зося…

— Не бярыся, Хлор, кажу табе, не бярыся.

Юстына сапраўды не выясняла сабе таго, чаму муж так старанна абараняе Зосю. Не дагадвалася, што, апроч радняцкага пачуцця, у Хлора была доля i палiтыкi. Гэта яго палiтыка заключалася ў тым, што зараз, калi вяселле на носе, хоць бы i праўда была, аб чым жонка паведамiла, то гэтую праўду прыняць нельга, тым болей аддаць ёй павiннае i зрабiць тыя цi iншыя вынiкi. То б значыла стварыць гiсторыю, якая б заплямiла iх котлiшча, дала б справы для розных гутарак i плётак, у сто раз горшых, усяму мястэчку i аколiцам. Дапусцiць, што Зося магла зрабiць праступак, Хлор мог нават не здзiвiцца гэтаму, калi жонка сказала, а здзiвiўся i нават збаяўся таго, каб чутка не дайшла да Тадосi i да Васiля. Аднак тое, адкуль вынiкла чутка i ад каго жонка пачула, цiкавiла Хлора.

— Хто табе казаў? — запытаў ён жонку.

— Паруля Вышкава.

— Паруля? I ты верыш Парулi?

Імя Парулі Вышкавай мела за сабою нядобрую рэпутацыю; гэта мяшчанка славілася як дасканалая ябедніца і язычніца.

— Не адна Паруля, а многія казалі; як у бубен б'юць…

— Няхай сабе ўсе гаворац, а ты маўчы…

— Дык ужо ўсе ведаюць; пэўна, я нікому не скажу, але адно дзіва, як яно так выходзіць, што нам не ўдаецца… — Хлорыха не даказала, падумала і звярнулася да мужа з гэткай прапазіцыяй:— А ўсё-такі, Хлор, запытай Васіля. Чаго ж саромецца: лепей хай праведае, што людзі брэшуць, каб не было знячэўку. Хлопец дачуецца ад каго збоку і раззлуецца — тады яшчэ горай будзе…

— Нічога… Васілю няможна ліха ведае чаго казаць. Навошта хлопца расстройваць… Ты таксама не заікайся, прашу.

Аднак, выказаўшы гэта, Хлор хутка сам передумаў. «А ўсё ж жонка рацыю кажа: трэба на ўсякі выпадак пераняць Васіля. Пайду, нават сёння пайду і так ці іначай уладжу гэта».

Аб сваім рашэнні паведаміў жонку і, павячэраўшы, пайшоў да Тадосі.

Быў вечар. На вуліцы збіраліся начлежнікі. Хлор спешнаю хадою перабег к братавай. У хаце яшчэ свяціўся агеньчык. Васіль з мацераю аб чымсьці ўголас гутарылі.

Гэта суцешыла Хлора, які перш паглядзеў у акно, ухмыльнуўся сам сабе і ціхаю ступою прайшоў к дзвярам.

Тадося здзівілася Хлораваму прыходу, але загаварыла гэта.

— Цяперака калі ні прыйдзі, то ў нас работа, клопат, увіхі. Мала часу асталося да вяселля, і працы не абабрацца. Несціхана шнайдырым па хаце. Прасіць каго чужога неяк не хочацца, а самім дык ёсць над чым пакруціцца.

— Вядома. Чаго і казаць! Гэта ж вяселле, не абы- што.

— Так, вяселле. Мы ўвесь час з Васільком гаворым самі сабою; добра ўжо, што хаця яно неяк ціха і спакойна ладзіцца. Спачатку пашумелі: паспрачаліся то сям, то там, а зараз усе прыціхлі; і Зося ўгаманілася, і той жулік, пзўна, кінуў усякую надзею пашкодзіць Васілю. Вось адбыць вяселле, і тады пачынайце жыццё, мае дзеткі.

Хлор прысеў каля стала, выслухаў братавую.

Бачыў, што таго, з чым ён прыйшоў, тут не чулі і не ведаюць і, пэўна, спалохаюцца, калі ён паведае ім. Замаўчаць усё-ткі не перадумаў і рашыў пакіраваць гутарку так, каб самую перадачу зрабіць менш прыметнай, менш выразнай.

— А як у вас усё-ткі стаіць справа? — запытаў Хлор.

— Добра, Хлорык, — пахвалілася Тадося, — амаль не ўсё гатова; засталося яшчэ зварыць, спячы — то гэта мы ў пятніцу, у суботу зробім…

— Ну, а ў полі як у цябе, Васіль?

— Поле падганяю за ўсімі — не здаюся, дакошваю.

— Го, ён у мяне дбайны.

— Чаго ж, добра, маладзец.

Васіля, як і яго мацеру, цікавіла вялікая прыгода ў іх сям'і і тое, што гэтая прыгода супадае з эканамічнымі інтарэсамі іх гаспадарства і што ўсё ідзе як па масле. Гэта цешыла іх абоіх, а што па-за гэтым— не было ніякага дзела. Вось чаму і Тадося і Васіль адчувалі сябе задаволенымі і знаходзіліся ў добрым настроі. Ніякае падазронасці, ні ўспаміну. Здавалася, каб хто пераконваў, што трэба яе мець, што не ўсё бяспечна, як ім думаецца, то і то б ніводнае не паверыла б.

— Ну, а што, бок, людзі кажуць аб нашым вяселлі? — дарэчы пацікавілася даведацца ад Хлора Тадося.

— Нічога… Ды што прыслухоўвацца да людскіх гутарак. Хай кажуць, каму язык свярбіць. Розныя ёсць людзі…

— Так, вядома, цюцькаў многа; але махнуў пугаўём — дык і паадбягаюцца. А вернуцца, можна хвасянуць пугаю, — вывеў Васіль.

— Пэўна… Але, трэба сказаць, што ўсё-ткі ёсцека адмысловыя брахуны. Вось хоць бы ўзяць цяперака — пусцілі плёткі на Зосю: нібы яна з Нязвычнікам спала ды дзе… Сёння жонка мне паведаміла…

— Няўжо? — нагастрылася Тадося. Васіль жа нядбайна матнуў рукою:

— Брахня! Рыгорава справа.

— Пачакай!

Аднак Хлор, убачыўшы, што Васіля паведанае ім не здзівіла, пасяшыў астудзіць і цікавасць братавае.

— Пэўна, брахня. Хто з разумных людзей гэтаму паверыць? Мне жонка сказала, дык я сплюнуў — і толькі.

— А мо… Зося — пракідная дзяўчына…

Відаць было, што Тадося прыняла Хлоравы словы да сэрца, захапілася імі, бо хоць змаўчала, а ўсё ж на твары яе застаўся адбітак яхідства. Так і чулася, што баба ў патрэбны час пачутае вылажыць перад Зосяю.

Хлора, аднак, настрой братавай не смуціў; ён быў пэвен, што ў кожным разе гэта не адаб'ецца на вяселлі.

— Людзям языкоў не павяжаш, — рашыў ён.

Тадося моўчкі згадзілася.

На гэтым заключылі і перайшлі да вясельнай справы: Хлор распытаў, каго Тадося думае запрасіць, апроч сваякоў, як і што

зроблена Васілём для падарункаў Зосі і іншым. Беражыха ахвотліва адказала Хлору на ўсе пытанні, расхваліўшы свой план і свае намеры.

— Думаю, каб вяселле адыграць па-людску, — старшыню, ураднiка, нават бацюшку думаю запрасіць: ён так прыхільна адносіўся да Васіля. А шлюб ізноў думаю справіць багаты. Не калі ж было — адно дзіця. Скупіцца няма чаго, — заключыла Тадося.

— Зразумелая рэч. Што-што, а вяселле трэба адзначыць добраю бяседаю. Тут скупошчаў, вядома, ніхто не падглядае, але і намёку на іх даваць не трэба. А Зосі трэба зрабіць добры гасцінец.

Васіль ухмыльнуўся здавальняюча і пахваліўся:

— Набралі машастовую сукенку і тонкія чаравікі. Хадзілі надоечы ўдваіх.

Нарэшце Хлор запрапанаваў некалькі практычных думак наконт таго, як вясці вяселле, як пільнавацца парадку, і каля першай гадзіны ночы пайшоў дахаты.

## VI

Вяселле Васіля Берага з Зосяю Прыдатнаю сапраўды нарабіла гоману; яно выглядала не малым здарэннем для Сілцоў, тым болей для Сівулінскае вуліцы. Як і што да яго гатаваліся абедзве палавіны, куды і зачым хадзілі Марта з Міколам ці Тадося з Хлорам — усё да дробкі абгаворвалася дасужнымі жанкамі, да сапраўднага дадавалася шмат лішняга, гэтак што вакол маленькага замеру выраслі вялікія легенды, набухала цэлая гісторыя. Гэткім чынам узнятая зацікаўленасць да вяселля зрабіла тое, што ў суботу, на цырымоніі «пашыцця вянка» да Прыдатных сабралася вялікая колькасць моладзі з усяго мястэчка і добры лік старых людзей з Сівулінскае вуліцы. Далёка за поўнач гэта вуліца кішэла людзьмі, як рэдка бывала дагэтуль, шумела, гаманіла. Апошнія зыкі гамонкі засталі золак. Тым, хто мала цікавіўся вяселлем і сядзеў у хаце, нельга было спакойна заснуць. З гэткіх была Стэпа Нязвычніха; для яе вяселле ў Прыдатных было зусім неўшманкі. Яна мела свой клопат і сваю цікавасць: гэта Рыгор; ім Стэпа жыла, аб ім марыла.

Назаўтра таксама ўсе вясельныя цырымоніі, як хадзьба ў сваты з песнямі і музыкаю, адвод перш маладое, а пасля маладога да шлюбу і самы шлюб, прайшлі між Стэпы. У яе галаве праз увесь дзень складаўся ды перакладаўся змест пісьма, якое

яна праглася хутчэй адпісаць Рыгору. Каб не вяселле, пэўна, прасіла б яна Сёмку зрабіць ласку і напісаць сёння, у нядзелю, калі вольны час і можна больш і спакайней падумаць. Вяселле перашкодзіла гэтаму і злавала Стэпу. Каб адцягнуцца ад яго вачмі і думкамі, яна доўгі час хадзіла па рынку, пасля наведала Стаўбуноў і распытала аб іх Віктары; не мінула, каб не пахваліцца, што яе Рыгор прыслаў надоечы пісьмо. Стаўбуны скардзіліся Стэпе, што Віктара перавялі з павета ў губерню і што праз блізкі час мерыцца быць суд. Віктар пісаў бацькам, што дрэнна сябе адчувае ў астрозе, аднак ад сваіх думак і настрою не адракаецца. Стэпа паспагадала Стаўбунам і вывела, што з іх хлопцамі нічога не зробіш — даводзіцца гадзіцца.

Варочаючыся дамоў, Стэпа стрэлася з Волькаю, якая была за дружку ў Зосі і расказала Нязвычнісе, як прайшоў шлюб, які настрой валадаў Зосяю і што выявілася ў час шлюбу. Стэпа не паверыла ў Вольчыны намёкі і адказала:

— Ці ж кожнаму можна верыць? Брэшуць!

Не хочучы спрачацца з Стэпаю, Волька зрабіла выгляд, што згадзілася з ёю, і пацікавілася, што піша Рыгор.

— Добра, галубка, жыве паціху.

— Я чула, што нібыта мае сабе каханку. Куды яму да нас, мужычак.

— Кінь, Волька. Я думаю, калі і праўда, што мае знаёмую дзяўчыну, то ўсё ж прасцейшую за нашых дзяўчат. Нашым мяшчанкам Рыгор мой нецікавы: куды яму, бедняку, да гэткіх сінагогаў, як Прыдатныя! Бачыш, у нас усе гаспадары, а там, пэўна, напаткаў гэткую, як сам, работніцу якую ці майстрыху.

— Не кажэце, цётка, мы ўсе вельмі паважаем вашага Рыгора. Каб ведалі, як рады, што ён нам прысылае ўклоны. А як Зося была задаволена, калі ён і ёй уклон прыслаў.

— Няўжо такі?! — задзівілася Стэпа.

Ёй зрабілася ўмільна на сэрцы, і Зося выпуклей прадстала яе выабражэнню.

— Так, так!

— Цікава.

— Вось бачыце. А вы кажаце, што нам нецікавы ваш Рыгор.

— То ж я не пра ўсіх: многім ён косткаю ў горле.

— Усіх не зраўняеш. Няма таго чалавека, каб усім быў добры. Што і казаць.

— Праўда, дачушка.

— Бачыце, каб не бацькі, можа б, мы Зосіна вяселле гулялі б у вашай хаце.

Стэпа махнула рукой:

— Дзе нам, дачушка. Няхай ужо Рыгору іншае месца дасць дзяўчыну. Не суджана. Вось пажыве ў Рызе, сыдзецца з якою работніцаю, і таквеле. Нікому руціць не будзе. А тут, у Сілцах, бачыш, многім ён вялік. Абы прыехаў — колькі наплятуць усяго, колькі памыяў выльюць!

— Бывае…

Волька памкнулася вярнуцца ў гутарцы да Зосі, але стрымалася і толькі падумала: «Не ведаеш, цётка, што цяпер кажуць на твайго сына».

Так, па першым намёку Волькі Стэпа не дагадвалася, у чым сэнс. Але гэтым жа вечарам ёй суседка Лявоніха пад сакрэтам паведаміла, у чым справа. Па мястэчку, як маланка, мігнула вестка, якая ў розных хварбах малявала Зосін праступак перад мужам. Знаходзіліся гэткія людзі, якім выгадна было пашыраць розную брахню, абы часаць языкі, іншыя ад злосці на Прыдатных і Берагаў стараліся выкарыстаць выпадак і ад сябе выдумлялі ўсякія байкі. Як і што, у чым праўдзівасць здарэння — ніхто не дапытваўся: той казаў, што Зося папу не адказала нечага так, як трэба, другі перадаваў, нібы перад шлюбам нехта ліст падкінуў Васілю, у якім даносіў на Зосю, як на распусніцу. А многія карміліся словамі Марцэлькі Цюркі, якая старанна паўсюджыла апавяданне пра Лужкі ды пра свайго сына.

Зразумела, што пачуць гэтыя навіны можна было кожнаму. І Лявоніха іх пачула разам з другімі. Пачула і перадала Стэпе.

— Няўжо ізноў мой сынок замуляў людзям вочы? — зласліва запытала яна ў суседкі.

— Як бачыш.

— Ну і свет жа! Знарок, сястрыца, знарок.

— Чаго добрага.

Стэпу занепакоіла гэта і перабіла думкі наконт пісьма. Яна расхвалявалася, расстроілася, ажно доўга сядзела бяздумна, безварушна. І толькі перад сном як бы супакоілася крыху, цвёрда рашыўшы: «Ці ж можна на ўсё адгукацца сумам? Дурная я кабета! Мая дарога ў жыцці адведзена мне».

Назаўтра здарэнні прынялі гастрэйшы зварот. Раніцаю ў хаце Берагаў адыгралася цэлая трагедыя між Зосяю і Тадосяй. Свякроў з агіднаю бессаромнасцю слухала ўсю ноч пад дзвярыма клеці, дзе спалі маладыя. А на золку дзіка накінулася на нявестку з лаянкаю ды сваркаю, грозіла на яе кулакамі, кляла, упікала сына, чаму ён паступіўся сваім імем і знатнасцю для распусніцы. Каля гадзіны часу вярцелася, як апараная, па хаце

ды сенцах, шпурляла, куды зарве, розныя рэчы, стукала кулакамі па стале, хапалася за косы. Нейкая азвярэласць напала на кабету… Ледзьве супакоіў яе Хлор, падаспеўшы на лямант і крыкі…

Але «затушыць пажар» было ўжо позна: суседзі паспелі падслухаць Тадосіну лаянку і разнесці яе па вуліцы, па мястэчку. І хоць далейшае гранне вяселля адбывалася з надворнаю чыннасцю, з паказным гонарам ды рызыкай — кожны, хто цікавіўся прыданым або паходам у госці да бацькоў маладое, паглядаў нутраную штучнасць.

Зося, хмурная, задуманая, хадзіла з апушчанымі вачмі. Беражыха — глядзела ведзьмаю; насупленай была Прыдатніха.

Учарашнія гурткі сілцоўцаў аднавіліся. На прызбах, па хатах перабіралі ўдоўж ды ўпоперак знатнае вяселле, спагадалі Зосі, успаміналі Рыгора, прадракалі маладым нецікавую будучыню. Многія выводзілі маралі наконт таго, што ў багатых заўсёды бывае няўладзіца ў гэткіх справах: бо грошы ды зямля граюць першую скрыпку, а маладыя — другую. Чаго лепшага было чакаць у даным выпадку? Рыгор больш усіх выйграў ад гэтых гутарак: яго хвалілі за прадугледжанасць, за спрыт, з якім ён выкаўзнуў з непасрэднага абстрэлу, за стойкасць ды смеласць.

Аддавалі павіннае яму і таварышы. Вечарам гэтага дня сабраліся ў Сёмкі Пятрусь, Хірысон, Сроль і доўгі час гутарылі на гэтую тэму.

— Не спадабалася, нябось, ні Берагам, ні Прыдатным, — казаў Сёмка зламысна.

— Яшчэ б ды спадабацца! — дадаў Пятрусь. — Вось няхай прыкусяць языкі. Ападзе ўвесь гонар пасля гэтага.

— Зося маладзец! — прылучыўся Хірысон. — Вось за гэта можна пахваліць. Смелая, прынамсі. Чаго там! Розныя цырымоніі спраўляюць!

— А потым дзяўчына апала духам…

— Яшчэ б сказаў! Абставіны гэткія, што наймацнейшы падасца. Скруцяць небараку так, што і піснуць не пасмее.

— Наконт гэтага — то дастанецца ад гэтага няхлюгі.

— Папалася.

Спусціўшы нейкі час, хлопцы накіраваліся к Берагу.

Сёмка правёў іх жартоўным пажаданнем папасціся ў рукі Васілю і вярнуўся ў хату…

Калі Сёмка бразнуў клямкаю ў дзвярах, ззаду яго пазвалі:

— Сёмка!

— Я! Хто гэта?

— Я, Стэпа… — Сёмка адвярнуўся ад дзвярэй.

— Пачакай, нябожа, — папрасіла Стэпа. Падышла. — Ці чуеш, сынок, што тут робіцца? Можа, Рыгорка душою не вінават, а гатовы зрабіць яго праступнікам. Як у бубен б’юць.

— Так. Мы вось таксама абгаворвалі гэта. Некаторыя з хлопцаў дык да таго зацікавіліся, што пайшлі к Берагу. Ні пазаўчора, ні ўчора не былі, а сёння пайшлі, каб хоць зірнуць на Зосю.

— Бедная Зося! — спагадала Стэпа і тут жа перамяніла голас: — А ўчора я спаткалася з Волькаю, дык тая мне і кажа ўсё, а я нічагуткі не разумею. Толькі вечарам Лявоніха растлумачыла, у чым рэч… Па-першае, думала я: заўсяголаў яны, пагавораць ды пакінуць, ажно не тое — сёння яшчэ больш гутаркі. Вядома, ведзьма — на ўсе Сілцы раскрычала. А там, можа, нідзе нічога… Ці ж не бывае, што не ў парадку часамі! Дык крымінал рабіць? Святыя, ліха ім, чэсныя! І ўплялі, бачыш, Рыгора…

— Нічога. Каб і быў Рыгор замешаны, дык…

— Ну, але ж, Сёмачка! Нават у нашы часы здаралася, што вяселле пройдзе не так, як трэба, а то цяпер… Свет, глядзі, перамяніўся; ды дзіва, што дзяўчына — не анёл… — Стэпа матнула рукою, адкашлялася і запытала:— Ну, а скажы, Сёмачка, ты калі думаеш Рыгорку ліст пісаць?

— Ды, вось, к наступнай субоце. Трэба ж пачакаць ды пачуць, як і што ўсё скончыцца. Бо ўжо ў пісьме трэба падрабязна апісаць.

— А я б думала — заўсяголаў яно… Можа б, на добры лад, не варт было б і засмучаць яго гэтым. Не ведае — няхай бы і не ведаў. Як ты думаеш, сынок?

— Чаму не? Дарэмна. А яму што там? Пляваць. Прачытае і сплюне. Усё ж пацікавіцца. Мне здаецца — на чужыне кожная вестка з дому міла і прыемна.

— А то ж, думаеш… Пішы, чаму б не так.

— Вось напішу аб гэтым; таксама пра Петруся…

— А што пра Петруся?

— Збіраецца ў Пецярбург…

— Ці маеш ты лад?

— Напэўна…

— Глядзі ты! Маладая натура… А чаму ж бы яму ў Рыгу не паехаць?

— Вырашыў ехаць да Пецярбургу.

— Ага… Прабачай, што затрымала… бачу, што ты спаць хочаш… Дык пішы ўжо, Сёмачка, разам — ад сябе і ад мяне. Я надыду да цябе на днях… Добра?

— Добра, цётка, добра…

На вуліцы пачуўся смех, які разліўся следам за крэпка вымаўленым словам «Зося»… Сёмка прыслухаўся, але тупат Стэпы, якая, не развітаўшыся, пайшла з двара, перашкодзіў разабраць голас. Ён адвярнуўся к дзвярам і ўспомніў Рыгора. Смех сярод зорнай ночы на ціхай вуліцы ўваскрасіў яму вобразы з нядаўняга мінулага, калі не аднораз здаралася варочацца яму гэткай, а то і пазнейшай парою з гульні і чуць, як, развітаўшыся, ззаду Рыгор дапамінаў яму ўдагон той ці іншы эпізод, смеючыся зычным, прыемным смехам.

«Што ён цяпер, вось гэтымі днямі, робіць там? Што думае? Ці ўспамінае тое, чаму я аддаўся ў даную хвіліну? Цікава!»

## ЧАСТКА ДЗЯСЯТАЯ

### I

Спатканне з Рыгорам у астрозе асвяжыла Наталю. З яе плеч як быццам бы апала гара. Нервовасць, навеяная трывогаю, неспакой прайшлі; бліснула ружовая надзея, запляліся мары. Тыя дні, што чакала яна гэтага, абураная невыразнасцю бліжэйшых хвілін, доўгія марудныя дні забыліся. Адкуль узяліся лёгкасць, уздым, размах. Праходзіла астрожны двор і чула сябе не бязродным стварэннем, якое можна ў любую хвіліну схапіць у звярыныя кіпцюры і заперці ў доўгую няволю, а здавалася Наталі, нібы яна варочаецца з поля, дзе адбылася вялікая бойка, а з той бойкі яна выйшла пераможніцай, героем. Хмурны будынак астрога, дзе сядзіць Рыгор, адкуль невядома калі яго выпусцяць, не выклікаў сабою ў Наталі боязі, не будзіў жаднага пачуцця сполаху. Яна прамінула варту, прайшла ў вароты, як хадзіла з кватэры, з завода, і апынулася на вуліцы адроджаная, прасякнутая натхненнем. Выабражэнне яе малявала перажытае спатканне, як вольную, бесклапотную гулянку. Ні трывожна-адрыўныя сказы гутаркі з Рыгорам, ні намёкі, ні нервовасць, якую надавалі тоўстыя сцены астрога, вартаўнік-надзірацель, ні настрой Рыгора, які крапіўся, стараўся паказацца бадзёрым, а сапраўды заметна цяжыўся няволяю ды неакрэсленасцю свайго стану, невыразнай будучыняй, — нішто не выглядала перад Наталяю ў сваёй рэальнасці, несуцешнай, прыкрай. Быццам бы яна была ў Рыгора на кватэры і вярталася, каб у любы момант, у любую хвіліну пайсці да яго назад, вольна, самохаць.

Наталя ішла вуліцаю, горда падняўшы голаў, поўная задзёру, самаўверанасці; яе ўзрок гарэў агеньчыкам абуяўшае яе мужнасці; унутры накіпела хаценне кінуцца насустрач якому-колечы надзвычайнаму здарэнню, дзе б можна было выявіць сваю адвагу, свой спрыт і сваю здатнасць; падбівала на гострыя перажыванні, на ўздым, на бунт супроць усяго таго, што жыло ў вялікім каменным горадзе, сярод яго вуліц, за вокнамі суровых, маўклівых муроў. Джарало людзей, што цякло ёй насустрач, стукатня калёс, крыкі паасобных гандляроў — нядбайна забываліся; быццам бы нішто яе не датыркала…

Але, адышоўшыся кварталаў пяць ад астрога, Наталя прыпомніла аб Рыгору: што ён робіць у даную хвіліну? Азірнулася назад, як бы хочучы праверыць, ці не ідзе часам ён удагонкі ёй? Вузкая разора вуліцы бегла ад яе кудысь далёка назад, а высокія муры хавалі прастор. Астрог загубіўся ў іх грамадах. Нават Наталя адразу не выявіла сабе, у якім ён баку. Затое Рыгор, якога яна мэрам бы згубіла ў вулічнай гушчы, занепакоіў яе. Зусім мімаволі, нечакана, да дзяўчыны вярнулася трывога за долю дарагога таварыша… Рэчаіснасць разбіла зданны настрой, штучнасць хвілёвага ўздыму; яна, вось, ідзе вольная, куды хоча, а Рыгор астаўся там, за захілам хмурай вуліцы, за брамаю ў таўсценнай сцяне, за вартаю турэмнае каманды. Рыгор у няволі. Вуліца шуміць, таемная ў кожнай сваёй рэчы і ў кожнай асобе людской і кіпучая ў сплячэнні агульнага жыцця, чужая жыццю кожнай ядынкі. Пэўна, пра Рыгора, пра яго стан не ведала ні адна душа, ні адзін чалавек, з якім сустрэлася ды размінулася Наталя. А гэтых адзінак прайшло сотні ды сотні.

Яна агідна паківала галавою. Паспагадала, чаму яна не ў моцы адразу ж перайначыць размах і формы людскога жыцця?

Перадумаўшы ўдоўж ды ўпоперак вынікшыя перад ёю жыццёвыя супярэчнасці, Наталя тым часам выйшла к парку, абышла яго, не заходзячы, і параўнялася з будынкам пошты. І тут прыпомніла якраз просьбу Рыгора — напісаць яго мацеры пісьмо. Але яе азадачыла, як і што пісаць? Трэба ж, каб старая там вызнала пра сына і не напалохалася яго лёсам. Цяжкае заданне злучыць дзве гэтыя процілежнасці! Атрымаецца ці адно, ці другое; або маці не праведае, што з Рыгорам, або, праведаўшы, дашчэнту перапужаецца… А не напісаць?..

Каб вырашыць пэўней і грунтоўней задачу, Наталя зайшла ў парк, прысела на лаўцы і стала абмяркоўваць з усіх бакоў, як пагадзіць Рыгорава жаданне з тымі вынікамі, якія яно прынясе. Меркавала, углыбілася. І чым больш выяўляла перад сабою роз-

ныя мажлівасці, тым няпэўней рабілася сама… Прыходзіла да скутку, што гэта справа — нялёгкая, справа, над якою давядзецца добра падумаць, — адлажыла яе на некалькі дзён.

З гэтым рашэннем паднялася з лаўкі, каб прайсці паркам. Але, адвярнуўшыся направа, сустрэлася вачмі з убогаю, мізэрнаю бабулькаю, якая задуменна клыпала на яе месца. У Наталі міжвольна напрасілася параўнанне гэтае старое з Рыгораваю мацераю. «Пэўна, ходзіць і яна там па мястэчку, не выпускаючы з думак Рыгора. Як бы была яна абрадавана яго пісьму!.. Трэба толькі ўявіць сабе яе пачуццё. Не! Мушу напісаць! Хоць не ўсю праўду выясніць, хоць не датыркаць Рыгоравага стану!» — рашыла Наталя.

І сапраўднасць, якая акружала яе, паднесла Наталіным думкам цёмныя вокны астрога і пераплёты жалезных крат, і вузкі калідор, што выглядаў чорнаю цеснаю нароюю, і Рыгора ў стане нявольніка, злоўленага арла. Шэраг сумных вобразаў працягнуўся ў даль наступных дзён. Каб адарвацца ад іх, Наталя абярнулася к імені Сёмкі. Таварыш, аб якім гаварыў ёй Рыгор добрымі словамі. «А каб ды яму напісаць. А ён там перадасць мацеры…» Гэта аблягчала задачу, рабіла яе прасцейшаю. «Так, напішу пісьмо да Сёмкі; перайму яго, каб не адкрываўся мацеры. Падкрашу надзеяй на скорае вызваленне Рыгора… А ён там… няўжо ён не зможа зрабіць гладка і добра? Пайду, вось, зараз, цяпер, вось, і сяду за пісанне. Бо што будзе заўтра — няведама».

Паспяшаючы, выйшла Наталя з парку і пайшла направа. Але, ступіўшы пару разоў, яна пачула ззаду сябе вокліч:

— Наталя Хлораўна!

Было нечакана, і Наталя як бы сумелася; хутка павярнулася і ўгледзела чалавека, які ў першы момант паказаўся ёй незнаёмым. Хацела запытаць яго, у чым справа, пасля дагадалася па рысах твару, што недзе бачыла, і наўдагад пацікавілася:

— Ці не спатыкаліся мы з вамі?

— Я — Ермалай Куваш… Бачыліся з вамі некалькі разоў: апошні раз у Артура, на Задзвінні, помніце?

Наталя працягнула руку.

— Цяпер ясна; так, так — сустракалася з вамі.

— Адкуль вы і куды, Наталя Хлораўна?

— А як бы вам сказаць… Дамоў…

— Дамоў? Я якраз перайму вас. Ведаеце, быў у вас дома — знарок; і цяпер зусім выпадкова сустрэў…

— У мяне былі дома?

— Так-так.

— А як жа вы праведалі мой адрас?

— Вы мне сказалі; забылі, пэўне?

Абое адступіліся к боку панэлі.

— А навошта я вам?

Ермалай агледзеўся вакола і цішэйшым голасам сказаў:

— Сёння надзвычайная раённая сходка ўпаўнамоцных ад заводаў і фабрык… Вы павінны быць абавязкова. Цэлы рад важнейшых пытанняў…

Наталя задумалася, рашаючы, як быць.

— Часу не маю, ведаеце. Спяшу дамоў па важнай справе.

— Гэта важней усяго. Тут наспяваюць новыя здарэнні, якія гатовы выліцца…

— Што так раптоўна?

— Так-так… Пойдзем абавязкова; усё іншае пасля вырашыце. Хадзем…

Наталя болей не спрачалася.

Яны кранулі ў процілежны бок, абмінаючы парк.

Некалькі прагонаў прайшлі моўчкі. Наталі рупіла пісьмо, і яна натужна раздумоўвала, як і што ёй прыйдзецца зрабіць. «Хаця б не зацягнулася гэта сходка», — думала сабе і меркавала так, што калі яна і скончыцца рана, то ўсё роўна займе шмат часу. План так ці іначай мяняўся, а гэта не задаволіла Наталю.

— Адкуль жа, усё-ткі, вы ішлі? — пацікавіўся Ермалай, каб прагнаць няёмкасць ад маўчанкі.

Наталя адарвалася ад думак і з лёгкаю пахвальбою адказала:

— Была ў гасцях, ды дужа ў паважных…

Зацікавіла Ермалая.

— У каго?

— Не ўгадаеце ніколі…

— Скажыце.

— Была на спатканні з Рыгорам.

— Ласне?

— Але, але… Колькі каштавала сілы! Усё ж дастукалася і прайшла.

— Цікава, праўда. Не дагадаўся б нізашто. Ну і што? Як ён сябе адчувае?

— З выгляду — бадзёрыцца… Думае, што нядоўга трымацьмуць… Цікавіцца, як і што ў арганізацыі… Прасіў напісаць ліст таварышу на радзіму. За гэтым, прызнацца, я і спяшыла.

— Паспееце гэта зрабіць…

— Хто яго ведае.

— Чаму такая няўпэўненасць?

— А вы ўвераны за сябе?

— Пэўна.

— Не кажыце.

Гутарачы, яны прайшлі некалькі вуліц, пасля апынуліся ў нейкім вузкім крывым перавулку…

На дварэ змяркала, і высокія муры засланялі апошнія праменні сонца; хмуры выгляд сцен, галеча, бязлюддзе. Наталя зацікавілася, куды і што яны зайшлі.

— Мы абыходзім простую дарогу і зараз выйдзем да месца. Вось-вось завернем налева…

З Дзвіны нясло халадком…

Праз пяць хвілін яны былі на месцы.

II

А ў гэты час Рыгор жыў непасрэдным уражаннем ад спаткання з Наталяю. Пасля расстання з ёю, толькі схавалася яе постаць з вачэй, ён быў аддаены здзіўленню, як і што Наталя ўладзіла наведы і чаму ёй надало ахвоты ставіць сябе ў падазронасць. Старанні пабачыцца з ім, Рыгор ведаў, нялёгка дасталіся Наталі. Было ўсякае гутаркі, розных запытанняў; паглядалі на дзяўчыну дапытлівыя вочы барбосаў, і не адна рыса Наталі адбілася ў іх вваччу — на ўсякі выпадак. Гэта ёй не суліла нічога добрага… Але, побач, вынікала іншая дагадка: а можа, часам адміністрацыя не так ужо сур'ёзна глядзіць на яго справу, што вольна прапусціла к яму Наталю. Бо трымай яго паліцыя, як вялікага праступніка, безумоўна, ужывала б яна іншыя рады… Як-ніяк, а быванне ў яго Наталі было дзіўным і дагадлівым. Самую ж Наталю яе паступак паставіў надзвычайна высока ў Рыгоравым вваччу. Ён не знаходзіў у сабе належнае аддзякі за дзяўчыніну ўвагу і проста, як дзіця, цешыўся яе пачуццю таварыскасці і сяброўства. Заключаў, што Наталя сапраўды мае шчырую душу і спагадлівае сэрца і, пэўна, яго істота знайшла ў ёй цёплае месца. І невыказна, магнітнаю сілаю цягнула яго к ёй; разнастайныя вобразы яе не адыходзілі ад Рыгора. Поза, у якой Наталя стаяла на спатканні, рысы яе твару, узрок вачэй, драбнейшыя рухі галавы, губ, веек — асталіся ў яго выабражэнні. Нейкая чароўная стужка з пачуцця і думак Рыгора пацягнулася ўслед Наталі, а навостранае выабражэнне вышуквала далейшыя ігры ў яе рухах, узроку і нават у думках. Хвіліна ад хвіліны, калі ён усядаўся адным, не патураючы на ўсё, што вакол рабілася, і заплюшчваў вочы, сцены астрога знікалі; адчынялася бязмежная

гала, шырокі прастор, зелень, дрэвы і мора… Пры беразе, над яго хвалямі — Наталя з ім, жвавая, рэзвая, вёрткая, як вавёрка, як стрэлка… Сонца аблівае іх каснікамі променю, вольнае паветра студзіць лёгкім повеем…

Таварышы аддавалі павіннае яго настрою: ні адзін не чапаў Рыгора. Толькі паважна, непрыметка кідалі на яго кароткімі ўзрокамі, зноў варочаліся да сваіх клопатаў ці гутарак. Толькі на змроку, калі вось-вось мусіў заблішчаць агонь электрыкі, Рыгор не сцярпеў, каб не паспавядацца суседу.

— Як-то яно бывае так, што адзін дробны выпадак робіць цэлую рэвалюцыю ў тваім жыцці. Бачыце: прыйшла на спатканне знаёмая дзяўчына — таварыш, пагутарыла са мной аб сім, аб тым і быццам заваражыла. Усе думкі, усё пачуццё прыцягнула да сябе…

Суседу Рыгоравы словы паказаліся звычайнаю рэччу.

— Таварыш, — адказаў ён, — не забывай, што мы ў астрозе, па-першае, а па-другое, прыйшла дзяўчына. Прыйшла дзяўчына, ды, пэўна, блізкая, а можа, яшчэ… Ну, мала што бывае… У нашу прозу ўразаецца часамі светлы промень прыгожасці, і тады мы ажываем…

— Так, — перабіў Рыгор таварыша, — праўду вы кажаце, — мы ажываем. Я, прызнаюся, цэлы дзень жыў, як апушчаны ў нірвану… Гэткія шчасныя хвіліны апутвалі маю істоту. Падумайце: жыццё вымушае чалавека яму карыцца. Якімі б мы ні былі моцнымі, колькі б ні выкладалі сілы на змаганне з ім, усё ж такі дагэтуль мы астаемся пераможанымі…

— Гэта цяпер, — не згадзіўся таварыш, — калі мы седзімо тут вось, у гэтых сценах… А выпусці нас зараз жа, у гэту вось хвіліну, з астрога, як мы зноў паднімемся над жыццём… Рабочы клас мае неперможную прагу да змагання. Ты думаеш, што свет канчаецца вось гэтым нашым станам, хоць бы жыццём нашым?.. Справы, з-за якіх мы седзімо тут, — гэта наш бальзам…

— Табато і то… гэтым мы жывём… а ўсё іншае… Рыгор перарваў думку і вярнуўся да Наталі.

— І дзяўчына, што да мяне наведвалася сёння, таксама жыве тым, каб як найбольш здабыць гэтага бальзаму… Ведаеш, сябра, што за дзяўчына! Мучылася за грамаду, цярпела і цяпер — хоць у агонь. Пасудзі сам — дайшла ў астрог. А ў забастоўцы, думаеш, астанецца ззаду? Не на яе было! Заўсёды ўперадзе пойдзе…

— А дзе яна працуе?

— На заводзе «Праваднік». Чорнарабочая… Сірата, без бацькоў, пры бедным дзядзьку…

Рыгор перш мерыўся апісваць постаць Наталі, а пасля хапіўся, перадумаў і рашыў, што гэта крыху сентыментальна.

Ззаду бліснула электрыка.

«Дзе ж Наталя?»

А ў гэты час Наталя з’явілася на сход. Прыйшоўшы з Ермалаем трэцімі, яны доўга прачакалі другіх. Толькі аб адзінаццатай распачаўся сход і зацягнуўся на цэлыя тры гадзіны з лішкам.

Ажно к палове трэцяй Наталя вярнулася дамоў. На дварэ днела; шэрае святло прабівалася ў яе пакой праз шчыльную сураву фіранку. Аставалася спаць да паложанага тэрміну каля чатырох гадзін. Наталя перш думала аддаць гэты тэрмін на пісанне пісьма; ужо нават дастала з шуфлядкі паперу і канверт і пачала шукаць чарніла. Якраз яго не знайшлося пад рукамі, і гэта паперашкодзіла ёй заняцца пісьмом. Тады яна раздзелася і ўляглася спаць.

Пераражыты дзень адбіўся на ёй цяжкай утомай. Наталя ў некалькі хвілін заснула моцным сном і не агледзелася, як дзядзіна пачала катурхаць а сёмай гадзіне раніцы. Адчуваючы недаспаласць, яна звычайным чынам управілася не болей, як хвілін за дваццаць, і без чвэрткі восьмай выйшла з хаты.

Цэлы дзень, не супыняючыся і на трошкі, яна прахадзіла па горадзе, наведваючы таварышаў, аб’язджаючы фабрычныя раёны. Забыла прыйсці паабедаць. Чула вялікую ўтому, як звычайна, прыйшоўшы з работы. Але, вярнуўшыся на кватэру, занядбала ўсё і нават вячэру ды села за пісанне.

— Хай бы ты паабедала перш. Чуеш, Наталя? — перабіла яе дзядзіна.

— Толькі спраўлю пільную работу.

— Дык абед астыне.

— Нічога, халодны з’ем.

— Чаму ты ўсё не па-людску?

Наталя недачула і змаўчала. Дзядзіна нездаволена крутнула галавою.

— Такі-та ж прыспела так, што і яды адцурваецца, — прамовіла яна, адыходзячы ад Наталі.

Але Наталя не заўважыла нават, аддаўшыся пісьму. Цэлая эпапея, багатая, лунала над ёю, захапляючы дзяўчыну цалкам.

III

Садзілася пісаць, то думала, паўгадзінкі часу — і скончыць. А пачала пісаць — не бачыла канца! Хацелася нічога не прапусціць, не забыцца, думалася, каб пісьмо выйшла складным і далікатным, — пісала ж Рыгораваму таварышу. І яна, пачаўшы ад непасрэдных здарэнняў з Рыгорам, чапіла на працягу пяці старонак амаль не ўсіх момантаў з гісторыі іх знаёмства. Стрэчы на сходзе ў Артура, уражанне ад гэтага, першыя гутаркі з Рыгорам, а далей характар яго ды нораў, свае думкі аб ім; і толькі ў канцы вывела, з якой мэтаю яна піша Сёмку ліст і што Сёмка павінен заключыць з яго. «Хай ужо, як будзе!» — заключыла Наталя і тут жа рашыла аднесці яго ў паштовую скрынку.

Забыла, што не наклеіла маркі, што гэтай маркі нават не мае пры сабе. Адзелася і павярнула да дзвярэй. Дзядзіна супыніла.

— Куды ты, не вячэраўшы! Ці ты маеш лад, Наталя?— Тая азірнулася. — Вячэра сапсуецца дарэшты. Што табе так пільна прыспела…

— Я зараз, пяць хвілін…

Дзядзіна зазлавала.

— Ніколі, як у людзей…

Наталя паслухала і спынілася. Але не захацела скідаць хусткі, а прысела к сталу ды паспешна, не разбіраючыся ў ядзе, стала вячэраць замест абеду.

Дзядзька, дагэтуль маўчаўшы, заняты чытаннем газеты, раптам адазваўся да ўсіх:

— Ідуць несупынныя арышты; арыштавалі ўчора ноччу дзесяцёх чалавек з чыгуначных майстэрань… Арудуе паліцыя… Будзе і нашым… Ліха іх бяры, не трэба было на гэты раз пачынаць забастоўкі… Усё роўна справы не паправім…

Наталя не сцярпела: кінуўшы лыжку на стол, яна гостра адказала дзядзьку:

— Ім таго і хочацца… Маўчаць ды адкладваць — лягчэй усяго. Але ці пасобіць гэта нам? Нашу дабрату ні фабрыканты, ні паліцыя дарага не цэняць…

— А ты вельмі гарачая… Што ж, на ражон лезці?

— Як трэба, то трэба…

— Выйграеш гэтым!

— Больш, як пакораю ды паслухмянствам.

— Відаць!..

Ён паглядзеў на газету, павадзіў па слупках вачыма і праз хвіліну трывожна праказаў:

— Вось, глядзі: «Нарада фабрыкантаў пастанавіла абвясціць лакаут. У першую чаргу…»— Ён прыглядзеўся і ўжо спалохана дадаў:—Есць ужо… Во, во, во… «У першую чаргу будзе зачынены паравозабудаўнічы завод і фабрыка… «Праваднік»…»

Наталя не чакала.

— Сапраўды?

— Вось табе і сапраўды.

Яна стала думаць, вяла жуючы хлеб.

— Палохаюць, не болей.

— Зачыняць на лета, а ты…

Дзядзька занерваваўся, устаў з крэсла і пачаў тупаць па пакоі, размахваючы рукою.

— Паганцы, крывапіўцы; заморам хочуць браць. Юдашы. — Абярнуўся з упікамі да нябогі: — А ты яшчэ храбрышся! На вуліцу…

Мэрам бы Наталя была вінаватаю…

— На вуліцу, — пераказала яна і хапілася за думку: тут храбрасцю дзядзькі не збіць. Факты, а што перад імі словы? «А і сапраўды, што будзе, калі раптам лакаут?» — засумнілася. І мігам прапусціла ў галаве некалькі няпэўных, павярхоўных намераў ды планаў, як і што яна рабіцьме, калі зачыніцца фабрыка. Тое, што ў газеце дзядзька не вычытаў тэрміну, у які пачнецца лакаут, не загострывала патрэбы дэтальней спыняцца на мігнуўшых перад ёю думках. Аднак намер, у выпадку чаго, паехаць з Рыгі да Рыгоравай мацеры ў Сілцы і там застацца швачкай, заінтрыгаваў Наталю. Цягнучы гутарку з дзядзькам, яна меркавала, як лепей павярнуць будзе гэту справу. Нават знайшлося жаданне асвядоміць аб гэтым Рыгора і напісаць у лісце да Сёмкі. Апошняе да таго зарупіла, што Наталя тут жа ўстала з-за стала, выняла з кішэні ўжо прымяты канверт ды намерылася яго адчыніць.

— Нойдзем выйсце… — недарэчы вымавіла яна.

І хацела намякнуць на адшуканы план, як раптам пачуўся гучны званок.

Яна пісьмо апусціла назад у кішэню.

У кватэры ўсе змоўклі.

Праз хвіліну званок паўтарыўся.

Дзядзька падышоў да дзвярэй, хочучы запытаць, хто там; але не паспеў разняць губ, як званок затрашчаў зноў і з-за дзвярэй пачуўся патрабавальны голас:

— Адпіра-айце-э, тэлегра-ама!

Дзядзька павярнуў ключ; дзверы з сілаю падаліся к яму, стукнуўшы па нагах, якіх ён не паспеў адняць. І тут жа перад ім вырасла фігура здаравеннага мужчыны.

— Тут жыве Кузьма Чмель?

— Тут, — упаўголас адказаў Наталін дзядзька.

— Дзе ён?

— Я буду…

У гэты момант у кватэру ўвайшло чацвёра асоб, а пяты, гарадавы, застаўся за дзвярыма. Здаравенны мужчына паведаміў:

— Мы прыйшлі ператрасці вас.

Кузьма нічога не адказаў. Тады здаравенны мужчына знакам падазваў да сябе крайняга з увайшоўшых і паставіў яго каля Кузьмы, а другіх дваіх паслаў трасці ў сталовай ды спальні. Сам зайшоў на кухню, абгледзеў вакола, пераставіў пасуду, адчыніў пліту і, нічога не знайшоўшы, падышоў да Кузьмы. Праз некалькі хвілін кончылі справу і другія двое.

— Паспяшылі захаваць, — выказаў здаравенны. — Ну, добра. Нам не гэта важна. Скажыце, Чмель, у вас ёсць кватарантка?

— Ёсць, — адказаў Кузьма.

— Яе імя?

— Наталя!

— Удому?

Кузьма замяўся. Але не было іншае рады, як прызнацца, — тым болей што ўжо другіх двое ўпарта глядзелі ў адчыненыя дзверы кухні, дзе сядзела Наталя.

— Дома, — адказаў Кузьма, — яна вам трэба?

— Я сама. Чым магу быць карыснаю?

Наталя выйшла з кухні і горда стала перад гасцямі.

— Начальнік жандарскага ўпраўлення просіць да яго… Адзявайцеся, будзьце ласкавы.

Наталя не зразу рушыла з месца, акінуўшы ўсцяж траіх «гасцей» пільным узрокам. Яе не падганялі. Выстраіўшыся гуськом, усе чацвёра не зводзілі з яе вачэй, лісліва ўхмыляючыся.

Некалькі хвілін усе маўчалі напружанай маўчанкаю.

Дзядзіна прыкметна хвалявалася. Наталя заўважыла гэта і, каб разбіць гэты настрой, пайшла з праводамі госця ў сваю каморку, адзелася і смела заявіла:

— Можам ісці!

Словы не змоўклі, як стукнулі дзверы, і Наталя, акружаная «гасцямі», выйшла з хаты.

На сходах ужо яна хапілася, што забыла знішчыць пісьмо, якое тут жа, пры ёй. «Як быць з гэтым?» — кальнула думка.

І дзясяткі планаў завярцеліся ў яе галаве.

IV

Наталя не адна папала ў рукі паліцыі: у той вечар па ўсім горадзе пракацілася хваля вобыскаў ды арыштаў. У рабочым раёне была зроблена сапраўдная аблава. Паліцыя, выходзячы з сябе, старалася напасці на след арганізацыі сацыял-дэмакратаў, якая фактычна кіравала ўсімі забастоўкамі, абвяшчаючы гэта ў разлепленых ды раскіданых у горадзе пракламацыях. Праца паліцыі цягнулася ўсю ноч, кончыўшыся перад днём. Было заарыштавана звыш сотні чалавек. Часткаю іх рассадзілі часова па ўчастках, а чалавек сорак адагналі ў астрог. Наталя папала з апошнімі.

Ёсць вядома, што гэткі лік свежых жыхароў астрога не мог арыштаванымі сустрэцца спакойна. Гэта выразна сведчыла аб новай перамозе паліцыі і ўрада над узбуранымі рабочымі. Насельніцтва астрога моцна занепакоілася, пайшлі гутаркі, запытанні, абгаворы таго стану, які ў скутку гэтага склаўся. Многія даводзілі аб слабасці дысцыпліны сярод рабочых, іншыя наракалі на іх нерашучасць. Думкі Рыгора, аб якіх ён казаў на вядомай нарадзе перад пачаткам шырокай забастоўкі, пераказваліся амаль не ўсімі таварышамі з яго камеры. Больш другіх гукаў Ромусь, ён упікаў многіх, і асабліва Міхася Камара, за іх мяккасць. Зламысна пераказваў раз-поразу: «Няхай цяпер цацкаюцца са сваёю тактыкаю. Няхай глядзяць на плён свае працы».

Рыгор падказваў таварышу, задаволены яго настроем, але ўнутры адчуваў, як сэрца зніжала размах. Як-ніяк, спадзевы меншалі, прытухалі. Каб трымацца іх, трэ было болей натужваць сілу волі, а яна, гэта сіла волі, паспела падтачыцца за часы астрожнага жыцця. Праўда, часу пакуль мінула небагата, але натура Рыгора — каразлівая, успрымальная натура — была не прызвычаена да астрожных абставін. Занадта раптоўна гэтыя абставіны ўрэзаліся ў яго жыццё, якраз тады, калі яго істота сама гартавалася ў полымі змагання.

Мо б яшчэ не так прыкра было, каб Наталя не напомніла аб сабе. А то гэтак свежа ўражанне ад спаткання з ёю! Толькі-толькі першыя павуцінкі забыцця каўзанулі над памяццю — вера ж у хуткую стрэчу яшчэ гарэла. А цяпер?

Перад Рыгорам, толькі ў іх камеру ўпусцілі дваіх свежых арыштаваных, бліснула цікава-настарожанае пытанне: ці не папала разам і Наталя? Ён хацеў зразу распытаць пра гэта, але неяк загутарыўся аб іншым і толькі праз гадзіну, п’ючы гарбату, абярнуўся да свежага таварыша з запытаннем:

— Ці не чулі аб Наталі Чмель з фабрыкі «Праваднік»?

Таварыш падумаў.

— Якая яна сабою?

— Сярэдняга росту, брунетка!

— Як быццам бы мігнулася паміж, калі нас прывялі ў турэмную кантору… Ці то перад уваходам… Быццам бы, упэўнена не скажу. — Яшчэ падумаў і праз хвіліну ўверана сказаў:— Так, бачыў. Яна — стройная, у шэрым жакеце…

Для Рыгора было ўсё ясна, ён ужо не хацеў распытваць падрабязна. Наталя! І перад ім згрудзіліся ў адно і пісьмо да мацеры, і рэчы, аб якіх прасіў, каб Наталя забрала, і рэгулярныя весткі з волі, якія меўся атрымоўваць праз яе, і чародныя спатканні з ёю. Планы гэтыя пераблыталіся, змяшаліся, спанталыжылі яго. Рыгор то падтрымоўваў гутарку з таварышамі на агульныя тэмы, а то адышоў ад яе, замоўк і аддаўся раздумам. Ажно ўсім кінулася ў вочы.

— Аб чым ты сумуеш горай усіх? — пацікавіўся Ромусь.

— Ёсць прычына… Ці ж не чуў?

— Якая?

— Наталя, брат, таксама папалася.

— Дык аб гэтым?

Рыгор пацяў плячыма.

— Не тое, каб аб ёй самой, але, ведаеш, разбіліся планы. Мацеры колькі часу не пісана, — тая гіне ад невядомасці аба мне, адна, без грошай, старая… Далей… Усё ж не тое, як бы на волі Наталя заставалася. Зразумела… Ну але… Вось як бы звязацца з ёю?

Ромусю паказалася гэта простаю рэччу.

— Гэта ўладзім.

— Разумееш, пісьмо ці паспела напісаць — вось цікава.

— А ўжо тады разведаеш…

Ромусь адышоў ад Рыгора, а той яшчэ доўга бавіўся над вырашэннем розных пытанняў, якія былі звязаны з арыштам Наталі.

На прагулцы Рыгор цэлых дваццаць хвілін раскідаў узрокамі па двары астрога, заглядаючы ў бок яго кабечае палавіны. Прыкмячаў нейкія незнаёмыя твары — разабраць было нельга: глядзеў вартаўнічы. Планаваў, як і што ды калі выпадзе тая магчымасць перакінуцца з Наталяю словам-другім. Падышло жаданне, каб хаця яна была тут, у астрозе, а не ў іншым месцы. Але прагулка кончылася, і Рыгор нічога не мог праведаць пра Наталю. Тады яму асталося адно — чакаць абеду, авось прыйдуць сякія-такія весткі аб ёй. На гэтым крыху супакоіўся.

Час, які аддзяляў прагулку ад абеду, прайшоў незаўважна. Рыгор увязаўся ў новую гутарку з таварышамі і дайшоў да самага гострага пытання, калі пастукалі ў дзверы камеры. Ён першым падбег да аконца, каб паглядзець, які з надзіраццеляў прынёс абед. Угледзеў — як заўжды, той, што кожны дзень прыносіў гэтымі днямі. Абнадзеіўся. Не адыходзячы, пастаяў каля дзвярэй, пакуль большасць таварышаў атрымала абед. Затым падышоў сам і запытаў у надзіраццеля:

— Ці няма мне чаго-колечы з волі?

Надзірацель прывычным спосабам перадаў пакецік у знаёмай паперы. Рыгор прасунуў руку, дастаў яго ад надзіраццеля і, забыўшыся пра яду, развярнуў. Між іншымі гасцінцамі ляжалі запіска і пісьмо. Узрадаваўся, не прыглядаючыся да характару, і хутчэй жа прыняўся чытаць.

«Даражэнькі Рыгор! Выбачай, што я гэтак доўга не давала аб сабе ніякае весткі. Ты, пэўна, думаў, што я выпадкам сустрэлася і выпадкам згінула з твайго вокагляду».

«У чым справа?» — пацікавіўся Рыгор, заінтрыгаваны першымі словамі пісьма. Не сцярпеў і пашукаў подпісу. Стаяла: «Ганна».

«Ганна!» — насцаражыўся ён. І з нейкай надзвычайнай цікавасцю, з захапленнем пачаў чытаць, зноў спачатку, слова ў слова. Не адгінаючыся, прачытаў раз, пасля другі, усё не даводзячы сабе ясна, як і што гэта магло стацца…

«Даведалася, што з табою зрабілася бяда, і, паверыш, тры дні не магла прыйсці ў сябе, супакоіцца. Патраціла колькі сілы і старанняў, пакуль змагла знайсці ходы, каб перадаць табе гэты лісток. Не ведаю, ці пападзе ён табе, хоць і пэўная асоба ўзялася зрабіць гэта… Скажу, што цяпер я адна, маці мая памёрла. Хоць наша спатканне балюча адбілася і на мне і на маёй нябожчыцы мацеры, але… Ох, як бы рада была з табою ўгледзецца! Ці маеш надзею? Адрас стары…»

Прачытаў і доўгі час пісьмо трымаў у руках, прыслухоўваўся да нечага асаблівага, на што ў акольных абставінах не было жаднага намёку.

А перад вачыма няслося кінематаграфічнаю стужкаю ў бясконцых варыяцыях: Сілцы, маці, Ліцк, Сёмка, Ганна, Рыга, Зося, Наталя. Адно другое пераганяла, мяшалася, злівалася, драбілася, нікла на момант, пасля паўставала — радаснае, бесклапотнае, рэзвае, пяючае.

— Чуеш, Рыгор! — перабіў яго Ромусь. — Яда астыла. Еш хутчэй, пакінь думаць. — І тут жа сур’ёзна дабавіў: — Пайшлі

чуткі, што нас з табой маюцца выслаць у тваю губерню пад надзор паліцыі.

— Хто сказаў?

— Нашы гавораць!

— Няўжо?

І Рыгор прыняўся абедаць.

А Ганна не выходзіла з думак.

V

Вяселле ў Берагаў-Прыдатных скончылася на чацвёрты дзень вечарам. Як вадзілася ў Сілцах, яно было запіта півам, ды добра запіта. З палудня да гадзіны дзясятае ходырам хадзіла Пінева карчма. Скокі і песні, пацалункі і абяцанкі, пахвальба і зняважанне — нямоўчна напаўнялі пракіслую гэтым трункам карчомку. Не падавалася ніякага выгляду на тое, якое здарэнне справодзіла на другі дзень вяселле. Запіваўся звычай, па якім уваходзіла маладая ў мужавую сям'ю работніцаю і сем'янінам, прывязаным крэпка і шчыльна. Сваты і свахі дарылі адны другіх рознымі пажаданнямі; зычылі маладым доўгага і шчаснага жыцця. Нельга было знадворку ў гэтым вяселлі прагледзець нічога такога, што б вяшчала тыя ці іншыя шурпатасці ў будучым жыцці маладых. Нават, здавалася, і Зося адкінула ад сябе хмурыя роздумы ды больш рэзка глядзела на рэчы. Перагаворвалася з Волькаю, з Гэляю, паказвала пальцам на мацярок ды на вясёлага, захопленага ігрышчам Васіля…

Аднак, ужо назаўтра, калі новы дзень устаў перад Зосяю ў звыклай сваёй будзёншчыне, яна пачула сябе сціснутаю. Трэба было пачынаць новае жыццё, у новых абставінах, з людзьмі, да якіх далёка яшчэ не прывыкла да гэтага часу. Гаспадарка мужа, як кожная гаспадарка ў часы жніва, вымагала да сябе ўвагі, працы. Нельга было раздумваць ды прыглядацца. Зося ведала гэта. Але тупала па хаце, нясмела пазіраючы ў куты і не ведаючы, за вошта і як узяцца. Тым болей што Тадося, свякроў, хапалася за ўсё сама: і ў печы паліла, і цяляці траву выбягала падкідаць, і давала распараджэнні Васілю. На нявестку ж, ці сумысня, ці з нядбаласці, мэрам бы не патурала; хоць нельга было не прымеціць, як колкія ўзрокі старое накіроўваліся на Зосю ды ганяліся за ёю, куды яна тупала.

Гэтак мінуў дзень, другі, трэці. У хаце Берагаў адчувалася нейкая нацягнутасць. Тадося не падавалася на размову, як бы знарок вытрымоўваючы сур'ёзны нораў сапраўднае свякрові.

Васіль чамусьці маўчаў таксама, мэрам бы адчуваючы якуюсьці няёмкасць не то за мацеру, не то за самае вяселле. Зося старалася абмінуць гэта тым, што выходзіла з хаты, ці ў траву ідучы, ці адносячы да каваля сярпы ў точку, ці забягаючы да сваіх бацькоў. Вечарамі надыходзіла Марта ў даведкі і ўжо гэтым паднімала тую ці іншую разнастайнасць настрою. У гэтыя хвіліны Зося развязвала язык, умешвалася ў гутарку мацярок, але пільна адводзіла кожнае слова, калі яно хілілася крануць іх, Зосі з Васілём, сямейнага жыцця. Яна адчувала і прадбачыла, што ўсякая неасцярога запляцецца свякроўю ў лычка і пасля разбэрсаецца ў Зосін бок.

А што Тадося запляла лычкі, відаць было ўсім, найлепш самой Зосі. Так і чулася ў хаце — старая несупынна намякала на сваю волю ды на сваё кіраўніцтва і верхаводства; кожны паварот, кожны намёк ці ківок галавы — Зося дзень за днём ляпей падмячала — казалі за гэта. Можна было і трэба было чакаць ад Тадосі прызнання ў гэтым. Муха-заваруха — і бура ў хаце.

На пяты дзень, аўторкам, гэты выпадак здарыўся. У абед, надало ліха, якраз на кладцы праз рэчку, блізка Берагавай хаты, схапіцца Зосінаму бацьку з Марцэлькаю Цюркаю: як прымха якая, ды годзі! Мікола злавіў Марцэльчынага хлапчука на прыпасе каня і насцягаў пугаю. З плачам хлопец паскардзіўся мацеры, а тая — хто яе не ведаў у Сілцах! — пайшла лаяцца да хаты Прыдатных. Сустрэліся, аднак, на кладцы, і тутака ж Марцэлька рассыпалася на Міколу градам лаянкі ды кляцьбы. Пайшлі ў зварот дзяды і прадзеды, сваякі ды раднякі і… Зося. Марцэлька, пераказваючы дзясятак разоў, бессаромна перад сабранымі людзьмі ўспамінала Лужкі, складаючы гэта слова на розны лад, на розны манер.

А Тадосі якраз выпала быць сведкаю — чутно з хаты. Яна не ведала, дзе дзецца, слухаючы атэстацыю сваёй нявестцы. Чырванела, звярэла, стаючы наўздалёк, а ліхі голас паддаваў ёй нездаволення і злосці да Зосі. Беражысе рабілася неўцярпёж, каб хутчэй падышоў той вечар і вярнулася з поля нявестка, — а тады яна дасць ёй жаху…

І вось, толькі Зося пераступіла парог у сенцы, незнарок праліўшы кацялок вады, як Тадося выскачыла з хаты і з лямантам накінулася на нявестку. Пачала лаяць з апошняга слова, глуміць і паскудзіць, трасучы кулакамі над Зосяю. Гразілася адучыць — немаведама ад чаго і што, зрабіць паслухмянай… а далей дайшла да пагрозы — выгнаць з хаты.

— На якое ліха ты прыплялася сюды? — крычала Тадося, шастаючы з хаты ў сенцы ды назад. — Гэта ж у зямлю жывой трэба лезці, чуючы гэткія штукі… Перадлюдна гэткія рэчы выкладаць! Апаганіла ты і Васіля і нас усіх… Усе людзі на воку… Па аколіцах пойдзе… Падума-аць… Нявестка…

Зося маўчала, крапілася, а на сэрцы бегалі мурашкі. Кіпела роспаччу, як горан агнём. Нарэшце не стрымалася, кінула хату і пабегла да сваіх бацькоў. Але гэта яшчэ больш падліло масла ў агонь: хвілін праз дваццаць прыбег па яе Васіль, настроены, падбухтораны мацерою, і бессаромна пачаў упікаць яе ў вачах бацькоў. Тыя ўступіліся за дачку, пачалі сунімаць зяця, угаворваць, разуважаць… Куды там! Усё ж, дайшоўшы дамоў, Васіль вярнуўся назад да лаянкі і разам з мацерою доўгі час грыз Зосю. Толькі надышоўшы Хлор разрэдзіў паветра.

— Ці варта гоман паднімаць! Брахуха гэтая ліха ведае чаго напляце, ці ж браць да сэрца? Цудныя вы!..

— Дарма не будзе казаць…

— Га-а! Веданая ўжо штучка… Дурны Мікола, што чапаўся з гэтаю яшчарыцаю. Хай яе добрыя людзі не знаюць… Або адрэжаш ёй язык?..

Зося скарыстала выпадак і ўпікнула свякроў:

— Ёй хочацца крычаць: скора цяжкаю стала…

— Маўчы-і… — не ўтрымалася Тадося.

Хлор супыніў братавую, дапомніў ранейшую думку, што не варта самім падаграваць справы з-за мінулага, і папрасіў надалей не сарамаціцца перад людзьмі.

— Вы думаеце што, — людзям на руку будзе. Пачні на кожную брахню адгуквацца — сцерпу не хопіць. Вось калі…

Васіль слухаў дзядзьку, але на гэты раз і яго дзядзькавы словы не праймалі: цвёрды, мулкі камячок злосці і недавер'я к жонцы ўсё бліжэй падбіраўся да сэрца, рос, брыняў і жадаў моманту лопнуць зверскім нездаваленнем на Зосю… Сумныя ўзрокі, што пасылаў ён да яе, сведчылі аб тым…

Сведчылі і дапаміналі Зосі аб нядобрым, але — невядомая сіла цягнула яе кудысь далёка, у шэрае наступнае, адкуль выглядала здань незабытага, памятнага Рыгора.

## VI

Жніво! Гэтым годам яно спазнілася дзён на восем. Але гэта не адбілася на яго харастве, на прыгажосці гармоніі працы, уядранай спелым залатым жытам. Роўная цёплая пагода спрыяла

Сілцам. Думалі сілцоўцы, што дажджы, пайшоўшы пасля касьбы, захопяць жніво. Трапяталі, пазіралі ўгору — калі пяройдуць гнедыя хмаркі з захаду.

Так не ў пару, так не ў пару! Жыта пагінае каласы, жыта просіцца на серп. Роўнядзь ніў не пачарніла б золата іржою прахостаў. Няўжо не выпадзе так, каб хоць на тыдні два сплыў полаг хмар, выглянула сонца, у жніўні яшчэ не халоднае, і людзі адсвяткавалі ўрачыстасць жніва. Хоць бы маленькая прыкмета — усміхнулася неба сінім лазуркам, выпусціла праменьчык сонца! Хоць бы! Вечарам, на змроку, калі жабы ў рэчцы завялі свой карагод, не паказвала на пагоду: імжэла, церусіла па руні лістоў.

Так не ў пару, так не ў пару дажджы!

Але раніца, ранняя раніца прынясла надзеі. Ужо апоўначы хмары сталі радзейшымі, а к усходу сонца яны парваліся на кавалачкі, распаўзліся па белаватай сіні паземаў і выпусцілі першы сонечны промень. Які быў ён чулы! Пралез у тысячы вокан, апаў на тысячы вачэй, падняў, узварушыў, закалыхаў Сілцамі. Мястэчкам пранёслася творчая завіруха: высыпалі з хат старыя, малыя, мужчыны, кабеты. Як па камандзе, зачынялі вешніцы, запіралі дзверы і з падводамі ды пешкам спяшылі да жытніх палеткаў. Мэрам бы хтосьці іх зваў на бяседу, на ўрачыстасць: уподбег, не азіраючыся, падкасаўшы порткі, падаткнуўшы спадніцы, моўчкі, з прагнымі ўзрокамі, шнуравалі перавулкамі, вулічкамі, сцежкамі, мяжынкамі. У белых сарочках, быццам на таінства якое! Чорнымі дужкамі — сімвал працы — перацінalі спіны вострыя сярпы.

Сілцы перабіраліся ў поле. Сілцы заціхалі, каб посвіст сярпоў ды шалясценне жыта даходзілі да расчыненых гумен, да падсушаных такоў. Рэдкія асобы заставаліся пры хатах: дзе бабулька старая з дзіцём, дзе нядужы дзядок. А то бегалі падсвінакі па дварах, узляталі на платы куры — і годзі. Жніво! Прыпар! Час, якому няма роўнага ў годзе. Пара, калі жытнія каласы ўбіраюцца думкамі селяніна, як новаю красою, жаўцеюць надзеяй… Жыта — хлебароб: чародны пераплёт жыцця, злука прыроды з чалавекам!

Вось шырокае палатно жытніх ніў. Як вокам акінуць, цягнуцца яны далёка к лесу, за ўзгорак. Глядзець упапярок — злітны, суцэльны! Дзе тая прымета затрачанай працы кожнага працаўніка! Але роўныя ніткі-межы ўдаўжкі рэжуць цэлы кусок на вузкія шнуркі-палоскі. Многа іх выразана з гэтага палатна. І кожная палоска з далёкага далёку, з дому, заве да сябе гаспадара…

Сыходзяць жанцы з дарожак ды сцежак, раўняюцца з нівамі і гінуць за яго густою высокаю сцяною. Гэтак птушкі, ападаючы на зямлю, рассыпаюцца ў шчэці травы, знікаючы з вачэй у вадгоне ад цябе. Падыходзіш бліжэй — яны вось тут, вунь дзе: рухаюць, трапечуцца, — то іх праца за крупінку хлеба. І жанцы: па адным, па два каля палоскі, у радок, ад краю сценкі прыпыняюцца, паглядаюць на сонца і пачынаюць працу — жаць. Як жрацы перад алтаром, белым ланцугом, паяднанаю воляю, агульным жаданнем, супольным пачуццём нахіляюцца да жыта, махаючы сярпамі. Памерна, як адзін, злучанымі махамі рук, падобным аднаму згібам плеч, стройным замахам сярпа — жнуць. Жнуць? Мэрам бы перлы збіраюць з вясёлымі песнямі. Няхай ніжа сонца стрэламі праменняў іх скручаныя ў дугу спіны і шырокімі рагамі гоніць пот па ўсім целе — няцяжка, пяюць. Жыта кладзецца роўным простам; гострыя іржакі пазадзе. Умалотнае? Гоны сажнуць — лічацца снапы: колькі іх? Будуць вязацца, будуць у мэндлі складацца — будуць лічыцца. А сонца толькі-толькі падбіраецца к палудню. Вось яшчэ больш прыпячэ! Не відаць хмурынкі. Сышлі яны ранкам з паземаў, адчыніўшы сінія шыры неба. Як не радавацца, жнучы спелае жыта, як не пяяць! І над золатам каласоў і над простам снапоў лунае песня. З ёю грае перапёлка — там у жыце шнайдарыць. Любіць яго пах, любіць гушчэчу цырбуноў. Хутка-хутка мінецца гэта роскаш — перапёлка шкадуе. Шкадуе і жаўтабрушка — не будзе сховы ў непагоду. А шпакі кучамі пралятаюць над жанцамі, чуюць высыпаныя зярняты. Ападуць у іржышчы і, мэрам тыя жанцы, захопяць палоску, прабягуць ёю і збяруць зярняты. Сядуць яны ў бабкі — няхай толькі звяжуць жанцы.

Перад вечарам пачынаюць вязаць. Паднімаецца жыта снапамі, у пояс падпяразанымі. Растуць мэндлі роўнымі нізкімі крыжыкамі. Паглядзіш, як салдаты. Доўгі цень уцякае ад жанцоў: вада астудзіць смагу. Вада! І яна сагрэлася ў баклажках пад лахманамі, пад жытам. Колькі ні цадзі — хочацца болей. Полудзень апаражніў чуць не да дна — астача, як луг. А піць — няма рады. Здэцца, халадней, і лунь закурыўся над поплавам, а смага пячэ. Чуваць — шчыміць спіна ды ломіць рукі. Вось ужо дзесяць гадзін працы. Якое гала іржышча, колькі бабак настаўлена! Можа, годзе? Ой, не! Гэткі дзень, гэткая пагода! Што заўтра будзе? Трэба жаць — няхай мінае дванаццаць гадзін, няхай прыйдзе трынаццатая… Вельмі ўжо сонца міла глядзіць, вельмі ўжо жыта соладка пахне, пекна так свішчуць каласы.

А жыта, жыта — з залатога на чырвонае змянілася. Зіхаціць, пераліваецца. Як яго не жаць, не збіраць у снапы! Зажын, зажын, зажын… Трое жмень. Трое жмень, а там і гоны…

Ды ці ўсё ж зжаць у адзін дзень? Жанцы, надыходзіць змрок! Пакіньце сілы на заўтра! За жытам спее ячмень ды авёс. Жніва хопіць на тыдзень, на два! Толькі б старанне, толькі б ахвота!.. Праца любіць адпачынак…

Ведаюць жанцы. Адыходзяць ад жыта, выпростваюцца. Збіраюць клумкі, парожнія баклажкі і глякі. Мацяркі — калыскі з дзяцьмі… Ізноў на сценкі, на дарожкі, на сцяжынкі. Шнурочкамі — у Сілцы. Нагараваліся? Пэўна! Але пяюць мэрам і ранкам. Рогат і гукі. Пучкі зажыну ўбіраюць іх постаці. Чыстае паветра ловіць іх, даючы волю ляцець далёка к лесу, у даліну.

Пакуль пяюць жанцы, маўчаць іншыя песні, песні калёс. Скора-скора загрукаюць яны па каменнях, паднімаючы пыл і везучы поўныя вазы снапоў. Скора! Хай толькі падсохне жыта, хай прагучаць першыя песні жанцоў… Пакуль — першыня; жыта не ўвассала патрэбнага цяпла. Зерне не ўвайшло ў сілу. Пасвеціць сонца сем-восем дзён, сцісне зярняты, згоніць вільгаць — уверана кладзі ў стоўп. Знятае з караня — жыта маладое, набрынялы колас. І песня жанцоў — маладая. Першы дзень — зажынкі. Жытні водар бадзёрыць жанцоў, калышучы радасным сэрцам. Няхай сабе не відаць канца палосак і недалёка ад іх жаўцеюць іншыя — з ярыною, — праца лічыцца зажынкамі. Весела лунаюць зацяжныя матывы; нясуцца далёка поверхам жытніх каласоў. Вось прыедуць фурманкі — будуць паражніць нівы. Зжатае жыта паедзе ў сховы, а голае іржышча будзе пустым галам выглядаць. Тады пакажа сваю здань блізкая восень. А пакуль — першыня. Таму так голасна зычаць свежыя галасы жанцоў, так спора ідзе жніво, так многа зжата за дзень! Першыня…

## VII

Быў полудзень трэцяга дня жніва. На пожні ў двух месцах стаялі грамадкі сілцоўцаў і ўголас абгаворвалі здарэнне, якое адбылося на іх вачах. Васіль сіберна, бязлітасна наздзекаваўся з Зосі. Каб не абаранілі яе, падаспеўшы к часу, Сёмка з Хірысонам Пузам, скалечыў бы маладзіцу. За вошта? З якое прычыны? Аб гэтым судзілі дваяка: там, дзе грамадка складалася з Сёмкі, Петруся і некалькі іншых, вінавацілі Васіля. Наадварот, у другой грамадцы адказнасць усклалі на Зосю. Сёмка расказваў:

— Паверыце, ледзьве з рук адабраў. Каб Хірысон не пасабіў, не даў бы рады. Ушчаперыўся, як клешч, і неміласэрна б'е кулаком па чым папала. Азвярэў, запеніўся.

— А за вошта ён?

— Не ведаеце гэтае заразы! Прыстаў да Зосі, каб тая прызналася… бач, каб упэўніла яго, што не мае ніякіх зносін з Рыгорам. Нехта набаяў, быццам бы Рыгор ёй піша пісьмы, яна адпісвае і гэткім чынам падводзіць яго, мужа, здраджвае. Нагаварылі пра Лужкі, пра… ліха ведае што.

— Ці можна дурнейшае прыдумаць?!

— Вось то-та ж!

— І за гэта перадлюдна так біць кабету!

— Непрытомны…

— Пэўна, маці пад'южыла. Тая ж, як ведзьма, увесь час. Кажуць, нібы ад вяселля яшчэ з Зосяю слова не прамовіла.

— Можа быць…

— Міколка ўлез, няма чаго казаць…

Адначасна ў другой грамадцы, дзе быў Васіль, яго дзядзька Хлор, старшыніха і блізкія Берагаў, судзілі Зосю.

Тадося бессаромна крычала:

— Хай бы яна ўзяла сабе на розум, што так няможна, дык не. Тыя яе падбіваюць, а яна слухае. Што ж, гэта ласне можна цярпець? Навошта ж гэткая жонка? Да чаго тое вяселле было спраўляць?

— Кажаш ёй, а яна наперакор табе. «Пішу, ну, што ты мне зробіш», — скардзіўся Васіль. — Проста не сцярпець…

Хлор варушыў плячыма, верыў і сумляваўся, але дапускаў, што Васілю, напэўна, Зося здорава дадзела.

Старшыніха бачыла ў гэтым цэлую змову, куды Зосю ўцягнулі Сёмка, Пятрусь, Волька, Гэля ды іншыя.

— Можа б, яна інакшая была, каб не гэтая шайка. Усе яны ліхамысны на Васіля і стараюцца яму нашкодзіць. Чаго добрага, могуць усякае шальмоўства зрабіць: ім закон не пісаны.

Успаміналі і Рыгора. Псюк Даніла, Берагаў пасусед па полі, падбіваў Васіля, не шкадуючы слоў і плётак. І ніхто з гэтае кампаніі не прызнаў, што Васіль зрабіў дрэнна, ускалануўшы ўвесь палетак. Болей таго — гэты самы Псюк патвараў Васілю, хочучы падкрэсліць правільнасць яго паступка.

— Вось няхай ведае на другі раз… — ківаў ён пальцам у бок, куды пабегла Зося да бацькоў. — Гэтакіх гусак трэба, не шкадуючы, скубці. Вядомая рэч! Дай бабе волю — завядзе ў няволю! Не супыніш спачатку — прапала. Го-о!—- Пасля адварочваўся

ў бок, дзе стаялі прыхільнікі Зосі, і лаяў Сёмку:—Яшчэ гэтая заноза патрабуе добрых бацугоў… Баламуціць моладзь…

— На добры лад, трэба было, як падбег ён бараніць, кінуць Зосю ды заплiскаю па ім…

— А я б гэта зрабіў, каб к часу падбег, — хваліўся Хлор. — Што-што, а гэтага нельга цярпець. Якое ім дзела, сукіны дзеці?..

Абгавор здарэння заняў каля гадзіны часу. Пасля па адным жанцы разышліся, і ізноў пачалося жніво, як і першыя дні, з песнямі ды выгукамі жанцоў. Толькі больш цікавыя азіраліся ў бок Берагавае палоскі, сочачы, ці не вярнулася Зося ад бацькоў. Але мінаў час, а Зося не вярталася; і гэта абяцала далейшае развіццё здарэння, ужо ў саміх Сілцах. Дагадваліся і судзілі, каму была ахвота, як і што гэта здарэнне развернецца, хто возьме верх, чым яно кончыцца. Рыгор уплятаўся ў яго з усіх бакоў, мэрам бы ён прысутнічаў дзесь недалёка — мо ў Сілцах, а мо і ў жытнім палетку. Сёмка асабліва думаў пра таварыша, прагнучы хутчэй паведаміць Рыгору ў пісьме аб Зосіным жыцці. Ён на гэты раз сам пачаў спагадаць, чаму сапраўды Рыгор не змог вывесці Зосю з гэткае напасці. «Можа, і вінаваты», — судзіў ён. І дапускаў мажлівасць напомніць Рыгору аб гэтых сваіх вывадах…

Наогул, для ўсіх гэты дзень канчаўся пад уражаннем адыгранага Васілём Берагам спектакля. Аб ім дапаміналі і ўзгоркі на пожні, і кусцікі здзічэлых ігрушак на Берагавай паласе, і гняды конь, што таптауся недалёчка. Многія пранеслі б яго ў Сілцы, дзе, магло стацца, дзеі ў тым ці іншым выглядзе паўторацца.

Але новы выпадак адцягнуў увагу сілцоўцаў ад Берагаў, ад Зосі, ад таго здарзння, у якім яны мелі галоўныя ролі.

Ужо выходзілі жанцы вузкімі межкамі на дарогу, вяртаючыся дахаты; ужо песні працы падніміліся з белым лунем над паплавамі, як з-пад Сілцоў паказалася трое коннікаў. Шнурком, адзін за другім, яны гацалі насустрач жанцам. Падсохлая зямля курэла ззаду коней, затуляючы пылам чырвоны промень на захадзе.

Спярша мала хто з жанцоў зацікавіўся коннікамі — мала хто едзе! А калі яны сталі падбліжацца, многім стала рупіць: стражнікі, пэўна.

Волька ішла пярэдняю і паказала, адвярнуўшыся да ўсіх:

— Стражнікі!.. Няўжо-то Мікола Прыдатны паспеў данесці наконт Зосі?

Жанцы кінулі пяяць. Раз-поразу пачалі азірацца вакола, стараючыся выгледзець, дзе і што ў гэту хвіліну Васіль Бераг. Зацішылі хаду, каб быць сведкаю, што з гэтага выйдзе. То ішлі гуськом, а то сталі збівацца ў кучу.

Праз некалькі хвілін тыя пад’ехалі.

— Сёмка Хведараў Загон, хто тут? — супыніўшы коні, запыталі двое з іх у Вольчынага бацькі, які абмінуў жанцоў, каб ісці дамоў.

— Сёмка Хведараў? Не ведаю! — адказаў той і зрабіў шаг наперад; пасля схапіўся і запытаў: — А для чаго ён вам?

— Патрэбен, — адказалі стражнікі і праехалі далей.

У чым справа — ніхто пэўна не ведаў, але кожны з жанцоў дагадваўся, што тут няма нічога супольнага ні з Васілём, ні з Зосяю. Ва ўсіх напрошвалася думка, што Сёмка звязаны з паліцыяй зусім інакшымі справамі, якія мала каму ў Сілцах невядомы. Гэта інтрыгавала сілцоўцаў, якія забыліся аб тым, што можа быць у Берагаў, што наогул трэба ісці дамоў, каб павячэраць ды лажыцца супачыць, а стаялі ў грамадзе, судзячы і пільнуючы, чым усё кончыцца.

І вось на працягу паўгадзіны часу яны былі сведкамі, як стражнікі адшукалі Сёмку, пасобілі яму запрагчы каня і пад канвоем паехалі з ім другою сценкаю да Сілцоў.

— Няўжо арыштавалі? — праводзілі іх трывожныя запытанні жанцоў.

Многія застанаўляліся на гэтай думцы, дадаючы:

— А-ай-яй! У самы прыпар забяруць ад бацькоў гэткага працаўніка!

Берагі, Псюкі, Крумкі і некаторыя іншыя іх пакрою паціралі рукі, забыўшы пра Зосю.

А Волька, напалоханая, праслязілася…

Жанцы спяшылі ў Сілцы, несучы трывогу.

## VIII

Назаўтра выяснілася, у чым справа.

Сёмку забралі так экстрана на допыты згодна спешнага «прадпісання» Ліцкага спраўніка прыставу «дапрасіць Сямёна Хведаравага Загона, які мае сувязь з Рыгорам Міхасёвым Нязвычным і іншымі асобамі, заарыштаванымі ў гор. Рызе, па справе іх належнасці да патайнага таварыства, якое становіць сваёю мэтаю» і г. д. Улікаю быў ліст да яго, адрасаваны Наталяю па просьбе Рыгора. Гэта выяснілася на допытах, якія, аднак, не кончыліся дрэнным для Сёмкі. Сёмка спрытна адказаў на ўсе запытанні прystава і быў адпушчаны пад распіску нікуды не выязджаць з Сілцоў. Справа выходзіла не гэткаю страшнаю, як аб тым можна было думаць і чакаць перад гэтым. Шуканне

Сёмкі ў полі, незадоўга да таго, як вось-вось ён мог быць дома, далей — справоджанне яго трыма ўзброенымі стражнікамі сапраўды наводзіла на ўсялякія гутаркі. Тым болей што дэмакрацтва яго было не таямніцай для большасці сілцоўцаў. Магло быць, станавы атрымаў загад з павету, а можа, і па свайму пачыну рашыў злавіць Сёмку ў полі, каб менш бачыла людзей, і адправіць туды, куды ўжо быў адпраўлены Віктар Стаўбун, Хаім Крупнік і іншыя. Не дзіва, што многія, бачачы гэта, выказваліся так: «Нарэшце не ўцалеў і Сёмка. Цярпелі, цярпелі і пасля заарыштавалі». Або: «Ізноў пачынаецца — многім хлопцам нездабраваць будзе».

Ну, а бацькі Сёмкі, дык тыя дашчэнту перапалохаліся, толькі ўгледзелі ў двары стражнікаў. У іх не было іншай думкі, апроч тае, што іх Сёмка папаў у добрую пастку. І бацька і маці бегалі па некалькі разоў з дому на рынак, абураныя роспаччу, радзіліся з людзьмі, як і што ім рабіць. Ніхто не спадзяваўся, што справа кончыцца зваротам Сёмкі гэтым жа вечарам, хоць і позна, дадому. Бацькі пасля не верылі сваім вачам, настолькі былі запэўнены ў нядобрым скутку… Вось чаму назаўтра зранку, толькі Сёмка выйшаў на вуліцу, каб звычайным чынам ісці ў поле, да яго падыходзілі сілцоўцы, мужчыны і кабеты, цікавячыся і пытаючы, чаму і навошта яго з гэткім шоламам вадзілі да станавога. Сёмка выдумаў адзін адказ, якім і збываўся. Ён казаў, што яго выклікалі з-за справы Віктара, над якім паведзена новае следства наконт аслабанення. Гэта было сказана і бацькам. Сутнасці справы ён не хацеў адкрываць, па-першае, каб не даведалася Стэпа Нязвычніха, па-другое, каб не ўзрадаваць непрыяцеляў Рыгора. Толькі таварышам — Петрусю, спаткаўшы на дарозе ў полі, Сролю ды яшчэ аднаму з іх, што прыйшлі да Сёмкі на поле, ён перадаў сапраўдны сэнс яго позвы да станавога. З гэтымі таварышамі Сёмка падрабязна абгаварыў выпадак з сабою. Усіх іх, асабліва самога Сёмку, вельмі дзівіла тое, як і што здарылася ў Рызе; што да паліцыі папала пісьмо, ды пісьмо Наталі. Ён дагадваўся і выказваў свае дагадкі таварышам, што, напэўна, пісьмо было перахоплена, і ні ў якім разе не дапускаў, каб яно было гэтак, як яно сапраўды было. У кожным разе паведамленне Сёмкі таварышам надаўміла ім многае. Асабліва паказным было адабранне ад Сёмкі падпіскі не адлучацца з Сілцоў. Гэта сведчыла, што справа не скончана, што ў любы момант паліцыя можа паклікаць да сябе не аднаго Сёмку, а многіх з іх… Усе згадзіліся на тое, каб быць гатовымі на ўсякі выпадак, а Петрусю парадзілі адлажыць свой ад’езд на нейкі час — не так кінецца ў

вочы, не дасць выгляду, нібы ідуць уцёкі… Нарэшце, усё ж, калі Сроль варочаўся ў Сілцы, Сёмка пастараўся загладзіць першае ўражанне, якое атрымалі таварышы, ён паказаў сябе перад імі пераконаным у несур'ёзнасць справы. «Мала што: мне здаецца, што ўсё скончыцца добра». Самому, вядома, рупіла, і ён, цэлы дзень працуючы, быў заняты гэтым. Займала Сёмку болей усяго адно: чаму выйшла ў Рыгора гэткая неасцярога, што ён даручыў дзяўчыне пісаць яму, Сёмку, пісьмо. У гэтым Сёмка падглядаў залішнюю давернасць з боку Рыгора. Разам з гэтым у Сёмкавым разуменні не магло змясціцца, каб то Рыгор сам мог дазволіць, пэўна, безгрунтоўнай асобе вясці ад яго імя перапіску. Але магло здарыцца зусім іншае, чаго нельга адгадаць, не быўшы на месцы. У кожным разе атрымалася штосьці непрыемнае, над чым не шкодзіла падумаць.

Бацькі Сёмкі падмячалі сынаву маўклівасць і канчаткова не маглі супакоіцца. Бацька два разы правяраў Сёмку, але кожны раз Сёмка трымаўся адных слоў, разважаючы бацькоў:

— Не думайце больш, чым было. Нічога страшнага. Мала каго аб чым пытаюць…

— Ты не тойся ад мяне, — настойваў бацька, — калі тут датыркае Рыгора, то я Стэпе не скажу…

Западозрываў гэта Сёмкаў бацька, Хведар, па адной прычыне: па адсутнасці ліста ад Рыгора к мацеры. Ведаючы яго добра за хлопца харошага, руплівага, Хведар яшчэ раней меў гэта на думцы, але Стэпе не выказваў яе, а Сёмку не было выпадку яе выказаць. Пасля ж таго, што адбылося, непатрэбна было хаваць, і Хведар абыходзіўся з ёю вальней.

Адчуваючы гэта, Сёмка пераймаў бацьку:

— З якой рацыі гэта будзе звязана з Рыгорам? Дзе ён, а дзе я! Тым болей, газеты даводзяць, што забастоўка ў Рызе меншае, ападае. Гэта Стэпе думаецца розна…

— Хто б мог падумаць, калі ад Рыгора колькі часу — як жаднае весткі.

— Колькі там часу! Бывае, год цэлы чалавек не піша пісьма…

— То не без прычыны.

— Гледзячы як…

Хведар маўчаў, не тое каб не верачы сыну, а не маючы сілы перамагчы рупнасць, якую выклікаў дапрос Сёмкі.

І вечарам, калі яны, вярнуўшыся з поля, вячэралі, а прыйшлі Стэпа і Волька, каб ад сябе выпытаць у Сёмкі пра ўчарашняе, Хведар некалькі разоў паўтараў:

— Вы думаеце, што нойдзеш у ім лад: кажа, нібы тут зусім пусцяковая справа, ды справа, не звязаная з Рыгорам.

— А мне ўсё думаецца, мае даражэнькія, што тутака прыплецены Рыгор. Гэта ж падумаць, колькі часу ўжо вестак ніякіх, — сумнявалася Стэпа.

Волька суцяшала Стэпу, шчыра ўгаворваючы цётку не трывожыцца, хоць сама яшчэ не адышла ад сполаху, які навеяў выпадак з Сёмкам.

— Нельга, здаецца, і думкі дапусціць, — казала яна, — каб там з Рыгорам што-колечы ніякаватае здарылася. Рыгор не гэткі прастак, — ён многіх абыдзе з усіх бакоў.

— Усё бывае, дачушка. У свеце, як у катле, варыцца ўсё, кіпіць. На чужыне — не дома.

— Ды цяпер ручыць нельга, — казаў Хведар, пазіраючы ў міску.

А Сёмка сачыў за бацькам, каб той не пераказаў пры Стэпе тых думак, якія надоечы выказваў яму.

— Бачыце — факт. Ажно траіх стражнікаў выправадзілі за адным Сёмкам. Увесь час ціха, нідзе нічога, а тут цэлы крымінал.

Аднак праз усю гутарку, якая працягнулася каля гадзіны, Сёмкаў бацька не выйшаў за рамкі і нічога падазронага наконт Рыгора не выказаў. Стэпа засталася з папярэднім настроем, суцяшаючы сябе самую. «Няўжо такі адно з другім звязана? Наадварот, можа, і добра, што Рыгорка не дома. Вунь чаго паспела начаўпціся тут за час яго адсутнасці», — разважала яна, вярнуўшыся дахаты.

Такім чынам Сёмку ўдалося правясці свой план, якім ён яго сабе паставіў. Апроч таварышаў, ніхто не ведаў сапраўднае прычыны яго візіту ў стан. У далейшым, ён ведаў, што гострасць ападзе, цікавасць мінецца і можна будзе бацьку паведаміць таямніцу. А пакуль — няхай астаецца пры тым, што і ўсе іншыя.

Так яно і было. Праз тыдзень, а мо дзён праз дзесяць, калі жніво пераняслося з жытніх палеткаў на яравыя, многія з тых, хто бачыў справоды Сёмкі пад канвоем трох стражнікаў, цяпер былі сведкамі позвы яго да прыстава праз сотніка Бульбушку Адама. Гэты няскрытна ад Сёмкі і яго бацькоў паведаміў, што станавы заве Сёмку да сябе распісацца. Самая цырымонія позвы праз сотніка мела куды меншы ўплыў, хоць факт таксама даў прызадумацца Загонам. Сёмка сам не дагадаўся, у чым рэч, але ішоў у стан многа смялей і спакайней папярэдняга разу. І калі ўся справа кончылася тым, што станавы зняў яго падпіску аб неадлучэнні з Сілцоў, то Сёмка палічыў мажлівым расказаць

бацьку ўсё ад пачатку да канца, аднак з умоваю ўсё ж не пасвячаць у гэта Стэпу.

## IX

Падыходзіў Багатнік. Вакол нясло восенню. У полі аставалася пакуль адна бульба. І тую пачалі капаць. Засеяная чуць не цалкам азіміна прарастала чырвоненькімі храсцікамі, гатуючы зялёную рунь. Там, дзе нядаўна жаўцела ярына ды жыта, слалася гала пожні, утаптанай гавядаю. Многія палоскі былі пазяблены, каб зямля паспела лепей перапрэць. З лясоў, пахмурнелых, а дзе пераадзетых у жоўта-чырванаватую вопратку, прылятáлі кучы шпакоў, апускаліся на свежую раллю і клапатліва бегалі па разорках. Неба ўжо засаб колькі дзён было ўслана гнедымі кіселістымі хмарамі, з якіх несціхана сачыўся драбнюткі дожджык.

Міналася палявая работа. У сілцоўцаў паварочвалі думкі і клопаты да зімы. Дровы, кастрыка, яшчэ сёе-тое для хатняга агляду — і там малацьба. Пакуль не раскісне зямля — кончыць работу з фурманкамі, а тады хай сабе гразь, снег — не страшна.

Стэпе было крыху іначай ад другіх: восень спыняла яе заработкі. Гатаванне к зіме — ёй шмат цяжэйшае, ніж другім. Дровы прыйдзецца на плячах насіць з лесу: куды ж аддасі на іх сабраны рубель-другі. Прыгодзяцца на зіму, бо нямнога высучаш кудзеляю. Ды к гэтаму — усё роўна няма чаго рабіць. Кончыцца капанне бульбы, мо хто на дзень-другі пазаве лён паслаць ці патрапаць — і таквеля. Не сядзець жа ў хаце — хопіць зімы. Пакуль ногі цягаюць, трэба рухацца хоць за чым. Тым болей што працы яна з маленства не баялася ніякай. Не палохала яе і наступная восень, досі вядомая ёй па мінулых гадах, у многім падобных на гэты…

Але адно карцела Нязвычнісе — гэта Рыгор. Ад яго ўсё яшчэ не было ніякіх вестак. Колькі ні чакала Стэпа пісьма — не магла дачакацца. Думала да ўтому, гадала, бегала пытаць рады ў Сёмкі, што ёй рабіць, як быць. Дапускала нязбыўную думку, каб паехаць самой у Рыгу і адшукаць яго, мерылася падаваць запросіны праз паліцыю. Аба ўсім паведамляла Загонаў, сына і бацьку, як бы просячы іх згоды. Сёмка здаволен быў гэтаму, суцяшаючы Стэпу ды абнадзейваючы яе пачакаць яшчэ дзянёк-другі. Але скора Сёмкавы ўгаворы сталі надакучаць ёй: яна пакідала верыць яму, злавалася, а пасля стала западозрываць. «Тут нешта нейкае ёсць, але Сёмка хітруе і стараецца абысці мяне», — думала Стэпа і радзей хадзіла да Загонаў. Затое ста-

ла наведваць Крупнікаў і ў іх распытваць. Крупнікі, занятыя сваім сынам, Хаімам, мала цікавіліся яе скаргамі, клопатам ды трывогаю. Да гэтага яны самі доўгі час не дазнаваліся прычын Сёмкавага допыту.

Але нічога няма тайнага, каб не было яўным. Патрошку-патрошку папаўзлі Сілцамі, перш невыразныя, а далей усё паўнейшыя ды паўнейшыя чуткі, што Сёмка выклікаўся да станавога па справе, якая шчыльна датыркала Рыгора Нязвычнага. Перадавалі, няведама ад каго ды што, аб арышцы Рыгора ў Рызе, аб судзе, да якога быццам бы яго пацягнулі. Чуткі — рэч каразлівая: вакол іх вырастала шмат легенд, дадавалася процьма казачнасці, і, урэшце, калі дайшлі яны нейкім чынам да Стэпы, выраслі ў цэлую агромністую гісторыю, страшную ды нечуваную. Нязвычніха была ашаломлена ёю, запалохана і першыя дні не ведала, дзе яна — на гэтым свеце, а мо пад зямлёю. Перш непрытомнаю наведала Загонаў. Плакала цэлы вечар у іх хаце, дапытвала Сёмку, не здаволілася тым, што ён дагэтуль нічога не казаў, прасіла хоць чым-колечы пасобіць.

— Можа, парадзіш, сынок, мне паехаць у Рыгу? — уваскросла з новаю сілаю незабытая думка.

— Як жа ж вы паедзеце? Што вы там праведаеце… Ды, апроч таго, вам няма ніякае патрэбы ехаць… Мала што людзі гавораць… Так вы думаеце, што і сапраўды гэткія страхі.

А Хведар Загон ад сябе разважаў Стэпу:

— Сапраўды, куды ты паедзеш? Ты ж ніякага толку не знойдзеш. Гэта табе не Сілцы, што кожны чалавек знаёмы, можа парадзіць, а то і пасобіць. Дый то, паглядзі сама, якая б магла быць мне дапамога, каб гэта майго Сёмку забралі! Адно на допыты завялі, і то я не ведаю, як і што зрабіць, а мужчына, ды дома… А ты… Не кажы, Стэпа! Што ж зробіш, свет гэтакі! Пайшоў па такім шляху — не пяроймеш, не малы хлапчук, мужчына, бачыш… Вось колькі я свайму Сёмку кажу: няхай бы ты, сынок, пасцярогся, няхай бы памаўчаў; бацькі старыя, возьмуць, чаго добрага, — што мы зробім. А ён — ні лыс… Перакананні… Хто за гэта не цярпеў. Праўда, табе цяжка гадзіцца з гэтым, але нічога не зробіш, прыходзіцца… Ты думаеш, крый чаго, вельмі страшна? Паглядзі — Стаўбуноў Віктар напісаў, што к дзядам прыедзе дадому. Яно так і будзе, пэўна…

Стэпа заспакойвалася, мэрам бы ўкалыхвалася Хведаравымі словамі, але залячыць імі выйшаўшай наповерх раны не магла. Можа, і праўду гаворыць, усё ж самая праўда не папраўляе справу.

Не ўнімалася:

— Усё яно гэтак, Хведарка, усё яно гэтак, але Рыгорка мой прапаў. Мала што могуць зрабіць з ім? Ці ж навіна, калі зводзяць са свету, у каменных мяшках гнояць, а то і губяць жывасілам… Што мне рабіць? Я не вытрываю, не пераўжыву! Парадзьце…

— Якая ж тут рада…

— Так-та вы мае лепшыя прыяцелі: добра — бягу да вас, дрэнна — таксама. Хто ж мне пасобіць, калі я адна-аднэю тут… Была надзея на Рыгорку, а цяпер і тая разляцелася дымам. Не на кім думцы спыніцца…

— Цяжка, няма чаго казаць… Але ж не звярайся…

Стэпу не ўцешылі на гэты раз, не маглі ніяк угаварыць і пасля; яна бегала па мястэчку, дамагалася папасці к аптэкару і таго папрасіць, каб пасобіў ёй, абхадзіла адвакатаў, што жылі ў Сілцах і часта бралі на сябе падобныя справы. Але тое, што Рыгор у Рызе, што падрабязна яго справа невядома нікому, нават станавому, у якога даведваліся адвакаты, перашкодзіла ўсяму. Стэпе ніхто не мог сказаць пэўнага слова. Прыяцелі Рыгора яе суцяшалі гэтак, як Загоны, а ліхамыснікі смяяліся, цешыліся, пацвільваліся. Гэта ўзмацняла Стэпін боль і мукі. Яна чула ад людзей, а колькі разоў і непасрэдна, як пацяшаліся з яе няшчасця Берагі, Крумкі ды іншыя. У іх рукі папаў добры козыр, і гэтым козырам хваліліся яны, дзе трэба, а дзе не трэба. У васобку, як Хлор Бераг або Васіль, — тыя раз-поразу дапаміналі аб гэтым Зосі, даючы ёй зразумець, што яна выратавалася праз замуж за Васіля.

Не дайшоўшы ніякага скутку, хто мог бы што зрабіць Стэпе, каб хацеў, — яна стала адыходзіць у самую сябе. Рыгора няма — на гэтым сыходзіліся Стэпіны думкі, і ад гэтага пачыналася яе жыццё. Ён стаяў перад ёю неадступна ў розных выглядах, ва ўсялякім стане, маўклівы, нежывы, недасяжны, аддзелены глыбокай канаваю. Як яно гэтак здарылася, чаму яно пайшло гэткаю дарогаю — не ў моцы Стэпінай было разгадаць. Глухі куток ціснуў яе з вакола, затуляў светагляд і аднімаў ахвоту жыць. За кароткі час яна асунулася, памізарнела, пастарэла. Кідалася кожнаму ў вочы. І больш чулыя кабеты — Лявоніха, Хведарыха, Стаўбуніха — спагадалі ёй. Выкарыстоўвалі ўсю сваю прасталюдную мудрасць, ужывалі разнастайныя довады вяковае логікі, суцяшалі.

Казалі Стэпе:

— Ну, а згадзіся, сястрыца: бывае, што памрэ чалавек. Такі ўжо лёс… Ласне другому, будзь то маці сабе, не трэба жыць?

Жывым жа ў зямлю не палезеш… Людское жыццё пастроена ўжо гэтак. Аднаму суджана да старасці пажыць, іншаму — сысці з зямлі ў самым росквіце… Нямерны жаль, роспач нялюдская, а пасля прывыкае чалавек, абжываецца, забывае…

— Альбо можна раўняць з гэткім станам цяперашні выпадак у тваім жыцці? Паглядзі, іншыя людзі па дзесяць год адбывалі пасяленне або астрог, варочаліся назад і жылі-жылі, забыўшы ўсё-ўсялякае.

— Памятаеш, паўстанцы польскія: колькі іх на пасяленне выгналі! А пасля ў некалькі гадоў паварочаліся назад, і нібыта тое. Альбо Кульдабіцкі Сымон: дзесяць год за палітыку праседзеў у Ліцкім астрозе…

— І не гэтае тутака: мо нічога зусім, а мо арышт. Вядома, у горадзе — усюды ўмяшаецца чалавек. Мо б не хацеў, а мусіш. Бо, калі не ўмяшаешся, бывае,горш выйдзе… Ці мала людзей арыштоўваюць?! А ласне яны гінуць праз гэта? Тое і з Рыгорам будзе. Ну, патрымаюць некалькі часу, калі арыштавалі, а пасля і выпусцяць… Нечакана атрымаеш ліст…

— Ды то, калі і што яно было! Можа, ужо зараз Рыгор на волі. Ласне ведама каму, як і што там робіцца? Людзям балхвіць — языкі не баляць, можна колькі хоч. Сядзяць тут, як у загарадзе, і толькі падай тую ці іншую чутку — разадзьмуць у слана. Напэўна, і з гэтым тая ж справа. Ты тут тужыш, бядуеш, а ён там — нібыта той…

Але для Стэпы аставаўся адзін факт: гэта адсутнасць пісьма. Можа б, яна ніяк не спалохалася б і таго, што Сёмку выклікалі ў паліцыю з-за Рыгора, каб ён, Рыгор, паведаміў ёй аб сабе. А то — воляй-няволяй будзеш думаць усялякую-ўсялячыну, калі ад чалавека ні чуткі, ні пагудкі. І Стэпа заставалася з адным балючым рашэннем:

— Не ўбачыцца мне з Рыгоркам!

## X

У тыдзень пасля Багатніка таварышы і знаёмыя ды суседзі праводзілі Петруся Прахорава Кліна. У суботу вечарам, 15 верасня, ён выязджаў з Сілцоў у Пецярбург. Кампанія з дзесяці чалавек, у тым ліку і Стэпа Нязвычніха, сышліся ў Прахоравай хаце і пачалі выказваць Петрусю пажаданні. Сёмка прасіў таварыша не забываць аб Сілцах і аб ім у асобку, а пісаць пісьмы, даваць весткі. Сроль хваліў Петруся за яго рашэнне няйначай пабываць у горадзе, выпрабаваць яго жыццё і сяму-таму падву-

чыцца. Хведар Загон ад сябе жадаў найлепшага жыцця на новым месцы, дапамінаючы, аднак, што нідзе не лепш, як у бацькоў. Стэпа прасіла праведаць што-колечы аб Рыгору. «Можа, адтуль ляпей дазнацца». Бацькі хадзілі нахмурана. Прахор не здаволіўся на сына і коса паглядаў на яго таварышаў; маці тапіла злосць у жаласці, тупаючы каля сына з заплаканымі вачмі. Брат і сястра Петруся глядзелі на ўсё проста: сястрыца прасіла брата прыслаць ёй гасцінца — ляльку і цукерак. Пятрусь весела адказваў:

— Праз тыдзень атрымаеш.

Ён наогул быў задаволен ад’ездам, хоць далёкая сталіца прадстаўлялася яму страшнаватай і няпэўнай. Гутарыў з таварышамі і разважаў бацькоў. У гутарках успамінаў праводзіны Рыгора і казаў:

— Убачыце, выязджаем паасобку, а прыедзем разам.

— Каб то ды было так! — спачувалі жанкі.

— Якраз будзе…

— Якім чынам? — пацікавілася Гэля.

— А такім: не знайду работы ў Пецярбургу — паеду ў Рыгу…

Сказ Петруся не то ажывіў Стэпу, не то затрывожыў яе.

— Няўжо праўду кажаш, Пятруська?

— Не хлушу.

— Насіцьме яго паветрае, — умяшаўся Прахор.

— Не кляні на дарогу, — заступілася маці.

— Мой дарагі сынок, — перабівала Стэпа, — не забудзь жа мае просьбы — даведайся аб Рыгору. Ты ж яго лепшы таварыш. Што табе каштуе гэта?

— Пэўна не забудзь, — заводзілі за Петруся Сроль ды Сёмка.

— Хаця б сам даехаў здароў! — казала Петрусёва маці, пазіраючы ў акно. — Якая пагода нецікавая і цямнота, сырасць…

І праўда, цёмная ноч не вабіла з хаты, тым болей што хатняе цяпло было крэпка нагрэта пачуццём расстання. У гэткія моманты выразней, як калі, паўстае вялікая любасць да ўсяго таго, што перад гэтым за якую хвіліну не прыкмячаецца нават; ды разам з гэтым вынікае несвядомая трывога — ці ўдасца яшчэ калі бачыць тое, што пакідаеш. Пятрусь прыпамінаў развітанне з Рыгорам, калі сам быў захоплены парывам — ехаць. Чаму яно так? Можа, таму, што гэты парыў перабіваўся адзнаннем таго, што ўсё-ткі ён астанецца дома, хоць і меў ахвоту падзяліць кампанію з Рыгорам. Цяпер жа, калі сам спаткаўся з фактам свайго ад’езду, — было іншае адчуванне. Але не быў бы ён самастойным чалавекам, каб паддаўся хвілёваму пачуццю.

А дзявятай гадзіне, толькі вывеў брацішак на двор запрэжанага каня, як Пятрусь з усімі, хто прыйшоў праводзіць, пакінуў хату.

На вуліцы развітаўся з Хведарам Загонам, Палікарам Ганкам, яшчэ з двума-трыма чалавекамі, а з іншымі пайшоў за падводаю.

Сярод гэтых іншых была і Стэпа. Яе захапіла нейкая нез'яснёная надзея, зыркая, як усходні промень, і цёплая, як сонца ў ліпнёвы поўдзень, — надзея ў тое, што Рыгор стрэнецца з ёю. Ёй хацелася верыць пасля таго, калі Пятрусь дапомніў пра Рыгу, што ён напэўна вось зараз і накіроўваецца туды. Прыпомніла, як пры спатканні з Рыгорам у яе хаце Пятрусь пільна распытваў пра Рыгу, пра жыццё ў ёй. А мо яшчэ тады згаварыўся з Рыгорам над'ехаць да яго. Пецярбург — просты адвод вачэй. Зрабілася суматоха, ці ж паказаць начальству ўсе свае задумы? Гэта западозранасць Стэпы вырастала на кожным кроку ўсё болей ды болей, падбівала яе пад сакрэтам запытаць Петруся. Хлопцы ды дзяўчаты перашкаджалі гэтаму. Тады Стэпа, ідучы з Петрусёвай мацерай, рашыла ёй адкрыць свае думкі — добра, што адчувала да яе раптам паўстаўшую прыязнь. Шэптам, нахіліўшыся да вуха, праказала:

— Прузынка, а ці не думаеш, што сын едзе не ў Пецярбург, а куды інш? Не выгаворваўся ён часамі? Мне ўсё здаецца, што Пятрусь абраў сабе іншую дарогу…

Прузынка здзівілася.

— А чаму ты думаеш, Стэпа? Ні словам не абмовіўся… Ці не казаў каму?— Загневалася на сына. — Ох, які хлопец, які хлопец! Усё робіць так, каб ніхто з хатніх не ведаў. Гэта ж падумаць, людзям вядома, а бацькам нічога.

Стэпа пераняла Прузыну.

— Не, ша, Прузынка. Я не чула ні ад кога і ні ад Петруся. Чамусьці мне самой надышло ў галаў.

— Можа стацца! Ласне разбярэш іх? — А сама прыняла Стэпіну думку за сур'ёзнае і пазвала Петруся. — Пятруська, пачакай адно, я хачу ў цябе запытаць… — Пятрусь спыніўся і пачакаў мацеру з Стэпаю. — Скажы, сынок, ці ты сапраўды ў Пецярбург едзеш?

— А то куды? — здзівіўся Пятрусь.

— Мне казалі, нібы ты да Рыгора сабраўся.

— Вам? хто казаў?

— Гавораць людзі.

— Кіньце, мама. Ласне я вам маніў бы? Ліха ведае што плятуць.

Пятрусь сплюнуў, махнуў рукою і пакінуў жанок.

— Вось, глядзі, нічога падобнага!

— Але… Бач, мне здавалася толькі…

Стэпе ўсё ж хацелася верыць, што робіцца водлуг яе думак; і таму, што яна верыла гэтаму, стала адчуваць у сабе заспакоенасць. Цешылася, што надало ёй шчасце прыйсці праводзіць Петруся. Цёмная ноч, няроўная дарога, частыя спатыканні не тамілі яе. Наадварот. Стэпе хацелася ісці далёка за мястэчка, хоць да Жмыгінскага лесу або і далей. Аб доме не думала. І калі Пятрусь некалькі разоў напомніў, ці не пара б было старым вярнуцца, Стэпа слухаць не хацела.

— Не патурай, сынок. Можам прайсці, некалі ж угледзім.

І правяла датуль, пакуль і хлопцы, — за апошні будынак мястэчка. Разам з усімі развіталася з Петрусём, некалькі разоў пераказаўшы яму:

— Не забудзь жа мае просьбы. Адшукай там Рыгора.

Нарэшце блаславіла некалькімі гарачымі словамі Петруся і не сышла з месца, пакуль не заціх грукат калёс у начной цемні.

Вярнулася дамоў адною і запытала ў пустую хату:

— Рыгор, Рыгор, дзе ты, што з табою? Калі мы стрэнемся, сынок?

Мястэчка Сілцы і горад Рыга. Пецярбург. Нейкая сіла лучыла іх між сабою. Пералівы людскога жыцця хвалююцца ў адным пункце, адбіваюцца рэхам у другім. Змываюць упарта каменьчык за каменьчыкам, несучы яго туды, дзе ёсць перавага кіпучай сілы завірухі. Дзе пачатак, дзе канец? Не знайсці. Калыханне хваль жыццёвага мора раўнаважна ахапляе зямную кулю. Адлівы-прылівы. Аднак і ўзровень.

Рыгор, Пятрусь — тое, чаго не старчыла ў горадзе.

Іх нясла хваля туды. Пераплётам заблытаных з’яў ужо выказваўся закон тае сілы, якая пасля прыдалася для вялікага акта, — перш разбурэнне старых асноў, а следам — будаванне новае формы людскога дабрабыту. Жыццё шліфуе людзей — людзі шліфуюць жыццё. Працаўнік народжаны змагацца. Яго лёс — перамагчы на сваім шляху ўсё тое, што перашкодзіць яму стаць панам жыццёвага стану. Жыццё няхай будзе падуладным яму… Гэта закон, гэта правілы, гэта лозунг! Дык няхай жыве несупыннае змаганне!

# АПАВЯДАННІ

## НА ЎСХОДЗЕ СОНЦА

*Ахвярую «Нашай ніве» і ўсім яе супрацоўнікам*

…Мне не спалася. Прачнуўся пасярод ночы, падышоў к акну, уталопіўся ў яго і пільна пачаў глядзець на вуліцу.

На дварэ стаяла пекная чароўная ноч! Неба цемнавата-сіняе, глыбокае без меры, доўгае і шырокае без канца, густа патыканае мігатлівымі яснымі зоркамі, як вялізны дарагі купал, аблягала круг-кругам чорную грэшную зямлю. Зоркі весела мігацелі. Кожная з іх дадзена асобнаму чалавеку і свеціць датуль, пакуль той не сыдзе з гэтага свету. Тады зорка падае на зямлю і лье па дарозе свае жаласлівыя агнёвыя слёзы, каторыя на момант як бы застываюць на небе, а пасля раптам прападаюць…

— Памёр чалавек — значыцца, патухла і зорка яго! — Гэтак кажуць цёмныя людзі, у гэта некаліс верыў і я…

Эх, колькі гэтых зорак тухне на нашых вачах, брацця мае! Зоркі шчаслівых і нешчаслівых, зоркі багатых і бедных, зоркі паноў і мужыкоў!..

І я ў гэту цёмную душную ночку пачаў шчыра, не мігаючы вачыма, пільнаваць, сачыць за кожнаю зоркаю, ці не спадзе адна з іх па маіх вачах? Сон зусім пакінуў мяне.

І вось — там далёка, на ўсходнім краі неба, як прымха якая, раптам адарваліся разам тры зоркі і мігам апалі на зямлю! Чые яны? Ці беднага мужыка-працаўніка, ці пана вяльможнага? Ці сіроткі гаротнага, ці пестуна шчаслівага? Не ведаю! Толькі ўсё ж такі нейчыя яны ды ёсць!.. Можа, гэта на маю карысць абарвалася жыццё тром чалавекам?!

Пры гэтай думцы я хацеў апусціць вочы, калі ізноў мне прыйшлося быць сведкаю спадання дзвюх зорак. Тады я раптам, не па сваёй волі, апусціў не толькі вочы, а і галаву і пачаў разглядаць шэрую, нудную, акрытую цьмою зямліцу, сцены і стрэхі цёмных,

нізенькіх, падобных адна да адной мужыцкіх хацін. У галаву палезлі думкі, каторыя на вуха шапталі мне: «Нашто табе гэнае неба? Што табе яго пекнасць дзіўная, яго хараство святое?.. Ты — сын зямлі, нуднай, чорнай зямлі; ты — нявольнік жыцця, цяжкога, горкага, паднявольнага; ты — ахвяра бяды, няшчасця і нядолі!.. Не на тое ты радзіўся, каб дзівавацца хараством прыроды, пазнаваць яе, а пасля ў кніжках чыркаць аб ёй, каб і твае брацці вучыліся любіць яе!.. Ты — дзіця люду цёмнага, забітага, спрацаванага, дзеля каторага няма нічога другога, апроч працы цяжкой, нязможнай, якую ён сам апявае ў песні нуднай, зложанай яго балючым сэрцам, яго клапатлівым мозгам і напісанай чыстаю памяццю на шэра-чорных лістах часу, каторы бяжыць без канца… Усё, што жыве на свеце, што яго цікуе, ён знойдзе на гэтых лістах, прачытае… і пойме… Гэта яму знаёма — другога, інакшага пісьма пакуль што ён не ўмее чытаць… Яму найперш трэба таго, што датыкалася б яго вушэй, вачэй, яго ўсяе істоты, што ўскалыхнула б ім, збудзіла ад векавога сну, расплюшчыла яму вочы; тады ён падымае іх к небу!.. Тады з яго сям'і выйдуць свае родныя песняры, каторыя ў роднай мове апяюць усе дзівы свету, другім народам даўно вядомыя…»

І чым далей, тым болей і болей думкі апутвалі мяне ўсё шчыльней, налазілі ўсё новыя і новыя, ды ўсё заядлейшыя, цяжэйшыя, рабілі з мяне бязвольнага іх слугу…

Пад іх цяжарам я асунуўся, прысеў на лаве ля акна і задрамаў…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

…Колькі часу я спаў? Што я сніў — не ведаю! Толькі як ізноў падняў галаву, ужо свежую, вольную ад цяжкіх думак, і кінуў вокам на двор, дык над зямлёй ужо свяціла сонейка.

Гэтым разам узышло яно надта дзіўнае і чароўнае!

Смела і хутка выйшла сонейка з-за лесу і памаленьку пачэсне прыгалубіла прачнуўшуюся зямлю і ўсё жывое на ёй. Усё затрапяталася, заварушылася і звонка заспявала ў адзін голас шчырую літаню ўзышоўшаму сонейку!

«Вітаем цябе, цар свету, цар усяго жыцця на зямлі! Вялікае і слаўнае сонца! Ты прыйшло да нас, разбудзіла нас ад сну! Мы ўсталі на твой прыход і дружна, хутка пойдзем да працы! Не сходзь жа навекі ты з гэтага неба і агнём шчасця асвячай грэшную халодную зямлю! Вітаем цябе, сонца!»

Нейкая радасць і лёгкасць напоўніла маё сэрца; абярнуўшы вочы на ўсход, спяваў і я разам з усім жывым святую, дзіўную, шчырую песню ўзышоўшаму сонцу!..

*1909*

# ДУМКІ

*Пасвячаю Якубу Коласу,*
*песняру народнаму*

Я стаяў на вузкай-вузкай мяжы, аброслай рэдкай высокай травой; а абапал яе, крышку шырэйшыя за мяжу, цягнуцца мужыцкія шнуркі жыта. Круг-кру-гам — зялёнае, пекнае, як дарагі аксаміт, — мора зелені. Пахне нечым свежым, лёгкім!..

Пад самым недзе небам, чыстым, ясным, пяе-залівaецца рэзвы звонкі жаваранак, верціцца, як лёгкае пёрка ў паветры, і быццам весяліцца. Унізе ж над жытам цэлыя мільёны мошак, жучкоў, матылькоў!

Якая свабода, як лёгка!..

Чаму ж, нягледзячы на ўсё гэтае хараство, агарнулі мяне вялікія, цяжкія, вострыя думкі, каторыя разам заўладалі маю душу і сэрца? Я бязвольна схапіўся за галаву, апусціў яе к зямлі, прыплюшчыў вочы і пачаў думаць…

«Вось гэтыя палоскі, гэныя вузкія шнурочкі, — гэта багацце мужыка; яны кормяць і гадуюць яго, сям'ю, даюць хлеб усяму свету. Гэта ж тая самая зямелька, палітая крывёй і гарачым потам мужыцкім, на каторай бачыў я сам, як леташняй восенню, хмурным, сумным днём, — калі сыпаў малюсенькі, дробненькі дожджык, што прамочваў суконную світку мужыка-хлебароба, наскрозь дабіраўся да яго потнага цела, пускаў па ім дрыготку, — калі к яго шырокім патрэсканым, апэцканым нагам прыліпала цяжкая, ліпкая зямля, — ён, гэны цёмны, гаротны мужык, цягнуўся разорай за плугам, каторы цягнула яго худая, змардаваная Буланка — сцёбаў свайго супрацоўніка вернага канаплянай пужкай, панукаў яго і пяяў сабе пад нос нудную, жаласлівую песню, поўную слёз і гора!

Ці ж няможна было дагадацца тады па яго смутным, жоўта-зялёным касцістым твары, па яго сухіх жылістых руках, па ціхай, няспешнай паходцы — па ўсім гэтым ці ж няможна было дагадацца, што ён думаў тады?! Э, можна, дый лёгка! Пэўне, маўчалівы пакорны хлебароб стараўся чым найясней разгледзецца ў густой сетцы бесканечнай чарадой плыўшых дзён — смутных, марных, нез'яснёных! Што нясе яму хваля часу? Кожны дзень, кожная гадзіна нават ля яго невядомы… А мо ўся яго праца, уложаная ў гэту ніву, вырваўшы шмат жыцця і сіл, у адзін момант разам згіне, не вярнуўшы і крыхоткі адплаты за працу. Вось не перастануць ліць дажджы, затопіць вадой нівы, знясе насенне,

уваб’е ў зямлю — і жытцо не ўзыдзе… А мо раннія замаразкі пашкодзяць?!. А мо так ні адсюль ні адтуль выпадзе град, паб’е яго ці бура паломіць — і ўсё прапала!.. Альбо згніе ад дажджу, пажаўшы, альбо згарыць, звазіўшы… А калі дабрыцо і падыдзе акуратна да канца, прадасі яго, каб толькі падаткі і нядоімку заплаціці! Ох! Нельга не плакаць, нельга не нудзіць! Брыдкае і дрэннае ты, жыццё мужыцкае, жыццё хлебароба! Мучыцца чалавек дый усё чакае, збедаваны, яшчэ горшае бяды! Жыве і не ведае, што яго спаткае заўтра, дзе ён будзе тады? Жыве і не жыве!..»

І разам я пакінуў думкі горкія, праўдзівыя думкі, падняў галаву, падняў вочы к небу і загледзеўся ў яго вышыню, у яго глыбіню, без дна, каб забыцца, што жыву я, чалавек, на зямлі, на гэтай грэшнай, заклятай зямлі, над каторай стопудовым молатам вісіць гнеў цяжкога лёсу — нядолі, таго страху, што сочыць цябе, каб падпільнаваць момант і разам схапіць цябе ў свае вострыя, жадныя зубы!..

І нудна, і горка, і цяжка!..

І кажаш ты, разувераны, хмурны, што няма спакою, шчасця на зямлі, — няма волі чалавеку ні ў горадзе шумным, ні ў мястэчку цішэйшым, ні ў вёсцы спакойнай, ні ў шырокім чыстым полі?..

*1909*

## АДВЯЧОРКАМ

Стаяла летняя цёплая пара. Дзень выпаў вельмі харошы і пагодлівы. Неба ад самай раніцы да змяркання было чыстае, яснае.

Пасля цэлага дня цяжкай працы ў цеснай, душнай майстэрні надумаў я адвячоркам выйсці ў поле — на волю, туды — к невялікаму хваёваму хмызнячку, што раскідаўся недалёка мястэчка, на невысокай, зарослай дзірваном горцы.

Я часта любіў хадзіць у гэты ціхі і мілы вугалок, садзіцца на пакрытым мохам каменьчыку ці на гнілым пянёчку і думаць. Найбольш я любіў думаць аб жыцці і аб долі-нядолі працавітага беднага люду, бо я сам працаўнік, сам бяздольны…

І вось на гэты раз, калі я прыйшоў к хмызнячку і прысеў там на вузенькай сцяжынцы, мяне зразу ахапілі неадчэпныя думкігадкі. І я ім паддаўся. У маёй змучанай галаве пачалі рысавацца

такія вобразы: я чалавек такі, як і ўсе другія людзі. Я працаўнік шчыры і верны, зжыўся са сваёй майстэрняй, — дык чаму ж мне так міл гэты зялёны лясок, гэтае шырокае, нязмернае вокам поле, гэтыя вясёлыя пташкі? Чаму я так ірвуся сюды — да гэтай прыроды? Я рвуся, а мяне стрымліваюць, не пушчаюць. Іншыя здаволены ўсім, ім гэта непатрэбна… Чаму ж мне няхват? Чаму мне мала? Чаму?

А проста затым, што я бязвольны, слабы раб; затым, што я скаваны па руках і нагах кайданамі нядолі; затым, што я прымушаны цяжкім лёсам сваім, як пташка ў клетцы, сядзець дзень і ноч у цесных, халодных сценах апрацівелай майстэрні, у задусе, у дыме. Затым, што я, як адрэзаны ад свету, волі, сонца і людзей, вельмі рвуся на прастор, на волю, да прыроды… А там, у балючых грудзях, б'ецца маладое, гарачае сэрца, ірвецца да свабоды… А дарога загароджана, завалена… І за што? Чаму? Ці затым, што я чалавек працоўны, што я працую для другіх, што свет жыве з гэтай маёй працы… Зачым? Недзе адазваўся звон, і думкі абарваліся. Быццам са сну схапіўся я, аглянуўся ўкруг — ці не відаць дзе жывой душы, каб падзяліць з ёю мае цяжкія, дакучлівыя думкі і гадкі жыцця… Нікога нідзе. На дварэ змяркалася. Сярод цішы гулка несліся з мястэчка зыкі звону, раўняліся са мной, міналі мяне і прападалі недзе далёка, далёка… Услед за імі ляцелі і мае думкі…

*1910*

## ВЕЛІКОДНАЯ КАРОБКА

### I

У чысты чацвер, калі Антось Ступа вярнуўся дамоў з падзённае работы ў Іцкі, у якога ён гарадзіў платы, двое дзетак яго, Сёмка і Прузя, спаткалі на вуліцы і, хапіўшы бацьку за полы, у адзін голас запыталі:

— Татачка, родненькі, ці вы купіце мукі на пірагі і парасятка? Ужо ўсе сённека неслі з места і парасят, і муку, а наша мама нічога не купіла.

Антось Ступа паглядзеў на бледных замурзаных дзетак, пагладзіў кожнага з іх і суцешна адказаў:

— Купім і мы, мае вы блазноткі, і мукі, і парасятка. Справім каробку.

Дзеткі задаволена папляскалі ў далоні, весела зарагаталі і ўперадзе бацькі пабеглі ў хату.

— Мама, мамачка! — крычаў першы Сёмка, падбегшы да мацеры, якая ў сумным настроі сядзела каля мыцельнікавага акна, аб нечым думаючы.

— Вось ідзе татка з Прузяю! Ён казаў нам, што і мы купім і мукі на пірагі, і парасятка. Папрасеце, мамачка, каб ён хутчэй гэта зрабіў.

Маці — Юстына, бледная, шчупленькая маладзіца — раўнадушна паглядзела на дзетак, колькі хвілін памаўчала, даўшы Антосю прысесці ў запечку, пасля гняўліва вымавіла не то да яго, не то да дзяцей:

— Плявузгае ліха ведае што. Дражніць дзяцей, на яго цураха. А грошы, бадай, не прынёс ад Іцкі, каб хаця хлеба купіць к святу, бо ўжо толькі акрайчык на стале… Няхай ужо людзі спраўляюць каробкі, а мы… пражывём святы і так… хаця б быў хлеб…

Пакуль Юстына казала гэта, дзеткі дапытлівымі ўзрокамі вадзілі ад бацькі да мацеры і здзіўлена пераглядаліся паміж сабою. Калі ж маці замаўчала, Сёмка ўпінна праказаў:

— А чаму ж ува ўсіх будзе каробка, а ў нас не?

— А таму, што ўсе багацей ад нас: і свой хлеб маюць, і назараблялі яшчэ грошы з фурманамі, а твой бацька праз усю зімку і капейкі меднае не зарабіў… Бачыш, не рамеснік ён у нас, дый досціпу няма, непракідкі ні каліва, нізвання…

Дзеці пераглянуліся паміж сабою, не ведаючы, што казаць.

— Вучы дзяцей бацьку не ўважаць! — паднятым голасам выгукнуў Антось да жонкі. — Паспрабуй ты зарабі… заробіш! Дзе ты тут заробіш? Пэўна, каб быў рамеснікам, та было б лепей, але што ж зрабіць, калі бацькі не навучылі. Упхнулі ў грабары змалку — і мушу цяпер зямлю капаць… Што ж, зімою не ўкапаеш… Гэта не языком мянціць… Вось добра, што да вясны працягнулі…

Юстына, праслухаўшы гаспадара, замоўкла і адвярнулася ў акно: ёй паказалася, што яна дарэмна ўпікнула яго і на гэты раз. «Антось кажа праўду, што ён нявінен у нашым бяздольным жыцці. Пэўна, суджана ўжо так», — парашыла яна сама з сабою. І ёй стала ніякавата перад гаспадаром, што кожны раз у цяжкім адчаі яна вінаваціць яго за іх дрэннае становішча.

Юстына паглядзела на Антося і, убачыўшы яго пакорліва маўклівую міну, папікнула сябе за сваю нецярплівасць перад ім. Разам у яе вынікла спагада да мужа і патрэба папрасіць выбачэння за рэзкі непуцёвы напад.

— Ведаеш, Антось, я ж зусім не віню цябе. Мне так горна і цяжка на душы, што я мімаволі вазьму і пакрыўджу цябе, — як бы перапрашаючы, сказала Юстына. — Падумай сам, ці ж лёгка ўгаварыць дзяцей, не даўшы ім куска булкі на сьвяты. Яны ж чакаюць Вялікадня як бога, думаючы, што гэтак, як у людзей, угледзяць і сёе і тое… Ды з боку суседзяў ніякавата зусім: кажуць — «і на каробку не маюць».

— Ну што ж, не маем, — адказаў Антось. — Тут не вялікая ганьба. Будзе заўтра час — будзем мець… А з дзецьмі — няпраўда, авось заўтра паспрабую расстарацца грошы, і купім мукі: мо сышчу ў Іцкі за сённяшні дзень, а то дапазычу ў Ермалая — і зладзім сёе-тое, хоць збольшага…

Антось абярнуўся да дзетак, якія заспакоена слухалі бацькаўскую размову, прытуліўшыся каля прыпеку.

— Нічога, малыя, я вам расстараюся к Вялікадню сяго-таго. Будзе і булка, будзе і парасяціна… Вось прасеце ў мацеры вячэраць ды лажэцеся спаць.

Дзеці палезлі за стол, а Юстына завінулася каля печы.

## II

Назаўтра Антось Ступа зноў пайшоў у падзёншчыну да Іцкі. У яго з самага ранку, толькі што прачнуўшыся, склаўся гатовы план вызыску грошы к святам. У абед, разлічаў Антось, ён зойдзе да Іцкі і возьме плату за два прапрацаваныя дні, а вечарам, ідучы дахаты, заскочыць да Ермалая пазычыць з рубель. Чамусьці Антось ні каліва не сумняваўся ў тым, што яго разлікі спраўдзяцца, і спакойна, нават з лёгкай бадзёрасцю, справодзіў работу. За работаю зусім не прымеціў, як праскочыла паўдня. У абед Іцка падышоў да яго і запытаў:

— Што-о, Антось, мусіць, ты сённека абедаць не пойдзеш?

Антось выкарыстаў гэта, каб папрасіць у Іцкі грошы.

— Пане Іцка, — абярнуўся ён да Іцкі. — Я ўжо сам хацеў ісці да вас прасіць грошы, а як вы падышлі ка мне, та тым лепей. Ведаеце, святы прыйшлі, а ў мяне яшчэ нічога не куплена. Вось, можа, будзеце ласкавы, ды заплаціце мне за гэтыя два дні? Га?

Іцка пагладзіў бараду, патрос галавою, ухмыліўшы вочы, і адказаў:

— Не маю, браток. Хіба па святах ужо… Мне вось вінны людзі, ды таксама адказалі аддаць да свят… Ведаеш, у нас субота, а я без капейкі застаюся.

Антось зусім быў азадачаны словамі Іцкі; ён не хацеў верыць, што той кажа сур’ёзна, і разам з гэтым дрыжаў ад нейкага не то сполаху, не то проста няёмкасці, што намалёваны ім зрання план трымаецца на валаску. Іцкава міна і тон у голасе, зусім спакойныя і бяспечныя, збівалі з панталыку Антося. «Ану ж Іцка на жарты гаворыць? Ці проста па сваёй натуры», — падумаў ён і яшчэ папрасіў у Іцкі:

— А ўсё-ткі, пане Іцка, пашукайце, а мо і знойдзеце. Тут жа не так ужо многа. Не можа ж быць, каб вы былі без грошай. Вы не абышліся б і паўдня. Пашукайце, прашу вас, а то мне грозіць астацца на Вялікдзень з пустымі рукамі. Апроч вас, зусім нельга нідзе дастаць…

Іцка зрабіў тыя ж самыя кіўкі і рухі, што і перш, і так жа спакойна адказаў:

— Які ты, Антось, цудны! Або ж я не ведаю твайго становішча, ці што? Тут не ласка, а павіннасць: грошы табою зароблены, і я мушу табе іх аддаць; і аддам, толькі ўжо не сённека. Так выпала, ведаеш, што якраз няма.

— То, можа, к вечару адшукаеце дзе? — запытаў Антось.

— Дзе… Ужо шабас надыходзіць. Дзе там дастанеш? Няма, браце… Нават і не спадзявайся.

— Няма? Ах, што ж я рабіцьму? — горна выказаў Антось, хапіўшыся аберуч за галаў: — То ж прыйдзецца на свята без хлеба астацца-а…

— Як? Чаму? Няўжо ў цябе падышло да таго? Ці ты маеш лад? То будзе вельмі крыўдна, калі так. А хіба ж ты напавер не можаш дастаць? Зайдзі да Хрумы ці да Моталя і папрасі: яны павінны даць… Вось цяперака, у абед… Ужо вечарам адробіш… Трэба ж, вядома, к Вялікадню сёе-тое купіць, я ведаю па сабе…

Антось нічога не адказаў, а моўчкі кінуў работу і пайшоў дахаты. Ідучы, ён пільна раздумваў над праваленым планам. На сэрцы яго было так непрыемна, нібы хто насыпаў на яго чэмеру. Не хацелася думаць аб ядзе, ды яна зусім была яму непатрэбна. «Куды там з ядою, калі вось святы на носе, а ў хаце ні капейкі грошай. Прыйдзеш дамоў, жонка зразу і стрэне пытаннем: — А як наконт грошай? — Што ёй адказваць будзе? Адлажыць на вечар? Ці ж паверыць Юстына? Ды і вечарам што я зраблю? Ермалай? Хто яго ведае… Мо яшчэ ў хаце не застану… Зайду хіба цяпер да яго», — разважаў Антось.

Ужо ён падыходзіў да свае хаты, але вярнуўся назад, каб зайсці да Ермалая. У грудзях яго скрабло сумненне; тыя запэўненні, на якія ён мусіў пазычыць хоць два рублі ў Ермалая, паказаліся

яму зусім слабымі, каб той паверыў. Праз гэта яму рабілася няёмка перад таварышам, якога, фактычна, ён ішоў ашукаць.

Чым бліжэй Антось падыходзіў да Ермалая, тым нерашучай былі яго крокі і тым брыдчэй рабілася яму перад самім сабою. Але варочацца назад было яшчэ горай: выйдзе што не выйдзе — трэба давесці да канца. Як-ніяк, ён ішоў пазычаць грошы не на што-кольвечы малаважнае ці брыдкае, а на жыццёвыя патрэбы. У змаганні за жыццё нельга заўсёды праехаць на чэснасці. Што ж, дзе можна схлусіць ці абмануць, каб выратавацца з цяжкага становішча, чаму не зрабіць гэтага? Тым болей гэта будзе даравана яму, бо на сваім вяку Антось яшчэ ніколі не карыстаўся хлусьбою.

— А мо і не дойдзе да таго, — разважаў ён, увайшоўшы ў Ермалаеў двор. — Няўжо-такі Ермалай будзе распытваць ды ўпэўнівацца, на што мне грошы? Або не паверыць? Не павінна таго быць, усё ж свой чалавек.

Гэта самаразвага падвесяліла Антося, і ён цвёрдым крокам прайшоў у хату.

У хаце Ермалая якраз абедалі. Невялічкая сям'я, з чатырох душ, сядзела наўкол стала, увіхаючыся над міскаю. Антось парушыў абед: усе адвярнуліся ад стала і паглядзелі на яго, крыху здзівіўшыся яго наведваннем.

— Го-о, чагосьці заблудзіў, Антось? — пераняў Антося Ермалай.

— Дзень добры… Так… заблудзіў… Бываюць выпадкі… і вось, пэўна, не дагадаецеся, чаго прыйшоў, — адказаў Антось, прысядаючы на лаве.

— Кажы… — прамовіла жонка Ермалая.

— Аж брыдка казаць, — замяўся Антось.

— Нічога. Няма чаго цырымоніцца: можна будзе — выпаўнім, не — прабачыш, — разважыў Ермалай.

— Я, ведаеце, — суцішаным голасам праказаў Антось, — зайшоў папрасіць, каб вы мне на які тыдзень грошай рублёў два пазычылі. Так прыперла, што нельга вылузацца. Спадзяваўся на Іцку, а той, гад, як назнарок, не дае. Я, бач, раблю ў яго гэтыя дні, зарабіў усё, а вось не дае, гад. А прыперла, хоць ты гвалту крычы. Тады я і надумаў вас патрывожыць. Што вы скажаце на гэта?

Ермалай, кончыўшы есці, падняўся з-за стала і падышоў к прыпечку, каб звярцець папяросу. Пры гэтым ён маўчаў, як бы раздумваючы над адказам Антосю.

— Ведаеш, браце, — нарэшце сказаў Ермалай, звярцеўшы і прыпаліўшы папяросу, — хоць і няёмка, але прыходзіцца адка-

заць: няма. Сыскаў заўчора ў Азіка, што муку вазіў у Крыжы, і ўсё распусціў на свята. Ты ж павінен ведаць, што грошам у нашым становішчы ніякай меры няма. Тут каб тысячы — то разыдуцца, а то… прабачай, браце Антось…

— А можа, як-колечы… — паспрабаваў Антось яшчэ папрасіць і зразу ж супыніўся, пачуўшы нейкую няёмкасць: — Так, ды яно ж вядома, адкуль тыя грошы. Я так, проста, сабе думаю, давай зайду на кожны выпадак… — паправіўся ён. — А няма — то што ж зробіш — трэба яшчэ дзе-кольвечы пашукаць. Бывайце здаровы…

Антось выйшаў з хаты зусім расстроеным і прыгнечаным. З адказам Ермалая не аставалася больш нічога, як згадзіцца з думкаю кінуць далейшыя клопаты па адшуканні грошай і быць як ёсць. Праўда, цяжка гэта перацярпець, але нічога не парадзіш.

Каб не расстройваць жонкі, Антось рашыў не ісці абедаць, а вярнуўся на работу не абедаўшы.

## III

У красную суботу Антось быў дома: з прычыны шабасу Іцка адмовіў яму ў рабоце. Праз цэлы дзень, корпаючыся ў хаце пры сім пры тым, Антось мусіў супакойваць дзяцей угаворамі, што ён яшчэ сумее для іх прыгатаваць каробку. Але чым бліжэй падыходзіў вечар, тым дзеткі рабіліся неспакойней і падазроней: яны ўсё нагальней лезлі да Антося і назойлівей вымагалі ў яго хутчэй дастаць мукі, яечак і купіць парася. Выбягаючы на вуліцу, яны бачылі, як другія дзеткі бегалі з яечкамі ды кавалачкамі свежых булак, а ў іх нічога гэтага не было. Забягалі Сёма і Прузя ў суседнія хаты і завідна сачылі, як там ішла клапатлівая падгатоўка да свят. Пакрыўджаныя, яны прыбягалі дамоў і плакалі, не бачачы гэтага нічога. Юстына, скрапіўшы сэрца, таксама маўчала праз увесь дзень, як бы сваім маўчаннем пасылала папрок Антосю. Антось адчуваў гэта і сазнаваў, што віна за труднае становішча ў вялікай долі падае на яго. І яму цяжка рабілася, што ён не можа згладзіць вострасці гэтага становішча. «А можа, я мала стараннасці прылажыў, каб дастаць грошай?» — правяраў ён сам сябе, не перастаючы вынаходзіць розныя іншыя спосабы.

У цяжкіх супярэчках думак прайшоў дзень. Вечарам, разуверaныя ў бацькавых абяцанках, дзеці ўлегліся спаць. Антось нерваваўся і непакоіўся — з яго роздумаў нічога не выходзіла. Нарэшце яму зрабілася зусім невыносным сядзець у хаце, і ён на дзясятай гадзіне ўвечары выйшаў на двор.

Зорная вясенняя ноч крыху асвяжыла яго. Ува ўсіх хатах свяціліся агеньчыкі. У паветры чуўся пах булак і мяса. Ён прысеў на сваёй прызбе і тутка, знябыўшыся, задрамаў. А палове дванаццатай ночы яго абудзіў звон да ўсяночнай. Антось хутка падняўся з прызбы і, не заходзячы ў хату, пайшоў у бок царквы.

На вуліцы стала людна: мяшчане выходзілі з хат і з запаленымі свечкамі спяшылі на ўсяночную. З чужых вёсак ехалі фурманкі, везучы пасвячаць каробкі. Вакол чулася нейкая ўрачыстасць. Але на душы Антося было брыдка: ён ішоў на звон, пакінуўшы ўдому засмучаную жонку і пакрыўджаных дзетак. Уся ўрачыстасць была для яго не толькі чужою, а нават і варожай. Гэта адчуваў Антось з таго моманту, калі выяснілася, што яму надышоўшае свята прынесла многа дарэмных клопатаў і парушыла ўложаную хаду жыцця. Чуючы звон і бачачы святочны рух, ён даходзіў да злосці і праклінаў сваё жыццё і грамадзянскі лад. Антося дзівіла ўся заблытанасць і супярэчнасць яго, якая выглядала перад ім ва ўсёй сваёй прыкрасці. Вялікае свята для адных — другім цяжкая мука і клопат. Чаму яно так?

Падышоўшы да варотцаў на цвінтар, Антось толькі зірнуў праз іх, што робіцца за парканам, і павярнуў назад. «Не пайду. Там не для мяне», — рашыў ён і прайшоў між паркана да паповага дзядзінца.

За брамаю, пры плоце саду, стаяла некалькі фурманак. Распрэжаныя коні хрумсталі сена. Пры вазох — ні душы. У паповых пакоях, за дрэвамі, віднелася святло. Антось спыніўся ля брамы і прыгледзеўся на дзядзінец. Прыгледзеўся і раптам падумаў: «А што, каб прайсці на дзядзінец і ўзяць адну каробку з воза!» Гэта думка зразу паказалася і прывабнай і непрыемнай. Антось ажно засаромеўся яе і агледзеўся, каб ніхто не падслухаў яго намераў. Пасля адышоў крыху ўбок, к плоту.

Непадалёчку прайшлі два чалавекі, мужчына і кабета. Антось прыгледзеўся і ўбачыў, што мужчына нёс у кошыку да пасвячэння.

«У кошыку — мабыць, цяжка было сабраць на каробку! Пэўна, у гэтага ўзяць — ніколі», — падумаў Антось і скалануўся ўсім целам ад непрыемнага пачуцця… Не мог стаяць на адным месцы і прайшоў каля ганоў далей ад паповага двара.

## IV

Тым часам у царкве затрызвонілі. Разназычны гуд званоў выводзіў нейкі царкоўны перапеў, разносячы яго вакол у ціхім паветры.

Да Антося даходзілі вясёлыя галасы дзяцей, якія гулялі на цвінтары, бегаючы вакол царквы з агеньчыкамі.

Антося засвідравала думка аб сваіх дзецях. Ён пакінуў іх дома раздражненымі, рассерджанымі. А што яшчэ запяюць яны заўтра, калі прачнуцца і замест абяцанай каробкі знойдуць кавалачак чорствага чорнага хлеба? Антось дрыжаў ад жаласці да Сёмкі і Прузі, і жаданне пацешыць іх, павесяліць абурыла яго.

«Я пайду і вазьму… пагляджу, хто багацей. Што яму значыцьме? А я столькі шчасця прынясу сям'і! Пайду і хутчэй жа зраблю. Пакуль там, у царкве, ісціме маленне, я тут усё абваражу і зраблю…»

Раптам Антось адарваўся з месца і ўподбег кінуўся да папоўскага дзядзінца. Усё яго пачуццё сабралася ў адным намеры, вострым і рашучым, які цягнуў Антося саматугам.

Каля брамы Антось спыніўся і яшчэ раз праверыў сябе: «А мо я іду насупроць усякім доказам? Чалавек патраціўся, з пачуццём радасці прыехаў на ўсяночную, прывёзшы з сабою каробку, а я раптам вазьму яе… Чалавек выйдзе з царквы, падыдзе к возу, каб унесці каробку на цвінтар, і не нойдзе. Падумаць адно, што зробіцца з ім? Усё нутро яго перавернецца, мігам згіне радасць, агорне смутак, і помста, чорная, як смутак, на мяне. Я заб'ю прасветласць і яшчэ больш растрывожу самога сябе».

Але гэтыя думкі снавалі як бы самі сабою. Антосева істота захаплівалася другім: каробка стаяла ў яго ваччу, затуманьвала розум і нястрыманаю сілаю цягнула да сябе. Антось мімавольна правёў рукою па галу брамы, шукаючы клямкі. Не знайшоў. Яго разабрала, і ён з пяць колаў вывеў рукою на гладзі дошак. На шостым хапіўся халоднага жалеза, абмацаў і паціснуў: пачуўся стук. Антось адскочыў і хутка пайшоў да ўходу на цвінтар, перасек яго да выйсця ў папоў дзядзінец. Без затрымкі апынуўся на ім, сярод рахманых коней, якія паважна стаялі ля вазоў і, у чэсць Вялікадня, уміналі корм. Ад здавальнення фыркалі, тупалі нагамі, чапляючы аглоблі. Нейкі асабісты імпэт, змешаны пах пірагоў і парасяціны з смуродам конскага гною, напаўняў папоўскі дзядзінец, разносячыся далёка за яго.

Антось прыгледзеўся паміж вазоў і зрабіў некалькі крокаў убок. Хапіўся за біла і пастаяў.

Потым яшчэ мінуў адзін воз і прысеў: яму здалося, што на трэцім возе хтось сядзіць. Упрысядкі дайшоў да брамы і адшукаў клямку. Думаў, што замок павешан, але яго не было. Значыць — засунута. Антось абмацаў засаўку і, затаіўшы дух, абедзвюма рукамі хапіўся за яе. Леваю прыціскаючы адзін канец засаўкі, праваю ён націскаў другі і без зыку адвёў. Пасля, згорбіўшыся, абышоў колькі падводаў, часта забываючы, для чаго ён да іх падходзіць, і нарэшце спыніўся ля брычкі, якая стаяла ў самым кутку, між сцяною паповай хаты і плотам. У передку брычкі тарчала вялікая паўвасьміна, з коптурам напікаваная пірагамі і іншай ежай, прывезенай да царквы не так для пасвячэння, як напаказ. Паўвасьміна была абкрыта белаю сурвэтаю — Антось пазнаў дакрануўшыся.

Дакрануўся і не знайшоў сілы адняць рукі — нібы прыляпілася яна да каробкі. «Гэтую, гэтую, гэтую!» — як стук малатка па касе, калі яе адбівае касец, прастукала думка ў Антосевым нутры, і ён з неапісанай паспешнасцю замітусіўся каля каробкі. Ступіў на калодку каляса — і саскаўзнуўся. Некалькі раз стукнуў паўвасьмінаю аб руб брычкі — але не заўважыў, а плішчыў, каб паставіць на біла.

Нарэшце панатужыўся як мага і, штосьці зламаўшы, выцягнуў.

Паставіў якраз, каб узяць на плечы, і ўжо намерыўся стаць, як раптам зазванілі на абхаджэнне. Антосю пачулася, нібы хтось стукнуў ззаду ў пасудзіну, і ў яго ад спугу аслабелі рукі; выскаўзнутая каробка папала на калясо і зрабіла рэзкі трэск.

Конь ірвануўся ўбок, пацягнуўшы брычку і стукнуўшы ёю ў плот. Гучны стук разнёсся па дзядзінцы і аддаўся рэхам за цвінтаром.

Антось адскочыў убок і перш памкнуўся бегчы, але раптам передумаў і прытаіўся на месцы.

— Каб ты згарэла! Як назнарок! — вылаяўся ён у дзікім адчаі і праз хвіліну зноў хапіўся за каробку.

У гэты момант зусім недалёчка пачуўся лопат бегатні і зычны вокрык:

— Хто-о там? Сто-ой! Стой!

Антось адскочыў ад каробкі і, зачапіўшыся за аглоблю, грузна паваліўся на зямлю.

*1918*

# ШТРЭЙКБРЭХЕР*

## I

— Анупрэй, га, Анупрэй, уставай! Уставай, ужо абед хутка. Валяецца ў пасцелі цэлымі днямі і нібыта той! Без клопату, бяздумна. Уставай, уставай! Можна ўжо дагэтуль вылежацца! Нябось — лёг учора звечара і праз усенькую ноч праляжаў. Анупрэй, га, Анупрэй, ці чуеш ты? Уставай — ды пойдзеш праведаеш, як парашылі там…

Луцэя злосна паківала галавою, уздыхнула і паглядзела ў акно. Пасля зноў абярнулася да гаспадара і пачала яго катурхаць, прыгаворваючы:

— Ці чуеш ты, ці не, Анупрэй? Разаспаўся вельмі! Нагараваўся задужа, небарака… Гуляеш, бач, другі тыдзень, дык можна выспацца ўволю. Людзі вунь калі ўжо на поле пайшлі, а гэта… Эх, няшчасная я!..

Луцэя зноў адхілілася ад полу і скрывіла жаласлівую міну.

А Анупрэй, чуючы праз сон прычытанне жонкі, знарок нічога не адказваў ёй, толькі хвілінамі расплюшчваў вочы і балюча пакрэктваў.

— Бок адлежаў, небарака. Уста-ва-ай! — са злосцю пракрычала Луцэя над самым вухам мужа.

Анупрэй і на гэта нічога не адказаў, а, нібы наперакор, адвярнуўся да сцяны і маўчаў.

— Ды ўстанеш ты сёння ці мо ўжо да вечара будзеш тухнуць? — папракнула ўголас Луцэя.

— Ну чаго ты прыстала да мяне сённека? — не выцерпеў нарэшце Анупрэй, паднімаючыся з падушкі. — Чаго цябе ліха здрочыць, чаго? Кожны дзень гаўкае безупынку. Не падабаецца, што я гуляю? Хацела б, каб несціханна працаваў — ведаю! Не, галубка, па-твойму не будзе…

Луцэя ажно збляднела ад злосці: ёй нямерна стала крыўдна на мужа за яго агрызанне на яе справядлівыя словы.

Вось ужо хутка два тыдні міне, як у іх хаце цягнуцца спрэчкі і сваркі. Два тыдні, як у хаце згінуў сямейны лад і спакой. А хто і што таму віною? Луцэя колькі разоў запэўняла мужа, што яна не злуе на яго і не выніць яго за ўдзел у забастоўцы; яна запэўняла Анупрэя, што ёй вядома ўсё, як і што павінна весціся змаганне з гаспадарамі за паляпшэнне становішча працаўнікоў. Яна добра

---

* Штрэйкбрэхер — той, хто нарушае таварыскую пастанову баставаць і, наперакор таварышам, ідзе працаваць. — *Увага аўтара.*

ведала, што будзе шмат лепш і ёй тады, калі разам з другімі яе Анупрэй будзе менш працаваць, а больш зарабляць. Ведала ўсё гэта Луцэя і памятала, толькі ўжо занадта цяжка складалася іх жыццё: недастаткі ў хаце, якія прыйшлі з забастоўкаю, саматугам застаўлялі яе забываць усё і абурвацца на Анупрэя з упікамі і са злосцю. Калі муж працаваў — стачалі канцы з канцамі і жылі, а цяпер так туга! Луцэі думалася, што мужу самому заўважна хатняе становішча, але ён без моцы, каб памагчы, тады яна спусціла тон і пачала разважаць спакойлівей.

— Анупрэйка, ну ты ж сам толькі, здароў, падумай, як жа мы будзем жыць далей? Запасаў жа ў нас ніякіх няма, ты сам добра ведаеш, — не назбіралі — не з нашых заработкаў іх збіраць. А есці, нябось, штодня трэба. Ні Стэпка, ні Сцёпка не пытаюць, ёсцека яда ці не, а ім давай. Чыя ж галава баліць? Толькі мая, бо найперш яны кідаюцца да мяне: «Мама, дай хлеба, мама, дай к хлебу!» Дзе хочаш бяры, а адказаць — не адкажаш дзецям. Дый самі духам святым не пражывём. А цэлыя ж два тыдні ні капейкі ў хату не прыбавілася… як жа не крычаць, як не ўзлавацца часамі?

— Але ж не ачамераю лезці ў вочы, — паднімаў голас Анупрэй, — каб добра ды ціха, дык яно зусім іначай, а то ўвесь час тое і робіш, што точыш мяне несупынна. Кажаш, усё добра ведаеш, а, нябось, тычаш пальцам. А ласне тут я вінаваты? Разыгралася забастоўка і захапіла ў сваё кола і мяне. Трыццаць чалавек разам — не папрэш супроціў. Як змагацца, дык усім разам. Хто ідзе супроціў — той здраднік… і ты, пэўна, не ведаеш, што з гэткімі бывае.

Анупрэй злез з полу, пацягнуўся некалькі разоў, апрануўся ў стары, будзённы, увесь зашмальцованы дзёгцем гарнітур і, не думаючы ўмывацца, з брудным вуграстым тварам, з тлустымі ад шмальцу рукамі падышоў да акна і ўтаропіўся поглядам на вуліцу. Да жонкі не казаў нічога.

Гэта скрыўдзіла Луцэю, і яна адышлася да запечку. Але доўга не магла стаяць спакойліва і, паглядзеўшы ў бок мужа, загаварыла:

— Бустуюць! Добра ім баставаць! Нежанатыя, а многія і хлеб свой маюць. Якаво ім адходзіць — хоць бы Міколу Капачу, ці Антосю Скубу, ці Андрэю Гляку? Гэта ж усё гаспадарскія сынкі, якім не страшна і месяц цэлы прабаставаць. Ці ж табе зраўняцца з імі! У цябе вось цэлая сям’я на руках, а для яе зараз і крошкі хлеба-а не будзе. Вазьмі ты гэта ўцям!

Анупрэя гэта зноў раздражніла.

— Кінь балабоніць ліха ведае што, — перабіў ён жонку, адвярнуўшыся на хату, — вось калі ваб'е сабе ў голаў, дык і дыхнуць не дае… Няўжо ты зразумець не можаш, што… Ужо ж не раз, здаецца, казаў я табе, што тут справа не аднаго мая, а агульная, хаўрусная, таварыская справа. Вось яна і вымушае кожнага трымацца ўсім разам. Тут, галубка, зусім не гадзіцца твая дзяльба на жанатых і нежанатых або на гаспадароў і беззямельных. Перад абіраннем і здзекамі гаспадароў — усе работнікі мусяць быць роўнымі. Мусіць быць еднасць між імі.

— Добра, еднасць! Я ж сваё кажу, ці магчыма табе з Мікалаем раўняцца? Сам, нябось, адчуваеш, што не. Вось, калі ўсе так налягаеце на еднасць, дык хай бы адзін другога і падтрымоўвалі. Дык гэтага штосьці не відаць.

Анупрэй моўчкі адышоў ад акна і прысеў на ўслоне. Спрачацца больш з жонкаю яму не хацелася, бо ён добра ведаў, што гэтым спрэчкам не будзе канца да таго часу, пакуль ён нанова не пачне ўспорвацца з цёмнага і спяшыць, часта не снедаўшы, у майстэрню. Пераканаць жа жонку ў патрэбнасці агулам, усім разам, падтрымліваць забастоўку, каб выйграць яе і палепшыць умовы працы, — Анупрэй не мог; ён ведаў, што гэта пытанне разбіваецца аб іх сямейнае становішча.

Анупрэй бачыў, што гутарка жонкі не блазная баўтаўня, што яе рыхтуюць тыя цяжкія ўмовы, у якія ўпіхнула яго і яго сям'ю двухтыднёвая забастоўка. Штораз, хоць і злаваўшы Анупрэя, размовы жонкі рабіліся больш балючымі і бліжэй краталі яго бацькава і гаспадарова сэрца.

Вось, прысеўшы на ўслоне, Анупрэй міжвольна паддаўся роздуму над сваім становішчам: «Праўда, яно-та мне зусім цяжка пераносіць гэту забастоўку. Дужа цяжка. І я ведаю, што гэты цяжар гняце і Луцэю. Але ж што зрабіць? Нельга ж ісці супроць усіх — нічога не выйдзе, трэ як-кольвечы канца чакаць…» Анупрэй кінуў вачыма на жонку: «А які яшчэ канец будзе, таксама пытанне? Можа, прабастуем яшчэ тыдзень-другі ці больш і нічога не выйграем, а болей бяды наклічам. Ці раз ужо так траплялася; баставалі-баставалі — а пасля на старых умовах назад да работы… Чаго добрага, і цяпер можа так быць… Вось тады будзе-э!..»

Анупрэй падняўся з услона і пачаў тупаць па хаце.

Луцэя ўвесь час сядзела мэрам прыбітая да лаўкі і незмігутна сачыла поглядам у адну кропку на вулічнай сцяне. Спакойлівы выгляд яе твару, відаць было, стрымоўваў выраз глыбокага болю ў яе сэрцы.

Анупрэй некалькі разоў паглядзеў на жонку і за кожным разам усё бліжэй адчуваў на сабе яе перажыванні. Нарэшце не вытрываў і пачаў казаць:

— Слухай, Луцэя, усё-такі ты не гаруй так. Я пастараюся трохі грошай — мне Мэндаль Крупнік абяцаў пазычыць рублёў пяць. Ліха яго бяры — аддамо калі-кольвечы… Але ж ты сама павінна ведаць, што пратрымацца да канца трэба. Пратрымаемся дружна — то выйграем, а выйграем — дык я буду зарабляць у тыдзень сем рублёў. Падумай толькі — чуць не ў два разы болей, ніж цяпер… Усё зможам спагнаць за адзін месяц… Трэба дацярпець… Бачыш, я ж не адзін такі: Пранук, Лейзар — таксама не ў лепшых умовах.

Луцэя падняла галаў і паглядзела на мужа. Перад ёю прамігнула яскраваю палоскаю надзея; змякла сэрца, і свяжысты подых прайшоў яе нутром.

— А ці хутка ты возьмеш у Мэндаля гэтыя пяць рублёў? — запытала яна мужа.

— Пэўна, сёння вечарам… а мо заўтра, — адказаў Анупрэй.

Луцэя яшчэ больш прасвятлела.

— Я таму, Анупрэйка, пытаю, што на заўтра ў хаце ні капейкі не засталося; хлеба купіць незашта.

Анупрэй як тупаў, так зразу і спыніўся сярод хаты: дагэтуль ён неяк не верыў, што ў хаце дайшло да ніткі, а думаў, што Луцэя папераджае яго заўчасна, каб не дапусціць да крайняга, пакуль цягнецца сяк-так.

— І хлеба, кажаш, няма? — спалохана прамовіў ён.

— Не хлушу, Анупрэйка.

Нічога не кажучы, Анупрэй надзеў шапку, ускінуў напашкі жакету і павярнуў да дзвярэй.

— Куды ж ты? — спыніла яго Луцэя.

— Да Мэндаля пайду, — адказаў Анупрэй.

— Пастой! Я надумалася зрабіць вось што: ці ты з Лейбам не сварыўся, як пакідаў работу?

Анупрэй задумана памаўчаў.

— Не. Чаму?

— Як не, дык, па-мойму, пайшоў бы да яго і пазычыў бы якіх рублёў з пяць. Мне здаецца, што табе ўсё роўна прыйдзецца вярнуцца на работу да яго, так ці сяк. А з Мэндалем… хопіць і таго разу: успомні, як ачамярэў ён нам тады… Слухай, Анупрэй, сапраўды, пайдзі лепш да Лейбы і… вось хай толькі змеркне крыху. Надоечы дык ён сам, спаткаўшыся, напрошваўся ў мяне:

«Хай прыйдзе, кажа, Анупрэй да мяне, і я яму грошай дам, а то мо ў вас іх няма». Пайдзі да Лейбы, пайдзі. Паслухай мяне.

Анупрэй пастаяў крыху моўчкі, пасля адказаў:

— Падумаю, ведаеш… Вельмі ж ніякавата будзе, як таварышы праведаюць аб гэтым.

— Чаго ніякавата? У першых, хто ж дазнаецца, калі ты ціха зробіш, а другое, калі і даведаюцца — то што? Няўжо ж з голаду ўміраць? Нябось, ніхто не прынясе з сваіх, каб падтрымаць… Нечага баяцца.

— Можна будзе ўзяць рублёў два з камітэта… Я думаю, што ёсць там крыху грошай.

— Ёсць-ёсць… Дык чаму ж дасюль не дагадаўся ўзяць? Сарамяжы вельмі. Вось глядзі, каб і камітэта раней цябе не абабралі.

Анупрэй нічога не адказаў і моўчкі выйшаў з хаты.

## II

Праз колькі хвілін пасля выхаду Анупрэя ў хату ўбег Сцёпка — старэйшы хлопчык Анупрэя і Луцэі, гадкоў васьмі-дзевяці, бледненькі, заморany, запэцканы ў гразь і ў парваным адзенні.

— Мама, — звярнуўся ён да Луцэі, — куды ж то наш татка пайшоў? Дазволь мне за ім пайсці, дазволь, мамачка?

Луцэя ў злосці агрызнулася на сынка:

— Чаго табе за бацькам? Я табе пакажу, распуснік! Сядзі вось у хаце.

Сцёпка паслушна схіліў галоўку, закапыліў губкі і, усадзіўшы ў рот пальчык, ціхутка стаў каля стала, спадлоб’я пазіраючы на мацеру.

— То дайце мне хлеба лустачку на вуліцу, — асмеліўся ён вымавіць, спусціўшы з паўгадзіны.

— Хлеба! Хлеба! Розак табе, а не хлеба! Яшчэ што ўшалопаеш! Хлеб на вуліцу цягаць! Расцягалі ўжо ўвесь. Цягаеш два тыдні, а ў хату ніхто не прыцягне. Няма ў мяне хлеба. Вось вернецца бацька — у яго папросіш.

Сцёпка скрывіўся і заплакаў. Перш зацягнуў ён уголас, а пасля, скмеціўшы злосны пагляд мацеры, прыцішыў голас; з яго вачэй кідаліся на стол буйныя празрыстыя слёзы, якія хлопчык часта пераймаў каравым рукавом кашулі. Луцэя ані не зважала гэтага і задуменна пазірала ў акно. Але няўвага мацеры крыўдзіла Сцёпку, і ён хутка зноў падняў голас. Луцэя не сцярпела, адхілілася ад акна і закрычала на сынка:

— Ну, а гэта што? Чаго хліпіш? Пугі, нябось, захацеў! Сціхні, кажу табе! Маўчы!

Луцэя прытупнула нагою і паківала пальцам. Яна нават намерылася падысці да Сцёпкі, каб рукамі спыніць яго плач, але стук у дзверы яе перапыніў. Луцэя адвярнулася да дзвярэй.

— Мамачка, га, мамачка, дай мне хлеба! Усе дзеткі на вуліцы ядуць хлеб, і мне хочацца, — убегшы ў хату, пралепятала Стэпка.

— Ах на іх усяліхое! — вылаялася Луцэя. — Якраз тады на іх прорва напала, калі нічога няма.

Не зважаючы на варажнасць з боку мацеры, дзяўчынка яшчэ раз пераказала просьбу і пачала чакаць ад мацеры хлеба.

— Атруты вам, на вас проглая, а не хлеба! — яшчэ зычней вырачылася на дзяўчынку Луцэя.

Абураная гэтым, Стэпка сагнулася ў кручок і перабегла да стала ды прытулілася да братка.

— Чаму ж вось Янку маці дала хлеба, а вы мне шкадуеце, — папракнуў Сцёпка мацеру.

— Мне хлеба мамка ніколі не шкадуе, — пахваліўся Янка.

— Твая маці багатая, у вас хлеба процьма, — спыніла яго Луцэя і, каб адвязацца ад дзяцей, дадала: — Ідзіце, вось, гуляйце! Чаго вы таўчацеся ў хаце ў пагоду? Марш вон!

Янка, смеючыся, выбег з хаты, моцна бразнуўшы дзвярыма. Сцёпка з Стэпкаю асталіся. Луцэя вылаялася на дзяцей і зноў адвярнулася ў акно.

Але стаяць спакойна не магла. Праз хвіліну яна вылезла з акна, прайшла колькі разоў па хаце, пасля прысела каля стала і пачала ўголас думаць: «Не, усё ж крыку мала! Крыкам ды лаянкаю дзяцей не накорміш. І так цяжка глядзець на іх: сухія, блядыя, мізэрныя. Паглядзець на чужых, дык, як пурэчачкі, ружовыя. А гэта — заморышы… А ўсё ж ад таго, што вось гэткія сцэны. На добры лад, то гэта б трэ было ім і малака, і мяса, і яшчэ сякіх-такіх лагод, але — адкуль узяць? Зарабляў вось рублёў па чатыры ў тыдзень, то ці ж магло старчыць іх на ўсё-ўсёнькае для чатырох душ сям'і? Свайго ж ні каліва, ні кастрычынкі няма… Усё ж пражывалася сяк-так, працягалася з дня на дзень. І мо б цягнулася так далей, каб яно аднакава роўна ішло, а то — час ад часу, глядзіш, і перабой, і перабой: то няма работы, то захварэе, то яшчэ якая-кольвечы прымха. А плаціць — ніхто не плаціць. Хай жа бы ўлічаў гэта — дык не. Баставаць! Добра вельмі, што не трэба рабіць… Чалавек не заглядае ўперад, не рупіцца… Каб меў жаласць да сям'і, не пільнаваўся б так шчыра ўсякіх там пастаноў. Добра таму гэта рабіць, хто мае з чым і як вывер-

нуцца, або хто вольны, не звязаны сям'ёю… Ох, бяда, бяда! Цяжка мне жыць!..»

Ад натужных думак Луцэя стамілася і, бязвольна апусціўшыся на стол, задрамала.

Дзеці цішком панырпалілі ў мыцельніку і пад прыпечкам, пакруціліся каля стала і без нічога выйшлі на вуліцу.

III

Луцэя спакойна спала.

Праз паўгадзіны, не болей, яе разбудзіў стук у дзверы. Луцэя хутка ўсхапілася, працерла вочы і прыгатовілася стрэціць, хто ўвойдзе ў хату. «Пэўна, Анупрэй», — парашыла яна, не дачакаўшыся, і нездавальняюча адвярнулася ад дзвярэй.

Услед гэтаму прачыніліся дзверы, і Анупрэй увайшоў у хату.

— Дзе ты цягаешся несупынна? — упічліва запытала Луцэя.

Анупрэя хапіла за сэрца, і ён перш сурова паглядзеў на жонку, крутнуў нездаволена галавою і прайшоў к вулічнаму акну, пасля павярнуўся да яе і сказаў:

— Ці ты звар'яцела? Сама пасылала… — вырачыўся ён і зразу ж перамяніў тон. — Я да гаспадара заходзіў… Грошы прасіў пазычыць у лік будучае працы… Я сам бачу, што нельга далей так быць… Што ж, няхай прабачаюць таварышы. Я не самахоць…

— То ці ж бачыў хто? — з надышоўшай палёгкай на сэрца запытала Луцэя і прысела супроціў мужа.

Той апусціў пагляд і спагадліва адказаў:

— Бачылі… Вядома, што бачылі… Каб і не бачылі, то дазналіся б. Ласне захаваешся?.. Ахрэмава жонка бачыла…

— Як ты ішоў ці як выходзіў?

— Як выходзіў… Што ж, усё роўна… Я ўжо гэтым запляміў сябе… Прадаў таварыскасць і справу…

— Ну, а што ж Лейба? Даў табе грошы ці не? — пераняла Луцэя, каб ведаць, як ацаніць мужаў пастумак.

— Даў дзесяць рублёў… дзесяць срэбранікаў, нібы…

Анупрэй не мог супакоіцца ад нутраных папрокаў і затупаў па хаце.

— Кінь ты плявузгаць ліха ведае што, — расцяжна заўважыла Луцэя. — Што ты прадаў? Наадварот, ты вырataваў трое душ ад голаду. Не дастаў бы грошы — заўтра сядзелі б без крошкі хлеба. Бедныя дзеці, і сёння ўжо амаль нічога не елі. Ды калі пазычыў, то ці ж гэта значыць, што і прадаў? Гэта ж не на работу пайшоў… Пакінь лепш дратаваць сябе…

Анупрэй нейкі час памаўчаў.

— Маўчы лепш, Луцэя, калі не разбіраешся ні ў чым. Забастоўка — гэта вайна… А ў вайну нельга аднаму супроціў усіх весці перамовы з ворагам. Гэта ёсць здрада… Глядзі, два тыдні ідзе змаганне, і гэтыя паганцы гаспадары не здаюцца. Думаюць прымусіць нас пайсці на міравую. Хітрыкамі, зморам, забавамі — думаюць… Не паддавацца, трымацца як мага, — вось чым можна перамагчы… А я… бачыш…

Анупрэй міжвольна скочыў к акну, за якім вуліцаю прайшло двое мужчын: яму паказалася, нібы-то ідуць да яго Мікола Капач і Антось Скуба…

— Я штрэйкбрэхерам цяпер лічуся… Першым пайшоў за гаспадарскай ласкаю, — дадаў Анупрэй, як бы хочучы пакараць сябе за заход да Лейбы.

— За гэта? Не разумею цябе, Анупрэй.

— Кінь… Бяры лепш павячэраем, што ёсць. Заві дзяцей.

Луцэя самапэўнасцю пайшла ў мыцельнік і стала ўвіхацца каля начыння. Анупрэй задуменна прачыніў акно і паззваў дзяцей.

Хутка ўсёю сям'ёю ўселіся за стол, нагнуўшыся над міскай варанае крапівы.

А тым часам у хаце цямнела.

## IV

Праз усю ноч Анупрэй не мог супакоіцца і заснуць як след. Толькі надыходзіў сон, плюшчыліся вочы і мярцвела цела, як раптам унутры штосьці адрывалася, прабягала па ўсёй постаці калючая дрыготка — і сон прападаў. Чарадою віліся чорныя думкі-сумненні, і натужна працавалі мазгі над пытаннем, як жа абыдзецца яго праступак?

Анупрэй і находзіў і не находзіў сабе апраўданні. Пасудзіць з боку галавы сям'і, з боку бацькі, — то ён зусім не здрадзіў. Луцэя як шчырая маці-гаспадыня — была права. Але з пагляду таварыскасці — зусім няма апраўдання. Анупрэй згаджаўся, што ён віноўнік перад таварышамі, што ён зрабіў цяжкую абмылку. Раз-адразу адзнанне свае віны ён адчуваў усё больш і прыкрэй, раз-адразу яе здань выразней насоўвалася на яго.

Хацелася скарэй ведаць, чым усё гэта скончыцца.

Маляваліся розныя скуткі, якія дасць вырашэнне пытання. І ўжо зараней ні ў адным з іх не бачыў Анупрэй сябе правым. Яму здавалася, лежачы, нібы хтось побач яго сцеражэ. Шамаў

вецер за сцяною, шоргала мыш у запечку, скрыпеў шашаль у шалёўках акон, а паказвалася, што хтосьці гаворыць пра яго справу. Ануprэй паднімаў голаў і кідаў вачыма ў шэры змрок хаты, прыслухоўваючыся, ці спіць Луцэя з дзецьмі.

Тыя спакойліва храплі. І Анупрэй міжвольна кратаўся думкамі аб сям'і. «Луцэя здаволена, што я ёй прынёс дзесяць рублёў, — перабіраў ён у думках. — Ды сапраўды, якое ёй дзела да ўсякіх там салідарнасцей і іншае, калі ў хаце ні капейкі грошай ці скарынкі хлеба. Двое дзетак сапраўды абадраных, бледных, ці ж замарыць іх голадам? Дзеці».

Толькі чапала гэта слова Анупрэя, як ён хапаўся за іх, загладжваючы свой неспакой і сваю трывогу.

Анупрэй ужо на світанні спыніўся на гэткім плане адказу таварышам, калі тыя паставяць аб ім пытанне рубам: «Я ратаваў сям'ю». Няўжо ж такі і гэта іх не ўрэзоніць?

І вось назаўтра, з самага рання, калі жонка пайшла на рынак, Анупрэй неспакойліва пазіраў у акно, чакаючы каго-кольвечы да сябе. Ніводнага прахожага не прапускаў, каб не агледзець. Брала падазронасць, каб на рынку, чаго добрага, не прагаварылася каму Луцэя. Ён верыў у яе стрыманасць, але штось падточвала гэту веру. Хацелася, каб Луцэя хутчэй вярнулася дамоў. А мо хто што казаў пра яго ды яна чула? Расказала б мне.

Анупрэй прачыніў акно, каб паглядзець, ці не ідзе часамі Луцэя. Паглядзеў управа — няма. Штось падштурхнула павярнуць голаў улева. Анупрэй раптам схамянуўся: недалёчка, хат праз дзве, ішоў Ахрэм Клін. Не трэба было сумнявацца — да яго. Анупрэю зрабілася млосна: так рана — то пэўна знарок. Яго жонка не змоўчала, бо гэткая язычніца. Нашчабятала, нябось, багата. Ужо ўсякія чуткі пойдуць… Чаго не было — дададуць… У людзей языкі свярбячыя — адно крані — мянташкамі пойдуць.

Каб Ахрэм не падмеціў, Анупрэй выняў голаў з акна, зачыніў яго на кручок і адышоў на хату.

Задумаўся, як і што гаварыць з таварышам. Трэба ж апраўдацца! Ды на гэта ёсць важкія прычыны.

Анупрэй паглядзеў на пол, дзе варушыліся разбуджаныя дзеткі. Бацькаў погляд, праведзены спадлоб'я, сур'ёзны, паказаўся дзеткам за нейкую пагрозу на іх з боку бацькі; яны прысмірэлі і захуталіся ў акрывала.

Анупрэй скмеціў прычыну дзяцінага манеўру і спагадліва ўсміхнуўся. «Бедныя дзеткі, усё з-за вас», — прапусціў ён у думках; і ад гэтых думак, як ад выходнага пункту да далейшых роздумаў, ён накідаў рысы наступнай гутаркі…

Так і так. Ці ж ёсць праступак?

Увайшоў Ахрэм, і Анупрэй перарваў думкі, віноўна стаў наўпрост перад увайшоўшым таварышам.

— Ты, пэўна, не чакаў мяне, Анупрэй? — пацікавіўся Ахрэм.

— Н-не-э, — раптам адказаў Анупрэй.

— А вось я зайшоў, каб табе…

Анупрэй перабіў таварыша, не даўшы таму дасказаць:

— Я ведаю, дзеля чаго ты прыйшоў… Тут ужо адкрытая справа, ясна. Але слухай, братка, я іначай не мог. Не мог, даю табе таварыскае слова… Вось дзеці, — Анупрэй паказаў пальцам на пол, — так прыперла, што без хлеба, без… і хапіла за горла пытанне, як быць? Дапушчаць, каб уміралі, ці пайсці на папрошную… Мучыла, паверыш, адзнанне віны перад агульнай справай, але…

Ахрэм паслухаў Анупрэя, увесь час гледзячы яму ў твар і ловячы ў ім трывогу ды раскаянне, пачакаў крыху і суцешна адказаў:

— Я сазнаю ўсё… Ласне, думаеш, мне невядома тваё становішча? Тут цяжка ўстаяць… Я ўчора казаў сваёй жонцы: маўчы, тут не злачынства і не здрада, а вымус жыцця…

Анупрэй павесялеў, крыху сцешыўся і задаволена дадаў:

— Я і ведаў, што ты справядліва рассудзіш. Але прасіцьму цябе, пераканай, браток, і другіх, калі яны паднімуць на мяне лаянку… Ёсць жа ўсякія людзі!..

— Я не веру, каб хто што нядобрае падумаў на цябе… Ды ніхто і ведаць не павінен… Я вось і сам прыйшоў да цябе зусім не па гэтым… Я, ведаеш, хачу запытаць у цябе, ці нельга было б дастаць у цябе пілкі? Думаю пайсці ў лес паставіць якую шурку дроў, пакуль гуляю… А ў цябе, здаецца, была пілка…

— Так, ёсць недзе… я выскачу ў сенцы…

Анупрэй намерыўся ісці, але знадворку стукнулі дзверы, і ён спыніўся.

Пачакаў; у хату ўвайшла Луцэя.

— Дзень добры! — прывіталася з Ахрэмам, падазрона кінуўшы на яго порсткі погляд.

— Адкуль так рана? — запытаў Ахрэм.

— На места бегала… Хлеба не было ў хаце, — сухім голасам, не азіраючыся на Ахрэма, адказала Луцэя. І, спусціўшы хвілінку, дадала: — Але, здаецца, рана, а людзі ўжо паспелі даняць.

Мужчыны насцярожана паглядзелі ў бок Луцэі.

— У чым справа? — разам запыталі.

— Усё ў тваім паступку… штрэйкбрэхерам завуць. Сустрэла Кастуся Вілку і Боруха… Абодва з пенаю ў роце накінуліся на мяне…

Анупрэй збялеў не то ад сполаху, не то ад злосці і, як бы шукаючы падмогі, павярнуўся да Ахрэма:

— Чуеш, брат?

Ахрэму стала няёмка: Ануправевы словы адначасова былі і глыбокім укорам яму за павядзенне яго жонкі.

— То, пэўна, яна паспела распусціць чуткі па мястэчку.

Ахрэм пачырванеў ад няёмкасці. І, каб выйсці з гэтага становішча, рашуча падняўся з месца, матнуў рукою і чуць не крыкам выказаў:

— Яна не павінна была казаць! Я ўчора ёй рашуча забараніў. То чортведама што! Брахунцы! Самі маюць усё бацькава, а лаюцца.

Прайшоў сюды-туды па хаце, паглядзеў у акно і адвярнуўся да Луцэі.

— Не думай! — уважліва загаварыў да яе. — Не думай, суседка, што то знарок… Я запэўняю сябе, што не паздаровіцца жонцы, калі то яна разбрахала.

Луцэя адвярнулася на Ахрэма, змякчыла суровасць выгляду і адказала:

— Ахрэмка, братка, ты сам ведаеш, як балюча гэта слухаць… То ж крый чаго, пойдуць супроціў яго, што ён рабіцьме? Віна ўся мая, бо я Анупраэя выправіла да гаспадара за грашыма… Ён сам нізашто не хацеў… Не карайце ж за мяне дзяцей…

Ануправй маўчліва стаяў на адным месцы, сочачы за Ахрэмам. А слова «штрэйкбрэхер», як малатком, стукала яму па галаве, разліваючы ўнутры балючую трывогу.

*1918*

## ЧЫРВОНААРМЕЕЦ ПАНКЕЛ ЛІПА

### I

Калі Панкел Ліпа вярнуўся ў казарму і прыйшоў у сваю роту, то яго таварышы ўжо спалі. У казарме было ціха: толькі і чулася глухое цюканне старога загарка дзесьці за сцяною ў канцылярыі ды мерныя выразныя стукі вартаўніка па калідоры.

У абодвух баках калідора, у неглыбокіх ямках-лёхах у сцяне былі ўстаўлены замурзаныя дымам, недагледжаныя лямпы-свірэлкі, якія, цьмяна гаручы, кідалі ад сябе смуглае праменне.

Панкел пільным узрокам агледзеў усё памяшканне, паківаў чамусьці галавою і спакойна ўсеўся на сваёй койцы, якая трэцяю стаяла ад надворнай сцяны.

— Эх, і абрыдла ж усё да чорта… Але няма рады, хоць ты захлыніся. Колькі часу ўсё адзін і адзін, без родных, без усялякае аб іх чуткі… Адзін адным — нібы саўлук, нібы бязродны… Вайна і вайна! Канчатку ёй, заклятай, ніякага няма. Толечкі вярнуўся з фронту раненым, пакалечаным… ні дадому, ні да сваіх, а ў шпіталь, халодны, брудны, бездаглядны мур… І столькі мукаў перацярпеў, столькі здароўя згубіў!.. Чужыя людзі, койкі, енкі… І вось, яшчэ нават як след не ачуняў, а тут, глядзіш, ізноў збірайся на фронт… згарэў бы хоць ён тамака… Гэта ж жартачкі-ы! Ці ж хопіць мяне на гэтыя новыя мукі?..

Панкел ізноў пакруціў галавою, выказаў злосную міну і заскрыгатаў зубамі… Азірнуўся вакол сябе. «Не! На гэты раз на фронт не пайду… Хаця б ачухацца ад гэтых ранаў. Досыць! Чаму мне трэба больш за ўсіх ваяваць? Ды завошта мне ваяваць трэба?»

І Панкел бадрыўся ад выказаных думак ды мерыўся ажно выкрыкнуць іх уголас, але надышоўшыя новыя роздумы яго спынілі, ахаладзілі. «А калі прымусяць?» — мігнулі яны перад ім. І Панкел спалохаўся іх; крыху памаўчаў у нейкім глуздзе. «І калі прымушацьмуць, будуць застаўляць, то і тады не пайду, не пайду, і квіта… Хай што хоць са мною робяць. Не паслухаю прыказу, нізашто. Сапраўды кажа Проў: «Будзь цвёрдым і не гніся так лёгка пад прыказамі. Мала што табе бальшавікі пачнуць прыказваць, ці ж усё ім выпаўніць». Так: не буду выпаўняць, стану крыху паўпарцей».

Панкел устаў з койкі, смачна зяхнуў, справадзіўшы позіх зацяжным енкам, і пачаў распяразваць папругу. Выняў гвоздзік спронжкі з дзіркі рэменя і спыніўся. «Ах, як добра было б пагутарыць цяпер з Провам, удвух, наасобках. Цікава пачуць, што ён мне парадзіць зрабіць, калі ўсё-такі і прымусяць мяне пайсці па фронт. Цікава! Вельмі цікава! Вось не буду спаць — пачакаю яго», — парашыў Панкел і аддаўся новаму наплыву думак, няцэлых, трывожных, смутна-невыразных. І назойны рой скаваў Панкела, як ланцугамі, і прымусіў спакойна сядзець.

Вакола яго таварышы ўжо храплі. Адны ляжалі на сваіх койках спакойна і нерухома, другія варочаліся з боку на бок, бы на спрунжынах, кракталі; іншыя не маглі супакоіцца ад кашлю і охалі. Вартаўнічага хутка стала не чуваць, нібы і ён задрамаў.

«А мо Проў ужо і спіць? — мігнула ў Панкела думка, і ён азірнуўся ў бакі, нібы шукаючы яго койкі. — Не, месца зусім пустое», — адказаў Панкел сам сабе.

Прова яшчэ не было — значыць, дзесьці ён спазніўся ў горадзе.

«Трэба яшчэ крыху пачакаць; потым пачну распранацца, а вось, покі збяруся лажыцца, ён і натрапіць… Але ж і хітры, аднак, гэты Проў, нечага сказаць! Усё пранюхае, усё дазнае — хітры, відаць, з багатага котлішча… не мне равеснік… Бач, як усяго багатага мае пры сабе: і кавы, і бялізны, і грошы, і ўсяго. Не шкадуе нічога. Гэтак, вядома, і служыць няцяжка. Ды, нябось, яшчэ на фронце ні разу не быў… Ні на фронце, ні на варце… Круціцца сабе, нырпаліць па горадзе, і не знайся… Ёмкі-ы, о-го-о, казаць нечага. Купца якогась сын, няйначай… Па ўсяму відаць… Ды і ў гутарцы, ліха яму, цягне за іх… за сваіх; глядзіш — так і гне ў іх бок, заступаецца, усяляк іх абараняе».

Панкел кіўнуў галавою і ўздыхнуў: «Ну, вядома, так ужо, мабыць, і трэба… Гэта не вялікая ганьба, мала што… Аднак хлопец ён усё-такі разумны, тлумачны… Судзіць справядліва, толкам, ажно люба паслухаць… Вось я асабіста дужа люблю яго паслухаць…»

Панкел паціху, з перапынкаю раздзяваўся, кожную рэч звяртаючы акуратна і кладучы — што ў ногі, а што пад падушку, іншае ж пад голаў. «Няйначай трэба дачакацца Прова, — думаў далей Панкел, — трэба вымусіць яго на гутарку, парадзіцца з ім, што рабіць… Усё-ткі два розумы, дзве галавы — не адзін, не адна…»

Панкел абарваў думкі, пачаў ззуваць боты, крэкчучы ад ныцця спіны і колкі ў баку.

— Ах, так ломіць! О-ёй-ёй! Ох-хо-хо! Вось і едзь на фронт… у дарозе згінеш, — шэптам праказаў сам сабе Панкел і хапіўся рукой за плечы, потым за бок…

У гэты час пачуўся ціхі стукат дзвярэй, а потым і шорханне шагоў. Панкел адагнуўся ад койкі і паглядзеў у бок дзвярэй — то прыйшоў Проў, які паціхеньку, з асцярогаю, каб не нарабіць груку, на пальчыках заварочваў вузкімі праходамі к сваёй койцы. Панкел нібы не прымячаў яго і нырпаліўся над сваёю пасцеллю.

— А ты ўсё яшчэ не спіш? Нябось, нядаўна вярнуўся ў казарму? — падышоўшы, шэптам запытаў яго Проў.

Панкел паважна адагнуўся ад койкі і пільна агледзеў Прова. З ног да галавы акінуў узрокам, з хвіліну памаўчаў, потым загутарыў:

— Не вельмі даўно прыйшоў і я. Прыйшоў і задумаўся: гэта ж хочуць ізноў адпраўляць нас на фронт, а мне так не хочацца, так страшна… не то, бач, каб баяўся, але ад болю, ад незажытых ранаў… Страшна, і я рашыў прычакаць вас, каб… — адрыўна, няўпэўнена, нібы намацоўваючы грунт, адказаў Панкел, павярнуўшыся к Прову і падступіўшы да яго на шаг.

— Мяне? Чаму гэта? — нібы здзівіўся Проў і затаіў выплыўшую на твары радасць. Моўчкі абодва прыселі побач на койцы Панкела і некалькі часу памаўчалі.

— Ці чулі вы, што нас ізноў на фронт думаюць пасылаць? — першым пачаў Панкел, недаверна аглянуўшыся вакола сябе…

— Так, чуў, думаюць… Што ж дзіўнага ты ў гэтым знайшоў?

Панкел крыху памаўчаў, потым сказаў:

— Не хочацца, ведаеце, абрыдла вельмі… Я не паправіўся якраз… усё цела ные, ломіць… Дый падумайце — восьмы год я ўсё гэтак вандрую: то фронт, то назад у шпіталь… Пяць разоў быў ранен… Увесь час без вестак аб родных, дзе і што яны; не ведаю долі ні жонкі, ні дзяцей… Знайсці б іх, праведаць аб іх што-кольвечы, на хвілінку з імі б угледзецца і… больш нічога… Тады б я зноў гадзіўся на справу, маўчаў бы, слухаў і выпаўняў бы прыказы… Хоць яно то і супачынку дужа хочацца, чалавек не сталь — не можа трываць бясконца, ну… Але то няхай сабе, вось яшчэ мо як пратрымаўся б… толькі сямейка, дачушка, хата… Дзе яны і што? Без капейкі грошай пакінуты… Ах, канчатку няма ні гэтай вайне-завірусе, ні гэтым фронтам паганым, ні…

Па твары Панкела беглі балючыя сударгі, мяняючы свае абрысы за кожным словам; голасна праводзіў іх востры скрыгат зубоў і адчайны выверт рук.

Проў пільна сачыў за выразам твару Панкела і, пацяшаючыся ўнутры, думаў: «Вось яшчэ адзін… Гэта паказвае, што ўжо ёсць глеба, гатова… Ды чаму ж не быць? Стаміліся людзі, заездзілі іх у канец бальшавікі… Затое і іхнія скрэпы пачалі трашчаць… Можна цяперака арудаваць з поспехам… латва… Вось на заўтрашняй рахубе трэба будзе абрадзіць усё і брацца за справу старанней… Толькі пагнуць у гэты бок… як належыць…»

— Слухай, Панкел, а давай паспрабуем зрабіць так, каб нам зусім не ваяваць, добра? — асцярожна парадзіў Проў.

— А ласне гэта можна зрабіць? — зацікавіўся Панкел, нібы акрыяўшы ад нейкага сполаху.

— Гм! як зрабіць? — Проў агледзеўся вакол і па казарме; гэта зрабіў і Панкел.

— А вось… — пачаў ізноў Проў, — на фронт пойдзем ахвотна, паслушна, а па дарозе — давай падгутарым чырвонаармейцаў, і як прыйдзе да бойкі — уцяком з часці, здамося ў палон: «Бярыце нас! Здаёмся!» — крыкнем і перабягом да казакоў… усе, палком, гуртам… А там, а там у іх і адпачнем… У іх усяго ёсць, і мы ўдостач пад'ямо… Га, Панкел, згодзен ты на гэта?

— А ці ж можна так? — перапалохана запытаў Панкел.

— Вось цудны які, а чаму ж не? Хіба ты мне не верыш?

Панкел задумаўся.

— Н-не-е, ведаеце, цяжка і… страшна здавацца ў палон. Ды і брыдка, непачэсна-а… Гэта правакатарства, здрада. Усе будуць пальцам тыкаць: «Здраднікі, прадаўцы», скажуць. А што дастанеш за гэта? Ласне пахваляць за гэта нашы ворагі? І дадуць якія-кольвечы прывілеі?

— Го, браток, не думай благога… Не ашукаешся; хто да казакоў пераходзіць — даюць таму ўсякія палёгкі… Ды што казаць! Там народ — не нашаму раўня! Далікатныя, паністыя ўсё… Ведае, што рабіць і як абыходзіцца. Усе вучоныя, разумнікі… Там, у казакоў, зусім інакш нашага… Кінь, браток, верыць бальшавікам! Брэшуць яны, не болей.

Проў цікаўліва, з падмігамі, з захаванымі ў маршчынках твару лёгкімі калючымі хітрыкамі акідаў Панкела празрыстым поглядам, сочачы за тымі адбіткамі ўражання на яго твары, якія пакідала за сабою гутарка.

Панкел жа маўчаў. Некалькі разоў, з перацягамі, нібы з пуду, прабягалі па яго смуглым задуменным твары пуглівыя, недаверныя ўхмылкі, пакідаючы за сабою сляды глыбокага суму, вострага сумнення і густое шкоды чагосьці, яму аднаму вядомага.

— Ну, як жа? — даўшы яму падумаць, запытаў Проў, не перастаючы ўвесь час азірацца вакол сябе. — Па-мойму будзе ці не? Разабраўся?

— Гэта не салдаты і не ваякі: сённека к нам, а заўтра ад нас, — скажуць яны. І будуць здзекавацца над намі, як і над усімі іншымі нашымі таварышамі… і шомпалы, і розгі, і расстрэлы… О, не, гэта, па-мойму, нецікаўна.

Проў нецярпліва даслухаў, пачасаў вісок і сказаў:

— Кінь, браток, то бальшавіцкая брахня… пераканалі цябе бальшавікі, каб застрашыць чырвонаармейцаў, адбіць у іх ахвоту… Го-о! А колькі, аднак, здаецца нашага брата-а! І добра робяць, вылузваюцца з лапаў бальшавіцкіх!.. — сціскаючы ў сваёй руцэ руку Панкела, разуверваў і ўгаварваў яго Проў. — Ты вер мне, Панкел: зусім хлусня тое, што нібыта казакі ці дабравольцы

з намі — чырвонаармейцамі — дрэнна абыходзяцца… Я табе кажу… Падумай, што ж бы то было, каб гэта так рабілася, — тады б на чым выйгравалі б ваюючыя між сабою стораны? Кожны разлічвае на спакусу і абман сваіх ворагаў. Ой, колькі здаецца чырвонаармейцаў казакам! І гэта казакі добра ведаюць і шануюць тых, хто ім здаецца ў палон. Ну, сумняваешся?

— Трэба крыху падумаць, — адказаў Панкел.

— Ды кінь, брацe! Чаго там болей думаць? Чаго сумнявацца? Не век жа жыць табе на фронце, то ў казарме, не век жа гразіцьме жыццю, ліха ведае за што і каго… Калі думаеш аб сабе, аб сям'і, то трэба ж скончыць з гэткімі варункамі калі-колечы і адпачыць трохі… Ці ж аднаму табе за ўсіх адбаярвацца? Ці ж больш табе, чым усім, трэба? Ды, галоўнае, за якую тут падзяку ўсё гэта? — горача і старанна казаў Проў.

Панкел шчыра падумаў, потым дапытліва адказаў:

— Ну, добра; а калі я і згаджуся, рашу, то як гэта будзе там, на фронце, вымеркаваць?

Проў шчыльна прытуліўся да Панкела і на вуха прашапацеў:

— Гэта ўсё будзе зроблена і абмеркавана падрабязна… Ты зойдзеш да мяне, я буду ў штабе і пазаву цябе… Там у нас усё наладжана — цэлы гурток ёсць, арганізацыя цэлая. Вось там мы ўсё і абладуем… На фронце ўсё відней, спрытней, а тут… нельга сказаць, як выйдзе… Галоўнае — будзь пэвен; пільнуйся мяне: я аб усім табе буду казаць, як і што рабіць. Ну, як, Панкел? Латва?

Панкел памаўчаў. «Ён ужо здаўся! Далей не выцягне», — прабегла ў думках Прова, ён падняўся з месца і пацягнуўся. Яго твар выказваў радасць перамогі яшчэ над адным чалавекам.

— А хочаш, — прыгнуўся ён к Панкелу, не даючы яму апамятацца ад разам нахлынуўшых на яго думак і ўздыму пачуцця, — і ты можаш быць залічаным да нашай хэўры… Ты можаш смела падгаварваць і другіх сваіх таварышаў: бач, бліжэйшых да цябе і надзейнейшых… Цішком, вобмацкам, выпрабоўна… Кожны чалавек — лішні гвоздзь у справу. Чымсьці болей нас будзе — тым смялей і вярней… і ахватней… Папробуй, ану ж і ўдасца… здалёк так, з падходам…

Проў прытуліўся да яго вуха…

— У нас за гэта плацяцца грошы. Ды іншая падзяка даецца… Такі ўжо зроблен парадак… Прабуй… перш шапні, памацай, як кажуць, без імяў, здалёк… як нічога б сам не ведаў, а, бач, з чутак, з перадач… вядома, нібы звычайны чырвонаармеец сярод сваіх… — асмеліўся пасуліць Проў, угадваючы падатлівасць і прыхільнасць да сябе Панкела.

— Самае важнае для мяне — гэта дамоў бы на кароткі час… Тады б… то ж ад фронту недалёка… Вось мо б гэта праз вас можна было б, то… — дапытліва праказаў Панкел.

Проў здаволена ўсміхнуўся.

— Чаму ж не — будзе і гэта. Колькі хоць… Чымсьці болей ты прывабіш да сябе — тым болей дастанеш падзякі… Не толькі дамоў пусцяць, а і грашыма яшчэ надзеляць на дарогу… толькі пастарайся… не сумнявайся, брат, ні капелькі…

Проў не даказаў: стукат шагоў вартаўнічага, паспешна захадзіўшага калідорам, яго перабіў…

Проў швыдка адскочыў да свае койкі і, прыгнуўшыся, стаў раздзявацца.

Панкел паважна, у задуменні, паваліўся на койку і апрануўся коўдраю, захаваўшыся ў яе з галавою.

Вартаўнічы не звярнуў на іх увагі, а прайшоўшы між іх аддзяленнем, павярнуў налева, да дзвярэй.

Проў скоса паглядзеў услед яго, жартліва падмігнуў вачыма і працягнуў галаў у бок Панкела, думаючы з ім пагутарыць яшчэ крыху, але, убачыўшы, што той ляжыць, апрануўшыся з галавою, пакінуў намер, адвярнуўся і ўлёгся сам.

## II

Пасля гутаркі з Провам Панкел доўга не мог супакоіцца. Лёгшы спаць, ён пільна і доўга абдумваў кожнае слова як Прова, гэтак і сваё; варочаўся з боку на бок, усё не могучы заснуць, а назаўтра дык цалюткі дзень яму нічога не ішло ў галаў: за вошта б ён ні браўся, чаго б ні датыкаўся ў думках, гутарка з Провам збівала яго думкі да сябе. Панкел верыў і не верыў Прову, згаджаўся з яго радаю і не згаджаўся. У яго сяродку, у душы, была блытаніна пачуццяў, так што ён не мог ні на чым адным спыніцца, за вошта ўхапіцца, каб аглядзецца, злавіць кіраўнічую думку. Праўда, адметней і ўдатней усяго ў галаве Панкела здрачыла ўсё ж тая, знаёмая яму аднаму неадчэпная думка — думка аб доме, аб родных; і толькі за ёю ўкрадкаю, нічога супольнага не маючы, ганялася балючая непрыемная другая думка — ужо аб фронце; усе ж іншыя, засмугшы, вярцеліся вакол гэтых дзвюх, то выказваючы на хвіліну свой бледы выраз, то губячы яго ў імгле бесцікаўнасці і няўважнасці. «Проў кажа, — судзіў сам з сабою некалькі разоў у дзень Панкел. — Проў радзіць і ўгаварвае… Проў абяцае… Няўжо гэта ён шчыра і без задніх думак? І няўжо ткі яму паверыць? Няўжо ён мне дабра хоча? Значыць, паверыць

яму, паслухаць яго і ісці за ім?.. Н-не! Гэтага я ні ў якім разе не магу парашыць… На гэта я не-а… пайду нізашто!..»

Як бы ў доказ гэтага Панкел матаў галавою, рабіў цвёрды мах рукою і крывіўся… «Не зраблю, бо штосьці мне гэтага не дазваляе, штосьці перашкодзіць гэтаму… Ды падазронасць бярэ: чаго гэта Проў так шчыра ўжо захвальвае «сваіх казакоў ды дабравольцаў» і ганіць бальшавікоў і просты рабочы народ… Бадай што, тут ёсць нешта нячыстае. «Людзі брэшуць! Бальшавікі нагаварваюць!» — кажа ён. Нябось, тут не нагаворыш, калі многія сваімі вачамі бачылі і на сваёй скуры перанеслі ўсе казацка-генеральскія даброты… О, гэта паганцы і злыдні такія, што ад іх дабра не прычакаеш… Казакі! Хто іх не ведае? Колькі яны крыві работнічай і сялянскай прапілі, баронячы цара! Го-о-о!» Але гэтыя думкі змяняліся другімі: «А мо… можа, праз Прова і інакш усё можна было б зрабіць… Відаць, ён там свой, закіне словам-другім — і я дома… Што значыць аднаго чалавека адпусціць? Хто гэта прымеціць?..»

Панкелу было не да яды: не цікавіла — і кропка. Уся завіруха пачуцця, узбураная варункамі, усе абставіны, выпхнутыя напаверх жыцця скуткам яго лёсу і прапёршыся, загнаўшы сваю ахвяру ў цесны куток, зляпіліся ў нешта адно, цяжкае, балючае, залезшае яму ў нутро і скрабаўшае за самае ценькае і каразлівае месца.

Няўрымна, назойліва гняло яно Панкела, дражніла, шпігавала дрыготным свербам: «Як тут рабіць? Куды схіліцца? На фронт і за Провам? На фронт і таксама да забыўнасці, шчыра і верна несці сваю службу, як і ўперад? Куды пахіліцца? Дзе чакае мяне лепшы лёс? Не разбяруся — ды годзе! Не растлумачыў сам сабе! Зайшоў у гэткі куток, хоць задушыся — ды годзе… Не, трэба аддацца на волю лёсу, на хвалі жыцця…» Махнуў упэўнена рукою Панкел, і нібы гэта яго крыху супакоіла. Але зараз жа ў галаве яго запанавала кіруючая думка: «На фронт!»

«На фронт!» — у гэтым сыходзілася ўся агульнасць, злучаная з пераменаю абставін, з узбурэннем новых думак і пачуцця разбітае, надарванае самотнасці. «На фронт!» — перш няясна, украдчыва, неадметна варушылася дзесьці на задворках Панкелавай душы, а потым усё жывей, выразней, назойлівей высоўвалася напаверх новае пачуццё, ад якога нельга было адкасніцца.

І Панкел стаў чакаць таго моманту, калі да яго вушшу кранецца пазыў-вокліч: «Збірайся ў паход!»

Чаканні заўсёды ўздоўжваюць час, робяць яго цяжкім і з гэтым козлытна-цікаўным: хочацца дачакацца хутчэй, а на краі

спаткання з дачаканым — ужо хочацца расцягнуць час выпаўнення чаканняў…

Панкелу прыйшлося чакаць пяць дзён. Для яго гэты час здаваўся вельмі доўгім, калі ён пераносіўся думкаю да апошняга дня, а ўжо на пяты дзень Панкел мог выліць сваё пачуццё ў словах: «Як хутка праляцела!» І, азірнуўшыся назад, ён убачыў, што гэтыя пяць дзён перабыліся (бо куды там было да жыцця!) на адзіноце, воддаль ад таварышаў, без стрэчы нат з бліжэйшымі з іх. І гэта было таму, што Панкелам валодала нейкая бесцікаўнасць да ўсяго, апроч фронту, з туманным яго выразам; ім валодаў такі настрой адчаю, што хацелася ўсяму свету гукнуць: «Для мяне цяпер ты не патрэбен!» — каб адкасніцца і маўчаць-маўчаць…

Пры гэткім настроі зусім зразумела, што Панкел на ўсе замеры Прова пагутарыць з ім адказваў хлуснёю, што нібы яму нямашака часу, або баліць галава, ці нядобра на сэрцы.

Але ў гэтыя дні, калі ўвесь свет быў чужы для Панкела, блізкі паход на фронт вызначаў многія самотныя яго інтарэсы. Так, Панкел загадзя старанна сабраў свае рэчы, раскіданыя і на гваздзях у слупе, і на койцы пад падушкаю, і пад койкаю; пасартаваў іх па іх вартасці і карыснасці для сябе і акуратна запакаваў у куфэрак: няхай будзе напагатове. Раз-поразу, усяго да дзесяці разоў, ён перамацаў кожную рэч, каб праканацца, што нічога не забыў.

То было на трэці дзень. І якраз, калі яго, Панкела, клапаціла капаніна ў маёмасці, у казарме камісарам быў скліканы сход чырвонаармейцаў. На сход была сабрана амаль не ўся казарма. На сходзе абгаварваліся бягучыя пытанні, звязаныя з наступным паходам, з цяжкім становішчам на фронце, якое вымусіла гэты іх паход; перш камісар, потым камандзір, а далей яшчэ з камуністаў іх роты два таварышы ў сваіх гарачых прызыўных прамовах чорнымі фарбамі абмалёўвалі цяжкія часы, напаткаўшыя савецкія рэспублікі, заядлыя патугі ворагаў працоўнага народа знішчыць савецкую ўладу і аднавіць свае старыя, пабудаваныя на няволі рабочых і сялян, парадкі. Усе прамоўцы адмячалі святую павіннасць кожнага з чырвонаармейцаў забыць усё, што злучана з іх прыватным жыццём, і смела ды цвёрда ісці на ворага.

Панкел сядзеў увесь працяг сходу на сваёй койцы, калупаўся непрыкметна ў сваім куфэрку і многія словы прамоўцаў прапускаў паміж вушэй. Праўда, праз гэта ўражанне яго не губілася ад прызыўных слоў, сэрца не маўчала спакойна. У Панкелавым нутры ўздымаліся ваяўнічыя пазывы, рос бадзёры настрой, ва-

рушылася злосць да ворагаў працоўнага народа… І калі пасля сходу чырвонаармейцы сталі жыва абгаварваць прамоўцаў, хто хвалячы, хто ганячы кожнага паасобку, то Панкел міжвольна адчуў, што яго жаданне «хутчэй на фронт!» пашырылася, вырасла ў вялікую сілу і заўладала ўсёю яго істотаю… «Фронт», —нібы чыйсь голас шаптаў яму на вуха, і ўсе думкі, бы пчолы ля кветкі, вярцеліся вакол значнасці гэтага слова. А з думкамі ўставалі і ўражанні, якія мастацка-выразна не то малявалі, не то выяўлялі бачаныя ім, Панкелам, мясцовасці, іх разлогі пры лясах, абапал рэчак, дзе за ўзгоркам палявы штаб прымасціўся ў балаганах. Нават выяўна чуліся стрэлы, выкрыкі камандзіраў — усё знаёмае, нядаўнае, перажытае і… агорклае, абрыдлае. «Няхай бы не бачыць усяго гэтага болей!» — шавялілася спотайку нейкая адваротнасць… але пазыў «на фронт» зацьміў усё.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І калі ў суботу з раніцы Панкел спрасонку пачуў знаёмую ўжо яму каманду: «Уставай! У паход сабірайся!», то раптам бадзёрасць ахапіла ўсю яго істоту: Панкел стаў жвавы, рачысты, рухавы, з твару не сходзіла жывая ўхмылка.

Нібы на спружынах, ён хутка падняўся з пасцелі першым, папіў гарбату, першым сабраўся і першым выбег на дзядзінец. Увіхаўся, нібы спяшаючы на цікаўны баль ці ў госці да прыяцеля, чуў у сабе, як і бывала з маладых гадоў, вострую цікавасць да людзей, з якіх усе тыя, што мігалі перад яго вачыма, былі па душы, здавалася яму, блізкімі і мілымі. А Проў, дык той зусім захапіў яго сваёй таемнасцю, так захапіў, што вымушаў яго сачыць за сваёю бегатнёю па казарме, настарожвацца чутка да кожнага яго слова. Натыркаючыся на Прова, Панкел ухмыляўся прыемнаю і мяккаю ўхмылкаю, якая казала Прову: «А я ўсё-ткі шаную цябе». Проў выразна вычытваў гэтыя словы, ведаў, што іх пісаў настрой душы Панкела, і, задаволены, паказваў выгляд, што адказвае яму тым жа самым. Толькі выпадкова яны не стрэліся ў той дзень ды душа ў душу не пагутарылі.

Панкел да таго аддаўся збору на фронт, да таго захапіўся цікавасцю блізкага паходу, што цалкам увайшоў у яго рух, клапатлівасць, у яго баявую трывожнасць. Ён пачаў злаваць, бачачы, як многія з таварышаў-чырвонаармейцаў нядбайна, гультаявата і марудна збіраюцца; дваіх нават упікнуў за іх знарочыстую маруднасць.

— Вы ж на сходзе гэтак голасна гукалі: «Памрэм ахвотна! Хоць сёння на фронт!» — прыпомніў ім Панкел, каб балючай іх уразіць.

Затое, калі ўсе выйшлі на двор, пастроіліся ў роўную шарэнгу, ён радасна ўздыхнуў і лёгка павярнуўся направа, першым зрабіўшы цвёрды і ўпэўнены крок у вароты.

III

На фронт Панкелу са сваёю часцю прыйшлося ехаць болей пяці дзён. Але, нягледзячы на гэту доўгую дарогу, ён не нудзіўся і не стамляўся, а, наадварот, быў бадзёрым і жвавым. Усё яго востра цікавіла, ажно Панкел цешыў сябе раз-поразу: «Ніколі, здаецца, не было так весела». А калі глядзеў на ўсіх, то здавалася яму, што ўсе падмячаюць гэты яго настрой.

Увесь час язды стаяла мяккая, сонечная пагода: сіняе неба бяскрайным полагам вісела нерухома над зямлёю і, здаецца, адбівалася ў сваёй сіні апустошанае поле і галеючы лес. У чыстым паветры занадта гучнымі паказваліся крыкі варон і шпакоў.

Праз усю дарогу іх поезд спыняўся толькі на буйных станцыях. Ён ішоў не надта спешна, неяк нібы гультайна, марудна, ажно Панкелу хацелася яго падапхнуць, пагнаць. На кожнай станцыі, нібы заўчасна было ўмоўлена, так акуратна і парадкам іх сустракалі рабочыя і служачыя станцый і суседніх мястэчак ці месцаў, шмат дамешаныя сялянамі сумежных вёсак, з чырвонымі сцягамі, пеючы песні пад медныя зыкі музыкі.

Стройна падбліжалася маніфестацыя да вагонаў іх эшалона, спынялася і адчыняла мітынг. Чырвонаармейцы траха не ўсе выбягалі з вагонаў і грудзіліся ў грамаду, а болей нерухомыя і гульныя збіраліся ў дзвярах вагонаў і настарожваліся ўбачыць і пачуць, што будзе рабіцца і гаварыцца. І бачылі, як кожны раз з гушчы прыйшоўшых да іх на спатканне выходзілі адзін-другі прадстаўнікі, якія аддзяляліся ад грамады і пачыналі свае прамовы. Гаварылі нядоўга, але ўсе прызыўна, завуча, бадзёрачы, настройваючы ваякаў на самаахвяру ў імя рэвалюцыі. Таксама па чарзе вызываліся развітнейшыя і развейшыя з чырвонаармейцаў адказваць на прывітанні, гэтак і адказныя прамовы выказваліся ў простай, зразумелай, ад душы шчырай мове, праводзячыся пекнымі наіграмі музыкі.

Праз усю дарогу Панкел быў у гэткім паднятым настроі, што з надзвычайнаю цікавасцю лавіў кожнае слова прамоўцаў, дапускаў іх да сэрца і салодка, ваяўніча адчуваў сваё пачуццё ў іх.

На адзін з чародных мітынгаў Панкел нават сам папрасіў у камісара сказаць невялічкую, але моцную, гарачую прамову і, дастаўшы згоду, зразу ж пачаў гатавацца. Скляпенне, форма

прамовы ў яго галаве зляжылася паміж яго патугі, сама сабою, і на перагоне Панкел стараўся яе абгладжваць. Кожную думку, кожнае слова ён разбіраў з усіх бакоў, перастаўляў з месца на месца, чарадаваў з другімі, падмяняў, дапасоўваў мацнейшае па ўкладзенай у яго сіле пачуцця да слабейшага. Сваю прамову Папкел кіраваў на адну мэту, намерваўся збіць ён адну цэль: бадзёрым і магутным пазывам заплаціць у сваіх таварышаў смагу бесспагаднай помсты да ворагаў працоўнага народа, да нішчыцеляў волі беднага, прыгнечанага люду. Стараўся ўлажыць у душу чырвонаармейцам жалезную ўпартасць і загартаваць волю да рашучай перамогі над ворагам. Усё, што адцягвае думкі ад гэтага святога дзела, што сваёю самотнаю дробяззю засмучае сэрца, наганяе жуду і адбівае надзею, Панкел мусіў зганіць і звесці на нічога, задушыць. «Толькі ісці ўперад, як ішоў я і дагэтуль».

Хутка Панкел нашчэнт быў захоплен думкамі аб сваім выступе перад таварышамі. Патрошку ўражанні яго пачалі маляваць вобразы розных момантаў з руху грамады, які станецца пад уплывам яго слоў. Вось у адзін момант твары ўсіх зробяцца сур’ёзнымі, парывіста ўсе замахаюць рукамі, пацiснуцца ўперад, потым паспяшаць у вагоны і патрэбуюць хуткай адпраўкі ў бойку… Яго, Панкела, будуць насіць на руках, гайдаць, гукаць, каб ён быў іх правадыром. «Эх, даехаць бы хутчэй да ўмоўленай астаноўкі», — у такт стуку калёс пераказваў сам сабе Панкел…

Нарэшце дачакаўся — прыехалі. Цягнік спыніўся… Панкел першым выбег на станцыю, паглядзеў ва ўсе бакі, каб злавіць камісара і адчыніць мітынг, але — прымха — ды годзе! — камісара вызвалі на перагаворы к простаму праваду, дзе ён прабыў увесь час астаноўкі, не паспеўшы адказаць на прывітанне і падарунак сцягу прыйшоўшай на станцыю рабочай маніфестацыі.

Панкел абурыўся, зажурыўся і хацеў ужо пасылаць праклёны і камісару, і камандзіру, і начальніку станцыі. «Як-то яны мелі права так зрабіць? Чаму разбілі яго планы? Гэта знарок, сумысля? — Але на хвілю спыніўся, падумаў і супакоіўся. — Што ж! Нічога не зробіш! Прыйдзецца пакінуць на другі раз. Усё роўна яшчэ паспею сказаць!» І хоць бадзёрасць крыху апала, усё-ткі далёка было да суму, да жуды. Не ўплыло і гэта на Панкела і ў сэнсе пахілу яго думак да Прова.

Зусім не!

Праз два дні Панкел, седзячы ў другім вагоне, нават і не сустракаўся з ім. Калі бачыў здалёк, то спакойна прапускаў між ваччу. Неяк абуднілася ўсё і пасумнела перад нахлынуўшым пачуццём рэвалюцыйнага настрою. Толькі на трэці дзень з

часу ад'езду, а назаўтра пасля таго, калі Панкелу не ўдалося сказаць прамову, Проў на адной станцыі падбег да яго, хапіў за палу шыняля і спыніў. Проў быў задуменным і не прымеціў нездаволенай міны Панкела, які ў гэты момант не хацеў з ім нізашто спатыкацца.

— Штосьці цябе і не злавіць, братка, — суха праказаў Проў.

Панкел крануўся ісці.

— Чаго ж уцякаеш так хутка? — запытаўшыся, дадаў ён.

— Спяшаю… Вось хіба ўбачымся з вамі і пагутарым на месцы, — нядбайна адказаў Панкел і крута, недалікатна нават павярнуў ад Прова. Гэты скрывіўся, пагрозна матнуў рукою і пабег.

Пасля гэтага выпадку яны яшчэ пару раз спатыкаліся на станцыях, у гушчы таварышаў, але абміналі адзін другога і, нібы чужыя, разыходзіліся, не абмовіўшыся словам. Панкел не спрабаваў вызываць з нутра маўклівыя перажыткі нядаўніх гутарак з Провам, насуленых ім планаў і рашэнняў, якія прынясе яму фронт, а Проў не лічыў патрэбным пакуль што падгарачваць Панкела сваім настойным дапамінам: ён быў перакананы, што яго агітацыя не пройдзе дарма, што скуткі яе глыбока сядзяць у Панкелавай душы, і варта толькі ў любы час да іх дакрануцца, як яны абудзяцца. За гэта Проў быў спакоен.

І абодва з іх бачылі ў часовай чэрствасці сваіх адносін звычайнае з'явішча.

Праўда, Панкел часта-густа, адыходзячы ад месца стрэчы з Провам, міжвольна задумваўся, непрыкметна азіраўся і недавольна казаў:

— І напрэцца ён заўсёды на мяне, ліха на яго!

Так непрыметна мінаў час, так непрыметна праляцеў і ўвесь тэрмін дарогі.

І калі эшалон прабягаў апошні прагон, Панкела ахапіў нейкі трывожны настрой, яму яксьці не верылася, што ўжо яны хутка прыедуць на месца; мігала хаценне, каб час расцягнуўся яшчэ надалей, каб сама язда прадоўжылася.

Панкел стараўся адганяць думкі аб тым, што вось-вось яны прыедуць, спыняцца і пачнуць выгружацца; ён нерухома ляжаў на палку вагона і не зварочваў ніякай увагі на рухавасць заклапочаных таварышаў.

Гэта яго паказная і натужная нядбайнасць нават звярнула на сябе ўвагу некаторых яго таварышаў, якія клапатліва і нервова забегалі па вагоне, збіраючы рэчы, скручваючы шынелі і аглядаючы вінтоўкі.

— Ну, а ты ж як, Панкел? Так і не думаеш вылазіць на Быстраўцы? — здзіўлена пытаў яго сусед, азіраючыся па Панкела.

— А ён паедзе проста, праз фронт, да дзянікінцаў у госці, — падказаў другі, усміхнуўшыся.

— Што ж за дзіва! — дадаў трэці. — Бач, Панкел і родам з дзянікіншчыны.

Панкел маўчаў, нібы не аб ім зусім і гутарка ішла. «Няхай баўтаюць, што хочуць, — падумаў ён, — языка не адрэжаш або не прывяжаш к зубам…» І сам адвярнуўся да сценкі.

А таварышы не ўнімаліся: жартавалі, падсмейваліся за яго спакой і нядбайнасць да ўсяго. Далей-болей — і чуць не ўвесь вагон загутарыў аб Панкелу.

— Штосьці наш Панкел занурыўся сённека. Ці не каханую колішнюю толькі сніў?

— Як не журыцца — гарачая справа на носе… Тут ужо не аб каханні ходзіць…

— Яно б ехаць ды ехаць, а то раптам, глядзіш, і злазіць прыходзіцца.

Адзін другога вастрэй, адзін другога калючай выкідалі таварышы словы і пускалі іх у Панкела, стараючыся ажывіць і дастаць ад яго адказ. Але мэты яны не дасяглі. Панкел ляжаў і маўчаў. І толькі рэзкі свіст цягніка, які вяшчаў аб прыбліжэнні станцыі, заставіў Панкела падняцца і сесці.

— Ці ж ужо прыехалі?— неахвотна праз зубы праказаў ён, звярнуўшыся не то да самога сябе, не то да таварышаў, і пачаў пазяхаць, пацягвацца і кракtаць.

У гэты час некаторыя з чырвонаармейцаў, паспеўшы сабраца, завіхнуліся ізноў вакол гутаркі з Панкелам, а другія збіраліся і не звярталі на яго ўвагі.

— З пару прыйдзецца ехаць, — пасмяяўся адзін.

— Едзем без перасядкі ў Растоў, — дадаў другі. Цэлы шэраг другіх не астаўся ў даўгу.

Панкел не шманаў: ён пачуў, што цягнік збавіў ход, і моўчкі злез з палатак ды прыняўся агледжваць свой куфэрак.

## IV

Многа часу не патрабавалася, каб размясціцца войску ў адведзеных для яго на станцыі Быстраўцы памяшканнях, але ўсё-ткі, пакуль гэта паспелі зрабіць, мінула болей пяці гадзін. Дзень быў змінтрэжаны цалкам.

Панкелу, як на тое ўжо ішло, і тут выпала месца ўблізку ад Прова (вядома — Проў пастараўся для гэтага). Толькі яны выгрузіліся з вагонаў, ён увесь час сачыў за Панкелам і непрыкметна для Панкела апынуўся ў іх партыі, размешчанай у будынку быўшай Мар'інскай гімназіі.

І, зрабіўшы гэта, Проў з першае хвілі пачаў меркаваць на тое, каб выбраць зручны выпадак пагутарыць з Панкелам, абудзіць у ім астылую цікавасць да надыходзячай авантуры і не даць яму перадумаць. Проў нават пачаў пабайвацца, бачачы зменнасць у Панкела, і дрэнчыў хутчэй абламзаць яго з галавою.

Але гэтае асцярогі не патрабавалася, здарэнні шанцавалі Прову: у Панкела, надзіва хутка, наспела новая змена, якая вярнула яго да настрою часоў гутаркі з Провам на месцы. Казарменнае паветра, абставіны казарменнага абыходу раптам нахлынулі на яго і сагналі павеў дарожнага ўражання. Панкел, прымеціўшы ўблізку да сябе Прова, зарупіўся аднавіць з ім гутарку. І нават недаволіўся, калі час бег, а гэта не ўдавалася зрабіць, бо Проў перш нудзіўся з цэлую гадзіну на адзіноце, а потым, з вечара да самае поўначы, лётаў, як шалёны, з памяшкання ў памяшканне, чагосьці шукаючы між чырвонаармейцаў, шушукаючыся з некаторымі з іх, мабыць сваімі хаўруснікамі, і пры гэтым заўзята матаючы галавою.

Толькі з пачатку першае гадзіны папоўначы Проў звольніўся і заявіўся на сваё месца. Панкел, вядома, гэтага не дачакаўся — не мог прасядзець без сну якіх з пяць гадзін засаб: што рабіць пры гэтым? А без работы ды ў роздуме нялёгка. Праўда, за дарогу ён не ўтаміўся, не мог утаміцца пры сваім настроі, аднак толькі пераступіў парог дачаснае казармы, як ім завалодала нейкае цяжкое пачуццё, вельмі блізкае да ўтомы. А калі пачало мрачэць і вечар зазірнуў у вокны будынка, Панкела пацягло да сну — нават вячэраць яму не захацелася, толькі выпіў кубак пустое гарбаты і хутчэй жа лёг спаць. І толькі ўлёгся на койку, як ужо праз хвілін пяць храпеў, нягледзячы на тое, што вакол яго стаяў зычны шолам, крык і гоман.

Маладое зялёнае жыццё заўладала цалкам маладымі жыццярадаснымі чырвонаармейцамі, сярод якіх ён быў старэйшым, бадзёрыла іх упарта, адганяючы прэч усе страшныя думкі, якія пагражалі аб наступным баявым хрышчэнні. Фронт быў пад носам, усяго якіх-колечы дванаццаць-пятнаццаць вярстоў ад Быстраўкі, але — што ім было да таго! Ім дадзена мажлівасць бяспечна, спакойна правесці ноч, супачыць ад дарогі. Цалюткая ноч у іх распараджэнні! А ноч бурна-кіпучаму маладому жыц-

цю — гэта вечнасць. Як удостач можна пажыць у гэты тэрмін! Што там, назаўтра, чакае іх, то будзе, бач, толькі заўтра, мо зрана, мо ў абед, а мо і зусім вечарам. Усё залежыць ад капрызлівых здарэнняў… Ды і што там заўтра? Мала што заўтра! Ці ж на смерць яны засуджаны, ці ж на няшчасце прызначаны, што трэ палохацца заўтрага? Ці ж, наогул, ёсцека што страшнае для маладога, прагнага і палкага ваякі? Бач, яны ж прыехалі сюды, на фронт, не для ахвяр, не на загубу, а змагаць сібернага ворага свабоды, працоўных людзей, абараніць сацыялістычную Савецкую краіну ад пасягненняў на яе… Яны прыехалі спыніць прадаўнічы наступ паноў і капіталістаў, якія нясуць працоўнаму народу скінутыя ім ярмо і ланцугі няволі; яны прыйшлі па волі паслаўшых іх братоў і бацькоў пад аховаю Чырвонага Сцяга Камунізму, поўныя натхнення, вялікай гатоўнасці і палкай адвагі скончыць з паганым цудзішчам, што працягвае рукі па светласці волі. І сэрцы іх поўны гатоўнасці змагацца за яе, і душа поўна бадзёрай веры ў перамогу. А іх вясёлыя твары, што пыхкаюць радасцю, а іх цёплы бесклапотны смех! А жарты, а гулянкі, а штукарства!..

Панкел соладка праспаў пад гоман і шолам казарменнага жыцця болей чатырох гадзін. Праўда, часта ён прачынаўся і паглядаў, ці няма Прова, але зараз жа ізноў апускаў галаву, заплюшчваў вочы і храпеў-храпеў. І хто ведае, колькі б гэтак Панкел прабавіў часу, каб не зычны, нечаканы стрэл за акном, зроблены, мабыць, па неасцярозе вартаўнічым.

Панкел раптам ускочыў з пасцелі, вылупіў вочы, сюды-туды кінуў узрок і праказаў, крыху супакоіўшыся:

— Што за трасца! Няўжо гота вораг падышоў к Быстраўцы? — І, каб усё-ткі пераканацца, ён падбег к акну і паглядзеў на двор. Густая цемра паўднёвай зімовай ночы ахутала яго, толькі прамень, цягнучыся доўгаю палоскаю ад акна, рассякаў яе, кладучыся на брудную ад гною зямлю і дастаючы сваімі канцамі пахіленага частаколу саду.

Панкел смела адвярнуўся ад акна на казарму, у якой з грамады жартуючых чырвонаармейцаў ніводзін нават і не звярнуў увагі на стрэл. Гэта Панкела супакоіла, і ён паважна вярнуўся да койкі, пацягнуўся над ёю соладка і зноў разлёгся.

Але ўжо заснуць не мог: утома мінула, а сон не меў сілы збароць вакольнага шуму ў казарме. Аднак Панкел усё ж не хацеў уставаць, сілячыся ляжаць нерухома, абдумоўваючы наступнае. І вось да яго з’явіўся Проў.

Скончыўшы свае справы на станцыі, Проў вярнуўся ў казарму. Ён быў вясёлы і задаволены. Аб яго задуме ведаў тут толькі Панкел, з якім Прову няйначай трэ было сягоння ж пагутарыць аб прадстаячай справе. Пераступіўшы парог часовай казармы, Проў раптам пакіраваў да Панкела. Падышоўшы, ён перш не адважваўся яго зачапіць, думаючы, што Панкел спіць, і крыху пачакаў, ласкава гледзячы яму ў твар. Потым рашыўся і крануў Панкела за руку. Панкел мігам расплюшчваў вочы і глянуў у твар Прова.

— Не спіш, Панкел? — запытаў Проў з лёгкаю ўсмешкаю.

— Дагэтуль спаў, ды стрэл абудзіў, — адказаў спакойна Панкел, паднімаючыся і садзячыся.

— Які стрэл? — здзівіўся Проў.

— Ды вось тут, пад акном: мабыць, вартавы па неасцярозе стрэліў.

— Ну, і што?

— Нічога.

— Ага!.. — Проў крыху падумаў. — Ведаеш, Панкел, я хацеў бы з табою пагутарыць аб сім аб тым, — запрапанаваў ён.

— Ну, добра! Гэта не мяшае. Я таксама чакаў вас для гэтага, — згадзіўся Панкел.

Проў усеўся поруч з Панкелам, пахінуў да яго голаў і, крыху падумаўшы, сказаў:

— Ну, дык як жа ты, Панкел, парашыў з нашаю справаю? Напэўна ўжо добра абмазгаваў? Бо штосьці, я бачу, ты зусім іначай настроен… нібы раздумаў?..

— Дальбог… — перабіў Панкел… — занадта цяжкое пытанне: нельга парашыць скора, каб проста вам адказаць.

— А чаму?

— Смеласці, бачыце, не маю. Мне ўсё здаецца, што з гэтага нічога добрага не выйдзе…

Крыху пачакаў, нібы шукаючы слоў.

— Вось я прыпомніў якраз, — загаварыў далей Панкел, — быў такі выпадак: адзін раз мой таварыш таксама быў згадзіўся перайсці да ворага і… што ж вы думаеце? — казакі і белагвардзейцы насмерць замучылі яго…

Слова «белагвардзейцы» Прова чапнула за жывое, ажно ён скрывіў нездаволеную міну і злёгку скалатнуўся. Панкел глядзеў удол і гэтага не прымеціў.

— Вось гэты мой таварыш, — казаў далей Панкел, — і яшчэ двое з ім перабеглі да белагвардзейцаў, а тыя ўзялі ды мучылі-мучылі іх, здзекаваліся-здзекаваліся, ажно і жыццё

адабралі. І, слухайце, толькі за тое, што яны былі ў Чырвонай Арміі і самі рабочыя. Ці ж гэта магчыма? Якавы ж тады лад з імі можа быць? Хто ж можа ручацца, што з намі, бач, са мною, яны гэтага не зробяць?

Проў выслухаў Панкела з увагай і зразу не знайшоў, што адказаць на пастаўленае яму пытанне. Толькі спусціўшы мо хвілін з дзесяць, ён незразумела для Панкела прамовіў:

— Гэтак кажуць кіраўнікі…

Панкел не ўясніў гэтых слоў, але міжвольна адчуў, што Проў імі або зацьмявае праўду, або хавае чэснасць. Гэта Панкела наздрочыла, і ён упічна ўхмыльнуўся ў вочы Прову.

— Ну, як? Не верыце гэтаму? — закінуў ён у дадатак.

— Такі і не веру, бо калі тое і было, то, можа, у сне, а не сапраўды… Многа ёсць доўгіх языкоў, каторым трэба часацца аб што-колечы… Ды на ўсё трэба рашчот палажыць… Вось, вер, браце, мне: што датыча нас, то я ручаюся галавою, што мы ў іх будзем як у Хрыста за пазухаю… Ты мне не верыш? Тады… вось маеш з сабою набіты сямю кулямі рэвальвер… — Проў спотайку працягнуў Панкелу руку з рэвальверам… — На, вазьмі, і ў выпадку таго, калі я хлушу табе, пускай у мяне ўсе кулі… Згодзен? Хочаш?

Панкел задумаўся.

— А скажыце, калі ласка, — раптам загаварыў ён, — чым жа мы мецьмем апраўдаць такі нехарошы наш паступак?.. Бач, сумленне будзе мяне мучыць, што я прадаю справу працоўнага народа, што я змяняю дзелу свабоды…

Проў не даў Панкелу дагаварыць: ён сціснуў яго руку і перабіў на слове:

— Чым апраўдаць? Гм! Якое каму трэба даваць апраўданне? Перад кім? З якое прычыны?.. А калі ўжо так, перад самім сабою, дык проста сваёй уласнай карысцю, сваёй уласнай выгадай… На свеце даражэй усяго чалавечае жыццё, яго самотнасць… Чалавек, асоба — гэта асобны цэлы свет, як асобная дарагая будыніна. Вось гэту будыніну і трэба ахоўваць, сцерагчы… Трэба, каб яна прастаяла належны ёй тэрмін, як найбольш карысная для сябе… Разумееш, чалавек — гэта святая рэч, і, як святую рэч, яго трэба шанаваць у імя таго жыцця, якое яму дадзена, у імя шчасця гэтага жыцця… Хто ж цябе пашануе, калі не ты сам? Хто аб табе паклапоціцца, калі не ты сам? Бачыш — з цябе зрабілі бескаштоўную рэч, якую шпурляюць усюды, як трэску… Трэска падае ў ваду — тані; трэска пападае на агонь — гары… І ты

згарыш загадзя, як трэска, калі не вырвешся з цэпкіх рук, што хапіліся за тваю самоту… А сям’я? А родныя? Жыць з імі разам, стрэўшыся пасля доўгай разлукі… Жыць вольна і незалежна, ахоўваючы сябе ад пасяганняў на тваё шчасце і волю… Вось, як цяпер. Ласне ты жывеш? І ласне, наогул, ты — ты? Вядома, што — не. Ты — нявольнік казармы, ты — раб, ты — астрожнік. Табою распарадкуецца чужая воля. Падумай, колькі табе давялося перацярпець гора, перанесці мук, недахваткаў і розных нягодаў? Сам ты казаў, што каля дзесяці разоў цябе адпраўлялі на фронт і каля дзесяці разоў ты вяртаўся раненым, ледзьве жывым. Болі, шпіталі, галадуха… Нуда, маркота, журба… А цяпер вось ты ізноў перад тварам смерці, на нажах і сярод куль. А завошта, запытай? Што ты дастаў за гэта для сябе? Для сям’і? Нічога!.. І не дастанеш, павер… А згубіш жыццё дарэмна, за няма што… Вось табе апраўданне… Бяры, разбірайся… Як яблыка — круглае, як сонца — яснае. Бяры — пераконвайся…

Проў пільна ўзорыўся Панкелу ў вочы і з хвіліну пранізваў іх сваім вострым, калючым і цяжкім узрокам. Ажно Панкел не вытрымаў холаду яго вачэй і прыхмурыў свой погляд. Яму стала раптам неяк млосна, ніякавата. У душы заскрабло сумненне, у галаве замітусіліся адрыўныя няясныя думкі, туманна-невыразныя, але колкія; жаданні засвідравалі грудзі.

«А, бач, многа шчырай праўды ў словах Прова, — мігнула ў галаве Панкела, — сапраўды ж, калі я пачну ўжо жыць па-чалавечаму? Калі я вырвуся з гэтых балючых ланцугоў ваеншчыны? Калі я пачую сябе вольным?»

Гэтыя яго думкі Проў перабіў запытаннем:

— Ну, дык што ты скажаш? Нябось, усё яшчэ думаеш сумнявацца і надалей?

Панкел адказаў не зразу, нібы не маючы магчымасці выявіць тое становішча свае душы, якое апанавала яе пасля праколваючых слоў Прова. Ён мусіў пачакаць, падумаць… і толькі праз хвілін пяць адказаў:

— Але, сумняваюся.

Проў падняўся, недавольна зарухаўся, адвярнуўся ўбок, потым выразна паглядзеў на Панкела і сказаў:

— Дарэмна, браце… Мыляешся… з-пад рук выпушчаеш волю… я табе кажу! Адгані прэч сумненні… Бяры, калі ляжыць каля рук. Будзь чалавекам цвёрдым, упэўненым, рашучым, а не анучай, мачулай. Ну… Згодзен ці не? А то ўжо трэба лажыцца спаць і… канчаць… Кажы, Панкел, згодзен?

Панкел увесь сціснуўся, нібы ўвайшоў у думкі, натужыўся ў разгадках гэтых думак, зачапіўся за перамогшую з іх і, трымаючыся яе, запытаў:

— А які ваш план?

Проў прысеў, змяніў міну і дабрадушна адказаў:

— Па-мойму, навошта табе заўчасу ведаць… Ты ж усё яшчэ не рашыўся… І толькі новых сумненняў нажывеш.

А думка напірала на Панкела.

— Мне трэба ведаць усё, каб я мог ноччу абдумаць, вырашыць і тады… — настойна сказаў ён.

Проў спусціў тон.

— Скажу табе праўду, Панкел: ніякага выробленага плана няма… Ды навошта той план? Усё ў маіх руках… Вось па згаворанаму знаку збяромся і…

— Чаму вы так цудна кажаце: няма! Не так жа гэта проста — узяў і пайшоў.

— А амаль не так: збяромся і пойдзем… Пойдзем смела, і ніхто не верне.

— Ці ж вы спадзеяцеся, што так удасца?.. Ой, я бачу, што мы… Слухайце, Проў, а каб…

— Ну, ну, ну?!

— Вось лепей было б так: выпрасіцца ў разведку, а вам узяць камандаванне ёю, і тады выйдзе шыта-крыта… — парадзіў Панкел, забыўшы сумленне, кінуўшы роздум і падданы ўгаворам Прова.

А гэты давольна ўхмыльнуўся, і на твары яго бліснула лёгка-хітрая ўхмылка, так жа хітра зажмурылася левае вока, і ён коратка і выразна сказаў:

— Так, яно так і будзе. О, брат, мы ведаем, як і што зрабіць…

Панкел упершыню неяк прасвятлеў, ажывіўся, нібы ім заўладала нейкая асобная сіла, якая сагнала ўсё старое і вымавіла вуснамі Панкела:

— Тады… рабіце… я з вамі… я ваш… я ад вас не адстану…

Проў стрымаў сур'ёзную міну на твары, нават вокам не маргнуў, усе вынікі ад перамогі над істотаю Панкела ён перанёс у нутро і адчуваў сваю ўрачыстасць.

— Заўтра я табе падам знак, — сказаў ён, падняўся і пайшоў ад Панкела.

А гэты сумненным узрокам правёў яго да месца, адвярнуўся, пацягнуўся некалькі разоў і, стараючыся быць спакойным, з закончаным рашэннем улёгся спаць.

У казарме панавала ціша. Чуўся здаровы, не рэзкі храп салодка спаўшых чырвонаармейцаў, ды з-за акна даносіўся тупат шагоў вартавога і рэзкі брэх сабак. Сумная лямпа-газоўка слаба дагарала, і полымя яе агню несупынна калыхалася, ганяючы па памяшканні страшлівыя цені.

Панкел ляжаў спакойна і нерухома, але сон да яго не ішоў: на яго раптам нахлынулі думкі, быццам і пакідалі яго пасля расстання з Провам толькі дзеля таго, каб асвяжыцца, набрацца сіл і наймацней ашчаперыцца за голаў Панкела. Спрачацца гэтым думкам нельга было ніякім чынам: і Панкел захапіўся імі цалкам. Наступнае, на вошта ён толькі што даў згоду, вырасла ў цэлую гару, раздалося ва ўсе бакі, ахапіла яго сцяною свае цемні і акрыла, бы мяшком, хаваючы свет, і жаданне, і думкі, і волю, калі яны датыкалі чаго іншага. У вобразах жывых з'явішч, агромністых і цудоўных, уставалі розныя запытанні: як і чым усё гэта скончыцца? Што з гэтага выйдзе? І… страшней і пагрозней іншых: ці варта-такі яму, Панкелу, на гэта ісці? Мала што Проў стараўся ўгаварыць, пераканаць яго, што ўсё задуманае варта мэты, што яно беспраменна вымушана патрэбамі поўнасці яго, Панкела, жыцця? Мала, што Проў лічыў свае доказы Панкелу важкімі і значнымі, нібы новымі, дагэтуль невядомымі яму, аднак Панкел глядзеў на іх не сур'ёзна, лічачы ўсё выясненае яму вядомым і старым; да таго старым і асвойтаным, што не хацелася паглыбляцца думкамі. Панкел пачасту сам ужываў іх для ўгавору сябе самога, калі да яго часамі надыходзіла пачуццё ўтомы і маркотнасці і злы дух падбухторваў на праступак, на здраду справе працоўнага люду, на здраду работніцка-сялянскага ўрада і Чырвонай Арміі. Тады ён кожны раз глушыў і нішчыў гэтыя доказы, бо захаванае ў глыбі яго душы пачуццё шчырага рэвалюцыянера-народалюбца прабівалася напаверх і патрабавала сабе пачэснага месца. Панкел зразу перарабляўся і станавіўся бадзёрым, палкім абаронцам рэвалюцыі, яе адважным салдатам.

Праўда, чым далей прамінаў час, тым утома ўмацоўвалася ўсё болей і болей, маркотнасць паглыблялася, і шчырае пачуццё рэвалюцыянера-ваякі гасла, зацьмявалася. Казарма і вайсковасць, вайна і раны, шпіталі і мукі цяжарным каменем ціснулі яго з усіх бакоў. А, закраўшыся ў сэрца, жуда па роднай сям'і і кутку пасабляла гэтаму. Не дзіва, што гэткія абставіны лёгка падгатаўлялі ў ім добрую глебу для ядрага ўзросту ліхому семені.

На гэткую вось глебу якраз і ўспаў Проў, сумеўшы закінуць у парушаную душу Панкела праступна-завабнае слова. І хоць не так ужо лёгка гэта яму далося, — Панкел як-ніяк пільна

азіраўся вакол, не забываў і другога боку справы, стараючыся падлічыць тыя скуткі, да якіх хіліць змена рэвалюцыі, — але ж усё-ткі паддаўся, з натугам, з нутранай барацьбою, ды паддаўся. А паддаўшыся, у хуткім часе яму стала гэта рупіць, стала балець. Яго душа раздваілася, і між дзвюма яе часткамі ўзгарэлася барацьба, якая пачала мучыць Панкела, дратаваць усю яго істоту. Страшныя вобразы-зданні і мары-выгляды панесліся перад ім. Панкел раз-зараз зрабіўся бязмоцнай трэсачкай на ўздыме іхніх бурных хваль, бязвольным і бязмоцным стварэннем… Вакольная сапраўднасць зрабілася страшнай выявай. Ім абуяў нейкі невыразны сполах, і вось-вось гатавалася вырвацца з усіх часцін яго істоты, пагражаючы зломy духу, вырашэнне: кінуць, не ісці з Провам, праклясці тую хвіліну, у якую даў яму сваю згоду… Але якраз на парозе ды выяву гэтага рашэння ўзнялася якаясьці варожая яму сіла; яна абурыла істоту Панкела, і ён быў бязвольным, пакорным у яе абдыме і пад яе ўказку сказаў-пастанавіў: «Няхай будзе як будзе, а калі ўжо парашыў — не буду адступаць. Я ж усё-ткі не адзін ды і не ануча». Пасля некалькіх пераказаў гэтага рашэння Панкел на ім спыніўся, супакоіўся, агарнуўся коўдраю ды соладка-соладка заснуў, бы забіты…

## V

Назаўтра, нягледзячы на тое што позна заснуў, Панкел прачнуўся адзін з першых і адчуваў сябе ніштo, нават бадзёра…

Хваля казарменнага жыцця абдала яго ўсяго і ўсяго захліснула. Гарбата, праверка, прыбранне, сход — нішто не прайшло паўз Панкела, каб яго не зацікавіць. Нават, па-ягонаму, яксьці ўсё гэта сёння выглядала шмат цікаўней, як заўсёды дагэтуль: хоць усё гэта было і знаёмым, але сёння аддавала чымсьці новым і свежым. Праз гэта час імчаўся хутка і непрыметна, так што не паспеў Панкел і агледзецца, як падаспеў абед, а за ім і вячэрні чай. Дзівіла, цікавіла і трохі суміла яго толькі тое, што на працягу ўсяго дня не прыйшлося яму сустрэцца з Провам і атрымаць ад яго заўчасна абяцаны ім знак; паміж тым думка толькі і вярцелася вакол гэтага фокусу. «Што-колечы нядобрае, мабыць. Ці не перамяніў толькі Проў сваіх думак аба мне? Сумеўся, і толькі… і меў рацыю, бо гэтак доўга я не паддаваўся, валэндаўся з ім, вадзіў яго за нос… А гэта — нявытрываласць і перашкоды… А дарэмна — трэ было іначай рабіць… Вадзіў-вадзіў — і потым не то згадзіўся, не то — не. А чаму б мне было

зразу не зрабіць гэтага? А то… каб хаця не наадварот усё гэта выйшла — тады-ы…»

Панкела агартаў сум, а ў душу закрадваўся нейкі сполах. Ён не на жарты пачынаў шкадаваць, чаму не зрабілася ўсё без яго, каб ён не знаў і не ведаў… Чаго і як яго злучыла з гэтым Провам, які так аблутаў яго душу…

І вось, якраз у самы разгар гэтых яго роздумаў і раскаяння, з'явіўся Проў. Падышоўшы непрыметна да задуменнага Панкела, ён крануў яго пляча і паўшэптам праказаў:

— Ужо ўсё гатова! Збірайся, брат… Якраз па-твойму і выйшла: на разведку пойдзем.

Для Панкела гэта было нечакана, і ён ажно жахнуўся і здзіўлена запытаў:

— А многа нас пойдзе?

— Чалавек з трыццаць…

— Тры-ыц-ца-аць? — цягуча і здзіўлена праказаў Панкел.

— Але! Чаго ж дзівішся, а? Чым больш — тым лепш. Будзь гатоў, а я пайду… Мне трэба ісці… — скарамоўна пераказаў Проў і, пакінуўшы Панкела, хутка пабег з будынка.

Панкел падняўся з койкі, нейкі час пастаяў на адным месцы, нібы ашаломлены, з замерлымі думкамі і разбураным пачуццём, і ўвесь затросся.

Такая раптоўная развязка перапужала яго і нанова прывяла к сумненню… А да гэтага яго нутраны папрок выяўляўся ўсё ясней і выразней. Сударажна Панкел сышоў з месца і ціха, несвядома пачаў збірацца. Рукі паслушна, часта мімавольна ходзячы, сабралі пасцель, палажылі ў куфэрак рэчы, паставілі яго пад койку, потым надзелі на яго фігуру шынель, ворак і патронную рамухоўку, а ногі самі крануліся к выйсцю з казармы. Панкел заручыўся ад суседа пасачыць за яго куфэркам, усё яшчэ думаючы вярнуцца, не верачы ў надышоўшы задум, а ўсё лягчэйшае і каштоўнейшае забраў у ворак, у кішэні, за пазуху. Праз плячо ён павесіў вінтоўку, а к боку да пояса прычапіў рэвальвер.

Выходзячы з казармы, ён некалькі разоў акінуў яе пільным узрокам, нібы баючыся, каб самыя сцены не данеслі нікому, пакуль ён скончыць усё.

Чырвонаармейцы, між якімі праходзіў Панкел, не звярталі на яго ніякае ўвагі: мала куды і зачым яго пасылаюць! Кожны дзень ідзе каравул, пост, разведка, дняванне.

Толькі адзін, занадта ўжо цікаўны ці няўцерпны, калі праходзіў між яго Панкел, запытаў:

— Куды гэта, таварыш?

— У разведку, брат, іду, — ахвотна, не падазраючы нічога, адказаў Панкел і неяк быў задаволены тым, што хоць адна душа ды зацікавілася ім.

— З богам, таварыш! Жадаю поспеху! — пажадаў запытаўшы, сам здаволены тым, што яго мінула гэта.

— Дзякую, браток! — падзякаваў Панкел і выйшаў на двор.

А на дварэ, ці ўжо пад уплывам зорнай ночы, ці пад націскам шчырага пажадання таварыша, які адзін загутарыў з ім у казарме, Панкел нібы ажыў, абадзёрыўся, нахлынулі свежыя думкі і пачуццё.

— Куды ж гэта ісці? Ды ці варта наогул куды ісці? Сумненне выбілася напаверх думак.

— Панкел! Сюды! — пазваў яго голас з-за варот.

— Я! — скарамоўна адгукнуўся Панкел.

— Ідзем хутчэй, ужо ў зборы, чакаюць.

Панкел здрыгануўся, але паслушна пакіраваў у вароты. Вартавы, не запытаўшыся, прапусціў яго на вуліцу. А на вуліцы ля сцяны стрэў Панкела пасланец, які яго спыніў і штосьці прашапацеў, паказваўшы рукою наперад. Прастаяўшы з хвілю-другую, троху пашаптаўшыся, яны крануліся і пайшлі. Ішлі праз нейкі пляц, ці проста гала, праз два завулкі, крывыя, вузкія і няроўныя, і хутка выйшлі да нейкага будынка, у вокнах каторага свірэў агеньчык і мітусіліся людзі. На вуліцы ж, перад ганкам будынка, ужо ў парадку стаялі ўсе ідучыя ў «разведку».

Панкела пасланец прывёў да задняга рада, паставіў яго поруч з нейкім таварышам, а сам пабег у будынак. Панкел паслушна стаў, агледзеўся вакол, азірнуў суседзяў, хацеў перамовіцца з адным, але раз таму, што ў змроку не разгледзеў добра, а другі раз затым, што тыя маўчалі, ён нічога не сказаў і спакойна, да акамянеласці спакойна стаяў.

У пярэдніх радах ішла ціхая гамонка, даваліся нейкія распараджэнні, напэўна самім Провам — добра Панкел не расчуваў. Ды ўпраўду, ён і не стараўся прыслухоўвацца. Ім апанавала нейкая дзеравяная нядбайнасць, бесцікаўнасць да ўсяго, што рабілася перад ім: праўда, хвілінамі ў душу Панкела пранікала цяжкасць, горнасць і гідлівасць. Разам з тым выблісквалі сумненне, неспакой і трывога, якія падпальвалі ўнутры сумную думку — пазыў вярнуцца, уцячы хоць адгэтуль. Непрыметна для сябе Панкел палохаўся бліжэйшых хвілін. Але брак часу не даў мажлівасці вырасці думкам у тое ці іншае рашэнне. Каманда «шагам марш!», раптам даляцеўшы да яго вушэй, быццам штырхачом даўбанула яму ў плечы, і Панкел пакорна, аднačасна

з усімі падняў левую нагу і топнуў у такт камандзе. Ад агульнага ступу пачуўся глухі стук, разнёсшыся ў цішы далёка вакол. За першым тут жа адступіўся другі, трэці, пяты, дзясяты. Перагаварванні між некаторымі чырвонаармейцамі глухлі ў топаце шагоў; толькі рэдкае пакашліванне перамагала іх тупат і новаю нотаю ўрывалася ў аднатоннасць невыразнага рэха між сценамі дамоў і хат. Зрэдку сям-там, воддаль і ўблізку, адзываліся чуткія сабакі і трывожны бразг калатушкі вартаўніка.

Панкел ішоў, спусціўшы кнізу галаў, маючы перад сабою цёмныя, невыразныя цені таварышаў. Ён зусім не прымеціў, ахоплены ўвесь тлумнымі няяснымі думкамі, калі разведка выйшла з жылога месца і апынулася ў полі. Каманда «цішэй шаг!», глуха данёсшыся спераду, вымусіла яго падняць голаў і азірнуцца вакол. Панкел угледзеў, што ён астаўся крыху ўзадзе, на адгоне ад бакавых таварышаў, і некалькі шагоў зрабіў бегам, каб параўняцца з імі; бегучы, ён пачуў утому і падазрона паглядзеў уперад.

Чорная сцяна цемры акружала іх грамадку. Чым далей разведка падавалася ўперад, тым болей адсоўвалася разам з ёю пярэдняя сцяна цемры.

Дарога, якою ішла разведка, была роўная і гладкая і гэтым казала аб роўнай мясцовасці. А дзякуючы гэтаму і ветру, злёгка павяваўшаму ў пасяленні, тутака адчынялася прастора дзьмуць як хоць. І вецер дзьмуў, як меў сілы.

## VI

Ужо выйшаўшы са станцыі, Панкел пачуў у сваім нутры штосьці асобнае, не то трывожнае, не то гадкае. Ён перш стараўся на гэта не зварачаць увагі, заглушаючы сілком думкі і кіруючы зрок то на зыркія зоркі, то на рух цёмных сцен, якія агароджвалі абшары перад імі. Але чым далей «разведка» падавалася ўперад, тым мацней і надаедней гэта «штосьці» старалася адцягнуць Панкела ад усяго старонняга, вымушаючы спыніцца на сабе і на сваіх дзеях. Міжвольна, пад нейкім магутным націскам, Панкел усё часцей і часцей пачаў азірацца назад, на станцыйныя будынкі, на пяройдзенае поле. Кожны раз, бы толькі ён паварочваў голаў, у яго вачах маляваліся страшныя фігуры цудаў. Вадакачка выглядала асабістым сіберным зверам, які, здавалася, бег за ім, матаючы велічэзнаю галавою і растапыранымі рукамі, а меншыя будынкі са святлом у вокнах здаваліся паўзучымі цмокамі.

Панкел праз сілу, сціснуўшы зубы, вымушаў сябе пільней узірацца ў цемру ночы, але, як бы ён ні ўзіраўся, усё ж нічога не бачыў у сапраўдным жывым выглядзе. Толькі і дасягаў ён таго, што тыя здані, якія маляваліся яго патрывожаным уражаннем, мяняліся ў вачах, перароджваліся на новыя і яшчэ страшнейшыя.

Сполах, захапіўшы Панкела, пачаў пераходзіць ва ўтому і злаваць яго; пачыналі балець ногі, дрыжаць усё цела; хада рабілася не пад сілу, і Панкел чым далей, тым часцей і на болей адставаў ад каманды, не маючы сілы нагнаць яе і ісці з ёю нага ў нагу.

— Што з табою, таварыш, чаго ты адстаеш? — падазрона пытаў Панкела час ад часу сусед.

— Дыхавіца ўзнялася! — хлусіў яму, не задумваючыся, Панкел.

— Цудны, аднакава, ты: няхай бы на гэты раз ты астаўся.

— А як бы на другі? — не то запытваў, не то адказваў Панкел.

— Ну, то вядома: цяпер вярнейшая справа… Праўду кажаш. Што ж, можна і на адгоне паспяваць, — радзіў спагадлівы таварыш.

На гэтым гутарка абрывалася: Панкел болей нічога не казаў. Узнятая ўнутры яго завіруха раскаяння, тупога і бязмоцнага, і крыўды на сябе за сваю падатлівасць, узвёўшую яго на праступную сцяжынку, нейкім рэжучым камяком падышла к горлу. Узбурылася пачуццё адчаю, якое ажно кідала яго то ў гарачку, то ў холад. Што ні шаг, то Панкел пакрысе адставаў, бо не мог паднімаць ног. Задрачылі ў галаве калючыя думкі, поўныя папрокаў і ўпікаў. Асобная, магнусовая сіла іх тыкала ва ўсе бакі, так што ўсё іншае зацьмявалася імі. Панкел папрабаваў зрабіць некалькі патугаў, каб адкасніцца ад гэтага настрою, страхнуць атруту пачуцця і гвалты думак, але быў бязмоцным і здаўся на іх катаванне. І толькі намерыўся спыніцца і ўсцішыў хаду, як раптам пачуў настойны і выразны, ужо знаёмы яму нутраны голас: «Не хадзі — азірніся назад і бач: за табою сочаць тысячы вачэй. Тысячы сэрцаў спадзяюцца дачакацца ад цябе харошых суцяшальных вестак. Ты пайшоў у разведку, каб знайсці, як лепей выбраць месца і час для нападу на ворагаў працоўнага народа, якія пасягнулі знішчыць яго волю. Цябе паслаў рабочы і селянін бараніць іх уладу, заваёваную дарагою цаною крыві і жыцця соцень слаўных ваякаў. А ты… ты памагаеш знайсці іх смерць, абрыдную, здрадніцкую смерць. І навошта ты панадзеяўся? Каго ты паслухаў? Ці даеш ты сабе адказ — навошта ты ідзеш і што робіш? Гэтулькі славы заслужыў перад рэвалюцыяй ранейшымі сваімі чыннасцямі, а тут — пайшоў на

змену. Зазірні глыбей у сваю душу, ці вяліць яна табе, ці дазваляе гэта? Чужымі думкамі жывеш, ліхім манам верыш. Як паглядзіць на цябе працоўны народ савецкіх рэспублік? Дзе ты схаваешся ад яго гневу і помсты?»

Панкел скрыгаў зубамі, прыкусваў балючыя губы. Хада яго цішэла, пачынала балець галава і цьмець у вачах.

— Я не пайду, я не згаджуся на здраду! — рашуча ўголас адказаў сам сабе Панкел.

І гэтыя словы яго прагучалі так рэзка і выяўна, што быццам абудзілі яго. Панкел уздрыгнуў усім целам, агледзеўся вакол і спыніўся.

Каманды разведкі ён не чуў, чуць-чуць даносіўся толькі глухі тупат ад ног ды нейчы клічучы голас: «Паан-ке-эл!»

Панкелу здалося, па-першае, што мо ён ачуўся, мо ўтрывожанае выбражэнне яго збівае з панталыку, і прыслухаўся пільней. Вокліч некалькі разоў перагукнуўся. Тады Панкел прыпыніўся…

Дзесьці здалёк чулася яму страляніна, то частая, то рэдкая, а ўлева ад яе, адкуль цягнула вільгаццю, напэўна з-за рэчкі, выглядаў агеньчык; промень яго паднімаўся невысока над зямлёю і губіўся дзесьці за горкаю ці за лесам.

Панкел стаяў і пільна ўзіраўся па баках, прыслухоўваўся і не мог крануцца з месца.

А вакол чым далей, тым начны шолам узрастаў, родзячы нейкія невыразныя, але крыклівыя стукі і выгукі, якія роем вярцеліся каля яго вуха, нахабна не адстаючы ні на адну хвілю.

І вось, настаражыўшыся, Панкел патрошку пачынаў выяўляць з усяго гоману чыесьці клапатлівыя неспакойныя выгукі і пераклікáнні як бы дваіх ці колькіх чалавек, відаць, кагосьці старанна шукаючых. Панкелу паказалася, што ў іх пераклікáнні раз-поразу ўспамінаецца яго імя, і гэта пачало яго страшэнна нерваваць і трывожыць.

Вакол гуў вецер, згібаючы невялічкую бярозку, выпадкова закінутую ў шырокае гала і выпадкова напаткаўшую Панкела. Гэта блытала словы пярэкліку. Але Панкел хацеў расслухаць усе выгукі. Дзеля гэтага ён парашыў стаць на каленькі, прылажыць вуха да зямлі і прыслухацца, — кажуць, што так вельмі добра ўсё чуваць, — і вось Панкел ужо намерыўся гэта зрабіць, як раптам невысока ўгары, у густой цемры пранеслася празрыстым пісагом разарваная ракета. На кароткі момант, хвіліны мо на чатыры, святло ракеты асвяціла абшар на вярсты дзве вакол. Панкел паспеў акінуць вокам асветлены абшар і пры гэтым выразна

адмеціў, як не вельмі здалёк некалькі чалавек міганула перад вачамі, перабягаючы з месца на месца. Міжвольна ў адным з іх Панкел пазнаў і пачуў Прова, з усімі дробнымі адметкамі і выразамі ў яго постаці, так ім завучанай.

Гутарка бягучых з кожнай хвіляй чулася ўсё бліжэй і бліжэй да Панкела і ў згусцелай пасля разрыву ракеты цемры шмат выразней і гучлівей. «Шукаюць мяне! Пагоня за мною!» — раптам стукнула ў галаве Панкела, і ён, здавалася, адчуваў стомленую бледнасць твару, растрывожанае цюканне сэрца…

«Пабягу!» — мігнула ў яго думках. І, доўга не думаючы, Панкел сабраў усе сілы ды пусціўся бегчы.

І ўжо з першым крокам, зняўшы яго з заварожнага месца, Панкела залашчыла надзея, абышла радасць, што хтось добры навёў яго на думку вярнуцца назад, да сваіх, аставіць праклятую змену і загадзя перасцерагчы ад бяды сваіх таварышаў ды, можа, цэлы фронт. Бліск ракеты, доўга не гінучы з яго вачэй пад полагам цёмнай ночы, нібы нажом, адрэзаў яго ад тых, каго ўзглаўляў і вёў за сабою здраднік Проў…

Адбегшыся некалькі сажняў, Панкел спыніўся, адсопся і зноў пачаў азірацца і прыслухоўвацца. Пачуццё бадзёрасці і адвагі пераходзіла ў пачуццё помсты.

Лёгкасць, што рушыла яго з месца, змянілася раптоўным цяжарам.

Панкел злаваў на сваё бяссілле, папракаў сябе і скардзіўся.

«Гэтулькі крыві мае пралілі ворагі, гэтулькі слёз ссушылі, гэтулькі мук вытачылі! І я… і я зноў з-за дробных прыватных спраў гатоў здрадзіць вялікай справе рэвалюцыі… Разам з здраднікам пайшоў на… Ах, і як жа ўмела яны, праклятыя, падходзяць да цябе, як смякаліста спакушаюць!.. Ільготы, спачынак! Ласне знойдзецца ў іх спагада ка мне? Го, ім патрэбны ахвяры, ім патрэбен разлад у рэвалюцыйных радах… У чырвоных радах… Вось з-за чаго яны гэтак «клапоцяцца» аба мне, аб маіх прыватных справах… Прадажнікі! Злы-ыбедні-кі-ы…»

Думкі збілі Панкела з панталыку: ён прыгнуўся і, прыгнуўшыся, таптаўся на адным месцы. Ні страляніна, якая не сціхала праз увесь час і нібы ўсё набліжалася, ні здагон не падганялі Панкела. Толькі вецер, мацнеючы штохвілю, чамусьці наганяў на яго нейкую трывогу і сполах. Панкелу чуўся ў яго гудзе загад рушыць з месца і кідацца наўцёкі. З кожным ветраным павеем настрой узрастаў, узмацоўваючы рашымасць і адвагу. «Пушчу-у-ся-а далей наўцё-э-кі-ы!» — праказаў сам

сабе Панкел і толькі намерыўся крануцца, як тутка, непадалёчку, пачуў выразную гутарку:

— Шукайма тут — ён ці не прылёг толькі.

Панкел увесь здрыгануўся, выпрастаўся, закружыўся на адным месцы, азірнуўшыся вакол, і кінуўся як мага наўцёкі. Вольныя, не ў меру слабкія боты забаўталіся на нагах і гулка зашлёпалі. Груды і няроўнасці, межы, купіны, што пападаліся пад нагамі, мяшалі бегчы.

Але Панкел сцігаў нацянькі, якраз на міргаючыя далёка смуглыя агеньчыкі, якія нібы прыветна і ласкава манілі яго к сабе… Перш было бегчы лёгка, як бы сполах з надзеяй уцячы падганялі яго, але хутка Панкел пачуў утому і цяжар, к гэтаму шапка насоўвалася на вочы і мяшала глядзець, а вісеўшы збоку ранец, якога ён шкадаваў кінуць, стукаў па плячах. То шапку, то вінтоўку Панкел час ад часу папраўляў… Раптам закалола ў баку і стала душна, да знямогі душна. Ён ужо намерыўся нават і спыніцца, але раптам пачуў перасцерагаючы голас: «Бяжы хутчэй. Нясіся ветрам, ляці віхрам, каб не спазніцца. На тваім ваччу робіцца вялікая бяда — патрэбна яе спыніць, патрэбна пераняць… Не таміся — бяжы хутчэй, шпарчэй. Яшчэ некалькі патугаў, і ты выратуеш становішча, не дасі зрабіцца страшнаму праступку. Бяжы з данясеннем, нясі вестку… Цябе там нецярплі-ва чакаюць… Панкел, Панкел, Панк-к-е-эл…»

Гэты патаемны голас нёсся з Панкелам, разліваўся ў свісце ветру, заглушаў яго думкі і пачуццё… А агеньчыкі былі ўсё ж яшчэ далёка ад яго і неяк усё цьмелі з кожнай хвіляй, як бы знарок, каб збіць Панкела з дарогі…

— Ні-ы-чо-о-га-а, да-а-бя-э-гу-у! — З цяжкім адчаем у сэрцы, пракрычаў Панкел і міжвольна павярнуў назад голаў.

— Сто-ой! Стой! — ва ўпор хтось крыкнуў, і гэты крык, бы нажом, паласнуў Панкелаву душу, выцяў балюча па яго нагах і скалануў усёю постаццю.

«То пагоня недалёка ад мяне!» — бліснула яскравай маланкай калючая думка… Але Панкел не спыняўся. Утаропіўшыся вачыма ў адзін бок на чуць-чуць абачныя агеньчыкі на станцыі Быстраўка, ён натужыўся яшчэ больш і зрабіў апошнюю спробу ўскорыць бег, толькі ў адказ на гэта няўмеру забілася сэрца, схапіла дыхавіца, пачалі блутацца ногі, і Панкел мусіў змяніць бег на хаду.

— Стой! Стой-ойэ! — рэзкім пранізваючым лямантам пранеслася між вушэй Панкела.

Абураны безнадзейнасцю, ён горда і смела адказаў:

— Да-а-бя-гу-у, пага-ан-цы-і, няго-од-ні-ы-кі-ы! Да-нясу-у аб усім вашым учынку-у… Не ўдасца вам давясці свой праступак да канца-а. Прадаў-цы-і!..

Рэзкі стрэл быў адказам Панкелу: штосьці рэзнула ў баку.

«Ранен!» — мігнула думка і разам жа аддалася ў пачуцці. Панкел барзджэй хапіўся рукою за вінтоўку, а другою за рэвальвер, абмацаў у рэвальверы корак, выцягнуў з кабуры і, адвярнуўшыся, у беспарадку і без усякай цэлі пачаў страляць наўгад, з запоем і злосцю. Яны ў адказ таксама зачасцілі стральбу.

— Усіх пераб'ю, паганцы-і! — крычаў Панкел у такт стральбы, ужо ўгледзеўшы ў змроку падбягаючых да сябе траіх чалавек.

— Пачакай, браток, мы-ы табе пака-а-жа-ам, як нам змяняць. Не выкруцішся з нашых рук! — пракрычаў над вухам Панкела знаёмы яму голас Прова і не паспеў дакрануцца Панкелавага сазнання, як тут жа выпушчаны стрэл зацямніў яго і паваліў на зямлю.

— В-в-в-а-ам не ўда-асца-а прадаць інтарэсы раабо-очы-іх і сялян… — сумеў яшчэ ў сударгах праказаць Панкел.

— Уда-асца-а! — зламысна адказаў азвераны Проў, нагнуўшыся над сваёю ахвяраю.

І астатнім выявам тухнучага жыцця Панкел цьмяна пачуў датырканне халодных драпежных рук да свае шчакі.

— Во-ось, бра-ат, табе-э і радзі-ы-ма-а, і сям'я, і спачынак… Ха-ха-ха!!

Задаволены рогат Прова правёў апошні енк Панкела…

А вецер крапчэў, глушачы сваім свістам далёкія водгукі стрэлаў…

На станцыі стухлі агеньчыкі, нібы задутыя ім.

*1920*

# ТРЭСКІ НА ХВАЛЯХ

## I

У канцылярыі Вікурскага іспалкома, падзеленай на дзве палавінкі, таўклося процьма людзей. Адны забеглі выясніць справу з падаткам, другія зайшлі папрасіць у прадсядацеля дроў, трэція наведваліся за дапамогаю, а некаторыя так, проста сабе, зайшлі. Гамонка дзелавітая, просьбы са слязамі на вачах, спрэчкі, выкрыкі ўмольныя, ласкавыя словы знарочыста «прыніжаных» напаўнялі дзве невялікія каморкі, брудныя, з разбітымі вокнамі, неапаленыя, з пашарпанымі, замурзанымі абоямі. Некаторыя з прыйшоўшых выказвалі сябе смелымі і вялі гутаркі са служачымі іспалкома развязна, запанібрата, другія ж, па старым звычаі, чулі сябе ў іспалкоме, як бы ў якой канцылярыі царскае воласці або станавога, і падыходзілі да сталоў дзелавода ці загадчыка аддзела з нейкай палахліваю асцярогаю, з аглядкамі навокал і назад, з падазронасцю.

У дзвюх каморках, якія складалі канцылярыю іспалкома і разам чуць не ўсе аддзелы, за вылучэннем «кабінета» прадсядацеля і «кабінета» ваенкома, стаяла па кутках каля шасці сталоў. На кожным стале ляжала па некалькі «спраў» у сініх і жоўтых вокладках, вылупленых у памёршых канцылярыях старога ладу. У суседстве са справамі стаялі разнаколерныя чарніліцы з невялічкім запасам вадзяністага чарніла. Добрая колькасць гэтага чарніла апынулася на паверсе сталоў, размаляваўшы іх большымі і меншымі плямкамі. Але і таго запасу, які меўся ў бутэльках, для дзелавода і для загадчыкаў аддзелаў было даволі. Яны спакойна раз-поразу мачалі асадкамі ў пляшачкі, прыгінаючы іх на бок, каб больш насыціць пёрка, і з перабоямі між гаворкаю выводзілі нямудрыя запісы на кавалачках markрознага сорту і гатунку паперы. Часта, абмачыўшы пёрка, яны не дакраналіся да паперы, а, гаворачы з просьбітамі, хвілінамі трымалі асадкі напагатове да пісання, а потым мачалі іх зноў у чарнілы.

Ды сапраўды, куды там было да спакойлівае пісаніны, калі нельга было вольна ўздыхнуць ад людзей, якія ўсё прасілі і пыталі. Здавалася, з нецярплівасцю можна было многіх вылаяць за назойлівасць і ачамернае прыставанне, можна было са многімі пасварыцца. Але гэта не было навіною для іспалкомаўцаў. Штодня праз паўтара года ад часу палякаў у іспалкоме панаваў настаяшчы кірмаш. На ўсю воласць трэ было раздаваць прыказы, кіраваць зямельнаю, лясною, працоўнаю справамі, судзіць, радзіць, памагаць, уладаваць, наводзіць парадак і ўмацоўваць

савецкую ўладу, і з усіх канцоў воласці, з яе мядзведжых куткоў накіроўвалі за раз'ясненнем кожнага пытання ў іспалком.

Як толькі пачыналася раніца, ужо не зачыняліся дзверы; мэрам на станцыі — яны хадуном хадзілі ўзад і наперад, з прычыны чаго бясконца стаяў стук і бразганіна. У іспалком ехалі ахвотна і смела, а таму кожная маленькая, зусім нязначная справа адводзілася ў яго на абгавор. Чаго ж! Свае людзі, без крыку, па-суседску могуць усё абсудзіць і вырашыць. Ды не толькі заязджалі з простымі пытаннямі, а нават так, без дай рацыі, заходзіла ў іспалком штодня шмат людзей, найбольш мяшчан-вікураўцаў, якія любілі парадзіцца аб розных пытаннях свайго куту і аб навінах у свеце. Іспалкомцы хоць і камуністы ў большасці, але свае людзі, выгадаваныя на вачах, — чаго ж іх саромецца ці баяцца? Не выжануць. І кожнага дня паміж дзелавымі заезджымі было шмат проста зайшоўшых. Іх ужо можна было адмеціць па нядбайным, спакойлівым выглядзе твару, па шырока выказанай суседскасці. Многа з гэткіх праз частае наведванне пазналіся з унутранымі распарадкамі іспалкома і часта падавалі тую ці іншую раду не знаёмым з нічым, рэдка ці ўпершыню прыязджаўшым.

Сідор Браварка, адчыніўшы дзверы, зразу трапіў на аднаго з гэткіх дарадчыкаў і запытаў:

— Скажыце, дзе тут займаецца Андрэй Камель?

— А? Гэта загадчык асветы? Вунь у тым куце. Прайдзіце. Каля яго, здаецца, менш усяго людзей, ён вас выслухае.

Сідор Браварка павёў носам у дымным згушчаным і злёгку смуродным паветры, кіўнуў нездаволена галавою і павярнуў к паказанаму кутку. Гурток сялян, што перагароджваў дарогу, расступіўся, і ён вольна падышоў да стала, за якім сядзеў загадчык асветы Андрэй Камель.

— Здароў, калега! — прывітаў Сідор Браварка знянацку.

Андрэй Камель хутка адняў вочы ад папераў, здзіўлена паглядзеў у твар Браваркі і адказаў:

— Якім гэта чынам? Вось дык не чакаў, брат! Калі прыехаў? Як надоўга? Што ў цябе новага чуваць? Як здароў? — засыпаў Камель прыяцеля шэрагам запытанняў. І, не чакаючы, пакуль той пачне адказваць, абгледзеў навакол стала, мэрам бы чаго шукаючы. Пасля, спыніўшыся вачмі на паламаным зэдліку, праказаў да Сідора:

— Сядай і расказвай.

— Што, брат, расказваць! Ці варта наогул гаварыць?

— Чаму?

— Ды таму! Аб чым цяпер будзеш гаварыць? Ласне можна найсці што-кольвечы цікавае… — Сідор матнуў недаверна рукою і яхідным позіркам абвёў канцылярыю іспалкома. — Вось так, як гэта, — усюды. Што ты будзеш казаць… Гніль, смурод, чад… Эх, не тое, брат, аб чым мы калісьці марылі! Помніце, калега?

Сідор дастаў з кішэні сярэбраны партабак, спрытным замахам пальцаў адчыніў яго і працягнуў да Андрэя. Гэты міжвольна падаўся да партабака ўсім целам і нясмела двума пальцамі выняў пахучую надушаную папяросу.

— Бач, яшчэ маеш… Не тое, як мы тут… Самасейку глумім.

— Да гэтага пакуль яшчэ не дайшло. І думаю, не дойдзе. Трэба меркаваць, дарагі, каб не апынуцца пад абцасам гэтага тыпу… Вось трымаюся сяк-так. І не скажу, каб давялося цярпець, як другім…

— А цікава, бок, ты дзе цяперака ўстрэмлен? — пацікавіўся Андрэй.

— У прадкоме ў Проўску.

— Даўно ўжо?

— Ды вось амаль не паўтара года… Ці ж ты не атрымаў майго ліста? Я ж паведамляў цябе аб гэтым… Як выйшаў з асветы, дык зразу і паступіў у прадком… І, знаеш, павязло: устроіўся добра. Ну, а ты тут?

— Як бачыш, усё тут. Важдаюся, брат, са шкрабамі ды з мяшчанамі. Па вушы працы. І, прызнацца, цікавай працы.

— Ай, кінь ужо ты з яе цікавасцю: я ведаю яе! Перанёс на сабе і трудавыя школы, і двухступянёўку, і… беларусізацыю… Пачуў увесь смак…

— Таварыш Камель, — перабіў Браварку якісь мешчанін, не падыходзячы блізка да стала.

— А што, дзядзька?

— Вы там, таварыш, наказвалі, каб я зайшоў да вас наконт майго хлопца. Вось я і прыйшоў. Вы, калі ласка, дазвольце вам усё раз’ясніць…

— Нічога, дзядзька… Я ўжо ўсё ўладзіў: я зазываў да сябе настаўніка і наказаў яму, каб другі раз ён без саюзу так не рабіў. Нічога, будзьце супакойны — справа залатвена.

— Дзякую, таварыш. Вельмі дзякую, а то мне столькі клопату паддаў ён, што…

Андрэй матнуў рукою, і селянін замоўк, схінуўся перад ім і завярнуўся ад стала.

— Вось гэта табе цікава? — пасмяяўся Сідор. — Не ведаю, хіба ты змяніўся, а як судзіць па-ранейшаму — то наўрад ці могуць цябе зацікавіць гэткія справы… Трэба наогул напалову адрачыся ад самога, каб з цікавасцю аддацца гэткім справам… Я не ведаю, як ты, ну, а я ўсё яшчэ не магу згадзіцца з усім гэтым.

— Што ты, Сідор, узапраўды? Здаецца ж, ты не горай мяне жывеш, а… — вымавіў Андрэй і супыніўся, угледзеўшы, што ў канцылярыю ўвайшлі настаўнік і настаўніца вікурскае школы.

— Я табе скажу: гэта не тое, каб даводзілася дрэнна з матэрыяльнага боку. Не! Галоўнае…

Настаўнік з настаўніцаю, пасмейваючыся над чымсьці, падышлі да стала і запанібрацкі павіталіся з Андрэем. Настаўнік абгледзеў навокал стала, каб найсці на чым-колечы прысесці, і, не ўгледзеўшы нічога, пасмяяўся:

— Хоць на падлозе… Па-турэцкаму…

Сідор пахіліўся да настаўніка і, пазнаўшы ў ім знаёмага — нават калісьці таварыша, уставіў ад сябе:

— Цяпер не навіна: альбо пад сталом, або на стале.

Настаўнік, пакуль не зважаўшы Сідора, цяпер глянуў яму ў твар і весела-здзіўлена завёў:

— Га-а! А вы ж, Сідор Гарасімыч, якім чынам да нас? — і працягнуў яму руку.

Сідор патрымаў працягнутую яму руку і адказаў:

— А вось у госці заехаў. Няма бацькоў — пачастуюся ў сястры. Захацелася наведаць родны кут.

— Пазнайцеся: Марыля Слой, настаўніца вікураўскага вучылішча, — паказваючы рукою на настаўніцу, запрапанаваў Сідору настаўнік.

Сідор далікатна прыўстаў з зэдля, схінуўся крыху і пацінуў ужо працягнутую яму руку настаўніцы.

— Паўлюк, а ці ж Марылі таварыш Сідор не ведае, што ты іх знаёміш? — здзіўлена запытаў Андрэй, паглядаючы пазменна на кожнага з іх.

— Штосьці я не помню, — адказаў Сідор.

Настаўніца не то ганорна, не то сарамяжна прапусціла тварам лёгкую ўхмылку.

— Дзе там іх прыпомніш! — уставіў Паўлюк. — Іх тут за час адсутнасці Сідора Гарасімыча з Вікур нарасло як грыбоў. Дзявочае семя ўрадлівае.

— Ах, каб цябе, каб цябе… — Настаўніца замахнулася на настаўніка рукою, але той спрытна ўхіліўся і ўголас зарагатаў.

Яго рогат звярнуў на сябе ўвагу многіх прысутных у іспалкоме, якія павярнулі галовы ў іх бок. Андрэй з прычыны гэтага нездаволена кіўнуў галавою і хутка азірнуўся ў бок «кабінета» прадсядацеля. Сідор падмеціў асцярожлівасць таварыша і прамовіў:

— Чаго азіраешся?

— Нічога… Так сабе… — уверыў Андрэй і тут жа пачаў збіраць свае паперы. — Трэба збірацца дахаты. Заўтра будзе дзень. Усё роўна сёння ўжо не будзе работы.

— А начальства не баішся? — пажартаваў Паўлюк.

— Трэба на гэты раз адважыцца.

— На гэты раз можа ўважыць. Не так многа часу засталося да канца, — дадала Марыля.

— Ах, менш бы яго яшчэ засталося, — яхідна праказаў Сідор і паглядзеў на загарак.

— Ну пойдзем, калегі, — пазваў Андрэй.

— А куды? — запытаў Паўлюк.

— Падумаем…

Яны выйшлі з іспалкома на двор і пайшлі праз пляц напрамкам да вуліцы.

— Што ж, Андрэй, трэба будзе адмеціць прыезд Сідора Гарасімыча, — запрапанаваў Паўлюк.

— Так, добра б было… Але дзе і як?

— Калі ласка, да нас заходзьце, — пазвала настаўніца.

— Вось добра, — сказаў Паўлюк, — згодны, Сідор Гарасімыч? У Марылі Палікараўны зацішна і добра. Мы там заўсёды збіраемся. Можна і пагаварыць аб усім…

— Давайце, мне цікава разведаць, як у вас тут жывецца, што чутно, які ваш настрой, — адказаў Сідор.

Як толькі яны выйшлі на вуліцу, іх нагнаў настаўнік Плаха.

— А-а! Я дык ледзьве вас знайшоў, — выгукнуў ён, забягаючы ўсім наперад і па чарзе вітаючыся. — Мне цікава пабачыць Сідора… Здароў, брат! Як і што ў цябе? Ці надоўга да нас?

— А вось пагляджу, як спадабаецца… Спадабаецца больш — прабуду даўжэй, а не спадабаецца — хутка ўцяку, — адказаў Сідор.

— Гэ-э! У нас не горай, як усюды, — падаў Плаха.

— Да горай ужо нідзе не бывае. Усюды роўна — усюды горай. Адны парадкі — адны законы… Чаго тут лепшага шукаць.

— Пэўна! Праўду кажаш, браток, — згадзіўся Плаха, не думаючы, да чаго кажа.

У гутарцы прыняла ўдзел уся кампанія. Але меней усіх выказваўся Андрэй. Таксама рэдка закідала словы і Марыля, якая больш слухала Сідора. Апошні, скора яна яго ўгледзела, паказаўся ёй дужа прыемным і прыгожым, і яго словы здаваліся ёй ад пачатку да канца праўдзівымі. Калючкі і ўпінкі ў Сідоравай гутарцы, накіраваныя на савецкі лад і яго парадкі, падабаліся Марылі яшчэ і таму, што яна таксама не спагадала бальшавікам… На кожны выказ Сідора Марыля адказвала ўхмылкаю і ліслівым зазіраннем яму ў твар. Гэта, з свайго боку, заахвочвала Сідора на большую адкрытасць у сваёй гутарцы.

Гэтак гутарачы, яны прайшлі ў канец усю вуліцу і павярнулі назад.

— Ну, хіба цяпер разыдземся, а пасля сыдземся зноў… калі не прагоняць, то ў Марылі Палікараўны, — парадзіў Сідор.

— Што вы, аброць вам на язык, — перапыніла Марыля.

— Добра, добра, — згадзіўся Паўлюк.

Параўняўшыся з перавулкам, яны разышліся хто куды.

## II

Сідор Браварка прыйшоў да сястры на кватэру і, не застаўшы нікога ў хаце, прысеў каля стала і пачаў выяўляць і пераверваць сам-насам першыя свае ўражанні. Выгляд мястэчка, іспалком, яго таўкатня, спатканне з таварышамі, іх настрой сціслым шэрагам панесліся перад яго ваччу адно за другім. Пранесліся перш несустрымна, хутка, а пасля, мэрам бы зрабілі паўкруг ублізку ад яго, павярнулі назад і зноў кранулі яго думкі. Затым раптам зніклі, даўшы месца мінулым адчуваннем. Перад Сідорам усталі вобразы яго студэнцкага жыцця, гульні з паповымі і станавога дочкамі, пачосткі, балы, вечарыны. Прамігнулі палкія летуценні, жаданні і мары, якія выглядалі перад ім якімсьці раем. Тады, прыпомніў Сідор, многае што абгаварвалі яны з Андрэем і Плахам, будавалі шмат смелых планаў. Вікуры не мелі месца ў іх жыцці. Пецярбург — вось дзе луналі іх думкі… Яны лічылі сябе вялікімі людзьмі, перад якімі ўсіх бы вікурцаў спадалі шапкі. «Колькі часу таму? Многа, многа! Здаецца, цэлыя вякі! Ды страшнага якога часу, каторы пераламаў усе мае планы, усе задумы перастроіў. Якія змены зрабіліся! Цяжка выабразіць! На ўсім і на ўсіх, як ні паглядзі», — прашаптаў Сідор сам сабе.

Сідор прыўстаў з месца, паглядзеў у акно, ці не ідзе хто, каб не памяшаў салодкасці і заўзятасці яго думак, і зноў адвярнуўся ад акна, але ўжо не прысеў, а пачаў тупаць па хаце.

«Перамена на ўсім, адно толькі я астаюся тым самым, якім і быў. Я адзін краплюся і стаю на сваім. І выстаю… Ды мала таго, што выстаю, а мушу і другіх прытрымаць на тым жа месцы. Бо што з таго, калі мне аднаму давядзецца займаць сваю пазіцыю? У гэтым мала радасці і мала карысці… Важная карысць — другіх утрымаць… Так, важная, але ці ж хопіць сілы?.. Штосьці задалёка ўсё адышло… Дзіўлюся. Ці то мне здаецца, ці сапраўды яно так: мэрам бы і Андрэй зусім другім стаў. Відаць па ўсім: патайны стаў, малагаваркі, падазроны… Няўжо і яго пераламала ўжо? За гэтыя два з лішнім гады ці ж мог ён адцурацца сваіх поглядаў — гэткіх цвёрдых, здавалася, і пераконаных?.. Цікава!.. Што ён выкажа далей? Трэба пацягнуць яго на адкрытую… Бо штосьці не верыцца, каб ён са шчырасці казаў, што «работа цікавая»… Забачым… А шкода будзе, калі Андрэй паламаў погляды, шкода… А гэта можа стацца, бо жыццё ломіць… Ломіць упарта і крэпка. Паглядзець — падзівіцца! Узяць бы і ў мяне на службе… Ліха іх ведае: кожны стаў нейкім асобным і незразумелым. І чым далей, тым кожная душа становіцца невыразнейшай… Але там — горад. Горад — то іншае: шум, рух, кіпятня… Дзіўней тое, што вось і ў гэткія куткі, як гэтыя Вікуры, так шырока ўсё пралазіць. Чаго б, здаецца, тут уважваць бальшавіцтва, а потым паглядзець — прывыкаюць. Повен іспалком мужыкоў; згодна ды спакойліва гутараць… як дома, як у суседа… А Андрэй кажа, што «работа цікавая».

Сідор не зварачаў увагі на тое, што ў хаце было цёмна; ён размеранымі крокамі, пакіўваючы галавою, тупаў па хаце, малюючы розныя выкрутасы: то крыжы, то петлі, то ўкосныя фігуры. З акон супрацьлежнага дома выпадалі пукі праменняў і прабіваліся ў хату, кладучы адбітак акон на печы. Вуліцаю праходзілі людзі, скрыпучы па снезе нагамі. Сідор, калі хто праходзіў, на хвілю прыпыняўся і міжвольна прыслухоўваўся, пакуль прахожы не мінаў хаты. Пасля зноў пачынаў хадзіць.

Гэтак ён пратупаў каля гадзіны. Нарэшце спыніўся, падышоў да стала і намерыўся прысесці, але ў гэты момант пачуў стук дзвярэй.

Праз хвілін пяць у хату ўвайшла гаспадыня, яго сястра Юста.

— Ці ёсць хто ў хаце? — запытала яна ўпацёмку.

— Я, Юста, я ў хаце! — адказаў Сідор.

— Чаму ж ты ўпацёмку сядзіш? Ласне не ведаеш, дзе запалкі?

— А хто іх ведае… я ж яшчэ не агледзеўся…

Юста запаліла газніцу.

— Ну, а дзе ты хаця сёння быў, — пацікавілася Юста.

— Дзе… Вось у іспалком схадзіў да Андрэя, пасядзеў там трохі, пасля прыйшлі настаўнікі, і мы прайшліся крыху па вуліцы. Так дзень і мінуў.

— А мой Юрка часамі не прыходзіў?

— Як я ў хаце — то не.

— Ах на яго ліха, бадзяецца цалюткі дзень. Няўжо ён яшчэ справункаў сваіх не скончыў? І ведае, што госць дома, а сам, як цюцька, лётае дзесь… пэўна, таксама забраўся дзе ў іспалком і сядзіць, — не здаволілася Юста.

— А ён у цябе наведвае іспалком? — здзіўлена запытаў Сідор.

— Так! Кожны дзень сядзіць там. Назбіраецца іх мо з дваццаць чалавек, набяруць паўнюткія капшукі тытуню і дурацца да поўначы. Ушалопаў, ведаеш, і не адвучыць…

— Няўжо яму так падабаецца іспалком?

— Ліха яго ведае! Бачыш, што так.

— І бальшавікоў ён любіць? — пацікавіўся Сідор.

— Не кажа выразна, але, гутарачы, заўсёды іх хваліць, — адкрылася Юста. — Я ўжо яму кажу: «Што ты людскае ў іх бачыш — пакінуў бы іх хваліць», а ён мне: «Як-ніяк, а нам пры бальшавіках лепей. Усё можна смела сказаць, можна зямлі браць дарам, лесу дастаць можна… З усімі проста — запанібрата».

Сідор яхідна засмяяўся і сказаў да сястры:

— Бач, зусім нечакана і ты для сябе бальшавіка знайшла.

— То-та ж, але! Ліха яго ведае! Некалі як быццам бы і не любіў іх, а цяпер вось перамяніўся. Ды не толькі ён адзін… Амаль не палова нашай вуліцы так… З другіх вуліц — дык ёсць колькі чалавек, што і слухаць не хочуць аб Саветах, а гэта за бальшавікоў…

— Гм! — выказаў сабе пад нос Сідор і прайшоў раз па хаце. — Мяняецца час, і мяняюцца людзі… Што ж, бязвольныя, слабыя… — невыразна выказаўся ён.

Юста нічога не адказала, думаючы, што брат будзе гаварыць далей. Але, пачакаўшы хвілін колькі, яна загаварыла а другім:

— Мо ты есці хочаш, Сідор? Мо збіраешся пайсці куды, дык кажы. Павячэраем удваіх. Юркі чакаць не будзем, горліца яго бяры…

— Так, я ўмовіўся быць у Марылі Слоевай… Там у яе зборня, ці што!

— Так, гэта ж там збіраюцца ўсе вікураўскія інтэлігенты, як на іх кажуць, — паясніла Юста і тут жа дабавіла: — Ну, дык я табе выму вячэраць, ды ідзі.

— Не варта, не клапаціся, — паспрабаваў адгаварыцца Сідор, але Юста не далася далей спрачацца, а паспешна прыгатавала вячэру і ўбрала стол.

— Садзіся! Навошта тыя цырымоніі!

Сідор усеўся за стол і прыняўся вячэраць.

III

Павячэраўшы, Сідор зразу адзеўся і сабраўся ісці.

— Ты ўжо, Юста, не засоўвай дзвярэй, хоць я спазнюся, — папрасіў ён сястры, выходзячы з хаты.

— Не бойся, не астанешся начаваць на дварэ, — пажартавала Юста. — Вось калі і засунуты будуць дзверы, дык ты працягні ў аконца руку, абмацай вяроўку і адчыніш.

— Добра… Адно была б вяроўка.

Юста правяла брата ў двор і паказала яму ўсю смікалку з засоўкаю дзвярэй.

— Ідзі гуляй з богам, — пажычыла яна Сідору.

Адказаўшы «дзякуй», Сідор пайшоў з двара. Да Слояў дарогу ён ведаў добра, як наогул добра ведаў амаль не кожную мясціну Вікураў. Але, пусціўшыся ісці, ён спярша не выясніў перад сабою яскравага жадання няйначай рабіць гэта. Штосьці — ён пакуль не цяміў — трохі астудзіла яго тыя спадзевы, з якімі ён уязджаў у роднае мястэчка. Чакалася ў ім знайсці часовы адпачынак пасля скрутнага, вакол варожага яму жыцця; чакалася адкапаць памятныя старыя моманты і супакоіцца на аднаўленні іх з сваімі, як ён чакаў, незачэпленымі бегамі часу, таварышамі. А тут вось! Толькі сустрэўся з лепшымі з іх, як адразу ўбачыў, што Андрэй — не той. Не той Андрэй і не той Плаха. І чаго крыўдней — гэта тое, што і ў хаце сястры, як выявілася, таксама няжданае. Жарты, Юрка таксама абальшавічыўся!..

Пайсці да Марылі Слоевай мела б рацыю для Сідора тады, каб яму сустрэць там блізкую і мілую кампанію. Але ці ўдасца гэта — брала Сідора вялікае сумненне. Гэтае ж сумненне і сцішала яго хаду, застаўляючы праз кожныя пяць крокаў прыпыняцца і азірацца назад.

Ужо прайшоўшы ў канец усю вуліцу, Сідор пры павароце ў завулак супыніўся на месцы і пачаў канчаткова вырашаць сам сабе — ісці ці не? У яго нутры вынікла раўнавага доказаў за патрэбу пайсці і супроціў гэтага, і ён ажно злаваўся на сябе, неспакоячыся.

Нарэшце штосьці яго падтаўхнула на тое, каб ісці, і Сідор маладзецка, ганорна замахаў уперад левую нагу, пачуўшы, мэрам бы з плеч спала колькі пудоў. «Пайду і паспрабую, у выпадку чаго, пазмагацца», — парашыў ён і прыняўшы, ідучы, паспешна абдумваць, як і што яму трымацца. Але не паспеў ён якраз абдумаць і адзін манеўр, як ззаду пачуў вогук:

— Сідор Гарасімыч?

— Я самы! — здзіўлена адгукнуўся Сідор і прыпыніўся.

— А я ўжо бегаў па вас да вашае сястры, — падыходзячы да Сідора, паясніў Плаха (то быў ён).

— Ласне так? Ці ж ужо позна?

— А ўжо дзясятая гадзіна. Я думаў, што вы не трапіце да Слояў.

— Нічога, не заблуджу.

Далей яны дайшлі да Слояў моўчкі.

— Вось куды мы вас завабілі, — пажартаваў Плаха, заварочваючы ў двор.

— Праўда, што завабілі!

Яны прайшлі ў хату.

Звычайная мяшчанская хата Слояў выглядала чыста і акуратна прыбранай. На покуце вісела блішчастая ікона, убраная белымі фіранкамі, а перад ёю лампадка. На дваровай сцяне вісела вялікае люстра, а на вулічнай — гадзіннік.

У мыцельніку на лаўцы, склаўшы на прыпол рукі, сядзела Слоіха Агнэса, маці Марылі, і ўмільна пазірала на покуць, дзе наўкол стала сядзелі Андрэй, Паўлюк, Мірон — быўшы валасны пісар, а цяпер дзелавод у лясніцтве, і Габрусь — каапhouseholder, а перад люстрай вярцелася Марыля з таварышкаю, таксама настаўніцаю, Варвараю Касач.

Сідор, пераступіўшы парог, павітаўся перш нізкім уклонам з Агнэсаю, пасля весела паціснуўся рукамі з Паўлюком і Андрэем.

— А вось і мая таварышка Варвара Касач і таварышы — Мірон Бізун і Габрусь Пуга, — паказала Марыля на Варвару, Мірона і Габруся.

Варвара першая з прыскокам працягнула Сідору руку, сарамяжна ўхіліла галаў і расплылася ў адкрытую ўсмешку… Далей Сідор пазнаўся з Міронам і Габрусём.

— Тут у вас цэлая зборня. Больш нічога і не трэба, — падаў Сідор камплімент.

— А такі і гэтак, — паспяшыла згадзіцца Варвара.

— Сядайце вось, Сідор Гарасімыч, — папрасіла Марыля.

Сідор прысеў пры ражку стала, выняў партабак і закурыў цыгару.

— А ўсё ж, скажу вам, — пускаючы рызыкоўна дым у бок ад стала, пачаў казаць Сідор, — мне падабаецца вось гэткая кампанія. Сабе збярэшся сваёю хэўраю, шчыра пагутарыш пра што захочаш, павесялішся ўспамінамі — і часу шмат адшвырнуў. Усё менш жыць у гэтым пекле, якім цяпер стала наша жыццё… Ці ж не праўду кажу?

— Вось чыстая праўда, Сідор Гарасімыч, — падмацавала з мыцельніка Агнэса, — шчыра праўда, сынок. Я таксама часта спрачаюся і з Андрэем і з Макарам Плахам, што цяпер куды горай ранейшага. А яны — гаварыцца не даюць.

Сідор пры апошніх словах зірнуў у бок Андрэя, і яму стала ніякавата, калі яны стрэліся сухімі сур'ёзнымі поглядамі.

— Я не ведаю, як хто, а мне дык нудна цяпер стала жыць… І ўстроен я на добрай службе, не цярплю холаду ні голаду, маю мажлівасць адзецца — а вось чагось не хапае. Як прыпомню старыя думкі, планы ды жаданні, дык сэрца дратуецца… А там, у нашым горадзе, скрозь чужыя людзі, якія з усім згадзіліся і, церпячы недастачы, узапой абараняюць сучаснае становішча. Слова аб іншым сказаць нельга. І я адным-адзін, як струк, увесь астатні час прабадзяўся. Чуць нуда не зарэзала… Страшэнна пацягнула сюды, у Вікуры, да старых таварышаў, далёка ад надаедлых мне сходаў і дэманстрацый… Мне думалася, што тут, у вашым кутку, жыццё не пачэпана так, як у горадзе.

Сідор сказаў гэта з нейкім запоем, горда і ўважліва гледзячы толькі на Агнэсу. Тая ж з цікавасцю незмігутна выслухала яго і мэрам бы зачаравалася яго словамі, бо, калі ён кончыў, яна засталася сядзець моўчкі і нерухома.

Марыля з таварышкаю таксама ўважліва выслухалі Сідора. Спакойна выслухалі яго і Паўлюк з Міронам.

Зусім іначай паглядзелі на яго словы Андрэй, Плаха і Габрусь. У асобку Андрэй, які не мог сутрымацца ад смеху, і толькі Сідор скончыў, як ён падняўся з месца і сказаў:

— Дарэмна ты, Сідор, наракаеш на сучасны лад, зусім дарэмна. Мяне і дзівіць, чаму ты так кажаш? Паглядзець на цябе, — нельга падумаць, што ты пакрыўджаны. Сам нават сазнаешся. У чым жа рэч? Не выйшла так, як калісь мы разлічвалі? Не ходзім мы панамі, а перад намі шапак не скідаюць? Не блішчаць у нас на грудзях масянжовыя гузікі? Гэта — праўда. Але падумай сам, ці ж у гэтым сэнс жыцця? Ці гэта — устоі для яго? Мне думаецца, Сідор, што мы ашукваем сябе, калі марым аб нашых былых

планах і намерах. Сапраўды — то былі толькі пустыя мары! І той, хто грунтуецца на іх, грунтуецца на пяску, на саломінцы… Па-мойму, пакуль вецер не выдзьмуў канчаткова з-пад ног гэтага пяску — трэба сысці з яго, каб не праваліцца ў бяздонне…

— Паглядзі, паглядзі, Сідорка, — перабіла з нецярплівасцю Агнэса, — паглядзі, што пяе Андрэй! Ці ж можна было падумаць на тое?

Сідор прынагнуў галаў, штосьці напісаў пальцамі па стале, пасля сказаў:

— Што ж, усякае бывае. Ёсць людзі з рознаю воляю… Па-мойму, зусім іначай малююцца здарэнні бягучага жыцця, і я, — ён падняў галаў, — у толк сабе не вазьму, чаму людзі таго не бачаць! Чаму яно іх асляпляе… Проста — губляюся разумець… Не магу згадзіцца нізашто — штосьці не дапускае мяне.

— А я скажу вам, Сідор Гарасімыч, — уставіў Плаха, — і вы згодзіцеся. Нельга не згадзіцца. Толькі падумаць трэ, разабрацца дасканала ўва ўсім — і тады згодзіцеся… Нас выхоўвалі на буржуазнай маралі — таму і атруцілі нам ясны сэнс жыцця… Сапраўды — ці ж мы не з таго дрэва, якое цяпер разраслося і пакрыла ўвесь край? Кроў у нас — кроў былых рабоў, але атручаная зменаю да іх… Ведаеце, Сідор Гарасімыч, я нядаўна сам трымаўся вашых поглядаў, але пасля, калі разабраўся ў іх, разгледзеў іх па часіне, дык пазнаў, што яны зусім несправядлівыя погляды… І я з імі расстаўся назаўсёды. Расстаўся з імі і пачуў сябе новым, здаровым і свежым. Свежым, бо мяне асвяжаюць тыя дзіўныя здарэнні, якія ўскалыхнулі наша цёмнае, прыгоннае жыццё, зрушылі яго з мёртвае ўстойнасці і паставілі на шлях…

— Слухай, Плаха, ты, як я бачу, таксама абмануты, — перабіў Плаху, уважліва слухаючы іх гутарку, Мірон, — каб ужо так можпа было зацягацца сучаснымі здарэннямі, дык я не магу сказаць… Табе — не відно… Сядзіш сабе ў школе, калупаешся ў кніжках — і толькі! Пэўна — кніга не скажа таго, што ёсць… Хоць і вакола кнігі не вельмі надзейна… Але ты паспрабаваў бы шчыльна сутыкнуцца з жыццём — іншае запеў бы… Ты паглядзі, што робіцца навокал! Сялянства голае і яшчэ абіраюць… інтэлігенцыя загнана. Яе самотнасць — аніўто… Так і топчацца… Усе яе летуценні знішчаны… Мэрам бы знарок пастаўлена мэта — зацямніць народ…

— Вось з гэтага боку — я цалкам з Міронам, — уступіў у гутарку Паўлюк, — хай сабе іншае, ну з боку ж няўвагі да інтэлігенцыі, то несправядлівa. Яна ж — сок краю. А тут мэрам бы вайну ёй абвясцілі. Што б яна ні падала ў думках — нічога не

варта. Хоць бы з гэтай надаедлай школьнай справай. На табе і працоўную школу, на табе і беларускую мову, на табе і знішчэнне няграматнасці… Усё разам і засаб. А паспрабуй паспрачацца? Вось хоць бы ў нас: паперка за паперкай — прыказ перайсці да беларускае мовы… Каму і нашто яна патрэбна? Які ў ёй толк? Што яна дасць?.. Дык не! Паспрабавалі мы пратэставаць — ні ўвагі…

— Ха-ха-ха-а! — разліліся смехам Марыля з Варвараю. — Далася яна нам у знак — гэта беларуская мова… Папаваявалі мы супроць яе…

— А змірыліся ж, — уставіў Мірон.

— Улада гэткая — гэткая і яе мова, — падала з мыцельніку Агнэса, — мужыкі… мужыкі — больш нічога… Ласне ім што далікатнае трэба?

Сідор уважліва выслухаў кожнага, і відаць было, як хвіля ў хвілю мянялася міна на яго твары, робячыся то вясёлай, то няўвbooранай, то падазронай — адпаведна выказваным думкам. Казаў Мірон — Сідор здаволена ўхмыляўся, загутарыў Паўлюк — ён супыніў ухмылку, а настарожана лавіў кожнае яго слова, прагна жадаючы пачуць большых скаргаў і нараканняў на сучасны лад.

На смех дзяўчат і выказ Агнэсы Сідор зноў адказаў лёгкаю ўхмылкаю. Аднак уцалку — яго настрой падаў, брала раздум’е, ацягаў цяжар. Той дух, ад якога ён тужыўся ўцячы, вітаў вакол яго, дзе б ён ні супыніўся. Лятаў і труціў паветра. Сідору рабілася злосна; нянавісць забірала яго. А разам з гэтым уставаў нейкі не то задзёр, не то ўпартасць — настаяць на сваім. Абураны гэтым, ён вылез з-за стала і, не перастаючы курыць, затупаў па хаце.

— Я бачу, што ў нас не хапае ўстойнасці, і мы скрозь пальцы глядзімо на ўсё. Глумяць школу — няхай, не ўважаюць інтэлігенцыю — няхай. Праз гэтыя «няхай» мы і робімся слугамі мужыкоў ды розных там… «с бору по сосенке». І, пэўна, замест настаяшчага атрымоўваем падробленае. Замест вялікае расійскае мовы падсоўваюць брахню нейкую… А маўчацьмем — сабакамі завыем… Запамятайце…

— Саба-акамі… Вось папаў, брат, пальцам у неба, — абураны Сідоравай размовай, падняўся з месца Андрэй. — Гаворачы так, як ты — даруй ужо мне, — сапраўды раўняецца да сабачага брэху. Я так і бачу перад сабою вобраз, як быццам… ну, брэшам мы на месяц. Брэшам, каб брахаць. Няма на вошта — дык на месяц. Я вось чую тваё нездаваленне, а скажы, што ты радзіш ад сябе? Нашы былыя мары? Балі ў станавога ды папа? Кончана, згніло, брат! Згніло вакол і ўсюды. І дарэмна ты думаў — калі

толькі думаў! — што ў Вікурах знойдзеш не ўзнятую цаліну… Кончана… Адно цяпер на чарзе — гэта засеяць узнятае і атруціць дармаедаў, каб не патравілі засеянага…

Андрэй строма абарваў сваю гутарку і адвярнуўся ў акно. Сідор, якога ён не бачыў два гады і які абрадаваў яго сёння сваім прыходам у іспалком, цяпер выглядаў у яго ваччу зусім іншым, чужым чалавекам. Бывалашнія таварыскасць, сумеснае планаванне будучыні, цесная блізасць, падзел самымі таемнымі перажыткамі — усё гэта, выбліснуўшы на момант, раптам заглухла, знебылося, і іх месца заняло новае пачуццё. Гэтае новае пачуццё дыктавала Андрэю настойныя думкі, якія шапталі яму на вуха: «Закаранелы манархіст… непапраўны. Горай ранейшага. Не! Болей ён мне не таварыш… не магу цярпець — варочае…»

— Сідор Гарасімыч, вы ашукваецеся, падкрэсліваю я, — каб згладзіць гострасць Андрэевых слоў, мякка казаў Плаха. — Пэўна, мне ўжо вас не разуверыць, але мне здаецца, што ролю сабак насілі б мы тады, каб ішлі супроціў цяперашняга ладу. Нас выхоўвалі для гэтае ролі і ў гарадскіх школах, і ў семінарыях, і ў інстытутах. Загналі ў нас звярынае пачуццё, і мы пад яго ўплывам знаходзімся дагэтуль. Нас пакалечылі змалку так моцна, што ажно і цяпер не апамятацца, не выраўняцца… Скалечылі нашу душу, зглумілі нашу самотнасць. Не дзіва, што кожная рэч, блізкая і зразумелая нам, — цяпер не даспадобы. Трэба лячыцца, трэба лячыцца, а то без пары загінем…

— Я адно хачу дадаць, — умяшаўся, увесь час маўчаўшы, Габрусь, — гэта з пытаннем аб школе, якое чапаў Паўлюк. Я — не настаўнік. Я — кааператар і мо менш Паўлюка свядомы, ну толькі ж, па-мойму, у школе нельга абысціся без нашае, мужычае, простае мовы. Тут ніякім чынам не выкруцішся… Я гэта ведаю са свае даўнейшае практыкі ў воласці… Нашаму селяніну патрэбна даставаць адукацыю самым лёгкім парадкам, а гэты падарак ёсць яго мова. Няможна пераскокваць там, дзе ёсць магчымасць перайсці…

— Ну, брат, ты ўжо пакінь… Твае тэорыі нам усім вядомы… Ты, я табе скажу, просты фанатык — не больш! — суха пераняў Габруся Паўлюк.

Пакуль ішла гэта гутарка, Марыля адышлася ад стала ў мыцельнік і колькі часу шапталася з мацераю. Пасля Агнэса выбегла ў сені, пабыла там нейкі час і вярнулася ў хату з поўнымі талеркамі сыру і каўбасы. У гэты час Марыля штосьці бразгала пасудаю і ўвіхалася з самаварам. Хлопцы не звярталі на іх ніякае

ўвагі і былі здзіўлены, калі раптам Марыля прынесла на стол талерку з каўбасою і бутэльку чарнаватае наліўкі.

— Годзе сварыцца — дайце гадзіцца, — жартліва падсказала яна да ўсіх.

І, бачачы, што хлопцы зарухалі з-за стала, дадала:

— Не палохайцеся, ша! Як сядзелі, так і заставайцеся сядзець.

Па чарзе — Андрэя, Плаху і Сідора яна вярнула за стол.

— Навошта-а гэта, цётка? — сумеўся Андрэй, калі Агнэса прынесла на стол яшчэ адну пасудзіну з закускаю.

— Вось маўчы. Я захацела пагадзіць вас. Навошта вам спрачацца? Усе — таварышы, — адказала рэзвая Агнэса.

— Го, цётачка, нас ужо цяжка пагадзіць, — несур'ёзна завёў Габрусь.

— А каб цябе халера ўзяла!.. Беларус ты заядлы… Няўжо такі ты не адкараскаешся ад свае беларушчыны няшчаснай?

— Тады, калі Сідор кіне быць яе ворагам…

Сідор пусціў па твары лёгкую ўсмешку і нічога не адказаў.

— Ну, расселіся… Вось цяпер — за наша здароўе вып'ем па кілішку, — наліваючы з бутэлькі наліўку, выказала Агнэса. — Як бы і ведала, што госці будуць. Захавала яшчэ з восені.

— Умееце хаваць! — пажартаваў Паўлюк. — То б то на мяне — не выстаяла б столькі!

— Ды ўжо ты вядомы чалавек! — уставіла Варвара.

— Не чакайце ж, не чакайце, сынкі. Вазьміце, калі ласка, — упрошвала Агнэса.

Паўлюк першым узяў чарку, падняў яе і сказаў да ўсіх:

— Гэта ж цяпер — золата. Гэта — Евіна яблычка. Чаго тут пазіраць на яе?

І выпіў.

За ім апаражнілі свае чаркі і ўсе прысутныя. Агнэса, не даючы адгону, наліла па другой, а следам і па трэцяй. Наліўшы, яна над кожным настойвала выпіць, то ўгаворваючы, то пужаючы.

Гэткім чынам пляшка амаль без перадыху была апарожнена. Агнэса яе прыняла са стала і частавала госцяў закускаю.

Наліўка падвесяліла ўсіх. Але больш другіх выглядала гэта на Сідору. Ён раптам перайначыўся, адагнаў ад сябе задумлівасць, сум і стаў непазнана рэзвым і храбрым.

— А ведаеце, — перабіваючы ўсіх, пачаў ён казаць уголас, — я ніколі не думаў, што так выйдзе. Я не спадзяваўся, прызнаюся адкрыта, што ўсё так перайначылася і тут, у Вікурах… Дзіўна! Глуш, яма, — а глядзі ты! Не пазнаць… Не пазнаць нікога… нікога… Як быццам бы я сяджу ў тым жа Мінску ці Гомелі…

Сідор адхіліўся ад сцяны і, не сціхаючы, курыў, старанна размахваў рукамі, кажучы да Андрэя:

— Найбольш усяго я не чакаў таго ад цябе, Андрэй. Не чакаў, што ты станеш тым, чым я цябе сёння сустрэў… Ехаў і думаў: сустрэнуся з таварышамі і хоцькі душу адвяду… Пагутарым, успомнім мінулае, пацешымся і… адпачнем душою… Прызнацца, пераступаючы іспалком, тое думаў… Чаму ж не? Ласне нельга быць іспалкомцам і ненавідзець гэтую ўстанову, працу ў ёй і… усё!.. Думаў, а яно — на табе… Цяпер… выбачайце, можа, я кажу гэта, а заўтра вось Андрэй, ці Плаха, ці Габрусь возьмуць і прыйдуць па мяне з міліцэйскім? Га? Не можа таго стацца?..

Сідор пакорна пазіраў у бок Андрэя, мэрам бы выпрабоўваючы яго. Але Андрэй стрымна чакаў, пакуль Сідор выкажацца і змоўкне. Чакаў і чуць прыкметна ўсміхаўся, укладаючы ў гэты смех усё яскравей абураўшую ім халоднасць і чэрствасць да Сідора.

— Ды што ты, Сідор Гарасімыч, што ты! Гасподзь з табою! — суцешыла Сідора Агнэса. — Няўжо ты думаеш, што Андрэй зусім ворагам тваім зрабіўся? Што ты!

— Ворагам? Такі і ворагам! — зацяжна вымавіў Андрэй і колькі хвілін памаўчаў. — Так, Сідор, я ўжо не вялікі твой прыяцель!.. Не вораг, але і не прыяцель… Сідор зусім неправідлова судзіць, скажу я вам. Сідор астаўся тым, які і восем гадоў таму назад пяяў на кліpace «Спасі госпадзі», а ў станавога — «Божа, цара храні!», і матыў гэтых пратухлых песняў дагэтуль шуміць у яго вушах… Ён, пэўна, думаў, што гэты матыў шуміць і над усімі Вікурамі. Дзеля таго і трапіў сюды, але памыліўся. Мы выйшлі з-пад гэтага матыву. Нам звіняць новыя песні. І паміж намі, як паміж гэтымі песнямі, нічога агульнага няма.

Выказаўшы гэта, Андрэй змоўк. Маўчалі і ўсе. Дзяўчаты, Марыля і Варвара, нез’яснёна-ўкрадчыва перакідаліся між сабою мігамі броў, чуючы нейкую нацягнутасць у паветры. Агнэса перш хацела штосьці папярэчыць Андрэю, але разам загразла ў яе горле тое, што яна мелася выказаць, і яна засталася маўчаць. Сідор як бы не сумеўся зразу ад калючых слоў Андрэя і толькі ў адказ на іх часцей пачаў зацягацца цыгаркаю. Усе астатнія таксама не ведалі, куды павярнуць далейшую гутарку, і хто задумана, а хто абурана чагосьці чакалі.

Гэтак прайшло каля пяці хвілін, якія паказаліся для ўсіх чуць не годам. Далей нельга было маўчаць, бо то б урэшту разнервавала кожнага, і Плаха перарваў маўклівасць.

— Мне здаецца, што тут не час і не месца весці нашу спрэчку. Тым болей што мы не вырашым адразу гэтага пытання. Я раджу перайсці да іншай тэмы.

— Вось праўду кажа Макар, — пахваліла раптам, знайшоўшы сябе, Агнэса, — па-мойму, запяялі б песню якую.

— Давайце! Сапраўды, хлопцы! — рачавіта падцяла мацеры Марыля. — Варвара, — звярнулася яна да таварышкі, — заводзь што-кольвечы. Ну, хутчэй!

— Хай без мяне хто пачне, — аднеквалася Варвара, — я не ведаю, якую пачаць,

— «За ўладу Саветаў» — дужа пекны напеў, — парадзіў Плаха.

— Па-мойму, лепей «Не осенний мелкий дождичек», — падаў ад сябе Паўлюк.

Варвара сарамяжа кашлянула разы два, абцерла хустачкаю губы і нясмела, папярхаючыся, зацягнула «Не осенний мелкий дождичек». Ёй сталі падцінаць Агнэса, Марыля і Паўлюк. Сідор, Андрэй і іншыя сядзелі моўчкі, кожны думаючы сваё.

— А вы ж чаго маўчыце? — пяючы запытала Агнэса. — Пасабляйце пяяць.

Сідор як бы гэтага і чакаў, падняўся і выйшаў з-за стала. Пасля паглядзеў праз фіранку ў акно на вуліцу і прайшоў па хаце.

— Цікава, як позна? — абярнуўся да яго Плаха. Сідор выняў загарак, паглядзеў і адказаў:

— Другая гадзіна.

— Го-о-о! Чуў, Андрэй? Ці не пара збірацца дахаты? — абярнуўся Плаха да Андрэя.

Той таксама выйшаў з-за стала на хату. Гэты іх рух звярнуў на сябе ўвагу Агнэсы і дзяўчат, і тыя кінулі пяяць ды звярнуліся да хлопцаў.

— Куды вам спяшыць? Яшчэ рана. Ночы вялікія. Гуляйце! Андрэй, Макар, Сідор!

— Не, я ўжо не магу, — запэўніваў Андрэй, — трэ яшчэ сёння даклад напісаць. Дзякую, цётачка, за ўсё, прабачайце! Ужо ў суботу нагонім за гэта… Абрыдаем вам.

— Ды чакай, не разладжвай кампаніі, — хапіла гаспадыня Андрэя за рукаў.

— Не, не, цётачка, я мушу пайсці… — адказаўся Андрэй.

— Ну, дык хай сабе ён ідзе, — абярнулася Агнэса да ўсіх, — а вы, хлопцы, астанецеся пакуль… Яму — што ж, як міністру асветы, больш клопатаў, а вы…

— І я пайду, — падаў Плаха.

— І я, — далучыўся Габрусь.

— Што вы, чаго гэта?! — накінулася на іх Агнэса.

— А мы, Сідор, давай астанёмся яшчэ?! Цётка, хай сабе яны ідуць! Можа хопіць і нас? — пажартаваў Паўлюк.

Андрэй, Плаха і Габрусь развіталіся з усімі за рукі, падзякавалі гаспадыні за пачостку і выйшлі з хаты.

Марыля іх правяла ажно да вешніц.

IV

Пасля таго як Андрэй, Плаха і Габрусь выйшлі з хаты, тыя, што засталіся, з паўгадзіны маўчалі. Сідор пахаджаў па хаце, засунуўшы рукі ў кішэні, Мірон сцягнуў з паліцы «Ніву» і разглядаў у ёй малюнкі. Паўлюк штосьці запісваў у кніжку, Агнэса з Марыляю прыбіралі са стала. Варвара ж узіралася ў люстэрка. Ці ніхто не меў жаднае гаворкі, ці мо кожны меў, а чамусьці не мог ці не хацеў першым адкрываць рот — няведама. У кожным разе ўсе былі мэрам згавораны і гэту паўгадзіну маўчалі, пакуль не перарвала іх маўклівасць Агнэса.

— Што ж вы без іх і гутаркі не знойдзеце? Можна абысціся і без іх. Не вельмі яны пажаданы.

— Вось бачыце, Сідор Гарасімыч, як водзіцца ў нас! Скажы што-кольвечы супроць савецкага, дык як накінуцца… І свае лічацца, а глядзеце — ужо за бальшавікамі. Ліха ведае, што робіцца. Увачавідкі… Хоць бы гэты Плаха: яшчэ нядаўначка выступаў і супроціў працоўнае школы і супроціў беларускае мовы і… а гэта ўжо — цягне за Андрэем. Куды — і гаварыць не дае! — паспавядалася Марыля.

— Так, праўда, перайначыўся Плаха крута, і галоўнае, на вачах. Габрусь таксама шчыльна падышоў да бальшавікоў. Цягне, меле на вачах, — падмацаваў Марылін выказ Паўлюк.

— Ну, а калі гэта з Андрэем сталася? — пацікавіўся Сідор.

— Ды ўжо даўно… З год таму ці болей…

— З год?! І не мог выстаяць… цікава! А я не паспеў у Вікуры ўехаць, як зразу да яго! Вось дык штука-а-а!

На гэту ж тэму, на тэму аб страце ў таварыскасці ўсё большага і большага ліку аднадумцаў — нядаўных непрыхільнікаў да савецкага ладу і ўсіх яго чыннасцей — у хаце Слояў яшчэ каля гадзіны ішла бойкая гутарка. Сідор не пераставаў дзівіцца з таго, як і што ён сустрэў у Вікурах, і безнадзейна стараўся пераконваць прысутных у шкадлівасці работнічай улады, празываючы яе рознымі ганебнымі мянушкамі. Паўлюк і Мірон у мякчэйшых

выразах скардзіліся яму на тыя кары, якія абрынуліся з боку савецкай улады на вікураўскіх жыхароў наогул і на вікураўскую інтэлігенцыю ў асобку. Дзяўчаты і разам Агнэса выводзілі, што частка гэтых кар пала на іх у адплату нядружнай ды нез’яднанай супярэчнасці «бальшавіцкаму гвалту».

— Вось глядзеце, — казала яна, — пачакалі б год-другі, не пайшлі б да іх на службу, і самі б яны пакланіліся вам: ідзеце, вучэце. А то запрашаюць рознымі абяцанкамі, а там толькі разладуюць, каб пасля зневажаць ды глуміцца паасобку над кожным…

Гэтых Агнэсіных доказаў было мала, каб паверыць у іх сілу і практычнасць нават дзяўчатам, але як хлопцы, гэтак і дзяўчаты падтаквалі ёй і згодна пакіўвалі галовамі. Ад абгавору сучаснага становішча яны перайшлі да ўспамінаў аб мінулых часах. І тут Агнэса ўдоваль нагаварылася: чаго-чаго не ўспомніла, колькі разоў спогадна не ўздыхнула! Вывела напаверх розныя падрабязгі сваіх спатканняў і знаёмстваў з высокімі асобамі, іх самавітасць, гонар і далікатнасць. Расказала аб бывалашніх знатных на ўвесь павет вечарынках і гулянках. Поп і пападдзя, станавы, земскі, доктар і іх жонкі скланяліся на ўсе лады.

За Агнэсаю аднавілі свае перажыткі Сідор, Мірон і Паўлюк. І яны, кожны па сабе. Толькі Марыля і Варвара, як маладзейшыя за іх і выйшаўшыя «ў людзі» ў першыя часы рэвалюцыі, не маглі, вядома, налагодзіцца «шчаснасцю» старое пары і не мелі нічым пахваліцца. Затое праз усю гутарку Агнэсы і хлопцаў яны спогадна пакіўвалі галовамі і завідвалі ім напавер.

— А потым, мне здаецца, яшчэ нельга судзіць аб усім па Андрэю і Плаху, — самасуцешна падаў Сідор, калі «ўспаміны» надаелі. — Важнае— як мужыкі ды мяшчане судзяць. Андрэй ці Плаха — то іскрачкі, выпушчаныя на вецер.

— Гой, Сідорка, на мяшчан ды мужыкоў няма чаго спадзявацца — стада, дурныя, — махнула рукою Агнэса.

— Не кажэце, цётка, — перабіў яе Паўлюк, — мужыкі — гэта патайны куток. Сярод іх мала ёсць спагадчыкаў да ўлады.

— Вось пазаўтра маецца быць сялянская нарада, можна будзе падзівіцца, — паведаміў Мірон.

— Пазаўтра? — хапіўся Сідор. — Цікава! Няйначай, трэба будзе пабыць ды паслухаць. А то яшчэ не даводзілася слухаць мужыкоў за гэтыя гады…

— Пойдзем, я да вас зайду, Сідор Гарасімыч, — запрапанавала Марыля.

— Дзякую, калі ласка! Пачакаю вас.

Пагутарыўшы яшчэ нейкі час, яны сабраліся разыходзіцца. Было чатыры гадзіны папоўначы, але Агнэса ўсё яшчэ ўгаварва-

ла пагуляць. Але ў яе ўгаворах была адна далікатнасць і зусім мала настойнасці. Ды каб старчыла апошняга, ужо нельга было б далей паліць агню. У суседніх хатах — калі ўжо паклаліся спаць, а гэта чатыры гадзіны папоўначы — і агонь жукаціць.

Хлопцы і Варвара развіталіся з Слоевымі.

— Прыходзьце заўтра, будзем чакаць, — папрасіла Марыля, правёўшы іх да вуліцы.

## V

Прыйшоўшы дахаты, Сідор не хацеў засвечваць агню і цішком раздзеўся ды ўлёгся. Але хоць канчалася пятая гадзіна, яму не рупіла заснуць. Ды каб рупіла — наляцеўшы ў голаў думкі аб чутым, бачаным не дазволілі б яму супакоіцца. Цэлым шэрагам занасіліся яны перад ім і адцягалі яго ўвагу на сябе.

Сідор ляжаў адзін, Андрэй, Плаха, Габрусь і соткі вобразаў розных камуністаў і іх прыхільнікаў, з якімі даводзілася яму мець дачыненне, гамузам вярцеліся перад яго вачамі, хоць і заплюшчанымі і захаванымі пад коўдру. Увушшу гулі водгукі іх слоў, вынікалі цэлыя прамовы, чужыя, ненавісныя, але і страшныя, пагражаючыя. Сідору здавалася, што і цяпер вось поўна хата варожых яму людзей, якія вартуюць яго і мерацца пакінуцца, каб задавіць.

Ззаду, на другім ложку, хроп яго швагер, муж сястры, а Сідор трывожна прыслухоўваўся, баючыся, каб ён не ўстаў і не далучыўся да другіх. З вялікім натугам стараўся Сідор адцягнуць думкі ў іншы бок, занядбаць здань, і тады, калі гэта ўдавалася яму, ён спатыкаўся з зачараванай дзядзінай варожасцю, якая таксама прыгнятала яго душу.

Толькі на досвітку Сідор супакоіўся і заснуў, але сон быў трывожны, і ён не адпачнуў.

Ён прачнуўся а дзясятай гадзіне. Сястра ўжо паліла ў печы, а швагер дзесь увіхаўся з гавядаю. На вуліцы было хмарна і ў хаце цёмна. Гэта горшыла Сідораў настрой. Каб гэта не ў чужой хаце, ён бы не падняўся сёння з пасцелі праз цэлы дзень. Але ніякавата перад шваграм, з якім — хто яго ведае? — як яшчэ прыйдзецца расстацца.

— Сідор, ты ўжо не спіш? — запытала сястра з мыцельніка, убачыўшы, як Сідор паварушыўся.

— А ўжо! — адказаў ён.

— Ну, ці ж патрапіў учора адчыніць? — задала Сідору другое пытанне сястра.

— Чаму не патрапіў.
— А як спалася?
— Дрэнна…
— Чаго?
— Проста так… Не ўпадабалася мне тут. Зусім не тое, чаго чакаў. Трэба хутка вас пакідаць…
— Чаму?
— Ды так! Гэтае дабро я і ў сваім горадзе знайду.
— Ды кінь ты мудрыць… Чаго табе трэба асобнага? — разуважыла яго сястра.
— Мне трэба… Я проста думаў: спаткаю сваіх старых прыяцеляў, падзялюся з імі старымі думкамі, час весела правяду… А тут усе былыя прыяцелі — цяпер ворагі…
— Не думаю, каб усе, — разуважыла зноў Юста.
Далей Сідор не казаў, бо ў сенцах бразнулі дзверы. Ён паспешна саскочыў з ложка і пачаў адзявацца.
Хутка ў хату вайшоў Юрка.
— Адліга будзе на дварэ, — вымавіў ён, беручыся за цыгарку. — Ну, а як у цябе са снеданнем? — запытаў ён у жонкі.
— Вось скора можна снедаць, няхай Сідор памыецца.
— Ай, чаго там мыцца, можна і так, — пажартаваў Юрка.
Сідор змаўчаў і палез у свой куфэрак за ўціральнікам, каб ісці мыцца…
Па снеданні Сідор доўгі час аставаўся ў хаце. Сястра і швагер разышліся па справах, а ён адзін то тупаў, то прылягаў на ложак, то браўся за кніжку — творы Данілеўскага. Пачасту ён зазіраў у акно, праводзіў вачыма прахожых. Ісці нікуды не хацелася. Успамінаў аб іспалкоме — рабілася непрыемна, пераносіўся да Слояў — і туды лічыў няздатным ісці. Ды к таму чакаў сам Марылі. Выкрадалася жаданне, каб хто да яго прыйшоў пагуляць. З гэтых «хто» Сідор разумеў Паўлюка ці Мірона. Але час ішоў, а ніхто не наведваў, і каля другое гадзіны ўдзень ён сам выйшаў на вуліцу. Выйшаў, пастаяў з часіну каля двара, а пасля пайшоў на рынак. Падбліжаючыся к рынку, мо на паўгоні да яго, ён угледзеў выйшаўшага з-за вугла Паўлюка, які таксама ішоў туды. Сідор яго аклікнуў. Той стаў і насустрач Сідору запытаў:
— У іспалком?
— Не, чаму?
— А там сёння нейкая нарада наконт школ. Знарочыста выклікалі і мяне, — паведаў Паўлюк. — Зойдзем, цікава! Пачуеш, як Андрэй будзе бальшавіцтваваць.
Сідор падумаў.

— Што ж, усё роўна няма куды ісці, давай пойдзем, паслухаем, — згадзіўся ён.

Яны павярнулі да іспалкома. Выйшаўшы на ўзгрудак, што пукаціў рынкавы пляц, яны здалёк убачылі, як туды ж, у іспалком, пайшла Слоева Марыля.

— Цікава, што там будзе? Пэўна, інструктар які прыехаў, — дзівіўся неспакойна Паўлюк, калі яны падыходзілі да будынка іспалкома.

— Не бойся, — суцяшаў Сідор.

— Ды хто іх баяўся, толькі… прыстаюць…

У дзвярах яны змоўклі і ўвайшлі ў іспалком. Ці з-за адмечанай нарады, ці праз іншыя прычыны — толькі ў іспалкоме на гэты раз сельскай публікі было шмат меней учарашняга. Затое ўсе іспалкомаўцы былі сабраны ў адной каморцы, седзячы чынна каля Андрэевага стала. У іх грамадцы стаяў гоман, сярод якога выдзяляліся і пагрозныя словы.

Сідор з Паўлюком падышлі да грамадкі і ўгледзелі ў ёй усё вікурскае настаўніцтва, некалькі пастаронніх настаўнікаў і за сталом перад імі прадсядацеля іспалкома ды сакратара. Ніхто не звярнуў на іх увагі і не адказаў на выказанае Сідорам прывітанне. Было не да іх.

— Так быць не павінна, — начальніцкім голасам казаў прадсядацель іспалкома, малады здаровы хлопец. — Паглядзеце, — ён тыркаў пальцам у газету, — трэці раз пішуць у газетах пра нашу вучылішчную справу. Ці ж то добра? Вы са сваёю контррэвалюцыйнаю ўпартасцю не даяце мне вольна працаваць! Думаеце, што гэта жарты! Мінула тая пара, каб жартаваць. Велена так — так і мусіце рабіць! Мала што вам не падабаецца тое ці іншае! Можа, і сама рэвалюцыя многім з вас не падабаецца, дык будзеце ўпірацца супроць яе? Гэта апаслівая рэч, грамадзяне! Хто супроціў народу пойдзе, той гатоў голаў сабе зламаць…

— Таварыш Сліва, — пераняў яго адзін з грамадкі, — што ж, сапраўды, вы раўняеце адно з другім: ласне, да прыкладу скажам, якая-кольвечы там беларуская мова мае што агульнае з рэвалюцыяй? Навошта палку перагінаць у адзін бок?..

— Так, так, — адазваўся Макар, — па-вашаму, беларуская мова нічога не мае агульнага з рэвалюцыяй, затое, мабыць, родны з ёю закон божы!.. Ведаем ужо вас… Ні працоўная школа не мае адносін да рэвалюцыі, ні беларуская мова, ні… нават сама рэвалюцыя…

— Усё, што вам падносіць савецкая ўлада, — то ёсць ад рэвалюцыі, — дадаў Андрэй, — і супроціў яго змагацца — то

змагацца супроціў працоўнага народа. Іначай судзіць нельга… Ваш ухіл ад прыказаў Наркамасветы — гэта контррэвалюцыя… Памятайце… Гэта наша перадапошняе напамінанне тым, хто злосна стараецца ісці насупроціў…

Андрэй замоўк, недасказаўшы, і, павярнуўшыся да прадсядацеля іспалкома, штосьці яму шапнуў. Той падаў згоду кіўком галавы, а сам вылез з-за стала і пайшоў у свой «кабінет».

— Я толькі дзеля гэтага і выклікаў вас, — суха падаў Андрэй і таксама выйшаў з-за стала.

Грамадка, зацішаная і расстроеная, спакойліва распаўзлася па пакоі і пачала разыходзіцца. Сідор не адступаў ад Паўлюка і выйшаў разам з ім. Словы Андрэя, укладзеная ў іх рашучасць не давалі Сідору сумнявацца, што Андрэй зусім парваў з мінулым, а разам з ім, Сідорам. І ўнутры Сідора ўзнялося з новаю сілаю варожае пачуццё да свайго былога таварыша. Абураны гэтым пачуццём, Сідор адначасна і злаваўся на Андрэя і баяўся яго.

Выйшаўшы на вуліцу, Сідор заядла ўпікнуў сябе за тое, што ліха надало паслухаць Паўлюка і прыйсці ў іспалком пасведчыць Андрэева бальшавіцтва. Крывіўся ён за гэта і на Паўлюка, хоць і бачыў, што таму таксама мулка на сэрцы.

— Бачыце, Сідор Гарасімыч, як тут робіцца, — азірнуўшыся назад і па баках, ці хто іх не слухае, паскардзіўся Паўлюк, калі яны адышліся ад іспалкома. — Гаворыць, як б’е, а, думаеце, амаль не ўсе на яго баку, бо гэта ёсць хітрая выдумка: усе пагрозы накіраваны толькі на некалькіх настаўнікаў, а ўсе пазваны на ўвагу… Бачыце — толькі адзін Язэп аказаўся…

— Я не думаў гэтага, не спадзяваўся, каб так глыбока ўелася гэта бальшавіцтва вакол і ўсюды, — адказаў Сідор. — Пакуль не прыехаў у Вікуры — не верыў. А то та ж, як не паглядзі — навакола, навакола… Скажэце, Павел Сымонавіч, заўтра прыйдзеце на канферэнцыю сялян? — мэрам бы чакаючы сабе ўцехі ў прадстаячай канферэнцыі сялян, з асобнай цікавасцю звярнуўся Сідор да Паўлюка.

Паўлюк зноў падазрона паглядзеў вакол і прыцішаным голасам адказаў:

— І сялянства такое самае… Што б ні сказала савецкая ўлада — тое і робіць… Усе павіннасці выпаўняе, усе прыказы слухае… — Ён яшчэ прыцішыў голас. — Толькі вось летам крыху было раскалыхалася, ды то беспуцёва… А пасля — як пляйстрык да цела, ліпне да Саветаў. Спадабала, Сідор Гарасімыч, спадабала гэты лад… Чаму? Што? — толку не дабраць…

Сідору цяжка было далей што-кольвечы казаць. Яму не хацелася верыць той з'яве, якая яго аколіла і канчаткова труціла ўсе яго надзеі на скоры канец нялюбай яму ўлады. Месца службы, дзе ўдавалася яму прысябравацца да ўмоў, выцягаць мажлівасці да самавітага жыцця і поруч псаваць машыну працы ці, па-ягонаму, «ужываць змаганне з нялюбым ладам», тое месца паказалася яму страшыдлам з вушамі і вачамі, з языком, які, чаго добрага, толькі ён, Сідор, прыедзе, усё выкажа, усё выявіць. «Ці варта варочацца назад, ці мае мэту зрабіць гэта? Для чаго і нашто? Якая карысць?.. Але не вярнуцца туды — то дзе ж дзецца?.. Не астацца ж тут вось, у Вікурах, дзе нядаўнія таварышы сталі бальшавікамі, не хочуць з ім лічыцца, а з часам гатовы… ой… Трэ будзе ехаць, хоць…»

— Сідор Гарасімыч! — перабіў Сідаравы думкі Паўлюк, калі яны падышлі да вуліцы, на якой стаяла хата Сідаравай сястры. — Што ж, можа, вечарам прыйдзеце да Марылі?

— Не ведаю…

— Прыходзьце сёння, «тыя» не прыйдуць. Мы адны збяромся і пагуляем.

— Не ведаю…

— Ці ж цэлую ноч сядзець дома?

— Можа, і прыйду.

— Прыходзьце.

На гэтым яны разышліся. Сідор паспешна, не кідаючы думак, пайшоў праміком да сябе на кватэру і ўжо да заўтрага нікуды не выходзіў.

## VI

Назаўтра а першай гадзіне, толькі Сідор паспеў паабедаць, да яго прыйшла настаўніца Марыля Слой.

— Ну, пойдзем на канферэнцыю, Сідор Гарасімыч, — яна пазвала яго.

— Мо ж яшчэ рана? — запытаўся Юрка, Сідараў швагер.

— Не! Як ішла да вас, то бачыла — мужчыны ўжо ішлі.

— А! Трэба ісці і мне, — сказаў Юрка.

— І табе?! — здзівіўся Сідор. — З якое ж ласкі табе? — запытаў ён швагра.

— Як з якое ласкі? Наш Лагчынны раён выбраў мяне ўпаўнамочным. Быў надоечы сход і выбраў мяне ды яшчэ двух суседзяў.

— Ого! Каб яшчэ ды ён дзе прапусціў! Гэта ж, на яго ліха, так ударыўся ў бальшавіцтва, што няма рады… Бяду нацягае

на дом. Вось прыйдуць палякі ці хто іншы, дык ліхаведама, што рабіцьме. А думаеш, ён шманае аб чым? Каб ён так жыў… І колькі ўжо ўшчуваю яго, і колькі сваруся на яго — хоць бы што! — размахваючы рукамі і прытопваючы нагамі, ушчувала Юрку жонка.

А Юрка, не шманаючы на жончыну гняўлівасць, здавольна пасмейваўся. Калі ж тая скончыла яго спавядаць, ён пакруціў галавою, зацягнуўся папяросаю і сказаў:

— Цудная ты, зусім цудная! Гаворыш — сама не ведаеш што. Няўжо табе галава баліць аб тым, што я раблю? Або чым табе пашкодзіла савецкая ўлада, што ты на яе гаўкаеш заўсёды? Палякаў шкадуеш? Забралі свінню, дык хацела б, каб і карову ім убавіць!.. Эх, баб'ё, баб'ё! Многа яшчэ вас трэба вучыць…

Выказаўшы гэта, Юрка надзеў кажух і выйшаў з хаты. Юста вожыкам паглядзела ўслед мужу і яшчэ не дала яму выйсці з сянец, як пачала зноў спавядаць яго за бальшавіцтва.

Марыля, якая маўчала пры Юрку, цяпер здаволена ўхмылялася, цешачыся гаворкаю Юсты. Хвіліна ад хвіліны яна пазірала і на Сідора, які, зрабіўшы злосную міну, паглядаў у акно ўслед за шваграм.

— Сапраўды, цётка, — не сцярпела Марыля, — ваш дзядзька мудрэй за другіх уцягнуўся ў бальшавіцтва. Нідзе нічога іхняга не прапусціць.

— Няхай на яго прогліца, няхай…

— Прогліца-а! — скрозь зубы вымавіў, адвярнуўшыся з акна, Сідор. — Гэта ўжо праклёнам нічога не пасобіш, галубка. Звіхнуўся чалавек — і толькі!.. Звіхнуўся — і, ведаеш, Юста, стаў мне праціўным! Глядзець я не магу на яго. Лічу, што ты няшчаснаю стала, сястра…

Сідор выказаў гэта з цвёрдасцю і са шчырасцю. Тут ужо нельга было яму пярэчыць, каб хто і хацеў. Ні Марыля, ні Юста не думалі гэта рабіць: яны маўчалі. Нічога не хацеў больш казаць і Сідор. Ён моўчкі адзеўся, закурыў папяроску і звярнуўся да Марылі:

— Ну, пойдзем, паслухаем, што сяляне казацьмуць на нарадзе. Як абмывацьмуць гэты…

— Вы таксама ў іспалком? — запытала іх Юста.

— Так! Пойдзем паслухаем.

Юста нічога не сказала і гасцінна прайшла за імі да вуліцы.

Сідор з Марыляю ціхім крокам направіліся проста ў іспалком.

Ідучы, яны вялі гутарку на балючую для Сідора тэму — аб размаху ўплыву камуністаў на сялянства. Марыля мала што

ведала аб гэтым і не магла нічога пэўнага паведаміць Сідору. Яна ў гэтым пытанні не разбіралася, а заўсёды адказвала на яго чужымі словамі брахні ды знявагі.

Гутарачы так, яны падышлі да іспалкома. Каля будынка і ў двары стаяла шмат падводаў. У іспалкоме чуўся гоман, па якім можна было судзіць, што там сабралася многа дэлегатаў. Тым часам з усіх канцоў мястэчка яны яшчэ падыходзілі і пад’язджалі.

Сідор з Марыляю спыніліся каля двара; Сідору хацелася паслухаць, што гутараць прыезджыя і які іх настрой. Вось кожнага дэлегата ён абводзіў вачыма з ног да галавы, зазіраў яму ў твар. Сачыў і бачыў: усе яны, больш пажылыя мужчыны, выглядалі весела настроенымі і ў гутарках выказвалі зацікаўленасць нарадаю. Адзін другому расказвалі, хто што мае казаць, як і што ідзе ў іх вёсках будаўніцтва савецкага ладу, збор падаткаў, размеркаванне зямлі. Ніводнае скаргі на сваё становішча Сідор не пачуў.

— Ну, пойдзем усярэдзіну, — сказаў ён да Марылі.

Яны праз некалькі часу ўвайшлі ў іспалком. Невялікае памяшканне было біткам набіта людзьмі. Яны займалі ўсю канцылярыю і дзве бакавыя каморкі, высвабаджаныя ад сталоў і застаўленыя лаўкамі. У «кабінеце» прадсядацеля іспалкома, таксама адчыненым насцеж, стаяў стол, прыгатаваны для прэзідыума. Вакол стала грудзілася з дзясятак чалавек, якія запісвалі свае мандаты. Было душна, і пахла вёскаю, сукном і чорным хлебам. Сідор з Марыляю на момант спыніліся пры дзвярах і абгледзелі вакол памяшканне: нідзе не відаць было вольнага месца. Сяк-так яны праціснуліся да задняй сцяны і прытуліліся да акна. Праз некалькі хвілін пачуўся званок, і гоман змоўк. У іспалкоме стала ціха, ціха. Усе насцярожыліся і, як адзін, узорыліся ў «кабінет» прадсядацеля. У «кабінеце» за сталом сядзелі два чалавекі — прадсядацель іспалкома і пісар. Яны штосьці між сабою перашэптваліся, азіраючыся на «залу». Пасля прадсядацель устаў і выказаў да дэлегатаў:

— Непартыйную сялянскую канферэнцыю я лічу адчыненай. Прапаную выбраць прэзідыум.

На яго прапазіцыю выйшаў адзін з ліку дэлегатаў і прачытаў спіс прэзідыума, які прапанавала камуністычная фракцыя. У ліку другіх у спісе было прозвішча Андрэя, якога мецілі ў таварышы прадсядацеля нарады. Прадсядацель іспалкома прагаласаваў спісак. Цэлы лес рук амаль не ўсіх дэлегатаў падняўся ўгору.

— Аднагалосна, — паведаміў прадсядацель іспалкома, і тут жа яго словы заглушылі моцныя воплескі.

Сідор пільна прыслухоўваўся да кожнага слова, і калі перш пачуў імя і прозвішча Андрэя, а пасля ўбачыў, як Андрэй разам з другімі пайшоў і сеў за сталом, ён злосна скрыгануў зубамі і адвярнуўся ўбок. Вострая злосць на Андрэя падсказала яму кінуць іспалком і ўцячы дадому, але гэта было б роўна таму, што Сідор не выпаўніў бы паложанай сабе задачы, — і ён перамог узняты настрой ды астаўся.

За выбарамі тут жа пайшлі даклады. Першы рабіў даклад прадсядацель іспалкома аб сучасным становішчы савецкае ўлады. Сідор пераменна сачыў вачмі то за прамоўцам, то за сялянамі, якія ціхутка, з увагаю яго слухалі. Ніхто з іх не варушыўся, ніхто не кашляў, а ўсе, як адзін, пільна сачылі вачмі ў «кабінет», дзе сядзеў прэзідыум. У словах дакладчыка часта зычэлі гострыя лаянкі на кулакоў, пагрозы за іх шкодную працу. Дакладчык таксама адмячаў клопаты савецкай улады аб сялянстве і заклікаў яго несціхана працаваць па адбудаванні краю.

Сідор на гэтых мясцінах даклада яшчэ ўважней насцярожваўся і несупынна абводзіў усіх прысутных. Яму не верылася, каб ніхто з дэлегатаў не выгукнуў якое-кольвечы лаянкі на савецкую ўладу ці не падаў спрэчкі прамоўцу. Хвіліна ад хвіліны да яго падыходзіла нейкая не то радасць, не то самаўцеха, што вось-вось паднімецца пратэст мужыкоў і ўся нарада пойдзе ўверх дном.

Але дакладчык пераказваў усю прамову, і ніхто не прараніў і слова. Калі ж скончыў, то зычны гул воплескаў быў пасланы ў аддзяку за даклад. Пасля дэлегаты, як пчолы, рэзва загаманілі паміж сабою, весела настроіліся і адзін за адным уголас падавалі выказы: «О, і маладзец наш Сліва!» — «Вось праўду сказаў!» — «Ёсць чаго паслухаць!» Каля дваццаці чалавек сарваліся з месцаў і панесліся да стала, каб узяць слова ў спрэчках.

А калі спрэчкі пачаліся, дык толькі і чуўся з вуснаў кожнага прамоўцы жывы, гарачы водгук на воклік дакладчыка. У кароткіх, нячкладных прамовах цэлы шэраг сівых барадатых сялян засведчылі сваю ўвагу, сваю спагаду да савецкага ладу ды яго парадкаў. Атрымоўвалася ўражанне, мэрам бы ўся нарада сабралася ў іспалком, каб урачыста прывітаць тую гадзіну, якая прынесла ім жаданую волю.

Гэты настрой кідаў Сідора то ў жар, то ў холад. Штосьці цягнула яго хутчэй уцякаць, а разам другая сіла прыкоўвала яго к месцу. Марыля некалькі разоў звала яго выйсці, але ён аднекваўся і не пускаў.

— Вось хай скончаць гэта пытанне — няпраўда, прарвецца! Вось мо хоць адзін прамоўца знойдзецца, — папрасіў Сідор Марылі, калі яна пагрозілася пайсці адной.

— Ну, добра! Толькі адзін, — згадзілася яна, — усё роўна нічога новага не скажа.

Якраз гэтым адным папаў Юрка. Сідор не прымеціў, як той апынуўся ля стала, але толькі прымеціў швагра, як моцна скалануўся ад гневу і азірнуўся на Марылю:

— Бачылі гэта?

— Юрка! — прашаптала тая. — Пачуем, што скажа!

— Не, годзе! Ідзём! — папрасіў Сідор Марылю.

Таўхаючыся між людзей, яны пайшлі да дзвярэй, а ўслед ім несліся гучныя словы Юркі:

— Мы павінны помніць адно: што нам далі польскія паны і што зрабілі нам бальшавікі. А памятаць паноў кожны мае за вошта — з іх імем звязана наша няволя, звязана разбурэнне краю, гвалты, пажары. Толькі бальшавікі нам далі волю, толькі ад Саветаў — наша свабода і светлая будучыня.

VII

На канферэнцыі ў іспалкоме былі таксама Паўлюк, Мірон ды Варвара. Яны прыйшлі шмат раней Сідора з Марыляю і занялі месца ў бакавым пакоі за сценкаю, так што іх не было відно з канцылярыі. Стоячы там, яны не маглі сачыць за ўсімі, хто заходзіў у іспалком і хто з яго выходзіў. Праўда, Сідора з Марыляю яны чакалі з часу на час, пазіралі ў акно, думаючы ўгледзець ідучымі, але прапусцілі і не прымецілі, калі Сідор з Марыляю зайшлі ў іспалком. Вось усе ўтраіх так і пастанавілі, калі распачалася канферэнцыя, што Сідор, мабыць, матнуў на яе рукою і не прыйдзе паслухаць. На гэтым і спыніліся б, каб выпадкова Паўлюк не азірнуўся ў акно якраз у той момант, калі Сідор з Марыляю выйшлі з двара іспалкома.

— А во, бачыце! Сідор з Марыляю пайшлі! Усё ж былі тут, — ціха падаў Мірону і суседзям Паўлюк.

Тыя пaглядзелі ў акно.

— Так, так! Пэўна, што тут быў. Давайце дагонім, — запрапанавала Варвара.

— Давайце, чаго далей слухаць! — згадзіўся Паўлюк. Пяцёра іх — Паўлюк, Мірон, Варвара і двое з дэлегатаў — настаўнік з вёскі Шула і ляснічы з Шулаўскага лясніцтва — таўхаючыся,

праціснуліся да дзвярэй і выйшлі з іспалкома. Сідор з Марыляю ўжо падыходзілі да ўзгорка на рынку.

— Гукні! — падаў Мірон Паўлюку. Той стуліў пры губах рукі і гукнуў:

— Сі-ы-до-ор-р!!

Сідор з Марыляю абярнуліся і пасталі. Праз пяць ці шэсць хвілін да іх падышлі Паўлюк з кампаніяй.

— Ну, дзе ж былі, Сідор Гарасімыч? — запытаў Паўлюк Сідора, вітаючыся з ім і знаёмячы яго з шулаўцамі.

— Дзе быў? Пэўна, там, дзе і вы…

— А вы ў іспалкоме былі? — перабіла Марыля.

— Вядома што! Вось угледзелі вас праз акно і выйшлі… Чакалі-чакалі і думалі, што вас там не будзе, — рэзва адмовіла Варвара.

Гаворачы, яны ўсе разам кранулі ісці.

— Куды ж цяпер, Сідор Гарасімыч? — крыху прайшоўшы, запытаў Паўлюк.

— Трэба на кватэру, — адказаў Сідор.

— А вечарам не думаеце нікуды?

— Не ведаю…

Прайшоўшы яшчэ з гоні ўсе разам, далей яны разбіліся на двое і пайшлі паасобку ў розныя бакі: Мірон з дзяўчатамі, а Сідор з Паўлюком і шулаўцамі.

— Ну, як вам? Бачыце, вось якія мужыкі! Як адзін, у далоні б'юць: хваляць парадкі… Во, нават Юрка… Не казаў я? — выказаў Паўлюк.

— Так! Дзівіць мяне… Я ніколі не думаў, што яно так, што так глыбока ўелася бальшавіцтва… Не думаў… А то-та ж… — Сідор нездаволена пакруціў галавою і не мог даказаць.

— Сідор Гарасімыч! А ўсё ж яно не якраз так, як мы бачылі. Ёсць шмат і праціўнікаў бальшавікоў. Вось каля нас стаяла з дзясятак мяшчан — дык смяяліся з усяе цырымоніі, толькі ім нельга выказвацца…

— Так, нельга выказвацца… — шэптам падмацавалі шулаўцы.

— Гэ! Што дзесяць, калі сотні пляскаюць у далоні, сотні… Што дзесяць! Каб наадварот… — матнуў рукою Сідор.

Яны прайшлі рынак і спыніліся пры выхадзе ў вуліцу.

— Можа, вечарам яшчэ наведаем у іспалком? Яшчэ шмат пытанняў абгаварвацьмуць… Цікава пачуць, як будзе абгаварвацца школьная справа! — выказаў Паўлюк да Сідора.

— Не, не пайду! — суха адказаў Сідор.

— Чаму? Мы зойдзем…

— Нічога не паможам! Сапраўднае гняздо бальшавікоў… Усе, усе атручаны ім…

Забыўшыся развітацца, Сідор пайшоў на кватэру. Паўлюк з другімі вярнуліся назад.

## VIII

Увайшоўшы ў хату, Сідор застаў дома сястру. Яна мяшала гавядам цабры і, калі Сідор прычыніў дзверы, кінула работу і звярнулася да брата з пытаннем:

— З іспалкома прыйшоў, Сідорка?

— З іспалкома.

— Што ж там чулі добрага?..

Сідор нейкі час памаўчаў, пасля сур’ёзна з прыціскам адказаў:

— Пачуеш?! Ведама ўжо, што ў іспалкомах пачуеш!.. Твайго Юрку чуў… Дастала цацку…

— Чаму? — здзіўлена запытала Юста.

— Чаму?.. Вунь распінаецца на ўвесь іспалком. Такі аратар, што хоць ты…

— За бальшавікоў ці супроць?

— Супроць! Навучыла ж ты яго супроць!

— Ай, ай! І чаго яму трэба лезці… божа мой!.. На яго хвароба, на яго! — завяла Юста. — Дык ты ж паверыш, Сідорка, я і сама не ведаю, што з ім рабіць… Вось да таго ўкляпаўся ў бальшавіцтва, што жыцця няма… Стары чалавек…

— Табе кінуць трэба яго! — адсек Сідор.

Гэта прапазіцыя азадачыла Юсту. «Кінуць!» — то ўжо пераходзіла ўсю яе злосць на мужа і глядзела ёй у вочы чымся нез’яснёна-страшным. Яна разумела па-свойму шкадлівасць таго, што Юрка ўмешваецца ў бальшавіцкія справы, але гэта шкадлівасць не надаўміла ёй ні разу паставіць сабе рубам пытанне аб адносінах з мужам. А тут раптам чуе гэткую раду ад брата. То, пэўна, нешта нейкае ўжо сталася з Юркам. Сідор жа не павінен жыў-здароў яе палохаць.

— Сідорка, чаму ты так кажаш? — баязліва запытала Юста.

— Таму, што бальшавікі — гэта разбойнікі і згубіцелі. І твой Юрка — таксама… Ён бальшавік — і ты не павінна, жывучы з ім, ганьбіць наша котлішча…

Сідор, выказаўшы гэта, прыстукнуў нагою, нібы павеляваючы сястры выпаўніць яго раду. Юста не ведала, што адказваць, і моўчкі пытальным поглядам сачыла на сур’ёзна выглядаўшага

брата. З яе рук выпала мешалка, стукнуўшыся аб цэбар, але Юста не заўважыла гэтага. Таксама не заўважыла яна і таго, што на дварэ цямнела і ў хаце па кутках пачаў туліцца змрок. Наогул, Юста была ашаломлена братавымі словамі і не ведала, чым на іх адказваць…

Ёй памог выйсці з гэтага становішча Юрка, які з прычыны перарыву нарады наведаў хату. Непрыметна для яе і Сідора ён прайшоў у двор і, апынуўшыся на парозе, стукнуў сенешнімі дзвярамі. Сідор хутка перамяніў устой, а Юста, нібы ачнулася, хапілася за мешалку і пачала мяшаць цабры.

— Ты яшчэ не падала паранкі? — запытаў Юрка, увайшоўшы ў хату.

— Не падала, не пада-ла! Муштраваць толькі любіш, а сам, як той валацуга, цалюткі дзень бадзяецца без нічога… Да сэрца вельмі даліся табе гэтыя бальшавікі! Не вылазіць з іспалкома. Ці ж то ёсць лад? — скарамоўна, трымаючы мешалку ў руках, залепятала Юста. — Пакіне ўсё ў хаце, хоць захлыніся адна, а сам у аратары ходзіць… Трэба вельмі табе людзей пасмяшаць?! І так з-за цябе жанкі вочы дзяруць… Хапіла б і без цябе бальшавікоў… Чаго табе лезці?

Юрка, зрабіўшы сур'ёзную міну на твары, даў выгаварыцца жонцы, а пасля спакойна, але цвёрдым голасам адказаў:

— А цябе мо гэтыя жанкі і вучаць брахаць вось так? Ведаю я, хто гэтыя твае жанкі! Мікуліха да Дзежыха якая. Не падабаецца ім савецкі лад — вядома. І гонар апаў, і павага мінулася. Сыны паўцякалі ў Польшчу, дык думалі, прасіцьмуць іх звярнуцца, а тут яшчэ забаранілі… Не глядзі на іх — свой розум мей!

Юста не ўнімалася:

— Не трэба мне больш таго, што я маю… Хай ужо ў цябе занадты розум, каб ён табе высах! Аж брыдка робіцца… Вось праўду кажа Сідор, што ты род наш ганьбуеш сваім бальшавіцтвам. Навошта яно табе?..

— Сідор кажа-а? — раззлавана выгукнуў Юрка. — Ссі-ыдор?! Я ведаю, што Сідор… Чуў ужо я пра твайго Сідора! Ходзяць ужо ўсякія чуткі па мястэчку і за мястэчкам… Прыехаў сюды настаўніцтва бунтаваць… Вось ужо даведаліся аб ім! Толькі мне ўвага… Сідо-ор ёй кажа!

Сідор як стаяў моўчкі, так раптам заварушыўся на месцы і ад злосці закрычаў:

— Пляваць я хачу на ўсіх і разам н-на… Не пераарыштоўваеце ўсіх — нарвяцеся зараз… «Усе ведаюць»! Хай ведаюць!

Я сам не таюся, што я кроўны вораг бальшавікоў… Ненавіджу іх, як… Гэта — барбары! Яны зглумілі ўсё багацце краю, разбілі душу свядомаму чалавеку! Яны… — Ён запнуўся і зрабіў колькі крокаў па хаце. — Я лічу абразаю, што мая сястра мае мужам бальшавіка… Так! І я кажу ёй: кінь, каб не паскудзіць нашага роду…

— Так? — Юрка разняў рукі і наскокам падбег да Сідора. — Вон! Вон, панскі агент! Ты што гэта? Прыехаў бясчэсціць маю хату і маё імя? Вон! Ягомасць тут знайшоўся! Душу яго разбілі… Голаў разбіць мала… Вон, каб і нага твая не была тут!

Бачачы мужа ў гэткім гнеўным настроі, Юста не брала сабе ўглузд, што тут чаўпецца, і перш, вытарашчыўшы вочы, глядзела на абодвух, а пасля кінулася ўцішаць Юрку, крычучы:

— Што ты робіш, вар'ят? Што ты робіш? Не сарамаці людзей! Завошта-а ты наваліўся на яго?.. Ці ты маеш розум?

А Юрка крычаў:

— Вон! Абаіх вас паганю! Мне не патрэбна вашага шляхецтва… Калом яно мне вылезла за сорак гадоў. Годзе!.. Прэч з дарогі! Я — бальшавік і не выношу жаднага панства. Вон, вон! Не выйду з хаты, пакуль гэты ягомасць не выправадзіцца…

Прахожыя вуліцаю застанаўліваліся перад хатаю… Крык і лямант цягнуўся з гадзіну. Юрка не здаваўся і гнаў Сідора з хаты. Юста абараняла брата, то ўпрашвала яго выйсці на час да знаёмых. Сідор жа «прынцыпова» лаяў бальшавікоў і швагра. Але, лаючы Юрку, ён ужо не думаў ні аб чым добрым. Гэтыя тры дні, якія ён паспеў пражыць у мястэчку, зрабіліся яму годам — ды годам не простага жыцця, а балючых мукаў разувер'я, ашаломленасці зменамі таварышаў і страхам перад пагалоўным захопам жыхарства ненавісным яму бальшавіцтвам. Усё гэта так яго знервавала, так стузала, што ён увачавідкі адзначаў, як рабілася яму цяжка і невыносна ў вікураўскіх абставінах. Звакол і з усюды глядзелі на яго тысячы вачэй атрутнага страху, тысячамі галасоў звінелі ў яго вушшу. Перад ім стаяў Юрка, а Сідору здавалася, што гэта — ажыўленае бальшавіцтва, якое вось-вось сцісне яго сваімі рукамі і задавіць. І калі ён спрачаўся і лаяўся з Юркам — то гэта толькі каб не маўчаць. Каб не маўчаць, бо гэтаму супярэчыла ўся яго істота. Трэба было шмат здарэнняў, многа самаахвы ды разам каменнай цярплівасці, каб знізіцца да таго, што ён бачыў і чуў. Але пракідкі і дасціпны Сідор адчуваў сябе воўкам у засадзе, якому ўсё ж трэ было зламаць смеласць і пакінуць гордасць.

— Шш-а, шш-а! — пакорліва суцешыў Сідор швагра, калі той не ўступаў, а ўпарта гнаў яго вон. — Я пайду! я пайду… Я пайду, каб не прыходзіць ужо сюды. Годзе!.. Няхай заклятай будзе тая часіна, калі я пераступіў гэты парог…

Сідор паспешна пачаў адзявацца. Адзеючыся, ён раз-поразу пазіраў у акно. Ад таго, што яму кідалася ў вочы ў згушчаным змроку акна, Сідор то ўзвышваў, то паніжваў сваю несціханую лаянку на тую, якая «злучыла іх род з родам Юркі», і тае часіны, «якая завяла яго сюды». Юста з мешалкаю ў руках тупала па хаце і то кляла мужа, то перапрашала Сідора, каб той не злаваў, каб не слухаў «дурня Юркі» і заставаўся.

— Куды ж, братка, пойдзеш нанач? — казала яна Сідору. — Заставайся ў нас… У хару плюнь заразе гэтай — і заставайся! Гэта хата не яго… Я больш гаравала на яе. Мой пасаг паставіў цябе на ногі, — адварочвалася Юста да Юркі. — Гаспадар знайшоўся! Вось заўсёды так, як і сёння: валочышся, мэрам святы без вуму, цэлы дзень, а ў хаце — хоць вецер гуляй! Мая хата! Скула табе ў горла, а не хата!

Далей зноў хапалася за Сідора, просячы:

— Не ганарыся, Сідорка! Мала што гэты вар'ят крычыць! Не зважай.

Але можна было Юсце казаць гэта, а здарэнне ішло іншым кірункам. Юрка настойна — што далей, тым адчаянней лаяў швагра, паказваючы яму на дзверы, а Сідор спяшыў злажыць у куфэрак свае рэчы. Калі ж ён сабраўся, то падышоў да Юсты, суцешыў, каб тая не плакала, і, пацалаваўшы яе ў голаў, рашуча выказаў:

— Бывай здарова, Юстынка! Прашу цябе — разыдзіся ты з гэтым вар'ятам, з бальшавіком гэным паганым. Аберажы сябе і нашу фамілію… Бывай! — і выйшаў з хаты.

— Вон, панскі пасылач! Вон, бяляк! Каб і нагі твае тут не было!.. Ідзі, шукай месца, дзе тваёй ганаровай душы даспадобы. Вон, вон! Так, так — ноччу, як сава, як кажан! Прыехаў тут шляхецтва сваё паказваць! Гіцаль, паскуда! Н-не, галубчык, забудзь бывалае… Хаха-ха! Многа ўжо гэткіх, як ты, схавала ў сябе ночка… нікуды не ўцячэ-эш-ш!

Юрка пакрыкваў так, стоячы ў акне, і здаволена слухаў, як Юста развіталася з Сідорам за парогам, кленучы і лаючы бальшавіка-мужа.

## IX

Мо з гоні ад Юркавай хаты Сідор прабег безабдумна і безаглядна. Нейкая нез’яснёная яму, але моцная і страшная сіла гнала яго ў цем ночы, як найдалей ад голасу Юркі, які, здавалася яму, мэрам раздражнены чмель, гнаўся за ім і выў над вухам.

Пасля штосьці Сідора супыніла; ён сышоў убок са сцежкі, прыслухаўся, ці за ім хто не бяжыць, і запытаў сябе: «Сапраўды, куды ж мне ісці? На дварэ — цёмная ноч… Ды і брыдка прасіцца дзе-колечы нанач. Што могуць падумаць! Ах, чорт надаў мне наведаць гэтыя Вікуры!.. Ужо не знойдзеш сухога месца, калі паводка разлілася… Кругом бушуюць хвалі!»

Здалёку хтось гутарыў. Сідор кінуў думаць, выйшаў на сярэдзіну вуліцы і пайшоў насустрач гутарцы. Але, прайшоўшы колькі сажняў, ён як бы адумаўся — вярнуўся назад. Яму заздрочыла прайсці паўз хату сястры і пераканацца, ці толькі і было гісторыі, каб яго выправадзіць з хаты, ці крык ды лаянка цягнуцца далей. «Аб табе чуткі ходзяць» — гэтыя словы Юркі глыбока запалі Сідору ў нутро, і ён у сваім расшавеленым выбражэнні маляваў розныя прыкрыя для сябе дагадкі. «Каб адно Юрка не іграў перадатачнае ролі, а то…» — і за гэтым «а то» ішлі розныя мажлівасці, якія немілавочна глядзяць на гэткіх, як ён, Сідор, і якія пачалі яму здавацца.

Пазіраючы ў бакі, мэрам крадучыся, крыху падрыгваючы ад холаду, Сідор ужо падбліжаўся да швагравае хаты, як раптоўна яго пазвалі:

— Сідор Гарасімыч!

Сідор спыніўся і, крыху сумеўшыся, абазваўся:

— Я! — і пачаў узірацца на двух падыходзячых.

— Сідор Гарасімыч, — цішэй загутарыла да Сідора Марыля (то была яна з Варвараю), падбегшы да яго, — вы не ідзеце дадому начаваць!.. Хадзем да нас, — хапіла яна яго за руку.

— Чаму? — напалохана запытаў Сідор.

— Ведаеце, пра вас пусцілі дрэнныя чуткі. Вас залічаюць агентам контррэвалюцыі… Вось нават і на нарадзе ўжо паднімалася гутарка пра вас. Макар, расказвалі так, абгаварваючы школьную справу, нападаў на настаўніцтва за яго чарнасотніцтва і ўмяшаў туды і вас… Ды яшчэ так, што ўсіх абурыў.

— Як? Плаха?!

— Так… Кажуць, апавядаў, што нібы вы прыехалі і разводзіце тут супрацьсавецкую агітацыю. Настройваеце настаўніцтва

супроціў школьнае палітыкі і наогул… Вось, на кожны выпадак, ідзём да нас…

Сідор разам кінуў усе іншыя роздумы і спыніўся на тым, што паведаміла яму Марыля. Хоць у яе паведамленні і было многа знаёмага, чаго хітры Сідор заўсёды не спускаў з думак, але тая раптоўнасць, з якою ўсё гэта чынілася, аглуздзіла яго. Уваччу ажылі ўсе вакольныя рэчы, зацюкала спалохана сэрца.

— Ідзём, ідзём хутчэй!.. Паганыя, як у іх усё скора робіцца! Ці бачыш ты? — паўшэптам выказаў ён не то да дзяўчат, не то сам да сябе і паспешна рушыў уперад, ухіляючыся блеску прамення з акон хат.

Дзяўчаты подбегам пагналіся за ім, перапыняючы яго ўпаўголасу:

— Сідор Гарасімыч, вы не туды пайшлі. Чакайце! Нам трэба на другую вуліцу… Чакайце!

А Сідор, не патураючы іх зову, як нацкованы воўк, безаглядна бег у цемнату вуліцы.

*1923*

## «БОЛЬШ ЗА ЎСІХ»

### I

Калі Платон пераступіў парог хаты, то пачуў такую гутарку бацькоў:

— Дыхнуць вольна немагчыма. Што тут чаўпецца — сам чорт нагу зломіць… Толькі збавіліся ад адных, як — на табе, другія, — паціскаючы плячыма ды ківаючы галавою, недаволіўся Юрка, Платонаў бацька.

Юзя, маці Платона і гаспадыня ў хаце, крышыла ў запечку зелле і раз-поразу падмацоўвала словы мужа:

— Але, але! Дай жа ты рады! Баламуціца нейкая, а не жыццё. Дыхнуць не даюць.

І Юрка, і Юзя так удаліся ў гутарку, што і не заўважылі сына; нават не паглядзелі ў дзверы, калі Платон увайшоў і стаў каля вушака.

— Гэта ж проста хоць гвалт крычы. Падумаць, жартачкі! Кінь-рынь хату, гаспадарку і едзь немаведама куды… На ліха нам здалася тая Варшава! Хай бы яна згарэла там з панамі разам! Блізкі свет! Папробуй даехаць. Касцей не вернеш! Каб

гэта яшчэ Платон быў вольны, то паслаў бы яго, а то і ён жа прывязаны тут…

Юрка міжвольна адвярнуўся на дзверы і нібы жахнуўся, угледзеўшы Платона:

— А-а-а… І ты ў хаце? Якім жа чынам увайшоў, што мы і не чулі? — запытаў ён сына. — Хіба ты, Юзя, яго прымеціла, ды мне нічога не сказала? — абярнуўся Юрка да жонкі.

— Н-не-э, я і сама не заўважыла. Чула, як бы нехта стукнуў, але, думаю сабе, мала што, мо вецер дзвярыма… Цьфу, прымха нейкая! — здзівілася Юзя.

Платон, пасмейваючыся, падышоў да стала і прысеў на ўслоне.

— У чым гэта рэч! Гэтак загаварыліся, што і мяне не заўважылі? — абярнуўся ён з запытаннем да бацькоў.

— Х-ха-і… — у адзін голас памкнуліся казаць абое з бацькоў, але Юрка спыніўся і пераняў жонку:

— Ты маўчы, Юзя, дай мне сказаць.

— Чаму мне маўчаць? Я таксама пакуль магу казаць… Яшчэ язык не адсох, — вырачылася Юзя на мужа.

— Не адсох, не адсох… Залапатала-а!.. — засердзіўся Юрка. — Высахне, калі не высах. Уся ссохнеш… Абое пасохнем… Не адсох, не адсох.

— Ша-ша, бацька, не сварыцеся! — пераняў бацькоў Платон. — Кажыце, у чым справа?..

— У чым справа! Ды ты, пэўна, ведаеш і сам. Чуў нябось, сынок? Га?

— Што-о, што-о?

— Ліха ведае што! Вунь толечкі што прыходзіў Майсей і вялеў заўтра ж збірацца ў падводы… З гэтым вось палком… На Варшаву, кажа. Ці чуў тое? Гэта ж ліха ведама навошта здалося… Маеш бітку, дык мусіш і яе страціць.

— Можа б ты, Платонка, што-кольвечы зрабіў. Табе ж, мабыць, хлопцы гэтыя з Чырвонае Арміі знаёмыя? Такі-та ж ты лічышся іхнім камуністам, праз увесь час столькі папацярпеў, папахаваўся… Няўжо б нельга было б бацькам якое-колечы льготы зрабіць…

Платон якую хвіліну памаўчаў, як бы дабіраючы словы да гутаркі, пасля ўстаў з заслона і паважна замовіў:

— Ведаеце што, бацькі? Я, можа б, і меў бы магчымасць што-кольвек зрабіць, але — я не хачу… Едуць усе — трэба і нам ехаць. Хто можа чым-кольвек пасабіць — мусіць гэта зрабіць. Тут справа не чыя чужая, а свая. Наша сялянская, кроўная

справа… Ды нельга, каб які-кольвечы Грышка ці Павал паказвалі пальцам увесь час ды казалі: «А чаму Гічка не паехаў? Чым ён лепшы нас?» Ехаць трэба ўсім. Толькі грамадою мы адаб'ём ворага. Паны гэта ведаюць і трымаюцца дружна. Вы не паедзеце, другія не паедуць, дык як жа тады быць? Пакінуць войска без абозу?.. Няможна. Гэта значыць — праз тыдзень вярнуць палякаў… Гэта значыць — праз тыдзень пачуць іх крык і пугу, праз тыдзень папасці пад іх прыгон. Трэба ехаць, тата! Едзьце! — ні слова… Хай не паказваюць на нас пальцам… Прыйдзецца пацярпець — пацерпім, як і ўсе. Нам не прывыкаць… Цярпелі для другіх, трэба і для сябе.

Юрка ўважліва слухаў сына. Перш нездавальняюча ківаў галавою і разводзіў рукамі, а пасля супакоіўся, удумаўся ў кожнае слова Платона і, відаць было па твары, пераканаўся ў праўдзе Платонавых слоў. Затое Юзя ніяк не хацела згадзіцца з сынам і нервова, пакуль Платон казаў, пазірала на мужа, крывілася і памыкалася перабіць сына, і толькі Платон змоўк, як Юзя накінулася на яго:

— Ах, які ты ўжо шчыры стаў! Так і рымсціць, так і трасецца, каб не сысці са сцяжынкі. Падумаеш, дзякуй вялікі маеш за свае старанні… Цалюткі год хаваўся, на валаску ад смерці ліпеў, а тут капейкі ў хаце не было; бацьку даводзілася за пяцьдзясят вёрст у дарогу ездзіць, каб якую капейку зарабіць. А хіба хто ўвагу звярнуў ды памог? Дастанеш! А гэта вось, зноў: падышло жніво, трэба сабраць сёе-то з поля — дык бяры і едзь немаведама куды… А тут — пераспявай на коласе; гінь, прападай… Каб ужо ды сам ты хаця быў пры хаце, а то ў кожную хвілю мусіш пакінуць нас. Падумай, гэта лёгка сказаць, а паспрабуй… Ды што казаць! Ты ўжо ў нас гэткі праведнік!.. Увесь век, толькі стаў на ногі, як усё за гэтым удараеш. Усё на кагосьці сташся, бегаеш, ездзіш, як бы ў цябе нічога і нікога няма. Вось жа і Тамаш Еўсігнееў лічыцца сацыялістам, а паглядзі ты: і за палякамі спакойна жыў, і цяпер… устроіць так, што ні ў абоз не паедзе, ні, крый чаго, з Маргоў не ўцячэ. Бо, вядома, дбайны…

Раззлаваўшыся як след, Юзя не магла далей казаць і, абарваўшы гутарку, павярнулася да свае работы.

Юрка маўчаў і пазіраў у акно.

— Не гарачыцеся толькі, мама, — тым жа роўным, спакойлівым голасам, падышоўшы да печы, пачаў Платон, — вы мне праз дзесяць, калі не болей, гадоў даеце свае рады. І прыпомніце, ці хоць бы раз яны падыходзілі да ладу. Так і цяпер. Нельга так

развражаць, кажу я. Не паказвайце на другіх. Тамаш Еўсігнееў тут ні пры чым. Ён адно — а я другое. Хай сабе ён робіць па-свойму.

Бачачы настойлівасць сына, Юзя захацела спагнаць злосць на мужу.

— То ты ж чаго маўчыш? — абярнулася яна да Юркі. — Пэўна, ужо і гатоў ехаць? Угаварыўся…

Юрка адвярнуўся ад акна, сур’ёзным поглядам абвёў жонку і цвёрда выказаў:

—- Так. Такі я мушу ехаць… Калі трэба — то трэба. Платон праўду кажа. Не паеду я, не паедзе другі — дык што тады? Наша павіннасць памагчы ім. Можа не памагчы Ігнасць ці Саўка — ім паны лепш, а нам гэта кроўная справа.

Юрка паказаў пальцамі на Платона:

— Яны, глядзі, не толькі для сябе робяць, а і для нас… Пан — вораг іх і вораг наш.

— Падумаеш! Дабра табе нарабілі! Вось паскубаюць, толькі ў гэтым іх дабро.

— Ша-а, Юзя, маўчы, — пераняў Юрка жонку. — Ужо, сапраўды, ты вельмі вырасціла свой язык. Раз трэба ехаць — то трэба. Панам ездзілі, чаму ж нашым адмаўляцца! Усё ж выбавілі нас. Мала мы панацярпелі? Колькі ты сама паплакала!

— Выбавяць… Выбавяць… Так выбавяць, што ворагам закажам.

— Кіньце, маці, — усур’ёз пераняў мацеру Платон, — ці не брыдка плявузгаць ліха ведае што!

Юзя змоўкла і нервова зачасціла стукаць сечкаю па лаве. Юрка, не зважаючы на злосць жонкі, падышоў да Платона і пачаў радзіцца наконт таго, як і што заўтра збірацца ў дарогу.

— Я думаю, сынок, нас далёка не пагоняць. Немагчыма ж, каб я, стары, да Варшавы ехаў. Вось мо толькі да Вільні правядом і вернемся. Дык, я думаю, вазьму гэтыя старэнькія калёсы з нарадам, палажу палукашак — і добра будзе… Як ты кажаш?

— Ды ўжо, вядома, як-кольвечы, як магчыма!.. Хто ведае, як там будзе, — адказаў Платон, — можа, праведзіцё да Вільні, мо і таго бліжэй. Толькі раз выходзіцца, то трэба…

Платон не даказаў: падышоўшы да акна, Пілíп Хрэн пераняў яго воклікам:

— Ці ты дома, Платон? А я ўжо каторы раз наведваю і ўсё не застаю цябе ў хаце.

— Чаго ён ужо пляцецца сюды? — сказала нездаволена Юзя. — Пэўна да цябе, Платон. Прыяцель вялікі знайшоўся… Ты адно, сынок, не зважай на яго. Паддобрывацца будзе.

— Гледзячы што будзе казаць!

— Хоць бы што, — буркнула Юзя…

Піліп увайшоў у хату. Яго шырокі, аброслы барадою і бакамі твар, з вузкім вострым носам і сінімі вачыма, насупярэч заўсюдашняму вясёламу погляду, быў спакойна, нават крыху сур'ёзна настроены. Агледзеўшы хату і прывітаўшыся, ён адразу не мог перайсці да гутаркі і хвіліны са дзве прастаяў моўчкі. Але ад гэтага стала яму няёмка, бо і Платон, і Юрка, і нават Юзя здзіўлена глядзелі на яго, чакаючы, што будзе казаць.

— Я, ведаеце, суседзі, да Платона прыйшоў, — пачаў Піліп, стоячы на адным месцы, — справа гэткая, што хоцькі ты тапіся…

— Ідзі прысядзь, Піліп… А то стаў у парозе, як які незнаёмы, і стаіць, — пазваў Юрка.

— Дзякую, — адказаў Піліп і прысеў на лаўцы ў мыцельніку.

— Я прыйшоў, ведаеце, прасіць Платона, ці не мог бы ён як-кольвечы памагчы мне, — нерашуча замовіў Піліп.

— У чым? — запытаў Платон.

— Ай, у чым… — Піліп пачухаў бараду. — Ды ўсё ў гэтым абозе. Падумаў, браток, забяруць коней, а тут і сена прападзе, і збожжа некаму з поля сабраць, як з хлопцам паеду… Дома — адна хворая жонка з двума малымі. Што ж яна магчыме зрабіць? Проста бяда! Як сказалі мне, каб назаўтра збіраўся, дык праз цэлы дзень рукі не падымаюцца… Вось давай, думаю, забягу да Платона, няўжо ж такі ён не пасобіць мне. Такі-та ж ён у начальстве. Га, Платон? — ліслівым голасам запытаў Піліп.

Платон засмяяўся.

— Што смяешся? Пэўна, здзівіўся, што да цябе звярнуўся з просьбаю. Мабыць, успомніў нашу сварку пры немцах? Забудзь, братка. Мала што тады было. Дурасць нейкая была запала ў галаў… А каб гэта я за што іншае — павер, што не! Я ніколі на сацыялістаў не даносіў знарок і цяпер бальшавікоў шаную… Гэта ж куды лепей за паганых паноў. Свае… Ты, Тамаш Яўгенеў, Хаімаў хлопец — усё ж свае. Век звекавалі ў суседзях…

Юрка закурыў люльку і паважна смактаў яе, пускаючы дым, як з коміна. Спакойная міна яго, здавалася, адбівала сабою гэткі ж спакой у яго нутры. Тое, што ў вуснах Піліпа лічылася суседствам, калісьці добра давалася ў знак Юрку. Го-о, каб то на другога — ён бы ў хату не пусціў Піліпа. Юрка ж быў чалавекам мяккім і дабрадушным. Калі хто яго крыўдзіў, то ён не больш гадзіны трымаў у сябе злосць на крыўдзіцеля, а пасля зразу дараваў крыўду і адыходзіў сэрцам. А калі прасіў прабачэння, то таму Юрка не толькі дараваў, нават і шкадаваў яго. Піліп мала

таго, што не перапрашаў за частыя крыўды Юрку, а як бы знарок час ад часу аднаўляў іх. Але варта было стрэцца Юрку з Піліпам на другі дзень пасля ўцёку палякаў і пачуць ад яго мяккае слова, як Юрка напалову дараваў яму сваю крыўду. Цяпер жа вось, калі Піліп зайшоў у хату і гэткім пакорліва-ліслівым голасам пачаў сваю гутарку, Юрка сядзеў і думаў: «Усё ж Піліп — чалавек як чалавек. Мала што калі здуру зрабіў! Ці ж варта злаваць на яго». І Юрку захацелася, каб сын не адказаў у просьбе Піліпу. Што ён багаты, што паехаць у фурманку для Піліпа нічога няўтратна, бо і жонка яго не так ужо хворая, і малыя дзеці не так ужо малыя, — гэта ўсё было дарма і незаўважна для Юркі. Так пакорліва ўжо просіць Піліп! Юрка з цікавасцю аглянуўся на сына, чакаючы, што ён адкажа Піліпу.

Юрку лісціла за Платона, за яго становішча, і хацелася бачыць, наколькі ён мае вагу зрабіць ці не зрабіць тое ці іншае. Паказаць Піліпу дабрату — то б сведчыла, што ён залежыць ад Платона. Калісьці, гадоў пяць назад, Платон быў у Піліпа самым зненавісным чалавекам. Дзе след, а дзе не след, Піліп яго лаяў, выдаваў, паскудзіў і абяцаў розныя кары. Хай жа цяпер пераканаецца, як апасліва бывае займаздароў, без дай прычыны ганьбіць чалавека.

— Не, дзядзька, я вам нічога не пасоблю, — адазваўся Платон, калі Піліп кончыў. — Я, па-першае, мушу выпаўняць прыказ старшага вайсковага начальства, а па-другое, я вось і роднага бацьку выпраўляю. Я гляджу так: калі вы мусілі, а не — то і вольна памагалі палякам, то не павінны адказвацца рабіць дапамогу і нашым, тым болей што вы гэта можаце зрабіць: маеце пару коней, маеце сына…

Юрку як бы стала няёмка, што сын так проста і адкрыта выказаўся перад Піліпам, і ён адвярнуўся ў акно.

— Няўжо-такі ты напраўду не паможаш нічога бацьку? — хітра падышоў Піліп. — Мне ўсё ж такі думаецца, што ты бацьку выбавіш… Вунь я бачу Мікіту Брушку, той мне хваліўся, што яго сын Паўлусь, бач, зрабіў так, што не паедзе ні ён, ні яго брат. Паўлусь прыпісаў іх да рэўкама і так затрымаў. Пэўна, і ты бацьку выбавіш… Што б табе заадно і мяне! Га, Платон? Я б за гэта табе аддзякаваў удвойчы. Хоць бы аднаго каня заставіць…

— Ды што ты, Піліп, — азвалася дасюль маўчаўшая Юзя, — ён у нас да таго верны служака, што і на ногаць не хоча ў свой бок перадаць. Навошта дарэмна казаць. Другія, глядзі, вунь… зямлі набяруць, і кароў, і ўсякая ўсячына.

— Вось ты хаця маўчы, — пераняў жонку Юрка. — Мала хто як вядзе сябе. У Платона сваё разуменне. Ужо б, пэўна, ён зрабіў бы што-небудзь Піліпу, а бачыш, нельга, значыць…

Піліп ліхамысна скрывіў міну, пачасаў патыліцу і адказаў:

— Тут, мабыць, не што іншае, як аддзяка мне за ранейшае. Што ж, нечага рабіць — выбачайце!

Піліп падняўся:

— Гэткі ўжо свет цяпер: хто дужшы — той прутшы. Прыйшлі бальшавікі — ваш верх. Але яшчэ невядома, чым кончыцца…

— Прашу не абражаць савецкае ўлады, — перабіў раззлавана Платон, — яна прыйшла не прыгнятаць, а вызваляць бедных людзей і іх краіну. І лаяць яе я не дазволю… — Платон знізіў голас. — Трэба вам, дзядзька, зразумець, што тут не гандаль які вядзецца, а аддаецца павіннасць агульнай справе. Чаго ж ухіляцца ад гэтае павіннасці…

— Н-ну-у-у, як разумееш!

Піліп выйшаў з хаты. За ім услед — Юрка.

— Вось бачыш, ніякага сораму не мае, — адазвалася Юзя, — здавалася б, і ў вочы брыдка паказацца, а то-та ж — прыйшоў, як нібыта той. Пасоб, памажы…

— У тым-то і рэч. Астанься бацька ўдому, дык тады пальцамі затыкаюць. І цяпер, вось, што гавораць. Думае, што я помшчуся, калі не раблю таго, чаго яму хочацца, а бацьку застаўлю дома… Хітрыя, кулаччо!..

Юзя змоўкла. Платон задуменна прайшоў некалькі разоў па хаце і пасля выйшаў на двор.

На вуліцы стаяў гоман і беганіна. Каля суседняй хаты сабралася грамадка мяшчан, якія пільна і клапатліва разважалі пытанне з фурманкамі. Раптоўнасць гэтае прыгоды вельмі занепакоіла ўсіх.

Кожны выказваў свае погляды на трапленае і намячаў выйсце. Угледзеўшы Платона, некалькі чалавек з грамадкі звярнуліся да яго з запытаннем:

— Платон, ці нельга было б прасіць у цябе заступніцтва?

— Не, мужчынкі, тут я ўжо вам не пасаблю нічога. Прыйдзецца ехаць. Пасобце Чырвонай Арміі. Гэта ваша павіннасць для саміх сябе…

— Гэ, яго бацька астаецца, яму няма чаго непакоіцца, — упікнуў адзін з грамадкі.

Некалькі чалавек падмацавала яго голасным «але, але! Што ж дзіўнага!».

Платон нездаволена махнуў рукою і вярнуўся ў хату.

## II

Назаўтра Гічкава сям'я прачнулася ранняй раніцаю. Юрка пачаў збірацца ў дарогу. Платон яму пасабляў. Юзя ўвіхалася каля печы, каб згатаваць снеданне. Праз ноч яна адышла ад злосці і прымірылася з пастановаю мужа і сына — не адпрошвацца ад падводы. Не прыходзілі ў голаў думкі, каб яшчэ паспрабаваць угаварыць сына заставіць Юрку дома. Юзя ведала нораў аднаго і другога і лічыла дарэмным пачынаць усякую гутарку: «насталі — то зробяць».

Юзю непакоіла адно — не застацца б ёй і без Платона. Яна, як і большасць мяшчан, не верыла ў цвёрдасць становішча. Што ж будзе, калі яна застанецца адна? Юзі хацелася абгаварыць гэта пытанне пры мужу і пры сыне. Ходзячы каля печы і гатуючы снеданне, яна раз-поразу пазірала ў акно, каб упэўніцца, ці ў двары мужчыны. На вуліцы чуўся крык і суятня. Хаця б не пагналі раптоўна, не даўшы якраз сабрацца? Каб гэтага не здарылася, Юзя рашыла мужчын зазваць у хату.

— Юрка, Платон, дакуль вы там не ўходзіцеся? Ідзеце ў хату, зараз снеданне будзе, — пагукала яна.

Мужчыны ўвайшлі.

— Вось што, родныя мае, — абярнулася да іх Юзя, — час ідзе, а мы ж яшчэ не парадзіліся нават, як будзе хата? Адзін едзе зараз, а другі — у кожную хвіліну таксама можа пакінуць мяне. Дайце абгаворым, што прыйдзецца мне рабіць?

Юрка прысеў каля стала і, падумаўшы, адказаў:

— Што ж я! — я нічога! Няхай Платон кажа. Калі я паеду — пэўна, ён тут магчыме застацца… Чуеш, сынок? Дагледзіш ты хаты і мацеры?

Платон упэўнена адказаў:

— Трэба будзе.

— Ну, а калі самога пагоняць куды? — запыталася Юзя.

— Нічога. Тады рэўкам пасобіць… не бядуйце.

— Ой, глядзі, Платонка. Ты дарэмна так запэўняеш, — сумелася Юзя. — Паедзеш куды, а мне — пропадам прападай.

— Не бойцеся, маці, я не дам прапасці… Ну, давайце снедаць, ды трэба бацьку ехаць, — каб не зацягваць каразлівае гутаркі, папрасіў Платон.

Юзя паслухна падала на стол снеданне, а сама задуменна выйшла ў сені. Юрка з Платонам пачалі есці.

III

Паснедаўшы, Платон з бацькам паехалі да рэўкама. На вуліцы і на рынку пакуль не відаць было ніводнае фурманкі. Яны пад'ехалі да будынка рэўкама і прыпыніліся. Юрка застаўся на возе, а Платон пайшоў у канцылярыю.

У канцылярыі рэўкама было ўжо некалькі чалавек з рэўкомцаў, у тым ліку Тамаш Яўгенеў, Сіман Хаімаў ды іншыя. Угледзеўшы Платона, Тамаш запытаў яго:

— Ну, як з фурманкамі? Збіраюцца?

— Пакуль не відаць… Толькі вунь мой бацька стаіць.

Яны прайшлі ў асобны пакой і паселі каля стала.

— Стараешся ты, Платон, як я бачу, — іранічна выказаў Тамаш.

— Чаму? — здзівіўся насур'ёз Платон.

— А вось, бацьку першым выпраўляеш. Пэўна, хочаш паказаць гэтым, што…

— Выбачай, браце… Я гляджу так, што тут не павінна быць ніякіх льготаў. Не пусціш ты свайго бацькі, не пушчу я — тады што выйдзе? Кожны будзе пальцам паказваць на нас, кажучы: «Вось табе раўнапраўе і свабода». Не, брат, нам патрэбна другім прыклад даваць. А то вось ужо ўчора да мяне прыходзіў адзін сусед і прасіў, каб я пасобіў яму застацца і не паехаць. І калі я сказаў, што я і бацьку выпраўлю, дык ён, думаеш, паверыў? Хай жа бачыць, што я ў абавязках да справы не знаходжу розніцы між бацькам і чужым.

— А ты думаеш, што гэта пасобіць? Нічога! Усё роўна будуць казаць усякія плёткі. Кулаччо — ласне яно паверыць у тваю шчырасць? Не думай, — адказаў Тамаш. — Куды табе раўняцца? Твой бацька стары, маці старая… я б, ведаеш, не радзіў бы справаджаць бацьку ў фурманку. Мала што можа трапіцца ў дарозе, а ад гэтага…

Платон крыху задумаўся і памаўчаў.

— Ведаеш, Тамуля, я ўсё-ткі не магу гэтага зрабіць, — адказаў ён, — трэба пасабляць чым мага. Ідэю трэба ажыццяўляць і, ажыццяўляючы, даваць прыклады другім… Вось паглядзі ты…

Платон спыніўся, не ведаючы, выказаць ці не перад таварышам чутае аб ім. «Скажу, што ж дрэннага ў тым», — парашыў ён. Але паспеў адчыніць рот, як Тамаш яго папярэдзіў, улавіўшы Платонаў намер:

— Ну, ну, кажы. Што ты спыніўся?

— Ды тут, бач, нічога такога няма. Я хацеў толькі сказаць, што… ужо ходзяць чуткі, нібыта Паўлусь Брушка вызваліў ад фурманкі не толькі бацьку, а і дзядзьку.

— Чу-ткі-ы? Ласне гэта на карысць справе? Чорт яго ведае, гэтага Паўлуся. Як ён не можа нічога цішком зрабіць. Ды, галоўнае, і дзядзьку! Вядома, што так нельга. Гэта ж сапраўдны кулак, — занедаволіўся Тамаш.

— Ну, вось бачыш…

Платон не даказаў. Стук у дзверы каморкі, дзе ён сядзеў з Тамашом, перабіў іх гутарку. Платон ускочыў з месца і адчыніў дзверы. За дзвярыма стаяў яго бацька.

— Што ж ты так засядзеўся тут, — дакорліва сказаў Юрка, — я чакаю-чакаю, а цябе няма. Трэ было б яшчэ парадзіцца аб сім аб тым перад ад'ездам, а ты тут увесь час прасядзеў…

— Дык давайце, — згадзіўся Платон.

— Куды там давайце. Ужо людзі паехалі. Я забег сказаць, што і я еду…

Яны ўдвух, пакінуўшы Тамаша, выйшлі з рэўкама на пляц. На пляцы ўжо стаяў цэлы кірмаш фурманак. Грамадкамі між вазоў, паадзяватыя ў дарогу, з клумкамі стаялі мяшчане. У напрамку павятовага шляху адмячаўся руплівы рух. З-за мястэчка з боку таго ж самага шляху даносіўся заціхаючы спеў войска.

— Бацька, — абярнуўся Платон да бацькі, — ты далёка не едзь. Правядзі да Слоніма і варочайся. Адпрасіся — ты ж стары…

— Ды ўжо там убачым. Буду старацца праз дзён пяць вярнуцца. А вось ты тут… Не пакінь, нябожа, мацеры; яна адна прападзе, у выпадку чаго. Не пакідай яе… Наймеце якіх пару жанцоў і сажнеце жыта, пакуль я вярнуся, — парадзіў Юрка.

Ён хацеў яшчэ дапамянуць нешта наконт гумна, але ззаду падалі крык:

— Займай чаргу, стары!

Юрка ўзяў каня пад аброць і ўехаў у агульную чаргу.

Платон стаў на ўзгорку збоку і глядзеў усцяж шляху, па якім, мо на дзве вярсты працягам, шэраю вужакаю віліся падводы. Густы слуп пылу, каламуцячы паветра, падымаўся ўгару.

## IV

Першыя два дні пасля ад'езду бацькі Платон настолькі быў захоплены работаю ў рэўкаме, што дахаты паказваўся не больш як на дзесяць хвілін, каб перакусіць, і зноў зараз жа варочаўся ў рэўкам.

Юзя гневалася на яго, злавала, што ён зусім пакінуў гаспадарку і забыў пра яе, свету не бачыць за рэўкамам.

— Хай бы ты, сынок, хоць часіну аддаў для мяне: трэба ж парадзіцца, трэба агледзецца. Ты ж мусіш за гаспадара ў хаце быць — бацькі няма. А табе, як чужому, няма ні мацеры, ні дому. Гэта ж трэба так моцна ўесціся ў сваё гэта бальшавіцтва. То ж свет мо не бачыў такіх шчырых і заўзятых служакаў, як ты. Няўжо табе трэба больш, як усім. Няўжо цябе царом зробяць, калі ты так будзеш старацца…

— Маці, маўчы, — на хаду закідаў Платон, — мне трэба не больш, як усім. Мне нават зусім нічога не трэба. Я мушу аддаць, што магу, той думцы, якая арудуе мною ўсё жыццё.

— Ах, які ты ўпарты, сынок! — пускала Юзя ўдагон Платону.

Але Платон ужо не слухаў. Трэ было паспяшаць у рэўкам і абгаварыць там пытанне аб арганізацыі ўлады па ўсім раёне.

Чырвоная Армія праз кожную гадзіну аслабаняла ўсё новыя абшары краю. У кожную вёску трэ было пасылаць хоць па два чалавекі. А іх было так мала. Шмат выдзяляла работнікаў Чырвоная Армія, але трэба было кожнага намеціць, куды пасылаць, на якое месца назначыць, каб ён адпавядаў яму.

Да позняе ночы цягнуліся пасяджэнні, натужныя, нервовыя. Платон слабеў, таміўся і, вярнуўшыся ўночы, хутка еў і кідаўся ў пасцель.

Толькі на чацвёрты дзень як быццам бы гарачка крыху спала, і Платон, пасядзеўшы ў рэўкаме да абеду, пайшоў дахаты. Ён ужо не думаў вярнуцца ў рэўкам, а рашыў другую палову дня застацца ў доме, адпачыць і разам абгаварыць з мацераю дамашнія справы. «Ды, к гэтаму, — думаў ён ідучы, — павінен бацька хутка вярнуцца. Не мусіць жа ён ехаць бясконца… Падвязе вярстоў за сто, а там ужо зменяць другія. Яно б хай бы сабе ехаў і далей, толькі стары замучыцца ў доўгай дарозе. А тут яшчэ гэта жнітво… Сапраўды, што ж маці зробіць, калі мне прыйдзецца куды выехаць!»

Прыйшоўшы дадому, Платон мацеры не застаў: яна незадоўга перад абедам пайшла ў жытні палетак паглядзець, у якім становішчы жыта. Платон сам знайшоў яду, паабедаў і сабраўся прылегчы. Але толькі ён паспеў разуцца, як знадворку пачуў гутарку. Ён барзджэй назад усцягнуў боты на ногі і пабег да акна. У сенцы якраз уходзіла маці і сторож рэўкама, Яўхім.

— Навошта ён вам? Дайце хаця паабедаць вольна, — казала рассерджаным голасам Юзя.

— Я не ведаю нічога. Мяне паслалі, і я прыйшоў. Пільна патрабуюць, — адказаў Яўхім.

«Што за ліха! Навошта я ім? — падумаў Платон, абярнуўшыся да дзвярэй і чакаючы ўваходу Яўхіма. — Нядаўна нікога не было, а гэта вось наспела: дыхнуць не могуць без мяне. Галава трашчыць — а і гадзіны нельга супачыць…»

— На, вось ты мо даўно не бачыўся, дык маеш, — пераступаючы парог і паказваючы на Яўхіма, які ішоў следам, злосна выказала Юзя. — Чаго такі табе так пільна патрэбна там быць? Ласне ты даўно ўжо ўдому?

— Чакайце-э… толькі, мацi…

Платон узяў ад Яўхіма запіску, прачытаў і ўголас выказаў:

— Што за прымха! Надало яму прыехаць. Тут ужо нечым пахне. Пэўна, якое-кольвечы экстраннае здарэнне. Ну, ідзіце, дзядзька, скажыце, што я зараз прыйду, — прамовіў ён да Яўхіма.

Яўхім павярнуўся і выйшаў з хаты.

— Што гэта там? Якая такая справа, што ажно падаслалі? — пацікавілася Юзя і, пакруціўшы нездаволена галавою, дадала: — Вунь, людзі ўжо жнуць. І наша жыта ажно шамціць — спелае. Трэба жаць, а то колькі яго ёсць і тое гатова прапасці.

Яна з хвіліну памаўчала.

— А ў мяне, на бяду, штосьці так пачало калоць у баку, што сагнуцца нельга… Платонка, няхай бы ты як-кольвечы выпрасіўся на дзень ды справіўся з жанцамі… Няўжо там не абыдуцца і дня без цябе. Га?.. Ты ж і так…

— Добра, добра… Я гэта пастараюся зрабіць… можа, заўтра ўранку…

— Заўтра?! Чаму ж ты так кажаш? Чаму заўтра? Жанцоў сягоння трэба заладзіць, каб заўтра ўжо ўпэўненым быць… А то яшчэ дзень-другі — і жыта перастаіць, паломіцца, асыплецца… Ты зайдзі вось зараз да Міхаліны і да Алены і папрасі іх…

— Не, не. Цяпер я не магу. Я вечарам толькі вярнуся з рэўкама.

— З рэўкама… Ай, гэты мне твой рэўкам омегам вылазіць, — чуць не ў крык вымавіла Юзя і хутка кінулася ў сені, сярдзіта стукнуўшы дзвярыма. — Ты і бацьку выправіў, як у пекла… Паўлусь, нябось, хоць таксама рэўкомец, а глядзі, вунь, бацьку дома затрымаў… Тамаш таксама! — крычала яна ў сенцах.

Платон моўчкі абышоў мацерын крык і паспешна панёсся ў рэўкам.

## V

— Таварыш Гічка, вы няшчыра адносіцеся да справы, дазвольце вам сказаць, — сустрэў Платона прыезджы з павета таварыш. — Мы ўжо вас чакаем болей паўгадзіны. Ведаеце, што справы не чакаюць.

Платон ускіпеў ад злосці і перш хацеў падаць адпаведную спрэчку за незаслужаную вымову, але ў рашучую хвіліну стрымаўся і змаўчаў.

— Ужо ўсе? — запытаў у Тамаша той жа таварыш з павета. — Можа, можна пачынаць?

— Яшчэ няма Паўлуся Брушкі, — адказаў Тамаш, — але ён павінен скора прыйсці, так што чакаць далей не варта.

Усе — было каля дзесяці чалавек — перамясціліся да стала, паціснуліся шчыльна адзін к другому і настаражыліся слухаць, што скажа прыезджы таварыш. Платон, абражаны раней, сеў з краю і штосьці думаў асабістае.

— Таварышы! — пачаў прыезджы таварыш. — Мяне прыслалі з павета да вас, каб я тут зрабіў мабілізацыю таварышаў. У вас на мястэчка многа сілаў не патрабуецца, між тым вакол вялікая патрэба ў людзях. Не хватае людзей у павятовыя рэўкамы і рэўкамы многіх мястэчак і гарадкоў. З цэнтра націскаюць, каб давалі людзей… Вось на пасяджэнні павятовага камітэта і рашано забраць ад вас хоць бы двух чалавек. Ну, што вы скажаце на гэта?

Нейкі час ніхто не адазваўся. Толькі падазрона адзін на другога паглядзелі. Пасля, каб згладзіць няёмкасць, Тамаш спакойлівым голасам падаў:

— Калі, то аднаго таварыша, двух ніяк няможна. У нас таксама шмат работы.

— У вас жа вось цэлая капэла людзей! — выказаўся прыезджы таварыш. — Што вам тут усім рабіць? Вы забываеце, таварыш, што Беларусь не месціцца ў адным вашым мястэчку. Тут вы трымаеце столькі лішніх людзей, што трэба дзіву давацца, ды яшчэ супярэчыце мабілізацыі двух таварышаў. І гутаркі не павінна быць — двух таварышаў я мушу ўзяць з сабою абавязкова.

Рашучасць, з якою казаў прыезджы таварыш, ясна сведчыла, што рашэнне ўзяць з мястэчка Маргі двух чалавек было цвёрдым. Было дарэмна адгаварвацца і супярэчыць. Тут ішла рэч аб пастанове камітэта, аб справах рэвалюцыі. Гэта адчулі ўсе, як адзін, і моўчкі выказвалі згоду адпусціць двух. Але каго?

Прапанаваць другога, таго ці іншага, ніводзін не хацеў. Усе чакалі прапазіцыі з боку прыезджага таварыша…

— Дык вось, таварышы! — не дачакаўшыся адказу, выказаў павятовы таварыш. — Нам сённека патрэбна выехаць. Каб не траціць часу, намячайце кандыдатаў. Пакуль яшчэ яны збяруцца… Хто ў вас менш заняты і без каго можна было б абысціся пакуль што?

Рэўкомаўцы пераглянуліся і зноў не ведалі, што сказаць.

— Вы ж павінны ведаць, таварыш, — абярнуўся прыезджы таварыш да Тамаша.

Тамаш сумеўся і, каб мінуць нерашучасць, сказаў:

— Платон Гічка і Лукаш Цяўе, бадай што, лепш другіх падходзяць.

Тамаш пытальным поглядам кінуў у вочы супроціў яго сядзячаму таварышу Аўсею. Той паціснуў плячыма і змаўчаў.

— Чаму няйначай Платону? — раптам запытаў Платон. — Ласне я менш заняты за цябе? Хай скажуць таварышы. Ды да гэтага яшчэ — маё дамашняе становішча, як табе ведама… Бацька адправіўся ў абоз, а дома адна старая маці… Жнітво падаспела…

Прыезджы таварыш чэрства паглядзеў на Платона, кіўнуў галавою і сказаў:

— Таварыш! Нам няма чаго чапляцца за розныя прычыны. Сям’я, дамашняе становішча — гэта буржуйныя забабоны, з якімі нам не належыць лічыцца. Рэвалюцыя вышэй усяго. Калі вы шчыры рэвалюцыянер, вы не павінны былі б…

— Так, я шчыры рэвалюцыянер! — узнятым ад крыўды голасам выгукнуў Платон, перарваўшы дакорлівы маналог прыезджага таварыша. — Маю шчырасць можа кожны з таварышаў засведчыць. Я цэлы год працаваў падпольна, соткі разоў быў на валаску ад смерці. А ў гэты час бацькі без хлеба сядзелі. І сам я не меў каліва дапамогі. А другія ў той час лаўнікамі служылі ў палякаў… Вы абмыляецеся, таварыш, калі кажаце так…

Ніхто нічога не мог адказаць Платону на яго словы. «Другія лаўнікамі служылі» — то адносілася да Тамаша, які пачырванеў на твары ад Платонавых слоў. А прыезджы таварыш бачыў на мінах многіх, што яны хоць маўчаць, але спагадаюць Платону. За свой няўтрыманы выказ ён адчуваў нейкую няёмкасць. Яму ўжо хацелася выкупіць сваю віну адказам мабілізаваць Платона, замяніўшы яго другім. І ён задумаўся, як ямчэй зрабіць адыход ад сваіх слоў.

— Ды ўжо, калі гэтак, я гатоў, — пасля некаторай маўчанкі праказаў Платон, перабіўшы думку прыезджага таварыша. — Я ніколі не здраджваў той справе, якой больш дзесяці гадоў шчыра служу, і не здра-а-джу-у. Патрэбен ёй — бярыце. І думаць нават нікому не дазволю гэтага. Я згодзен ехаць! Думаю, што і Лукаш Цяўе зробіць тое самае.

Каб змякчыць настрой, таварыш з павета сказаў:

— Таварыш Гічка! Пэўна, калі ваша гэткае становішча, безумоўна, вам трэба застацца на месцы. Вас могуць замяніць другія. Я тут мала знаю ваша становішча.

— Нне-э! Ужо няма чаго далей зацягваць: я еду! Вось пайду збяруся і прыйду.

Дэманстрацыя Платона перабіла далейшыя гутаркі. Так ужо склалася становішча, што нельга было ні пярэчыць рашэнню Платона, ні адмяняць мабілізацыю. Трэ было спыніцца на тым, што ёсць — і нарада на тым спынілася.

Платон з Лукашом пакінулі рэўкам і паспяшылі дахаты.

На вуліцы цямнела.

## VI

Платон не заўважыў, як апынуўся каля хаты. Аб тым, што абяцаў мацеры заладзіць на заўтра жанцоў, ён забыў суйздром. Яго непакоіла за мацеру. «А што, калі бацька прабудзе там яшчэ тыдняў са два? А што, калі, крый чаго, ды няшчасце якое здарыцца? — разважаў Платон, міжвольна прыпыніўшыся ў сваім двары. — Добра б было, каб мне скора вярнуцца. А то ўсяк можа быць. Увойдзеш у працу — і ніяк нельга будзе яе кінуць… Не паехаць бы? Не — гэтага нельга даводзіць. Немажліва пакінуць бязлюдным месца, дзе патрэбна замацоўваць уладу. Сапраўды, нас тут досыць і пяці чалавек. Адчыняюцца новыя абшары, свежыя, якія патрабуюць многа сіл і працы. Не паехалі б знарок за людзьмі, каб не экстраная патрэбнасць у іх. Так! Трэба ехаць! Я мушу ехаць! Не паеду я, другі — як жа тады быць?»

Платон рашуча ўвайшоў у хату. Маці ляжала на палку ў запечку і паціху стагнала. На прыпечку свірэла газнічка.

— Што з вамі, маці? — палахліва запытаў Платон.

Юзя енкнула мацней і зацяжным, перарыўным голасам адказала:

— О-ох, сынок! Вельмі моцна ў баку закалола. Якраз на змроку пачула, перш ціха, злёгку, а пасля ўсё горай і горай, а зараз — слова сказаць трудна… Скажы-ы, Платонка, — перайшла яна на

другое, — ты не стрэўся з Макарам Плеўкаю? То-о-лечкі выйшаў. Ізноў прыходзіў па справе з агародамі… Прасіў перадаць табе, што ён аддзякуе, калі толькі ты зробіш што-кольвечы, каб ён мог яго напалову зжаць…

— Ах, як ён мне надаеў, гэты Макар! — злосна вылаяўся Платон. — Што ён думае, пэўна, што я гандлюю савецкім правам! Бессаромны-ы! Лай-дак! Абабраў беднага чалавека і думае, што па галоўцы яго буду гладзіць…

— Казаў, ведаеш, Макар, бач, — асведамляла Юзя сына, енчачы, — што ён ужо перагаварваў з Ладымерам Цэўкаю… Той, кажа, згадзіўся…

— Усе-э яны гэткія… Цэўкі, Брушкі-ы… Назо-ла. Момантам карыстаюцца — не болей! А яшчэ дым пускаюць у вочы аб сваёй рэвалюцыйнасці…

Платон падышоў да акна, паглядзеў на двор, памаўчаўшы крыху, пасля спакойлівым голасам звярнуўся да мацеры:

— Матка. Ведаеце што? Я мушу сёння ехаць у павет. Няйначай. Пастаноўлена. Вы ўжо тут як-небудзь дайце знаць гэтым жанкам, каб прыйшлі жаць, хоць пазаўтра. А я буду прасіць Тамаша — хай пасобіць звязці. Ён павінен гэта зрабіць… Ды, я думаю, бацька прыедзе хутка…

Выслухаўшы сына, Юзя разгорнілася, завойкала часцей і пачала наракаць на Платона:

— Як табе не сорамна, сынок… пакідаць мяне адну ды хворую… Што ты сабе думаеш… Няўжо б ты не вытрываў на гэты раз?.. Няхай бы цябе абмінулі… А каб то не было цябе, што б тады рабілі? Эх, Платонка, і не сорам табе рабіць так? Гэта ж людзям на пасмешышча будзе. Скажуць: мацеру адну пакінуў уміраць, а сам усё з гэтай рэвалюцыяй… Адумайся, апамятайся…

Апошнія словы Юзі перайшлі ў балючы зацяжны енк. Платон, слухаючы яе, не меў мажлівасці ўсядзець на месцы і пачаў тупаць па хаце. Ён не ведаў, чым суцешыць маці, чым даць ёй зразумець пераважнасць спраў рэвалюцыі над справамі сям'і. Побач з гэтым перад ім мігнула думка, ці не ўзваліць віну на ўвесь рэўкам, які не прыняў на ўвагу яго сямейнае становішча, але тут Платон баяўся сысці з рэвалюцыйнага разумення пытанняў. Яму здавалася, што рэвалюцыянер не павінен мець жаднае спагады. Усё, што побач рэвалюцыі, то, безумоўна, ніжэй яе па значнасці. Так Платон думаў праз доўгі час свайго свядомага жыцця. Дзеля рэвалюцыі ён ахвяраваў пачуццём кахання, пакінуўшы без адказу просьбу каханай дзяўчыны не выязджаць на

падпольную працу пры немцах. Дзеля ідэі рэвалюцыі ён забываў бацькоў, не ведаючы, як і што яны жывуць, як іх становішча пад палякамі. З гэткім жа пачуццём Платон падаў сваё рашэнне ў рэўкаме ехаць яму першаму. Але цяпер, калі прыйшоў дамоў, каб сабрацца ў дарогу, і застаў хворую маці адну-адзінюткую ў хаце; цяпер, калі ў муках болю старая застаецца без нікога, хто б правёў яе, можа, на смерць, — цяпер Платон мусіў крануцца ў непарушнасці сваіх думак. Набягалі навеі сумнення, з'явілася хаценне знайсці тую ці іншую аслабнасць у пазывах свайго рашэння ехаць. «А мо і назаўтра застацца? Няўжо нельга прапусціць і адной ночы? Часта ж бывае, што пры зборах трацяцца цэлыя дні. А ўсё ж становішча вытрымоўвае, як бы чакае. Ніхто не кажа, што так добра; гэта вада, гэта недастача. Але без гэтага не мінае. Ну, дазволіць, што я загадзя адзнаў гэта і не павінен быў папускаць свядома. Ды бываюць увагі на ўсё. Бываюць сур'ёзныя ўвагі. Вось гэткая ўвага стала і перада мною. Хто можа сказаць, што мною кіруюць буржуйныя забабоны? Хто асмеліцца западозрыць мяне ў няшчырай адданасці справе рэвалюцыі? »

Усё гусцей і гусцей аплятáлі Платона гэткія думкі. Зацягвалі ў сябе, як дрыгва, зачынялі яснасць сазнання.

Маці не сціхала балюча, а ўсё зацяжней ды зацяжней войкаць і ўздыхаць; штосьці неразборна выказвала да яго, а Платон не чуў. Яго свідравала пытанне: што сказаць мацеры, чым яе сушэшыць і як апраўдаць свой ад'езд.

— Платон-он! — раптам пачуў ён у дваровым акне.

То быў Лукаш Цяўе…

Платон раптам азірнуўся да акна і, забыўшыся аба ўсім, што думаў, адказаў:

— Я! Іду вось!

І тут жа адзеўся ды намерыўся ісці. Але, зрабіўшы колькі крокаў да дзвярэй, Платон вярнуўся, падышоў да мацеры, зазірнуў ёй у твар і, бачачы, што яна нібы суцешылася крыху, падумаў: «Авось, можа, ды ёй лягчэй стане. Заскочу да Глытваў і папрашу каго-кольвечы зайсці пераначаваць». Падумаў так і выйшаў з хаты. Газніцу аставіў гарэць.

— Лукаш, — пазваў ён таварыша.

— Я тут! — азваўся Лукаш.

— Пачакай толькі крыху, я яшчэ… — папрасіў Платон і, стаўшы на прызбе, прытуліўся вухам да акна.

— Чаго ты прыслухоўваешся? — запытаў Платона Лукаш.

— Маці, брат, мая моцна занядужала; я вось слухаю, ці…

— Як! Калі? — пацікавіўся Лукаш.

— Сённека… Я прыйшоў з рэўкама і застаў яе лежачы… А тут яшчэ бацькі няма ўдому, і я не ведаю…

— Дык чаму ж ты так настайваў, каб ехаць? Як жа ты кінеш мацеру адну? Ці ж бы Тамаш, або Паўлусь, або Бэрка не паехалі?

Платон памаўчаў, стоячы на месцы: штосьці трымала яго ў двары, як прыкаваўшы да зямлі.

— Я і сам не ведаю, што рабіць, — спусціўшы колькі часу, сказаў Платон. — Не паехаць — здрадзіш рэвалюцыі, нарушыш дысцыпліну і… бачыш, як думаюць другія. А паехаць — можаш мацеру пахаваць… Каб то ведаў, што не так спешна — пераначаваў бы і заўтра…

— А мо ёсць каго папрасіць, каб пасядзелі каля мацеры? — спагадаў далей Лукаш Платону.

— Няма такіх… Вось хіба адны Глытвы; я ўжо думаў зайсці да іх… Хадзем…

Яны выйшлі з двара і павярнулі направа. На вуліцы было ціха. Толькі ў рэдкіх хатах свірэў агеньчык; большасць мяшчан спалі, каб заўтра з раніцы ісці на жніво. Дзесь у канцы вуліцы бразчэла варта і свістаў свісцёл патруля.

Платон з Лукашом моўчкі прайшлі невялікі кусок, мінуўшы хат са тры.

— Чакай, Лукаш, я зайду да Глытваў: яшчэ не спяць, — папрасіў Платон таварыша, супыніўшыся ля чацвёртае хаты.

Лукаш прысеў на прызбе, а Платон пайшоў у двор.

— Я скора, — падаў з двара Платон і стукнуў дзвярыма.

Лукаш падняўся з прызбы і адышоў на вуліцу.

«Цікавы ўсё ж гэты Платон, — разважаў ён, уваходзячы ў становішча таварыша. — Гэткае заблытанае становішча ў хаце, а рвецца, першым пражэцца адгукнуцца на прызыў. Вось дык натура! Пашукаць! Нераўня гэтым… Каб гэткіх ды больш! Го… Тады б можна было свет перавярнуць. Столькі пэнту, адвагі! Мне — дык проста пазавідаваць…»

Лукаш прайшоў некалькі разоў каля хаты Глытваў і зноў намерыўся прысесці на прызбе, як раптам пачуў:

— Лукаш?

— Я! — адгукнуўся Лукаш, рушыўся ісці.

— Дык едзем, брат. Прузына Глытвіха згадзілася дагледзець мацеру, — заспакоеным тонам выказаў Платон. — Добрыя, ведаеш, людзі, гэтыя Глытвы. Ніякія сваякі — а заўсёды адгукнуцца, калі трэба.

Яны спешным крокам пайшлі ўздоўж вуліцы. Якраз каля рэўкама Платон з Лукашом спаткалі Яўхіма. У цемнаце ночы ён пазнаў іх і абазваў:

— Таварыш Платон! Таварыш Лукаш! Гэта вы?

— Мы, — адказаў Лукаш, — а ў чым справа?

— Я спяшу па вас. Ужо прачакаліся. З паўгадзіны, як коні гатовы…

— Прачакаліся-а! Паспеюць, — адказаў Платон.

Усе ўтраіх пайшлі ў рэўкам. Слабое святло ў вокнах быўшай мяшчанскай управы, а цяпер рэвалюцыйнага кутка мястэчка, клала святляны нарыс акна на паламаныя платы гародчыка. Раз-поразу мігалася між акна чалавечая цень.

— Падводчык ужо нарыхтаваўся якраз, — выказаўся Яўхім, калі яны падышлі да рэўкама, — і ў канцылярыю не хоча зайсці; неадступна стаіць ля каня ды вас чакае.

Яны прайшлі між невысокага росту, у зімовай шапцы і паўшубку, з пугаю ў руках, чалавека, які штосьці парадкаваў на возе.

— Ці не вы паедзеце са мною? — запытаў ён, калі яны прайшлі ў двор і сталі паднімацца на ганак.

— Зараз, зараз, — адазваўся Яўхім і прачыніў у рэўкам дзверы.

У рэўкаме Платон з Лукашом засталі толькі прыезджага таварыша з Тамашом. Прыезджы сядзеў пры стале на зэдліку, а Тамаш тупаў па хаце. Чутно было знадворку, як яны вялі аб нечым гарачую гутарку, але перарвалі яе ў тую хвілю, калі прачыніліся дзверы.

— Ну, вось і гатова. Зараз можна ехаць, — сустрэў увайшоўшых Платона, Лукаша і Яўхіма Тамаш.

— А мы ўжо тут прачакаліся, думалі, што вы не прыйдзеце, — дадаў ён.

— Дарэмна думалі, — адказаў Платон.

— Ды не без рацыі, — уставіў Лукаш. — Платону зусім нельга ехаць.

— Чаму? — зацікавіўся прыезджы таварыш.

— А таму, што яго маці зусім хворая. На добры лад яго трэ было б замяніць другім. Я не ведаю, чаму гэта ён так упарта…

— Выбачай, Лукаш, — пераняў Лукаша Платон, — раз ужо ўсё вырашана — значыць, годзе. Рэвалюцыя не павінна цярпець ад таго, што ў мяне баліць што або ў сям'і якое няшчасце; мы мусім аддавацца ёй да апошняй мажлівасці.

— Я ведаю, толькі… у нас можна абысціся. Каб то які раптоўны выпадак, калі ўсім трэба станавіцца пад ружжо, тады,

я разумею, не павінна быць ніякіх адгаворак… А ў нас справа ідзе ўсяго аб двух таварышах, каторых якраз ёсць мажлівасць выбраць, апрача цябе…

— Не, годзе, Лукаш, — настойчыва прамовіў Платон, — ты не разумееш становішча. Тут патрэбны людзі не як людзі, а найболей сталыя, цвёрдыя і шчырыя рэвалюцыянеры. Хто не можа расстацца з самотным жыццём, з яго патрэбамі, той не патрэбен на адказным месцы. Кожны момант ён можа здрадзіць, і ад гэтага пацерпіць агульная справа. Вось што, таварышы! — абярнуўся Платон да ўсіх. — Я толькі аднаго прашу: няхай рэўкам дапаможа маёй мацеры, калі з ёю будзе кепска. Хоць пакуль бацька вернецца з абозу.

— Тамаш, гэта я даручаю табе! — абярнуўся прыезджы таварыш да Тамаша. — Рэўкам павінен узяць апеку над мацераю таварыша Гічкі. Таксама павінны пасобіць і бацькам таварыша Лукаша. На тваю, Тамаш, адпаведнасць… А цяпер — пойдзем, хлопцы. Ужо позна, а нам трэба раніцаю быць у павеце.

Усе разам рушылі ў дзверы.

## VII

У павеце Платон дастаў назначэнне ў Горадню. Некалькі разоў камітэт партыі абгаварваў яго кандыдатуру, то мерачыся даць працу ў валасным размаху, то ў павятовым. Перш пастанавіў паслаць Платона ў Слонім, разам з Лукашом, а пасля гэта перарашыў і спыніўся на Горадні. Недастача работнікаў і вялікая патрэба ў іх заставілі камітэт пашкадаваць Платона для павета. Ды к гэтаму яшчэ прывёзшы яго таварыш даў пахвальны водзыў аб Платоне як разумным чалавеку і, галоўнае, як шчырым рэвалюцыянеру, адданым камунізму таварышу.

Атрымаўшы гэта назначэнне на другі дзень па прыездзе ў павет, Платон быў вельмі палішчаны гэтым высокім давер’ем да сябе з боку вышэйшае ўстановы партыі. Думкі і клопат аб хворай мацеры, з якімі ён выязджаў і аб чым несупынна паведваў ехаўшым з ім таварышам, разрэдзіліся, аслабелі ў сваёй натужнасці і пачалі згладжвацца. Платону сталі маляваца розныя планы яго наступнай работы, зарадзіліся вялікія казачныя сама-заданні. Горадня з губернскім размахам работы, новая, амаль не пачатая глеба для рэвалюцыйнага будаўніцтва, самы характар яго ў гарадскіх абставінах узнімалі Платона да натхнення. Ужо не было ніякага сумнення ў сваіх сілах і здольнасці. Шырокае поле абяцала выявіцца ўсёй яго шчырасці, усяму пэнту і гара-

чнасці, для якіх малы быў размер местачковае працы. Платон з усёй палкасцю хапіўся за сваё назначэнне, цешыўся і разам баяўся, каб якія-колечы староннія выпадкі не папярашкодзілі яму яго ажыццявіць.

З гэтае прычыны Платон на другі дзень пасля пастановы камітэта не дбаў ні аб чым, толькі б хутчэй выбраць усе належныя паперы і рушыцца ў дарогу. Не снедаўшы, пасля маласоннай, патрачанай на разважанне і планаванне прадстаячае працы, але памятнай для яго ночы, Платон пабег у камітэт за мандатам. Каля дзвюх гадзін прамарудзіў там, пакуль сабраў пагрэбныя подпісы. Пасля з мандатам пайшоў за харчамі і грашыма на дарогу. Дзеля гэтага таксама змарнаваў каля трох гадзін. Утаміўся, аслаб, пазлаваў на многіх і з многімі паагрызаўся.

Пасля свайго назначэння Платон яшчэ шчырэй пачаў глядзець на абавязкі рэвалюцыянера і каразлівей адносіцца да іх. Калі раніцай ён і мог дапусціць некаторую няспешнасць, то цяпер яму кожная хвіліна, кожны міг важыліся на кошт золата. Чакаючы подпісу мандата ў канцылярыі камітэта ці просячы харчоў, гневаўся на кожнага таварыша, хто не па-ягонаму варушыўся за работаю. Дынамічнасць, рухавасць, якія даходзілі ў яго да нервовасці, Платон хацеў бы перадаць кожнаму, з кім даводзілася яму мець справу. Ён разлічваў ноччу, што яму прыйдзецца патраціць на выбарку дакументаў і ўсяго іншага для камандзіроўкі, ну, гадзіны дзве — не болей. А тут аказалася страта цэлага дня! Гэта вельмі яго абурыла. Платон не хацеў супакоіцца і казаў сам сабе: «Ну, я не так наладжу работу ў сябе! Яна пойдзе ў маім ведамстве, як машына. Дзе што намерыцца мітрэнжыць яе ход — тое выпеку агнём. Тут мусіць быць рэвалюцыйная рашучасць…»

Гэту сваю самаўцеху Платон пераліў у настойную рашучасць, калі выведаў на станцыі чыгункі, што прапусціў цягнік, з якім меўся ехаць. Ён адышоў з эшалонам чырвонаармейцаў якраз у той час, калі Платон тырчэў за харчамі. «Навошта яны мне былі, — наракнуў Платон сам на сябе. — Гэта ж — ах! — шкурніцтвам пахне! Нельга мне гэтага… даравацъ… Сказаць сорамна! Там кожная хвіліна дзясяткі жыццяў каштуе, а я тут за кавалак хлеба і фунт цукру дні трачу. Навошта ўсё гэта? Нашто тая валакіта? Два дні чакаць! Два дні — гэта ж вечнасць… Ці ж магчыма іх так карысна ўжыць, як то б я зрабіў у Горадні?»

Ад ахапіўшай яго зласлівасці Платон не мог крануцца з месца і з гадзіну стаяў на станцыі. Глядзеў то ў адзін, то ў другі канец чыгункі, кідаў узрокі за лес, за горы, змяраў запасныя

пуці — усё шукаючы цягніка ці хоць бы дыму, які б сведчыў, што гэты цягнік дзе-кольвечы гатуецца да адыходу. Некалькі разоў дапаўняўся ў каменданта станцыі, ці праўда, што чародны выйдзе толькі праз дзень. Змяраў у думках адлегласць да Горадні, думаючы пра коні… У гэткім неспакойлівым, парушаючым настроі Платон адышоў ад усяго на свеце: як бы ўвесь свет жыў для яго ў Горадні — не той, бач, што была на соткі вёрст ад яго, а ў той, дзе будзе ён наладжваць сваю рэвалюцыйную працу. Каб у гэты момант хто асмеліўся сказаць Платону, што адна асоба наогул мала пасобіць у справе супольнай творчасці, то ён знарок, насупроціў філасофіі марксізму, крычаў бы настойна, што яго асоба як шчырага рэвалюцыянера не роўна другім. Сказаў бы і падмацаваў гэта многімі прыкладамі з свайго багатага жыцця…

К вечару, спусціўшы гадзіны тры пасля звароту са станцыі, Платон патрошку супакоіўся. Усё роўна яго абурэнні траціліся задарма, як гаснуць іскры ў паветры. Колькі ні злуй, колькі ні нервуй — цягнік пойдзе толькі на другі дзень. «Як жа быць з гэтым часам?» — выявіў сабе Платон паспелую ўнутры, падбіваўшую яго на абурэнне, думку. І толькі крануўся таго, як яму будзе правесці вольным да ад'езду час, як раптам, быццам хтось жывасілам яму паднёс гэта, Платон ахапіўся ўспамінамі аб хворай мацеры. Ён здрыгануўся ад гэтае балючае раптоўнасці, хапіўся рукамі за галаў і чуць не ўскрыкнуў — не то ад сполаху за лёс мацеры, не то ад радасці, што ў яго асталося столькі вольнага часу, каб можна было і наведаць яе. Як і што сталася з мацераю за гэтыя два дні? Ці выздаравела яна, ці яшчэ ляжыць хворая? Калі ляжыць, то як там са жнівом? Пэўна, жыта пераспела, паклалася ды травіцца гавядаю? Каб жа бацька вярнуўся, то яшчэ б паўбяды, а то, можа, і яго няма. Што ж тады яна будзе рабіць? Ні аставацца ўдому, ні ехаць?

Гэтыя трывожныя пытанні вострымі мячамі праразалі Платонаву душу, як расплаўленае жалеза, капелькамі падалі ў яго сэрца. Хвіля ад хвілі ён трапятаўся ўсёй істотаю ад нейкага балючага ўздрыгу, натужваў думкі, кідаючы іх праз дваццаціпяцівярстовую адлегласць у сваё мястэчка і ловячы выабражэннем выгляд вобраза свае мацеры. А поруч з гэтым настойная, неўкантактоўная прага як найхутчэй апынуцца каля яе гнала яго ў дарогу. Платону не ішло ў голаў ні аб ядзе, ні аб некаторых яшчэ не вырашаных справах, звязаных з яго назначэннем. Паспяшаючы, як перад трывогаю якою, ён аднёс паёк, атрыманы на дарогу, да Лукаша і, не хочучы пытаць падводы, пехам пусціўся дахаты.

## VIII

Платон не ішоў, а бег усю дарогу. Не аглядаўся назад, не лічыў слупоў ад тэлеграфа. Уваходзіў у ляскі і пералескі, не прымячаў ні ценю, ні дрэўцаў. Спатыкаў фурманкі ці пешаходаў, бадай іх не заўважаў. Вёскі, якія стаялі пры гасцінцы, не прыкмячаліся яму. Праз увесь час, пачынаючы з павета, Платон бачыў перад сабою жоўты пясочак ці засохлую гліну гасцінца. Апусціўшы вочы, ён выбіраў гладчэйшыя мясціны і, як заведзены калаўротак, мянціў нагамі. Тулавам падаваўся ўперад і матаў праваю рукою, як бы разганяючы паветра, каб лягчэй было ісці, каб скараціць дарогу. Часта дыхаў, але ўсё яшчэ недаволіўся скорасцю хады. Платон глядзеў на час, і яму кожная хвіліна здавалася днём, а то і больш.

Прайшоўшы палову дарогі, ён страціў каля дзвюх гадзін, а яму здавалася, што дарога адняла ў яго больш за паўдня. А чым бліжэй падыходзіў да свайго мястэчка, тым час здаваўся даўжэйшым, і руплівасць узмацоўвалася. Пачало паколваць у баку, і тысячамі іголак парола ў пяткі ног, па скронях твару беглі рагі поту, убіраючы ў сябе пыл і робячы брудныя пасачкі на шчоках. Але Платон не зважаў, ды не мог ён зважаць, бо ўсе думкі прыбрала да сябе хада, і ім не было мажлівасці адвярнуцца на другое. Уперадзе яго, як маглі захапіць апушчаныя пад простым кутам вочы, стаяў вобраз мацеры, цёмны, невыразны, які бег ад яго, уцякаў і, уцякаючы, цягнуў яго за сабою.

Толькі на краі свайго мястэчка, пры карчме Міселя, а шэрай гадзіне Платон адняў ад зямлі вочы і агледзеўся, дзе і што ён. Тое, што нарэшце ён быў дома, зусім недалёчка ад хаты, усё ж не завесяліла яго і не спыніла ў разгоне. Платон спяшыў роўным тэмпам, дзівячы стрэчных мяшчан.

У пяць хвілін ён перайшоў Прадоўжную вуліцу і апынуўся каля хаты. Павярнуў у двор, акінуў яго поглядам, шукаючы адзнакаў бацькавага прыезду, і, не знайшоўшы іх, зразу ж спусціў гэта з думак і кінуўся ў дзверы.

Ужо ў сенцах Платон пачуў ажыўленую гутарку ў хаце. Яго сэрца забілася мацней і балючай; ахапіў жар, зараіліся страшныя мыслі. «Ці не якое няшчасце з мацерай?» — мігам устала перад ім вострае жудаснае запытанне. Ён не чуў, як адчыніў дзверы ў хату і пераступіў парог.

— Вось і Платон! Якраз у пору! — сустрэў яго голас Кандрата Плота. — А маці ўжо думала, што ты і не наведаеш.

Некалькі жаночых галасоў падмацавалі яго словы.

— Чаму, што? — запытаў Платон, шукаючы вачыма маці.

Юзя, якая сядзела на палку ў запечку, раптам загаласіла наўзрыд.

— Мама, мама, чаго вы? У чым рэч? Вам цяжка? Вы… Даруйце, што не застаўся, я мусіў ехаць, я павінен быў ехаць… — кінуўся яе суцяшаць Платон.

— Платонка-а мой, сынок мой. Мне мо і нічога, я буду жыва… Але… На-ашага бацькі-ы няма ўжо-о. Памёр пад Ваўкавыскам ад тыфусу… Вось Кандрат сам бачыў… Што ж я цяпер буду адна рабіць?.. Хоць ты не едзь, хоць ты… Нашто табе больш за ўсіх…

Юзя не магла выгаварыць і апусцілася на пол, стукнуўшыся моцна локцем аб печ.

Платон не мог падтрымаць яе. Цяжкая жаласць раптам спаралізавала ўсе яго сілы. Ён апусціў моўчкі голаў і спагадліва праказаў:

— Вось табе і раз!

*1923*

## ПРЫСАДЫ

### I

Цікавая, незвычайная была зіма — зіма ў 25 годзе! Старыя не памятаюць, дзівяцца, пацепваюць плячыма.

Што гэта? Адкуль яна? Дзівы дзеюцца ў свеце! Ды балюча к таму: выехаць нельга ў дарогу. Мала яе здараецца — людзям некуды і незачым ездзіць, але зрэдку трэба. Трэба — бо свет не стаіць, а жыве, варушыцца, рухае, трапеча.

Так — сягды-тагды здараецца ў падводы, але асмелься — каняку змардуеш нашчэнт: глей, смала! Па калодкі калёсы лезуць у зямлю. Пуд аўса на трыццаць вёрст, а коні на сене — каб танней абыходзіліся гаспадарству. Пярэкарма — толькі для гною ды яшчэ каб клопату не было вясною. Прывык, прынаравіўся, падладзіўся, агойтаўся. Адыходзіцца, глядзіць і нават шануе. Куды ж пагоніш небажатку?

Без дроў акідаецца: добра, што сівер не пранізвае старых хатак — ці ж можна гнаць за дзесяць, за дваццаць вёрст па сырую асіну, па ламяйко. А пакуль у лес, яшчэ да ляснічага вёрстаў пяць убок зрабіць, часамі дарэмна, бо няма дома. Столькі турбацыі паложыш — а скутак? Шкада выехаць з хлява, і трэба доўга думаць, як лепш, ехаць ці не ехаць.

Нарэшце — ехаць: што заробіш — добра.

Праца не валяецца на дарозе.

І гразотаю, і слякотаю — едуць: вязуць камісара ў раён ды на акругу, адвозяць сына-вучня на станцыю, развозяць трапунковае начальства — яго і ў правінцыі нямала: мерае поле, вывучае вёску.

Па сценках, па гасцінцах, па шляхах лёгкаю ступою поўзаюць рэдкія падводы ад вёскі да вёскі, ад сяла да сяла, з сельсавета ў саўгас.

Днём і ноччу…

Днём падувае лёгкі густы вецер з поўдня к захаду, ганяе рэдкія палавыя хмары. Выскальваецца неба нясмелым сонцам, якое спрабуе грэць, мацае зямлю, ужо вызвеўшую, ужо падсохлую, трапяткім праменнем, але не грэе. Шэрыя палевікі-птушкі гацаюць па раллі, па межах, зімою — зімою 25 года, якое не помняць старыя, — незвычайнаю…

Прабягае жарабіца ў ператоч вузкіх і доўгіх палеткаў.

Бярозы па шляху, рэдкія, стагоднія, не шумяць нудлівым шэптам асенняе мелодыі — пазіраюць на вясну. Ні разу ў годзе не бранчалі цаплякамі галалёду, не маталіся махрастымі ніткамі шэрані.

Дзень ада дня — пускацьмуць сок. Набрыняўшы — чакаюць, калі прасвярдлуе дбайная рука селяніна яе белае цела.

Дзень ада дня, абы больш прыгрэла сонца, абы…

Гэта зімою, зімою 25 года, якое не помняць старыя, незвычайнаю зімою.

Ноччу ў гэту зіму, як у сопусе; цалуном туліцца зямля; зліваецца ўсё ў густую сажу-фарбу — ні дарогі, ні следу. Дзе лес, дзе гал — воку не ўлавіць.

Але жыццё не стаіць — рухае, трапечацца, плыве, як крыніца, б’е пад зямлёю, хоць схована ад святла…

Коні бачаць дарогу.

Ды ці ўпершыню Астапу ехаць па службе? Ходзяць чуткі — а ласне сам не знае, што ўсё яшчэ вандруюць ліхія людзі: крымінальнікі, бандыты-зладзеі. Колькі іх вылавіў — у лесе каля Ронцавіч, у фальварку Падвілле, у засценку Грабы; могуць напаткаць пры мосце на грэблі, у хмызняку Паўднёўскіх… З-за кожнае бярозы можа пальнуць, прыпільнаваўшы. Ды што ж, гэта выпадак, ён сцеражэ людзей, кожнага чалавека — усюды, усюды. Можа, яго, Астапа, начальніка раённай міліцыі, пільней за другіх, — не баіцца.

Набіты сямю дранкулямі рэвальвер кольт — пры боку. Муляецца — дае веды аб сабе. Настарожанае вуха разбірае кожны

шэпт, малейшы шорпат, ціхі гук. Навучыўся Астап вынаходзіць сябе ў розных абставінах. Адучыўся палохацца — сапраўды, ці ж бы гэта пасавала яму, маладому, браваму начальніку раённай міліцыі?

Сёння рэйс незвычайны; вязе старшыні райіспалкома, які зараз тварам да вёскі, дакладны рапарт пра свае поспехі: наскочыў на след шайкі разбойнікаў-крымінальнікаў. Умела і спрытна падышоў да маладое шляхцянкі Вікці ў засценку Процьма, і тая выказалася, дзе і што і калі гэту шайку будзе можна злавіць. Заўтра а дзясятай гадзіне будзе нарада ў райіспалкоме.

А пакуль Астап мяркуе сам, як і што будзе лепш і вярней іх злавіць.

Ноч, цёмная, абгарнутая цалуном, ноч зімы 1925 года. На шляху маўкліва, як ветэраны, стаяць бярозы. Штогод — іх менш ды менш.

Ужо мясцінамі — пні. Індзе — і пнёў няма — гала, пустая шырокая дарога. І чамусьці сіратлівая без бяроз, непрыветная, перацятая болем…

А калісь?

Астап перабіў думку пра бандытаў і вярнуўся да бяроз. Ездзіў калісь — роўнаю сцяною, шнуркам стаялі бярозы ў два падвойныя шэрагі ўсцяж гасцінца. З дому відны былі і цягнулі да сябе, кудысьці далёка на поўдзень.

Летам — зелянелі, зімою — шаранелі. Зімою тулілі шырокі шлях ад снегу. Зацішна, калі ехалі ў мяцеліцу. Пасля — вайна; хапіліся за бярозы. Куды там — людзей не шкадавалі! Нарабілі плехаў, зглумілі шлях, прысады.

А з таго часу — украдкаю, патрошку, сягды-тагды, вёска за вёскаю, нападалі на бярозы.

Глядзіш — то там, то тут свежы нізкі пянчук. Галяйко падабрана, сляды прытаптаны. А ўверана — вось гэтая ці тая вёска прылажыла руку над бярозаю.

Ёсць закон бараніць прысады, а ўбарані папрабуй! Не паставіш жа знарочыстае варты. Ды ў гэту зіму, у зіму 25 года, калі нельга далёка за дрыўмі паехаць, завярэдзіш каня.

Усё ж шкада шляху, як бы там ні спагадаў людзям.

Успомніў Астап: «Ага, ёсць жа праступак наконт гэтага: пазаўчора за Круполай павалілі дзве бярозы. Асякоўцы, вядома. Стралялі міліцыянеры, гналіся па слядах, не кончылі справы. Трэба выясніць да канца. Не пакіну — не ў маёй натуры. Знайду канцы!» Паглядзеў Астап угору і памеркаваў: каб хто сек у

момант, калі ён едзе, бахнула б бяроза якраз яму на воз. Расхрабустала б яго і каня.

Прыслухаўся, ці не чутно падазроных зыкаў. Абапал — маўчала…

Але ўперадзе, далёка ад яго, раптам бліснуў малюткі агеньчык. Мэрам бы хто запаліў сернікі і хутка кінуў.

Следам данеслася некалькі ўдараў, глухіх, умела скрытных.

Як ляжаў на локці, галавою ў палукашак, так і прыўстаў Астап. Настаражыўся, сашчапіў у жмені ручку кольта. Падумаў, памеркаваў і выстраліў у бок затушанага агеньчыка.

Стрэл пранёсся і ўзад і ўперад, скалануў бярозамі, як той віхор, аддаўся ва ўсіх баках, разрываючы цемер. Управа — адгукнуўся зычным рэхам, мэрам бы хто адстрэліўся.

Астап азірнуўся навакол, прыслухаўся: калёсы ціснулі мяккую глыбокую гразь, шоргаючы па ручках драбін; конь шлёпаў у калатушку блізка па калені. Улева — скрыпела бяроза.

— Тпру-у-у, гнедка-а.

Стала вельмі ціха. Уперыўшыся вачмі ў той бок, куды ехаў, Астап сіліўся разгледзець што-небудзь. Прыжмурваў вочы, нахіляўся, касіў голаў, падаваўся ўперад, пасля адышоў са шляху на поле, каб не засціла нічога.

— Ліха яго ўбачыць, што ў гэтай цемні, — матнуў рукою.

Чамусьці каняка чмыхнула, натапырыла вушы. Астап сумеўся і яшчэ паглядзеў, — мільгнуў дзесьці далёка-далёка ўправа трапяткі, цьмяны агеньчык.

— Падаліся, гады, к лесу. Так ціха! — Пакруціў галавою. — Вось і злаві ты іх… Але пачакайце!

Успомніў, што там пасёлак Глушакі.

— Га-а-а! то работа глушакоўцаў! Я ім пакажу. Я на іх раптоўна наскочу, неўспадзеўкі — не апамятаюцца…

Пагнаў каняку, думаючы: заўтра субота, адвячоркам павячэраўшы заеду.

— Но-о, малая!

Прысеў на драбіны і ўжо не прылёг на локаць правае рукі, а пільна глядзеў на левы рад бярэзін, каб высачыць свежы пень. Праз пяць-шэсць бяроз стаялі карчы, чорныя, аднакія. Хто іх разбярэ ў цемрыве, каторы свежы? Каля мастка Астап выскачыў з воза і падбег да двух карчоў, угледзеўся, абмацаў рукамі. Абодва мелі форму танклявых спіцукоў, абсечаных, ацятых дарэшты; вакол аднаго валяліся трэскі, яшчэ свежыя.

Сціснуў плячыма Астап:

— Цяжка з дрывамі. Пакутуе насяленне — шукае дроў. Ну, як ты ўсцеражэш прысады? Лесу няма — вынішчылі, дроў недзе дастаць. Сякуць, крадуць бярозы. Зразумела — іншага скутку няма… Хоць бы тая дарога, а то…

Што за зіма! Незвычайная, няўпамятная, нудная зіма, зіма гэтага года! Нікуды не падаецца. Гразота-брыдота, дастань тых дроў!

Вярнуўся на воз, прысеў, ужо кінуў сачыць, а стаў планаваць ды судзіць:

— А што, няхай бы секлі, хоць бы і гэтыя бярозы. Новыя патрэбна насадзіць, маладыя, свежыя. Вось хай адно акрыяем крыху, заменім шляхі шашою. Абсадзім маладымі прысадамі. Даць людзям на ўмову: сячы пару бяроз, засадзі гоні маладняком. Можна і садовымі дрэвамі. Што ж у гэтым за хітрасць? Якія труднасці? Падумаць!

Успомніў, калі быў у плене ў Прусіі.

— А ласне нельга зрабіць так, як у немцаў? Абсаджаны дарогі яблынямі і грушамі, выбрукаваны, ашашованы, — люба-дарага. Стаць бы на ногі — і тое самае ў нас. Павязаць мястэчкі і сёлы добрымі дарогамі, абсадзіць іх.

Плюнуў Астап і шэптам вылаяўся:

— І хвароба яго ведае, гэтае праклятае царскае правіцельства: што яно рабіла, каб правесці культуру? Жарты-ы! Нідзе нічога. Выпадковыя кавалкі шашы пабудавала, а ўсюды — адвечныя, натуральныя дарожкі… Совайся, селянін, як хочаш.

І ўскрыліла ў Астапа думка.

«Вясною на свой страх і на сваю адказнасць прымуся за абсадку шляху маладымі прысадамі. Троха жыхарства, троха міліцыянеры, троха вучні… Высаджу на ўсім раёне. Можа, некалі ўспомняць… Заўтра скажу прадсядацелю».

Пад'язджаў да мястэчка — загрукацелі калёсы па бруку.

## II

У каморцы — голы забруджаны стол, два столікі побач. У чарцы з вышчарбленым берагам — згушчанае чарніла; асадка паколатая, а ў ёй заржаўленае пёрка.

На пашарпанай сцяне — Ленін, насупроціў — Чарвякоў. Чуць -чуць відаць. На вушаку дзвярэй — абрэз на рэмені. Дзверы — без клямкі, фортка да форткі не даходзіць на вокнах — акуркі цыгарак, скрыначкі ад папярос. ГТФ — на чырвані.

Кабінет начальніка міліцыі раёна.

«Начальнік раённай міліцыі», прыгледзеўшыся, прыкмеціш над сталом.

Старанна выведзены літары чырвонаю фарбаю, абведзены сіняю.

Астап прыйшоў, панюхаў паветра:

— Ніколі не выветраць, сукіны дзеці. Ну і народ! Хоць у хляве пасадзі — сядзецьмуць, і не ўшманкі.

Хацеў адчыніць фортачку і забыўся, што іх няма ў вокнах. «Трэба зрабіць», — рашыў і сеў за сталом.

Палажыў тоўстую папку з дзяламі. Колькі іх, у шэрых, у сініх, у жоўтых вокладках? Пачаў перакідаць дзела аб бандытах.

— Пайду да прадсядацеля.

Палажыў дзела наверх і пачаў завязваць кончыкі папкі.

Абдумоўваў план гутаркі з прадсядацелем.

— Можна? — стукнулі ў дзверы.

— Уваходзьце!

Адчыніліся дзверы, і ў кабінет увайшло двое сялян, адзін міліцыянер.

Астап паглядзеў і запытаў:

— Якая справа?

Сяляне пераглянуліся і змаўчалі.

— Гэта тыя, таварыш начальнік, што ссеклі бярозу на шляху з вёскі Асякі. Тояцца — не мы, не мы.

— А ты ў іх знайшоў бярозу?

— Вядома.

Астап абярнуўся да сялян:

— Ну, мужчыны, дык чаго ж таіцца, высеклі?

— Дальбог жа, не, таварыш начальнік… — адказаў старэйшы, гадоў за пяцьдзясят дзядзька.

— Як то не, калі нашлі…

— Падкінулі, нехта ноччу, злы быў, і падкінуў… А каб мы самі — няхай нас…

Малодшы маўчаў, трымаўся; няпэўнасць у тым, што казаў сусед, — трывожыла…

— Ды хоць бы вы ўжо не хлусілі, мужчыны. Навошта вам займаздароў вочы заліваць… Нехта падлажыў! Хто вам падложыць? Пасаромеліся б, нарэшце.

— Дальбог, праўду кажу… Нічыпар, мо я хлушу? — стары запытаў суседа.

Той нічога не адказаў, яшчэ больш нахмурыўся.

— Кінь, Даніла, хлусіць. Хто сазнаецца, што ты праўду кажаш…

— Папытайце Нічыпара.

Астап сур’ёзна паглядзеў на худашчавага, дробнага, безбародага чалавечка.

— Нічыпар, кажы праўду: у вас няма дроў і вы высеклі дзве бярозы ў прысадах?

Той памяўся. Апусціў ніжэй голаў.

— Ды ўжо ж яно — высеклі. — І, крыху памаўчаўшы, пайшоў на ўбачэнне, даводзячы аб сваёй невінаватасці. — Ведаю добра, што ўчынілі праступак. Не гадзіцца цяпер гэта рабіць — у саміх сябе крадзем. Але, паверыце, я мусіў пайсці на гэта: два вянкі зняў з хлевушка, мерзне гавяда ў засадзе, а дзеці — у хаце. Ну, куды ты кінешся з біткаю: ні калёс, ні збруі, а дарога — гразь, брыдота, гэткая зіма — ніхто не запамятае! Дзе ж тых дроў возьмеш?.. Высеклі, высеклі… Сгралялі ў нас, а мы ўцяклі. А як жа інačай?

— Чуеш, Даніла?

Ухмылка па мяккім, хітраватым твары, палахлівая, злая да Нічыпара ўхмылка; стары развёў рукамі — сорамна глядзець у вочы Астапу, — не сярдзіты зусім, дабрадушны таварыш начальнік, чаму трэба было таіць ад яго свой праступак?

— Давялося, таварыш начальнік, паверыце, давялося; не таю, мілы таварыш…

— А чаму адпіраўся?

— Чаму?!

Даніла не ведаў, што казаць, нервова мяў шапку ў руках, сарамліва нік поглядам. Выручыў Астап:

— Лепш позна, як ніколі. Дагадваюся а прычыне, але ці ж можна красці, прысады красці? Помніце, як міла было калісьці глядзець на стройны рад бярэзін? Шнурам, як войска, роўныя, белыя, струною цярэспаля. Летам — цень, зімою — зацішша. Цёмнаю ноччу — не зблудзіш. Цягнуць міжвольна недзе далёка. А вы — бераце і сечаце. Як магла ваша рука падняцца, дзядзька?

— Таварыш начальнік казаў праўду — нельга, няма чым адказваць, але… бяздроўе. Паверыце, толькі бяда напірала, недахопы вадзілі рукою. Сек, а сэрца траслося. Пала — і я затросся ад болю. Ды што ж парадзіш — дзеці трасліся ў хаце, зварыць бульбы не на чым, вады сагрэць… Куды паедзеш гэтым часам?.. Зіма незвычайная, небывалая, ліха ведае, якая зіма, зіма ў гэтым годзе!

— Дрэнна і кепска, дзядзька. Пакараем судом.

— Ды ці ж мы адны сяком? А глушакоўцы, а нізаўцы, а сухоўцы? Гора гоніць.

— Будзе і ім.

Нічыпар, маўчалівы, скрытны, здаваўся перад словамі Астапа: не ўшчуе па-начальніцку — таварыскі гутарыць. Праўда, саграшылі, скрыміналіліся. Ці ж выпраўвуе што? Нічым не правы… І балюча — дагэтуль ні ў чым не ўлічаны, не заплямены. Перадавіком слыў — а тут…

— Таварыш начальнік, усё роўна бярэзін не аднавіць… Скрыміналілі — але ручу, што больш не будзе, — даруйце… Ведаеце — я адплачу віну дзяржаве…

Міліцыянер уголас засмяяўся:

— Чым? Адседкаю?

— Пастой, пастой! — перабіў Астап.

— А тым, што я ўвесну, першым дзелам, усё забыўшы, засаджу гоны шляху маладымі прысадамі. Хай толькі вызвее зямля, пададуцца сокі, і я кіну-рыну хату — пайду на дарогу. Дзень, два, нават тры дні патрачу, а засаджу. Бярозкамі, хочаце — елкамі, можна клёнам ці каштанам…

— Дастанеш — зробіш!

Міліцыянер зноў зарагатаў.

— А зраблю, клянуся, што зраблю… Ахвяруюся — дайце паперу… Няўжо, думаеце, збягу дзе-колечы? Удвойчы наложыце штраф, калі толькі падвяду вас…

— І я бяруся гэта зрабіць, — дадаў Даніла. — Вазьмеце на ўчот, адмецьце і тады — штрафуйце ўдвойчы, утройчы…

— Гм! Не хлусіце? — выпрабаваў Астап.

І тут жа памеркаваў: а можа, і чэсныя людзі… Што з іх возьмеш, апроч кары? А бярэзіны — адновіш? Людзям сапраўды прыпёрла, прыціснула, вядома. Ану ж выпрабаваць: няхай двое ганоў пасадзяць маладняку.

Даў умовы:

— Штрафую абодвух, — на пяцьдзесят рублёў. Пасадзіце двое ганоў — здыму, а не — яшчэ набаўлю… Павал, напішы штрафную, хай распішуцца… Калі не высадзяць прысад — сышчу з пеняю ў сто працантаў. Чуеце?

— Ці ж мы будзем хлусіць? — выказалі сяляне разам і так шчыра, што Астап не сумняваўся ў іх словах… Усё ж даў распісацца на штрафной.

— Помніце — і ідзеце.

Сяляне пакланіліся, развіталіся.

Услед пайшоў міліцыянер.

Астап задумаўся:

— Пастой, Павал.

Той вярнуўся, падышоў да Астапа.

— Думаеш, выпаўняць?

— Чаму не. А ласне сышчаце з іх штраф? Голыя як бізуны. Бачыў іх гаспадарства: хаты — у зямлю глядзяць; падраныя стрэхі; голыя дзеці; някутыя калёсы; коні — мэрам свінні надворныя…

— Шкада!

— Пэўна.

Астап падумаў, узяўся двума пальцамі за губы і раптам кіўнуў галавою:

— Вось што, браток Павал…

— Што?

— З глушакоўскае шляхты нагонім… Сёння вечарам — у Глушакоўцы… Ведаеш, ноччу ўчора ехаў — секлі, гады… Ганоў на тры заўважыў, выстраліў. Ну, а пагонішся ласне? Конь ледзьве ідзе ўлегцы. Гразі па калодкі, цемень — вока выкалі. Зіма, ліха ведае што, небывалая! Нельга працаваць: ні выследзіць, ні выгледзець.

— Верхам сяду і паеду на змроку, а то ноччу — ці ж знойдзеш?

— Тваё дзела; толькі найдзі — і гэтых ужо прыпяком…

— Не пакараеш — усе прысады знішчаць… А калі насадзяць — чакай…

Астап пайшоў з кабінета. На парозе спыніўся, павярнуў назад, але пачуў ззаду:

— Таварыш начальнік, прыйшлі па вас ад прадсядацеля.

— Дзе, хто?

Дзелавод — то быў ён — падаў пісульку. Астап разгарнуў, прачытаў. Пачырванеў.

— Бюракратызм! Ці ж разарвешся ўсюды. Ён думае, што я тут сяджу склаўшы рукі… Выгавар, прыказ… За шчырасць мо? Мяне трэба вучыць… Пяць год за гэтаю справай…

Моцна стукнуў дзвярыма і выйшаў.

## III

Разапрэлы, стомлены, знерваваны, Астап бег да сябе ў канцылярыю міліцыі. Праз два крокі павяртаў левую руку, паднімаючы на ўзровень носа, і пазіраў на гадзіннік, прычэплены на руцэ. Хвіліны раставалі, як сняжынкі на цёплым шкле. Выйшаў з райіспалкома — было без дваццаці хвілін чатыры. Званілі не раз — важныя справы, тэрміновыя… Ды так, трэба паглядзець, як і што. Установа, ды гэткага характару, як міліцыя, — баявая,

шумная. Ці ж не ведае Астап? Мала што магло здарыцца ў яго адсутнасці! Праверыць — абавязкова.

Астап не цярпеў нядбайнасці! Рупіўся, пільнаваў даручаныя яму справы. Любіў быць акуратным, старанным. Масцер — ды годзе.

Спяшыў, а хвіліны ішлі, беглі, уцякалі. Заўсёды так — як спяшыш іх нагнаць, супыніць.

— Хаця б не разышліся з канцылярыі.

Перад будынкам, дзе яна мясцілася, яшчэ раз паглядзеў на гадзіннік — аставалася дзесяць хвілін да чатырох. Ужо адзін міліцыянер выйшаў з дзвярэй і падаўся з двара. Не прыкмеціў начальніка. Астап бачыў — мерыўся спыніць, даць выгавар. Але не сабраўся, як яго абазвалі:

— Таварыш Бобік, на хвілю, даруйце…

Астап азірнуўся — нейкі незнаёмы мужчына. Недалікатна запытаў:

— У чым справа? Мне некалі, хутчэй.

Чалавек азірнуўся па баках, таемным узрокам паглядзеў на Астапа.

— Ведаеце… ці паверыце, ці не… мне казалі не раз… знаеце, справа з вашым міліцыянерам Гарбузікам… Ён у Глушаках дзень у дзень на вечарынках, з дачкою Палікара Асінені… што вычварае… Ой, што там ён!.. Вы даследуйце, таварыш Бобік. Дурныя чуткі — падрыў уладзе…

— Добра, расследую… — і крануў з месца.

Але чалавек схапіў Астапа за крысо.

— Я яшчэ да вас, таварыш Бобік…

— Кажэце.

А нагою, нервуючыся, пераступаў з месца на месца.

Ішлі з канцылярыі адзін за другім міліцыянеры, дзелавод, заўвышукам. Матнуў рукою, адвярнуўся ад чалавека, каб паглядзець на гадзіннік — пасля чатырох.

— Кажэце хутчэй…

— Я колькі раз бегаў у вашу канцылярыю… Прасіў адсрочыць хоць на месяц. Чым я заплачу па выпаўніцельнаму лісту? Самі бачыце, адкуль зарабіць трыццаць рублёў, дзе іх узяць мне…

— Хутчэй… у канцылярыю прыйдзеце… мне няма часу… слухайце… — адступіў на шаг ад прасіцеля.

Той працягнуў руку, каб хапіць Астапа за крысо ці за рукаў, але затрымаўся.

— Таварыш Бобік, таварыш начальнік… Падумайце — дарэмшчына… Ліха ведае за вошта прысудзілі гэтаму злодзею, голіку гэтаму… Трэба было мець совесць… Але ж я нічога, я не проціў суда — святая справа, трэба слухаць, толькі — чым я магу заплаціць… Ну, маю каняку, драбінкі, на ворагаў казана, — слёзы, а не маетнасць…

Астап падаваўся да канцылярыі, павяртаючы голаў назад. А чалавек, як муха, гудзеў сваё, не адстаючы ні на крок, ні на корх.

— Я сапраўдны бруковы чалавек… Яшчэ б раней, ну хоць бы з восені, усё-ткі залатоўку-другую зарабляў, а цяпер, глянь іх, куды ты выедзеш, — зіма, як кара якая, гнусная, балотная, гібельная зіма!.. Ці ж можна вылезці з хаты ў дарогу? Пасудзеце самі, таварыш Бобік.

— У канцылярыю… па нядзелі… няма часу; ды што на вуліцы?

Крута сарваў з месца і пайшоў. Чалавек перш кінуўся ўдагон, але раптам стрымаўся і пусціў:

— А Гарбузіка прасачэце, таварыш начальнік…

Астап пачуў фамілію, але не ведаў да чаго… Кінулася ў думкі: «Няўжо такі Павал здацен на гэта? А мо праз тое, што сысквае штраф? Чорт яго ведае, за каго можна ручыць? Ша-а, добра, прыпільную. Паедзе ў Глушакі, а я за ім. Праз гадзіну-другую… Усё можа стацца…»

Увайшоў у канцылярыю — пусцела. Дзядуля стораж шкрабаў сцёртаю мяцёлкаю па бруднай-бруднай, загражанай падлозе. Сцежка-шнурок, вымачаная ботамі ад дзвярэй да стала дзелавода, краіла падлогу надвае. Стары злосна мармытаў сабе пад нос, падвойчы тручы мяцёлкаю па чорных плямах:

— Гэтак забрудзіць — сораму няма. Іншы ідзе, як назнарок, сумысна нанясе пудамі гразі. Няхай бы выцер — мяцёлка стаіць, дык не: пастаў швейцара, ды каб папрасіў той — дай вытру, — то можа б што… Паперы, смецця, саломы наносяць… Канцылярыя, а як у стойле…

Астап заўважыў нездавольства старога, усміхнуўся. Пабег у свой кабінет, прысеў да стала, развязаў папку, перагарнуў дзелы.

— Франук! — пазваў старога. Стораж прыйшоў з мяцёлкаю ў руках.

— Чаго, таварыш начальнік?

— Чаму не пачакалі мяне?

— А я што ведаю.

— Гарбузік не казаў нічога аб тым, што паедзе?

— Таварыш пачальнік, ласне са мною гаворыць хто аб гэткіх рэчах. То не маё дзела…

— А каня не запрагаў?

— Не заўважыў.

— Добра.

Франук маўчліва адвярнуўся, зрабіў некалькі шагоў да дзвярэй; пераступіў адной нагою парог і адвярнуўся да Астапа:

— Таварыш начальнік, даруйце, што трывожу; я рэдка вас чапаю.

— Ну?

Астап адняў вочы ад папер.

— Ведаеце, таварыш начальнік, доўга збіраўся, не мог асмеліцца, але прыпёрла. Ці нельга было б, таварыш начальнік, хоць рублёў два надбавіць мне да пэнсіі? Столькі работы ў вас! Вось усе пайшлі, а я покі тут закончу; а жыццё — муляецца.

Астап маўчаў.

— За дзесяць рублёў — ці ж можна старому пражыць, падумайце самі.

— Смета, дзедку, нельга выйсці з берагоў…

— Нельга?

— Нельга.

Стары матнуў рукою і схаваўся за дзвярыма, неасцярожна стукнуў мятлішчам у дзверы.

— У вас нічога нельга, ніколі нельга…

Астап паглядзеў услед, паспагадаў старому:

— Лепі б, каб у шпіталь… Куды яму гэтая служба!

І зноў аддаўся паперам.

Гартаў, перакладваў, чагосьці шукаў. Размаўляў сам з сабою:

«Ну, проста нельга ўлавіць гадзінкі вольнага часу. Хоць бы ў справах разабрацца… Вось Хмяльных дзела, кража каня… Ух, ад дзясятага верасня яшчэ! Каб ты спрахла, як яно заваляласся… Вось і не перабяры папкі… А гэта? Справа калектыву «Пушчыцы». Бачыш ты! Не разарвешся… А ён яшчэ ўпікае! Стаў бы на маё месца — нябось, то не прадсядацелем… Патрасіся па гэткай дарозе вёрстаў па сто на тыдзень — непаздаровіцца. І сёння — каму спачынак, а гэта — спяшы паабедаць ды падавайся зноў…»

Адхіліўся і паглядзеў у акно.

На захадзе выдалася чырвоная паласа праменю. Брыжастыя берагі цёмнае хмары тонкаю плеўкаю распаўзаліся над цёмным лесам.

«А вось мо мароз будзе… Хоць бы малавеле сціснуў гэтую гразоту. Омегам выходзіць. Другі месяц пайшоў, і як завяло —

ні сняжынкі. Што за зіма — трэба цуду давацца, ды годзі-ы!.. Розуму не возьмеш, як і што гэта чаўпецца. Адкуль тая паласа насунулася?»

Заглядзеўся на патухаючы промінь.

— Можа, ужо пойдзеце, таварыш начальнік? — нясмела з-за дзвярэй запытаў Франук. — Ужо меркне на вуліцы… Ці мо лямпу засвяціць?

Астап адвярнуўся ад акна, паспешна злажыў паперы і завязаў папку.

— Іду, збірайся запіраць канцылярыю.

Стары забразгаў замком і, калі Астап выйшаў з свайго кабінета, сустрэў яго словамі:

— Вось пацікаўцеся, як замурзалі падлогу. Цэлы дзень народу, мэрам на вакзале. Ідуць ды ідуць, адкуль ён бярэцца. Яшчэ ніколі не было столькі. Нанасілі гразі, саломы… Дубас злаваўся, раз-поразу пазіраў у акно, вас чакаў.

Стары засмяяўся.

— Далі яму пытлю за сённяшні дзень! Не вельмі смашна быць начальнікам. Мне б на ваша месца — тыдня не паслужыў бы.

— Чаму? Святыя гаршкі лепяць?

Ён павярнуўся.

— Бывайце здаровы, дзядзька! — і выйшаў.

## IV

Падкарэла гразь — браў марозік. З зорнага ціхага неба падалі малюпаценькія пылінкі шэрані і асядалі лёгкаю вільгаццю на голых дрэўцах хмызнячку. Стыла вада ў лужынках.

Конь цвёрда ступаў, прабіваючы слабую кару гразі. Чутна было ў ціхай ночы, як хрусцела ў каня пад нагамі.

Астап узіраўся ў бок Стадолішч, перакідаючы поглядам палі. Узгрудак, што абымаў пасёлак Глушакі, хаваў гала палёў. Дый ноч брала сваё: зоры — і многа зор, але цем тушыла іх сваёю сопухаю. Толькі больш-менш зблізку можна было разгледзець дзераўца ці лужыну, а на паўганоў — чорная сцяна. «Ці паехаў Гарбузік? — пытаў сябе Астап. — Можа, збаяўся?»

І ўсумніўся, ці ехаць самому.

Бездараж, цемрыва. Кудою пакіраваць на Глушакі?

За мастом, выехаўшы на ўзгрудак, Астап угледзеў агеньчык. Смуглы, ён выглядаў здалёк воўчым вокам. Але дарма, можна ехаць хоць цярэспаля, нацянькі.

Астап накіраваў каня проста да агеньчыку. Паслушная жывёліна сышла на раллю і, лезучы па калені ў гразь, пайшла полем. Сапла, фыркала, паднімала голаў, блыталася, шукаючы лепшых мясцін, мяжы ці разоры. Астап лопаў далонню па загрыўку, цешыў, угаварваў і тут жа ўслухоўваўся.

Азіраўся ў бакі, налева і направа, узад.

Агеньчык гарэў роўна, адным праменем, вузкім каснічком слаўся к Астапу. І здавалася, не блізіўся.

Астап меркаваў на яго, думаючы:

«Няўжо такі Гарбузік сапраўды распусціўся? Ці можа тое стацца? Цікава. Непрыкметна на ім, а ў тым — хто яго ведае. Згадзіўся ахвотна ехаць. Але ж дарма — я начальнік, прыказаў — мусіць».

Падпусціў сумнення:

«А мо і так, як кажуць? Вось жа не раскрыў пакражы ў гэтых самых Глушаках. Цэлы тыдзень валаводзіцца, а канцоў не відаць, хіба скрывае? Тое можа быць і з бярозамі, прыедзе знарок ноччу і не нойдзе. Дасць любы адгавор…»

Суцешыўся:

«Добра, аднак, што паехаў, трэба выверыць хлопца. Справа вымагае. Не глянеш, не пасачыш — і распусцяцца. Чалавек — не жалеза, спакусы многа ўсякае».

Конь шарганууся між кустоў, фыркнуў і натапырыў вушы. Агеньчык замільгацеў між ралак. Збоку нешта зашамала. Астап памацаў кольт…

Навяло думкі на бандытызм, на той план, які апрацаваў, дала-жыў сёння прадсядацелю і мусіў выпаўніць на наступным тыдні.

«Добры вечар, — шкода, што не паехаў у Процьмы… Свята, як быццам бы гуляць да Вікці. Ану ж і скутак быў бы…»

Праехаў кусты, рашыў: «Пагляджу тут і з Гарбузікам далей, шкода гэткае пары».

Забрахаў сабака — здалося, агеньчык падблізіўся.

Скрыпнуў вочап у студні.

«Адзін, не ведаюць бандыты, а то б з кусцікаў».

Агляну́ўся — кусцікі згінулі ў процьме ночы.

А вось і гумно, агеньчыкаў з дзясятак.

Да сабакі, што брахала, прыбавілася некалькі новых. Заліліся выем, затрывожылі пасёлак.

Астап завярнуў у двор першае хаты, злез з каня, пастукаў у акно, запытаў:

— Міліцыянера не ведаеце дзе?

Маладзіца падбегла к акну.

— У Асінені Прахора, трэцяя хата.

Забрала Астапа — завярнуў каня, ускочыў і праз мінуту быў у двары Асінені. Вокны завешаны фіранкамі. Смех у хаце, голас Гарбузіка.

Прыгнуўся на кані і паверх фіранкі зірнуў у акно. Угледзеў: на ўслоне, адвярнуўшыся спіною да стала, сядзеў Гарбузік; сярод хаты стаяла дзяўчына, ухмылялася. У запеку — стары.

Пастукаў Астап у дзверы — выбег Гарбузік.

— Павал!

— А, таварыш начальнік?

— Як з парубкаю?

— Нашоў сляды. Хрышчанік Якаў.

— А што зрабіў?

— Я заўтра наскочу, сёння…

Астап западозрыў.

— А тут чаго?

Гарбузік замяўся.

— Ведаю, брат… Ну, давай абследуем зараз Хрышчаніка гэтага. Як кажаш?

З хаты выйшаў гаспадар.

— Чаму ж у хату не зойдзеце? Каня ў прыгрэбіцу… Ах, і служба ж ваша!

— Некалі.

— Вайдзеце, чаго там, абагрэцца хоць бы з дарогі. Не блізкі свет, гэтаю дарогаю, гразотаю, слякотаю… Ах, ах… Вядзеце каня ў прыгрэбіцу…

Астап здаўся, павёў следам за гаспадаром. Павал астаўся каля парога…

— Служба, ведаеце, і людзі гэткія… хоць бы і вашы глушакоўцы, каторую ўжо бярозу на шляху высеклі? Ці то ёсць лад, парадак? Жывуць у вас не бедна, а то-та ж… Ну, як тут добрым будзеш? Нядаўна з пакражаю, а пасля з гэтымі хлопцамі ўсе ў Глушаках…

Гаспадар маўчаў. Адчыніў вароты ў прыгрэбіцы, увайшоў. За ім Астап, да шула прывязаў каня.

— Ну, як там? — запытаў з-пад дзвярэй Гарбузік.

— Гатова! — адказаў Астап, і не паспеў астыць голас, як бухнуў зычны стрэл. Астапу мэрам бы хто стукнуў каменем у нагу, так моцна, што ён не ўтрымаўся і кінуўся на зямлю.

— Павал, ратуй! — прагукаў і ад болю сціснуў зубы, што больш слоў не выйшла.

Гарбузік падбег да Астапа, абмацаў усяго і паглядзеў на руку: была ў свежай крыві.

— Памагайце ў хату ўнесці, — вялюча сказаў Гарбузік гаспадару Асінені. — Бандыцтва, прахвосты!!! — вылаяўся ён. — Спаліць мала ўсе Глушакі!

Некалькі чалавек, спагадаючы, падбеглі к двару, загаманілі, завылі сабакі гучней і зласлівей.

Астапа ўнеслі ў хату, распранулі, перавязалі рану, палажылі. Дзяўчына апранула новаю коўдраю, у прыгожа выплецены дэсань.

— Заснеце! Якая напасць!!!

А Павал Гарбузік, перапалоханы, адчайна крычаў:

— Бандыты, шляхты паганыя! Гэткага чалавека згубіць!.. З-за вугла, з-за гумна…

— Што ж ты да нас маеш — ці ж гэта нашы, думаеш? Мала брадзягаў бадзяецца зараз? Цудны ты, Павал, — выбачаўся Асіненя.

Але Гарбузік не зважаў, крычучы і тупаючы…

— За свайго начальніка — адамшчу паганцам, — выгукнуў ён і кінуўся ў дзверы.

— Куды ты, Паўлік! Куды ты! Паберажыся!..

У адказ захрабусцела гразь пад нагамі Гарбузікавых ботаў — ён пабег на пасёлак, бы гонячыся за кім. Праз хвіліну пачулася раз-поразу некалькі стрэлаў. Асіненя ўзяўся рукамі за галаў.

— Што-о ён ро-обіць, што-о ён робіць? — і тут жа хапіў свежа пасечаных дроў, што ляжалі пры печы, знакам паклікаў жонку. — Пакідай у печку, — шапнуў ёй на вуха і азірнуўся на Астапа.

А Астап драмаў, утомлены, змардаваны, абяскрывяны. І хатні гоман, і брэх сабак, і водгук стрэлаў Гарбузіка зліваліся ў яго пачуцці ў нудны шолам прысад, рэдкіх, пасечаных, сіратлівых, пакараных гэтаю зімою, і побач — маладых, свежых, што ён меркаваў, марыў насадзіць пасля гэтай незвычайнай, няпамятнай гразкай зімы 25 года.

***1925***

# ДАДАТАК

Цішка Гартны
(Зміцер Хведаравіч Жылуновіч)

## АБЕГЛЫ САМАНАРЫС МАЙГО ЖЫЦЦЯ*
*(Аўтабіяграфія)*

Мястэчка (цяпер горад) Капыль на Случчыне — мая радзіма. Бедныя сяляне-чорнарабочыя — мае бацькі. Радзіўся я 28 кастрычніка** 1887 г. То была пара, калі ў хаце пераходзілі ад цяжкое падзёншчыны на нудную, чуць не дарэмную «здзельшчыну». Бацька вярнуўся з Палесся, дзе капаў канавы ў падрадчыка, маці — кончыла капанне бульбы. Да аднаго варштата, на якім рабіў дзед, мусіў дадацца другі. І ад ранку, з досвітку да поўначы, пры агні лучніка, павінны былі зайграць ляды і вітушкі*** несціханыя нудлівыя песні, каб праз тыдзень найграць для сям'і восем злотых; пры гэтым — з дадаткам муштры ад заказчыка.

Маё нараджэнне на тыдзень адсрочвала з пастаноўкаю другога варштата. Толькі на тыдзень! Бо далей трэба было старацца ткаць, каб мець навошта жыць. Я мяшаў спорай працы цэлую зіму. На лета бацькі пайшлі на работу, пакінуўшы мяне на апеку цётцы, двум дзядам і бабцы па мацеры.

Я быў першынец, і ўсе мяне шанавалі і сцераглі. Сцераглі неадходна, пакуль я «стаў на ногі». На адзінаццатым годзе, зімою, мяне аддалі вучыцца грамаце. Да гэтага бацька сам навучыў мяне чытаць «поверху».

У «дарэктара» я паказаў здольнасць да граматы і да Каляд прайшоў часлоў. Далей не вучыўся — сур'ёзны дарэктар вымусіў мяне лішнюю зіму пакоўзацца на санках і падраць пару-другую падносак на лёдзе. Паставіў разоў два на калені на жарству за смех на малітве — і гордасць

* Друкуецца па кн. «Цішка Гартны. На дзень пятнаццацігадовага юбілею яго літаратурнай працы». ДВБ, Мінск, 1923, с. 7–11.

** Старога стылю.

*** Прылады ў варштаце. (*Заўвага аўтара*.)

мая адхіліла мяне ад занадта шчырага багамола. Бацькі і дзяды былі за мяне.

Пасля гэтага я вучыўся дзве зімы ў дарэктараў па хатах — вучылішча мястэчка не мела. За гэтыя зімы прайшоў усе царкоўнаславянскія кніжкі, якія толькі былі ў бацькі. Нават і на нейкую (не помню) хрэстаматыю ўзбіўся. Грамата давалася лёгка, дарэктары хвалілі.

У 1902 г. нарэшце адчынілі ў Капылі вучылішча. Я папаў у трэцяе аддзяленне. Пайшоў першым.

Але вучэнне ішло зімою і летам. Не бегаць жа па вуліцы, калі таварышы пасуць коні, барануюць, ходзяць у траву і інш. У нас не было ні каня, ні каровы, ні поля, каб рабіць. І вось на адзінаццатым годзе, разам з пачаткам вучэння, я пайшоў у найміты-пастухі. Мяне згадзілі пасвіць дзесяць штук гавяды — па рублю ад штукі.

Прапасвіў ад вербнае нядзелі да піліпавачных дзядоў і пасобіў бацькам першымі дзесяцьма рублямі.

Другія чатыры леты я паступова павялічваў стада і апошні год, 1903, пасвіў 35 штук. Гэта хапала на адзежу.

Пасучы, я бесперастанку чытаў. Меў надзвычайную цягу да чытання. Таварыш мой, старшы гадамі, Хведар Чарнушэвіч даваў мне кніжкі з бібліятэкі сацыял-дэмакратаў капыльскае арганізацыі. Хведар сам быў сацыял-дэмакратам. Ён, гонячы каровы з поля, казаў мне розныя вершы, больш Някрасава. «Дедушка» і «Железная дорога» Някрасава да таго ўплылі на мяне, што я перапісаў іх, прысядаючы каля пенчукоў, і завучыў на памяць.

У 1904 г., на Вялікдзень, я ўпершыню папаў на мітынг капыльскае с.-д. арганізацыі, які адбыўся за мястэчкам, у так званым Яначкавым ляску. З гэтага часу пацягнула мяне да «дэмакратаў», аб якіх ішлі легенды па мястэчку.

Але мяне сціскала становішча вучня. Мне трэба было скончыць двухкласнае вучылішча (з 1904 г. яго адчынілі ў Капылі, пакінуўшы народнае для дзяўчат), каб хоць што-кольвечы мець для сябе і для суцехі бацькоў. Бацькі думалі, што я вывучыўся не абы на якога, але на «пана». Тым часам ужо не панам пахла! Настаўнікі рабілі хор, пяялі ў царкве, а я ўсё чытаў «пастаронныя» кніжкі. Час ад часу бацькі ўпікалі ў бязбожжы. Няхай!

1905 г., калі я скончыў двухкласнае вучылішча,— я разам парваў і з думкаю пра «пана». Кніжкі выдання Гарбунова-Пасадава і сяброўская пазычка няможнай літаратуры зрабілі мяне «мечтателем» аб іншых рэчах.

Якраз у гэты год зімою, па Калядах, я выпадкова паспрабаваў разам з таварышам А. Красуцкім пісаць вершы. Напісалі пра мястэчка — не то па-расейску, не то па-беларуску. Выйшла так:

Капыль горад небальшой —
Слава аб ім громка

Разнеслася па ўсім свеце,
А дзяржыцца тонка...

Было даволі, каб ускрыліць! Хутка ў нас гэткіх вершаў сабралася да 500 радкоў. Паказалі настаўніку — слабыя. Праведалі цану —10 капеек за радок. Як хацелася мець грошы! Куды больш, чымся таго, каб былі надрукаваны вершы...

Побач паддаў ахвоты да вандроўкі адзін артыкул з «Вестника знания». Апісваўся ў ім нейкім Васюковым адзін самародак з талентам ад прыроды, якога Васюкоў праз артыкул шукаў. Жэст самародка, пабываўшага ў Васюкова і пайшоўшага мерaць шыры Расіі, прыйшоўся нам па нутры. Ісці — стала мэтай. А куды? Да Талстога — хтось ці штось нам падказала...

Я быў к гэтаму часу самастойным сацыял-дэмакратам, але без таленту ў руках і з ідэалістычным настроем. У гадавіну забойства Аляксандра II у 1905 г. я прыняў чынны ўдзел, наперакор бацькам і настаўнікам, у агромнай дэманстрацыі ў Капылі. Далей падбівала на большае.

У жніўні з тав. А. Красуцкім выехалі мы, забраўшы свае творы, з Капыля, але не да Л. Талстога, а ў Кіеў: там былі дзядзькі, было на што абаперціся — думалі.

Але абмыліліся, вядома, у дзядзьках і ў творах. Першыя нас не ўстроілі, а другія, аднесеныя па радзе ў «Киевские отклики», намі не ўстроіліся. Рэдактар газеты параіў адаслаць іх Гарбунову-Пасадаву.

Цяжкае разувер'е абарвала скрыдлы. Сумным вярнуўся я дадому, назад у Капыль, з якога праводзіла мяне ўся моладзь з рэвалюцыйнымі песнямі, з гарачымі развітаннямі...

Як паказацца ў вочы?

Пасобіў рэвалюцыйны рух, у якім я прыняў чынны ўдзел. У мястэчку ў кастрычніку (1905) зрабілі агульную забастоўку, «пабядзілі» паліцыю. Адчыніліся іншыя гарызонты, бацькам маім чужыя і незразумелыя. Я зрадніўся з арганізацыяй с.-д., кінуў усякія думкі аб далейшым вучэнні, а пайшоў у гарбары ў лютым 1906 г.

Стаўшы рабочым, я хутка, вясною 1906 г., прайшоў у камітэт капыльскае арганізацыі с.-д., працуючы старанна сярод капыльскае моладзі... і пішучы вершы, апавяданні па-расійску. Між работы прабаваў паступіць (1906) у настаўніцкую семінарыю. Не прынялі з-за «неблагонадежности». Вершы я чытаў таварышам дома і ў майстэрні. Тыя хвалілі і паднімалі ва мне дух. Але мяне ўсё не здавальняла штосьці. Не здавальняла датуль, пакуль у 1908 г. я не напаў на «Нашу ніву». Газета на сваёй мове была мне вынаходкаю. Прачытаныя ў ёй вершы мігам абудзілі ва мне цягу да пісання па-беларуску; я сеў і напісаў першы верш, які ў студзені 1909 года быў надрукаваны пад назваю «Бяздольны», і прысвяціў яго Янку Купалу:

Цяжка жыць без долі,
Што рабіць — не знаю...

Так я стаў пісаць па-беларуску. Але пісанне мяне не здавальняла: мяне захапіла цалкам ідэя адраджэння Беларусі. У 1909 г., у ліпені, я паехаў у Вільню, у рэдакцыю «Нашай нівы», каб угледзець тых людзей, якія сталі ў кірунку беларускага руху*, а з Вільні пусціўся ў вандроўку па Беларусі, аб'язджаючы гарады і мястэчкі з дапамогаю рабочых-гарбароў. Вандруючы з 1909 г. па 1912 г. па Беларусі, я пісаў вершы, прозу і карэспандэнцыі ў дарозе, у вагонах, на вакзалах, у цесных і брудных каморках, у начлежках, пісаў пасля работы 11-гадзіннай. Большасць вершаў напісаў у 1912 г. у Вількаміры, Ковенскай губерні, дзе працаваў і прымаў удзел у сацыял-дэмакратычным руху, не пакідаючы руху беларускага.

Правандраваў я тры гады, да 1913 г., калі паехаў у Пецярбург і паступіў на завод; адначасова стаў сябрам рабочага культурна-асветнага вобчаства «Знание» і сябрам міжраённага аб'яднання с.-д. І не пакідаў пісаць па-беларуску вершы і раман «Сокі цаліны». Пачаў раман у 1914, кончыў у 1916 г. У гэты час мой зямляк, вядомы публіцыст Л. Клейнбарт пераконваў мяне пісаць па-расійску. Аб маіх расійскіх творах пісаў у часопісе «Новая жизнь», прарочачы мне ў расійскай літаратуры будучыню, а ў беларускай — змарнаванне таленту.

Пасля пяці месяцаў працы на заводзе быў разлічаны, тры месяцы цягаўся па горадзе безработным, жывучы на дапамогу сяброў-беларусаў — Б. Шыпілы і др., пакуль дастаў службу загадчыка выдавецтва, на якой і захапіла рэвалюцыя 1917 г. Да рэвалюцыі, у 1916 г., працаваў у Беларускім бежанскім камітэце і выдаваў газету «Дзянніца». Пасля рэвалюцыі стаў у кірунку беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху ў Петраградзе.

Праз увесь гэты час неразрыўна быў звязан з бацькамі, якім пасабляў па магчымасці на жыццё. Згубіўшы ўсю сілу на цяжкай чорнай працы, яны здаліся ў барацьбе з ім.

Я мусіў ваяваць і за іх!

*Мінск, 29/X 1923 г.*

---

* Пазней ва ўспамінах «Дваццаць гадоў назад» («Полымя», № 5, 1929) Ц. Гартны расказаў аб тым, як холадна сустрэлі яго тады кіраўнікі газеты і як адзін з іх, В. Іваноўскі, даведаўшыся, што пісьменнік не мае працы, прапанаваў яму службу батрака ў сваім маёнтку.

## Галіна Жылуновіч[1]

# МОЙ БАЦЬКА

Мой бацька…

Прайшло ўжо больш сарака гадоў, як мы бачыліся апошні раз, і воблік яго траціцца ў памяці пачаў. Зараз я больш уяўляю бацьку па фотаздымках.

Ён быў ніжэй сярэдняга росту, даволі мажны. Не памятаю яго з валасамі і вусамі, мне здавалася, што ён заўсёды быў лысы, чыста паголены. Лысіна яго так блішчала, што гэта часта служыла прычынай для розных жартаў.

Апранаўся бацька прыгожа і модна, з добрым густам, хадзіў з палкай, у капелюшы. У той час гэта было нязвычна, усе апраналіся вельмі сціпла. Бацькавы сябры і знаёмыя пасмейваліся з яго прывычкі насіць «бабачку» ці мяняць амаль кожны дзень гальштук, аднак гэта не бянтэжыла бацьку: ён пасмейваўся разам з сябрамі, але не мяняў сваёй звычкі.

Бацька не толькі сам прыгожа апранаўся, але любіў, каб і мы ўсе былі добра і прыгожа адзеты. Так, у сям'і існавала правіла: калі бацька ішоў з маці на які-небудзь урачысты вечар, ён, апрануты па-святочнаму, прыходзіў у наш пакой і прыдзірліва аглядаў маці, яе сукенку. Па выразу твару можна было здагадацца, што бацька заставаўся задаволены: у маці таксама быў добры густ.

Адметнымі рысамі бацькавага характару былі акуратнасць і дысцыплінаванасць.

Акуратнасць праяўлялася ва ўсім, пачынаючы з умення сачыць за апраткай і канчаючы адносінамі з людзьмі.

На яго пісьмовым стале быў звычны парадак: на адным і тым жа месцы ляжалі патрэбныя кнігі, слоўнікі, каля пісьмовага прыбора стаялі алоўкі і ручкі, пасярэдзіне невысокімі стосікамі ляжала папера. У бацькі была своеасаблівая манера: пісаць на доўгіх і вузкіх лістках, падобных на друкарскія гранкі. Заўсёды прыбірала на яго стале я, стараючыся пры гэтым пакласці ўсё на сваё месца.

Такая ж акуратнасць праяўлялася і ў арганізацыі распарадку дня. Усё ў доме было падпарадкавана таму, як распланаваны бацькаў рабочы дзень. Знаходзячыся на службе, як тады гаварылі, бацька мог аддаваць сваёй творчай працы толькі позні вячэрні і начны час: ён часта пісаў да двух-трох гадзін ночы. Таму яго службовы дзень пачынаўся пазней, чым у іншых, а таксама ён крыху адпачываў пасля абеду.

Ашчаджаючы свой і чужы час, бацька ніколі нікуды не пазніўся, не прымушаў чакаць сябе. Толькі вельмі важныя прычыны вымушалі яго адмяніць прызначанае спатканне з кім-небудзь.

Дысцыплінаванасць бацькі даходзіла, я сказала б, да педантызму. Так, напрыклад, ён вельмі дакладна выконваў усе парады ўрачоў. У яго былі не зусім здаровыя ныркі, і ён часта лячыўся. Маці нават пасмейвалася з яго, калі весела, а калі нават са злосцю, бо ёй падобнае прычыняла многа клопатаў.

Знешне бацька выглядаў сур'ёзным, нават панурым. Аднак у яго характары было многа мяккасці і цеплыні. А тыя, хто сустракаўся з ім часцей, ведалі, як ён умеў шчыра пасмяяцца, любіў дасціпныя жарты і сам жартаваў часта.

Маці не падабалася, што бацька быў вельмі пераборлівы да яды, больш любіў малочныя стравы. Гэта ў пэўнай ступені тлумачылася патрабаваннямі дыеты. Канешне, маці старалася дагаджаць яму і гатавала адпаведна з дыетай. Аднак час ад часу яна пачынала «бунтаваць», і тады ўжо бацьку прыходзілася есці катлеты. Запомніўся і такі выпадак. Аднойчы бацька спытаўся ў маці: «Чаму ў цябе, Надзея, адзін раз катлеты бываюць вельмі смачныя, а другі раз — не?» Тая не разгубілася і адказала: «Як і ў цябе… Ты адзін раз як сядзеш, дык напішаш адразу дзесяць старонак, а другі раз — пішаш і рвеш…»

Клопатаў было і бабулі, калі мы прыязджалі ў Капыль. Асабліва з чаем. Заваркі не было, бабуля заварвала ў чыгунку пахкі чабор ці якія іншыя травы.

Бацька вельмі любіў кнігі, любіў чытаць. Кніг у кватэры было многа: у кніжнай шафе месціліся тамы «Academia» — шэдэўры сусветнай літаратуры і шматлікія мемуары; на паліцах стаялі рознага роду энцыклапедыі — Вялікая савецкая, Літаратурная… Многа мелася мастацкай літаратуры.

З усіх пісьменнікаў бацька найбольш любіў Някрасава, ведаў яго вершы на намяць і часта дэкламаваў іх.

Ён любіў і музыку, бываў на канцэртах. А любімым музычным інструментам яго была віяланчэль.

Таксама часта наведваў тэатры. Быў знаёмы з многімі артыстамі. Захапленню тэатрам спрыяла і тое, што некаторы час бацька загадваў аддзелам Галоўмастацтва пры Наркамасветы. Асабліва захапляўся operай. Нават імя я атрымала дзякуючы яго захапленню. У доўгіх сямейных спрэчках мне не маглі выбраць імя. Аднойчы, вярнуўшыся з опернага тэатра, дзе ставілі оперу Манюшкі «Галька», бацька катэгарычна заявіў: «Яна (гэта значыць я) будзе Галькай». Вось так я і стала Галькай, Галінай.

У нас заўсёды выпісвалася мноства газет і часопісаў: для бацькі, а таксама і для нас, дзяцей. Прачытаўшы пошту, бацька рабіў шматлікія выразкі з газет, размяркоўваў іх па тэматыцы і потым ужо раскладваў па асобных папках. Прывучыў ён да гэтага занятку і нас. У хаце груvasцілася столькі папак, што маці падчас жартавала: «Гэтыя груды папер калі-небудзь выцясняць мяне з дому».

Прывычка рабіць выразкі па самай разнастайнай тэматыцы засталася ў мяне назаўсёды.

Ці то з-за сваёй занятасці, ці проста такі быў характар, але бацька амаль ніколі не ўмешваўся ў наша дзіцячае жыццё. Нас, дзяцей, выхоўвалі мая мама і «дзядзька Шура» — так мы, дзеці, называлі Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова.

А нас было многа — гэта я з братам Алегам, Зося і Люся Чарвяковы, Тамара і Іра Каранеўскія. Нашы сем'і жылі ў адным доме, у адным пад'ездзе. І мы заўсёды былі разам: вучыліся ў адной школе, куды хадзілі цэлай капэлай, гулялі ў адным двары або ў адной з кватэр. Таму, зразумела, увесь час знаходзіліся на вачах у каго-небудзь з нашых бацькоў.

Аднак сёння, успамінаючы маленства, я думаю: думка пра тое, што бацька не займаўся нашым выхаваннем, не зусім правільная. Колькі любові і ўвагі ўдзяляў бацька нам, сваім дзецям!

Ён ніколі не хадзіў на бацькоўскія сходы, рабіла гэта заўсёды мама, якая вельмі часта бывала ў школе, бо амаль заўсёды ўваходзіла ў склад бацькоўскага камітэта. Бацька ж прыходзіў толькі на нашы ранішнікі і святочныя вечары. Аднак ён пастаянна сачыў за нашымі школьнымі справамі, часта строга пытаўся і пра адзнакі. Нават тады, калі я вучылася ў інстытуце, ён заўсёды цікавіўся, як я здаю сесію. А было і такое: я прыходжу дамоў сама не свая ад радасці, што атрымала чацвёрку па такім цяжкім экзамене, а бацька як халоднай вадой аблівае, пытаючы: «А чаму не пяцёрка?»

Чамусьці склалася так, што брат і я не вельмі баяліся і слухаліся бацькі. Яму патрэбна было не адзін раз паўтарыць свой загад, каб мы яго выканалі. Маме ж хапала толькі паглядзець на нас — і мы рабілі усё, што яна патрабавала.

Але бацька, у адрозненне ад мамы, часцей задавальняў нашы розныя дзіцячыя просьбы.

Хацелася б адзначыць яшчэ адну вельмі важную, на мой погляд, рысу ў яго характары: бацька заўсёды абяцаў нам, дзецям, толькі тое, што мог выканаць, і заўсёды трымаў сваё слова.

І сёння помняцца нашы «паходы» з бацькам. Яны адбываліся часцей за ўсё летам, калі ў бацькі было больш вольнага часу. У горадзе часта хадзілі ў вандроўны цырк, які заўсёды асталёўваўся ў гарадскім садзе. На працягу дзеяння бацька тлумачыў нам тое, што адбывалася на арэне, і сам захапляўся відовішчам, паддаючы нам весялосці і цікаўнасці.

Калі ж мы выязджалі ў Капыль, бацька браў мяне з сабою ў поле. У час такіх паходаў ён пра што-небудзь расказваў, што-небудзь тлумачыў. Аднойчы, напрыклад, ён запытаўся, калі сонца зайшло: чаму адны воблакі ўжо зрабіліся шэрыя, а другія ўсё яшчэ свецяцца? І доўга з захапленнем тлумачыў, што апошнія знаходзяцца вышэй і яшчэ асвятляюцца сонцам.

Ён вучыў пазнаваць розныя травы, адрозніваць жыта ад пшаніцы, што мы, гарадскія дзеці, часта блыталі і нямала злавалі яго.

Так непрыкметна прывучаў нас бацька да адкрыцця навакольнага свету. І рабілася падобнае ненадакучліва, як бы мімаходзь. Але як усё гэта запала глыбака ў памяць!

Зімовымі вечарамі многа часу аддаваў ён Алегу. Калі брат пачаў захапляцца зборам паштовых марак, бацька прывозіў іх адусюль, асабліва часта — з Ленінграда, дзе нават заглядваў у Філатэлістычнае таварыства. І зноў, схіляючыся над сталом, удвух сядзяць у бацькавым кабінеце, разбіраюць і наклейваюць маркі ў альбом.

А потым, каб адпачыць, проста пачыналі гуляць у дзіцячыя гульні. Дагэтуль памятаю гучны смех бацькі, калі ён бегаў з Алегам накол стала ў сталовай.

У мяне быў невялічкі альбом, куды сяброўкі перапісвалі мне на памяць вершы. Канешне, гэта былі наіўныя, модныя на часе вершыкі. Але туды ж напісаў і бацька верш, складзены спецыяльна для мяне. На вялікі жаль, гэты альбом згубіўся недзе на Урале.

Два разы мне давялося блізка сутыкнуцца з бацькавай пісьменніцкай дзейнасцю.

Аднаго разу з’ездзіўшы на Барысаўскі запалкавы камбінат, бацька напісаў пра яго нарыс. Гэты нарыс папрасілі для друкавання адразу некалькі газет. Бацька даў мне перапісаць яго некалькі разоў. Не сказаць, каб я вельмі ахвотна ўзялася за працу, бо якраз падышоў канец навучальнага года і перапіска адрывала ад падрыхтоўкі да экзаменаў. Але я зрабіла, здаецца, экзэмпляраў шэсць, прычым першы экзэмпляр перапісала на абодвух баках ліста. Бацька жартаваў з падобнай маёй карпатлівасці, а я абурылася, бо ён не папярэдзіў мяне аб правілах перапіскі. Са сваёй памылкай бацька згадзіўся і прыняў першы экзэмпляр.

У той час (мабыць, у 1935 або ў пачатку 1936 года) бацька працаваў над перакладам на беларускую мову «Мёртвых душ» Гогаля. Па вечарах на вялікім абедзенным стале раскладваліся карткі з рускімі словамі, пераклад якіх быў цяжкаватым для бацькі. Ён абкладваўся слоўнікамі, энцыклапедыямі, а таксама звяртаўся за кансультацыяй да маці, ураджэнкі Пецярбурга, якая добра ведала рускую мову. Карткі паступова запаўняліся і складваліся ў асобны стос.

Пераклад «Мёртвых душ» застаўся незавершаным.

Нягледзячы на тое, што бацькавы рукапісы заўсёды ляжалі на стале адкрытымі, я ніколі не чытала іх і не ведала, над чым іменна бацька працуе. Калі ўжо цяпер, у сталыя гады, расказала я пра гэта аднаму знаёмаму, той проста здзівіўся: як гэта я магла не цікавіцца творчасцю бацькі? Растлумачыць гэта можна толькі адным: у нашай сям’і існавала заўсёды няпісанае правіла — ніколі не чыталіся чужыя паперы. Пісьмы, якія прыходзілі на імя каго-небудзь з членаў сям’і, нават самага малодшага, Алега, ніколі нікім іншым не распячатваліся.

Мы, дзеці, потым ужо, прачытаўшы пісьмо, расказвалі, пра што нам пішуць. Такім жа «недатыкальным» быў рукапіс бацькі.

Бацька любіў і ўмеў дапамагаць людзям, прычым рабіў гэта самымі celebrates рознымі спосабамі: то пакладзе наведвальніку грошы ў кішэню паліто, то купіць што-небудзь яго дзецям. Старэйшыя пісьменнікі дасюль згадваюць, як шчодра плаціў бацька ганарар пачынаючым аўтарам, будучы дырэктарам Дзяржвыдавецтва.

Рабіў ён і такое: дапаможа ўладкавацца на працу або вучобу і доўга потым сочыць за справамі свайго «хрэсніка».

Наш дом заўсёды быў поўны людзей. Часта прыходзілі ў госці знаёмыя, асабліва пісьменнікі. Бацькі былі гасціннымі людзьмі, да таго ж маці смачна гатавала. Яны ахвотна запрашалі да сябе на абед або вячэру, а прычыны для запрашэння былі самыя розныя — свята, чый-небудзь дзень нараджэння…

Частымі гасцямі былі бацькавы землякі. Так, заўсёды спыняліся капыляне, прыязджаючы ў Мінск па якой-небудзь патрэбе. А суседка бацькі, маладая дзяўчына Вера Чарнушэвіч, наогул некаторы час жыла ў нас, калі вучылася па першых курсах педтэхнікума.

На любоў і ўвагу людзі адказвалі бацьку ўдзячнасцю. Асабліва вялікай павагай карыстаўся бацька ў сваіх землякоў. Можна згадаць хаця б такі выпадак, расказаны маці.

Калі ў Капылі правялі радыё, жыхары не паверылі, што перадачы вядуцца здалёк — аж з самога Мінска. Яны сталі прасіць бацьку (справа адбывалася ўлетку, калі мы гасцявалі ў Капылі), каб ён, прыехаўшы дадому, выступіў па радыё. Бацька сказаў, што неўзабаве яму прыйдзецца выступаць і землякі пазнаюць яго голас. Аднак капыляне з гэтым рашуча не пагадзіліся, запярэчылі, што выступленне можна і падрабіць, а вось няхай ён звернецца па радыё непасрэдна да іх. Вярнуўшыся ў Мінск, бацька так і зрабіў, за што атрымаў падзяку ад землякоў і запэўненне ў тым, што цяпер яны паверылі ў радыё.

Расказваючы пра бацьку, хацелася б сказаць некалькі слоў і пра маці. Я лічу: бацьку вельмі пашанцавала, што яго жонкай была мая маці.

Карэнная ленінградка, дачка кухаркі і рабочага-чырванадрэўшчыка, яна расла ў прыюце, рана страціла бацьку. У прыюце атрымала веды настаўніцы малодшых класаў. Потым працавала белашвейкай у нейкай фірме, а пазнаёміўшыся з Д. Ф. Жылуновічам, перайшла ў рэдакцыю газеты.

Недахоп адукацыі яна папаўняла сама: многа чытала (пазней і на беларускай мове), хадзіла ў музеі, тэатры, не прапускала канцэртаў у Народным доме, дзе ёй давялося чуць Шаляпіна і Собінава. Сваю любоў да мастацтва, да ўсяго прыгожага яна пранесла праз усё жыццё. Канцэрты і спектаклі яна наведвала да старых гадоў, пакуль дазваляў стан здароўя.

Маці ад прыроды валодала рэдкай душэўнай культурай. Вельмі мяккая, далікатная, вытрыманая, яна заўсёды добра адносілася да людзей і добра разумела іх. Умела з кожным знайсці агульную мову, умела гаварыць з грузчыкамі і з акадэмікам, з дзіцем і са старым.

Ёй многа давялося пераажыць, але ўсе цяжкасці і выпрабаванні маці пераносіла мужна, застаючыся ўсё такой жа мяккай і добрай.

Выйшаўшы замуж, яна да 1937 года нідзе не працавала, аддаючы ўвесь свой час сям'і.

Не ведаю, ці была мама першым крытыкам бацькавых твораў, як гэта часта гавораць пра жонак пісьменнікаў. Але ведаю, што яна была добрым сябрам і таварышам для бацькі, перажываючы з ім усе радасці і нягоды яго складанага, неспакойнага жыцця.

*

Трэба сказаць, што я ніколі не ўспрымала свайго бацьку як пісьменніка і грамадскага дзеяча. Для мяне ён быў проста бацька. Я ведала, што ён піша, што кнігі яго выдаюцца, што ён — вядомы ў рэспубліцы чалавек, але не надавала ўсяму гэтаму асаблівага значэння.

Толькі цяпер, калі я ўсур'ёз занялася зборам матэрыялаў пра яго, калі падрабязна пазнаёмілася з яго біяграфіяй, убачыла, якога маштабу быў гэты чалавек — пісьменнік, акадэмік, грамадскі і палітычны дзеяч, імя якому было Дзмітрый Фёдаравіч Жылуновіч, Цішка Гартны.

Леў Клейнбарт[1]

## З МІНУЎШЧЫНЫ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДСКАСЦІ

У снежні 1908 года, года расстрэлаў і шыбеніц, убачыла свет на старонках віленскай «Нашай нівы» першая спроба пяра Цішкі Гартнага — паэта, літаратурнага крытыка і рэдактара часопіса «Полымя». У сваіх запісках пісьменнік-рабочы апавядае аб гэтым пачатку, вызначаўшым далейшую яго дзейнасць так.

Дваццаць год назад трапляе яму ў рукі нумар «Нашай нівы». Прачытаў ён яго ад першага радка да апошняга; прачытаў вершы Коласа і Купалы. І невымоўнае ўражанне зрабіла на яго прачытанне. Гэта былі не тыя знаёмыя, але ўсё ж цяжкія словы, якія ён ведаў з расійскай літаратуры. Тут усё было проста, перш за ўсё проста. Перад хлопцам усё роўна як адчыніліся вароты ў вядомы, але замкнёны для яго свет. «Наша ніва» загаманіла з ім на мове, якую ён усмактаў разам з матчыным малаком, на мове, на якой гаманілі бацькі і дзяды.

«Давай сам паспрабую напісаць па-беларуску», — мільганула ў яго ў галаве.

І ён узяўся за беларускія вершы. «Цяжка жыць без долі, што рабіць — не знаю… Хіба выйду ў поле, долю паклікаю», — пісаў ён, ужо склаўшы не адзін верш па-расійску. Але там ён, бывала, шукаў слоў, а тут яны самі ішлі да яго. Там ён выбіраў што наймудрэй, а тут выбіраць не было патрэбы, усё само плыло з душы.

І вось, захоплены гэтым, ён выпісвае «Нашу ніву», чытае яе хлопцам і дзяўчатам. Тыя таксама дзівуюцца, што на іх мове, здаецца, такой простай, можна гэтак цікава пісаць.

Ад чытання да пісьменніцтва адзін крок; выпісаўшы часопіс, ён пасылае ў «Нашу ніву» допіс, пасылае другі, нарэшце — вершы, якія выходзяць у бліжэйшых нумарах.

Не, цяпер калі пісаць, дык толькі па-беларуску. Праўда, ён не датрымлівае сваёй пастановы — супрацоўнічае не толькі ў «Нашай ніве», але і ў «Звезде», і ў «Правде», дзе друкуюцца яго вершы і допісы ў расійскай мове. Аднак гэта ўжо справа яго партыйных сувязей. «Правда», «Звезда» мелі і сваіх пісьменнікаў даволі; беларусы ж толькі пачалі выяўляць сябе. Натуральна, «для мяне нічога больш не засталося, як пісаць на беларускай мове», піша ён. «Я пісаў і пасылаў свае творы ў беларускія рэдакцыі, дзе іх і друкавалі пад псеўданімам, які так за мной і застаўся».

*

Вось якія першыя крокі першага паэта-пралетара «нашаніўскай» пары. І ўжо з тых гадоў — гадоў майго супрацоўніцтва ў «Современном мире», «Новой жизни», дзе друкаваліся мае нарысы аб рабочай дэмакратыі, — я аддаваў сваю ўвагу аўтару «Песень гарбара». У 1911 годзе я пісаў аб ім у «Новой жизни» («Что думает интеллигенция из народа»); у 1913 годзе — у «Современном мире»[2] («Фабрично-заводские поэты»); у 1914 годзе — таксама («Беллетристы-социологи»); у 1917 годзе — у «Вестнике Европы»[3] («Рабочие журналы»); нарэшце — у сваім нарысе сучаснай беларускай літаратуры («Молодая Белоруссия»). Але там аб'ектам маёй увагі былі яго творы — рукапісныя і друкаваныя. Тут жа я бяру за мэту другое.

Цяжка, здаецца, назваць пісьменніка з народа, з якім бы я, дзякуючы маёй зацікаўленасці народным пісьменніцтвам — тэмай гэтулькіх маіх артыкулаў, гэтулькіх манаграфій, — не быў бы звязаны асабіста. Бо ж гэтыя артыкулы, гэтыя кнігі напісаны па жывых слядах, слядах жыцця, па матэрыялах, якіх не дастаць без асабістых сувязей. Такімі сувязямі звязаны быў я і з Гартным. Але, апроч таго, Гартны — мой зямляк. Абодва мы — з Капыля, мястэчка на Міншчыне.

Усё жыццё гэтага напалову рабочага прайшло на маіх вачах, у сувязі са зменамі і цяжкасцямі мінулых гадоў, тым працэсам, які і мядзведжыя куты прымусіў задумацца ды заварушыцца па-інакшаму. І тым шырэй поле маіх нагляданняў, што мы — людзі розных пакаленняў. І відаць мне як тое, што было раней за пакаленне Гартнага, гэтак і тое, што прынесла апошняе, а разам з ім і сам Гартны.

Вядомы ідэйныя шуканні прамысловых цэнтраў, стварыўшых такіх масавікоў, якія выраслі ў самастойныя постаці, як Гарасімаў і Самабытнік, Хведар Калінін і Іван Кубікаў: засталіся ж дакументы ад самых ранніх гадоў. Зусім што іншае — тая глуш, пра якую тут ідзе гутарка, глуш, такая недаступная чужому воку. Бунтоўны дух, жывыя пытанні, жывыя тэмы гэтага бытавання стыкаліся тут з нязрушнасцю, бездаражам, закінутасцю, аддаленасцю ад гарадоў і чыгунак. Між тым Гартны не адзін. Усё, што ёсць выдатнага ў беларускай грамадскасці, выйшла з беларускіх Акуравых. А вось удзячная задача — паказаць, што стаяла і стаіць за такім выхадцам з беларускага кута. Такую задачу я і задаю сабе пра Гартнага, грунтуючыся на тым матэрыяле, які мне прысылалі прадстаўнікі вясковай глушы, галоўным чынам Ц. Гартны, Хв. Станілевіч і Хв. Чарнушэвіч.

*

Гэта — павятовая Беларусь, перш за ўсё — Капыль, апеты сябрам юнацкіх дзён Цішкі Гартнага — Алесем Гурло[4] — у вершы «Капыль»:

…Люблю сады твае у маі,
Іх цвет чаруе, як цвіце;
Як ліст апошні ападае —
Любоў не гасне, а расце.
Узгоркі мілыя, нізіны
І гэты вузенькі ручэй
Мне будзяць роі успамінаў
Аб шчасці ранніх дзён, начэй…
Люблю я шум тваіх чаротаў,
Ніў разнаколерных дыван;
Твае лугі, твае балоты
Вартуе ўлетку госць-бацян…*

Разлеглы на ўзгорках, абкружаны лясамі і лугамі, Капыль — не толькі адно з самых старых, але адно з самых прыгожых месц на Беларусі. Аднак не гэтым спыняе на сабе ён нашу ўвагу, а тым, што стаўляе яго ў цэнтры грамадскага жыцця Случчыны не толькі па гэты, але і па той бок 1905 года, непасрэдным парасткам чаго якраз і з’яўляецца Цішка Гартны.

«У Капылі — спагадным для рэвалюцыйнай прапаганды кутку, — піша ў сваім дзённіку Гартны, — ужо з 80-х гадоў луналі вялікія ідэі вызвалення. Яшчэ нарадавольцы спынілі свае народніцкія сімпатыі на гэтым асаблівым мястэчку. З аднаго боку — селянін-беларус, які пабыў у Кіеве, з другога — Клейнбарт, гадунец Лейпцыгскага універсітэта, — прынеслі ў Капыль ідэі народніцтва. Але расійская сацыял-дэмакратычная партыя рабілася ўсё больш і больш прызнаным кіраўніком рабочага класа. З буйных гарадоў марксізм перакідаецца ў павятовыя цэнтры, у мястэчкі. І вось к 1900 г., калі мне мінула шаснаццаць год, на падрыхтаванай нарадавольцамі глебе разраслася новая сям’я. Падобна да руху ўсёй Расіі, эвалюцыяніраваў і наш Капыль. На месцы нарадавольніцкіх ідэй выраслі ідэі марксісцкія». Вось што рабіла Капыль мястэчкам вядомым не толькі ў мясцовых колах. Пра яго ведаў У. І. Ленін. Убачыўшы на маім стале канверт са штэмпелем «Капыль», ён распытваў у мяне аб ім. Ведаў ён пра яго, здаецца, ад нябожчыка Залеўскага-Трусевіча. […]

* Гурло А. Барвенак. Мінск, 1924. С. 165.

Янка Купала

## ЦІШКУ ГАРТНАМУ

*У пятнаццатую гадавіну яго шчырай пяснярскай працы на карысць беларускага працоўнага люду*

Многа поля з добрай доляй,
Нешчасліва і шчасліва,
Праляцеў ты, мой саколе,
Па-над роднай нашай нівай.

У світанне, у прадвесне,
З непамернай гордай сілай
Пела бура табе песні,
Думкі бурныя будзіла.

І мацнелі твае крыллі,
І мацнеў дух неўгамонны,
А вясёлкі шлях сачылі,
А маланкі слалі ўклоны.

Яснай зоркай з-пад аблокаў
Азіраеш пуцявіну,
Па якой ты ненарокам
Мкнуўся к сонцу без упыну.

Нікнуць чары ў пору гэту,
З воч спадае асляпленне,
І законы піша свету
Людскай праўды вызваленне.

Гэй, ляці, саколе, далей
Па-над буйнай Беларусяй!
Не спыняйся ў векаў далі
І не гніся, як не гнуўся!

*21.11.1923*

Якуб Колас

## ЦІШКУ ГАРТНАМУ

Трудная дарога, праца, гараванне,
Доўгія гады.
А навокал цемра, злыдняў скагатанне,
Над працоўным людам здзекі, наруганне —
Ўсё было тады!

Але рушыў смела ты ў сваё блуканне,
Моцны, малады,
Каб у далеч тую, у яснае ранне
З песнямі змагання, іскрамі світання
Пралажыць сляды.

След пралажан, браце, знойдзен шлях шырокі
Для працоўных мас.
Хоць сачыла ліха ўсюды твае крокі,
Не прапаў жа ў пушчы голас адзінокі,
І агонь не згас.

Нашым вольным гоням, дзе лягла пуціна,
Даў і ты свой дар,
І цябе за гэта, як дбалага сына,
Прывітае шчыра родная краіна.
Дык жыві ж, пясняр!

*1928*

# КАМЕНТАР

Творчасць Цішкі Гартнага надзвычай багатая, жанрава разнастайная. У гэты аднатомнік уключана лепшае, найбольш характэрнае. Пераважная большасць тэкстаў друкуецца паводле Збору твораў у 4 тамах (Мінск, 1987–1988): вершы і апавяданні — паводле I тома; раман «Сокі цаліны» (квадра першая і другая) — паводле II тома.

## ПАЭЗІЯ

### *Бяздольны (с. 25)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 3 студзеня 1909 г.
Прысвечаны верш Янку Купалу.

### *Да Нёмна (с. 26)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 28 мая 1909 г.

### *Пажарыска (с. 26)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1909.

### *Сявец (с. 27)*

Упершыню — час. «Лучынка», 1914, № 4.

### *Загудзі ты, вецер (с. 28)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 7 ліпеня 1911 г.

### *Роднай краіне (с. 28)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1 ліпеня 1910 г.

### *Красуй, збожжа! (с. 29)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 24 красавіка 1915 г.

### *Каваль (с. 30)*

Упершыню — газ. «Дзянніца», 1 мая 1918 г.

### *Песня жняі (с. 31)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 28 ліпеня 1911 г.

*«Не хачу забыцця я ў цудоўных чарах...» (с. 32)*

Упершыню — альманах «Маладая Беларусь», 1912, № 2.

*Песня грабара (с. 33)*

Упершыню — альманах «Маладая Беларусь», 1912, № 2.

*Я жыву (с. 34)*

Упершыню — зб. «Урачыстасць», Мінск, 1925.

*Да надзеі (с. 35)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 2 жніўня 1913 г., з паметкай: «Капыль, 1912».

*Песні грабара (с. 35)*

Цыкл складаецца з шасці песняў.
II. «Сагнуўшыся, я ля варстата стаю…».
Упершыню — газ. «Наша ніва», 3 снежня 1910 г.
IV. «Я рабочы-гарбар…».
Упершыню — зб. «Песні працы і змагання», Берлін, 1922.

*Я далёка... (с. 38)*

Упершыню — альманах «Маладая Беларусь», 1912, № 2.

*«Мець бы жыццё бессмяротнае мне...» (с. 39)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 3 мая 1912 г.

*З чужыны (с. 39)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 26 студзеня 1912 г.

*Ліхтаршчык (с. 41)*

Упершыню — газ. «Дзянніца», 25 кастрычніка 1918 г.

*Мая стыхія (с. 42)*

Упершыню — альманах «Маладая Беларусь», 1912, № 2.

*Многа сіл маладых (с. 43)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 7 лютага 1913 г.

*Капыль (с. 43)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 7 кастрычніка 1917 г.

*Дарадчыкам (с. 45)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 21 снежня 1917 г.

*Я жыву... (с. 46)*

Упершыню — газ. «Дзянніца», 14 жніўня 1918 г.

*Беларуска (с. 47)*

Упершыню — час. «Полымя», 1923, № 7–8.

*Каля бору сонца ходзіць (с. 48)*

Упершыню — час. «Полымя», 1924, № 3.

## ПРОЗА

*Сокі цаліны. Раман (с. 53)*

Раман у чатырох квадрах.

Квадра першая і другая.

Гэты раман складаецца з чатырох кніг, названых аўтарам квадрамі. Кніга першая «Бацькава воля», кніга другая «На перагібе», кніга трэцяя «Крыжовыя дарогі», кніга чацвёртая «Чырвоныя зарніцы». Працаваў над раманам Цішка Гартны ў 1914–1929 гады.

Упершыню раман «Бацькава воля». Часціна першая — газ. «Дзянніца», 1, 9, 18, 27 лістапада, 23, 31 снежня 1916 г. Быў завершаны ў 1916 г. Поўнасцю «Бацькава воля» (ужо як першая квадра рамана «Сокі цаліны») убачыла свет у 1922 годзе ў Берліне. Другая кніга-квадра рамана «На перагібе» і трэцяя «Крыжовыя дарогі» выходзяць у Мінску, адпаведна ў 1928 і 1930 гадах. Увесь раман «Сокі цаліны», уключаючы чацвёртую кнігу-квадру «Чырвоныя зарніцы», быў надрукаваны ў 1932 г. у 3 і 4 тамах Збору твораў у 4-х тамах. Для гэтага выдання «Бацькава воля» была значна перапрацавана ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу.

У «Выбраныя творы», улічваючы памеры выдання, уключаны толькі дзве першыя кнігі-квадры.

Тлумачэнні некаторых слоў*

*Абламза́ць* — накінуцца, наваліцца.

*Абмаль* (вобмаль) — не зусім дастаткова; малавата.

*Анэ́гды* — нядаўна, не так даўно.

*Апойны* — які ап’яняе, дурманіць.

*Апу́ка* — самаробны мяч.

*Асьма́к* — грош. Ломаны асьмак — ломаны грош.

*Ачаме́ра* — чалавек, які надакучыў, абрыдзеў.

*Ачаме́рны* — надакучлівы, абрыдлівы.

*Бага́тнік* — свята ўвосень, 8 верасня.

*Ба́лхвіць* — гаварыць што папала, балбатаць.

* Даюцца пераважна тыя значэнні слоў, у якіх яны ўжыты пісьменнікам.

*Ба́шта* — башня; таксама гаўптвахта, турма.

*Бру́кавы* — гарадскі, не звязаны з сельскай гаспадаркай ці рамяством.

*Ва́дзіць* (часцей з адмоўем) — шкодзіць, перашкаджаць.

*Вандзіга́ць* — туляцца без усякай справы.

*Віці́на* — прут, дубец.

*Вы́мерхацца* — выгаладацца.

*Вы́рахаваць* — правільна ўлічыць, прадугледзець усе акалічнасці.

*Вярэ́я, верая́* — адна са створак варот; слуп ці брус, на які падвешваецца створка варот.

*Га́ла* — голае месца, чыстая прастора.

*Гале́н* — тасьма; стужка, нашытая кругам на спадніцу; карункі, пазумент; тут у пераносным ужыванні.

*Гзымс* — прымурак; выступ для ўпрыгожання хаты, печы; тут перан. — шык; упрыгожанне.

*Горс* — вялікі выраз у верхняй частцы жаночага адзення, дэкальтэ.

*Гра́давая серада* — першая серада пасля Вялікадня і Сёмухі.

*Грана́тавы* (колер) — чырвона-фіялетавы.

*Грасава́ць* — матычыць.

*Гра́таўка* — паліца для посуду, прымацаваная на сцяну.

*Джаролца* — памянш. ад джерело (укр.) — крыніца.

*Дзе́дзіч* — наследнік ці ўладар дзедаўскага маёнтка, землеўладальнік.

*Дзя́дзіна* — дзядзькава жонка.

*Дратава́цца* — круціцца, вярцецца.

*Дрэ́нчыць* — не даваць спакою, турбаваць.

*Дэ́сань* — узор.

*Заводзіны* — пачатак якой-н. справы.

*Зайн-гезу́нд, фор гезунд* (яўр.) — будзьце здаровы, усяго вам добрага (апошняе пры адыходзе, ад’ездзе).

*Залом* — заломленае ў чым-н. месца; круты, рэзкі выгіб, паварот.

*Залядзе́іцца* — задзірванецць; тут праклён.

*Засуцэ́лены кругабе́г* — безупынны кругаварот.

*Зборня* — сход, сходка; зборышча.

*Знябы́цца* — змарыцца, змучыцца.

*І ні рыда́е* — і не варушыцца, не клапоціцца.

*Інталя́жы* — з польскага анталяжы — карункі.

*Каба́т* — жаночая цёплая камізэлька; безрукаўка.

*Карса́жыць* — весці, б’ючы і штурхаючы; лупцаваць.

*Квадра́нец* — чвэрць гадзіны.

*Кне́я* — лясная пушча, нетры, гушчар, чашчоба.

*Ку́тнасць* — дамаседства.

*Кутнік* — чалавек, які жыве з сям’ёй у чужым доме; арандатар участка зямлі, які завецца «кут».

*Ла́сне* — хіба, хіба ж.

*Лёха* — скляпенне, падзямелле.

*Лунь* — туман.

*Масянз(ж)овы* — зроблены з мосенжу (латуні) або колеру мосенжу, бронзавы.

*Ма́цыя* — важнасць; перан. —шышка.

*Машастовы* — зроблены з мошасту, крэпу, аксаміту.

*Му́ля* — колер; фарба.

*Мэ́рам* — нібы, быццам.

*Мэт*: на што-небудзь, да чаго-небудзь мэт — здатны на што-небудзь, да чаго-небудзь.

*Мэ́шты, мэкшты* — мяккі абутак.

*На пры́мху* — на жарты.

*Нага́льна-ру́пны* — неадвязны, які не дае спакою.

*Нага́льны* — неадчэпны, неадступны, неадвязны.

*На́лпам, на́лапам* — інтэнсіўна, моцна; знячэўку, нечакана.

*Нашарохаць* — настрашыць, напужаць.

*Нехлюява́ты* — неахайны.

*Нырполіцца* — корпацца.

*Нябог* — пляменнік.

*Няўле́дны* — які не прымае нічога пад увагу.

*Омегам вы́лезці* — (выйсці) бокам.

*Пагон* — дарога, па якой гоняць жывёлу на папас.

*Пазе́мы* — далягляды; гарызонт.

*Палойка* — жменя атрапанага або ачэсанага льну; пасма белых валасоў.

*Паме́жніца* — чые ўчасткі мяжуюцца.

*Панара́д* — каркас, аснова калёс або калёсы без драбін.

*Папазорыць* — выгледзець з усіх бакоў, пападглядзець.

*Парале́з* — кашалёк.

*Пастаўні́к* — загарадка для жывёлы ў полі.

*Пастэ́рка* — галаўны ўбор; шапка.

*Перапя́трэць* — высахнуць, перасохнуць.

*Піля́вы* — уедлівы, настырны.

*Пітнічок* — невялікая конаўка для вады.

*Праназава́ты* — пранізлівы, востры, пільны (пра вочы, позірк).

*Прогліца, прогла* — багна, прорва; тут праклён.

*Прыкасні́цца* — прыстаць, прычапіцца.

*Прыпон* — вяроўка, папруга, якой прывязваюць жывёлу.

*Руж* — чырвань.

*Рунду́к* — скрыня, куфар.

*Рэ́хва* — жалезнае кальцо, жалезны абруч.

*Сак, паўса́чак* — верхняя жаночая вопратка.

*Салоха* — дурніца, дурань, разявака.

*Санагога* — велічыня, важнасць; перан. — шышка.
*Свірэ́ць* — ледзь гарэць.
*Сёмуха* — свята на сёмы тыдзень пасля Вялікадня.
*Ска́рбнік* — асоба, якая загадвае якімі-н. дзяржаўнымі або грамадскімі каштоўнасцямі.
*Ска́рбніца* — казна; месца захоўвання казны.
*Ску́так* — тое, што вынікае з чаго-н.; вывад.
*Сму́гліць* — сукаць нітку кудзелі змочанымі слінаю пальцамі.
*Сопуха* — вусце печы; таксама сажа.
*Спаражава́ць* — прыглушыць, прыпыніць (любоў).
*Су(й)здром* — зусім, цалкам; начыста, дашчэнту.
*Супара́т* — упарты.
*Сце́нка* — шырокая мяжа, палявая дарога.
*Табато і то* — так і ёсць, сапраўды так.
*Таквеле́ і такваля́* — і ўсё, і на гэтым скончана.
*Та́лька* — маток пражы або нітак markup рознай велічыні.
*Трактава́цца* — частавацца.
*Тра́ма* — апорная бэлька, якая ў драўляных будынках падтрымлівае столь.
*Трапу́нак* — падзея, здарэнне.
*Трапунковы* — выпадковы.
*Ула́дзіны* — папярэдняя дамоўленасць аб правядзенні якога-н. мерапрыемства (напр., вяселля).
*Хваса́* — драўляная пасудзіна для жыта.
*Цюцюпа́н* — палявая расліна з белымі духмянымі кветкамі.
*Чмуці́ць* — дурыць галаву, уводзіць у зман.
*Чэ́мер, чамяры́ца* — травяністая ядавітая лугавая расліна сямейства лілейных.
*Шаліноўка* — вялікая шарсцяная, кашміровая хустка ў кветкі.
*Швалды́га* — хто многа гаворыць, хто гаворыць лухту, балбатун.
*Шкарбаны́* — стары, драны абутак.
*Шпэ́лаху ўсы́паць* — даць наганяй.
*Ядва́бны* — шаўковы.

АПАВЯДАННІ

Першыя празаічныя вопыты Цішкі Гартнага (тады яшчэ З. Жылуновіча) адносяцца да 1904–1905 гадоў. Як і паэтычныя, на рускай мове. Яны былі яшчэ слабыя ў мастацкіх адносінах. Захаваліся ў рукапісах. Першы друкаваны твор у прозе з’явіўся ў 1909 годзе. На старонках газеты «Наша ніва». На беларускай мове. Раннія празаічныя творы ўяўлялі сабой пераважна лірычныя замалёўкі, нататкі.

Першы зборнік апавяданняў выйшаў у Мінску ў 1924 годзе. Пазней некалькі разоў перавыдаваўся. У 1927 годзе выходзіць зборнік прозы «Прысады», асноўны змест якога складаюць апавяданні. Яшчэ адзін

зборнік апавяданняў «Гоман зарніц» з’явіўся ў 1932 годзе. Змяшчаліся апавяданні і ў іншых зборніках пісьменніка. Асобныя творы гэтага жанру былі ў свой час перакладзены на рускую, украінскую, польскую мовы.

*На ўсходзе сонца (с. 453)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 4 чэрвеня 1909 г.

*Думкі (с. 455)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 16 ліпеня 1909 г.

*Адвячоркам (с. 456)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 20 мая 1910 г.

*Велікодная каробка (с. 457)*

Упершыню — газ. «Дзянніца», 1 мая 1918 г., пад назвай «Іх свята».

*Штрэйкбрэхер (с. 466)*

Упершыню — газ. «Дзянніца», 3, 10, 17 снежня 1918 г.

*Чырвонаармеец Панкел Ліпа (с. 476)*

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», жнівень–верасень 1920 г.

*Трэскі на хвалях (с. 506)*

Упершыню — час. «Полымя», 1923, № 3–4.

*«Больш за ўсіх» (с. 540)*

Упершыню — час. «Полымя», 1923, № 5–6.

*Прысады (с. 563)*

Упершыню — час. «Полымя», 1925, № 4.

## ДАДАТАК

*Цішка Гартны (Зміцер Хведаравіч Жылуновіч). Абеглы саманарыс майго жыцця (с. Аўтабіяграфія) (с. 579)*

Упершыню — зб. «Цішка Гартны. На дзень пятнаццацігадовага юбілею яго літаратурнай працы. 1908–1923». Мінск, 1923.

Друкуецца паводле выд.: Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мінск, 1963.

*Галіна Жылуновіч. Мой бацька (с. 583)*

Упершыню — зб. «Успаміны пра Цішку Гартнага». Мінск, 1984.
Друкуецца паводле гэтага выдання.

[1] *Жылуновіч* Галіна Дзмітрыеўна — дачка Цішкі Гартнага.

### *Леў Клейнбарт. З мінуўшчыны беларускай грамадскасці (с. 589)*

[1] *Клейнбарт* Леў Максімавіч (15(27).10.1875–20.11.1950) — рускі крытык і публіцыст. Даследчык беларускай літаратуры.

[2] *«Современный мир»* — рускі літаратурны, навуковы і палітычны часопіс. Выдаваўся ў Пецярбургу ў 1906–1918 гг.

[3] *«Вестник Европы»* — рускі літаратурны часопіс. Выдаваўся ў Пецярбургу ў 1866–1918 гг.

[4] *Гурло* Алесь (Аляксандр Кандратавіч; 31.1.1892–4.2.1938) — беларускі паэт.

### *Янка Купала. Цішку Гартнаму (с. 592)*

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 14 снежня 1923 г.

Друкуецца паводле выд.: Успаміны пра Цішку Гартнага.

### *Якуб Колас. Цішку Гартнаму (с. 593)*

Упершыню — літ. дадатак да газ. «Савецкая Беларусь», 15 снежня 1928 г.

Друкуецца паводле выд.: Успаміны пра Цішку Гартнага.

## SUMMARY

To a common reader Zmitser Zhylunovich, 1887–1937, is basically known under his literary pen-name Tsishka Hartny. At the same time a talented writer, not indifferent to social and political life, is one of the most tragic personalities in the history of Belarusian literature. Born in the town of Kapyl Minsk Region in 1887, since 1917 he had been participating in the political activity. With all his spiritual forces the writer took part in the revolutionary movement. Tsishka Hartny was devoted to the idea of new life; he was dreaming about having the new Soviet national power and contributed to its establishment. The writer became the first Head of the Government of the Soviet Belarus. But after a while he was slandered, calumniated and, eventually, destroyed by this very new Soviet power. Thus, only in this revolutionary, tragic, emotional and spiritual context the writer's literary legacy can be understood and evaluated.

In 1908 Tsishka Hartny got involved in literary process. In 1916 he started publishing the newspaper *Dziannitsa*. The writer used to work for the newspaper *Savetskaya Belarus* and the journal *Polymya*, was the head of the State Publishing House of the BSSR and the Deputy Minister of Education of the BSSR. Tsishka Hartny is the author of numerous books and literary articles.

The present book edition of the *Selected Works* comprises the best verses written in different years, the novel *Soki Tsaliny* and the most considerable stories. The supplement includes a short autobiography and the daughter's and a countryman's reminiscences. The edition is compiled, prefaced and commented upon by Serafim Andrauk, Doctor Candidate of Philology.

# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА



## ДАДАТАК

**Гартны, Ц.**

**Г20** Выбраныя творы / Цішка Гартны; уклад., прадм. і камент. С. Андраюка. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 608 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-6930-64-8??.

Кнігу Цішкі Гартнага (Зміцера Хведаравіча Жылуновіча; 1887–1937) склалі найлепшыя яго вершы розных гадоў, дзве квадры рамана «Сокі цаліны», апавяданні. У дадатку змешчаны кароткая аўтабіяграфія, згадкі пра бацьку дачкі Галіны Жылуновіч, урывак з успамінаў Льва Клейнбарта.

Гэта шасцідзясяты том вялікага кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Гартны Цішка**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Лідзія Карамазава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 2.02.2012.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 32,97 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 31,64.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі дом “Беларуская навука”».
ЛИ № 02330/0131569 ад 11.05.05
220141, Мінск, вул. Ф. Скарыны, 40.

ISBN 978-985-6930-64-8

9 789856 930648

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні РУП «Типография “Победа”».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056832 ад 30.04.04.
Вул. Таўлая, 11, 222310, Маладзечна.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік

ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы

ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы

КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы

ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы

ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы

ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы

ЦЁТКА. Выбраныя творы

НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы

ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы

АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы

АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы

ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы

РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы

ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы

СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы

ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы

КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы

РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік

АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы

*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік

НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы

МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы

РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы

АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы

УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы

ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы

АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць

МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае

ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы

ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы

ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае

ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе

АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае

АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае

АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы

ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы

АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае

АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы